УДК 821.161.3
ББК 84(4Беи)
К14

Укладанне
Валерыя Казакова і Алеся Пашкевіча
Прадмова
Алы Бальшаковай
Каментар
аўтара

ISBN 978-985-7007-29-5??





## ПРА ПРОЗУ ВАЛЕРЫЯ КАЗАКОВА

Кожны значны пісьменнік раскрываецца чытачам сваёй тэмай — але не проста тэмай як субстанцыянальным адзінствам створаных герояў і падзей, а тэмай-вобразам, тэмай-інтанацыяй, тэмай-жанрам. Змененая падчас творчасці мастакоўскай воляй, яна становіцца свайго роду апазнавальным знакам аўтара: «Судьба человека» — Міхаіл Шолахаў, «Пайсці і не вярнуцца» — Васіль Быкаў…

У пісьменніка Валерыя Казакова такім знакам з'яўляецца тэма чынавенства.

Зрэшты, пра дзяржаўных службоўцаў, уладу бюракратыі, яе вялікіх і маленькіх герояў, самадураў і пакутнікаў, прахіндзеяў і людзей гонару пісалі Пушкін, Гогаль, Салтыкоў-Шчадрын, Дастаеўскі і Л. Талстой. Так што традыцыя відавочная, — як відавочна і тое, што Валерый Казакоў з партрэтамі Молаха і Апароскіна («Чужая слёзніца»), Малюты Скураша і Амроцкага («Цень Гобліна»), Паўла Карчагіна («Спакуса столаначальніка») і Хрусталапава («Аўсяная каша»), рознага роду Пераемнікаў, Намеснікаў ды іншых «народных» «задумцаў» светлай будучыні («Халоп Яснавяльможнага Дэмакрата») знаходзіць у ёй сваё незанятае месца.

Асаблівасцю яго светабачання можна назваць не толькі стаўленне да чыноўнага апарата як да нечага нязменнага (ёсць дзяржава — значыць, ёсць і чыноўны апарат), але — пранікненне ў тое, як у прадстаўніках гэтай сістэмы, у залежнасці ад сацыягістарычных зменаў, актуалізуюцца тыя ці іншыя бакі нацыянальных архетыпаў. Такі ракурс мастакоўскага зроку дае нечаканыя вынікі. Мабыць, упершыню, пасля тыпалагічнай выбарачнасці класікі і асцярожных лакун савецкай літаратуры ў абмалёўцы дадзенай тэмы, чынавенства ўзнаўляецца не адзінкавымі тыпамі (якімі б цікавымі яны ні былі), але як магутная, унутрана адзіная сацыяльная згуба, сутнасць якой — чалавек ва ўладзе і ўлада ў чалавеку: з усімі адчувальнымі і не бачнымі яшчэ наступствамі такой дыялектыкі. Тут — поле барацьбы Дабра і Зла, якое паўстае вонкава ў бытавым, некалькі здробненым выглядзе. Аднак падманнасць таго відавочная казакоўскаму чытачу: у душы сучаснага чалавека праходзіць

мяжа паміж бачным габлінізмам і цяжкаўлоўным Ценем Гобліна — сілаў Зла, што дрэмлюць да пары ў архетыпічных нетрах, але ў любы момант здольныя падарваць існы парадак рэчаў…

Валерый Казакоў — аўтар шматлікіх зборнікаў прозы і паэзіі, а таксама раманаў «Цень Гобліна» і «Халоп Яснавяльможнага Дэмакрата» — піша пра людзей, якія ўступілі на шлях дзяржаўнага служэння. Часам персанажы паўстаюць у дэманізаваным абліччы «ценявых кардыналаў» ад палітыкі. Але ў большасці — гэта проста людзі, людзі, якім даводзіцца ці змірыцца з існым становішчам рэчаў, ці даваць адлуп.

Гісторыі няўдалай крамлёўскай змовы прысвечана першая частка рамана «Цень Гобліна» — «Міжлізень»: пра новага начальніка ўпраўлення Рады нацыянальнай стабільнасці са шматзначным імем і прозвішчам — Малюта Скураш (відавочны намёк на вядомую гістарычную асобу — Малюту Скуратава, кіраўніка апрычнага тэрору ў часы Івана Грознага). Палітычны раман Валерыя Казакова мае выразную дакументальную аснову. Нягледзячы на папярэджанні аўтара пра адсутнасць якога-небудзь падабенства, персанажы рамана лёгка пазнаюцца: ад Ельцына, які застаецца «за кадрам», да яго пераемніка, ад генерала Лебедзя, мэра Лужкова да Беразоўскага, Чубайса, Хадаркоўскага... Дзеянне рамана ахоплівае шырокую сацыягеаграфічную, гістарычную прастору канца XX ст. Сцэны, галоўным чынам засяроджаныя на знакамітай маскоўскай Старой плошчы ці ў іншых «зачыненых» месцах Масквы, перамяжоўваюцца з іншымі, у якіх Скураш трапляе то на Каўказ перыяду чачэнскай вайны, то ў пустыні і палацы новаімперскай «Турменіі», то ў палітызаваны горан Сібіры (горад Ясейск — чытай: Краснаярск — у перыяд губернскіх выбараў і пасля). Сюжэтныя калізіі ў гісторыях пра крамлёўскую змову (першая частка рамана-дыпціха — «Міжлізень») і пра выбар новага прэзідэнта (другая частка «Цень Гобліна») таксама вядомыя ці могуць быць вядомыя. Часам чытач з упэўненасцю можа сказаць: «так было»; часам, задумліва наморшчыўшы лоб, зробіць выснову: «такое цалкам магло быць». Тым не менш мастацкім, пры ўсім яго дакументалізме, такі стыль расповеду робіць тыпалагічная ёмістасць слова, вобраза.

Чаго толькі вартае трапнае слоўца, якое дакладна характарызуе сутнасць пераходнага часу: «міжлізень»! Так самаіранічна называюць героі рамана «асноўны стыль чынавенскага жыцця» ў перыяд міжуладдзя і карпаратыўнай смуты. Але гэта не столькі стыль, колькі менавіта сутнасць, сутнасць дадзенай сацыяльнай страты, злучаная з адным са



спрадвечных нацыянальных архетыпаў — Расколам, які шматаблічна выяўляе сябе ў часы ўсеагульнай смуты і звадаў, рэлігійных страсцей і палітычных пераваротаў, братазабойчых войнаў і рэвалюцый…

Што ж стаіць за другім ключавым словам пісьменніка — «гоблін» (габлінізацыя)? Глабальнае зрушэнне каштоўнасных арыенціраў, перапаўзанне ў вобласць ценявых прынцыпаў і перавернутых сэнсаў. Зрэшты, і міжлізень, і габлінізм — два бакі адной сацыяпалітычнай сітуацыі, калі, кажучы словамі аднаго з персанажаў рамана, «вакол бардак і імпатэнцыя ўлады». Калі паўсюдна кіруюць «няпісаныя законы бюракратычнага дарвінізму», якія прадугледжваюць людаедскае пажыранне сабе падобных.

Што ж супрацьстаіць гэтаму ў рамане? Відавочна, пошук прадстаўніка, здольнага хоць неяк аднавіць расколатую сістэму і вывесці краіну з крызіснага стану. Калі паступова рамантызаваны (вачыма Малюты) генерал Плаўскі (чытай — Лебедзь), аўтар няўдалай задумы з сілавой рэстаўрацыяй улады, які законна перамагае на губернатарскіх выбарах у Ясейску і марыць пра пасаду прэзідэнта, пачынае хіліцца ў бок экстрэмальных мер, то з'яўленне асцярожнага і разважнага Пужына змяняе сітуацыю на палітычным небасхіле. У выніку аперацыі «Пераемнік» на змену экстрэмалам прыходзіць «чалавек сістэмы», гарант яе аднаўлення і плаўнага пераходу ад хаосу да адноснай стабільнасці.

Дзеянне першай часткі рамана прыпадае на пачатак другога этапу ельцынскага кіравання, калі «прэзідэнт цяжка хворы, і невядома, чым яго хвароба скончыцца»; калі «краінай кіруюць смутныя асобы, для якіх захаванне высокага ўзроўню крыміналу вельмі выгаднае». На прарыў мяркуецца кінуць нейкі Белы легіён — ваенізаваную арганізацыю, стварэнне якой плануе, у абыход хворага прэзідэнта, кіраўнік Рады генерал Плаўскі. Спроба «сцэнарыя трыццаць сёмага года» правалілася, але і іншых шляхоў барацьбы з карупцыяй і крыміналам не выявілася. У выніку пануе ўсё той жа вечны «міжлізень»…

Такім чынам, «Краіна Вечнага Міжлізня» ці — вялікая, у сваёй гістарычнай рэтраспектыве і перспектыве, Расія, якая ўстойліва перажывае перыяды крызісаў, сацыяпалітычных расколаў?..

Адказу на гэтае пытанне прысвечана другая частка рамана-дыпціха — «Цень Гобліна», дзе тыя ж Малюта Скураш і Плаўскі закручаны ў інтрыгу вакол выбараў новага прэзідэнта. Містычным ценем праходзіць па рамане нашчадак «вялікага камбінатара» — нехта Амроцкі: шэры кардынал Крамля, за чыёй містычнай мянушкай «Гоблін» адгадваюцца

абрысы злавеснай постаці, якая вызначала гэтак шмат у ценявой палітыцы 90-х. На нашых вачах у рамане выкрываюцца таемныя механізмы, якія прыводзяць у рух уладныя структуры...

У рамане Валерыя Казакова Гоблін і жудасны, і драбнаваты ў сваім інтрыганстве. Гэта і Распуцін нашага часу, і д'ябал, ліхі дух. У яго шмат аблiччаў, але немагчыма адмаўляць і яго спалучэнне з глабальнай ідэяй сусветнага Зла. «Будучая глабалізацыя, — з болем прарочыць аўтар «Ценю Гобліна», — хутчэй за ўсё з'явіцца сінонімам габлінізацыі ўсяго свету».

У рамане «Цень Гобліна» востра гучыць пытанне пра крызіс веры і пра яе сурагатныя замены: замест Бога — ідалы палітыкі і поп-культуры, замест вернікаў — выбарцы і фанаты. У фінале рамана процiборства дэманічнага і сакральнага вырашаецца катарсічна — духоўным ачышчэннем героя, аўтара, чытача і нараджэннем хісткай, але рэальнай надзеі на будучыню…

* * *

У цэлым, чыноўнік у сістэме маральна-эстэтычных каштоўнасцяў Валерыя Казакова не добры і не дрэнны сам па сабе: гэта проста чалавек з усімі сваімі слабасцямі і моцнымі бакамі. Такі, да прыкладу, адзін з радавых персанажаў у чыноўным свеце яго прозы: «сумленны столаначальнік» з гераічным імем Павел Карчагін («Спакуса столаначальніка»), ці верны «зубр» Старой плошчы, які толькі што выйшаў на пенсію, Іван Макаравіч Хрусталапаў («Аўсяная каша»), для якога ўключанасць у Сістэму заўсёды была гарантам чалавечай заможнасці.

Аўтар выбудоўвае сістэму іерархічных адносін са сваімі шматаблічнымі героямі і персанажамі, то ўзносячы іх на самы верх службовых прыступак, то зрынываючы ў бездань безнадзейных слёзніц і блуканняў па пакутах. У першай частцы рамана-дыпціха «Цень Гобліна» ўяўная вышыня героя-функцыянера кантрастуе з аўтарскім пажаданнем таму спыніцца, азірнуцца — каб захаваць у сабе чалавека. «Але мала каму гэта атрымліваецца, ужо так злепленая і ўладкаваная Сістэма, якую мы завём уладай. Збянтэжанасць неспадзяванай радасці ўзлёту праходзіць хутка, і месца асцярожнай паважнасці запаўняюць душэўная слепата і пыха».

Вобраз чалавека і яго жыццёвага свету ў казакоўскай прозе напоўнены дваістасцю, хісткасцю, ілюзорнасцю. Скразны матыў тут — прывіднасць прасторы. Унутраная прастора — дома, сям'і, кахання, творчасці — самая надзейная, неадлучная ад асобы і яе лёсу. Знешняя ж рэальнасць адчужаная, замкнёная ў звілістых калідорах улады і жорсткіх бюракратычных структурах.



У апавяданні «Спакуса столаначальніка» прастора дзелавога чалавека, усяляк звужаючыся, згортваецца да скрыні стала (успомнім знакамітую дарожную скрынку Чычыкава!). Тут жа ўзнікае ірэальны вобраз «чалавека пры паперы». Матыў спакусы засунутымі ў скрыню стала грашыма (якія пакінуў адзін з наведвальнікаў) факусуе чытацкую ўвагу на самадастатковай уладзе «паперы» ў свеце чыноўніцтва. «Папера, яна ж уласным жыццём жыве… Улады без паперы няма». Атрымліваецца: папера мацнейшая за чалавека, кіруе ім, яго інтарэсамі, імкненнямі — лёсам, нарэшце. Але ж грошы — таксама «папера». І ў тым іх усёмагутнасць і бяссілле.

* * *

Нечаканым і адметным у Валерыя Казакова стаў раман «Халоп Яснавяльможнага Дэмакрата», дзеянне якога перанесена ў гіпатэтычную будучыню. Гэтым разам аўтар здзівіў нечаканым ходам, прадставіўшы на наш суд твор, названы «раман-дур»… Тым не менш сур'ёзная сацыягістарычная падаплёка і псіхалагічная распрацоўка характараў, а галоўнае — шакавальнае прагназаванне дазваляюць аднесці «Халопа» да разраду фантастычных раманаў-папярэджанняў: «451° па Фарэнгейце» Р. Брэдберы, «Час Быка» І. Яфрэмава, «Вяртанне з зорак» С. Лема, «Мальвіль» Р. Мерля і інш. Аднак перад намі — зусім не фантастычны твор у звыклым сэнсе слова. Дакладней, раман выкананы ў стылі «літаратурнага фантастычнага», калі карыстацца тэрмінам французскага тэарэтыка Цв. Тодарава для вызначэння звышнатуральнага элемента ў літаратуры.

Дзеянне казакоўскага рамана адбываецца ў 2050-х — у свеце, які пасля глабалізацыі складаецца ўсяго з некалькіх дзяржаў, уключаючы Сібрусію (паменшаны варыянт Расійскай дэмімперыі пасля Вялікай бюракратычнай рэвалюцыі), Аб'еўра (былая Еўропа) і Афраюсію (Афрыка і былыя ЗША).

У «Халопе» нашчадкі новых рускіх становяцца неадваранамі — абшарнікамі і царадворцамі. У падзеленай на акругі-акуёмы краіне квітнее прыгон, гандаль людзьмі, апрычніна. Сібрусія — ад крамлёўс-

кіх палацаў да глухіх кутоў, дзе кіруюць тупыя намеснікі, — ахінута павуціннем чыноўнага бязмежжа.

Дзяржаўная мова былой Расіі страціла нацыянальныя абрысы! Замест рускай мовы Пераемнік Шосты Мудры (які, дарэчы, не ўмеў чытаць і пісаць — а навошта, калі ёсць дарадцы і памочнікі?) заснаваў нейкі гібрыд, які складваецца з кітайскай, азербайджанскай і гутарковай амерыканскай: з ранейшай рускай засталіся толькі вымаўленне, жэсты і, вядома ж, ненарматыўная лексіка. Чытанне і захоўванне кніг караецца, як у знакамітым рамане Брэдберы.

Раман адкрываецца нейкім гукавым сігналам — доўгім выццём сабакі ў глухім сельскім куце, якое прыйшло на змену Слову: выццём, якое тупа аддаецца ў чэраве новага дзікага барына-пана («У мяне ў страўніку такое выццё і буркатанне…» — бессаромна прызнаецца ён). Непатрэбны гук папярэднічае наступным сцэнам і карцінам, паслядоўна пераносячы нас з прыгоннай вёскі ў бюракратычны горад, з чыноўніцкага палаца ў разбойніцкі прытулак…

Адгэтуль — метамарфозы галоўнага героя: таго самага дзікага пана, намесніка глухога кутка і багатага неаграфа Енаха Мінавіча Понт-Калацийскага. Толькі грошай «цяпер», у сярэдзіне дваццаць першага стагоддзя, сапраўднаму мужчыну мала. І вось Енах цягнецца ў забыты богам глухі закутак: паводле новых правілаў, там ён абавязаны адпрацоўваць падораны статус «яснавяльможнага». Перад намі — калі не новы Чычыкаў, які палюе на эфемерныя выгоды, дык «нехта яшчэ не вядомы свету, але гэтак жа, як і ягоны папярэднік, прагне славы, багацця». І кіруе яго перасоўваннем не Селіфан, а шафёр з вечна кіслым выразам твару (яму ўвесь час хочацца есці…) і злавесным імем Берыя. Вось гэты шафёр і здае разбойнікам свайго пана, які адзначае ў губернскім мястэчку новае прызначэнне з нейкай «жрыцай дэмакратыі» — Эрмітадорай Гопс, якая аказваецца авантурнай дачкой барона і нават… сакрэтным агентам Лубянкі.

Магутная сіла кахання да дзяўчыны Машы, з якой Енах воляй выпадку сустракаецца ў палоне, становіцца выратавальнай. Але варта паўстаць пагрозе для жыцця, як ён кідае ўмілаваную і ледзь не забівае, баючыся за сваю скуру.

Містычна-звышнатуральная лінія рамана развіваецца ў сюжэце пра таямнічую сілу — запаведнае месца Шамбалу. Чуткі пра з'яўленне Шамбалы выклікаюць перапалох у неаімперыі, ваенныя сілы якой сцягваюцца да ўвахода ў цудоўны паралельны свет.



У «рэальным» жа свеце прагрэс ператвараецца нават не ў рэгрэс, а ў безгустоўную загагуліну, вытатуяваную на бездапаможна распасцёртым целе краіны. Знак таго — бяздарны паўтор старога сцэнарыя «пераемнік», які ўзводзіць на імперскі трон усё новых чынушаў, падобных на кіраўнікоў з «Гісторыі аднаго горада» Салтыкова-Шчадрына.

Суд над безгаловай уладай і яе бясконцымі пераемнікамі ў рамане ўсё ж адбываецца. Аўтар дасціпна парадзіруе папулярныя некалі літаратурныя суды. У сне апрычніка ў зале Усенароднага трыбунала распачынаецца суд «Літаратура супраць улады». Падсудныя — усе яснавяльможныя пераемнікі, а таксама забытыя (у той будучыні) постаці Сталіна ці Гарбачова. Суддзі — кнігі…

Праекцыі на сучаснасць узнаўляюцца ў рамане асацыятыўнымі намёкамі і падтэкстамі, гульнёй слоў і імёнаў. Да прыкладу, згадваннямі пра нейкіх «народных задумцаў», якія пражываюць у закардонных маёнтках і толькі зрэдку збіраюцца ў сталічным «доме народных пацех» на Усевялікі Усенародны Курултай народаў Сібрусіі. Ці — прысваеннем даносчыку і інтрыгану, канцэлярыяначальніку прозвішча Сучыянін...

Як гэта ўласціва творчасці Валерыя Казакова, і ў расповедзе пра мітуслівых халопаў усё-ткі перамагае светлы пачатак, умацавацца якому дапамагаюць філасофскія роздумы аўтара і герояў, якія адкрываюць вышэйшую прыгажосць Свету.

Свет, скатаваны шалапутным чалавецтвам, але ўсё яшчэ не пераможаны ў сваёй велічнай Таямніцы, адкрываецца героям і чытачам у фінале рамана. Перад намі зноў паданне пра навекі страчаны рай і выгнанне людзей з яго...

* * *

…Калісьці паняцці Логасу (ведаў, ідэі, духоўнага пачатку) і Слова былі непадзельныя. Сімптаматычна, што адзін з раманаў Валерыя Казакова пачынаецца з філасофскага разважання пра Слова, якое дае найвышэйшую кропку адліку ва ўспрыманні навакольнага. З вышыні яе сапраўднасці выводзяць аўтар і чытач звыклую быццам бы рэальнасць вялікага горада і яго насельнікаў — вялікіх і малых у сваіх імкненнях і ўчынках; сапраўдных людзей і — уяўных, якія спальваюць сябе ў агні боек за ўладу і ў прывіднай мітусні Краіны Вечнага Міжлізня…

«Словы жывуць даўжэй, чым людзі. Нібыта бесцялесны гук. Цьфу! Пустое скалынанне паветра, а глядзі ты — гады, стагоддзі, тысяча-

годдзі прашамацелі над журботным шарам нашай планеты, мільёны нам падобных пагрузіліся ў бездань зямлі, прараслі травой і дрэвамі, якія спатрэбіліся для будаўніцтва жылля іншых пакаленняў, а слова, гэтае дрыготкае марыва ў нашай гартані, працягвае сваё несмяротнае існаванне».

*Ала БАЛЬШАКОВА,*
*доктар філалагічных навук,*
*вядучы навуковы супрацоўнік*
*Інстытута сусветнай літаратуры*
*імя А. М. Горкага Расійскай акадэміі навук*

# РАМАНЫ



# ЦЕНЬ ГОБЛІНА

*Частка першая*
МІЖЛІЗЕНЬ

1

Словы жывуць даўжэй, чым людзі. Нібыта бесцялесны гук. Цьфу! Пустое скалынанне паветра, а глядзі ты — гады, стагоддзі, тысячагоддзі прашамацелі над журботным шарам нашай планеты, мільёны нам падобных пагрузіліся ў бездань зямлі, прараслі травой і дрэвамі ды пайшлі на харч ці будаўніцтва жылля дзеля іншых пакаленняў, а слова, гэтае дрыготкае марыва ў нашай гартані, працягвае сваё несмяротнае існаванне.

Аднак пакінем развагі аб містыцы паходжання слова высакалобым навукоўцам, якія адгарадзіліся ад нас узгоркамі кніжнага пылу ды нешта фанатычна мармычуць у прыцемку сваіх кабінетаў, дзе з'ядаецца іхняе жыццё. Вернемся ў звыклую рэальнасць вялікага і зразумелага нам горада.

За шырокімі вокнамі, якія займаюць усю сцяну, бязгучна плылі акуратна выфарбаваныя ў зялёны колер дахі. Нягледзячы на сваю вайсковую аднолькавасць, яны былі разнастайнымі, з індывідуальнымі заломамі і нейкімі адмысловымі выкрунтасамі. Так цяпер ужо не будуюць, хіба што на новых лецішчах, якія ў апошні час абляпілі Маскву, як прысоскі гіганцкіх шчупальцаў. Дахі, нібы смарагдавыя хвалі закамянелага вадаёма, застыглі мудрагелістымі гарбамі, заломамі ўпадзінаў, за якімі зрэдку — як незагарэлая палоска цела — жадана блісне на сонцы белы тынк сцяны. Дахі гэтых уладных будынкаў, не натыкаючыся адзін на аднаго, ужо некалькі стагоддзяў не змяняюць сваіх

звыклых абрысаў і ў маўклівай пакоры абрываюцца ля самых Крамлёўскіх сценаў.

Дахі Старой плошчы да шасцідзясятых гадоў толкам ніхто і не разглядваў, хіба што з рэдкіх званіцаў цудам ацалелых храмаў чэкіст з алавянымі вачыма па-гаспадарску строга кіне ліпкі погляд на падсправаздачную яму паддахавую прастору або разява-птушка, па недаравальнай дурасці, самотным ценем слізгане над мёртвым морам таямнічага квартала Трэцяга Рыма.

Усю сваю раскошу дахі выявілі не пазбаўленаму пачуццёвасці чынавенству, — пасля спрэчнага, калі не сказаць скандальнага, будаўніцтва шэрага ад шкла і бетону гмаху шостага пад’езда, уваход у які размяшчаецца з боку Ільінкі.

Чалавека, які ўпершыню падышоў да акна апошняга паверха гэтага безаблічнага дасягнення архітэктуры і з вышыні птушынага палёту зірнуў на цуд перадпачатку Крамля, ахоплівала ні з чым не параўнальнае містычнае трапятанне. За долі секунды, як перад смерцю або брамай Раю, перад ягоным унутраным позіркам пралятала жыццё. Драбнюткія парушынкі яго выяў, знакавыя падзеі выбудоўваліся ў выразны, спарадкаваны шэраг і ўяўлялі сабою ўжо нейкае падабенства лесвіцы, якая спіраллю цягнулася з непрабуднай цямрэчы агульнанароднага нябыту ў асляпляльны блакіт дзяржаўнага святла персанальнай улады. Адчуванне небажыхарства, дадзенае яшчэ пры жыцці, перапаўняла чалавечую існасць, нараджала ўсярэдзіне нейкі ні з чым не параўнальны гонар за асабістую далучанасць да чагосьці нябачнага, усёмагутнага і неспасціжна страшнага.

Менавіта гэтыя пачуцці і перажываў, стоячы ля акна свайго кабінета, Малюта Максімавіч Скураш.

Запаветныя мары і таемныя намеры, як правіла, спраўджваюцца нечакана, ужо, падаецца, і забыў пра іх, перагарэў, перахварэў і даўно праглынуў натужліва-горкі прысмак таго, што не спраўдзілася, і раптам на табе — прываліла! Ды яшчэ як! Ты, нядаўна бязродны, напаўрастаптаны жыццём і асатанелым побытам чалавечык расійскай рэчаіснасці, узносішся невядомай сілай у грозныя палаты апраметнай Улады.

Тут бы, падавалася, самы час і выгукнуць: «Цур мяне! Цур!» — і паспрабаваць спыніцца, згрэбці сваё ўздыбленае «я» ў бярэмя, адсапціся і зрабіць спробу захаваць у сабе права звацца простым чалавекам. Але мала каму гэта атрымліваецца, ужо так злепленая і ўладкаваная Сістэма, якую мы завём уладай. Збянтэжанасць неспадзяванай радасці ўзлёту праходзіць хутка, і месца асцярожнай паважнасці запаўняе душэўная слепата і пыха.



Пра слепату Малюта яшчэ не здагадваўся, ён бясстрашна плаваў у хвалях свайго ўяўлення, наэлектрызаванага эйфарыяй нядаўняга прызначэння.

«Эх, шкада, бацька не дажыў, вось бы пацешыўся — во куды занесла ягонае насенне», — з адценнем лёгкай журбы падумаў новы насельнік кабінета, высілкам волі прымушаючы сябе адысці ад праломa вялізнага акна.

Зрабіўшы пару крокаў, ён усё ж не вытрымаў і азірнуўся. Дахаў ужо не было відаць, ва ўсё акно ад краю і да краю, нібы гіганцкая ніжняя сківіца, з няроўнымі, чырвонымі ад карыесу зубамі і непрапарцыйна вялізнымі ікламі вежаў, цягнулася Крамлёўская сцяна. Чырвоныя рубіны без унутранай падсветкі падаваліся рванымі кавалкамі недаедзенага мяса, заветранага восеньскай раніцай. Над усім гэтым, быццам гіганцкая лятальная талерка, палаў трохкаляровым сцягам вялізны ў сваёй недарэчнасці купалападобны дах.

Малюта Максімавіч здранцвеў ад нечаканасці: «Вось Яно, толькі працягні руку, зрабі крок — і ты ўжо там, за Зуб’ямі!» Ён заценяваў па кабінеце, не адводзячы вачэй ад раздвоеных, як ластаўчыны хвасты, зубцоў.

У дзверы пастукалі.

— Так, уваходзьце, — з палёгкай выдыхнуў Малюта і спыніўся перад бязгучна прачыненымі дзвярыма.

— Малюта Максімавіч, вы, канешне, выбачайце, — выяўляючы гадамі натрэніраваную сарамлівасць, вымавіла даволі прывабная жанчына гадоў трыццаці. — Я — супрацоўнік сакратарыята Інга Мрозь.

— Вельмі рады пазнаёміцца ў свой першы працоўны дзень з прыемным чалавекам, асабліва калі гэты чалавек — чароўная жанчына, — падносячы да вуснаў вузкую, не пазбаўленую вытанчанасці руку, вымавіў вернуты да рэальнасці Скураш.

— Дзякуй за камплімент…

— Інга, вы мяне крыўдзіце! Якія кампліменты пры выкананні службовых абавязкаў?! Я проста як дзяржслужачы дзяржслужачаму абавязаны быў сказаць праўду. І не больш.

Збянтэжыўшыся ад першых напорыстых слоў, у якіх, як сталёвыя пёры, задзынкалі камандныя ноткі, жанчына напрыканцы маналога засмяялася.

— Малюта Максімавіч, нас папярэджвалі аб Вашай неардынарнасці…

— Цікава, хто гэты ардынарац, які сее ў юных і трапяткіх душах гэтак пахвальныя майму сэрцу чуткі? Неадкладна адказвайце, Інга, інакш…

— Таварыш Скураш, — сцёршы з твару ўсмешку і звыклым рухам абцягнуўшы барты цёмна-сіняга пінжака, закліканага, па ўсёй бачнасці, падкрэсліць прывабнасць пераходу стану ў сцягно і з адмысловым цынізмам вылучыць мячыкі грудзей, якія рвуцца вонкі і якім відавочна бракавала месца пад асляпляльна-белай кашуляй, з відавочнай крыўдай у голасе вымавіла жанчына, — магчыма, я для вас дробны клерк, але як дзяржслужачы дзяржслужачаму маю права сказаць…

Яе шэра-зялёныя вочы паступова набрыньваліся стынню восеньскай вады, голас злёгку падрыгваў, і калі б не ледзь улоўныя іскрынкі, што блукалі дзесьці глыбока ўсярэдзіне зрэнак, гэтае абурэнне можна было б прыняць за чыстую манету. Уваходзячы ў ролю, Інга, у няшчыра-гнеўным уздыху набраўшы ў лёгкія пабольш паветра, гатовая была працягнуць маналог пакрыўджанай падначаленай, закліканы, па яе разуменню, зрабіць на гэтага саракадвухгадовага мужыка адмысловае ўражанне, якое ставіць іх далейшыя паводзіны на інтрыгуючую грань неслужбовых магчымасцяў.

Скураш, выхаваны вайсковым акружэннем, з курсанцкіх часоў засвоіў аксіёму: выдатнае — гэта жанчына, а таму адразу ўключыўся ў прапанаваную яму гульню. Назапашаны гадамі досвед і прыродная рызыка выключалі, як яму падавалася, магчымасць промаху, трэба было толькі не спяшацца і дачакацца, калі навязаная табе гульня надакучыць яе ініцыятару. Інга працягвала нешта пакрыўджана гаварыць і сама ад гэтага заводзілася.

«А яна і напраўду харашанькая… Толькі вось на храна ўся гэтая камедыя? Хоць калі камедыю ламаюць, значыць, гэта камусьці трэба».

Зрабіўшы гэтую амаль філасофскую выснову і раптам рашуча ўзяўшы жанчыну за плечы, Малюта наблізіў яе твар да свайго на тую небяспечную адлегласць, калі выразна выяўляюцца тонкія рыскі макіяжу і становіцца відавочным праўдзівае прызначэнне парфумы, узмоцненых цяплом і пахам скуры, а навакольны свет гатовы вось-вось растварыцца ў шырока раскрытых вачах-люстэрках.

Інга ад нечаканасці здрыганулася, мабыць, не чакаючы такога павароту. Яе вочы, ужо страціўшы напускную свінцовасць, выказвалі шчырае здзіўленне, зніякавеласць і хітрую цікаўнасць.



«Вось будзе пацешна, калі ён мяне прама зараз і трахне…», — з усмешкай падумала яна, але потым, перамагаючы ўжо разлітую па целе стому, выдыхнула:

— Аднак дзіўная ў вас манера знаёміцца з падначаленымі, Малюта Максімавіч. А калі хто-небудзь зойдзе?

— Змяняць манеры мне ўжо пазнавата, тым больш што вы самі справакавалі мяне на сіе вар’яцтва, а вар’яцтву адважных, як вядома, спяваем мы песню. — З відавочнай неахвотай ён адпусціў плечы, якія пачалі ўжо падрыгваць. — Дык чым я абавязаны візіту, які гэтак расхваляваў маю кроў і ўяўленне?

— Сапраўды, неяк усё па-дурному атрымалася, вы мне прабачце…

— Не варта, бо няма нічога больш прывабнага, чым узаемная дурасць, а ўжо калі яна нарадзілася, не будзем яе прыспешваць, хай усё ідзе сваёй чаргой. Але я вас уважліва слухаю.

— Ды няма нічога тэрміновага, проста ў мае абавязкі ўваходзіць правядзенне кансультацый новапрызначаным супрацоўнікам Рады. Ведаеце, у адміністрацыі існуе безліч дакументаў і інструкцый, што рэгламентуюць парадак унутранага жыцця. Часам гэтыя дакументы вельмі старыя, некаторыя падпісаныя яшчэ ледзь ці не Сталінам, а вось, не зважаючы на старэчы ўзрост, працягваюць дзейнічаць.

— Дык вы галоўны адмысловец па наменклатуры?

— Зноў вы жартуеце, і, зазначце, на вельмі далікатную тэму. Наменклатуры сёння, дарэчы, няма, дакладней, нібыта як няма, але старыя інструкцыі засталіся, а ў іх распісана, што і каму неабходна. Таму, каб палегчыць вашае жыццё і папярэдзіць магчымыя канфузы ў будучым, набярыцеся цярпення і паслухайце мяне…

## 2

Восеньскае неба павольна цьмянела, набіраючы пахкі бяздонны свінец будучых халадоў, і толькі на захадзе асляпляльна зеўрала страшным праломам з ірванымі бакамі. Слуп яркага і таму амаль нерэальнага святла, круцячыся ў вячэрнім змроку, падаў з гэтай дзюры стромка ўніз, упіраўся ў спусцісты ўзгорак, не даваў небу канчаткова наваліцца на навакольныя дачныя пасёлкі і, перацёршы іх у дробны, як сажа, пыл, выплюхнуць у свет цямрэчу бязмесячнай начы.

Фігура чалавека на фоне гэтай гульні святла падавалася амаль нерэальнай, і, калі б не вітыя балясы парэнчаў, якія выходзяць

прама ў сад веранды, яе цалкам можна было б прыняць за аптычны падман, народжаны заходам і нашым уяўленнем. Аблачына тытунёвага дыму ахутвала ягоную галаву і нейкім дзіўным чынам прыцягвала да сябе драбок таго далёкага нябеснага святла, праз што нагадвала адліты з золата німб.

Скураш падкрэслена ветліва сядзеў у глыбіні пакоя ля разадранага трапезай стала, глядзеў на спіну курыльца ды імкнуўся сілай волі заціснуць у сабе лёгкае ап’яненне. Ён ведаў, што пасля такіх аўтагенных практык раніцай будзе расколвацца галава і любыя, нават самыя малаважныя раздражняльнікі пацягнуць за сабою прыступы агрэсіўнасці або меланхоліі.

Аднак менавіта сёння новаспечанаму начальніку ўпраўлення Рады нацыянальнай стабільнасці неабходныя былі цвярозыя мазгі. Думкі з плынямі крыві, разагрэтай выпіўкай, патрабавальна стукалі ў скронях. Пачутае не ўкладвалася ў рамкі звыклага, і таму ўсярэдзіне ўсё сціскалася, нараджала рызыку і салодкае прадчуванне новага, невядомага, што запатрабуе ад Малюты поўнай самааддачы, працы да знямогі. Хто хоць аднойчы пасапраўднаму кахаў, таму вядома гэтае магічнае пачуццё поўнага самарастварэння і стомленасці, якое выклікае неапісальны прыліў новых сілаў ды смагу далейшай дзейнасці, параўнальную хіба што з натхненнем мастака.

«Ты зноў паплыў, німб над галавой у адпетага грэшніка ўбачыўся, ты б яшчэ Апостала Паўла з цыгарэтай у зубах і ў генеральскім мундзіры прымроіў, дзякуй Богу, што тваіх думак жонка не чуе».

Ён на хвіліну ўявіў скептычна ўсмешлівы твар Кацярыны, яе кплівыя вялізныя вочы, у якіх калісьці з першага разу загруз ды так і застаўся там на ўсё жыццё. Жылі яны з жонкай, калі глядзець з боку, добра, выклікаючы стабільную зайздрасць навакольных, праўда, раз у некалькі гадоў, здаралася, дужа лаяліся і парываліся, — чаго б тое не каштавала, — развесціся, але потым усё неяк само сабою ўціхамірвалася, вярталася на кругі свае, знаходзячы знаёмыя контуры любаснага звыклага жыцця.

Як і ў кожнай сям’і, у Скурашоў былі свае спрэчкі, якія доўжацца гадамі, і прадметы вечных, як сёння модна гаварыць, разборак. Адной з такіх «прадлёнак» было фундаментальнае пытанне аб асабістай адданасці, нават, хутчэй, фатальнай прывязанасці мужа да сваіх начальнікаў.

Малюта быў упэўнены, што без гэтага амаль фанатычнага пачуцця не можа быць сапраўднай працы, сапраўднай вялікай справы. Каця ж, бачачы ягоныя пакуты пасля кожнага расчаравання ў чарговым куміры, якога ён з такой цяжкасцю гадамі ствараў сабе, падпарадкоўваючыся звычайнаму жаночаму эгаізму, замест спагады тыднямі пілавала яго за марнаванне нерваў і сіл, а галоўнае — за неданесеныя ў дом грошы.



Паспрачацца з жонкай, хай нават у думках, Скурашу не далі.

— Малюта Максімавіч, — прымусіўшы здрыгануцца, перапыніў ягоныя разважанні кіраўнік сакратарыята Рады нацстаба Лаўрэнцій Міхайлавіч Абрушка, які бязгучна, як прывід, праслізнуў у пакой, — даўно седзіце?

У гэтым няхітрым, здавалася б, пытанні для дасведчанага вуха чыноўніка адгадваўся цэлы рой розгаласаў старых інтрыжак, рэўнасці, натуральнага страху быць абыдзеным, абылганым і, вядома ж, бесперапыннай барацьбы за доступ да цела начальніка.

Калі б хтосьці ўсёмагутны змог хоць бы на некалькі гадзін зазірнуць у чарапныя скрынкі чыноўнікаў вышэйшых дзяржаўных устаноў краіны, ён бы жахнуўся. Ільвіная доля напружаных высілкаў маленькіх клетак шэрага рэчыва дзяржслужбоўцаў сыходзіла на прыдумванне і разгадванне найскладанейшых шматходовак і галаваломак, інтрыг, якія доўжацца гадамі, і барацьбы розных груповак за месца пад наменклатурным сонцам. Чым менш пэўных і неабходных для краіны спраў выдавалі на гара ўпраўленне, інстытут, група, каманда, тым мацней і даўгавечней яны былі, таму што не марнавалі каштоўны час на дробязі, а жылі чыстай інтрыгай, мэтай якой было адно — самазахаванне і кругавая парука.

Закаціўшы выпрабавальны шар, відавочна разлічаны на неспрактыкаванасць Малюты, Абрушка з асцярогай пакрывіўся на расхінутыя дзверы веранды і прысеў на краёк крэсла ля неразрабаванай вежкі накрухмаленай сурвэткі, якая вянчала некранутыя прыборы сталовай сервіроўкі. Не дачакаўшыся адказу на сваё пытанне, ён спадылба зірнуў на каменны твар Скураша, які выпраменьваў таямніцу, і паспрабаваў зайсці з іншага боку.

— Малюта Максімавіч, мы, здаецца, з вамі не пасварыліся? Я пытанне задаю, а вы маўчыце. Як гэта загадаеце разумець?

— Выбачайце, Лаўрэнцій Міхайлавіч, — разумеючы, што няправільна сварыцца на роўным месцы з чалавекам, які штодня першым уваходзіць у кабінет усёмагутнага шэфа дзеля ранішняга дакладу і разбору папер, Скураш, як бы ачуўшыся ад дрымоты і няшчыра паціраючы павекі, са знарочыстай ветласцю вымавіў: — Я добра выпіў і вось, падаецца, задрамаў. Вы нешта

спыталі? — і, раптам, нібы схамянуўшыся, з жахам у голасе прашаптаў: — А дзе шэф?

«Ну і гусак!» — хмыкнуў пра сябе Абрушка і, кіўнуўшы ў бок веранды, таксама не падвышаючы голасу, вымавіў: — Вунь, паліць! Я пытаў, ці даўно вы седзіце.

— Глядзіце, а над галавой Івана Паўлавіча німб, — зрабіўшы адпаведны вымаўленым словам выраз твару, выдыхнуў Малюта, — а ўсярэдзіне рэха адгукалася: «Даўся табе гэты німб! Мала таго, што Кацьку сваім ідыятызмам замучыў, дык цяпер яшчэ і вар'ятам у вачах калегаў праславішся».

Тым часам нябесны пралом скаціўся амаль да самага гарызонту, і слуп астылага пажаўцелага святла ўжо наперакос слізгаў па навакольных ландшафтах і амаль упіраўся ў дашчаны насціл веранды. Фігура чалавека стала яшчэ цямнейшай, а воблака бясконцага тытунёвага дыму як бы замерла ў неспасціжна нерухомым для гэтай пары года паветры, іскрыстым шарам ахутваючы яго буйную галаву.

— Ты глядзі, а сапраўды ж… Містыка нейкая, трэба будзе яму сказаць. Прызнацца, — не адрываючы погляду ад дзіўнага відовішча, працягваў Абрушка, — я вас, Малюта Максімавіч, запаважаў. Не кожнаму даецца такая здольнасць у, здавалася б, звычайных рэчах убачыць знак звыш. Вось бачыце, вам дадзена, а мне не. Я ж, як зайшоў, ля дзвярэй хвілін пяць стаяў, на ўсё гэта тарашчыўся, а, акрамя раздражняльнага святла, нічога не ўбачыў. Давайце мо, пакуль ён там з сабе падобным абменьваецца тонкімі энергіямі, вып'ем па маленькай за ягонае здароўе.

Малюта ведаў, што Лаўрэнцій Міхайлавіч — спрактыкаваны апаратчык старой камсамольска-партыйнай школы, мінуў усе кругі кіруючай працы, бязлітасны горан ідэалагічнай барацьбы, і вось на табе — на паверку гэты ідэйны баец бальшавізму апынуўся звычайным зачараваным містыкам. Спачатку Скураш у гэта не паверыў і ўжо было памкнуўся адпусціць якую-небудзь шпільку наконт Блавацкай і тонкіх матэрый, што ліпнуць да таямнічай жаночай чакры, але, бакавым зрокам убачыўшы напружаныя скулы і агонь, які разгараўся ў вачах суразмоўцы, які па-ранейшаму, як загіпнатызаваны, глядзеў на веранду, перасцярогся. Колькі разоў ён пасля з падзякай успамінаў гэтую сваю прадбачлівасць і дзівіўся інтуіцыі, якая аберагала яго ад імгненнага крушэння кар'еры. Тады ён гэтага яшчэ не ведаў, як і не ведаў таго, што сёння ўпершыню сутыкнуўся з дрымучай шматвяковай Крамлёўскай чартаўнёй.



Выпіць за здароўе шэфа гэтым разам не атрымалася. Іван Паўлавіч Плаўскі, рэзка павярнуўшыся, хутка ўвайшоў у пакой, пакінуўшы на шырокіх парэнчах у промнях-агарках восеньскага захаду поўную попельніцу дымлівых недакуркаў.

— Ну што, надзея радзімы маёй, Лаўрэнцій ды Малюта? Усё аб загубленых душах засмучаецеся? Хачу вас суцешыць: «загубіць» не заўсёды азначае «пагубіць»… Іншы раз у смерці аднаго — выратаванне многіх. Аднак і шляхетныя імёны ў маіх помочнічкаў, аж мароз па скуры бяжыць! — І весела акінуўшы па-вайсковаму ўскочыўшых падначаленых, працягнуў: — Малюта Максімавіч, вы на сёння свабодны, добранька абдумайце нашую гутарку, а галоўнае, вызначыце алгарытм рэалізацыі асноўнай яе тэмы. І пажадана, іншымі сіламі. Да сустрэчы.

## 3

Машына амаль бязгучна кацілася па нязвыкла гладкім для Падмаскоўя асфальце. Дарога нібыта без ахвоты віхляла сярод высокіх і стройных, нібы высыпаных на подыум, хвой. Святло фар, гойдаючыся ў такт уздымаў і спускаў, супакойвала і закалыхвала. Напруга мінулага дня і асабліва апошніх гадзін паступова развейвалася, саступаючы месца выразнай працы думкі.

Малюта любіў глядзець на бясконцую шэрую стужку лятучай дарогі. Яна заўсёды падавалася яму такой рознай, незвычайнай, таямнічай, і ён быў амаль упэўнены, што насамрэч гэта не ён, драбнюткая і найпростая часцінка чалавецтва, нясецца па гэтай бясконцасці, а яна — шматаблічная ў сваёй аднастайнасці дарога — вабіць яго і ўвесь навакольны свет з нікуды ў нікуды. Калі па якіх-небудзь службовых дзівацтвах яму даводзілася на тыдзень або больш затрымлівацца ў мітуслівым і шумным горадзе, ён пачынаў сумаваць, назапашаная з дня ў дзень стомленасць паступова перарастала ў раздражняльнасць, а тая, у сваю чаргу, непазбежна цягнула за сабой верную спадарожніцу — злосць.

Раней ён не разумеў вытокаў сваёй злосці і, як кожны з нас, падпарадкоўваючыся эгаізму, шукаў яе першапрычыны ў дамашніх, калегах, начальніках, дрэнным надвор'і. Ды ці мала яшчэ дзе можна шукаць апраўданне самому сабе?.. І вось аднойчы яму адкрылася таямніца дарогі, яе філасофскае асэнсаванне, і ён нырнуў у яе, як у вір, безаглядна, на злом галавы, не думаючы аб перспектывах вяртання назад. Дарога гэта ацаніла і падаравала яму сваю літасць.

Толькі насыціўшы зрок мірным слізгаценнем злітых разам матэрыі, прасторы і часу ды ўпэўніўшыся, што шэрае мільгаценне працягваецца пад шчыльна замружанымі вейкамі, Малюта Максімавіч пачаў падрабязна аналізаваць апошнюю гутарку з сакратаром Рады нацыянальнай стабільнасці.

Прапанова суправаджаць Івана Паўлавіча да загараднай рэзідэнцыі паступіла ў самым канцы працоўнага дня. Скураш ужо збіраўся патэлефанаваць Інзе і пацвердзіць учарашнюю дамоўленасць аб сустрэчы ва ўтульным рэстаранчыку, які яна яму паказала падчас мінулага і пакуль што адзінага спаткання, як нязвыкла прастуджана затрашчаў тэлефон прамой сувязі. З лёгкім хваляваннем ён падняў трубку найважнейшага ў кабінеце тэлефоннага апарата.

— Дабрыдзень, гэта Плаўскі, — нечакана завуркатала трубка, — праз чатыры хвіліны чакаю вас унізе, каля спецліфта.

Малюта ліхаманкава кінуўся запіхваць у сейф раскладзеныя на стале паперы, прыціскаючы плячом да падбароддзя тэлефонную трубку, хацеў даведацца ў каго-небудзь, дзе знаходзіцца гэты самы спецліфт, аднак усе набраныя ім нумары аддавалі гулкім рэхам доўгіх гудкоў. Толькі настроеная на спатканне Мрозь аказалася на месцы і, выслухаўшы блытанае пытанне, якое перамяжоўвалася прабачэннямі за сарваны вечар, падказала напрамак.

— Самы кароткі шлях, — прасякнуўшыся складанасцю моманту, чаканіла Інга, — з «апендыкса» прыёмнай самога сакратара. Спяшайся, каб паспець спусціцца да шэфа. Не паспееш — ляці па пажарнай лесвіцы, яна недалёка, але пасля Івана Паўлавіча ў ліфт не садзіся…

Замкнуўшы дзверы, Скураш бегам кінуўся ўніз, балазе, спусціцца было ўсяго паверх. Абмінуўшы доўгі калідор, ён некалькімі глыбокімі ўздыхамі аднавіў дыханне і ўвайшоў у прыёмную.

Дзяжурны, дужы яшчэ стары, убачыўшы ягоны разгублены твар, з разуменнем замахаў рукамі, паказваючы на бакавыя дзверы.

— Можаце не спяшацца, Малюта Максімавіч, якраз паспееце і спусціцца, і адсапціся, і думкі ў парадак прывесці. Толькі што вельмі важны званок прайшоў, так што мінімум хвілін дзесяць ён дакладна будзе размаўляць, не менш.

— Дзякуй… — Скураш запнуўся, разумеючы, што забыў імя і імя па бацьку сённяшняга дзяжурнага.



— Іван Данілавіч, — лагодна ўсміхаючыся, падказаў сівы непрыкметны чалавек у сціплым, але бездакорна адпрасаваным гарнітуры. — Вы не бянтэжцеся, усяго ж два тыдні на службе, дзе ўжо тут усіх запомніш. Праз гадок-другі й радыя будзеце забыць і імёны, і твары, але, на жаль, так ужо ўладкаваная памяць, нічым іх адтуль не выб'еш.

— Выбачайце, Іван Данілавіч, я лепш спушчуся, а то нядобра мітусіцца перад высокім начальствам.

— Правільна, малады чалавек, разважаеце. Можа быць, у гэтых, падавалася б, прасценькіх словах і ёсць запарука вашага поспеху, паверце ўжо старому.

Усю дарогу ў нязвыкла прасторнай машыне Малюта рэзаўся са сваім шэфам у «пераваднога дурня». Мабыць, гэта была адзіная картачная гульня, у якую ён нядрэнна гуляў. Сакратар жа Рады, як потым аказалася, гуляў ва ўсе гульні і прытым амаль заўсёды выйграваў.

Наатрымліваўшы ўдосталь «дурняў» і прывёўшы тым самым Івана Паўлавіча ў выдатны душэўны настрой, Скураш, сам таго не падазраючы, намацаў трывалую дарожку да сэрца гэтага нелюдзімага на першы погляд чалавека. Яны ўвайшлі ў вялікі дом, які зіхцеў казённай стэрыльнасцю, добра ўпісваўся ў хваёвы бор і лунаў вялізнай верандай з рассоўнымі вокнамі над дагледжаным фруктовым садам.

Малюта Максімавіч машынальна пакратаў аздобленыя забаўным разьбярствам нарды, якія ляжалі на нізкім часопісным століку.

— Гуляеце? — пачуў ён.

— Ды так, сярэдненька…

— Сярэдненька — гэта я гуляю. Можа, пакуль збіраюць на стол, пару караценькіх зганяем?

— Іван Паўлавіч, хіба ў мяне ёсць выбар? Вядома, згуляем, трэба ж чымсьці смак «дурня» перад прыёмам ежы перабіць.

З «ганаровым» лікам «пяць — адзін», зразумела ў чыю карысць, перайшлі ў сталовую.

— Малюта Максімавіч, я спадзяюся, вы не занадта галодныя і пагодзіцеся хвілін сорак пагуляць, як вы нядаўна справядліва зазначылі, перад прыёмам ежы. Я вось таксама люблю вайсковыя абарачэнні і не саромеюся іх, а чаго мне саромецца свайго жыцця? Я за спіны іншых не хаваўся, на печы не адседжваўся, усё, што мог, у Радзімы заслужыў. Ордэнаў і медалёў унукам

і праўнукам хопіць. Хадзем шпацыраваць, — і, скурчыўшы кіслую міну, ён шматзначна падняў уверх указальны палец.

Жоўтая лістота, акуратна змеценая з выкладзеных брукам дарожак, пакорліва падпарадкоўваючыся лёгкаму ветрыку, круцілася пад нагамі. Неба толькі пачынала цямнець, і па ім хтосьці невядомы ганяў, без усякай паслядоўнасці, статкі яшчэ не пацяжэлых ад вільгаці вяртлявых аблокаў.

— Адкуль у вас такое нетрадыцыйнае імя?

— Малюта — гэта маленькі, малодшы…

— Добры маленькі, пэўна, з цэнтнер вагой, і расточкам Бог не пакрыўдзіў…

— Метр восемдзесят два, таварыш генерал-палкоўнік!

— Добра, у гвардыю падыходзіце. Вы, наколькі мне памяць не здраджвае, ніякага дачынення да спецслужбаў не маеце? — прыпаліўшы і выдзімаючы з сілай вычышчаны лёгкімі ад смалы і іншых брыдотаў дым, спытаў Плаўскі.

— Так, праўда, пару разоў «контрыкі» спрабавалі прафілакціраваць, ды прыналежнасць да касты зампалітаў выручала.

— Цікава, за што ж гэта?

— Адзін раз за Высоцкага і анекдоты пра роднага Леаніда Ільіча, другі — за прыхільнасць да «опіуму для народа» і наведванне Божага храма.

— Мудакі, што яшчэ сказаць? Хіба што з тых часоў мала што змянілася, назвы толькі памяняліся. Самая страшная бяда нашай краіны, на мой погляд, сёння — не столькі засеўшая ўсюды партнаменклатура і абрызглыя мазгі сугрaмадзян, колькі міліцыя і КДБ, якія ўзрасцілі айчынную арганізаваную злачыннасць і шчыльна з ёю зрасліся. Вы паглядзіце, што вакол робіцца: дробных і сярэдніх жулікаў, бандытаў прыкрываюць «мянты», а буйных акул — унукі жалезнага Фелікса. Гэта ж трэба было камусьці дадумацца: старэйшых афіцэраў «камітэта» без адрыву ад вытворчасці адправілі на кармленне ў буйныя банкі, фірмы, холдынгі. Пусцілі «казлоў» у агарод, а іх там і чакалі! Вось адкажыце мне, на каго вы будзеце працаваць, калі дзяржава вам плаціць паўтары, скажам, або дзве тысячы драўляных рублёў, а камерцыйны банк — пяць тысяч даляраў?

— А што тут адказваць? Вядома, на банк, тым больш, пад страхой дзяржавы! Выходзіць, поўная рэалізацыя суччынага прынцыпу падвойнай маралі, чаго ж не папрацаваць…

— Правільна. Але чаму мы з вамі гэта разумеем, а прэзідэнт і ўрад робяць выгляд, як у тым анекдоце: «Тата, а што гэта было?» Вядома, Божа ўратуй, я не збіраюся грэбці ўсіх пад



адзін грабянец, нават праводзіць адрозненні паміж начальнікамі і падначаленымі, маўляў, адны сумленныя і адданыя справе, а другія — зажраліся і разбэсціліся ўсёдазволенасцю. Гэта дурное. Падпарадкоўваючыся законам службы, другія непазбежна вырастаюць з першых, а потым ужо ў сілу ўступае ўсёмагутны закон захавання ўласнай сракі на пануючых вышынях. Вось і атрымоўваем падобнае па ўласным узоры. Чаму можна навучыцца ў племені людаедаў, дзе забойства чалавека — не проста норма, а справа ганаровая, годная павагі і ўсеагульнага прызнання? Усё прагніло, і мы тым больш павінны цаніць людзей, якія захавалі ў сабе хоць нешта чалавечае. Ім у тым жыцці было нашмат цяжэй, чым нам. Уявіце сабе: бацька — людаед, настаўнікі — людаеды, а вы — вегетарыянец. Колькі пакут! Колькі сілы трэба, каб выжыць і не стаць такім, як усе! Але гэта ўсё лірыка, шаноўны Малюта Максімавіч, а праўда жыцця такая: прэзідэнт цяжка хворы, і невядома, чым ягоная хвароба закончыцца. Краінай кіруюць смутныя асобы, для якіх захаванне высокага ўзроўню крыміналу вельмі выгаднае.

Плаўскі на некалькі хвілін замоўк, як бы абдумваючы апошнюю фразу, потым рэзка спыніўся і, прасвідраваўшы Малюту сваім бранябойным поглядам, працягнуў:

— Ды ніхто фактычна краінай не кіруе, проста пакуль яшчэ працуе наладжаны механізм ды інэрцыя мышлення, пабудаванага на страху. Калі гэта ўсё скончыцца, адбудзецца трагедыя.

Генерал замоўк. Грубіянскі, злёгку рабы і таму падобны на высечаны са стэпавага каменю твар пазмрачнеў, бровы сышліся ля пераносся, плечы злёгку прыгорбіліся, крокі сталі павольнымі, падавалася, што ўвесь цяжар адказнасці, які ён добраахвотна ўзваліў на сябе, ламаючы ненадзейныя падпоркі, раптам дагнаў яго і прыціснуў да зямлі. Цень болю слізгануў па застылых скулах. Плаўскі па-бычынаму матнуў галавой, з асцярогай зірнуўшы на суразмоўцу.

Малюта, наэлектрызаваны блізкасцю і адкрытасцю шэфа, інстынктыўна адчуваў ягоны стан і ўсім сваім выглядам паказваў, што нічога не заўважае, а цалкам заняты пераварваннем атрыманай інфармацыі.

— У нас учора адбылася вельмі цікавая сустрэча з міністрам унутраных спраў Болатавым. Дык вось, адной з тэм, якія мы закранулі, было стварэнне так званага Белага легіёна, нейкай падпарадкаванай Радзе нацыянальнай стабільнасці ваенізаванай арганізацыі, заклікана ў найкарацейшы час калі не

паканчыць са злачыннасцю і карупцыяй, дык хоць бы пачаць з ёй непрымірымую барацьбу…

— Але ж, прабачце, такія арганізацыі ўжо існуюць, на мой погляд, іх нават занадта шмат…

— Існуюць. А што толку? На каго яны працуюць? Ужо сапраўды не на дабрабыт дзяржавы, ім і прыкрываюцца. Гаворка ідзе аб стварэнні прынцыпова і якасна новай структуры. Болатаў прапануе стварыць легіён як сакрэтнае падраздзяленне ўсярэдзіне свайго міністэрства і ўжо праз яго замкнуць на нашае ведамства. Калі пайсці па гэтай схеме, то вы, натуральна, кажаце праўду: атрымаецца чарговы мёртванароджаны вырадак. Вы, падаецца, былі на вайне?

— Толькі як вайсковы дарадца…

— Яшчэ мне анёлачак знайшоўся. Вы глядзіце, ад сціпласці не памрыце, мне-та не трэба лапшу на вушы вешаць. Дарадцы! Вы ўсе там так панараілі, што за вас духі самыя вялікія ўзнагароды прызначалі…

— Іван Паўлавіч, прабачце, што перабіваю, але такога бакшыша, як за вашую галаву, за ўсіх дараднікаў разам узятых…

— Добра, абмяняліся кампліментамі і хопіць, адчуваецца ў вас камісарская закваска: пахваліў камандзіра — паўсправы зрабіў. Дык вось, я яшчэ там, у Афганістане, заўважыў, што лепш усяго ваююць тыя салдаты, у якіх здарылася асабістае гора, за ўсё, у нядаўнім баі загінуў сябар, або каханая маладзіца, стаміўшыся чакаць героя, легла пад смаркатага студэнта. Адкуль што бярэцца! Учора здыхляк — метр з кепкай на каньках, а сёння, глядзіш, пара пісаць рапарт да медаля «За адвагу». Адчуваеце, куды я хілю?

— Пакуль, прызнацца, не.

— А між тым ідэя простая: эфектыўней за ўсё са злачынцамі могуць змагацца людзі, пацярпелыя ад іх. Ні адна школа міліцыі, ніякая спецыялізаваная вучэльня не дасць нам больш устойлівых і непадкупных байцоў, чым войска людзей, якія на сваёй скуры паспрабавалі брыду дакранання нелюдзяў. Дык, можа, прыйшоў час даць магчымасць іх справядліваму гневу выйсці вонкі і паслужыць грамадству?

— Але яны ж у масе сваёй юрыдычна бязграматныя, а любое працэсуальнае парушэнне непазбежна прывядзе да развалу нават відавочнай справы ў судзе.

— Гісторыя паказвае, што калі перад дзяржавай стаіць выбар выжыць або загінуць у крывавым хаосе міжусобнай смуты, прынцыпы лібералізму павінны адступіць убок і вызваліць месца для рашучых і валявых дзеянняў. Сёння ў краіне ідзе вайна, і не толькі на Каўказе, нябачны фронт цяпер усюды, і калі мы гэтага не зразумеем, мы загубім Расію, дакладней, яе астаткі. Вы гэта разумееце?



— Не толькі разумею, але і шмат у чым падзяляю вашыя думкі, аднак, Іван Паўлавіч, вы самі гаварылі аб псіхалогіі людаедаў…

— Вось гэта і будзе вашай галоўнай задачай. У легіён павінны набірацца толькі чыстыя і сумленныя людзі. Людзі, якія будуць служыць не мне, не вам, а будучыні свайго народа і пры гэтым выразна ўсведамляць сваю часовасць. Ведаеце, як казакі: бяда ў хаце — яны на вайне, вораг зрынуты — аруць зямлю, пішуць кнігі, выхоўваюць дзяцей. Думаю, вы асноўную ідэю ўлавілі?

— Так, Іван Паўлавіч.

— Вось і выдатна, працуйце ў аўтаномным рэжыме, калі і каго трэба будзе падключаць, я вам падкажу, а пакуль — два дні вам на падрыхтоўку канцэпцыі. Пастарайцеся не моцна распісвацца, адсілы старонак сем. Ну і паралельна думайце над агульным палажэннем, мабыць, гэта будзе найважнейшы дакумент.

Малюту злёгку білі дрыжыкі ад усведамлення адказнасці, якая звалілася на яго. З аднаго боку, яму падабалася гэтая ідэя, з іншага — адольвала збянтэжанасць толькі ад адной думкі, колькі бедаў можа нарабіць гэты легіён, калі яго ўзначаляць уладалюбівыя і карыслівыя людзі.

Машына ўжо неслася сярод сабе роўных у бліскучых плынях ярка асветленых вуліц, горад пачынаў жыць сваім начным жыццём. Ідэальная схема, намаляваная Плаўскім, пачынала знаходзіць пэўныя рысы, Скураш, адкінуўшы ўбок сумненні і сантыменты, прыняўся за выкананне дадзенага яму даручэння.

## 4

У кватэры ў Інгі зазваніў тэлефон.

— Гэта таварыш Мрозь?

— Так, а з кім я размаўляю?

— Ваш сябар. Я ад Міхаіла Васільевіча. Спадзяюся, помніце такога?

Яна ўжо даўно забыла аб існаванні ў сваім жыцці гэтых званкоў. Міхаіл Васільевіч Злобін даўно на пенсіі, а можа, ужо і памёр. Прынамсі, пасля яе шлюбу з сынам самога Гроцкага ён прыбег увесь перапалоханы і дрыготкім ад хвалявання голасам

растлумачыў, што ніякіх адносін у іх ніколі не было, што ўсе паперы ён знішчыў і забыў, як яе, спадарыню Гроцкую, завуць. І вось на табе.

— Выбачайце, я не ўзгадваю ніякага Міхаіла Васільевіча, вы, відаць, памыліліся…

— Дарма вы так. Глядзіце, як бы потым не пашкадаваць…

— Ды пайшоў ты! — і яна кінула трубку.

«Вось прыдурак, на ўвесь выхадны сапсаваў настрой. Значыць, збрахаў Злобін. Ну, вырадак, я цябе дастану, калі ты, сука, яшчэ не здох ад п'янкі і зайздрасці», — яе думкі зноў перапыніў тэлефонны званок. Інга са злосцю схапіла трубку.

— Я ж табе сказала, казліная рожа…

— Ну і ну, вось ужо не думаў, што я падобны да казла, — адазвалася на вельмі арыгінальнае прывітанне трубка голасам Скураша.

— Ой, прабач, Малюта…

— За казла — і вось так проста «прабач», не ўжо, дзетачка, за базар, як гавораць у нас на Старой плошчы, адказваць трэба. Паехалі снедаць. У цудоўны дзень з цудоўным чалавекам… карацей, я ўнізе, ля твайго пад'езда.

— Паслухай, ну гэтак жа нельга, я толькі вочы прадрала…

— І ўжо кагосьці адкасцярыла па тэлефоне…

— Ды ну іх. А, ведаеш, паднімайся да мяне. Каву табе гарантую, а сама пакуль што-небудзь намалюю з фэйсам. Эй, паслухай, а адкуль ты мой адрас ведаеш?

— Дзе працуем, мілка! Я, дарэчы, і код і паверх ведаю…

— Глядзі толькі ад гонару не лопні, а то ліфт запырскаеш, мілок, — з'язвіла Інга. — Можа, я пагарачылася зранку да сябе хвалько ўпускаць?

— Выпраўлюся, чэснае крамлёўскае!

Маскоўская нядзельная раніца — паняцце філасофскае і ў нечым падобнае да юдзейскага шабаду. Хваля падвышанай дрымотнасці і адкрытага пафігізму ахоплівае пераважную большасць жыхароў Першапрастольнай, і яны, загнаныя тыднёвым бегам, пакуралесіўшы або выканаўшы ўсю хатнюю працу напярэдадні ў суботу, выкарыстаюць гэты адзіны дзень як натуральную аддуху для бяздзейнага валяння ў ложку, рытуальнага марнавання часу і паўапранутага бязмэтнага туляння па сонных пакоях пагружанай ва ўтульную ляноту кватэры. Пры жаданні гэтая чаканая раніца можа быць расцягнутай да першай вячэрняй зоркі, таму не здзіўляйцеся, калі замест прывітання а



палове другой дня вам незадаволена прабурчаць: «І якога чорта балабоніць у такую рань, сёння ж выходны!»

Толькі штосьці вельмі незвычайнае можа прымусіць масквіча пакінуць сваю маленькую, з нечалавечай цяжкасцю адваяваную ва ўладаў крэпасць і пусціцца ў падарожжы па пустэльных вуліцах, пад якімі, выгінаючыся ў тунэлях, плывуць нязвыкла пустыя электрацягнікі, а светлыя пераходы самага прыгожага ў свеце метрапалітэна адзываюцца глухім рэхам на крокі нешматлікіх заспаных пасажыраў.

Вядома ж, у першую чаргу да такіх незвычайнасцей адносіцца пачуццёвая, так сказаць, сардэчная сфера нашага жыцця, даць поўную характарыстыку якой чалавецтва дагэтуль не мае сілаў. Божа, колькі дзідаў зламана ў несуцішных спрэчках аб вытоках любові! Колькі найяснейшых розумаў чалавецтва заблудзілася ў яе лабірынтах і памутнелі свядомасцю! Куды яе толькі, гэтую бедную любоў, не заганялі! І на нябёсы, і ў апраметную, і ў душы людзей, і ў сэрцы, і ў іншыя, больш інтымныя часткі цела, а то і зусім аўтарытэтна заяўлялі: любові няма! І тут жа спяшаліся агаварыцца: яна-то, вядома, ёсць, але не такая, якой мы яе сабе ўяўляем. Гэтае пачуццё нашмат мацнейшае за нашы смаркатыя страсцішкі, шчымлівае прадчуванне бездані, бяссонныя ночы, салодкія і горкія слёзы, вершы і музыку, п'янлівую ўтрапёнасць, якая раздзірае на часткі разгарачанае цела, — аказваецца, усё гэта — дурасці. Праўдзівая любоў — гэта любоў да Бога, да Радзімы, да кесара, да ізгоя, да правадыра, да чалавецтва, да дэмакратыі, у рэшце рэшт.

Кожная эпоха наперабой прапаноўвала нам сваю, самую праўдзівую, самую правільную трактоўку любові, і мы, законапаслухмяныя, згаджаліся. А што паробіш, не пагодзішся — ерэтык, здраднік, вораг народа. Але пры гэтым усё неяк не так атрымлівалася: чым больш мы любілі Бога, тым мацней ненавідзелі сваё цела і людзей, вернікаў у іншага бога. Чым ярчэй палала ў нас полымя патрыятызму, тым часцей мы квапіліся на суседнія землі, чым больш па-вернападданніцку схілялі галовы, тым хутчэй саспявалі і пажыралі сваіх творцаў рэвалюцыі, чым гучней крычалі аб дэмакратыі, тым хутчэй прыходзіла дыктатура. Здавалася б, чалавецтва даўно павінна было загінуць у жалезных цісках такой любові, але ў аглядным часе гэтага не адбылося, і толькі з адной прычыны: ваш сын учора ўвечары ўцёк на спатканне і вярнуўся пад раніцу з запалымі шчокамі і шчаслівым агнём у вачах.

Скурашу падавалася, што дапатопны ліфт ледзьве паўзе ў сваёй вузкай вертыкальнай нары, відавочна не прадугледжанай

даваеннай архітэктурай. Лёгкае смыленне шчок, перасохлае нёба, неадчувальны боль у далонях ад шыпоў барвовых ружаў — гаварылі аб чымсьці прыемным, даўно забытым. Малюту гэта адначасова радавала і злавала.

Дзверы трыццаць шостай кватэры на пятым паверсе былі злёгку прыадчыненыя. У ярка асветленай вітальні, сцены якой былі ўпрыгожаныя драўлянымі разьбянымі пано з экзатычнай садавінай і невядомай зверынай, да вялізнага, ад падлогі да столі, авальнага люстэрка ў такой жа разьбянай раме скотчам была прылепленая запіска: «Кухня направа, кававарка зараз закіпіць, усё астатняе на стале. Хутка буду. І. М.».

Пах добрай кавы непадзельна ўладарыў у прасторнай, у два акны, кухні. Узмоцненае шыпенне агрэгата, які зіхцеў чорным пластыкам і матавым бляскам нержавейкі, лямпачкамі і маленькім дысплеем, нарэшце абвінулася гучным булькатаннем, і ў празрысты пузаты кававарнік са стогнам палягчэння паліўся пульсіруючы і гарачы цёмны цурок. Кававарка паступова супакоілася, замоўкла.

Цішыня незнаёмага жытла навалілася на нерашучага Малюту. Кватэрныя гукі і шоргаты, якія спачатку разбегліся прэч ад незнаёмца, асцярожна, як цікаўныя шчанюкі, сталі вылазіць са сваіх зацішных куткоў і з асцярогай набліжацца да яго, залазіць у вушы, бударажыць уяўленне. Дзесьці рыпнула, няўлоўна прашамацеў нейкі лёгкі шоргат, ціха заплёскалася вада. На яе гук, як лунацік, чамусьці і пайшоў Скураш.

Не звяртаючы ўвагі на вялікія памеры пакояў і іх убранне, ён, затаіўшы дыханне, асцярожна краўся да крыніцы гэтага заклічнага, узрастаючага плёскату вільгаці, што вырвалася з цесных труб. Вось яны, патрэбныя і чамусьці таксама прыадчыненыя дзверы. Бессаромна яркае святло тонкай палоскай паказвала сваім лязом кірунак далейшага руху. Малюта, канфузячыся свайго блазенства, набраўшы поўныя грудзі паветра, рашуча прасунуў у ванную руку з букетам, павярнуў твар далей ад звабнага святла і для пэўнасці шчыльна закрыў вочы.

— Ну вось я так і ведала, што вы нічога лепшага не прыдумаеце, як кінецеся за мной падглядваць, — нечакана аднекуль ззаду разануў цішыню кплівы жаночы голас.

Скураш азірнуўся. Перад ім у кароткім прасценькім халаціку стаяла Інга.

У рэстаран у гэты дзень яны так і не патрапілі.

Страшных памераў ложак яшчэ захоўваў астаткі іхняга цяпла, падушкі і коўдры разляцеліся ў розныя бакі, як пасля выбуху, і застыглі ў сваёй асуджанай непатрэбнасці, у паветры плавалі, зліўшыся разам, іхнія пахі. Галасы, якія перакіпалі ад знямогі, чуліся з суседняга пакоя, і стыльна абстаўленая спальня з рэўнасцю да іх прыслухоўвалася.



— Божа, які ж ты патрасны мужык… Мне яшчэ ніколі, ніколі не было так добра. Я ўпершыню ад гэтага плакала. Ты, пэўна, думаеш, што я дурніца, так?

— Дурань — якраз я, і мне так падаецца ўжо два тыдні. Ты ведаеш, у першы дзень нашага знаёмства я ледзьве стрымаўся, каб не накінуцца на цябе…

— Я і сама ледзь не ўляглася на твой пісьмовы стол. Добрая парачка, нейкія маньякі.

— Ну, так ужо і маньякі, проста злёгку дурнаватыя. Высокае званне маньяка мне яшчэ давядзецца заслужыць…

— Што ж, не буду супраць, калі ты зоймешся гэтым хоць зараз.

Спальня занервавалася, з асцярогай мяркуючы, што яны стануць вырабляць гэта па-за яе сценамі і, толькі ўбачыўшы на сваім парозе ўжо напаўсплеценую парачку, з палёгкай уздыхнула, прымаючы яе ў сваю шырачэнную зыбку.

Дзень сыходзіў у дробную дрыготку прасеянага небам касога дажджу. Ён расплёскваўся на шыбу, скручваўся ўніз звілістымі струменямі, і ад гэтага заваконны свет падаваўся нейкім нерэальным, фантастычна размытым. Дзве голыя фігуры прыціснуліся адна да адной і адлюстроўваліся ў злёгку затуманеным празрыстым люстэрку. Збоку і напраўду магло падацца, што ў гэтую хвіліну ніякая сіла на свеце не зможа адарваць іх…

## 5

Першая ананімка аб амаральных паводзінах начальніка ўпраўлення і супрацоўніцы сакратарыята легла на стол Плаўскага роўна праз тры дні.

— Што гэта за трызненне вы мне падсоўваеце? — нахмурыўшы бровы, спытаў ён Абрушку.

— Нічога асаблівага, так, для інфармацыі. Пакладзена…

— Накладзена. Я што вам — парткам? Вы гэтага добраахвота вылічыце і да мяне, я яго з вялікім задавальненнем адпраўлю працаваць па прызначэнні — сметнікі і сарціры чысціць. А гэтая Мрозь хоць сімпатычная?

— Цалкам. Дзесьці пад трыццаць, нагастая, грудастая…

— Ай ды Малюта, ай ды сукін сын! Прама па Пушкіну! Вучыцца ў яго, Лаўрэнцій, трэба, амаль на месяц пазней

нас прыйшоў у Раду, а ўжо пахвальныя лісты паляцелі, — і, зірнуўшы на гадзіннік, перайшоў на сур'ёзны тон. — Сёння папер досыць, да прэс-канферэнцыі засталося ўсяго нічога, завіце да мяне Аляксандра і Аліцыю Маркаўну, дзяжурных у прыёмнай папярэдзьце — ні з кім не злучаць. Мы рыхтуемся.

Прэс-канферэнцыі, якія даваў Плаўскі, былі хутчэй грамадска-палітычнай падзеяй у жыцці сталіцы, чым звычайнымі інфармацыйнымі падставамі для нуднай журналісцкай брацыі. Зацішша, якое звалілася на галовы абываццеляў пасля, напэўна, самых дзіўных выбараў у гісторыі дэмакратыі, панура цiснула на расплясканыя мазгі. У неапахмеленыя галовы народа назойліва лезлі самыя невясёлыя думкі і рытарычныя пытанні. Адно з іх было закавыкай з закавык: як магло здарыцца, што вялікая краіна (так яна, прынамсі, сама пра сябе думала) ізноў шляхам прамога волевыяўлення выбрала ў кіраўнікі нялюбага ёю чалавека, ды да таго ж абцяжаранага цэлым букетам комплексаў?

Пытанне гэтае вісела ў паветры і бестурботна матляла ножкамі, бо адказаць на яго ніхто не мог. Выбрала краіна — і ўсё тут! Закон выкананы, паваротаў назад не бывае, словам — поўнае дэма! Злёгку прыпалоханыя ад магчымых пераменаў новыя гаспадары краіны з палёгкай уздыхнулі і шчыльней паселі на звыклых шастках каля даўно падзеленых кармушак. Старыя бясколерныя часы Леаніда Ільіча, абцяжараныя галечай і абсурднымі перакосамі ўлады, злавесна замаячылі на найблізкіх подступах. Узлёт Плаўскага на вяршыню палітычнага Алімпа, прапахлага перагарам, казнакрадствам, імпічментам і шунтаваннем, быў адзінай нечаканай надзеяй для Расіі, якая, здавалася, ужо ў чарговы раз махнула на сябе рукой.

Зала для зносінаў з прэсай высокіх насельнікаў Старой плошчы знаходзілася ля ажурных кратаў варот шостага пад'езда і была зусім запоўненая. Справа і злева ў некалькі шэрагаў стаялі на featvariousрознавялікіх штатывах тэле- і відэакамеры. Амфітэатр цвёрдых казённых крэслаў, якія спускаюцца паўколам да сцэны, займалі журналісты з найбуйнейшых інфармацыйных расійскіх і замежных агенцтваў. Асобна вылучаліся фотакарэспандэнты, якія, як дасведчаныя снайперы, загадзя выбіралі сабе пазіцыі, прастрэльвалі іх чэргамі аўтаматычных спускаў і асляпляльных бліскавак сваіх дзіўных апаратаў. Сотні чорных выгінастых, як ліхія думкі, правадоў з разбегу ўзляталі на бліскучы лакіраваны стол і, раздуўшыся разнаколернымі галоўкамі мікрафонаў,



гатовыя былі, нібы звітыя ў вялізны клубок змеі, з азвярэннем кінуцца на нічога не падазраваючую ахвяру.

Саша Брахманінаў — прэс-сакратар Плаўскага, без усякіх празмернасцяў абвясціў аб пачатку сустрэчы журналістаў з Сакратаром Рады нацыянальнай стабільнасці.

Іван Паўлавіч, як заўсёды, пачаў з дамашняй загатоўкі і хвілін за трыццаць намаляваў вельмі непрывабную карціну панаваўшых у краіне парадкаў, сутнасць якой ён уціснуў у пяць ёмістых слоў: вакол бардак ды імпатэнцыя ўлады. Жывыя, не зацяганыя па бюракратычных паперах фразы нязвыкла вуркаталі ў невялікай зале. Плаўскі быў ва ўдары, ён купаўся ў басах свайго голасу, у асляпляльным святле тэлевізійных ліхтароў і іншасветным мігценні фотаблікаў. Гэта была яго стыхія, стыхія ўпэўненага ў сваёй праваце чалавека, якую ён нейкім неспасціжным чынам мог перадаць сваім слухачам.

Скураш не прапускаў ніводнага публічнага выступу шэфа. Ён уладкоўваўся дзе-небудзь збоку, бліжэй да стала, і з цікавасцю назіраў за Плаўскім і прысутнымі ў зале. Перад ім павольна, з прабуксоўкамі раскручвалася нябачнае кола ўзаемапранікнення энергій утоенага сэнсу слоў. Найстаражытная і страхатлівая магія паступова атрымлівала сілу містэрыі, нараджаючы ўсярэдзіне ні з чым не параўнальнае пачуццё суперажывання, якое, у сваю чаргу, апроч волі, вызваляла дзікую сілу датычнасці. Адасобленае, асцярожнае і палахлівае «я» скурчвалася, саступаючы месца асляпляльнаму, нібы наркотык, калектывізму. Твар нясцерпна гарэў, прага дзейнасці перапаўняла душу. І ўсё гэта адбывалася з кожным. Дзіўным чынам непадобныя адзін да аднаго людзі, якія часам размаўлялі на розных мовах, раптам ператвараліся ў адзінаверцаў. У гэтым парыве, які мяжуе з апантанасцю яднання, расплаўляліся індывідуальнасці, сціраліся маленькія чалавечкі з іх слабасцямі і бедамі ды нараджаўся грозны, сляпы, абезасоблены натоўп, гатовы рынуцца наперад, ствараючы або руйнуючы ўсё на сваім шляху.

Нешта падобнае Малюта, на сваё здзіўленне, назіраў і сёння. Вострыя на язык, мацёрыя і нахабныя ў іншых сітуацыях журналюгі лавілі кожнае слова Плаўскага, не адрываючы погляду ад сцэны, нешта чыркалі ў сваіх нататніках, распальваючыся разам з выступоўцам.

«Бесаўшчына нейкая! — разважаў Скураш, утаропіўшыся на расчырванелую напышлівую Вольгу Гоц, нядаўна прызнаную «залатым пяром» года. — Уяўляю сабе, што ён вытварае з

радавымі выбарнікамі, калі ўсёведу-Воленьку амаль да аргазму давёў. Ну, малайчына! Ды што Гоц, мужыкі і тыя туды ж!»

Іван Паўлавіч замоўк нечакана, проста не дамовіў фразу, цяжка ўздыхнуў і адкінуўся на спінку крэсла. Дасягнуўшы піка напругі, ён нібы прасіў хвіліну перадыху. У зале зашумелі, зашамацелі, заварушыліся. На стале з'явілася попельніца, і Плаўскі, з усмешкай акінуўшы поглядам прысутных, маўляў, маю, у адрозненне ад вас, поўнае права, не спяшаючыся, уставіў цыгарэту ў муштук і, блажэнна прыжмурыўшыся, смачна зацягнуўся.

— Спадары, прашу задаваць пытанні, — робячы камусьці ўмоўныя знакі, вымавіў Брахманінаў, — час у Сакратара абмежаваны. Калі ласка, прашу Грамадскае расійскае тэлебачанне…

— Іван Паўлавіч, пералічваючы патэнцыйныя пагрозы нацыянальнай бяспецы, вы назвалі разбурэнне сістэмы кіравання краінай. Калі можна, падрабязней на гэтую тэму.

— А што падрабязней? Фактычна ад гэтай сістэмы засталося адно шмаццё, якое хуценька прыватызавалі рэгіёны, яшчэ год-другі — і яны канчаткова ператворацца ва ўдзельныя княствы. Магу растлумачыць больш вобразна. Краіна ў нас найвелізарная, як велічэзны дыназаўр. Тулава, ногі, даўжэзны хвост ды шыя з маленечкай галоўкай і яшчэ больш маленечкімі мазгамі, — у зале яхідна захіхікалі. — Не сумнявайцеся, маленькія мазгі, і тыя абрызглыя, — працягваў Плаўскі. — Дык вось, пакуль сігнал ад башкі дойдзе да хваста, хваста ўжо няма — зжэрлі, а зваротнай сувязі «хвост — галава» наогул не прадугледжана. Я ясна выкладаю?

— Куды ўжо ясней…

— Калі ласка, пытанне калегаў Сі-эн-эн, — адводзячы шэфа ад наспелага скандалу, умяшаўся прэс-сакратар.

— Спадар Плаўскі, як часта вы бачыцеся з прэзідэнтам, аб чым гаворыце? Гэта адно пытанне. Другое: ходзяць чуткі аб пагаршэнні яго здароўя. Як вы гэта пракаментуеце?

Скураш, як і ўсе, хто рыхтавалі гэтую сустрэчу, думаў, што падобнае пытанне хто-небудзь задасць. У Івана Паўлавіча былі падрыхтаваныя тры пазітыўна-нейтральныя адказы, але, ужо паспеўшы пазнаць свайго шэфа, усе прысутныя супрацоўнікі апарата Рады ўнутрана напружыліся. Хто ведае, што ў гэты момант можа прыйсці яму ў галаву?

— У прэзідэнта, напэўна, няма патрэбы ў такіх сустрэчах, а ў мяне і пагатоў. А чаго, уласна, сустракацца? Мне і без гэтага працы хапае, — секануў не па пісаным Плаўскі. — Што тычыцца



яго здароўя, дык я не доктар. Я, як вам вядома, рускі генерал, і мая справа — вайна і парадак, а гэта вельмі далёкая ад медыцыны вобласць прымянення чалавечага інтэлекту…

«Здаецца, пранесла», — падумаў Скураш, але генерал, зірнуўшы спадылба на журналістаў, правуркатаў:

— Але, па маіх даных, — зала замерла, — прэзідэнта рыхтуюць да сур'ёзнай аперацыі на сэрцы. Будзем спадзявацца на яе шчаслівы зыход.

Журналісты паўсхопліваліся з месцаў, многія кінуліся да выхаду, спяшаючыся першымі данесці да сваіх агенцтваў і выдавецтваў сенсацыйную навіну.

— Ну, гэта ён дарма, — ні да кога не звяртаючыся, вымавіла Гоц, — гэтага яму не даруюць.

— Апошняе пытанне, — перакрываючы шум, амаль пракрычаў Брахманінаў.

— У каго будзе знаходзіцца ядзерны чамаданчык у момант аперацыі?

— У прэм'ер-міністра, як таго і патрабуе канстытуцыя.

— Калі ў краіне ў гэты час пачнуцца беспарадкі, ці гатовыя вы, спадар Плаўскі, узяць на сябе ўсю паўнату ўлады?..

— Выбачайце, спадары, — ужо амаль зароў прэс-сакратар, — час прайшоў. Дзякую за ўвагу.

Генерал збіраўся яшчэ нешта сказаць, але перадумаў і, махнуўшы рукой, сышоў са сцэны.

Скураш заўважыў, што наперадзе журналістаў да выхаду кінуліся супрацоўнікі іншых падраздзяленняў адміністрацыі.

«Ну, гэтыя, зразумела, да пачутага яшчэ і свайго з тры кашолкі накруцяць, уяўляю, якая цяпер свістапляска пачнецца, — ужо крочачы па доўгім калідоры да свайго кабінета, падумаў ён. — Неяк усё гэта не ў час, ды і навошта гусакоў цвяліць?»

## 6

Тонкую пластыкавую тэчку з прапановамі па «Беламу легіёну» Малюта перадаў шэфу за два дні да гэтай няшчаснай прэс-канферэнцыі і з нецярпеннем чакаў ацэнкі сваёй працы. Ужо сотні разоў былі перабраныя ў галаве ўсе магчымыя слабыя месцы дакумента, абгрунтаваныя адказы на верагодныя заўвагі, і вось, седзячы на другім паверсе ведамаснай сталовай, куды доступ быў адчынены ўсім супрацоўнікам, Скураш у чарговы раз пракручваў самае слабое месца будучага праекта — аб-

грунтаванне законнасці з'яўлення самастойнай сілавой адзінкі, падпарадкаванага Радзе нацстабу.

— Малюта Максімавіч, вам можна скласці кампанію? — перапыніў яго пакуты знаёмы голас.

Падняўшы галаву, ён убачыў дзяжурнага дзядка-адстаўнічка з прыёмнай Сакратара.

— Вядома, Іван Данілавіч, прысаджвайцеся, калі ласка, — папераджальна адсоўваючы крэсла, усміхнуўся Малюта.

— Ну-с, я бачу, вы ўжо цалкам асвоіліся, — разгружаючы на стол свой паднос, добразычліва працягнуў ветэран. — Праўда, ужо выбачайце старому за цікаўнасць, а чаму вы абедаеце тут, у агульнай, так сказаць, зале? Здаецца, неяк не па чыну…

— Так, Іван Данілавіч, жыццё памянялася, дэмакратыя квітнее буйным цветам, вось і спрабую крочыць у нагу з часам. Дзень там абедаю, два — тут. І ў начальства на вачах, і для падначаленых даступней.

Канешне, калі ўжо быць да канца адкрытым, абедаць у гэты пчаліны вулей, двухпавярховы шкляны домік, які какетліва прыхінуўся да старажытнага сабора ў адным з завулкаў уладнага квартала, Малюта часткова прыходзіў з-за Інгі. Натуральна, толкам пагаварыць у батлейцы, якая жуе і звініць шклом ды металам, ніколі не атрымлівалася, але затое папрапальваць адзін аднаго поглядамі і дэманстратыўна паўздыхаць можна было колькі заўгодна, галоўнае — каб гэта асабліва не кідалася ў вочы староннім.

На жаль, яшчэ не напісаныя агульныя законы развіцця службовых раманаў, хоць і доўжацца яны тысячагоддзі, таму кожны з іх унікальны, як унікальны і самабытны ўсякі адпушчаны нам Богам дзень.

— А ведаеце, Малюта Максімавіч, вы мне адразу спадабаліся, і развагамі, і дзеяннямі, і стараннасцю да службы, а галоўнае, што мая ацэнка супала з меркаваннямі блізкіх мне па духу людзей.

— Цікава, — адклаўшы ўбок прыборы, насцярожыўся Малюта.

— Вы не хвалюйцеся, малады чалавек, ешце, ніякай небяспекі для вас нашыя меркаванні не ўяўляюць…

— Прабачце, а хто гэта «вы»?

— Ды ўжо, відаць, ніхто. Так, групка людзей у самым пачатку доўгай чаргі ў крэматорый. Старычччо, адным словам.

— Гэта вы — старычччо? Ды вы сотні маладых фору дасце. Я ж бачу, як вы працуеце. Будзь мая воля, палову свайго



ўпраўлення разагнаў бы і на месца лайдакоў ды гультаёў паставіў дзясятак такіх вось дзядкоў.

— Вядома, прыемна чуць, але ж гэта ненатуральна. Старыя ўсё роўна памруць, і на каго ўсё гэта застанецца? — Іван Данілавіч абвёў вакол лыжкай. — Што, яшчэ раз усё па ветры пусціць, або вы таксама вызнаеце веру ў добрага дзядзечку з Захаду, які прыйдзе і ўсё наладзіць?

— Ды не, наколькі я разумею, асобай радзіны ў нас там не водзіцца.

— І правільна разумееце, толькі паменш аб гэтым гаварыце. Дачаснікі паступова запаўняюць калідоры ўлады. Мы, як ніхто, гэта бачым. Цяпер што ні прызначэнне, дык нейкая лінялая асоба з сумнеўнай рэпутацыяй і са скручанай на Захад галавой. — Стары замоўк, адчувалася, што гэтая тэма даўно яго цісне.

— Іван Данілавіч, не засмучайцеся. Проста ўсё памянялася. Раней камуністы спрабавалі будаваць камунізм, а цяпер, напэўна, прыйшла пара даць магчымасць капіталістам паспрабаваць пабудаваць у нас капіталізм. Не можам жа мы працягваць жыць ні там ні сям.

— Ды хіба я супраць, няхай сабе будуюць, толькі спрадвечнае, мацярынскае, на чым дзяржава стаіць, хай не руйнуюць. У дзяржаўнасці палітыка — гэта мішура, так, зменная адзежка. Галоўнае — нацыянальна-гістарычная самабытнасць, аснова асноў дзяржаўнасці. Яна крывёй мільёнаў і тысячагоддзямі змацаваная, а дзе кроў і час зліваюцца разам, там утоеная найвялікшая таямніца, і не трэба спрабаваць яе разгадваць, а ўжо тым больш руйнаваць і прыстасоўваць пад сябе. Не атрымаецца.

«Вось гэта дзядок!» — уразіўся Малюта, а ўслых вымавіў:

— У нас з вамі нейкі надзіва філасофскі абед атрымоўваецца…

— Не трэба здзіўляцца, паверце мне, старому, калі ў найбліжэйшы час не адбудуцца змены, пліта падмурка можа раскалоцца па лініі Волгі, ужо вельмі цяжкі груз неразумення дзеянняў сталіцы назапашаны ў Азіяцка-Сібірскай частцы. А гэта можа аказацца нашмат страшней за Другую сусветную вайну. Ну ды добра, давайце пакінем гэтыя вышэйшыя матэрыі, яны апетыту не дадаюць. Дарэчы, гэтая сталовая — самае бяспечнае для даверных гутарак месца на ўсёй Старой плошчы…

— А чаму так?

— Проста ўсім дзесьці пагаварыць трэба, таму яшчэ пры яе будаўніцтве было прынята рашэнне не абсталёўваць абедзенныя залы адпаведнымі прыборамі. Часова, вядома, могуць што-

небудзь пад стол падсунуць, а так няма. Увогуле, своеасаблівая нейтральная зона.

— Іван Данілавіч, давайце вернемся да пачатку гутаркі, хоць вашыя апошнія словы для мяне прагучалі як адкрыццё, і мы абавязкова як-небудзь працягнем гэтую тэму. Усё гэта ўжо даўно само сабою бармочацца ўсярэдзіне мяне, а вы якраз усё дакладна сфармулявалі. Бо і я да вас прасякнуўся адмысловай прыхільнасцю. Што хітраваць, мне патрэбен дасведчаны чалавек, які ведае ўсе закуткі і лабірынты Плошчы, а параіцца няма з кім. Для мяне ўсё неяк хутка адбылося. Бабах! — і ты ў новым, ды да таго ж пакуль зусім чужым для цябе свеце. Хоць, вядома, я не хлопчык і таксама ў сякія-такія гульні гуляць умею, але гэтага мала. Калі вы не палічыце за нахабства, я б хацеў зрэдку звяртацца да вас ці вашых сяброў за парадай…

— Злітуйцеся, пра што размова! Заўсёды будзем радыя. Давайце як-небудзь у суботу адвячоркам збяромся ў мяне на лецішчы. Гэта ў Жаўруках… Паначуем, — і, злавіўшы на твары Малюты лёгкі цень замяшання, стары чэкіст, адгадваючы яговыя думкі, дадаў: — А вы Інгачку таксама бярыце, яна добрая, чысцюткая дзяўчынка. Гутаркі ёй нашыя слухаць, вядома, ні да чаго, а вось старой маёй дапамагчы ды ваш выходны палепшыць — гэта ў самы раз. Ды і прыкрыццё для дурняў добрае.

На выхадзе са сталовай Скураша паклікаў памочнік, які дастаўся яму па спадчыне разам з кабінетам і трыма сакратаркамі.

— Малюта Максімавіч, вас тэрмінова шукае Сакратар Рады.

Кабінет Плаўскага быў абстаўлены па-вайсковаму строга. Вялікіх памераў працоўны стол, за якім з левага боку размяшчаўся пристаўны столік, абстаўлены размаітымі тэлефоннымі апаратамі. У правым куце — драўляная тумба з трохкаляровым дзяржаўным сцягам, перад якой амаль ва ўсю даўжыню кабінета цягнуўся стол нарадаў з шэрагамі звычайных крэслаў. Усю сцяну з гэтага боку займала шэрая запавеса, якая хавае за сабою вялікую карту Расіі з нанесенымі на яе дзяржаўнымі таямніцамі. Насупраць, ля вокнаў, стаяла чорная скураная канапа, тры такія ж фатэлі і нізенькі часопісны столік са шкляным вечкам. Абапал уваходных дзвярэй размяшчаліся кніжныя шафы.

— Доўга абедаеце, Малюта Максімавіч, — замест прывітання, працягваючы руку, вымавіў Іван Паўлавіч. — Прысаджвайцеся, — і ён кіўнуў на яшчэ адзін пристаўны столік, які мясціўся перад працоўным.



Скураш сеў, адсунуўшы масіўнае, абшытае зялёнай скурай крэсла.

— Што будзеце: гарбата, кофэ? А то ж кампот яўна не далі дапіць, — слова «кава» гучала ў генерала з відавочным паўднёвым вымаўленнем.

— Калі можна, гарбату.

— Зрабіце адну гарбату, а мне кофэ і якіх-небудзь печываў, — апусціўшыся ў сваё працоўнае крэсла, ён адключыў селектар і дастаў з карычневага партфеля знаёмую Скурашу тэчку. — Віншую, добрая праца, там ёсць некалькі заўваг і прапаноў па яе рэалізацыі, раю прыняць без абмеркаванняў. З наступнага тыдня варта пераходзіць да практычных дзеянняў. Нядрэнна, вельмі нядрэнна, а галоўнае — месца для базы дакладна выбрана. Цікава, чым кіраваліся?

— Чытаў вашыя кнігі, ведаю біяграфію і трошкі геаграфію размяшчэння воінскіх часцей.

— Добра. Забірайце і… глядзіце мне, — Плаўскі перасцерагальна пагразіў указальным пальцам. — Гэта першая падстава, — заўважыўшы, што Малюта збіраецца ўставаць, дадаў генерал, — другая, вы, здаецца, былі на прэс-канферэнцыі. Ну і якія вашы ўражанні?

— Іван Паўлавіч, не крыўдуйце, але я скажу праўду.

Плаўскі ўпіўся ў суразмоўцу сваімі пранізліва-бясколернымі вачыма, зрэнкі павузіліся, і Скурашу здалося, што яму ў самае нутро пракраліся два гнуткія сталёвыя зонды і бесцырымонна разглядваюць яго вывараt.

— Гаварыце.

— Мне падаецца, што пра здароўе прэзідэнта вы сказалі дарэмна. Ужо вельмі да гэтай тэмы за зуб'ямі раўніва ставяцца.

— Ды вы што ўсе сёння, змовіліся? Перастрахоўшчыкі няшчасныя! — Плаўскі нахмурыўся і прыпаліў новую цыгарэту ад старой. — Чатыры з лішнім тыдні кормяць народ байкамі аб незвычайна цвёрдым поціску рукі Прэзідэнта, круцяць хронікі гадавой даўнасці. І вы мне гаворыце — дарма сказаў? А ці маю я права маўчаць аб гэтым? Гэта што, дзед маржовы хварэе? Не, Малюта Максімавіч, гэта першая асоба дзяржавы, гарант Канстытуцыі з перапою і ператамлення дуба збіраецца даць! А вы мне ўсё прапаноўваеце маўчаць у анучку! Так мы чорт ведае да чаго дамаўчымся! Вунь ужо ўсе «круцёлкі» паабрывалі. — Ён з раздражненнем зняў трубку масіўнага белага апарата з кнопкавым наборам. — Плаўскі ля тэлефона!

Паслухаўшы суразмоўцу хвілін пяць, ён, нахмурыўшы па-сталінску злёгку рабы твар, працадзіў:

— Добра, — і павесіў трубку. — Усе дасталі, і дочкі, і жонкі, і халуі, і халуі халуёў, а галоўнае, зазначце, ва ўсіх «крамлёўка-круцёлка». Вось развялі гадзюшнік…

— Тым і небяспечная гэтая сітуацыя. Вядома, па вялікім рахунку, у вашай заяве няма нічога страшнага, наадварот, вы вызваляеце прэзідэнта, гаворачы пра ягоную хваробу. Ці мала што можа адбыцца, а так — хворы, атачэнне дрэннае, не дагледзела. Але, Іван Паўлавіч, яго плюсы, а вашыя мінусы, як мне падаецца, якраз і хаваюцца ў гэтым самым асяроддзі. Хто яны і як дзейнічаюць, пакуль не ведаю, але не выключаю, што ў найбліжэйшы час дасведчаныя людзі дапамогуць мне разабрацца.

— Добра, праехалі. Разбірайцеся. Толькі народ наш — не быдла, яго бясконца дурыць немагчыма. — І без усякага пераходу, паднімаючыся, рэзка пляснуў па краі стала. — Сёння ўначы ляцім на Каўказ. Усе інструкцыі ў Яўлампава.

Інструкцыі ў намесніка Сакратара Пятра Харлампіевіча Яўлампава былі кароткімі, і аддаў ён іх Скурашу прама ў прыёмнай Плаўскага.

— Усім збор у палове чацвёртай тут, — ён тыцнуў рукой у падлогу, — а да гэтага — па сваіх планах.

Малюта крыху раней змыўся дахаты ў надзеі хоць трошкі паспаць. Аб падобных камандзіроўках ён ніколі жонку не папярэджваў. Камандзіроўка і камандзіроўка, нічога асаблівага. Праўда, потым, як правіла, калі ўсё раскрывалася, слёзы ліліся ракой, папрокі сыпаліся градам, маленькія кулачкі бездапаможна мясілі ягоную спіну, але хвілін праз дваццаць у кватэры аднаўлялася перамір'е. Бо няма на свеце сямейнага агменя, ля якога б заўсёды панаваў мір.

Паспаць, аднак, не атрымалася. Новаму жыхару іх невялікай утульнай кватэркі ў адным з дамоў даваеннай пабудовы ў раёне Старога Арбата парэзалі вушы, і ён, матляючы галавой, натыкаючыся на мэблю, глядзеў на ўсіх умольна неўразумелым поглядам сваіх чыстых і ўжо безнаркозных вачэй. Жыхара звалі Гусля, і ён, паводле радаводу, з'яўляўся пародзістым шчанюком рызеншнаўцара мужчынскага полу. Адным словам, хлопчыкам, як ласкава гавораць сабакары.

Убачыўшы Скураша, Гуслярык з радасным брэхам кінуўся да любімага татачкі. Павязка спаўзла, з яшчэ не зацягнутых ранаў ва ўсе бакі паляцелі буйныя кроплі крыві. Узрадаваны гучнымі



крыкамі Кацярыны і Малюты, шчанюк радасна круціў галавой і самазабыўна віляў азадкам са смешным абцінкам хваста. Сцены пярэдняга пакоя, люстэрка, вопратка, рукі і твары старэйшых Скурашоў запырскаліся крывёй. Увесь вечар пайшоў на ўборку і перавязванні.

Роўна ў тры начы Малюта быў у сваім кабінеце.

Наогул, трэба адзначыць, на новую каманду, якая прыйшла на Старую плошчу разам з Плаўскім, «першабытнікі» глядзелі як на непаразуменне. Ім было няўцям: што робяць тут гэтыя людзі? Чаму прыходзяць да світання, а сыходзяць далёка за поўнач? За іхнімі спінамі часта чулася: ды часовыя, маўляў, яны, такія ў нас доўга не затрымліваюцца. І паўгода не пройдзе, як загрымяць разам са сваім выскачкам-шэфам.

Ахова і служба бяспекі таксама напачатку тузаліся, прасочваючы ў начных зборышчах крамолу, будзіла высокае начальства, а яно з перапуду ляцела дакладваць на саноўныя падмаскоўныя лецішчы.

Вось і сёння ветлівы заспаны прапаршчык доўга разглядваў службовае пасведчанне Малюты, потым кудысьці патэлефанаваў і толькі пасля гэтага, папрасіўшы прабачэння, адкрыў вароты, прапускаючы машыну.

«Так, не надта тут давяраюць нашаму шэфу, і з кожным днём гэты давер, падаецца, «узрастае»».

Узяўшы сякія-такія паперы, пераклаўшы найболей важнае са скрыняў стала ў сейф, у тры дваццаць ён спусціўся ў прыёмную.

Народу было няшмат. Падпарадкоўваючыся законам раніцы, усе гаварылі напаўголасу. Дакладна ў прызначаны час на парозе з'явіўся Яўлампаў і, дэманстратыўна зірнуўшы на гадзіннік, капіруючы шэфа, вымавіў:

— Спадары, спускаемся ўніз, садзімся ў аўтобус, тых, хто спозніцца, не чакаем. Брахманінаў, дзе прэса?

— Будзе ў аэрапорце.

Усе не спяшаючыся зрушыліся да ліфтаў.

— Малюта Максімавіч, — ужо ў спіну паклікаў дзяжурны ў гэты дзень у прыёмнай адстаўнік, — можна вас на хвіліначку?

— Так, Прохар Астапавіч.

Напарнік Івана Данілавіча мала чым ад яго адрозніваўся, хіба што быў мітуслівым ды ростам ніжэй.

— Ведаеце, калі я прыходзіў дадому з начной працы, мне жонка заўсёды мыла акуляры, — шматзначна ўсміхаючыся,

вымавіў ён і працягнуў стус газет. — Вось вам на дарогу, каб не сумна было ў самалёце.

— Дзякуй, — нічога не зразумеўшы пра акуляры, Скураш узяў газеты і паспяшаўся за астатнімі.

Загадкавыя словы пра жонку і акуляры праяснелі ў асветленым туалеце аэрапорта. Выціраючы рукі, Малюта ўбачыў на дужках і ў кутках шкельцаў ледзь прыкметныя бурыя плямкі застылай сабачай крыві. Прыкры халадок прабег паміж лапаткамі. «Неслабая ў дзядка была начная праца. А з выгляду божы дзьмухавец, мухі не пакрыўдзіць…»

Маторы гулі роўна. Амаль пусты самалёт, увабраўшы ў сябе жменьку напаўсонных людзей, пратыкаючы разрэджаную прастору, ляцеў насустрач невядомасці.

## 7

Восень на Каўказе сёлета выдалася, як на ліха, дажджлівая. Навакольныя палі і гаі пад шэрым нізкім небам падаваліся вылінялымі, начыста пазбаўленымі яркіх кастрычніцкіх плям, а занавешаны каламутнай кісеяй дажджу гарызонт пачынаўся адразу за дарожным кюветам. Калі ж дождж не ішоў, дык у паветры нерухома трымалася нейкая водная завісь. Вопратка ад яе ў лічаныя хвіліны станавілася вільготнай, а металічныя часткі тэхнікі і зброі пакрываліся дробнай, праціўнай выпарынай.

Самалёт, да ўсеагульнага здзіўлення, прызямліўся ў аэрапорце Махачкалы. Сустракалі высокага госця без прынятых тут урачыстасцяў, усяго некалькі чалавек на чале з кіраўніком рэспублікі.

— Гэта звычайны азнаямляльны візіт, так што прашу вас — без усякай помпы і горскіх празмернасцяў. Для справы лепш, калі аб нашым прылёце будуць гаварыць як мага менш, — абдымаючыся з Магамедавым, папрасіў Плаўскі.

Першая палова дня прайшла ў сустрэчах і нарадах. Становішча, мяркуючы па дакладах, у рэгіёне было напружаным. Прыдуманы кімсьці ў Маскве «каўказскі бліцкрыг» цалкам праваліўся. Слаба навучаныя, матэрыяльна не забяспечаныя, а галоўнае, маральна не гатовыя да партызанскай вайны войскі загразлі ў суседняй рэспубліцы і, уяўляючы адчайныя ўзоры гераічнасці, сіліліся зрабіць немагчымае: аднавіць канстытуцыйны лад. Аднак гэтага нельга было зрабіць па вызначэнню, таму што ніякай канстытуцыі, у агульнапрынятым сэнсе гэтага



слова, у Чачні ўжо даўно не існавала. А аднавіць тое, чаго няма, не можа ніводнае, нават наймацнейшае войска.

— Вы можаце выразна далажыць аб велічыні сапраўдных страт? — дапытваўся Плаўскі ў камандзіра групоўкі генерал-лейтэнанта Голубева.

— Іван Паўлавіч, гэта вельмі праблематычна, баявыя дзеянні ідуць больш як паўгода. Кіраўніцтва неаднаразова змянялася, як і ведамасная падпарадкаванасць…

— Генерал, я вас не разумею! Вы гэтае трызненне, прабачце за рэзкасць, можаце цывільным несці. Як гэта вы не ведаеце прамых страт? Дакладвайце, колькі забітых, колькі параненых, колькі без вестак зніклых? Ці за той нядоўгачасовы перыяд, калі я пакінуў родныя ўзброеныя сілы, змянілася гэтая сумная справаздачнасць?

— Нічога не змянілася, бардака дадалося. Вы ж мяне добра ведаеце, Іван Паўлавіч, віляць я не прывык і туфту Сакратару Рады нацыянальнай стабільнасці дакладваць не збіраюся. Няма такога ўліку па групоўцы ў цэлым, ёсць асобны па войску, асобны па ўнутраных войсках, асобны па МУС, асобны па ФСБ, ды і то, я мяркую, яны вельмі прыблізныя.

Невядома, чым бы скончыўся гэты даклад, калі б за спіной Плаўскага не з'явіўся начальнік ягонай аховы Аляксандр Сяргееў — здаравенны хлопец, які прайшоў усе найноўшыя войны і канфлікты і які насіў дзівакаватую мянушку «Санька Савецкі Саюз». Выслухаўшы інфармацыю, Плаўскі папрасіў прабачэння і выйшаў.

— Малюта Максімавіч, дабрыдзень. Палкоўнік Загорскі, прадстаўнік разведупраўлення войска. Можна вас на хвіліначку?

Скураш, паціснуўшы працягнутую руку, выйшаў з залы ўслед за афіцэрам.

— Мне вас «Санька Савецкі Саюз» паказаў, — як бы перапрошваючы, вымавіў палкоўнік. — Пятра Харлампіевіча нідзе няма, а справа не цярпіць адкладу. Нам толькі што паведамілі, што Сакратар сёння мае намер сустрэцца з мясцовымі, так сказаць, аўтарытэтамі, братамі Ізмаілавымі. Не наша, вядома, справа ацэньваць іх дзейнасць з прававога пункту погляду, але людзі яны з відавочна сумнеўнай рэпутацыяй. Можа, вы пагаворыце з ім на гэтую тэму, а то там машыны ўжо рыхтуюць, каб везці вас у Чачню. А куды насамрэч завязуць, гарантаваць ніхто не можа.

Малюта ліхаманкава думаў. Пачутае, на першы погляд, падавалася поўным абсурдам, але, ведаючы непрадказальнасць шэфа і прыроджаны авантурызм Яўлампава, які ў бытнасць

Плаўскага камандармам быў у яго начальнікам выведкі, можна было чакаць усяго, што заўгодна.

— Адкуль такія звесткі?

— Крыніца надзейная, але няма ўпэўненасці ў тым, што мы адзіныя валодаем гэтай інфармацыяй. Ужо не раз заўважалі, што звесткі, атрыманыя намі, практычна адначасова атрымліваў і супернік. Ніяк у толк не возьмем: ці то крыніца двоіць, ці то ў нас «пацук» завёўся. На ноч гледзячы ехаць па нашых дарогах, нават у суправаджэнні бранятэхнікі, я б не раіў, ды і патрэбы такой, наколькі я разумею, няма.

Адчувалася, што афіцэр гаворыць шчыра і па-сапраўднаму занепакоены. Азірнуўшыся назад, ён трохі панізіў голас і працягнуў:

— Для многіх, і не толькі ў войску, Плаўскі — гэта нейкая надзея на будучыню. Так што падобная легкадумнасць недапушчальная ўдвая. Спадзяюся, вы, як чалавек вайсковы, гэта разумееце?

— Шмат я чаго разумею, але прымаць рашэнні будзе Сакратар, а на нашую долю, як заўсёды, выпадзе ганаровы абавязак запусціць іх або ўжо, на худы канец, зрабіць так, каб ваўкі былі сытымі і авечкі цэлымі. Хадзем да Івана Паўлавіча, пакуль ён у залу не вярнуўся.

Плаўскі, адасобіўшыся ў суседнім кабінеце, размаўляў па мабільным тэлефоне. Сяргееў, паспеўшы пераапрануцца ў камуфляж, дэманстратыўна загарадзіўшы сабою дзверы, аб чымсьці шаптаўся са сваімі падначаленымі.

— Аляксандр Леанідавіч, прабач, што перарываю вашую гутарку, — сходу пачаў Скураш, — тэрмінова патрэбен «доступ да цела». Хоць, мяркуючы па тваёй баявой размалёўцы, ты павінен быць у курсе справы. Гэта праўда?

— Што?

— Не рабі разумны твар, ты ж афіцэр! Хто ўгаварыў шэфа ехаць з Ізмаілавымі?

— Малюта Максімавіч, вы б цішэй гаварылі, — аглядваючыся па баках, зашаптаў Аляксандр, — мне і так галаўнога болю хапае. Ніхто яго не ўгаворваў, ён сам мяне з Яўлампавым бітую гадзіну пераконваў, што гэта самы бяспечны шлях.

— Значыць, мы з вамі спазніліся. Крыўдна, — азірнуўшыся да выведніка, развёў рукамі Малюта, — шэф прыняў рашэнне, упэўніў найболей прасунутых адрэналіншчыкаў, і чорта з два іх цяпер атрымаецца вярнуць на шлях ісціны. Хоць паспрабаваць бы трэба. З кім у яго гутарка? Можа, нам зайсці?



— Я б не раіў. Масхадаў ужо трэці раз тэлефануе.

— Цікава, а яму што трэба?

Дзверы рэзка расхінуліся, Плаўскі раздражнёна саўгануў тэлефон у рукі ахоўніку і, змерыўшы падначаленых калючым поглядам, выціснуў з сябе разам з клубамі тытунёвага дыму:

— Каб праз сорак хвілін усе былі ў адзінай форме вопраткі, — і, спыняючы Малюту, які рушыў да яго, папераджальна падняўшы руку, гатовым зарыкаць голасам дадаў: — Ніякіх пярэчанняў і спрэчак. Выконвайце загад.

Нечакана выглянула сонца і прыдуркавата жмурылася ў нешырокіх вымоінах аблокаў. Асмялелае, ужо злёгку кранутае восеньскімі фарбамі лісце бессаромна стрэсвала з сябе халодныя кроплі прама на галовы бестурботных мінакоў, якія відавочна паспяшаліся пазбавіцца ад дакучлівых парасонаў і каптуроў. Прыморскі горад жыў сваім звычайным жыццём.

Калісьці даўно, у апошнія гады Гарбачова, Скураш часта прыязджаў сюды і нядрэнна ведаў мясцовыя традыцыі і норавы. Ужо тады за ўяўным спакоем і непахіснасцю традыцый усё выразней вымалёўвалася цень нацыянальнага адчужэння і рэлігійнай нецярпімасці. Паступова ў яшчэ існым Савецкім Саюзе звужаліся зоны рускага ўплыву. Малюта дагэтуль памятаў адну выпадкова падслуханую начную гутарку. Яго і размоўнікаў падзяляла густая, ломкая сцяна жывой загарадзі і непранікальная, глейкая імгла паўднёвай начы. Людзі ішлі па суседняй алеі і спыніліся прыпаліць. У цемры любы, нават самы маленькі агеньчык падаецца ледзь ці не асляпляльным выбліскам.

— Паслухай, Мамед, — паўшэптам, усхвалявана, як здалося Малюту, спрабаваў пярэчыць адзін з суразмоўцаў, мяркуючы па окальным вымаўленні, выхадзец з цэнтральных абласцей Расіі, — ты ж не ўмееш, а галоўнае, не ведаеш, як гэта рабіць…

— Вадзім Сяргеевіч, дарагі, я што, сам гэтага хачу, а? Ну, ты падумай, калі не я займу тваё дырэктарскае крэсла, яго ўсё роўна зоймуць нашыя, толькі вось хто гэта будзе, ні табе, ні мне не вядома. Дык на які чорт выпускаць такі шанец?

— Ды крыўдна ж! Я што, не родны ў гэтых мясцінах? Завод з нуля паднімаў…

— Ніхто ў цябе тваіх заслуг не адымае. Пашана і павага табе ад горцаў, а вось кіраваць ты далей не можаш. Усе кіраўнічыя месцы вырашана перадаць нацыянальным кадрам. Ды і Алах з ім, з гэтым дырэктарскім крэслам. Мы з табой ужо колькі часу

сябруем? Дзяцей пажанілі. Далей, я баюся, горай будзе, чуткі розныя ходзяць. Гавораць, што кватэры ў цэнтры Махачкалы трэба ў нянашых адабраць і перадаць сваім. Гавораць, ужо і спісы складаюць. Баюся, хутка наогул табе з сям'ёй з'ехаць давядзецца ад граху далей…

Задыміўшы цыгарэтамі, яны разышліся не развітваючыся.

«Што за трызненне, — падумаў Скураш. — Якія спісы, якія высяленні? Хто дазволіць?»

Прайшло ўсяго чатыры гады, і ў дзевяноста другім высялялі ўжо без усякіх спісаў. Проста стукалі ўначы ў дзверы і давалі гадзіну на зборы. Не з'едзеш — наракай на сябе, паплоцішся здароўем сваім і сям'і.

З таго лета Махачкала мала чым змянілася, хоць запусценне і абшарпанасць фасадаў дасягнулі той крытычнай рысы, якая не дае размыцца агульнапрынятым паняццям цывілізацыі. Затое сярод усеагульнага разарэння то там, то сям высіліся чырвонацэглавыя гмахі новых асабнякоў.

Пераапрануўшыся ў выведніка і ўзброіўшыся «сцечкіным», Малюта не спяшаючыся крочыў за праважатым да дома братоў Ізмаілавых. Гледзячы на размаляваныя фасады лапезных віл «новых дагестанцаў», ён спрабаваў разгадаць таямніцу чырвонай цэглы. Чаму пры наяўнасці сотні іншых, больш практычных і сучасных будаўнічых матэрыялаў у новых гаспадароў Расіі ў нязменнай пашане застаецца менавіта чырвоная цэгла? І раптам яго праясніла: «Ды яны ж пад Крэмль косяць! Хай нават неўсвядомлена, але ў большасці сваёй гэтае відавочнае перайманне знаку ўлады і ўсёдазволенасці, асветленага стагоддзямі. У іншых нават платы выкладзеныя з зубцамі…»

— Малюта Максімавіч, — паклікаў яго з прытармазіўшага «Лэнд-крузера» «Санька Савецкі Саюз», — садзіцеся, падвязу, а заадно сёе-тое абмяркуем.

Малюта з задавальненнем прамяняў паўпустую вуліцу з непрыязнымі поглядамі выпадковых мінакоў на камфортнае сядзенне ў аўтамабілі. Але пагаварыць не атрымалася, бо праваднік услед за Малютам таксама нырнуў у салон.

Даехалі хутка. Дом Ізмаілавых больш быў падобны на сярэднявечны замак у маўрытанскім стылі, чым на сціплае жыллё народнага выбранніка.

«І гэты чырвонацэглавы, — адзначыў пра сябе Скураш. — Божа, да чаго ж ім усім хочацца ў небажыхары! — але тут жа сам сябе асадзіў: — А табе хіба не хочацца? Маўчаў бы ўжо лепш».



Да дому пад'язджалі і пад'язджалі машыны, падыходзілі людзі, некаторыя не ўтойваючыся неслі ў руках аўтаматы або сяк-так прыкрытыя рыззём кулямёты. Пісталеты, наколькі паспеў заўважыць Малюта, былі амаль ва ўсіх.

— Зброі тут што бруду, — нібы адгадваючы ягоныя думкі, напаўголасу вымавіў прэс-сакратар Плаўскага. — Наогул, мне падаецца, зброя і яе бескантрольнае абарачэнне — адна з самых вялікіх нашых бед у будучыні. Калі б забугорныя абаронцы дэмакратыі пазналі сапраўдны стан спраў па безгаспадарнай зброі, я ўяўляю, які б крык падняўся!

— Кіньце, Аляксандр, усё яны выдатна ведаюць. Але веданне пытання і яго палітычнае рашэнне — дзве часам абсалютна процілеглыя рэчы. Я іншы раз гляджу на нашую рэчаіснасць — і, паверце, збянтэжанасць бярэ. Мы ж са сваёй нацыянальнай выключнасцю ўжо на працягу амаль двух стагоддзяў уяўляем самую рэальную пагрозу існаванню ўсяго чалавецтва. Можа, гучыць не зусім патрыятычна, але гэта так. Я б наогул паслаў бы на хрэн усю гэтую любоў да бацькоўскіх трун і дыму роднага папялішча і кінуўся ў абдымкі русаборцаў, калі б убачыў у іхніх вачах хоць бы іскрынку спагады і шчырасці. Але, на жаль, пустыя і абыякавыя іх вочы, так што, баюся, хутка ў нас, акрамя гэтых самых перманентных папялішчаў, больш нічога і не застанецца.

— Малюта Максімавіч, нешта вы не ў час задумалі гэтую тэму, а можа, наадварот, і ў самы раз. Бо ў нас ужо даўно павялося: як вайна на парозе, дык мы зараз жа пачынаем доўгае і, галоўна, як правіла, бясплоднае самакапанне: хто мы? што мы? як ратаваць свет? хто мае рацыю, хто вінаваты?..

— Увага! — заекатаў, пэўна, ад перапоўненага гонару і выскачыў на ганак абарыген. — Хто едзе на сакрэтны апірацый — застацца тут! — ён уладарна ткнуў перад сабою пальцам. — Асталный ідуць па дамах, калі нада — пазавут!

— Давайце-ка падыдзем бліжэй, Малюта Максімавіч, а то як бы ў «асталный» не дагадзіць.

З горада выбіраліся павольна. На Каўказе, як і ў вёсцы, захаваць у таямніцы свае задумы так жа цяжка, як і нанасіць дзіравым вядром вады. Караван з пятнаццаці джыпаў са шчаціннем-зброяй ледзь прасоўваўся па загачаных машынамі і народам вуліцах. Уся гэтая навала людзей і тэхнікі гула, гартанна гарлапаніла, мудрагеліста жэстыкулявала, махала хусткамі, жадала ўдалай паездкі, а ў астатнім — проста ўзіралася. І гэтыя шматлюдныя праводзіны нічога добрага не прадвяшчалі.

8

Сцямнела па-восеньску хутка. Машыны, захлёбваючыся святлом уласных фар, свідравалі шчыльную, як намоклую чорную вату, цямрэчу бязмесячнай начы.

Малюта паспрабаваў уявіць сабе збоку калону, атрымлівалася доўгая, святлявая паласа з размытымі цёмнымі плямамі машын. Нічога ваяўнічага, пагрозлівага ні ў гэтай пульсавалай бледнай стужцы, ні ў цемры, якая спрабуе яе паглынуць, не было. Роўна гуў матор, мірна ліў сваё зеленкаватае святло шчыток прыбораў, у салоне маўчалі і палілі.

У іхнім джыпе, які ішоў трэцім за машынай шэфа, акрамя Малюты, ехалі Брахманінаў, Загорскі, тэлевізійнік Міша Марганаў і два нелюдзімыя маладыя дагестанцы з кулямётамі, якія былі размешчаныя на адкідных сядзеннях у запавешаным бронекамізэлькамі багажніку. Такія ж «бронікі» былі прыладжаны да задніх бакавых вокнаў, а з ніжняй часткі дзвярэй была знятая абіўка і прымацаваныя сталёвыя, у палец таўшчынёй, лісты. Мясцовыя звалі такія машыны «ўцепленымі».

Скурашу ўспомнілася армяна-азербайджанская вайна ў Карабаху і самаробныя танкі. Адзін такі цуд бранятэхнікі яму паказалі па дарозе ў Горыс.

— Тут недалёка Нахічаванскі фронт праходзіў, — распавядаў Авеціс, — «азікі» ўзброеныя былі класна. Стары Аліеў тады яшчэ ў Нахічавані ў выгнанні жыў, так што бабак на зброю хапала. А ў нас «калашы» ды паляўнічыя стрэльбы спачатку былі, словам, апалчэнцы. Дык вось мясцовыя ўмельцы і збудавалі гэтага монстра.

Сапраўды, больш дакладнага азначэння, чым монстр, для гэтага плямістага гмаху нельга было і прыдумаць. На вялізны японскі бульдозер быў апрануты звараны з металічных лістоў палукашак з прарэзамі амбразур, невялікай вежай для буйнакалібернага кулямёта і нават «буржуйкай» для апалу. Здалёку гэтая будыніна нагадвала танк часоў Першай сусветнай вайны, а вялізны, клінаваты рабочы нож надаваў тэхніцы нейкі асабліва пагрозлівы выгляд і злавесна бліскаў на сонцы, нібы адпаліраваная працай сякера мясніка.

Вось і гэтыя, знявечаныя з пункту погляду эстэтыкі і аўтамабільнага дызайну «таёты» знутры больш былі падобнымі на жыллё першабытнага чалавека, дзе ўсё было падвязана, прыкручана, боўталася і звісала, затое з ваеннага пункту погляду служыла дадатковай абаронай.



Злёгку размытая святлом і падрапаная хуткасцю цемра ляцела ўзбоч. Ніякай вайны, толькі нясуцца ў ноч людзі, загнаныя чужой воляй у дарагія, зіхоткія бляшанкі.

Амаль ва ўсіх паселішчах высокі картэж сустракалі радасна, махалі рукамі. Нягледзячы на ноч і страх, які жыў усярэдзіне кожнага, у натоўпе было шмат жанчын і дзяцей. Каўказ стаміўся ад неабвешчанай вайны, ад беззаконняў чачэнцаў і «федэралаў», ад ілжывасці прэсы і каматознай пасіўнасці ўладаў. Усім хацелася міру, і свае надзеі яны ўскладалі на гэтыя машыны, якія немаведама куды спяшаюцца, і першым чынам на чалавека, што сядзіць у адной з іх.

— Пацешная справа выходзіць, — звяртаючыся да Брахманінава, парушыў маўчанне Скураш, — здавалася б, што такое ўлада? Абстракцыя, віртуальнасць: ні ўзважыць, ні пакратаць, — а што з людзьмі робіць? Глядзіце, колькі на іхніх тварах шчырай радасці і надзеі. Няўжо такое да самага Грознага будзе?

— Нэ будэт, — папярхнуўшыся тытунёвым дымам, адказаў кіроўца. — Чэрэз пяць кіломэтров граніца будэт. Блок-пасты «федэралаў» пайдут, аны радавацца нэ будут. Ім усё пофыгу, — і даверна панізіўшы голас, спытаў: — Праўду Сэкрэтар мір прыэхал з Масхадавым сдэлат? Эх, нада эта, очэн нада!

— І нам хацелася б таго ж, — далучыўся да гутаркі прэс-сакратар, — толькі ж чачэнцы ўсё роўна не супакояцца, перакруцяць гэты мір сабе на карысць, пераўзброяцца, а нас абвінавацяць у баязлівасці. Я што, не праўду кажу?

— Можэт, і праўду, а як тады узнаэш, будут аны жыт мірна, эслі ім мір нэ дават?

— Таксама логіка, — пагадзіўся Аляксандр. — А што датычыцца ўлады, Малюта Максімавіч, і яе абстрактнасці, дык, на мой погляд, нематэрыяльнае якраз трывалейшае і даўгавечнейшае за існае…

— З гэтым ніхто і не спрачаецца. Я не аб даўгавечнасці гавару, а аб сутнасці ўлады, яе існасці. Наогул, што гэта такое — улада? Бо, па сутнасці, яе рэчыўна няма, ёсць толькі атрыбуты і прыкметы, а свет, колькі сябе памятае, усё скача вакол гэтай фіговіны. Аслан, вы што думаеце пра гэта?

— Я чэловэк малэнкі, — відавочна ўсцешаны ўвагай, сур’ёзна пачаў кіроўца, — але хутка вы увідытэ эту владу. У нас аўтамат, вот што влада! Ест аўтамат, ест влада! Хутка пост, там нэ пытают, там стрэляют. Я так понэмаю, влада нужэн, бэз её совсэм бардак, толька дурак нэлзя влада дават. Зачэм Элцын Дудаэву владу давал?

Але дагаварыць не давялося. Машыны пачалі прытарможваць і неўзабаве спыніліся. Справа ад дарогі ў блядым трывожным святле фараў крыўляліся мудрагелістымі заломамі ценяў бетонныя будынкі. Усе павыскоквалі на асфальт. Зацеклыя ногі з палёгкай затупацелі па цвёрдай зямлі. Марганаў пабег шукаць свайго аператара, кудысьці ў цемрадзь нырнуў выведнік, Скураш з Брахманавым не спяшаючыся пайшлі да камандзірскай машыны.

Плаўскі паліў і аб чымсьці нягучна размаўляў з братамі Ізмаілавымі. Заўважыўшы падначаленых, ён з яхіднасцю пратрубіў скрозь клубы дыму:

— Ну што, Тамашы малаверныя, яшчэ гадзіны паўтары — і мы будзем у Гудэрмесе, да раніцы туды і Масхадаў са сваім штабам падцягнецца, думаю, нашая прысутнасць у горадзе будзе для яго прыемнай нечаканасцю.

Скураш прамаўчаў. Ягоную ўвагу прыцягнулі гучныя крыкі каля бетонных блокаў, якія перагарадзілі дарогу. Разабраць штосьці праз вуркатанне рухавікоў было складана. Ён напружыў слых. Метрах у дваццаці хтосьці адчайна мацюкаўся, не жадаючы саступаць довадам Пятра Харлампіевіча. З цемры вынырнуў абчэплены зброяй чалавек і аб чымсьці даклаў старэйшаму з братоў.

— У чым справа, Ваха? — пацікавіўся Плаўскі, паварочваючыся ўбок блок-паста здаровым вухам, правае пасля кантузіі ў Баку чацвёрты год нічога не чула.

— Ды нічога асаблівага, маленькія непаразуменні…

— Мы іх зараз уладзім, — прабасіў Сакратар і, не вымаючы з рота цыгарэты, закрочыў наперад.

— Іван Паўлавіч, — абганяючы і засланяючы сабою, паспрабаваў спыніць яго Ваха, — давайце мы самі ўсё ўладзім. Там, — ён махнуў у цемру, — людзі напалоханыя, часовыя, а таму непрадказальныя. Дазвольце, мы самі…

Следам за Сакратаром пацягнуліся і астатнія.

Ля самаробнага шлагбаўма стаяла невялікая група людзей і спрачалася. З аднаго боку — Яўлампаў, генерал Хаўстоў, намеснік камандзіра ўнутранымі войскамі і ўсюдыісны палкоўнік Загорскі, з іншага — чатыры несамавітыя фігуры, знявечаныя каскамі і цяжкімі бронекамізэлькамі.

Іван Паўлавіч уклініўся ў гэтую групу, як таран.

— Я — генерал-палкоўнік Плаўскі, Сакратар Рады нацыянальнай стабільнасці.

— А я — Папа Рымскі! Зусім ачмурэлі, зараз, стане табе Плаўскі на бандыцкіх машынах начамі раз'язджаць! Вы, мужыкі, вось што, асабліва не бузіце. Таксу за праезд ведаеце. А не то абкураныя кантрактнікі выпаўзуць, граху не абярэшся…



— Вашае званне, — ледзяным шэптам выдыхнуў Плаўскі, — пасада і нумар часткі?

— А што я? Я — малодшы сяржант Сменкін, — залепятаў прывыклы да крыку і відавочна збянтэжаны сакратарскім шыпеннем баец і на ўсялякі выпадак узяўся за аўтамат.

— Ты са зброяй паасцярожней, — спрабуючы адціснуць Плаўскага, выступіў наперад Яўлампаў. — Хто тут у вас камандзір?

— Я — камандзір. Старшы лейтэнант Варабейчык, — глухім ватным голасам вымавіў адзін з чатырох.

— А якога хрэна ты дагэтуль маўчыш і гэтага далбастопа наперад выставіў? Што за ерунда ў вас тут творыцца? Ты паглядзі, у што яны апранутыя? — Плаўскі пачынаў распальвацца. — Генерал, гэта вашы? — звярнуўся ён да Хаўстава.

— Так, таварыш Сакратар. Старшы лейтэнант, неадкладна прапускайце машыны і заўтра ў штаб.

— Не, мы цяпер тут усё пагледзім. Святло ў вас тут ёсць?

— Дзён пяць як дызель паляцеў, — грэбуючы субардынацыяй, даклаў Сменкін, — з газай жывём і свечкамі.

— Таварыш генерал-палкоўнік, я вас вельмі прашу, не трэба бударажыць асабісты састаў! — праціснуўся наперад старшы лейтэнант. — Мне, вядома, сорамна, але за наступствы я не адказваю. Кантрактнікам дробязь выплацілі, дык яны амаль трое сутак п'янствавалі, а сёння ўвечары абкурыліся і наогул ніякія. А тое, што ён так апрануты, — камандзір згроб і запіхнуў назад у цемру нізкарослага салдаціка з прыдуркаватым тварам, апранутага ў нейкую неймаверную жаночую вязаную кофту, — забеспячэнцы нашыя вінаваты. Хутка зіма, а цёплага абмундзіравання ўсё няма, а яшчэ і патронаў бракуе, іх наогул за свой кошт даводзіцца купляць.

Яўлампаў нешта паспешліва шаптаў у здаровае вуха Сакратара.

— Добра, — па ўсёй бачнасці, пагадзіўшыся з довадамі свайго намесніка, прабасіў Плаўскі, — што на ноч гледзячы, ды яшчэ на баявым пасту, натацыі чытаць. Заўтра разбяромся, — ён развярнуўся і, чартыхаючыся, пайшоў да машыны.

Сапраўды, праз дзве гадзіны машыны, шчасліва мінуўшы яшчэ некалькі блок-пастоў, дзе іх сустракалі з падкрэсленай ветласцю, дабраліся да другога па значнасці горада Чачні.

На начлег размясціліся хутка. Плаўскі яшчэ застаўся гуляць у нарды з мясцовымі барадачамі, а ўсе, за выключэннем аховы

і Аляксандра Брахманінава, разбрыліся па адведзеных для іх пакоях. Недарэчны будынак, дзе маскоўскія госці здабылі начлег, таксама быў выкладзены з чырвонай імпартнай цэглы.

Ноч, распластаўшыся на нізкіх аблоках, бессаромна зазірала ў цёмныя вокны змучаных вайной і горам дамоў. Ёй было ўсё роўна, на што глядзець.

Скураш доўга не мог заснуць. Пастаяннае адчуванне блізкай небяспекі напружвала нервы, і нават гэтая безаблічная начная цішыня каменданцкай гадзіны не магла іх супакоіць і паслабіць сціснутыя ўсярэдзіне спружыны.

«Як тут нашым, — думаў ён, круцячыся ў незнаёмай пасцелі, — з мірнага жыцця, ад дзяцей, ад жонкі і раптам — у нязвыклым становішчы, напоўненым чаканнем бяды і смерці?»

Яму стала шкада таго старшага лейтэнанта. Што заўтра з ім зробяць? Пэўна, будуць раўці і палохаць усякімі вайсковымі пошасцямі, навесяць вымоў і адправяць назад, да абкураных падначаленых. І нічога, па сутнасці, у ягоным жыцці не зменіцца. Калі пашанцуе, вернецца дадому жывым і стане па п'янцы распавядаць, як затрымаў саноўных масквічоў, і з кожным разам гэтая байка пачне абрастаць усё новымі падрабязнасцямі і дробязямі, пакуль канчаткова не ператворыцца ў п'яную небыліцу.

Думку аб лёсе старлея змянілі вёрткія думкі аб сэнсе цяперашняй паездкі.

«Якога чорта трэба было сюды перціся? Ды яшчэ звязвацца з бандытамі. Вось не працуй бесперабойна бяздротавы народны тэлеграф ды не кіпі ўсё вакол жаданнем скарэйшага міру, яшчэ невядома, чым бы ўся гэтая авантура скончылася. Хоць, напэўна, у гэтым і ёсць асаблівасць, якая адрознівае Плаўскага ад іншых. Бо ён усё разлічыў правільна і нават чутку, якая бегла наперадзе яго, аб міры і тую змусіў на сябе працаваць, ды і заўтрашні дзень выразна вылічыў: хто сустракае, той і гаспадар. А сустракаць Масхадава будзе ён. Малайчына! Іншая рэч — ці рашыцца ён на заключэнне міру, ды і ці надзелены такімі паўнамоцтвамі?» Наколькі Малюта ведаў, з прэзідэнтам шэф даўно ўжо не сустракаўся.

Дзесьці далёка адчайна забрахалі сабакі.

«Чалавек, ідучы ноччу, задумвае зло», — прагучала ўсярэдзіне Малюты сура Карана, і гэта была апошняя думка, якой завяршыўся той цяжкі дзень.

Сустрэча з самаабвешчаным прэзідэнтам самаабвешчанай рэспублікі прайшла ніяк, але асновы будучай мірнай дамовы,



дакладней, не дамовы, а дэкларацыі аб намерах спыніць ваенныя дзеянні, былі закладзеныя менавіта падчас гэтага перапоўненага анекдотамі застолля. Збоку магло падацца, што сустрэліся два старыя вайсковыя таварышы і ад душы гэтаму радыя.

Тады яшчэ ніхто не ведаў, якую ацэнку ўсё гэта атрымае літаральна праз некалькі тыдняў.

У Маскву вярнуліся праз Ханкалу, з моцным перагарам і добра памятымі тварамі.

## 9

Час ляціць значна хутчэй, чым рухаюцца секундныя стрэлкі. Здавалася б, толькі ўвайшоў у тыдзень — і вось, ужо субота, толькі што было першае, і на табе — месяц прабег. Разам з няўмольным часам няўмольна цякло і чынавенскае жыццё.

Літаўрамі нацыянальнага героя і праклёнамі лютага ворага Расіі адгрымеў Хасаўюртаўскі мір, пачалося фатальнае сяброўства з былым прэзідэнцкім ахоўнікам, прамільгнула некалькі афіцыйных візітаў у блізкае і далёкае замежжа, словам, усё цякло сваёй чаргой.

Скураш, адгаварыўшыся дома і прыхапіўшы для канспірацыі Інгу, каціў па шашы ў Жаўрукі, на лецішча да Івана Данілавіча.

Мрозь была незвычайна сур'ёзная і напружаная, гэта быў іх першы сумесны выезд у людзі. Скураш заўважыў гэта і, спісаўшы спачатку на няважны настрой і агіднае надвор'е, спрабаваў раскатурхаць спадарожніцу. Поспеху ён не дамогся і ўрэшце здзіўлена падумаў: «Што гэта яна так тузаецца?»

Нарэшце, безуважліва ўсміхнуўшыся чарговаму анекдоту, Інга нечакана халодна спытала:

— А ты ведаеш, хто такі Іван Данілавіч?

— Дзед, — не паспеўшы перастроіцца на сур'ёзны лад, паспрабаваў аджартавацца Малюта.

— Калі прыедзем, будзь паасцярожней з гэтым дзедам. Ты хоць ведаеш, што ён у мінулым генерал НКУС і пры Берыі служыў афіцэрам па адмысловых даручэннях?

— Не, не ведаю, але здагадваўся, што не такія ўжо простыя дзядкі ў прыёмнай у Івана Паўлавіча сядзяць, — і ён распавёў ёй гісторыю пра акуляры.

— Бы-р-р, якая брыдота, — чмыхнула Мрозь,— адчуваю, пацешная будзе ў нас сёння вечарынка.

— Не спяшайся з высновамі, усё гэта было даўным-даўно, а цяпер яны — цалкам прыстойныя пенсіянеры з пераламаным

жыццём і цікавай біяграфіяй. Мне асабіста вельмі хочацца іх паслухаць, калі яшчэ такая магчымасць падвернецца? Дарэчы, ты толькі не крыўдуй, але менавіта Іван Данілавіч прапанаваў захапіць цябе з сабою…

Інга здрыганулася, потым з'едліва сказала:

— Пэўна, для канспірацыі? Вось вырадак стары, ён, хутчэй за ўсё, дагэтуль да сваёй жонкі ўначы па паролі прыходзіць. Ты ж, Малюта, не маленькі і выдатна ведаеш, што былых чэкістаў не бывае. Каб туды патрапіць, адмысловы Каінаў тэст прайсці трэба. Гэта як іголкавае вушка, толькі наадварот, справядлівы туды не пралезе, а вось нелюдзь праляціць са свістам.

— Ну і настрой у цябе, я і не падазраваў. Ты што, з сям'і рэпрэсаваных?

— Не, інакш мяне на Старую фігу б узялі працаваць. Але падставы іх недалюбліваць у мяне ёсць… Потым як-небудзь распавяду… Паварот не празявай, рамантык.

Над старым дачным пасёлкам вісеў адмысловы смог восеньскай суботы. Хтосьці паліў паспелую ўжо ўвабраць у сябе вільгаць лістоту, хтосьці грэў лазенку, хтосьці пёк шашлыкі. Гэтыя пахі перапляталіся, зліваліся разам і нараджалі настальгічную ідылію чагосьці даўняга, беззваротна згубленага, але да болю знаёмага і любаснага.

Брамка, якая схавалася ў глыбіні саду лецішча, была расчынена. Пакінуўшы машыну на невялікай пляцоўцы, дзе ўжо стаяла старэнькая «Волга» з ганарлівым аленем, госці пайшлі да хаты па засыпанай лісцем дарожцы.

— Ну і малайчыны, што выбраліся да старога, — нечакана аднекуль зверху пачуўся знаёмы голас.

Малюта з Інгай замерлі і, як стараннья школьнікі, амаль адначасова задралі галовы. На невялікім скрыўленым балконіку ў белым кухарскім фартуху стаяў Іван Данілавіч.

— Вы абыходзьце хату і адразу на веранду. Парадныя дзверы, — ён пастукаў нагой па насціле, ад чаго балконік захадзіў ходырам і ўніз пасыпалася пацяруха, — мы ўжо даўно не адчынялі. Хата старэе хутчэй за нас, ды яна і старэйшая. Праходзьце, — і стары схаваўся за белай цюлевай фіранкай.

На верандзе быў накрыты стол, апетытна сквірчэў і дыміўся мангал, са старажытнай чорнай талеркі рэпрадуктара ціха лілася прыемная музыка. Па гаспадарцы ўпраўляліся два сівыя старыя і сухая, з напышліва падабранымі вуснамі, пажылая жанчына.

Гасцей не прыкмячалі, і яны, самі па сабе, з цікаўнасцю знаёміліся з лецішчам.



На просценькім стале, пакрытым звычайнай, у сіне-чырвоную клетку цыратай, стаяў найтонкі парцалян, матава цямнела масіўнае, з высакароднай чэрню сталовае срэбра, вітыя гарлачы, крыштальная ваза на забаўнай залатой падстаўцы і яшчэ нейкія прыемныя сталовыя дробязі, якія радуюць вока.

— Ну і дзе ж нашая моладзь? — з'явіўся Іван Данілавіч з запацелым графінам у руках.

— Ды вунь яна, замерла, думаючы, што старыя яе па слепаце сваёй і не бачаць, — на здзіўленне прыемным грудным голасам адказала пажылая жанчына. — Назіраюць за намі замест таго, каб кінуцца дапамагаць. Глядзяць, як іншыя працуюць на іхнюю ж карысць.

— Ну, дапусцім, мы не проста сузіраем, мы любуемся гармоніяй восені ў яе прыродным і чалавечым увасабленні, — паднімаючыся па прыступках і галантна падтрымліваючы пад локаць Інгу, загаварыў Малюта. — А выдатнаму, згадзіцеся, заўсёды хочацца здзіўляцца, вучыцца…

— Глядзі ты, які гаварлівы, — прымірэнча вымавіла жанчына, працягваючы руку. — Антаніна Ціханаўна, тылавое падраздзяленне Данілыча.

— За якім я як за каменнай сцяной, — відавочна застаўшыся задаволеным рэплікай Малюты, заўсміхаўся Іван Данілавіч. — Сябры, гэта Малюта Максімавіч і Інга, прашу любіць і жалаваць, а гэта мае калегі, сябры і некалі ўсенародна вядомыя дэспаты.

— Карл Отавіч Калнынш, — адрэкамендаваўся высокі кашчавы стары, чымсьці падобны на Суслава.

— Навум Ісакавіч Фрумкін, не дэспат зусім, а просты, непрыкметны стары габрэй…

— У сціплым званні генерал-лейтэнанта МГБ-КДБ, — з'едліва сказала Антаніна Ціханаўна і, звяртаючыся да Інгі, дадала: — Вы, дзетачка, больш за ўсё на свеце бойцеся «простых і непрыметных». Каварныя людзі!.. Забірайце ў свайго знаёмца кошык з ежай ды хадзем-ка, галубка, у дом. З прадуктамі ўходзімся, вас уцеплім, а то наш падмаскоўны вецер ой як ахвочы пад спадніцы дзяўчынам лазіць.

Жанчыны, любасна ціўкаючы, зніклі ў хаце.

— Ну-с, старыя-разбойнікі і далучаны да іх Малюта-лютавіч, ці не час нам па маленькай, здаецца, усе ў зборы? — разліваючы па крыштальных кілішках змесціва заінелага графіна, вымавіў гаспадар лецішча.

Чокнуліся. Прыемны халадок прапоўз па страваводзе,ператвараючыся ў разбеглае па ўсім целе цяпло. Смачна захрумсталі салёненькія агурочкі.

— Гэй, паразіты, — пачуўся з дома прыглушаны голас гаспадыні, — вы не заманіцеся без нас за стол садзіцца…

— Тонька, ты не хвалюйся, мы стоячы, — са смехам адазваўся Карл Отавіч.

Застолле атрымалася цёплым. У меру выпілі, багата паелі. Жанчыны, падаецца, спадабаліся адна адной. Сабраўшы ў вялікія тазы брудны посуд, яны падаліся ў дом, пакінуўшы мужчынам іх вечныя сакрэты.

— Малюта Максімавіч, — нечакана перапыніўшы сытую цішыню, якая пагражала перайсці ў лёгкую дрымоту, звярнуўся да Скураша Навум Ісакавіч, — а як вы ставіцеся да містыкі?

— Не ведаю, хутчэй за ўсё, як да аб'ектыўнай рэальнасці. Мне падаецца, што ў апошні час ёю спрабуюць падмяніць духоўнасць і яшчэ не падужэлую рэлігійнасць. Хоць містыка нашмат складаней і заблытаней і таго, і іншага. А чаму вы мяне аб гэтым спыталі?

— Малюта Максімавіч, вы ўжо нам, старым, прабачце за залішнюю цікаўнасць, — адказаў замест таварыша Іван Данілавіч, — аднак мы хацелі б вам пазадаваць сякія-такія пытанні. Так што давайце дамовімся: мы пытаем, а вы адказваеце. Калі ж пытанні з'явяцца ў вас, то вы зможаце атрымаць на іх адказы пасля нашай гутаркі…

— Ды якой ужо гутаркі, хутчэй іспыту, — не стрымаўся Малюта. — Іван Данілавіч, выбачайце, што перабіваю, але вы хоць растлумачце, на што выпрабоўваеце.

— Як вы ацэньваеце працу Плаўскага? — праігнараваўшы ягоную рэпліку, спытаў Калнынш.

— Нармалёва ацэньваю. — Усярэдзіне ўсё імгненна напружылася, Малюта раптам зразумеў, што ўвязваецца ў нейкую сур'ёзную і, галоўнае, не сваю гульню. — Лічу яе перспектыўнай і, безумоўна, карыснай для будучыні краіны…

— На чым засноўваецца такая ўпэўненасць? — ужо з-за спіны прагучаў голас Фрумкіна.

Малюта інстынктыўна пачаў паварочвацца ў ягоны бок, але нешта яго спыніла. «Не, браткі дзядкі, допыт па сістэме «карусель» мне ўстроіць не атрымаецца», — падумаў ён і, гледзячы прама перад сабою, як мага спакайней вымавіў:

— Па-першае, аб'ектыўна ён — прэзідэнт краіны. Бо правядзі выбары па роўных для ўсіх правілах, у другі тур выйшлі б яны з Рэнегатавым, і я ўпэўнены: народ выбраў бы Плаўскага. Па-другое, пры ўсіх ягоных мінусах, ён — чалавек будучыні, і людзі гэта адчуваюць. Многія лічаць яго апошняй надзеяй…



— І вы падзяляеце іх меркаванне, — лісліва прабуркаваў Карл Отавіч.

— Збольшага. Я слаба разбіраюся ў механіцы, якая прыводзіць у рух вышэйшую ўладу, але калі кіраўнік дзяржавы не мае зносінаў з Сакратаром Рады нацыянальнай стабільнасці, гэта выклікае, па меншай меры, здзіўленне. Наогул, я паспеў заўважыць, дзяржаўная машына ў нас працуе неяк дзіўна, дакладней, дзіўна не працуе, знаходзячыся ў перманентным стане рэарганізацыі. Адгэтуль і маё меркаванне аб апошняй надзеі.

— Ці будуць эфектыўнымі дзеянні «Белага легіёна»? — раптам рэзка амаль над самым вухам прагучаў голас Івана Данілавіча.

— Паняцця не маю. А што гэта за легіён такі? — без усякага выразу ў голасе спытаў Малюта.

— Мы ж дамовіліся: пытанні ў канцы, — цвёрда сказаў Навум Ісакавіч, затым працягнуў: — Якія далейшыя дзеянні Плаўскага на Каўказе? Ці пойдзе ён на заключэнне паўнавартаснага міру?

— Будзь у яго паўнамоцтвы, ён бы заключыў яго ўжо ў гэтую паездку, не абмежаваўшыся Хасаўюртаўскай дэкларацыяй. Вы нават не ўяўляеце, як на Каўказе, ды і ва ўсёй Расіі чакаюць гэтага міру і навядзення парадку. Ад безуладдзя стаміліся ўсе.

— Што, па-вашаму, з'яўляецца асновай улады? — не адставаў Фрумкін.

— Не ведаю, напэўна, утрапёнасць чалавецтва і генетычная прадвызначанасць адным загадваць, а іншым — падпарадкоўвацца.

— Дык, калі вам верыць, выходзіць, няма ніякай дэмакратыі, роўнасці? — дакопваўся стары габрэй.

— Чалавецтва ўраўноўваюць усяго дзве падзеі: нараджэнне і смерць. У астатнім мы пагалоўна няроўныя і роўнымі ніколі не будзем, у натуральным, матэрыяльным разуменні гэтага слова. Нашая роўнасць заўсёды абстрактная. Нават роўнасць перад Богам — міф, таму што свае ўзаемаадносіны з Ім кожны з нас выбудоўвае па-свойму.

Спачатку Малюта з хлапчукоўскай рызыкай уключыўся ў прапанаваную гульню. Ішоў час, пытанні, здаралася, паўтараліся, даводзілася напружваць памяць, каб не зрабіць памылкі і паўтарыць мінулы адказ амаль даслоўна.

Сцямнела, пстрыкнуць выключальнікам ніхто не знайшоў часу. Скураш ужо добра стаміўся і пра сябе касцярыў на чым свет стаіць кудысьці зніклую Інгу.

«Хоць бы на хвілінку вызірнула і спыніла гэтую мудыстыку. Цікава, на які чорт ім усё гэта трэба? — Ні логікі, ні адмысловага сэнсу ў разрозненых пытаннях ён не ўлоўліваў, а пастаянная, нават нейкая дакучлівая цікавасць да містыкі, акультызму, рэлігіяў і зусім выклікала здзіўленне. — Навошта табе ўсё гэта? — і тут жа сабе пярэчыў: — Не, калі ўжо ўвязаўся — цярпі, паглядзіш, куды хіляць шаноўныя чэкісты».

Стаміліся і экзаменатары і раптам замоўклі. Цішыня атрымалася нейкай асабліва халоднай, нават жудаснаватай, як перад вынясеннем смяротнага прысуду.

— Мабыць, так, — парушыў ужо звонкую цішыню Навум Ісакавіч.

— Згодзен з табой, — з палягчэннем вымавіў Іван Данілавіч.

Павінен быў сказаць нешта і трэці, але ён маўчаў. У павіслую паўзу разам з прахалодным восеньскім ветрам уляцела і павісла халодная напружанасць.

— А давайце-ка мы запалім святло, запросім нашых чароўных жанчын і перад чайком прапусцім кілішачак-другі, — знарочыста весела не то праспяваў, не то прадэкламаваў Калнынш і ў канцы сур'ёзна дадаў: — Я, у прынцыпе, з вамі згодзен, хоць у мяне ёсць сякія-такія меркаванні…

— Карл Отавіч, наконт гарэлачкі — гэта выдатна, — запратэставаў Малюта, — а вось з жанчынамі, у сувязі з настойлівай просьбай экзаменуемага, прашу пачакаць, мне ж былі абяцаныя адказы на пытанні.

— Ну, мог бы пашкадаваць старых, і так заганяў, — разліваючы гарэлку, прабурчэў Іван Данілавіч, — давай, адыгрывайся, толькі не перахіляй…

— Куды ўжо тут перахіліш? Пытанняў усяго тры. Калі так доўга пыталі, значыць, я вам наштосьці патрэбен. Магу я даведацца, навошта?

— Ці бачыце, малады чалавек, — не спяшаючыся пачаў Навум Ісакавіч, адсёрбваючы маленькімі глыткамі халодную гарэлку, — у кожнай нават вельмі моцнай істоты або, лепш сказаць, супольнасці наступае такая пара, калі варта думаць аб будучыні, па-сапраўднаму думаць. Спадчыннікаў па крыві або закону тут не бывае, затое існуе стагоддзямі выверaная сістэма ідэнтыфікацыі падобных. Так што пытанні трох упаўнаважаных супольнасцю экспертаў у розных краінах і ў розныя стагоддзі гучаць, вядома ж, па-рознаму, аднак мэта знайсці падобнага сабе па духу дасягаецца менавіта так…



— Э, таварышы ўпаўнаважаныя, — залпам перакідаючы кілішак, закруціў галавой Малюта, — я ж вайсковы афіцэр. Вы ўжо мне прасцей, сродкамі барабаннага бою ўсё растлумачце. Якая супольнасць, што за сваяцтва душаў?

— Давайце, Малюта Максімавіч, адкінем убок жарты. Справа сапраўды вялікай дзяржаўнай важнасці…

— Данілыч, а можа, і зусім на сёння скончым гэты вечар пытанняў і адказаў? — умяшаўся Калнынш. — Галоўнае, сустрэча прайшла з карысцю, тое, што хацелі, мы ўразумелі. Можна і па дамах.

— Пэўна, ты, як заўсёды, маеш рацыю, Карл. Сапраўды вы едзьце, а мы з Малютам Максімавічам яшчэ пачаюем.

Старыя без лішніх слоў і кампліментаў, не заходзячы ў дом і не развітаўшыся з жанчынамі, хутка пакінулі веранду і раставалі ў цемры, шапочучы сухой лістотай. Гаспадар, прыхапіўшы графінчык і кілішкі, запрасіў госця ў пакоі.

У чужым жытле Малюта адчуў сябе яшчэ больш няўтульна, чым на верандзе. Іван Данілавіч, здаецца, гэта заўважыў і, жэстам папрасіўшы захоўваць цішыню, правёў яго ў невялікі пакой.

— Давайце яшчэ трошкі пасакрэтнічаем, пакуль нас жанчыны не хапіліся, — вымавіў ён прабачальным паўшэптам. — Мне б вельмі не хацелася адпускаць вас з роем здагадак і сумненняў…

— Іван Данілавіч, вы што — масоны? — апускаючыся ў прасторны скураны фатэль, ляснуў Малюта і тут жа спалохаўся свайго пытання.

— Эка мы вас, бацюхна, напалохалі, — заспакаяльна паляскаў яго па руцэ гаспадар. — Ну якія масоны? Хоць калі лічыць такімі ўсе складана структураваныя арганізацыі, дзеючыя адначасова публічна і ўтойліва, то нейкае падабенства з супольнасцю старажытных муляроў у нас ёсць. Але мы — не сусветная закуліса і не сусветнае зло. Мы сціплыя захавальнікі традыцый і вызначаных ведаў, — стары замоўк, як бы ўпершыню задумаўшыся над толькі што вымаўленымі словамі. — І, калі хочаце, ведаў, якія даюць магчымасць атрымоўваць і ўтрымліваць уладу.

Калісьці даўно Дасведчаныя прыглядаліся да нас і па толькі ім зразумелых прыкметах вызначалі, прыдатныя мы ў пераемнікі або не. Гутарка за гутаркай, крок за крокам нас вялі ад святла мітуслівай слепаты ў вечную цямрэчу прасвятлення. Пры святле бачаць толькі дурні, але палюбіць цямрэчу, якая палохае прафанаў, і здабыць новы ўнутраны зрок — доля нешматлікіх. Паверце, гэта складаная і цяжкая дарога, вы ж толькі ў перадпа-

чатку яе, зрабілі, можна сказаць, першыя паўкрока. Што будзе далей, ніхто не ведае…

— Нават вы?

— А што мы? Мы — толькі правадыры на пачатковым і сярэднім этапах. Яшчэ раз паўтару, многае, вельмі многае будзе залежаць ад вас і вашай веры ў свае сілы. Але гэта ўсё ў будучым…

Іван Данілавіч замоўк. Цішыня, як нечаканая таямніца, прыкра разанула па вушах і да гуду крыві ў скронях напружыла нервы. Думкі, нібы спалоханыя святлом прусакі, разбягаліся ў розныя бакі.

Малюта не мог дабіцца толку, як паставіцца да пачутага. Калі гэта правакацыя, то чыя і, галоўнае, якая яе мэта? Калі гэта вербаванне, то зноў-такі чыё? Ягоны роздум перапыніў спакойны старэчы голас.

— Перастаньце сябе мучыць, раздзірацца сумненнямі і здагадкамі. Калі ўсё будзе нармалёва, вы атрымаеце адказы на ўсе свае пытанні. Можаце нават да часу забыць сённяшні вечар, лічыць нашую гутарку дзівацтвамі выжылых з розуму старых, якія вырашылі ў апошнія свае гады жыцця стварыць у Крамлі падпольную групу па выратаванню Расіі. Сёння, Малюта Максімавіч, важней іншае. Плаўскага павінны ў найбліжэйшы час адхіліць ад усіх пасад, мы нават не выключаем, што яго могуць арыштаваць.

— Як арыштаваць? Ён жа — трэцяя асоба ў дзяржаве? — Малюта паспрабаваў падняцца з фатэля, гаспадар жэстам утрымаў яго на месцы.

— Давайце без залішніх эмоцый. Пытанне гэтае ўжо вырашана, на днях прэзідэнтам будзе падпісаны адпаведны ўказ.

— Але за што? Бо дзякуючы Плаўскаму цар застаўся на сваім троне, ды і сёння ён робіць, як мне падаецца, усё дзеля ўмацавання вертыкалі яго персанальнай улады…

— Наіўны вы чалавек. Улада не можа быць камусьці абавязанай, у адваротным выпадку яна перастае быць уладай і становіцца залежнай ад кагосьці прастытуткай. А ўжо калі гаворка заходзіць аб асабістай уладзе, справа, як правіла, крывёй пахне. У нашым выпадку, я думаю, абыдзецца вялікай шуміхай. Я мяркую, што прэзідэнт не ў стане зараз разумна ацэньваць свае дзеянні, ён вельмі слабы, хворы і цалкам залежыць ад блізкага круга, а Блізкія вырашылі, што Плаўскі ўяўляе для іх рэальную пагрозу. Вы такое прозвішча — Амроцкі — чулі? — і, не дачакаўшыся адказу Малюты, які са сваіх крыніц ведаў, што шэфа і ўсёмагутнага фаварыта Крамлёўскага двара злучае нейкая таямніца, стары працягнуў: — Дык вось, гэты спадар лічыць, што бескантрольнае ўзмацненне аўтарытэту Плаўскага стварае рэальную небяспеку для той групы людзей, якая сёння фактычна кіруе краінай.

— Іван Данілавіч, вы страшныя рэчы гаворыце! Калі гэта сапраўды так, неабходна тэрмінова паведаміць Сакратару, трэба нешта прадпрымаць! — Скураш усё ж ускочыў з фатэля і затупаў па пакоі.

— Позна спрабаваць штосьці змяніць. Плаўскі, у рэшце рэшт, сам шмат у чым вінаваты. Кідаўся з боку ў бок, сек з пляча, ва ўладу заехаў, як у чарговую выбарчую кампанію. Крэмль шуму не любіць, і, галоўнае, шэфа вашага аб гэтым папярэджвалі. Тут, наверсе, у адзіночку ваяваць нельга, а каб скалаціць сваю партыю, трэба час і досвед, веданне цвёрдых законаў падкавёрнай барацьбы. А ён: бах, трах! Прэс-канферэнцыі, візіты, безапеляцыйныя заявы… А дзяржава — гэта, ведаеце, не казарма…

— Пачакайце, Іван Данілавіч, прычым тут гэта ўсё? Казарма, дзяржава… Тады трэба ўмяшацца і паспрабаваць змяніць сітуацыю…

— Малады чалавек, перастаньце гарачыцца, дакументы ўжо падпісаныя, Блізкія чакаюць толькі спрыяльнага моманту, калі стан хворага злёгку палепшыцца і яго можна будзе паказаць тэлегледачам. Цяпер размова можа ісці толькі аб захаванні на сваіх месцах некалькіх чалавек, якія прыйшлі ў Савет разам з Плаўскім, у тым ліку і вас. Вядома, мы вас не нявolім. Можаце дакласці ўсё свайму кіраўніцтву, пры гэтым выконваючы вядомыя меры засцярогі, але пасля дакладу дыстанцыруйцеся ад Плаўскага і скараціце, наколькі гэта магчыма, асабістыя кантакты. Галоўнае ж — напішыце падрабязную дакладную аб сваёй працы па стварэнню «Белага легіёна», пакуль без указання, на чыё імя, і не падпісваючы дакумента. Адразу агаваруся, гэта не запрашэнне да здрады свайму начальніку, гэта, хутчэй, адзін з крокаў па ягонаму выратаванню. Вы мне верыце?

— Не ведаю, неабходны час, каб усё пераварыць. Выбачайце, ужо занадта шмат усяго сёння звалілася на маю галаву. Толькі пісаць рапарта я не буду, а пра «Белы легіён» упершыню ад вас сёння і пачуў. Наогул, што гэта за легіён такі, і з якога боку тут нашая Рада?

— Ну не ведаеце, і не трэба. Я спытаў, вы адказалі. Усякі адказ — гэта адказ, і высновы рабіць таму, хто задае пытанні.

— Калі вы не супраць, нам пара ехаць. Позна ўжо, і стаміўся я, як пасля добрай перадзелкі. Ноч самаедства мне забяспечаная.

— Ды Бог з вамі! Вядома ж, едзьце. Толькі, я вас вельмі прашу, не спяшайцеся рабіць дурасці і гуляць у геройства, думайце першым чынам аб сабе, — апошнія словы прагучалі выразна і абыякава, як голас дзяжурнай па станцыі, якая аб'яўляе аб адпраўленні цягніка. — І вось яшчэ што, Малюта Максімавіч, я вам вельмі ўдзячны за цёплае стаўленне да Інгачкі, у дзяўчынкі складаны лёс, але ў яе ёсць неблагія задаткі. Трымайцеся адно аднаго. — Падняўшыся, стары выйшаў з пакоя, уключыўшы святло і паклікаў сваім звычайным скрыпучым голасам: — Дзяўчаты! Што ж гэта вы кінулі нас, хоць бы чайком папесцілі!

«З чаго гэта, уласна, ён яе так апякуе? — прамільгнула ў галаве ў Малюты. — І тут нейкія турусы! Ці не занадта шмат загадак для аднаго вечара?»

За гарбатай гаварылі ні аб чым, старыя скардзіліся на балькі, Інга, адчуваючы напружанасць Скураша, лашчылася да яго як магла. Малюта са здзіўленнем адзначыў, што гэта яго раздражняе. Да чаго ж дзіўныя істоты жанчыны! Яны беспамылкова чуюць, што ў мужчыны з'явілася нейкая таямніца або, да прыкладу, завяліся прыстойныя грошы, і тут жа пускаюць у ход усе свае ўлоўкі, якія не паддаюцца логіцы, каб выцягнуць з яго і тое, і другое.

Дарогай гутарка не клеілася. Малюта, з цяжкасцю перамолваючы пачутае, моўчкі давёз сяброўку да пад'езда і, спехам развітаўшыся, паехаў дадому. Яму была неабходная звыклая абстаноўка, у якую можна было забрацца, як у стары замыты швэдар, адкінуць надакучлівыя ўмоўнасці. Толькі ў гэтай звонкай цішыні можна было раскласці ўсё па палічках, разабраць па складовых частках і паспрабаваць выказаць здагадку, у што ж усё гэта выльецца заўтра.

## 10

Дзве нездаволеныя адна адной чалавечыя істоты сядзелі, ахінуўшыся ў коўдры, на разадраным жаданнем ложку і маўчалі. Бутэлька віскі, шырокія кантаваныя шклянкі няўстойліва перакасабочыліся на зморшчынах змятай прасціны. Гаварыць не хацелася. Галава была забітая думкамі, і яны перашкаджалі засяродзіцца.

Малюта злаваў на сябе, замест трапяткой стомленасці, салодкага поту на разгарачанай скуры яго накрывалі хвалі раздражнёнасці, у роце плаваў гідкі алюмініевы прысмак.

Ён ненавідзеў гэты стан, падобны на фініш бессэнсоўнага курсанцкага кросу, калі ты прыбег першым, а вынік твой нікому не цікавы. Чаму было не паслухаць жонку і не займацца гэтым сёння? Не, падпарадкоўваючыся старажытнаму клічу галоднага дзікуна, настаяў на сваім, лічачы, што толькі блізкасць з жанчынай і са смерцю даюць магчымасць мужчыне здабыць унутраны спакой і прыняць правільнае рашэнне. Кацярына старанна енчыла, ён механічна рухаўся, спрабуючы прагнаць цяжкія думкі і праваліцца ў аксамітную бездань.

Аднак угаварыць сябе нашмат лягчэй, чым падмануць. Зашлёпаўшы сваімі прыгожымі ластамі па паркеце, Каця знікла ў ваннай, потым прайшла на кухню і праз хвіліну вярнулася з выпіўкай і стосам бісквітаў. Ён моўчкі плюхнуў у шклянкі, і яны выпілі. Кожны думаў аб сваім. Малюта раптам падумаў, што ці не лепш апрануцца і сысці, але ісці было няма куды, не да Інгі ж гэтай, на самай справе, несці навіны, якія зваліліся на яго. Каму яны патрэбныя, яго самакапанні, імкненне да нейкай вышэйшай ісціны, пошукі неіснуючай праўды?..

Скураш спадылба зірнуў на жонку, і яна, нібы адразу адчуўшы ягоны стан, схамянулася, пацягнуўшыся да яго вачыма. Малюта заціх. Усмешка, якая падбадзёрвае і выпраменьвае пяшчоту, успыхнула на ейным твары, вусны злёгку варухнуліся, выдаючы ці то ўздых, ці то заклічны гук.

Усё сапраўднае пачынаецца з вачэй. Ён заўсёды ведаў гэта і цяпер раптам зразумеў, як жа ён без гэтага змаркоціўся… Бо такое бывала ў яго толькі з Кацяй.

Коўдры скінулі амаль адначасова.

Вынырнуўшы з бездані і адсопшыся, яны, нібы маладыя, застылі нерухома, баючыся спалохаць тое, што з імі толькі што адбылося.

Паступова свет здабыў свае звыклыя абрысы. Да далёкага, не бачнага ўначы сонца паляцела выплюхнутае імі цяпло, сцены пакоя ўвабралі ў сябе іхнія стогны, шэпт, усхліпы, дрыжыкі рэальнасці прабеглі па іхніх аголеных целах, і, шчыльней прыціснуўшыся адно да аднаго, нацягнуўшы на сябе коўдры, яны ціхамірна заснулі. Калі б у гэтую хвіліну чалавецтва загінула, гэтыя двое засталіся б навечна самымі шчаслівымі з людзей.

Паспаць ім не далі.

Амаль адначасова зазванілі ўсе наяўныя тэлефоны. Пакуль жонка блытана гаварыла па хатнім, Малюта, намацаўшы мабільны і пракашляўшыся ад сну, адказаў:

— Слухаю.

— Гэта добра, што ты яшчэ ў стане чуць. Спадзяюся, у цябе дома ёсць тэлевізар? — здзекліва прагучаў халодны голас Інгі.

— Пэўна, ёсць, а што, вайна пачалася?

— Мне падаецца, горш, — і мабільнік гадзенька запішчаў сігналамі адбою.

Узяўшы пульт, Каця націснула на кнопку. На экране шалеў міністр унутраных спраў.

— …Такім чынам, «Белы легіён» задумваўся як прылада дасягнення асабістай улады, і я не выключаю магчымасці дзяржаўнага перавароту. Наогул, у апошні час Плаўскі адышоў ад прынцыпу калегіяльнасці ў прыняцці ключавых рашэнняў, але, як вядома, дыктат ні да чаго добрага не прывядзе. У народа і ў краіны ў мінулым маецца падобны сумны досвед. Аднак з поўнай упэўненасцю магу заявіць, што ў прэзідэнта ёсць надзейныя, разумныя сілы, якія ў стане супрацьстаяць любым спробам вярнуць нас да таталітарызму.

— Паслухай, што за ахінею ён нясе? — накінуўшы на іх абодвух коўдру, спытала жонка. — Якія легіёны? Вы што, на самай справе рыхтавалі дзяржаўны пераварот? Ну, слава Богу, знайшліся ў краіне сапраўдныя мужыкі! — і, абняўшы Малюту, яна зашаптала яму ў вуха: — Не бойся, нават калі цябе сашлюць у Сібір, я паеду з табой.

— Перастань дурэць! Якая яшчэ Сібір! Але яны ж… Вунь яны як загнулі! А я, прыдурак, прыняў усё за старэчы маразм звар'яцелага чэкіста. Выклікай таксі, я еду на Старую плошчу.

Разумныя жанчыны таму і разумныя, што дакладна ведаюць, калі не трэба спрачацца з мужчынам. Пакорліва ўздыхнуўшы і неахвотна нацягнуўшы на сябе халацік, жонка папляласся да тэлефона.

Над Масквой плаваў амаль крыштальны восеньскі вечар. Працоўная плынь машын схлынула, і Цвярская, захлёбваючыся разнаколернымі агнямі вітрын і рэкламы, бессаромна, не зважаючы на жабрачку-краіну, выстаўляла напаказ сваю распусную раскошу.

Малюта не ведаў, як сябе паводзіць, куды тэлефанаваць, як знайсці і папярэдзіць Плаўскага. Ён, як салдат, падпарадкоўваючыся гадамі выпрацаванай звычцы, у выпадку трывогі спяшаўся ў сваю частку. Там, за зялёным плотам, усё станавілася на свае месцы, кожны ведаў, куды бегчы, што несці, каму падпарадкоўвацца, кім камандаваць. Але Рада нацыянальнай стабільнасці не была вайсковай часцю, там не было камандзіраў і байцоў, там сядзелі паднатарэлыя ў інтрыгах ваўкі, гатовыя разарваць любога, каб вызваліць для сябе шлях наверх. Смутнае, даўкае пачуццё трывогі смактала пад лыжачкай.



Скураш, перш чым падняцца ў свой кабінет, зазірнуў у прыёмную Плаўскага.

— А ўсе ў кабінеце Пятра Харлампіевіча, — адрываючыся ад тэлевізара, бадзёрым голасам паведаміў дзяжурны адстаўнік. — Івана Паўлавіча яшчэ няма, ён на сустрэчы з прэзідэнтам Беларусі.

Яўлампава Скураш употай пабойваўся і без адмысловай патрэбы ў ягоны кабінет не зазіраў. Пасля любой гутаркі з баявым намеснікам Плаўскага заўсёды заставалася асцярога, што словы, ды і сама тэма гутаркі будуць вытлумачаныя ім няправільна і павернутыя не ў тваю карысць.

Але сёння, асабліва не думаючы, ён увайшоў у нялюбы кабінет. За сталом, акрамя Пятра Харлампіевіча, сядзелі Абрушка, Брахманінаў і памочнік Сакратара Ілля Магуст, высокі малады чалавек з незапамінальным тварам опера.

— Ну, ты паглядзі, у нашых шэрагах прыбыло! — пляснуў рукамі гаспадар кабінета. — І не пабаяўся, прыйшоў, малайчына! Садзіцеся, разам кеміць будзем.

— А я вам што гаварыў, — працягваючы Скурашу руку, вымавіў Лаўрэнцій Міхайлавіч, — нармалёвы, наш хлопец…

— І што нармалёвы хлопец аб усім гэтым думае?

— Думаю, што ўсё гэтае трызненне кімсьці халтурна зрэжысавана і будзе мець не лепшы для нас працяг…

— Гэта вашыя здагадкі або вам нешта вядома? — нахмурыўся выведнік, які прывык даведвацца пра навіны першым.

— Вядома мне не больш вашага.

Скураш падышоў да белай пластыкавай дошкі, якая стаяла перад сталом для нарадаў, і адмысловым фламастарам, што ляжаў там жа, паспешліва пачаў пісаць: «Падпісаны Указ аб адхіленні Івана Паўлавіча ад усіх пасад. Магчымы арышт. Заўтра або ў найбліжэйшыя дні гэтую навіну агучыць Цар!»

Упэўніўшыся, што ўсе здолелі разабраць ягоныя крамзолі, Малюта, пакрывіўшыся на зашторанае акно, паспешліва сцёр губкай крывыя радкі.

У кабінеце павісла зыбкае маўчанне, ад якога пачынаюць ныць зубы, а да глоткі падкатвае здрадлівы камяк. Менавіта гэтага стану так ненавідзяць і так баяцца моцныя і рашучыя мужчыны, гатовыя праваліцца скрозь зямлю, пайсці на верную згубу, толькі б не сядзець у смярдзючай лужыне здрады.

Тэлефонны званок шарахнуў нечаканай чаргой, выводзячы ўсіх са здранцвення, уваскрашаючы надзею, паварочваючы да адвечнага рускага «авось». Яўлампаў схапіў трубку, як тапелец выратавальную вяроўку, ды, імкнучыся справіцца з хваляваннем, прахрыпеў:

— Слухаю вас, — і, заціснуўшы далонню мікрафон, узрадавана паведаміў: — Шэф…

— Уключы гучную сувязь, — перабіў яго Абрушка, — і скажы яму, што мы тут.

— Іван Паўлавіч, я не адзін, у мяне ў кабінеце сабраліся ўсе нашы. Дазвольце перавесці тэлефон у рэжым канферэнцыі?

У пакой уварваўся гулкі бас Плаўскага.

— Што засумавалі, галубчыкі? І з тварамі, задуменнымі, як двухпудовыя гіры, бязрадасна ўздыхаеце над аб'ектыўнай несправядлівасцю, што валадарыць у сэрцам любімай Бацькаўшчыне? Супакойцеся, гэта яшчэ не канец, гэта толькі пачатак. Усім па дамах, няма чаго соплі на кулак намотваць. Заўтра ў сем трыццаць усе ў мяне. Усё! Ніякіх пярэчанняў! — і тэлефон пісклява, па-шчанюкоўску загаўкаў кароткімі гудкамі.

— Сапраўды, што мы кіснем? — прарэзаўся маўклівы прэс-сакратар. — Мы ўсе, уключаючы шэфа, ведалі, што гэта павінна адбыцца. Месяцам раней, месяцам пазней, якое гэта мае значэнне? Ды і чорт яе бяры, гэтую Старую плошчу, што ж мы, яшчэ цалкам спраўныя хлопцы, не знойдзем сабе малодкі? Пётр Харлампіевіч, закуска ёсць? Я зараз па гарэлачку збегаю, у мяне ўжо тыдзень у халадзільніку настойваецца…

— Саш, ёсць і гарэлка і каўбаска, — перабіў яго гаспадар, — не трэба нікуды бегчы. Зараз усё тут збудуем, а то Малюта Максімавіч нагнаў на нас нуды.

Выпівалі і закусвалі паспешліва, імкнуліся жартаваць, але весела не было, і, не дасягнуўшы чароўнай рысы, за якой пачынаецца ўсеагульнае яднанне і згода, раз'ехаліся па дамах.

## 11

— Ведаеце, не трэба гаварыць глупства. Лепш глядзіце, каб ён чаго напрыканцы не адпароў, — прэм'ер хадзіў з кута ў кут па невялікім пакоі для нарадаў, у якім сабралася блізкае яму кола людзей. — Не наша сабачая справа абмяркоўваць волю прэзідэнта. Наша справа маленькая: будзе падпісаны ўказ — мы павінны забяспечыць яго выкананне. — Ён на хвіліну заціх як бы прыслухоўваючыся да чагосьці, і раптам з сілай пляснуў па паліраванай паверхні стала. — І забяспечым! На тое мы сюды і пасаджаныя! Як прайшла ноч? — Ён глянуў да міністра ўнутраных спраў.



— Плаўскі нікому не тэлефанаваў. Так, я мяркую, ён пакуль нічога і не ведае. Вось яму тэлефанавалі. Усе кантакты зафіксаваныя. Плёнкі зараз у раздрукоўцы. Заслугоўваюць увагі тры званкі, два — ад камандуючых вайсковымі акругамі, а адзін — з Чачні, ад Масхадава…

— Што?! І гаворыце, нічога цікавага? Вось бл…! Да мяне гэтых далбаных генералаў! Вы што дурня з сябе строіце: «Заслугоўвае ўвагі, заслугоўвае ўвагі», ды я вашую ўвагу самі ведаеце дзе бачыў! З якіх акругоў тэлефанавалі?

— Сібірскага і Маскоўскага.

— Што?! Маскоўскага! Ды ты не міністр, ты прыдурак! Або з гэтым гарлахватам заадно? Мне дакладвалі, што гэта твая ідэя наконт «Белага легіёна». Ну глядзі, калі сталічная акруга ўстане на бок Плаўскага — гэта ўсё! Чаму мне адразу не паведаміў?

— Таварыш прэм'ер-міністр, прашу вас, не трэба так хвалявацца. Гутаркі былі пустыя, ні аб чым…

— Ды вы паглядзіце на яго! Пустая ў цябе башка, калі яны адразу пасля тваёй тэлевізійнай хераты кучкавацца пачалі, значыць, папярэдняя дамоўленасць была. Тэрмінова плёнкі да мяне. А што гэта ў нас КДБ маўчыць? Не, мужыкі, калі вы мне ў кішэню насераце, я ў даўгу не застануся. Ужо чаго-чаго, а дуркі ў мяне на ўсіх хопіць. Дык што ў вас?

— Лічу, што асабліва асцерагацца няма чаго, хоць становішча даволі складанае, тут я з вамі, Астап Сцяпанавіч, цалкам згодзен. Да сённяшняй раніцы нашае ведамства да гэтай аперацыі падключана не было. Я пра ўсё даведаўся з тэлевізара. Да мяне былі званкі, вядома, але яны насілі характар пытанняў. Народ цікавіўся, што адбываецца, і пытаў, як сябе паводзіць. У ранішніх зводках мне паведамілі аб інтэнсіўным радыёабмене некаторых амбасадаў і званках намесніка Плаўскага Яўлампава дзясятку былых сваіх калегаў, якія сёння знаходзяцца на камандных пасадах рознага ўзроўню.

— Усё! Вы мяне загубіце! — Прэм'ер са стогнам паваліўся ў мяккі фатэль-круцёлку. — Ну няўжо нельга было па-чалавечы растлумачыць, што вы там у Барвісе задумалі? — пытанне ставілася да кіраўніка Крамлёўскай адміністрацыі, які сціпла сядзеў і нешта запісваў (і які атрымаў ад Плаўскага трапную мянушку «Іржавы Дзяркач». — Гол Уладленавіч, я да вас звяртаюся! Што вы там усё пішаце? Не псуйце паперу, вам і так касету нашай гутаркі фэсэошнікі перададуць.

— Астап Сцяпанавіч, — абводзячы ўсіх адкрыта нахабным поглядам, як бы без ахвоты адазваўся чыноўнік, — я такі ж выканавец, як і вы. І ведаю, паверце, не больш вашага. Указ пакуль яшчэ не гатовы, ды і невядома, ці будзе ён наогул.

Нямая сцэна атрымалася не горшай, чым у Гогаля. Перад кожным з саноўнікаў, надзеленых амаль неабмежаванай уладай, якая дазваляе ім у лічаныя хвіліны ўскалыхнуць па-ранейшаму вялізную краіну, як нямы напамінак іх праўдзівай цаны і поўнай нікчэмнасці, свяціліся зларадласцю вочы крамлёўскага ўпраўленца.

Першым выйшаў са здранцвення галоўны міліцыянер.

— Гол Уладленавіч, вы што робіце? Па-вашаму атрымліваецца, што гэта мне самому прыйшла ў галаву думка перціся на тэлебачанне, абвінаваціць Сакратара нацыянальнай стабільнасці ў падрыхтоўцы вайсковага перавароту і паставіць, як цяпер атрымліваецца, краіну перад пагрозай грамадзянскай вайны? Не, мы так не дамаўляліся! Я зараз еду да сябе, збіраю журна…

— Спыніце істэрыку, генерал, — павольна ўстаючы, цвёрда вымавіў «Іржавы Дзяркач». — У кожнай гісторыі ёсць адзін пачатак, але канцы могуць быць вельмі розныя. Не будзем панікаваць, спадары. Прэзідэнт прыме самае мудрае і адзіна правільнае рашэнне. Безумоўна, наш прэм'ер мае рацыю, мы абавязаныя гэтае рашэнне выканаць. Учора ўвечары вы ўсё гаварылі правільна, Яўген Захаравіч, так што давайце не будзем панікаваць. Устанавіце за Плаўскім самае пільнае назіранне, аналізуйце ўсе ягоныя тэлефонныя гутаркі, правядзіце прафілактычную работу з найболей верагоднымі прыхільнікамі, галоўнае, не дапусціце кантактаў з былым Ахоўнікам. — На хвіліну ён замёр, як бы спалохаўшыся апошніх слоў. — Гэта, мабыць, самае галоўнае, і выкіньце з галавы гэтае трызненне пра грамадзянскую вайну.

Прыглушана залапатаў тэлефон. Астап Сцяпанавіч паспешна схапіў трубку ў надзеі, што неадкладныя дзяржаўныя справы паклічуць яго куды-небудзь далей ад гэтых небяспечных і няўдзячных гульняў.

— Што?! Калі?! Ён адзін?! Ды вы ўсе ахранелі сёння! — кінуўшы са злосцю трубку, прэм'ер разгублена развёў рукамі. — Плаўскі паднімаецца да нас, з ім узброеныя ахоўнікі.

— Зараз возьме нас усіх і арыштуе, як змоўшчыкаў… — спакойна вымавіў дырэктар ФСБ Конікаў.

— Язык у вас без касцей, — перабіў яго галоўны адміністратар. — Астап Сцяпанавіч, як нам з Болатавым адгэтуль выйсці, каб не сустрэцца з Іванам Паўлавічам?



— Вы заварылі і вам выйсці! Харошыя, нічога не скажаш! Вунь у тыя дзверы драпайце. Ігнат, — прэм'ер звярнуўся да задыханага чалавека, які толькі што ўбег у пакой і спрабаваў нешта далажыць. — Ды ведаем мы, ведаем, праводзь вось лепш гасцей да службовага ліфта.

Яшчэ не паспелі за імі зачыніцца дзверы, як гаспадар кабінета пачаў інструктаваць астатніх.

— Мы ні храна не ведаем, самі толькі сёння пачулі, я наогул увечары тэлевізар не глядзеў. Карацей, мы па-за справамі. Гэта Старая плошча ўсё задумала, хай туды і едзе разбірацца. Гэта палітыка, а мы — урад, наша справа — гаспадарка…

Вялікія двухстворкавыя дзверы балюча стукнуліся аб прымацаваныя да падлогі фіксатары. Змрочны Плаўскі, зыркаючы з-пад насупленых броваў, цвёрдым крокам увайшоў у кабінет.

— Ну што пахаваліся, як прусакі?

— Іван Паўлавіч, што за тон?! — раўнуў дзеля пастраху прэм'ер. — Вы не забывайцеся!

— У вашым куратніку забудзешся, як жа! Ледзь прашчоўкаў — і ўжо абасралі па самую макаўку. Астап Сцяпанавіч, не рыкайце, мяне таксама Бог голасам не пакрыўдзіў. Дзе гэты неданосак балотны? Я яму зараз у адно месца засуну тэчку з ягонымі прапановамі па гэтым далбаным легіёне. Ну нягоднік! Дзе ён?

— Хто?

— Хто, хто. Не трэба рабіць такія вочы, таварыш Старшыня ўрада, дзе ваш унутраны міністр? Дзе гэты Гапон?

— Іван Паўлавіч, — бачачы рашучасць Плаўскага, наўмысна спакойна вымавіў Чысталіцаў, працягваючы для прывітання руку, — я вас не разумею. Растлумачце, што адбылося? — і, зірнуўшы на прысутных, звыкла кінуў: — На сёння ўсё, усе свабодныя.

— Астап Сцяпанавіч, я папрашу вас пакінуць Кузнечыкава.

— Добра, Іван Паўлавіч. Уладзімір Мікалаевіч, затрымайцеся, калі ласка.

— Я прашу вас як прэм'ер-міністра растлумачыць мне, што азначае ўчарашні выступ міністра ўнутраных спраў па тэлевізары? І адразу хачу папярэдзіць: проста так мяне скалупнуць не атрымаецца. За мной людзі стаяць…

— Іван Паўлавіч, я вас вельмі добра разумею, і таму давайце супакоімся, — мітусліва закудахтаў Чысталіцаў. — Прысаджвайцеся, калі ласка. Вы што будзеце: гарбату, каву?

— Кофэ, — буркнуў Плаўскі.

— Я сам учора тэлевізар не глядзеў. Раніцай правёў маленькую нараду. Болатаў таксама быў, але перад вамі сышоў разам з Чайбесам. Сцісла мне, вядома, пераказалі ўчарашняе. Вы толькі правільна мяне зразумейце, я змушаны буду правесці разбіральніцтва з міліцэйскім начальнікам. Я яму прама так і сказаў, каб падаў у маё распараджэнне ўсю доказную базу і не пазней сённяшняга абеда. А то, іш ты, шмат сабе дазваляюць! А наогул вам лепш бы патэлефанаваць прэзідэнту, вы яго кадр.

— Тэлефанаваў. Прымацаваны ўжо трэцюю гадзіну талдычыць адно і тое ж: «Пры першай жа магчымасці злучу». Куды там злучаць, можа, ён ужо дуба даў. Вось прыбяруць мяне і абвесцяць народу.

— Ды бог з вамі, Іван Паўлавіч, — апантана пеажагнаўся прэм’ер.

Плаўскі, абпякаючыся, піў каву, безуважліва слухаў коснаязыкую прамову кіраўніка ўрада, і да яго паступова пачынаў даходзіць сэнс таго, што адбываецца. Яго, Івана Паўлавіча Плаўскага, баявога генерала, банальна кінулі, развялі, як хлапчука, выкарысталі і выкінулі, бо не прыйшоўся да двара. Гукі, што напаўнялі пакой, кудысьці зніклі. Бязгучнай рыбай шамкаў зіхценнем металакерамікі смешны, заплыты тлушчам чалавек, які намінальна лічыўся на высокім пасту другой асобай дзяржавы і які ў дасканаласці спасцігнуў складаную навуку імітатара кіпучай дзяржаўнай дзейнасці.

У галаве ў генерала, чапляючыся адна за другую, як самапісцы, скакалі думкі. Да каго, а галоўнае, навошта ён прыйшоў сюды? Што хацеў пачуць? Гэтыя пустыя і хлуслівыя словы? Убачыць панураныя позіркі з іскрынкамі зларадласці?

Усярэдзіне кіпела злосць. Яму раптам усё абрыдла. Да чорта ўсіх! Можа, праўду казалі паплечнікі, якія сёння ўначы пераконвалі яго нікому не верыць, а звярнуцца да народа, падняць верныя войскі і скончыць увесь гэты бардак у лічаныя дні. Але гэта вайна! Вайну Плаўскі ведаў і не любіў, тым больш вайну ў Расіі, тут спакон веку на аднаго вінаватага прыходзілася па дзясятку нявінна загубленых. Нясцерпна захацелася кінуць усё гэта, паслаць усіх куды далей, узяць вуды і з’ехаць на балота, у Каломну, лавіць карасёў.

Плаўскі моўчкі ўстаў і не развітваючыся выйшаў.



## 12

У Радзе нацыянальнай стабільнасці панавала істэрычнае ажыўленне. Старажылы, якія бачылі ўжо не адну рэарганізацыю, уткнуўшыся ў выратавальныя паперы, рабілі выгляд, што нічога не заўважаюць і ўсё, што адбываецца, іх не тычыцца. На іх абыякавых тварах выразна чыталася: «Я ўсяго толькі прыдатак майго стала, і ўсё, што выходзіць за яго межы, не мае для мяне ніякага значэння».

Супрацоўнікі, якія прыйшлі з Плаўскім у шосты пад’езд і якія прывыклі ўжо да чыгунных варот на Ільінцы, збіраліся ў групкі, аб чымсьці шапталіся, азіраючыся па баках.

Малюта ўжо ў палове сёмай быў у прыёмнай начальніка з падрыхтаваным аглядам газет. Гэты агляд, які адрозніваецца ад афіцыйнага, які разносілі па кабінетах дзесьці бліжэй да поўдня, ён рыхтаваў сам і некалькімі фразамі фармуляваў сэнс асноўных, знакавых матэрыялаў. Сёння газеты былі пустымі, толькі ў дзвюх з пазнакай «тэрмінова» былі надрукаваныя малюсенькія інфармашкі аб учорашніх выліваннях Болатава.

Плаўскі з’явіўся нечакана з агульнага калідора. Працягнуў Скурашу руку і жэстам запрасіў у кабінет. Твар Івана Паўлавіча быў напружаны, рабыя ад воспінак скулы хадзілі ходырам, рухі падаваліся рэзкімі, у голасе перакочваліся металічныя шары.

— Ну што ў вас, Малюта Максімавіч?

— Агляд прэсы, у асноўным, — ён паклаў перад шэфам аркушы, на першым буйным шрыфтам было набрана: «Магчыма, сёння вас адхіляць ад усіх займаемых пасадаў. Указ ужо падпісаны. Чакаюць, калі Цар зможа яго абвясціць. Трэба нешта рабіць».

— Вядома, трэба, але хто ведае, што? Вы пакуль свабодныя, за агляд дзякуй. Я, праўда, прачытаў ужо асобныя газеты, так што ў курсе асноўных падзей.

Пазней Абрушка распавёў Скурашу, што ўначы іх сабраў Плаўскі, і яны амаль да раніцы абмяркоўвалі сітуацыю. Паднімаць войскі, на чым настойваў Яўлампаў, генерал наадрэз адмовіўся: «Я ніколі не дазволю, каб па маёй віне хтосьці развязаў новую грамадзянскую вайну. Хопіць, наваяваліся».

Гумова цягнуўся час, усе сабраліся ў кабінеце Лаўрэнція Міхайлавіча і, заглушаючы хваляванне анекдотамі, чакалі вяртання начальніка з Белага дома.

Сакратар вярнуўся знешне спакойным, толькі жаўлакі, якія хадзілі на скулах, апалі, а цёмныя маланкі, што зіхцелі ў зрэнках, ператварыліся ў абыякавыя вугельчыкі. Папрасіўшы нікога з ім не злучаць, ён выклікаў памочніка і замкнуўся ў кабінеце.

ецца, ён спадабаўся прэзідэнту, і ў яго ёсць усе шанцы зрабіць нядрэнную кар'еру ў гэтай краіне вечна шчаслівых людзей.

Толькі за каванымі кратамі да Малюты паступова пачало вяртацца пачуццё рэальнасці. Неба, сонца, людзі, якія кудысьці спяшаюцца, пільна мінаюць пляц з нелюдзімым прыгажуном-палацам, заселены нейкімі цёмнымі сіламі, што паланілі гэтую краіну і ператварылі людзей у пакорлівых і ціхіх рабоў.

На суседняй вуліцы яго чакаў Аміран.

— Ну якое, дружа, ураджанне ад сустрэчы з нашымі гоблінамі?

— Паехалі, Геворк, да крамы, возьмем гарэлкі, з'едзем кудынебудзь у горы і нажарэмся. Гэта проста нейкі фініш! Рукі цалуюць! Ты ўяўляеш, у мяне такое адчуванне, што я толькі што вярнуўся з логавішча гэтых, як ты іх там зараз назваў? Гоблінаў, ці што? Уяўляеш, я нават быў удастоены найвялікшага гонару бачыць іх правадыра! Ты ведаеш, што ён мне сказаў?

— Нешта ты, дружа, вельмі нервовым зрабіўся пасля высокай сустрэчы. Гэта, брат, блізкасць пустыні, пэўна, адбіваецца. І давай дамовімся, — панізіўшы голас і ледзь не сілком запіхваючы сябра ў машыну, вымавіў Геворк, — крычаць на вуліцах у нас не прынята, гэта можа быць расцэнена як парушэнне грамадскага парадку. Садзіся і паехалі, працаваць трэба, а не гарэлку піць. Не ўсё так дрэнна, як табе падаецца, ужо загадана перавесці цябе ў адну з прэзідэнцкіх гасцініц, гавораць, глянуўся ты яму. Гэтага толькі не хапала маёй беднай армянскай галаве…

Малюта маўчаў, тупа гледзячы ў лабавое шкло. Яму было сорамна за сваю хвілінную слабасць. Ну падумаеш, што ўласна адбылося? Табе з імі дзяцей хрысціць ці што? Адробіш сваю тэму, бабкі атрымаеш — і ў Маскву, а ўрукі хай самі разбіраюцца, хто і як імі кіруе. Яшчэ мне барацьбіт за дэмакратыю Азіі знайшоўся!

— Дык гаворыш, гобліны табе нашыя не спадабаліся? — перапыніў ягоныя развагі Аміран. — Толькі я табе вось што, дружа, скажу — нашыя ад іншых, у тым ліку і вашых, мала чым адрозніваюцца. Мне апошні час наогул падаецца, што ідзе актыўная трансфармацыя ўсёй нашай цывілізацыі, а мы, як сляпыя, гэтага не бачым. Можа, ты і маеш рацыю, сапраўды будзе сусветная кастрацыя хрысціянскіх каштоўнасцяў і створанай на іх базе культуры. Да чаго гэта прывядзе, невядома, і якая сіла вылезе з-пад абломкаў старой атлантычнай Еўропы, ніхто знаць не можа, ды, падобна, асабліва і не імкнецца даведацца, а спахопяцца, ды, баюся, позна будзе. Аднак трэба думаць, што гэта будзе сіла, глыбока нам чужая і варожая. На жаль, аб гэтым мала хто здагадваецца…



— Так, адзін прывід ужо калісьці гойсаў па Еўропе, а які яго зменіць, аднаму гобліну вядома, — перабіў Малюта, — а тое, што свет наш у надломе, асабліва выразна відаць на прыкладзе творчых асобаў. Ты паглядзі вакол — і ў літаратуры, і ў жывапісе, і ў кіно, і нават на нашым памыйным тэлебачанні калі нешта і выплывае таленавітае, дык абавязкова ці чарнуха суцэльная, ці такі авангардны залом, што жыць не хочацца. Свет сапраўды паскорана спаўзае з рэалістычных крытэраў, а дэфармаванае мастацтва непазбежна спараджае дэфармаваную свядомасць. Сёння практычна ў кожным офісе, ды што офіс, у мільёнах кватэр на сценах вісіць такое ўбоства, што ўслед за вачыма мазгі разбягаюцца. А людзі ж гэта бачаць кожны дзень, яны пад гэта ядуць, спяць, трахаюцца, паміраюць.

— Пазнаю старога спрачальніка і дасведчанага схаласта, — засмяяўся Аміран. — Я памятаю, як ты яшчэ ў вучэльні ўсяму ўзводу галовы тлуміў, даказваючы спачатку першаснасць духу, а потым першаснасць матэрыі. Я б, вядома, і сёння з найвялікшым задавальненнем узяўся паспрачацца аб нялюбых табою неарэалізмах, ды галава зусім іншым занятая. Гобліны гоблінамі, а працаваць усё-ткі пачынаць трэба. Заданне сёння ўжо атрымана, і ўмовы выканання абвешчаныя. Вялікі гаспадар вырашыў, што пра яго мала гавораць у свеце, так і зусім забыць могуць. Вось табе і прапануецца прыдумаць падставу для прыстойнага міжнароднага скандалу, у межах закону і прыстойнасцяў, вядома. Выконваеш працу, атрымліваеш дваццаць тысяч амерыканскіх тэнге — і «дранг нах хаўс»! Так што, бачыш — не заданне, а існая дробязь.

— Ты гэта сур'ёзна, ці што? — уразіўся Малюта.

— Куды ўжо сур'ёзней. А мне, між іншым, умовы для разумовага працэсу табе загадана стварыць. Зараз едзем за горад, у новыя гатэлі, гэта нешта накшталт раскошных вілаў для вельмі высокіх гасцей. Але глядзі, у абслузе там простых людзей няма, а ўсе памяшканні настолькі добра ўладкаваныя, што ў іх усё відаць і чуваць, нават у сарцірах і лазнях.

— Так, Геворк-джан, узычыў дык узычыў, — засмяяўся Малюта.

— Ну ўжо чым багатыя. Ты ж, спадзяюся, не забыў баявы кліч крылатай пяхоты? — падміргнуў Геворк і жартаўліва штурхнуў яго ў плячо.

— Яшчэ б! «Няма задач невыканальных!»

— Ну вось і будзем выконваць, толькі на гадзінку заедзем да мяне ў офіс. Хоць паглядзіш, як я ўладкаваўся, заадно без шпігаў паабедаем і па кроплі вып'ем.

Аміран ужо даўно сур'ёзна займаўся канструяваннем устойлівых фінансава-эканамічных сістэм і быў прызнаным аўтарытэтам у гэтай вобласці. Калісьці вельмі даўно, калі само слова «бізнэс» успрымалася як страшная лаянка, Малюта мог гадзінамі слухаць развагі сябра на далёкія і не зусім зразумелыя яму тэмы. Аднак у вуснах гэтага аграмаднага армяніна цяжкавымоўныя эканамічныя формулы атрымлівалі рысы нейкай незвычайна складанай і заварожвальнай паэзіі, у якой усё чароўным чынам, як у трактатах алхімікаў, ператваралася ў грошы.

Вячоркі іх гадзінай, вядома ж, не скончыліся, а пазначэнне выпітага спіртнога па старадаўняй мерцы «па кроплі» абвінулася амаль кілаграмам «агністай шатландскай вады» на брата. Бражнічалі, каб нікога асабліва не бянтэжыць, прама ў кабінеце родапачынальніка туркменскага эканамічнага феномену. Над падгулялымі сябрамі ва ўсю сцяну шугала разнаколернымі лямпачкамі Каспійскае мора, будучыня эканомікі і прывідная надзея краіны.

Да ночы ўсё ўжо было перагаворана і пераўспомнена. Малюта, асалавела гледзячы на карту, цяжка варочаючы языком, уставіў:

— Геворк-джан, а можа, прапанаваць Вялікаму, хай падоўжыць Алах яго гады, перадзяліць па-свойму шэльф Каспія, а то злым суседзям усё, а бедных турмен, як і ў ранейшыя часы, зноў прыціснулі, а?

— Слухай, а ты разумны! Гэтая ідэішча шмат чаго вартая, павер не апошняму на планеце эканамісту! — пазяхнуўшы і з храбусценнем пацягнуўшыся, абазваўся Геворк. — Але ўсе ідэі, дружа, пакідаем на заўтра. А цяпер, а цяпер, — спрабуючы надаць п'янаму голасу адмысловае, урачыстае гучанне, абвесціў ён, — я павязу цябе, брат, да самых чароўных гурыяў гэтых некалі дзікіх месцаў!

Аднак устаць з-за стала ні адзін, ні другі ўжо не змаглі. Здрадлівая падлога імкнулася выслізнуць з-пад ног і перакуліць доблесных джыгітаў, як наравісты жарабец.

Як і ва ўсякай грунтоўнай п'янцы, асабліва вайскоўцаў і дзяржслужбоўцаў, гурыі, гейшы, путаны, словам — дзяўчынкі, з'яўляюцца, як правіла, персанажамі міфічнымі і прыходзяць да волатаў, стомленых няроўнай барацьбой з зялёным змеем, выключна ў моцных снах. На начлег сябры ўладкаваліся прама тут жа, у кабінеце, балазе зручных канапаў было аж цэлыя тры, а ў ашчаднага Амірана, такога ж, як і Малюта, качэўніка, запасныя камплекты бялізны і зубныя шчоткі заўсёды меліся.



Раніцай, як і належыць людзям з вайсковай закваскай, прыяцелі абудзіліся рана і, як гэта ні дзіўна, з вельмі цвярозай галавой, праўда, з моцна памятымі тварамі, але затое з нястрымным імкненнем дзейнасці. Малюта яшчэ гультаявата пацягваўся пад коўдрай, адсоўваючы далей момант нялюдскага гвалту над сваім любімым целам, якое, на жаль, непазбежна павінна быць прынесена ў ахвяру новаму дню. А пакуль доўжыўся гэты сакральны працэс, нястомны армянін ужо на ўсю моц раздзіраў свой жаласна пісклівы камп'ютар.

— Ну, што, дружа, уставай і паглядзі, як верны сябар, зазнач, з цяжкай галавой, ва ўсю іванаўскую ляскаціць, зарабляючы табе твой ганарар. Так, тут, як ні круці, табе яшчэ і прэмія свеціць!

— І вялікая? — млява адазваўся Малюта.

— Будзь спок, прэміяльныя ў шэфа шчодрыя, як сонца ў пустэльні, галоўнае — своечасова ў цень змыцца. Ідзі, чытай і папраўляй сваю справаздачу. Дарэчы, тэлефанавала Лара і перадала, што цябе тэрмінова шукае жонка, твой мабільнік у нас адключылі, так, на ўсякі выпадак.

— Я не зразумеў, ты што, насамрэч пагадзіўся наконт ідэі з шэльфам?! — адкінуўшы ўбок коўдру, падняў бровы Скураш.

— А то! Ты нават сабе не ўяўляеш, у якую масць ты патрапіў, у самую што ні на ёсць казырную. Літаральна пазаўтра да нас прыязджаюць з афіцыйным візітам вашыя галоўныя газавікі і нафтавікі на чале з Бімам Захеравым, чым не падстава абвясціць усяму свету аб крэўнай народнай крыўдзе? Усё, давай варажы з тэкстам, — падняўся з-за стала Геворк, — а я паскакаў да прэм'ера на пяцімінутку. Ну ты і малайчына, з табой працаваць — мёд піць! Можа, застанешся на так званую сталую аснову?

Не паспелі за Аміранам зачыніцца дзверы, як Малюта ўскочыў і, нацягнуўшы джынсы, адразу засеў за камп'ютар. Праз гадзіну ёмістая, на паўтары друкаваныя старонкі, дакладная і кароткі сцэнарны план дзеянняў на чатырох старонках былі гатовыя.

Па сцэнары неабходна было вытрымаць высокіх расійскіх гасцей у прыёмнай першай асобы дзяржавы, а калі тыя канчат-

кова ўздыбяцца ад абуральнай непавагі, абыякава запусціць іх у найвысокі кабінет. Гаспадар павінен выявіць поўную пагарду і не падаць рукі, матывуючы гэта тым, што ён жулікам, якія прыехалі рабаваць ягоны народ, рукі ніколі не падаваў і надалей падаваць не збіраецца.

— Слухай, напрост Шэкспір! І «рукі не падаць» і «ўжывую ў прамым эфіры ўсяму народу паказаць»! — цокаў пасля звароту языком Геворк. — Ай, шайтан! Ну проста клас!

— Можа, пра злодзея я злёгку перастараўся, а? — гледзячы на экран з-за спіны сябра, спытаў Малюта.

— А ты думаеш, ён не злодзей?

— Злодзей, вядома. Ды яшчэ да таго ж і масон.

— Ну і хай усё застаецца як ёсць. Вялікі яшчэ і сам чаго-небудзь напрыдумвае. Выводзім тэкст, аднак падпісваць не будзем, ці мала дзе гэтая паперка можа вынырнуць заўтра! Вось так! Я паляцеў на высокі даклад, дарагі таварыш выратавальнік!

Малюта не турбаваўся. Не спадабаецца гэтая ідэя, народзім новую, у галаве ў яго ўжо круцілася з паўдзясятка розных задумак. Ад няма чаго рабіць ён пачаў чытаць мясцовую прэсу, якая выдавалася пакуль яшчэ і на расійскай мове. Чытаў і адкрыта цешыўся. Экзэрсісы мясцовых умельцаў пяра амаль капіравалі колішні часопіс «Карэя» часоў Кім Ір Сэна з яго хрэстаматыйным эпасам: «У чырвонага кулямётчыка Лі скончыліся патроны, а ворагі ўсё бліжэй і бліжэй, і тут над самым вухам зніякавелага байца прагучаў натхнёны голас таварыша Кіма: — «Ты ж камуніст, сынок!» І кулямёт заляскатаў з новай сілай».

Малюта ў апошні час шмат паездзіў па былых савецкіх рэспубліках, а цяпер незалежных дзяржавах, дзівіўся, да чаго ж хутка былыя партыйныя лідары, пераназваўшыся з першых сакратароў ЦК у пажыццёвых прэзідэнтаў, вярнулі сваіх падданых ледзь ці не на сярэднявечны ўзровень. Галеча і безвыходнасць пануюць вакол, народ дэградуе і, варачыся ва ўласным соку, пачынае закіпаць сляпой лютасцю, бачачы крыніцу сваіх няшчасцяў у інтрыгах нейкіх міфічных ворагаў. Байская ўлада ўсё гэта выдатна разумее і бессаромна эксплуатуе прымітыўны і вечны дэвіз памерлага Рыма: «Хлеба і відовішчаў!» Вядома, гэты лозунг і цяпер яркай палатнінай лунае над светам, толькі вось замест натуральнага хлеба з жывых каласоў прапаноўваецца генетычна мадыфікаваная жованка, а замест «калізеяў» — тэлескрыня і сусветная павуціна. І атрымоўваецца зусім не радасная карціна: у Амерыцы — высокі тэхнагенны ўзровень



прымітывізацыі людзей і іх свядомасці, а тут, на прасторах некалі бязмежнай радзімы, і сукаватай палкай можна ператварыць народ у такое ж быдла. Будучая глабалізацыя хутчэй за ўсё з'явіцца сінонімам габлінізацыі ўсяго свету.

Каб хоць неяк адарвацца ад невясёлых думак-прусакоў, Малюта патэлефанаваў дадому. У родных пенатах усё было спакойна, толькі Кацька доўга і з нейкай нехарактэрнай для яе важнасцю дакладвала аб тым, што яму некалькі разоў тэлефанавалі са Старой плошчы і прасілі, як з'явіцца ў Маскве, абавязкова зайсці да Танінай Перамогі Ігараўны. Такім незвычайным імем гэтую энергічную жанчыну надарыў бацька — франтавік, генерал і стойкі камуніст. Калі няшчасны ветэран даведаўся, што яго любая дачка пайшла працаваць да ненавісных дэмакратаў, а потым і зусім у адміністрацыю партыйнага рэнегата і ўсерасійскага алкаголіка, дзед пакрыўдзіўся не на жарт, ад дачкі адмовіўся публічна і заявіў, каб нават на могілках нагі яе не было. Перамога ж, пераняўшы бацькоўскі непахісны характар, была прыроджаным чыноўнікам. Разумная, хваткая, яна не па-жаночы трымала ўдар, любую даручаную справу магла павярнуць у патрэбны ёй бок і заўсёды дамагалася перамогі. «Не магу я пры такім імені ў пераможаных хадзіць!» — любіла паўтараць яна.

«Цікава, на які ляд я ёй спатрэбіўся?» — думаў Малюта, але душу навіна ўсё ж пацешыла, — значыць, не забылі! А калі не забылі, можна яшчэ на нешта спадзявацца!

Што казаць, «бамжаваць» яму ўжо парадкам паднадакучыла, ды і гады падціскалі, трэба было нешта вырашаць: альбо дамагацца вяртання на дзяржслужбу, альбо заводзіць сваю справу, які-небудзь свой бізнэс, у якім ён мала што кеміў і таму баяўся, як чорт ладана. Можна было, вядома, і далей, нічым не абцяжарваючыся, вось так плыць па плыні, перабіваючыся выпадковымі заробкамі, і са страхам чакаць старасць. Вунь і ў Кацькі, пры ўсёй яе нялюбасці да ўлады, і то ноткі надзеі слізганулі ў голасе. Адна рэч — муж на персанальнай машыне ездзіць, іншая — адстаўнік з мізэрнай пенсіяй.

Геворк вярнуўся бліжэй да вечара, праўда, перыядычна ён тэлефанаваў, падбадзёрваючы: усё ўсім падабаецца, усе ў захапленні, чакаем Самога, пакуль заняты, можа, працяг «Рахамы» піша. Нарэшце, дзверы расхінуліся, і Малюта ўбачыў, што сябар ззяе, як калядная елка, так што без слоў стала зразумела, што іх авантурная задума прынятая кіраўніцтвам.

— Усё, крычы ўра! — падняў рукі над галавой Геворк.

— Што, няўжо і напраўду зацвердзілі? — усміхнуўся Скураш.

— Не толькі зацвердзілі, але і махавік сусветнай крыўды ўжо на ўсю моц запушчаны. Трымай, гэта табе, — хіхікнуў Аміран і ўрачыста выняў са свайго вечнага, як у Жванецкага, пацёртага карычневага партфеля вялікі скрутак.

Малюта разгарнуў поліэтыленавы пакет, і на стол выслізнулі, як зялёныя рыбкі, сем пачкаў стодаляравых купюраў у банкаўскім пакаванні.

— Ох, ну нічога сабе! А што так шмат? Дзве твае, дзве мае, — ён пачаў кучкаваць, — а гэтыя тры — прэмія ці што?

— Дружа, гэта ўсе твае, кроўна зробленыя грошыкі, а што звыш дамовы — шчодрасць Сонца.

— Жартуеш! — Малюта прайшоўся па пакоі і, раскінуўшы рукі, плюхнуўся на канапу.

— У нас такімі рэчамі не жартуюць… — падміргнуў Геворк і з усмешкай разваліўся побач з сябрам.

— Ну, а калі не жартуюць, дык, можа, і насамрэч мне варта на пастаянку да вас прыстроіцца? Абрэзацца вы, здаецца, не прымушаеце, так што я з вялікім задавальненнем папрацаваў бы на дабрабыт народа пустыні, — Малюта падняўся і стаяў ля стала, машынальна перабіраючы пачкі грошай.

— Не, вы толькі паглядзіце, як мы заспявалі, і куды толькі гобліны падзеліся! Ды супакойся ты, жартую я! — убачыўшы, што Малюта нахмурыўся, узвысіў голас Аміран. — Толькі вось пастаянка твая накрылася вялікім катлом для варэння плову. Ты думаеш, я, ацаніўшы ўвесь расклад, не стаў прасоўваць інтарэсы свайго вайсковага карыша? Дрэнна ты пра мяне думаеш. Нас пяцёра ў кабінеце было. Ён хвілін дзесяць думаў, а потым выдаў: «Лепш, — гаворыць, — прафесійнага авантурніка пры патрэбе запрашаць збоку, чым трымаць у сябе пад бокам, дабром гэта ні для нас, ні для яго не скончыцца». — Так што, дружа, праца зробленая, адзнака табе дадзеная высокая, вось твой квіток да Масквы. Самалёт праз паўтары гадзіны. Якраз ёсць час адзначыць твой дэбют на нашай гасціннай зямлі.

— Дзе там адзначаць! Мне ж яшчэ ў гасцініцу трэба заехаць, разлічыцца… — заспяшаўся Скураш.

— За ўсё ўжо заплочана, Малюта-джан, а рэчы твае разам з падарункамі сакратара Нацыянальнай Рады бяспекі даставяць прама да самалёта. Ты Бішыева памятаеш, з якім у самалёце сюды ляцелі? Ён, дарэчы, Самому твой тост пераказаў, нават пра авіяскакуна не забыў. Скакуны ў нас, сам разумееш, святое. Так што Бікман Абішавіч таксама прыедзе цябе праводзіць. Ты давай не ўздыхай, каму сёння лёгка? Налівай, імяніннік! Сумна, вядома, што ты, прыдурак, так хутка ідэі вынаходзіш, — Геворк засмучана развёў рукамі. — Выходзіць, па тваёй віне нам толкам пагутарыць не атрымалася, вось нават нікуды і не з’ездзілі…



### 3

Малюта злёгку хваляваўся, працягваючы сваё старое пасведчанне афіцэру аховы: ці мала што змянілася на Старой плошчы за гэты год з невялікім? Можа, маленькі, абцягнуты карычневай скурай кавалачак кардона ўжо страціў свае магічныя ўласцівасці ў сценах гэтага змрачнаватага брудна-шэрага будынка? Службовую ксіву, пасля таго, як Скураша звольнілі з Рады, трэба было здаць кадравікам, але ў яго яе ніхто не патрабаваў, а сам ён з ініцыятывай не спяшаўся, ды і навошта было спяшацца, калі гэтая «корка» безадмоўна дзейнічала на даішнікаў, як святая вада на чарцей.

Капітан, які пільнаваў галоўны ўваход у нетры айчыннай бюракратыі, па-казённаму ўтаропіўся ў расхінутае перад ім пасведчанне, злёгку дакранаючыся пальцамі, як быццам гатовы ў любы момант вырваць яго з рук пазапраўнага ўладальніка. Затым такім жа ўважліва-адцягненым поглядам вывучыў фізіяномію Малюты, злёгку прыжмурыўся, даючы зразумець, што працэс ідэнтыфікацыі ў яго мазгавым цэнтры завяршаецца, і, страціўшы да прыхадня ўсялякую цікавасць, аўтаматычна вымавіў: «Праходзьце».

Хол першага пад’езда нічога асаблівага сабою не ўяўляў. Тут па-ранейшаму лунаў патрыярхальна-бальшавіцкі дух, які не толькі не выветрыўся, але ў апошні час, здаецца, прыкметна адужэў. Няўзброеным вокам было відаць, што выфарбаваныя ў нявызначаны колер сцены рамонту не бачылі ўжо гадоў пятнаццаць. Справа сваім звыклым жыццём жыў кніжны шапік, поруч з якім паўстала імправізаваная галерэя, якая складаецца з партрэтаў Гаранта Канстытуцыі ўперамешку з абразамі. Дзіўнае суседства не магло быць выпадковым у гэтым невыпадковым месцы, чыноўны люд абавязаны ведаць, на каго варта маліцца ў першую чаргу. Злева падслепавата прытуліўся немудрагелісты гардэроб, ля сцяны, пад вялікім люстэркам, стаялі нізкія драўляныя лавы, абабітыя дэрмацінам. Падлогу засцілаў някідкі, добра выцерты дыван. Спераду размяшчаўся ўваход у змрочную парадную, якой шызыя калоны і сталы змрок

надавалі падабенства з ахвярнікам нейкага паганскага храма часоў позняй антычнасці. Два асноўныя і два тыльныя ліфты бясшумна развозілі наведвальнікаў па паверхах, пры гэтым адна з парадных кабінаў была адмысловай, выклікаць яе мог толькі начальнік вызначанага рангу, які валодае адмысловым ключом. Адзін з шасці паверхаў лічыўся рэжымным, куды патрабаваўся дадатковы пропуск або спецадзнака ў пасведчанні. У былыя часы тут размяшчаліся кабінеты найбольш важных чальцоў Палітбюро ЦК КПСС, сёння ў іх утульна размясцілася вышэйшае кіраўніцтва Адміністрацыі. На гэтым паверсе заўсёды панавала амаль мёртвая цішыня, і рэдкія супрацоўнікі або наведвальнікі слізгалі бязгучна, нібы бесцялесныя цені, у змрочным асвятленні крывых калідораў. Малюта, калі здаралася такая патрэба, ішоў на засакрэчаны паверх, глыбока ўцягнуўшы галаву ў плечы, як калісьці ў дзяцінстве ўначы па вясковых могілках, і імкнуўся хутчэй пакінуць ліхое месца. Аднак сённяшняя сустрэча яму была прызначаная менавіта ў гэтых палацях.

З Танінай ён пазнаёміўся падчас апошняй выбарчай кампаніі, калі напаўжывога Цара, як надзіманую ляльку, вазілі па гарадах і весях Неабсяжнай. Малюта, не бясплатна, вядома, імітаваў у ягоным штабе кіпучую дзейнасць, накіраваную на падтрымку дзяржаўнага прэтэндэнта з боку адной з самавітых грамадскіх арганізацыяй.

Пераступіўшы парог прыёмнай першага намесніка кіраўніка Адміністрацыі (а менавіта такую пасаду пасля дзіўнай перамогі на дзіўных выбарах заняла, па пратэкцыі ўсёмагутнай дачкі Цара, ягоная знаёмая), ён вымавіў:

— Дабрыдзень, я — Малюта Скураш, мне прызначана сустрэча.

— Дабрыдзень, Малюта Максімавіч, прысаджвайцеся, калі ласка, — на Малютава здзіўленне, расплылася ў самай сардэчнай усмешцы сакратарка. — Перамога Ігараўна вас чакае, зараз дагаворыць па тэлефоне, і я дакладу. Вам гарбату ці каву?

— Усё роўна, — апускаючыся ў крэсла, адказаў ён.

— Хвіліначку, хвіліначку, падаецца, ужо вызвалілася. Перамога Ігараўна, у прыёмнай Скураш Малюта Максімавіч. Добра. Праходзьце, калі ласка, — махнула рукой усмешлівая сакратарка і, паклаўшы на рычаг трубку ўнутранай сувязі, дадала: — Я зараз звару вам кавы і прынясу.

Таніна выйшла з-за стала і па-сяброўску абняла Скураша.



— Прывітанне, добра выглядаеш, загарэлы нейкі, дзе быў?

— Дабрыдзень, Перамога Ігараўна, куды ж вы ўсё маладзееце? Нават нязручна пры такім самавітым кабінеце. Не, не лісліўлю, выгляд і экіпіроўка на ўсе пяць!

— Кінь ты з сябе кондавага салдафона курчыць, — вяртаючыся на сваё месца, з усмешкай вымавіла чыноўніца. — Ну прысаджвайся, распавядай: як жывеш, чым займаешся?

— Ды так і жыву, хлеб жую, — адазваўся Скураш, — хто за што плоціць, тое і раблю…

— Я чула, ты Плаўскаму партыю ствараць дапамагаў, а цяпер яго губернатарскія выбары кансультуеш?

— Не без таго, жыць жа на нешта трэба? Праўда, у апошні час, калі перамога стала яснай, як божы дзень, там і без мяне кансультантаў хапае, нават з лішкам.

— Вы там часам не пасварыліся? — зазіраючы ў вочы Малюту, насцярожана пацікавілася гаспадыня кабінета. — Вось табе і каўку прынеслі, а заадно, можа, і мне кубачак перападзе з нагоды?

— Перамога Ігараўна, імбрык вялікі, на ўсіх хопіць, — стрэльнуўшы ўбок Скураша вочкамі, прашчабятала сакратарка і, відавочна дэманструючы хадой свае доўгія ногі і гонкія сцёгны, накіравалася да дзвярэй.

— Ох! Ох! Ох! — з ухмылкай гледзячы ёй услед, з’едліва праспявала Таніна. — Я яе сапраўды калі-небудзь выганю. Мужыкі да мяне прыходзяць, а яна іх усё сіліцца да сябе ў пасцель зацягнуць. І што яна ў табе такога знайшла, можа, і мне варта прыгледзецца? А то з гэтай працай ужо і забываць пачынаю, што баба. Ты хто па задыяку?

— Скарпіён, — чамусьці злёгку збянтэжыўся Малюта.

— Ну, тады ўсё зразумела. Глоба гаворыць, што мужыкі гэтага знаку добрыя палюбоўнікі. Класная кава, праўда?

— Наколькі я памятаю, гэта вы можаце па-сапраўднаму ацаніць чорны напой, а для мяне вялікай розніцы няма, што заварная, што рашчынная, усё роўна пасля яе мяне да сну хіліць, — узрадаваўся змене тэмы Малюта. Паміж тым Таніна працягвала яго ўважліва разглядаць.

— Дык калі ты, гаворыш, з Плаўскім сустракаўся?

«Даўся ёй гэты Плаўскі, я, здаецца, і не гаварыў, што з ім сустракаўся. Трэба неяк вызначыцца, наколькі варта з ёй быць адкрытым, мяркуючы па ўсім, гутарка маецца быць сур’ёзнай», — рахаваў Малюта.

— Ды не бачыліся мы ўжо даўно. Як першы тур пачаўся, так ён у Маскве і не быў, а ў Ясейск я не лётаў. Па тэлефоне размаўляў дзесьці тыдні два таму назад…

— Не пра мяне, часам? — нечакана спытала Таніна.

— Ды не. З чаго б? — здзівіўся Малюта. — Ён, па-мойму, і не ведае, што мы знаёмыя…

— А ты што, не чуў? Ён жа, якраз дзесьці з паўмесяца назад, назваў мяне ў адным тэлеінтэрв'ю «легкадумнай дзяўчынкай з ружовым бантам». І ўяўляеш, менавіта ў гэты дзень я прыцягнулася на нейкі прыём у ружовым гарнітуры і з ружовай фінціфлюшкай на галаве. Стаім усім гуртам ля вялізнага тэлевізара, энтэвэшныя навіны глядзім. Усе ж хвалююцца: што там у Ясейску? Ці табе тлумачыць: губерня ключавая, ад яе да Масквы адзін крок! І тут гэты твой гусак як зараве пра ружовую дзяўчынку, якая робіць яму падкопы і лье ваду на млын ягонага асноўнага канкурэнта. Ты ўяўляеш, што было далей на гэтым грэбаным фуршэце! Усе ледзь са смеху не пападалі! Мне потым гаварылі, што яму нейкая сука падказала, быццам у мяне ёсць ружовы гарнітур! А я потым дома ў істэрыцы да раніцы білася, гарнітур гэты, дарагушчы, дарэчы, уласнаручна спаласавала нажніцамі і ў смеццеправод спусціла. Нараўла-а-ся! Ну і што ён пасля гэтага, мужык? Так яго ў вайсковых акадэміях вучылі да жанчыны ставіцца? Не паверыш, як успомню, дык дагэтуль калоціць.

— Ды кіньце, Перамога Ігараўна, проста выпадковае супадзенне, а на язык ён сапраўды востры і нястрыманы. Вы б чулі, якія ён перлы ў Парыжы перад вышэйшым светам старой рускай эміграцыі выдаваў. Князі, графіні, пабітае моллю дваранства, усе ў старэчым маразме, ахкаюць-охаюць: ах генерал, ах будучы Калчак, ах вызваліцель Расіі, ах рускі Дэ Голь! Ну наш міратворац размяк, на радасці ладна махануў праўдзівага французскага каньячку ды і ўрэзаў высакароднаму збору з усёй пралетарскай нянавісцю ўсё, што ён пра іх думае і як ацэньвае іх нядаўнія захапленні Горбі і нашым прэзідэнтам. А напрыканцы для пераканаўчасці яшчэ і вельмі непрыстойным характэрным жэстам прадэманстраваў, як ён будзе іх усіх мецць.

— Жах які! — пляснула рукамі Перамога. — Ён жа тады быў Сакратаром Рады нацыянальнай стабільнасці! Вышэйшы дзяржаўны службовец! Вось ганьба! Ні сораму, ні сумлення, далібог! І што, няўжо так прама і паказаў?

— А што яму было губляць? — пацiснуў плячыма Скураш. — Ён ужо, мабыць, адчуваў, што яго хутка прыбяруць. Ды і Бог з ім, хоць ён у яго і не верыць. Перамога Ігараўна, вы хоць злітуйцеся, скажыце ўжо, навошта выклікалі, а то я, пакуль ляцеў дадому, сабе ўсе мазгі скруціў.



— А, дарэчы, дзе гэта ты быў? У Ясейску ці што?

— Няўжо я б вам стаў так нахабна хлусіць? Вы толькі тэлефонную трубку зніміце, і вам тут жа дакладуць, куды і нават з кім я лётаў. Восеньскімі Кара-Кумамі вырашыў палюбавацца, служыў я там калісьці вельмі даўно.

— Штохвілі не лягчэй! Скандал з шэльфам і газавікамі, нябось, твая работа?

Малюту ажно ў пот кінула.

— Ды якія яшчэ газавікі, я з былымі вайсковымі сябрамі тры дні так газаваў, што дома сабака ад выхлапу ледзь не задушылася. Дык навошта ўсё-ткі вызвалі, Перамога Ігараўна? — другі раз паспяшаўся адысці ад небяспечнай тэмы Малюта.

— Ты паглядзі на яго! Праўды абцугамі не выцягнеш! А ўсё мкнецца да сценкі прыперці бедную жанчыну. Навучылі вас у акадэміях, што лепшая абарона — нападзенне, вось вы і пхнецеся. А наконт Захерава і ягонага газу — і хрэн з ім, можа, хутчэй папруць, а то ўжо зусім закраўся, усякі сорам страціў. Так што наконт шэльфу? Каліся.

Малюта ніякавата памешваў у кубачку кававую гушчу.

— Крыўдна, — пахітала галавой Таніна, — выходзіць, не давяраеш. А тое, што гэтая справа без цябе і тваіх сябрукоў не абышлася, мне і так ясна, тут і да варажбіткі хадзіць не трэба. Грошай хоць прыстойна зарабіў?

— Ды кажу ж я вам… — тужліва зацягнуў старую песню Скураш.

— Добра, — скаланула галавой Перамога, — не давяраеш мне, хлусі далей. А я вось табе, паміж іншым, збіраюся даверыцца. І не проста нейкія там бабскія соплі, а сапраўды важную для краіны справу. Мне цябе, дарэчы, станоўча рэкамендавалі вельмі розныя людзі, нават дзіўна! Я сапраўды ведаю, што некаторыя з іх адзін аднаго на дух не пераносяць, а пра цябе гавораць добра. А гэта, ведаеш, у нашых колах паказчык. Адным словам, паручылася я за цябе перад кіраўніцтвам, падвядзеш — галавы мне не знасіць! У Ясейскім краі вось-вось другі тур выбараў, тое, што Плаўскі яго выйграе, зразумела ўсім. Стаўленне твайго былога начальніка да Крамля і да мяне, у прыватнасці, мякка гаворачы, храновае. Я разумею, можа, у яго на тое і ёсць свае цалкам аб'ектыўныя падставы, але па-іншаму ні я, ні хто-небудзь іншы паводзіць сябе не маглі, ды і права не мелі. Хочаш, буду да

канца з табой шчырай? — Скураш намаляваў нявызначаны жэст, а яна працягнула: — Ва ўсім, што з ім здарылася паўтара года назад, вінаваты толькі ён сам і яго вар'яты дарадцы. Яны чамусьці вырашылі, што ўлада ўжо звалілася прама ім у рукі, зазнач, цалкам беспадстаўна вырашылі, грунтуючыся выключна на адной ім вядомай логіцы. Няўжо цяжка было пралічыць, што мільёны, якія хтосьці ўклаў у яго трэцяе месца, патрабуюць вызначанай адпрацоўкі. Тое, што ён сам у кагосьці браў, гэта — драбкі! На іх мы і ўвагі не звярталі, а вось асноўную масу, — яна на секунду шматзначна запнулася, маўляў, ацані ўсю важнасць моманту, — нават аддаваць або адпрацоўваць ніхто не патрабаваў. Проста трэба было маўчаць і выконваць свае абавязкі, і ўсё! Разумееш — усё! Ганаровае званне выратавальніка Айчыны і Трону былі б яму забяспечаныя, з усімі выцякаючымі адгэтуль дывідэнтамі ў будучыні. Гэтага ад яго чакалі, на гэта спадзяваліся. Ведаеш, не я адна, многія тады ў ім расчараваліся. Але ўсё гэта лірыка, — Таніна відавочна сердавала, і яе настрой патроху пачынаў турбаваць Малюту. — Дык вось, сёння сітуацыя не меней складаная, сёння яму зноў можа выпасці казырная карта, і ён сапраўды пацвердзіць сваё званне поўнага ідыёта, калі гэтага не зразумее. Ну, па-першае, нам лішняй напружанасці ў краіне не трэба; падругое, будучыя выбары не за гарамі. Вось і рабі высновы. Што было, тое прайшло, аднак адносіны з кіраўніцтвам найбуйнога і знакавага рэгіёна выпраўляць нам, хочаш ты таго ці не, усё ж прыйдзецца. Так што ляціце, Малюта Максімавіч, у Сібір і паспрабуйце ўпэўніць Плаўскага ў неабходнасці сустрэчы са мной. А я ўжо, наступіўшы на горла сваёй крэўнай крыўдзе, пастараюся правесці яго ўсюды, дзе трэба. Разумееш, пра што я гавару? — Перамога імпэтна ўстала з-за стала і прынялася хадзіць па кабінеце. — Сёння гэта вельмі важна! Чаму? Можа, калі-небудзь і распавяду. І галоўнае, — Таніна, упёршыся рукамі ў вечка прыстаўнога століка, прысунулася ўшчыльную да застылага ад напругі Малюты, — сустрэча павінна абавязкова адбыцца да інаўгурацыі. Вылазь са скуры, круціся ваўчком, абходжвай каго хочаш, але ў Маскву яго дастаў!

— Лёгка сказаць дастаў! — У Скураша ажно голас ахрып. — Самі ж гаворыце, што дурноты ў яго хоць адбаўляй, калі ўпрэцца — пустая справа. Аднак паспрабаваць можна, — раптам вырашыў Малюта. — Толькі тады… з вас камандзіровачныя і ганарар.

— Ну, ты зусім знахабіўся! Можа, табе яшчэ і камандзіровачнае пасведчанне выпісаць, а ты яго ў Плаўскага ў штабе адзначыш і да справаздачы прыкладзеш? А потым, паважаны таварыш, вас ужо з паўгода як са штату вывялі…

— А ксіва дзейнічае… — усміхнуўся Скураш.

— Папрасіў за цябе народ, вось і дзейнічае, — з відавочным гонарам у голасе заявіла Перамога. — Грошай дам. — Яна дастала з шуфляды стала даўгаваты канверт. — Тут трохі, толькі на квіткі і гасцініцу. Пра ганарар пагаворым, калі вернешся, — і, памаўчаўшы, нібыта падрахоўваючы, ці варта гэта гаварыць, дадала: — Малюта, ад вынікаў тваёй паездкі будзе залежаць вельмі многае, і, першым чынам, для цябе асабіста.

4

Ствралася ўражанне, што Ясейск рыхтуецца да грамадзянскай вайны. Па горадзе дзень і ноч грукатала музыка і абчэпленыя перадвыбарнымі слоганамі-плакатамі грузавікі. Нанятыя байкеры са сцягамі кандыдатаў на піках насіліся па наваколлі, як рэвалюцыйныя самакатчыкі. На скрыжаваннях буйных гарадскіх магістраляў і плошчах ішлі бясконцыя мітынгі. Прамоўцы, змяняючы адзін аднаго, палівалі сваіх апанентаў на чым свет стаіць, іншы раз слоўныя баталіі пераходзілі ў сапраўдныя калатнечы, чуліся надрыўныя жаночыя крыкі, гулі міліцэйскія сірэны, заліваліся свісткі, гумовыя палкі глуха малацілі па згорбленых спінах. Больш за ўсё ў гэтых калатнечах даставалася ветэранам вайны і пенсіянерам, яны са сваімі чырвонымі сцягамі ўкліньваліся ў першы сустрэчны мітынг і пачыналі складна скандаваць: «Ельцынскую банду пад суд!»; «Жыда-масоны, вон з Русі святой!»; «Бяззубаў! Вярні ўкрадзенае ў народа!»; «Паплавок — стаўленік Масквы!».

Мітынгоўцы кідаліся пераконваць «краснапузых», і кожны імкнуўся перацягнуць іх на свой бок. Але старыя, якім усё роўна дома рабіць было няма чаго (моладзь дзяцей не нараджала, а саджаць бульбачку і капацца ў агародзе было яшчэ рана), упарта стаялі на сваім, і калі што, натапырыўшыся тронкамі сцягоў, яны, як ратнікі на Куліковым полі, імгненна з «Інтэрнацыяналам» пераходзілі ў наступ. Калі налятала міліцыя і ўсе кідаліся ўрассыпную, старым часам даставалася. Потым, у машыне хуткай дапамогі, нюхаючы нашатыр і глынаючы слёзы, яны горка скардзіліся маладзенькім медсястрычкам з абыякавымі вачыма на свае старэчыя юдолі, а ім усё паўтаралі, маўляў, сядзелі б вы лепш дома, цалейшымі былі б. Але ім не хацелася сядзець

дома, ім хацелася павагі да іхняй старасці, галоднага дзяцінства, страшнога юнацтва і прасякнутай чорным потам сталасці.

Аднак, як ні дзіўна, паступова большасць з іх перайшла на бок Плаўскага.

Варта толькі заходняму сонцу крануць навакольныя ўзгоркі, як сібірская амаль белая ноч накрывала горад, які расцягнуўся ўздоўж вялікай ракі, а на яго вуліцах з'яўляліся падпольшчыкі — адмыслова нанятыя каманды, што расклейвалі левую і іншую крамольную агітацыю. Чаго толькі агаломшаныя гараджане раніцай не дазнаваліся пра кандыдатаў у губернатары! Як ужо тут разабрацца, дзе праўда, дзе паўвыдумка, а дзе галімая хлусня! Падлівалі масліца ў агонь і цэнтральныя СМІ. За тыдзень да паўторнага галасавання аўтарытэтная маскоўская газета «Сакрэтныя навіны» добрую палову прысвяціла асобе Бяззубава, які, аказваецца, усё жыццё змагаецца са сваёй прыцiснутай гомасэксуальнасцю ды іншымі прыроджанымі комплексамі. Мазгі ў простага грамадзяніна кіпелі, як паравыя катлы, гатовыя ўзарвацца ў любую хвіліну. Але самае страшнае, што адбылося з жыхарамі найбагацейшага краю, гэтай некалі вялікай лагернай дзяржавы, дык гэта тое, што ў іхніх душах пасялілася смута. Падзяліўшыся на пралетарска-сялянскую большасць, устойлівую ўладна-прыватызатарскую меншасць і вечную праслойку-прастытутку разумнікаў ды творчага люду, край літаральна тануў у атмасферы ўсеагульнай нянавісці і злосці. Узгадаліся ўсе старыя крыўды, бязладзіца, зайздрасць, кожны спадзяваўся ўрваць хоць што-небудзь для сябе. Верагодна, так заўсёды бывае ў смутныя часіны, а смута на Русі, так ужо павялося, як правіла, заканчваецца бунтам або рэвалюцыяй. Дзікі праляткультаўскі вершык дваццатых гадоў «Ёсць ісціна адна на свеце: бацькі ў крыві — ў дастатку дзеці!» смутна бударажыла і без таго не заўсёды цвярозыя розумы ясейцаў, вока ліха касілася на сякеру або каністру з бензінам, а рукі так і свярбелі нястрымным свербам.

Да паўторнага галасавання заставалася крыху больш за суткі.

Малюту ў аэрапорце сустракалі добрыя знаёмыя, якія працягвалі верай і праўдай служыць Плаўскаму. Нарэшце, добра наабдымаўшыся і выпытаўшы ў Малюты гарачыя сталічныя навіны, усе раз'ехаліся па сваіх справах.

Маленькі вёрткі праварукі аўтобусік імчаў па адносна ніштаватай ясейскай дарозе. Даўно заўважана, што чым далей на Усход ад Урала, тым «больш касавокае насельніцтва і праварукія машыны». Вось толькі небяспекі гэтай відавочнай ісціны дагэтуль ніяк не могуць ацаніць Крамлёўскія аналітыкі і стратэгі, ісціны, якая можа лёгка абвінуцца той самой трагедыяй, пра якую так праніклівa пісалі катаржнікі Патанін і Ядрынцаў.



— Малюта, ну як там Масква на нашыя поспехі рэагуе? — церабіў яго Валерка Ліцвінаў, з якім іх яшчэ ў даўнія часы звёў лёс вайскоўцаў-журналістаў. — Пэўна, усе ў перадпаносным стане?

— Маскве, Валер, усё абсалютна да дупы! — пацiснуў плячыма Скураш. — Ну Старую плошчу і Засценкі, вядома, злёгку ліхаманіць. Яшчэ б, столькі бабак у Бяззубіка ўбухалі, і ўсё на вецер! А тут што? Як шэф? Хто са старой каманды побач?

— Ведаеш, я ў іхніх штабных раскладах не вельмі моцны. Мне камандзір нарэзаў казакоў і адзін з далёкіх заходніх раёнаў, у якім я, у асноўным, і знаходжуся. За свае вынікі я спакойны, а ў штабе смута нейкая. Да першага тура ўсім рулiў Віктар Папоў, ты яго па Радзе павінен памятаць, доўгі такі…

— Вядома, памятаю, адданы Плаўскаму чалавек. Мы тады, у дзевяноста шостым, удвух з ім і засталіся побач з шэфам, калі яго арыштоўваць збіраліся. Праўда, яшчэ Санька Укольнік скрыні пакаваў і з-пад носу ў фэсэошнікаў выцягваў. Дарэчы, як ён тут?

— Нармалёва, на штатнай пасадзе ад'ютанта. І братан яго тут, а калі Папова пагналі за тое, што з першага тура не перамаглі, і іхні дзядзька Чарнамор аб'явіўся. Цяпер яны з Марынай усім і запраўляюць у штабе. Асабіста мне неяк без розніцы, хто там верхаводзіць, галоўнае, каб па грашах разлічыліся, а то пакуль трэці тыдзень пад сумленнае слова працуем, — злёгку нахмурыўся Ліцвінаў, але тут жа ягоны твар асвяціла шырокая ўсмешка. — А ты таксама добры гусак, мог бы мне і патэлефанаваць, што прылятаеш.

— Спрабаваў, усё без толку. Твой маскоўскі адключаны, а хатні не адказвае. — Малюта сцягнуў плашч і кінуў яго на суседняе сядзенне. — Паслухай, а ў вас што, усе за грошы працуюць? Ідэйных, значыць, зусім няма? А Плаўскі ж ва ўсіх газетах трубіць, што ён на выбары пайшоў з адной дэсантурнай цяльняшкай і адданымі аднадумцамі, — падчапіў ён сябра.

— Давай, давай падшпільвай! Ты, я вунь бачу, таксама прыляцеў пенку здымаць! — насупіўся былы калега. — Ды нешта ранавата, асноўны дэсант масквічоў чакаецца ў нядзелю. На трыумфальнае, так сказаць, рахаванне. Але ты ў нас, вядома, заўсёды шустрым быў.

— Якімі мы ўсе тут нервовымі сталі, ледзь што — і адразу ў бутэльку! Ты яшчэ на мяне надзьміся! Не збіраюся я ні ў кога ні хлеб, ні пасады будучыя адымаць, як прыляцеў, так і палячу. Адкуль ты ведаеш, можа, я са спецмісіяй прыбыў — вывезці Бяззубава, які прайграў, каб вы яго ў пераможным запале не задралі, на радасць мясцоваму народанасельніцтву.

Ліцвінаў зрабіў няшчырую грымасу і адкінуўся на сядзенне.

— Ды гэтага мудака хоць сёння можаш везці. Вось ужо хто цалкам адпавядае свайму прозвішчу. А наконт пасадаў, ты ж ведаеш, шэф многае абяцае, ды Чарнамор усё спрытна ўразае. І адкуль ён яго толькі выкапаў? Вось ужо сапраўды смаржок паганы. Ды добра, усе гэтыя інтрыгі ніколі і не канчаліся, галоўнае ў іншым. Галоўнае, Малюта, перамога! Уяўляеш, мы змаглі перамагчы Маскву! Усю гэтую зарваную зграю, што яны толькі тут ні рабілі, каго толькі не засылалі, а мы іх усіх зрабілі. Малайчына, генерал! Прыгналі Алу Пугачову, яна тыдзень па сельскіх клубах у славу Бяззубага спявала, а перад самым ад'ездам, ужо амаль на трапе, яе пытаюць журналісты, прычым зазнач, не нашыя, чужыя журналюгі: «Ну і ўсё-ткі, за каго б вы самі прагаласавалі, Ала Барысаўна?» І ты ведаеш, што яна ім адказала?

— Паняцця не маю, калі памятаеш, я тэлік ужо гадоў дзесяць не гляджу.

— Дык вось прыма, не міргнуўшы вокам, заяўляе, што агітавала яна сапраўды за кандыдата Веніяміна Сямёнавіча Бяззубава, за каго ўсіх і заклікае галасаваць, але сама б яна, як жанчына, значыць, аддала б свой голас генералу. Ён, маўляў, сапраўдны мужык. Уяўляеш, што тут пачалося?! — засмяяўся Ліцвінаў. — А калі Ален Дэлон прыляцеў, тут усё — і рэкі, і горы, і тундра — на вушах стаяла! А ён, прыгажунчык, стаіць побач з шэфам, аўтографы раздае, усміхаецца — гэта, гаворыць, ваш рускі Дэ Голь! Усё, Малюта, цяпер нас хрэн хто спыніць! Гэта надзея, надзея, разумееш? — Валер прайшоўся рукой па ўскудлачаных валасах. — Ды і чорт з імі, з гэтымі грашыма, якія былі асабіста мне абяцаныя, галоўнае, каб яны з актывам разлічыліся! А я хачу працаваць з ім і далей, разумееш, працаваць! Я на Плаўскага паставіў сваю будучыню і, паміж іншым, такіх, як я, мільёны! Мне сапраўды падаецца, што ён змож ратаваць Расію. Ды і ці мне табе гэта гаварыць, я ж выдатна ведаю тваё да яго стаўленне! Добра, цяпер едзем у штаб…

Скураш з непрыхаванай радасцю глядзеў на старога сябра, паступова зараджаючыся ягоным запалам.



— Ведаеш, давай спачатку ў гасцініцу, час ранні, можа, які-небудзь нумар сабе вырваць паспею. З Масквы спрабаваў замовіць, без толку. Усё занята і ў «Ясейску», і ў «Кастрычніцкай», толькі па выпісе.

— Ну, «Ясейск» — гэта варожы лагер, — кіўнуў галавой Ліцвінаў, — там твае крамлёўскія калегі змрочны адхадняк святкуюць. Цяпер Сані Укольніку патэлефануем, і ўсе пытанні вырашацца. Я яго папярэдзіў, што паеду цябе сустракаць, ён, пэўна, ужо і камандзіру даклаў. Давай, Ілля, спачатку ў «Кастрычніцкую», — аддаў Ліцвінаў каманду кіроўцу і дадаў: — там наш лагер.

— Ды вы тут сапраўды разгарнуліся: тут чырвоныя, там белыя, і няма дзе беднаму падарожніку каня напаіць, — трасянуў галавой Малюта. — Ганна Аляксандраўна з шэфам?

— Тут ужо даўно, яны амаль увесь час разам. Парай класна глядзяцца. Добра, хутка сам усё ўбачыш. — Зазваніў тэлефон. — Ліцвінаў. Слухаю.

«Армейшчыну з нас палкай не выб'еш, — разглядаючы сябра, падумаў Малюта, — даўно я яго такім акрыленым не памятаю, хіба што пасля Белага Дома, дзе ён са сваімі казакамі спрабаваў абараняць апору народаўладдзя ў чарговы раз ашуканай Расіі. Хоць што ёрнічаць, калі ты і сам застаўся ў душы адданы Плаўскаму і на яго спадзяешся. Вядома, губернатарства — гэта ўсяго толькі этап нарошчвання мускулатуры, а далей час пакажа. З Плаўскім загад небагат…»

— На, з Укольнікам пагавары, — перапыніў ягоны роздум Валер і працягнуў мабільнік.

— Прывітанне, Саша.

— Добрай раніцы, Малюта Максімавіч! Я ў гасцініцы. Чакаю. Вып'ем каўкі. Шэф прачнецца, пойдзем да яго, ён учора позна вярнуўся. Аб вашым прыбыцці яму Аляксей Віктаравіч далажыў, ён вас таксама чакае.

## 5

Аляксей Віктаравіч Старыкаў быў самай таямнічай і незразумелай фігурай у асяроддзі Плаўскага. Сярэдняга росту, хударлявы, злёгку касабокі, з бясколерным, пагнутым тварам, таму рот прыкметна крывіўся, а вусны, згортваючыся ў трубачку, выплёўвалі шапялявыя і пры хуткім вымаўленні цяжка зразумелыя словы. Шэры, нібы ніколі не ведаў сонца, твар быў

маларухомы, меланхалічны і поўны невытлумачальнай скрухі, якая палохала. За некалькі гадоў знаёмства Малюта толькі аднойчы бачыў на ягоным твары нейкае падабенства ўсмешкі. Затое ў гэтага змрочнага і нелюдзімага чалавека былі незвычайна выразныя, злёгку раскосыя чорныя вочы, якія, здавалася, часам свяціліся знутры ненатуральным, гіпнатычным святлом. Маршчыны і ранняя сівізна гаварылі аб нялёгкім жыцці, якое выпала на яго долю.

Аляксей Віктаравіч ніколі ні з кім не размаўляў прылюдна. Ён абавязкова адасобліваўся, замыкаўся, сыходзіў з памяшкання і нешта хутка нашэптваў суразмоўцу, пранізваючы яго ліхім поглядам. Асабліва непрабіўны ён быў з жанчынамі, часам нават падавалася, што ён іх таемна ненавідзіць. Або баіцца. Адзінай прадстаўніцай слабога полу, якую ён трываў і нават, стваралася ўражанне, паважаў, была нейкая Марына Якаўлеўна, счаўрэлая, але няблага складзеная дама, з такім жа, як і ў Старыкава, бясколерным тварам і абсалютна невыразнымі, па-птушынаму пустымі вачыма. Ад яе заўсёды веяла холадам і пыхай. Чуткі прыпісвалі Марыне Якаўлеўне незвычайныя фінансавыя здольнасці і цудоўнае веданне сучаснага эканамічнага свету. Трэба сказаць, што разам гэтая парачка глядзелася жудаснавата і была больш падобнай на дасведчаных змоўшчыкаў-аферыстаў. Ніхто не ведаў, чым яны глянуліся Плаўскаму, але цягаў ён іх за сабою ўсюды. Да гэтых дваіх прымыкалі браты Укольнікі, якіх усе чамусьці лічылі пляменнікамі Старыкава, многія нават знаходзілі ў іх нейкія падобныя рысы.

Акрамя гэтага, у групу «цёмных сілаў», як яе ахрысцілі набліжаныя да генерала вайскоўцы, уваходзілі яшчэ тры і зусім экзатычныя асобы. Кудлаты, нячэсаны і заўсёды неахайна апрануты вядзьмак Якаў і яго памагатая Гэла, высокая, даволі эфектная дзяўчына з ярка-рудымі валасамі. Ім нязменна адводзілася асобнае памяшканне, якое яны за пару дзён запаскуджвалі да неабходнасці поўнага рамонту, развешвалі па сценах кабалістычныя знакі, карты зорнага неба, сталы завальвалі паперамі з астралагічнымі схемамі, кнігамі па чорнай магіі, шаманству ды іншай дрэнню. Па кутах на падлозе стаялі шарападобныя акварыумы, у якіх пад цьмянымі лямпамі поўзалі вялізныя чорныя скарпіёны, яшчаркі і іншае паскуддзе. Акно, нібы павуцінай, было зацягнута пыльнай шэрай марляй, а пад ім стаяла пастаянна ці то канапа, ці то тапчан. Без адмысловай патрэбы ў гэты па-булгакаўску нядобры пакой заходзіць ніхто не



любіў. Праўда, яшчэ ў Маскве, калі штаб-кватэра гнанага генерала знаходзілася ў старадаўнім будынку побач з Траццякоўкай, Малюта, праходзячы паблізу злапомных дзвярэй, часцяком чуў працяглыя стогны Гэлы, гучнае сапенне Якава і жаласнае рыпанне тапчаністай канапы. «Нядрэнна яны там варожаць», — з лёгкай агідай думаў ён, на хвіліну ўявіўшы сцэну мілосцяў у асяроддзі скарпіённа-яшчарнай брыдоты.

Завяршаў гэтую галерэю стары, бяскрыўдны, лысаваты габрэй з круглымі на выкаце вачыма, рэдкай бародкай, ад нараджэння спалоханым тварам, заўсёды мітуслівы няўмека Арон Майсеевіч Басір. Ён значыўся па гаспадарчай частцы і стала скардзіўся на ўціск і несправядлівасць, спрычыняныя яму ледзь ці не ўсім светам. Амаль усе, хто сутыкаўся з гэтымі людзьмі, шчыра здзіўляліся, навошта яны былі патрэбныя Плаўскаму, але, ведаючы яго круты і злапомны нораў, пытаць не рашаліся. Ёсць яны, ну і ёсць! А ў каго цяпер няма прыдворных ведзьмакоў, прадказальнікаў, прадракальнікаў, астролагаў і іншых чарадзеяў? Вядома, гэтая сумленная гоп-кампанія ў поўным складзе ніколі на вялікай публіцы не з’яўлялася, у чым, пэўна, і складалася сутнасць прыдворнай інтрыгі. Чым вышэй падымаўся ў краіне аўтарытэт Плаўскага, тым больш людзей залучалася ў яго арбіту і тым большай іх колькасці патрабаваўся, так сказаць, доступ да яго цела. А доступ гэты пільна кантралявала цалкам падуладнае Аляксею Віктаравічу кола.

Трэба сказаць, Малюта, праз сваю прыроджаную талерантнасць, быў з гэтай камандай у самых добрых адносінах. Ён мог, чакаючы, пакуль вызваліцца шэф, доўгую гадзіну слухаць Арона Майсеевіча з выразам непадробнай цікаўнасці на твары, чым дастаўляў таму відавочнае задавальненне. Ён не забываў нахвальваць празорлівасць Якава і, калі падхінаўся прыдатны выпадак, адкрыта падлашчваўся з Гэлай, ад чаго тая імгненна заводзілася і, падобна, была відавочна не супраць зацягнуць яго ў свае вядзьмарскія палацы. Аднак прысутнасць там казурак, хоць і роднасных яму па знаку, ды сімпатый не памнажаючых, ягоны запал начыста астуджвала, і ён усякі раз граматна змываўся пад самай добрапрыстойнай прычынай. І толькі аднойчы яму ўсё ж не ўдалося вышмыгнуць ад рудавалосай, бо здарылася гэта прама ў ліфце…

З Аляксеем Віктаравічам у Скураша былі свае адмысловыя адносіны. Пасля выгнання Плаўскага са Старой плошчы Малюта па-ранейшаму працягваў круціцца ў звыклых яму колах

палітыкаў, журналістаў, дэпутатаў і сярэдняй рукі чыноўнага люду, так што іншы раз за дзень яму атрымлівалася вывудзіць вельмі каштоўную і цікаватую для Плаўскага інфармацыю.

Проста дзіўна, якія даверлівыя і поўныя мужнасці нашыя людзі! Б'е іх жыццё, б'е, а яны ўсё роўна застаюцца патрыётамі, клапоцяцца пра лепшую будучыню сваёй зняважанай і апаганенай зямлі. Гэта цяпер нешта адбылося з народам, ён абвяў, замкнуўся ў сабе, стаіўся і зусім страціў надзею, усвядоміўшы, што больш ад яго нічога не залежыць, а тады, восем гадоў назад, усе былі адважнымі, актыўнымі, яшчэ ў нешта верылі і марылі. На гэтых марах краіну падлавіў і апусціў бессаромна былы абкамавец са сваёй пражэрлівай сямейкай.

Многія, даведаўшыся, хто такі Малюта і на каго працуе, прама прапаноўвалі свае паслугі і гатовыя былі выконваць любыя даручэнні, абы дапамагчы Плаўскаму вярнуцца ў вялікую палітыку. Народ быў, вядома, розны, падыходзілі і акцёры, і палітыкі, якія не хацелі свяціцца ў прамых кантактах з апальным генералам, і свой брат, журналіст, і мянты, і чэкісты. Адзін з іх, так, па сяброўству, бывала, прыцягваў вельмі каштоўныя звесткі ледзь ці не літарнага характару. Дык вось, нейкай часткай сабранай інфармацыі Скураш і дзяліўся з Аляксеем Віктаравічам, і не толькі з ім адным, але і з тым жа Паповым, і з Абрушкам, які перавандраваў з Рады ў крэсла кіраўніка апарата партыі. Словам, адносіны Малюта выбудоўваць умеў, яго шанавалі, хацелі мець з ім сяброўства, і ўсякі лічыў яго сваім чалавекам. Адзінай, з кім у яго ніяк не ладзіўся кантакт, была Марына.

Скураш неўзаметку выпаў з агульнай каманды дзесьці неўзабаве пасля ўстаноўчага з'езду Расійскай народна-рэспубліканскай партыі, якую Плаўскі, употай ад шырокіх масаў, спрабаваў зрабіць па вобразу і падабенству амерыканскага аналага, нават цішком сустракаўся з некалькімі кангрэсмэнамі і паліттэхнолагамі рэспубліканцаў. Ледзьве яго адгаварылі запрашаць падобных спадароў на сам з'езд, хоць тэлеграму ад амерыканскага амбасадара, заўзятага рэспубліканца, урачыста зачыталі.

## 6

Трэба сказаць, пад'язджаючы да былой крайкамаўскай гасцініцы, а імя «Кастрычніцкая» ў былыя часы мелі ўсе без выключэння падобныя ўстановы ва ўсіх рэгіёнах, абласцях і



рэспубліках, Малюта злёгку хваляваўся. Ён не зусім уяўляў сабе, як складуцца яго новыя адносіны з былым шэфам.

Аднак Плаўскі, насуперак прадчуванням Скураша, прыняў яго як дарагога госця ў вялізнай гасцінай свайго гранд-люкса. Ведаючы, што Ганна Аляксандраўна ў горадзе, Малюта папярэдне заехаў у кветкавы павільён і, да свайго здзіўлення, выявіў там амаль маскоўскі выбар прывезеных з Галандыі раслін. Прымастаколіўшы вялізны букет на адной з раскошных канап, ён са шчырай радасцю абняўся з Плаўскім. Гутарка неяк адразу заладзілася, яны абодва відавочна былі радыя сустрэчы, так што Малюта неўзабаве расслабіўся і перастаў адчуваць няёмкасць. Яны ўладкаваліся ля вакна, за вялікім круглым сталом, сервіраваным да позняга снядання.

Плаўскі мала ў чым змяніўся за той час, што яны не бачыліся, хіба што злёгку схуднеў, твар загарэў, а ў вачах зноў засвяціліся іскрынкі рызыкі. Ён з натхненнем пачаў распавядаць аб сваёй барацьбе за сімпатыі народа. У мастацтве падабацца людзям ён быў відавочна моцны, і гэта яму падабалася, бударажыла кроў і вяртала былую ўпэўненасць у сваю неперамажнасць. Наогул, як здалося Малюце, вакол генерала ўсё было літаральна прасякнута натхненнем, эйфарыю выпраменьвалі не толькі ягоныя набліжаныя, але і абсалютна староннія людзі, нават маладзіцы за гасцінічнай стойкай і тыя прамянелі нейкай асаблівай радасцю.

Пададзеныя стравы аказаліся надзіва смачнымі, і мужчыны, відавочна разгарачаныя цікавай гутаркай, елі з хвацкім апетытам. Калі снядaнак падыходзіў да заканчэння, Малюта зусім ужо было памкнуўся выказаць мэту свайго прыезду, але тут, як на ліха, нібы баючыся надоўга пакідаць свайго начальніка без нагляду, намаляваўся ўсюдыісны Старыкаў, а літаральна следам за ім у пакой увайшла Ганна Аляксандраўна. Мужчыны падняліся.

— Спадар губернатар, — падхопліваючы цяжарысты букет, расплыўся ва ўсмешцы Малюта, — дазвольце мне ад усёй душы павіншаваць першую лэдзі краю з чарговай бліскучай перамогай яе мужа. — І не чакаючы адказу, уручыў даме кветкі.

— Дзякуй вялікае, вядома. Толькі вось не ведаю, ці варта загадзя… — пачала было Плаўская.

— Варта, паважаная Ганна Аляксандраўна, — самым паважным тонам перабіў яе Малюта. — Гэта я не ад сябе гавару, а, так сказаць, ад Масквы ўкленчанай.

— Я разумею, Малюта Максімавіч, што вы як заўсёды арыгінальныя! А што калі возьме вашая ўкленчаная ды і выдасць

што-небудзь у апошні дзень. Што тады рабіць будзеце, букецік назад забераце?

— А гэта, дарэчы, цалкам можа быць, — паспешліва ўмяшаўся Старыкаў, — у нас вунь другія суткі сядзяць гэтыя гаўрыкі, прадстаўнікі Цэнтрвыбаркама і яшчэ пару панурых тыпаў з адміністрацыі, усё нешта капаюць…

— Змяніцца ўжо нічога не можа, — катэгарычным тонам чалавека, надзеленага адмысловымі паўнамоцтвамі, перабіў яго Малюта, — а з «панурымі», калі вы, Іван Паўлавіч, дазволіце, я паспрабую пагаварыць сам.

Плаўскі басавіта хмыкнуў і пацісnуў магутнымі плячыма.

— Ну што ж, Малюта Максімавіч, пагаварыце, а то чаго ўжо тут напрыканцы без толку вушамі па шчоках пляскаць. За віншаванне дзякуй. Будзем лічыць, што Скураш прагнуўся першым, ты згодная, Ганна Аляксандраўна? — Плаўскі з ухмылкай зірнуў на Аляксея Віктаравіча, маўляў, упэўненей трэба быць, таварыш, вось бачыш, як старая гвардыя працуе.

— Наогул-то ў мяне да вас гутарка ёсць, Іван Палыч, — скарыстаўшыся зручным момантам, пачаў нарэшце Малюта, — пажадана б тэт-а-тэт.

— А Аляксей Віктаравіч нам не перашкодзіць? — кінуўшы на яго дапытлівы погляд, спытаў раптам Плаўскі.

— Ды не, вядома. Пытанне ўсё роўна патрабуе абмеркаванняў, — чакаючы такога павароту справы, адказаў Скураш. Сакрэтнічаць усё роўна не мела сэнсу, калі вакол Плаўскага круцілася столькі дарадцаў. — Лішняя разумная галава справе не перашкодзіць, — усцешыў ён наструненага Старыкава.

Уважліва выслухаўшы пераказ гутаркі з Танінай і ад душы пасмяяўшыся з ружовай гісторыі, Плаўскі ўставіў у муштук чарговую цыгарэту і вымавіў тонам, які не дапускаў пярэчанняў:

— Добра, перадайце Перамозе Ігараўне, я згодзен на сустрэчу. Супакойцеся, Аляксей Віктаравіч, — спыніў ён дарадніка, які відавочна парываўся нешта запярэчыць, — вайсковыя дзеянні на час згортваем. Людзям перадых патрэбен, ды і абозы трэба падцягнуць. Малюта мае рацыю: пакуль варта задружыцца, тым больш, не я іх аб гэтым прашу, а яны самі белы сцяг выкінулі. Увечары з гэтай нагоды цеснай кампаніяй вып’ем. Усё, вырашана. — Генерал падняўся, даючы зразумець, што аўдыенцыя скончаная. — У мяне зараз сустрэча з выбаршчыкамі, а вы давайце з масквічамі разбірайцеся.

З маскоўскімі гасцямі ўсё стала зразумела даволі хутка; аказваецца, ім паступіла ўжо каманда згортвацца і адпраўляцца дадому, а ў выпадку ўзнікнення якіх-небудзь непрадбачаных сітуацый нічога не прадпрымаць без дакладу Скурашу.



Пакруціўшыся тры дні ў асяроддзі будучага губернатара ажно да самых выбараў і шчыра перагрузіўшы печань у ноч падліку галасоў, Скураш, поўны ўражанняў і трывожных думак, вярнуўся дадому.

У самалёце яго суседам па бізнэс-класу быў намеснік былога губернатара Андрэй Міхайлавіч Шалейка, грузнаваты, хваравітага выгляду спадар, некалі загадчык краявых фінансаў. Шалейка відавочна пачуваўся да жудасці дрэнна. Верагодна, ад усяго разам: і ад выпітай з гора лішніцы, і ад прайграных выбараў; і ад здрады баязлівага шэфа, які напрыканцы выбарнага марафону стаў вінаваціць сваіх намеснікаў і паплечнікаў ва ўсіх смяротных грахах з абяцаннямі перасаджаць іх у турму, калі народ паўторна акажа яму давер; і ад бязладзіцы ў сям’і.

Усё гэта ён блытана распавёў Скурашу падчас пералёту: і пра сына, якога набрыдзь знарок на іголку пасадзіла, а ён у яго паследак, усяго толькі ў шосты клас пайшоў, і пра прастату, якая запалілася на нервовай глебе.

Правільна ацаніўшы сітуацыю, Малюта, не чакаючы міласці сцюардэсаў, рашуча наліў небараку, якога нават і ў дэпутацкую залу не пусцілі, поўны стаграмовы келіх каньяку са сваёй вернай срэбнай пляшкі.

— Ды нязручна неяк! — замахаў рукамі Андрэй Міхайлавіч. — У мяне ж таксама ў партфелі ёсць. І выпіць, ці ведаеце, і закусіць жонка збірала. А, ды добра! За знаёмства, ці што! Ух-ф! Добры каньяк. Французскі?

— Прыднястроўскі, з Цірасполя…

Аляксей Міхайлавіч ледзь не папярхнуўся:

— Як жа гэта вам не сорамна мяне такой атрутай частаваць? Хоць вы — пераможцы, вам ужо ўсё можна… Пагаворваюць, што да інаўгурацыі ваш гарлапан наогул збіраецца край аддаць на разрабаванне сваім прыднястроўскім янычарам.

— Будзе вам, якія янычары, генерал нічога падобнага сабе нават на вайне не дазваляў, ды і бандытаў у яго асяроддзі ніколі не было…

— Не было, дык ужо ёсць, — і, усвядоміўшы, што ляпнуў лішняе, Шалейка нахмурыўся і засоп. — А вы, уласна, кім будзеце новай уладзе? — дастаючы з-пад сядзення партфель, звярнуўся ён да Малюты.

— Нікім. Так, мінак, дакладней, стары калега.

«Што гэта ён так спалохаўся?» — цішком зірнуўшы на суседа, падумаў Скураш і прадставіўся.

— А, дык вы з адміністрацыі прэзідэнта? — з уздыхам палёгкі вымавіў былы. — А то я ўжо збаяўся, думаю, раптам з якім-небудзь ваўкалакам п'янствую. Давайце-ка закусвайце, жонка раніцай спякла. Піражкі нашыя, сібірскія, тут вось розныя: і з капусткай, і з мяскам, і з бульбачкай. Бярыце, не саромейцеся.

Выпілі яшчэ, пажавалі пірагоў. Малюта нутром чуў, што чалавек хоча выгаварыцца, выплюхнуць вонкі нешта важнае, што яго точыць, гняце і, падобна, ужо доўгі час круціцца на языку.

— Вы мне прабачце вялікадушна, а можна пацікавіцца вашым пасведчаннем? — па-дзіцячы канфузячыся, спытаў фінансіст…

— Калі ласка, — Малюта дастаў «корачку», — а то раптам вы не то што з ваўкалакам, а з кім і парагацей суседнічаеце.

— Дык вы што ж, з органаў? — не то з расчараваннем, не то з павагай, вымавіў Шалейка, — вяртаючы кніжачку і канфузячыся яшчэ больш.

— Не, Андрэй Міхайлавіч, да органаў я, на шчасце, не маю ніякага дачынення. Служу выключна дзяржаве і яе народу, у гэтым вы мне можаце абсалютна верыць.

— Добра, добра. Тады давайце вып'ем! — ён спехам чокнуўся і перакуліў толькі што прынесены бортправадніцай каньяк. — Разумееце, адным словам, тут у нас у краі такое дзеецца! — ён, адчуваючы небяспеку, паглядзеў па баках і перайшоў на шэпт. — Гэта добра, што вы не з органаў, я іх пабойваюся, гэта генетычнае, калі з дзяцінства расцеш сярод лагераў, дык увесь свет уяўляецца, ці ведаеце, гэтакім вялізным канцлагерам, дзе ўсім запраўляюць усёмагутныя органы. Я выразна памятаю, калі бацька ў пяцьдзясят другім першы раз прывёз мяне, хлопца жаўтаротага, у Ясейск, ведаеце, што больш за ўсё мяне ўразіла ў вялікім горадзе? Не, не высокія дамы, хоць у нас у Рашотах вышэй чым два паверхі баракаў не будавалі, не машыны і трамваі, нават не прыгожыя цацкі ў крамах! Не, мяне ўразіла іншае: як гэта столькі людзей могуць хадзіць без канвою, без аўчарак і не строем! Уяўляеце? Дык якія ўжо тут любоў і павага да чэкістаў? Ды добра. Цяпер мяне зусім іншае мучыць. У нас у краі, не бяруся сапраўды сказаць, хто, але хтосьці выгадаваў монстра і выпусціў яго на волю…

— Каго? — шчыра здзівіўся Малюта. — Якога монстра?

— Самага сучаснага, худзенькага такога, непрыкметнага. Вы думаеце, гэта Плаўскі на выбарах перамог? Не, пашанотны



Малюта Максімавіч, гэта Монстар злопаў Бяззубава з усімі ягонымі памагатымі.

— Андрэй Міхайлавіч, ды якія монстры! Вы, напэўна, проста нератаміліся. Учора з гора лішку кульнулі ды раніцай на старыя дрожджы дадалі. Супакойцеся, такое часам бывае. Давайце яшчэ па маленькай ды паспім крыху, ці што, — губляючы да суразмоўцы цікавасць, вымавіў Малюта і матнуў рукой сцюардэсе. — Яшчэ па сто каньячку, калі ласка.

— Ды не п'яны я, — зморшчыўся Шалейка, — і, паверце ўжо, не вар'ят. Вам прозвішча Дракаў што-небудзь гаворыць? Спартовец ён, ці ведаеце… Ага, гляджу, і вы ў твары перамяніліся. Дык вось слухайце…

На багністай мяжы сібірскіх стэпаў і тайговага камлюка маркотна прымастаколілася невялікае павятовае мястэчка. Хаты, кволыя палісады, чэзлыя агароды, скалёзныя дрэвы, ды і самі людзі — усё было шэрым і несамавітым, як зацёртыя кадры чорна-белага пасляваеннага кіно. Сталы люд мястэчка з дня ў дзень кешкаўся ў вялізным катлаване, адвалы якога бялявымі горамі ўздымаліся адразу ж за скрайнімі агародамі. Горад, як тысячарукі крот, выварочваў з зямных нетраў найкаштоўнейшую руду, з якой здабываўся самы стратэгічны ў краіне метал. Начальства і медыкі ў адзін голас пераконвалі ўсіх, што руда, практычна, нерадыёактыўная, але мужыкі ў горадзе чэзлі, не паспеўшы састарэць, і ўжо пасля сарака пачыналі з нудой глядзець на незарослыя магілкі, растапыраныя крыжы ўздоўж маскоўскага тракту. Самі жыхары някідкасць свайго жыцця неяк не прыкмячалі і былі па-свойму шчаслівыя.

Вось у гэтым мястэчку з татарскай назвай і прайшло не вельмі сытае дзяцінства і спартовая маладосць непрыкметнага хлопца, якога вуліца ахрысціла Пашка Драка. Наогул жа біцца ён не любіў, але дзесьці вычытаўшы, што дабро павінна быць з кулакамі, Павел закінуў дзіцячыя забавы, свавольства, а заадно і вучобу, і з галавой сышоў у бокс. І бокс даў яму ўсё. Ён стварыў з яго спачатку Пятровіча, а затым і бясспрэчнага аўтарытэта, дэпутата, легенду краю — Паўла Пятровіча Дракава. Якіх толькі быляў і небыліц, плётак і чутак аб ім не насіла людская ўсёведнасць! Як складалася яго каманда і як паступова прыбірала яна да рук самыя прынадныя кавалкі краявой эканомікі, мабыць, лепш за ўсіх ведаюць хвалёныя ўсёвідушчыя органы, якія самі ж таму актыўна спрыяюць. Яны — калісьці паўнапраўныя гаспадары катаржнага краю — проста хацелі па

апрабаванай схеме, а менавіта чужымі рукамі, займець у прыватнае карыстанне заводзікі, параходзікі і іншыя залатаносныя атрыбуты падрослага капіталізму, а заадно і разумную партыю падкалоць: указанне аб узмацненні барацьбы са злачыннасцю рукамі саміх злачынцаў выканаць. А тут на табе — абламалася! Праўда, «сінякі» і вар'ё аўтарытэтнае ў акрузе неяк адразу зніклі, і ўласнасць пераразмеркавалася, ды ўсё міма касаў праляцела. Ды маць тваю! Дзе такі-сякі? А падаць яго сюды!

А ў адказ — кукіш. Аказваецца, кліент былы па панядзелках не прымае, а жабракам падае па пятніцах. Сарваўся, адным словам, карась з кручочка і не думае назад вяртацца. А тут яшчэ, глядзі, з апальным генералам зблытаўся, стварыў у краі аддзяленне руху «Радзіма і Гонар», які грымеў тады па ўсёй Расіі, і мала сам, дык яшчэ і з добры дзясятак сваіх паплечнікаў у краявы заксход пасадзіў.

Прыкладна вось такую маляўнічую карціну і намаляваў Малюту былы галоўны фінансіст рэгіёна.

— …і ніхто, ніхто яго ўжо не зможа спыніць. Уяўляеце, ён нават нам з губернатарам прапаноўваў сваё, г-мм, куратарства…

— І што ж вы, пагадзіліся?

— Цур на вас, цур! Не, вядома. Узялі час на роздум да заканчэння выбараў…

— Думаю, у святле апошніх падзеяў, — з яхіднай усмешкай перапыніў суразмоўцу Малюта, — усё можа вельмі ўскладніцца. Я чуў, што ў такіх выпадках з фізічных асобаў падушная подаць ушматкроць перавышае выдаткі, так сказаць, асобаў юрыдычных. Ды да таго ж юрыдычная асоба не сваім крэўным разлічваецца, а казённым. Так што для прыватнай кішэні страты адразу становяцца адчувальнейшымі.

— Ну што ж вы такі нялюдскі! Я да вас за спагадай, а вы са шпількамі, — сусед махнуў рукой і націснуў пальцам кнопку выкліку. — Давайце, можа, яшчэ па маленькай. Гэй, маладзіца! — І зноў паніжаючы голас: — А я ж папярэджваў Бяззубава, што так і будзе, як вы мне зараз сказалі. Ужо вы то напэўна ведаеце, якія грошы Павел Пятровіч уваліў у абранне генерала, — і, прысунуўшыся бліжэй, Шалейка зашаптаў у самае вуха Малюты.

— Ды будзе вам! — здзіўлена адмахнуўся Скураш.

— Настойваць не буду. За што купіў, за тое й прадаў. Але гавораць, генерал на іконе кляўся, што сяброўства ў іх навек, і грошы «сіротам» верне, а, здзейсніўшы марш-кідок на Маскву,



Пятровічу аддасць усю губерню, аднавіўшы яе ў ранейшых савецкіх межах. Вось і думайце цяпер ужо вы там, у Крамлі, што рабіць? А то глядзіце, як бы не давялося і вам Пашку Драку дывановыя дарожкі на Чырвонай плошчы раскатваць, нашыя ж іншыя генералы ўжо даўно катаюць, а Паўлу Пятровічу гэта ох як падабаецца…

Неўзабаве абвясцілі пасадку. Народ у салоне зашавяліўся, і гаворка перапынілася сама сабою.

З Усходу ў Еўропу ляцець адно задавальненне: узляцеў у Ясейску ў сем раніцы, у сем раніцы ў Маскве і прызямліўся. З самалёта нядаўнія суседзі выйшлі зусім незнаёмымі людзьмі і, нават не зірнуўшы адзін на аднаго, разышліся ў розныя бакі, каб больш ніколі ў жыцці не сустрэцца.

## 7

З'яўленне Малюты ў Ясейску не засталося незаўважаным не толькі сярод штабных Плаўскага, але і ў, што завецца, супраціўным лагеры. Народ, які атачаў Бяззубава, імгненна дапетрыў, што прайгралага губернатара спісалі ў тыраж і ніякіх судоў і перасудаў па выніках другога тура не будзе, так што ўсім, хто не поўны дурань, трэба тэрмінова, піхаючыся локцямі, прарывацца да цела новага абранніка і ўлюбёнца агульнанароднага. Словам, Ясейская губерня ўступала ў перыяд чарговага «міжлізня».

Традыцыйна расійскі чыноўнік — чалавек ціхі і непрыметны. Скрабе сваім пёркам па паперцы і здымае з таго малую кропельку на годны пражытак. І Бога не забывае, і з начальствам дзеліцца. А што паробіш, ужо такія яны, бюракратавы палестыны: сам узяў, другому дай, ды і начальства не забывай! Прытрымлівайся гэтай граматыкі, і ўсё ў цябе будзе па-добраму. Толькі зусім ужо ліхвяр ды неразумны стане вымагаць у звычайнага сярэдненькага небаракі яго няправедныя срэбнікі. Не, такога ў прыстойнай установе або дэпартаменце зроду не вадзілася ні ў былыя, ні ў цяперашнія часы. Праўда, чаго ўжо грашыць, у акругах і цяпер могуць разам з зубамі грош выбіць, тут вам не там! Ну яшчэ могуць іншага разу пракурорскія або грэфаўскія павесяліцца, а так поўная цішыня.

Асабліва такая мілата прыкметная ў правінцыі. Там народ прывучаны, і даплату за прыспешванне ў вырашэнні любога пытання нясе спраўна. Галоўнае, што ні просьбіту, ні чыноўніку

і ў галаву не прыйдзе, быццам яны якія злыдні. Проста той няшчасны канверт, за якім так ганяюцца шэра-валошкавыя, з зайздрасці, што нічога іншага, больш талковага, чым рыцца ў чужой бялізне, у жыцці і рабіць не ўмеюць; дык вось канверцік гэты служыць своеасаблівым мастком, запарукай таго, што справа вашая будзе выкананая і абавязкова ў спрыяльны для вас бок. Усё робіцца па вякамі заведзенаму да ўзаемнага задавальнення бакоў чыну. Страта ж невялікая выйшла, а палічы, у якім прыбытку застаўся! У канцылярыю ідуць не аддаваць сваё, апошняе, крэўнае, а прасіць дазволу на прырост капіталаў ці дастатку. Так што драбок даў — каравай утаптаў! І што ў гэтым крамольнага? Не, не чыноўнік у сваім ліхаімстве вінаваты, а хітрае вышэйшае кіраўніцтва дзяржавы, якое яго, свайго, можна сказаць, прымусовага аратая, гнобіць і ў чорным целе трымае.

Як і ўвесь люд. На чыноўніцкі заробак, што партыкулярнага, што вайсковага служакі, кватэру прыстойную не купіш, ды што прыстойную, і непрыстойную таксама, дзеткам адукацыю не аплоціш, адпачыць на курортах не зможаш. А на пенсію выйдзеш — яе нашыя разумнікі-дэпутаты завуць тэрмінам дажывання — дык асабліва доўга не нажывешся, і, калі хто не дапаможа, то і пахаваць па-чалавечы не будзе на што. Аб гэтым і баліць галава ў канцылярыста.

А тут форменная катастрофа. Улада змяняецца! І прытым — не проста мясцовы міжсабойчык: пааблівалі адзін аднаго памыямі, як у былыя часы на справаздачных пленумах крайкама, схадзілі пасля гэтага ў лазенку, пасядзелі за міравым сталом — і жыві сабе спакойна далей да наступнага справаздачнага. А тут справа труба — чужынец наступае! Чужынец, ён, вядома, чужых не любіць, а чужыя яму ўсе, хто не свае. І ў першую чаргу — мясцовае, так бы мовіць, абарыгеннае насельніцтва.

У Плаўскага сваіх у Ясейскім краі не было. Ды і адкуль ім было ўзяцца? Мясцовыя калабарацыяністы, якія кінуліся ў добраахвотныя памагатыя, як правіла, не лічацца. Такія сяк-так прыдатныя толькі падчас выбарчых баталій, а ў мірным паўсядзённым жыцці падыходзяць хіба што на ролю дробных паліцаяў. Вось і пацёк служылы люд пабуйней у «Кастрычніцкую», каб любымі шляхамі прымазацца да блізкага круга перадінаўгурацыйнай асобы.

Але не ў «Кастрычніцкай» вырашаліся гэтыя пытанні. У гасцініцы запраўляла пакінутае Аляксеем Віктаравічам без



нагляду дробнае паскуддзе ў асобах Якава, Басіра, рыжай Гэлы, Арыны Сяргееўны, поўнай дамы старэчага ўзросту з вострымі вочкамі і тонкім рухомым носам, якая ўсё жагналася і ўсёчасна сплёўвала праз левае плячо. Арына Сяргееўна звала сябе «маці салдацкая» і ўсіх менавала няйначай як «сыночак» або «дзетачка». На ладным ейным бюсце зіхцелі нейкія медалі і казачыя «пацешныя» крыжы. У адным з далёкіх, слаба асветленых кутоў гасцінічнага холу не-не дый мільгацела худая падцягнутая фігура будучага ўсёмагутнага начальніка контрвыведкі Плаўскага Ляскаля, увогуле добрага ўкраінскага хлопца, з дзіўным, зусім не хахляцкім прозвішчам. Нават былы калега і корыш Малюты Валер Ліцвінаў — і той, не ўтрымаўшыся ад спакусы, прымаў духавенства і казацтва, абяцаючы падтрымку і ўсялякае заступніцтва.

Плаўскі з самымі блізкімі людзьмі, адразу ж пасля другога тура перабраўся ў афіцыйную рэзідэнцыю Прэзідэнта Расіі, якая размяшчаецца непадалёк ад Ясейска, на маляўнічым беразе вялікай сібірскай ракі. Такія рэзідэнцыі пачалі будаваць яшчэ пры Хрушчове, які першым з савецкіх кіраўнікоў вырашыў праінспектаваць работу партпадданых непасрэдна на месцах. Да гэтага асабіста аглядаць імперыю было прынята толькі ў нярускіх Раманавых, — ні Ульянаў, ні Джугашвілі, пры ўсёй іхняй людаедскай любові да народа, у гэты самы народ ніколі не хадзілі.

Мелася такая рэзідэнцыя і ў Ясейскім краі. Уяўляла яна сабою вялізную, абгароджаную і добра ахоўную тэрыторыю ўзбярэжнага хваёвага бору, на берагавой лініі якога былі выбудаваныя вельмі сціплыя па маскоўскіх мерках драўляныя катэджы і два капітальныя каменныя дамы. Яны ж, уласна, і з'яўляліся афіцыйнай рэзідэнцыяй прэзідэнта.

Блізкае кола не без цяжкасці адгаварыла Плаўскага заняць апартаменты Гаранта Канстытуцыі, націскаючы на тое, што з нядаўняга часу, пры ўсёй ягонай цяперашняй веліччы, ён усё ж з'яўляецца васалам пакуль яшчэ ўсёмагутнай Масквы. Самы забойны аргумент нечакана адшукаў Саша Укольнік, не міргнуўшы вокам задаўшы наіўнае пытанне:

— А вы, Іван Паўлавіч, калі станеце прэзідэнтам, каму-небудзь дазволіце спаць на сваім ложку?

— Чаго?! — гыркнуў генерал і размясціўся ў суседніх, не меней шыкоўных апартаментах.

Гэтай раніцай ужо даўно скончыўся сняданак, але едакі, ссунуўшы ўбок талеркі з недаедзенымі амлетамі і кашамі, выправодзіўшы збянтэжаных пакаёвак і кухараў, прыставіўшы да дзвярэй ахову з сваіх людзей і гучней уключыўшы тэлевізар, згрудзіліся на адным канцы доўгага абедзеннага стала. Вырашалася самае галоўнае пытанне — кадравае.

— Іван Паўлавіч, Іван Паўлавіч! Вы падумайце добранька, — у хваляванні крывіў рот Аляксей Віктаравіч, — аддаць месца нама па фінансах і эканоміцы нейкаму чужынцу…

— Аляксей Віктаравіч, не прыпадабняйцеся абарыгенам, — цвёрда абарваў яго Плаўскі. — І я вас вельмі папрашу забыць гэтае дурацкае слова «чужынец»! У справах дзяржаўных няма ні чужынцаў, ні сваякоў, ёсць толькі патрэбныя і прафесійныя людзі. Усё, закрываем гэтую тэму. А Музадохаў са сваёй камандай закрывае эканамічную тэму. Так было абяцана Ювінашвілі за ягонае добраахвотнае ўкладанне ў нашую агульную справу…

— Але ж Іван Паўлавіч! — не сунімаўся Старыкаў.

— Ніякіх «але»! — адмахнуўся Плаўскі. — Вы выдатна ведаеце, колькі ў нас уваліў гэты банк, а з улікам будучых праектаў — і наогул гаварыць няма чаго! Так, гэта вырашылі, што там далей, Марына Альбертаўна?

— Прамысловасць і будаўніцтва. Гэтую тэму прасіў Дракаў, — зазірнуўшы ў свае запісы, нацягнутым голасам вымавіла жанчына. Ёй таксама не падабалася сённяшняя ўпартасць шэфа, які ўсё самае прынаднае раздаваў направа і налева. — Але тут трэба добранька падумаць, наколькі гэта будзе выгадна нам, — холадна дадала яна, не паднімаючы вачэй.

— А што ён яшчэ просіць? — закурваючы новую цыгарэту, кашляючы і жмурачыся ад дыму, спытаў Плаўскі.

— О, ды шмат чаго! — улез Старыкаў і, ускочыўшы, як малады салдат перад генералам, затараторыў: — Прамысловасць — раз, будаўніцтва — два, паўночны завоз — тры, курыраванне сілавых структур — чатыры, лясны комплекс — пяць, спорт — шэсць! Ды ўсё, карацей, літаральна ўсё…

— Выбачайце, што вас перабіваю! Ён яшчэ прапаноўвае адміністрацыю пераўтварыць ва ўрад краю са старшынёй на чале, — умяшаўся дагэтуль маўклівы старэйшы брат Аляксандра — Міхась Укольнік.

Густыя бровы Плаўскага павольна папаўзлі ўверх.

— Не зразумеў. А губернатар што? У сэнсе, якія яму адводзяцца дзіценараджальныя функцыі?



— Іван Паўлавіч, дазвольце, я паспрабую наконт дзіценараджальных функцый растлумачыць як эканаміст, — абыякава вымавіла Марына.

— Давай, табе гэтая тэма бліжэй, — з’яхіднічаў Старыкаў.

— Ідэя ўрада для нас вельмі прываблівая, — прапусціўшы калючасць між вушэй і ведаючы, што генералу падабаюцца непрыстойнасці, якія Аляксей Віктаравіч, каб патрафіць шэфу, укручвае пры любым зручным выпадку, працягнула эканамічная дама: — Такія схемы: «губернатар — урад — заканадаўчы орган», даўно ўжо існуюць у многіх рэгіёнах і няблага сябе зарэкамендавалі. У прынцыпе, гэта калька сістэмы дзяржаўнага кіравання, але ў меншым маштабе. Для нас, з улікам вашых далейшых планаў, гэта цалкам прымальна. Лічу, што і нам цалкам можна было б абкатаць гэтую схему.

— Але з гэтым спяшацца мы не будзем, — падагульніў генерал, які не збіраўся ні з кім дзяліцца толькі што прываліўшай уладай. — Вы пакуль думайце, пішыце законапраекты, прыцягвайце спецыялістаў. У цэлым прапанова аб урадзе заслугоўвае ўвагі, гэта сапраўды цікава, так Паўлу Пятровічу і перадайце. Дайцека мне пералік ягоных запытаў. — Укольнік-малодшы моўчкі працягнуў губернатару аркушык. — Да-а, тут і няўзброеным вокам відаць, што апетыт у саюзнічкаў відавочна зашкальвае. Нічога, падумаем і будзем зразаць…

— Ды яму, бандыцкай рожы, наогул нічога даваць не трэба! — узарваўся раптам Старыкаў. — Знахабіўся зусім! Эканоміку яму аддай усю, але гэтага, аказваецца, мала! Яго, ці бачыце, яшчэ і прэм’ер-міністрам трэба паставіць! У турму яго трэба, Іван Паўлавіч! У турму!

— Спыніць істэрыку! — раўкнуў генерал, шандарахнуўшы кулаком па стале з такой сілай, што непрыбраны посуд падскочыў уверх, жаласна задзынкаўшы відэльцамі і гарбатнымі лыжачкамі. — Мая вам парада, Аляксей Віктаравіч, не заманіцеся дзе-небудзь яшчэ несці падобную лухту! З Дракавым жарты дрэнныя. Яму пакуль пакідаем паўночны завоз, спорт, ну і сілавікоў…

— Як сілавікоў? — не сцішаўся Старыкаў, — бандыту і сілавікоў?!

— Глядзіце, я вас пры ўсіх папярэджваю, што падобныя рэплікі вас да дабра не давядуць. Увесь праваахоўны блок будзе пад пільным наглядам Ляскаля, але ён пакуль у гэтай вобласці ніхто, проста былы мент невысокага палёту. Так што хай Дракаў

прапаноўвае сваё, а Ляскаль пакуль за ім папрыглядае, заадно і досведу набярэцца, каб самому галаву адразу ў пельку не соваць.

— А што будзем рабіць з прамысловасцю? — спытала Марына Альбертаўна.

— Па пытанню так хвалюючай усіх прамысловасці мы сёння прымем палавіністае рашэнне, — голасам, які не церпіць пярэчання, заявіў Плаўскі.

— А гэта як? — шчыра здзівілася жанчына.

— А вось так! — шумна ўстаючы, падагульніў шэф. — Я зараз еду на заслужаную мной рыбалку, а вы садзіцеся і выбудоўвайце ўвесь будучы штат да тэхперсаналу ўключна. І рыхтуйце прапанову па палавіністым рашэнні галоўнага эканамічнага пытання. Вось вам падказка: мы павінны яго дорага прадаць, пры гэтым захаваўшы за сабою поўны кантроль. Без гэтага кантролю рабіць нам у краі няма чаго.

8

Самалёт з Ясейска прылятаў па графіку. Малюта раптам адчуў, што пачынае хвалявацца. Учора позна ўвечары, калі ён выходзіў з кабінета Танінай, сённяшні дзень уяўляўся яму простым і зразумелым: прыехаў у аэрапорт, сустрэў губернатара, правёў да Старой плошчы, здаў з рук у рукі Перамозе Ігараўне — і ўсё. А вось сёння чамусьці з самага абуджэння яго біў мандраж. У кішэні заверашчаў мабільнік.

— Малюта Максімавіч?

— Так, Скураш. Слухаю вас. Хто гэта?

— Гэта з адміністрацыі прэзідэнта. Вы сустракаеце Плаўскага?

— Так, сустракаю, толькі што абвесцілі пасадку самалёта. Як сустрэну, адразу ж перафанатэлефаную Танінай, як мы з ёй і ўмовіліся. А вы, прабачце, хто?

— Таніну сёння адхілілі ад пасады ў сувязі з пераходам на іншую работу, — пасля кароткай паўзы, выразна сказаў голас.

— Што?!! — у вачах Малюты пацямнела, ён імгненна ўявіў пабарвянелы твар генерала…

— Ды вы не хвалюйцеся. Усе дамоўленасці застаюцца ў сіле. Сустракайце генерала і а чатырнаццатай гадзіне суправадзіце яго ў трэці пад'езд. Ведаеце, дзе гэта?

— Так, вядома.

— І вядзіце яго прама ў прыёмную Мікалая Мікалаевіча Пужына, які ўжо прызначаны замест Перамогі Ігараўны. Вы ўсё зразумелі?



— Ды зразумеў, — імкнучыся не выдаць голасам збянтэжанасць, вымавіў Скураш. — Але Пужына я не ведаю. Мы толькі аднойчы мімаходам сустракаліся ў кабінеце мэра Ульянаграда.

— Гэта не важна. Ён вас ведае. Поспеху. Галоўнае, наладжвайце вашага былога начальніка на пазітыў, — вымавіў голас і адключыўся.

«Во справы! — Малюта затупаў па зале афіцыйных дэлегацый. — Проста бздур нейкі! Чаму не патэлефанавала сама Перамога? Можа, тут крыецца нейкі падвох? — ён пачаў названьваць Танінай, аднак усе яе тэлефоны, уключна з мабільным, глуха маўчалі. — Так, мабыць, і не варта сёння тэлефанаваць апальнай знаёмай, гавораць, гэта кепская прыкмета. Галоўнае, супакоіцца, Плаўскаму падобная перамена павінна, па ўсёй бачнасці, спадабацца. Калі я толькі не памыляюся, гэты Пужын з чэкістаў, службу скончыў ці то маёрам, ці то падпалкоўнікам, і гэта ў сустрэчы, якая мае адбыцца, можа адыграць вельмі станоўчую ролю. Пры ўсіх раскладах генералу з палкоўнікам любых войскаў і службаў будзе размаўляць звыкла і лягчэй, чым з занудным грамадзянскім клеркам, а ўжо тым больш з дзяржаўнай матронай. Вось гэта я разумею — кар'ерны рост: падпалкоўнік, намеснік мэра, галоўны кантралёр, першы намеснік Кіраўніка адміністрацыі! Вось гэта растуць людзі! Выходзіць, нездарма цябе сёння з раніцы ламашыла, Скураш! Ну нічога, Пужын дык Пужын. Нам, крывічам, адзін хрэн…»

Плаўскі прыляцеў разам з Ганнай Аляксандраўнай і Старыкавым. Жонцы губернатара быў пададзены асобны аўтамабіль, і яна адправілася па сваіх справах. Перасадзіўшы аднаго з ахоўнікаў у сваю машыну, Малюта ўладкаваўся ў «мэрсэдэсе» Плаўскага і, з цяжкасцю суняўшы хваляванне, пачаў дакладваць абстаноўку, якая рэзка змянілася.

— Дык кажаш, «ружовую кабетку» сышлі? Можа, гэта і добра. Баба ва ўладзе, ды яшчэ на рэгіёнах…

— Іван Паўлавіч, можа, гэта яны адмыслова да вашага прыезду пастараліся, — скарыстаўшыся паўзай, уставіў Малюта, — для поўнага, так сказаць, замірэння? Трэба ж неяк аднаўляць з вамі стасункі, ды і Адміністрацыяй цяпер кіруе недурны чалавек, па чутках, хутка можа зяцем Цара зрабіцца…

— Ды прычым тут зяць! — раздражнёна выпаліў Старыкаў, які сядзеў побач з шэфам. — Тут проста нейчая разумная разводка. На самастойныя гульні такога маштабу ваш былы калега-журналіст не здольны, на якую пасаду яго ні пастаў. — У голасе

Аляксея Віктаравіча адчувалася непрыхаваная прыкрасць, мабыць, нешта непапраўна бурылася ў яго загадзя выбудаваных схемах. І раптам яго нібы натхніла. — А што калі гэта пачатак горшага варыянту, Іван Паўлавіч? Ваш кляты сябар вам даўно тэлефанаваў?

— Ты думаеш, гэта ягоныя гульні? — насцярожыўся Плаўскі.

— А хто яго ведае, толькі на сувязь з ім выйсці варта, і лепш да візіту на Старую плошчу.

Малюта напружыўся кожнай сваёй часціцай, спрабуючы не прапусціць ніводнага слова з гэтай, як яму падавалася, вельмі важнай гутаркі. За кароткі час працы ў Радзе нацыянальнай стабільнасці ён толькі мімаходам судакрануўся з таемнымі механізмамі, якія прыводзяць у рух уладныя структуры. Як звычайны грамадзянін, які не валодае ніякімі таямніцамі, ён па наіўнасці яшчэ да нядаўняга часу верыў у існаванне нейкай вышэйшай дзяржаўнай справядлівасці, якая неспасціжнай выявай спускалася на ўладароў краіны, і тыя са звычайных смяротных цудоўным чынам ператвараюцца ў носьбітаў і распараднікаў народнай волі, заступнікаў і суддзяў сваіх падданых. Народная вера ў добрага і мудрага пана, камісара, начальніка, сакратара Палітбюро і, нарэшце, прэзідэнта працягвала спакойна жыць у народзе. І не было ў тым нічога выпадковага і незвычайнага, бо вера гэтая была замяшаная на такой грымучай сумесі, што і чэрці і лісліўцы паламалі б сабе шыі. У аснове векавой расійскай веры ў светлага Цара ляжала ўсё: і хрысціянства, і паганства, і асновы земляробскай супольнасці, і старажытныя цэхавыя традыцыі, і прыроджаны славянска-татарскі калектывізм, і амаль стагадовая ўраўнілаўка, а галоўнае, звярыная нуда па волі і лепшай долі. Самае дзіўнае, што гэты круты замес нікуды не знік з душ людзей. Той старажытны і прасцяцкі чалавек па-ранейшаму жывы і, як тысячу гадоў назад, працягвае з тупой упартасцю абагаўляць дзяржаву і свайго ўладара, жадаючы бачыць у ім героя, жраца і ахвяру адначасова. І толькі акунуўшыся ў цёмную бездань самой улады, выпрабаваўшы на сваёй уласнай скуры ўсю яе брыдоту і подласць, чалавек становіцца відушчым, але гэта не прыносіць яму ні радасці, ні шчасця, ні дастатку. Боль і безвыходнасць пасяляюцца ў душы, цяжкасць і пакуты сумлення скалынаюць яе, а галоўнае, пачынае днямі і начамі тачыць страх. Страх уласнай нявbooleanолі і безабароннасці.

Аднак чалавек, не зламаны гэтым грузам, як перахварэўшы на чуму, атрымоўвае імунітэт і становіцца небяспечным для ўлады і яе жрацоў. Такі ж небяспечны для якой-небудзь з жудасных сектаў абуджаны адэпт ці масон-адрачэнец, вырваўшыся з ложы. Вось чаму ўлада не можа трываць у сваіх шэрагах сумленных, добрых і годных людзей, яна іх высушвае і ачарсцвяе яшчэ на першых пабягушных пасадах, даводзячы да сярэднестатыстычнага ўзроўню безасабовай выканальніцкай масы. Калі ж гэтага не адбываецца, чалавек выганяецца, як пракажоны, ператвараецца ў вар’ята, бунтаўшчыка, рэвалюцыянера, ворага народа, здрадніка дэмакратыі, раскрадальніка народнага набытку. Пазнанне таемнай інтрыгі ўлады, яе прывадных рамянёў — адна з найвялікшых таямніцаў, цяжкая і вельмі небяспечная задума.

Таму, уважліва ўслухваючыся ў гутарку Плаўскага са Старыкавым, Малюта разумеў, што кожная фраза гэтага дыялогу можа стаць для яго адказам на мноства пакутлівых пытанняў.

— Калі гэта пачатак, першы крок на вялікай дошцы зрухаў, дык ён — поўная набрыдзь, — працягваў Старыкаў. — Значыць, ён рыхтуецца кінуць вас у чарговы раз.

— Ну, я-то яму не казёл, каб пакорліва хадзіць за морквай! — з паўабароту пачаў заводзіцца генерал. — Давай злучай мяне з ім…

— Іван Паўлавіч! Не трэба пароць гарачку, — пакрывіўшыся на прыціхлага Скураша, які старанна дэманстраваў сваю абыякавасць, з папераджальнымі ноткамі ў голасе запярэчыў дараднік і, як бы спалохаўшыся сваёй прылюднай дзёрзкасці, ужо мякчэйшым тонам дадаў: — Вось зараз даедзем да офіса і па апрабаваных каналах будзем спрабаваць звязацца з нашым усёабдымным. Гарачыцца і спяшацца мы не маем права, да таго ж дзень сёння вельмі важны для вас. Цяпер галоўная задача — абаяць гэтага расстрыгу-камітэтчыка.

У двары невысокага старадаўняга асабняка ў Замаскварэччы дзеялася самае сучаснае Вавілонскае стаўпатварэнне. Усе пад’езды да панадворку, дзе размяшчалася штаб-кватэра партыі Плаўскага, былі забітыя дарагімі іншамаркамі, а сам двор, цесны і па-маскоўску захламлены, быў запоўнены пярэстым натоўпам, які гудзеў і чакаў. Гэтыя спадары былі дорага апранутыя і важна пакурвалі, яны дзіўным чынам адрозніваліся ад тых людзей, што яшчэ тыдзень назад неслі да выбарчых урнаў свае бюлетэні як сваю апошнюю надзею на лепшую будучыню.

Калі машына генерала спынілася і ахова адкрыла дзверцы, пачуліся гучныя апладысменты. Пад гэтыя дагодлівыя авацыі, з пачуццём уласнай перавагі і выглядам пераможцы, з нетраў аўтамабіля выбраўся асляпляльна ўсмешлівы Плаўскі. Зрабіўшы

вітальны жэст рукой, генерал, ні з кім не прывітаўшыся персанальна, прашэстваваў да пад'езда.

— Іван Паўлавіч! — рознагалоса захваляваўся натоўп, выпінаючы наперад размаітыя скрынкі, пакеты і скруткі з дарамі.

— Прыму ўсіх! — як на пляцы, раўнуў Плаўскі. — Толькі дзесьці ў абед. Нанясу нядоўгачасовы візіт у Крэмль і вярнуся да вас. Недаступная ўлада народу не патрэбна! Дзякуй за цёплую сустрэчу!

Генерала распіраў шчыры гонар. Ён ізноў перамог, перамог на злосць усім, і цяпер яму ніхто не страшны. Ёсць мэта, дасягнуўшы якой, ён выканае сваё прызначэнне: выратаваць вялізную, найпрыгажэйшую і найбагацейшую, але смяротна хворую дзяржаву з яе жабраком-народам. Толькі ён зможа раз і назаўсёды загаіць душы людзей, выгнаўшы адтуль знявагу і крыўду ды ўваскрасіўшы іх веру ў сілу справядлівай і мудрай улады. Генерал асабліва не задумваўся, хто ўсклаў на яго гэтую цяжкую місію. Бога ён не ведаў, на духавенства глядзеў як на зборышча дармаедаў і прайдзісветаў. Аднак у сваю выключнасць верыў і быў шчыра пераканааны, што за яго спіной стаіць нейкая ўсёмагутная сіла. Яго не мучыла пытанне, што гэта за сіла: Бог, Дух, Д'ябал, Іншапланецяне? — яму было ўсё роўна, хто ім кіруе. І часцей за ўсё ён думаў, што гэтая сіла — ён сам!

Гэта ён, ганарлівы і моцны чалавек, змог, здолеў павярнуць абыякавую плынь цёмнай ракі часу і павёў за сабою шматмільённае войска людзей, якія вераць у яго. Як вайсковец, ён любіў і ўмеў камандаваць, але там, у войску, улада была нейкай куртатай, прышыбленай, пазбаўленай размаху і палёту, а галоўнае, яна распаўсюджвалася толькі на падпарадкаваных. Сёння за ім мільёны, і гэта не толькі тыя, хто падтрымаў яго ў Ясейскім краі, за ім мільёнаў дваццаць па ўсёй краіне, а можа, і больш. Вядома, нельга было паддавацца на ўгаворы гэтага аферыста і ў другім туры падтрымліваць жывы труп Гаранта, не ляжала нутро да гэтага, ды ўжо што зроблена, тое зроблена! Старыкаў тады са скуры лез, даказваў, што Гарант да зімы капыты адкіне, а мы за гэты час асвоімся ў Крамлі, урад і адміністрацыю на свой бок перацягнем. Перацягнулі! Праз пару месяцаў паганым венікам пагналі прэч! І галоўнае, нічога ў краіне не адбылося, учарашнія яго выбарнікі як хадзілі пакорліва на працу, дзе ім ні храна не плацілі, так і працягваюць хадзіць, ніхто не кінуўся ствараць партызанскія атрады!



Блізкія прыхільнікі і паплечнікі, маць іх у душу, мала таго, што паадварочваліся, дык яшчэ і ў здраднікі яго запісалі, на пленумах руху, пад яго імя створанага, сталі галасіць аб змене лідара! Аб новай праграме, новых перспектывах! Сукі! Ну нічога, хутка з усімі разбяромся!

З падобнымі думкамі Іван Паўлавіч падняўся на другі паверх свайго старога маскоўскага офіса.

9

Сустрэча ясейскіх візіцёраў з новым фактычным кіраўніком адміністрацыі павінна была адбыцца ў яго старым кабінеце, размешчаным у непрэстыжным трэцім пад'ездзе Старой плошчы. У свой час сюды, амаль на Варварку, загналі другарадныя ўпраўленні і кабінеты розных лайдакоў, тыпу закліканых мацаваць сяброўства з Беларуссю і іншымі сатэлітамі, бытавалі яшчэ тут і нейкія вантробныя структуры, што абслугоўвалі вялізны комплекс спецбудынкаў.

Мікалай Мікалаевіч, мужчына невысокага росту, злёгку лысаваты, з глыбока пасаджанымі круглымі вачыма, задоўгім адчувальным носам і добрымі манерамі, прыняў іх вельмі сардэчна. Сам выйшаў у прыёмную, доўга трос генеральскую руку і, канфузячыся, блытана віншаваў яго з абраннем.

— І вас таксама, як мне данеслі, — Плаўскі выразна зірнуў на Скураша, — можна павіншаваць з прызначэннем на адзін з ключавых пастоў…

— Так, вось сёння якраз прэзідэнт прыняў такое рашэнне і апублікаваў свой указ, — злёгку бянтэжачыся, вымавіў Пужын, запрашаючы гасцей прайсці ў кабінет. — Прызнаюся, для мяне так усё нечакана адбылося, што дагэтуль не магу прыйсці ў сябе.

— Абвыкайце, ён на нечаканасці ды ракіровачкі ох які падкі, — тонам вялікага знатака вымавіў Іван Паўлавіч і відавочна хацеў яшчэ нешта дадаць, але, натыкнуўшыся поглядам на ўмольны твар Старыкава, прамаўчаў і толькі крыва ўсміхнуўся.

— Вы, Іван Паўлавіч, выбачайце… я пакуль не ведаю, чаму вы аддаеце перавагу: гарбаце або каве…

— Кофэ! — з характэрным вымаўленнем кінуў генерал, усаджваючыся насупраць гаспадара.

Побач прымастаколіўся Старыкаў. Малюта, трохі павагаўшыся, прысеў на крайняе крэсла з пужынскага боку. Гутарка

ішла нібыта як і ні аб чым, бакі абменьваліся кампліментамі, распавядалі нейкія пацешныя выпадкі са сваіх біяграфій. Адчувалася, што ні адзін, ні другі вялікага досведу перамоўтакога ўзроўню не мелі і спрабавалі, як маглі, прамацаць адзін аднаго, перш чым задаць загадзя нарыхтаваныя пытанні.

— Ну вось, выбары ззаду, і што вы можаце сказаць аб краі, пра былога губернатара?

— Ды што тут гаварыць, паважаны Мікалай Мікалаевіч, вы вось зараз, наколькі я зразумеў, на губерні кінутыя, паездзіце, самі ўбачыце, што дзеецца. Я вам, як вайсковец вайскоўцу, скажу: слінцюкам такі адказны пост, як губерня, давяраць нельга. Бяззубаў проста давёў край да ручкі! Не, вы толькі не падумайце, што я там яго крыві ці рэпрэсій якіх хачу… І ў думках не маю! Хоць, па-добраму, трэба б стварыць незалежную камісію і правесці дасканалую рэвізію, але, на жаль, такіх традыцый у нашай дзяржаве не заведзена. Нічога, абыдземся! Мне Бяззубаў ні да чаго…

— А як вы думаеце, Іван Паўлавіч, куды яго можна працаўладкаваць?

— Ды нікуды. Хоць, можа, у якую навуку засунуць. Мабыць, не ведаю, што вам і параіць. А край мы паднімем, папомніце маё слова. Вам, пэўна, панарасказвалі, што, маўляў, зараз прыедзе такі гарлапан і пачне правы качаць? Ды не, мірны я, з прыродна-ласкавым голасам і тварам. Не трэба мной дзяцей палохаць. Будзем працаваць разам. Прэзідэнты, яны, ці ведаеце, прыходзяць і сыходзяць, а дзяржава нашая і яе цярплівы народ застаюцца. Я, дарэчы, рады, што прыбралі вашую папярэдніцу, пустышка поўная была…

— Ну, гэта ў вас яшчэ перадвыбарны запал кіпіць, — бачачы, што генерал сапраўды пачынае закіпаць, перабіў яго Пужын. — Яна, дарэчы, вельмі талковы работнік, ды і сустрэча нашая — гэта яе задумка…

— А можа, вы і праўду кажаце, — нечакана лёгка пагадзіўся генерал, — насамрэч мяне сёння больш за ўсё хвалюе заканчэнне пасяўной і будучы завоз на Поўнач…

— Паўночны завоз, — выбачлівым тонам паправіў шэфа Старыкаў і падсунуў да яго ліст паперы.

— Ну ды, вядома, паўночны завоз, — і зазірнуўшы ў лісток, адсунуў яго назад, — тут мне нагадваюць, што трэба б падняць кадравае пытанне…

— Цікава, гатовы вас выслухаць.



— Ведаеце, я вось з вамі пагутарыў і вырашыў пакуль пачакаць. Не варта гарачку пароць! Хачу як след разабрацца на месцы, усё ўзважыць, а потым ужо, калі спатрэбіцца, звярнуся да вас па садзейнічанне. Дамовіліся?

— Безумоўна. Па гэтаму пункту застаюся вашым даўжніком. У мяне да вас сустрэчнае пытанне: а як вы ставіцеся да намесніка прэзідэнта ў краі?

— Ды ніяк не стаўлюся, як, зрэшты, і федэральныя структуры! Пару разоў бачыў гэты цуд у штанах, але калі прэзідэнта такое задавальняе, то, па мне, хай сабе блукае. Усё роўна — ад яго ні шкоды, ні карысці.

— А як вы паставіцеся да таго, каб намеснікам у край прызначыць Скураша?

Ад нечаканасці Малюта тузануўся так, што ледзь было не зваліўся са свайго крэсла. Усе павярнуліся ў ягоны бок з цікаўнасцю і некаторай доляй здзіўлення, маўляў, хто такі, адкуль узяўся і чаму такі давер? Старыкаў, гучным сапеннем і нервовым коўзаннем міжволі выявіў сваю незадаволенасць падобным паваротам справы, у яго на гэты конт відавочна былі свае меркаванні.

— Ну што ж, я пярэчыць не стану, даводзілася з ім працаваць у Радзе нацыянальнай стабільнасці, нараканняў да яго не меў, ды і на вайне яго бачыў… — з некаторым здзіўленнем, але, як здалося Малюту, не без задавальнення кіўнуў генерал.

— Аднак… Іван Паўлавіч, — не вытрымаў, увесь затуркаўшыся, Аляксей Віктаравіч.

— Ніякіх «аднак»! Вашая прапанова, Мікалай Мікалаевіч, прымаецца.

Далейшай гутаркі Малюта амаль не чуў. Кроў стукала ў скронях. Рэальнасць адмаўлялася ўспрымацца, галасы гучалі глуха, як са склепа. Вось так, што называецца, без мяне мяне ажанілі! Толькі адвык ад абязалаўкі кожны дзень цягацца на службу, толькі пачаў наладжваць жыццё, а галоўнае, стаў выцягваць нос з фінансавай нявыкруткі, дык на табе. Ды яшчэ сям'я, бо давядзецца з'ехаць з горада… І што цяпер рабіць? Устаць і адмовіцца, маўляў, паважаныя таварышы, нікуды я не паеду, пакіньце мяне ў спакоі. Цябе і пакінуць, прычым назаўжды, і першым гэта зробіць любімы табой Плаўскі, а пра гэтых, са Старой плошчы, і заікацца няма чаго. Дурні нікому не патрэбныя. І, як ні круці, сур'ёзная пасада. Другі раз не прапануюць. Тут, да бабкі не хадзі, зразумела, адкуль усплыло ягонае прозвішча ў вуснах

гэтага чалавека, які ўмомант стаў яму сімпатычным: Перамога Ігараўна ўсё ж выканала сваё абяцанне, дадзенае яму пасля вяртання з Ясейска, і працiснула яго наперад, сама патрапіўшы ў яму манаршай няміласці.

— Малюта Максімавіч! Малюта Максімавіч! — падвышаючы голас, звярнуўся да яго Пужын.

— Ды ён, пэўна, ахранеў ад шчасця, — засмяяўся Плаўскі. — Скураш, вас вашае начальства дагукацца не можа. Гэй, ачніцеся!

— Выбачайце, Мікалай Мікалаевіч, сапраўды ад нечаканасці крыху загрузіўся…

— Ну і як, разгрузіліся? Дзень ад ночы ўжо адрозніваеце? — з прыемнай усмешкай адазваўся гаспадар кабінета. — Пакуль вы там самі з сабою шукалі згоду, мы з губернатарам дамовіліся, што вы так і застаяцеся нашым звязніком ва ўсіх далікатных пытаннях, пры неабходнасці, магчыма, давядзецца і кур'ерам папрацаваць. У маім апараце ўсе пытанні будзеце вырашаць вось з Ігнатам Іванавічам Рэчыным.

Пужын падняўся са стрыманай усмешкай, даючы зразумець, што гутарка скончана і яго чакаюць іншыя неадкладныя справы, усё-ткі першы дзень на пасадзе. Па спакойнаму статычнаму твару было цяжка вызначыць, якое ўражанне зрабіў на яго губернатар і ці застаўся ён задаволены сустрэчай з ім. Генерал жа відавочна падняўся з-за стала з добрым настроем і пачуццём выкананага доўгу і, як паднатарэлы ў падачы сябе публічны палітык, ад навакольных гэтага хаваць не збіраўся. Ён зіхацеў, нібы начышчаны самавар, даючы ўсім зразумець, што дамогся галоўнага: не ён пайшоў у Маскву на паклон, а царова чэлядзь паклікала яго сама. Такі расклад, калі яго правільна выкарыстаць, многага можа каштаваць. Ды і сам Пужын, мяркуючы па ўсім, яму спадабаўся, таму Плаўскі не хітраваў, калі на развітанне марнатравіў кампліменты гаспадару кабінета. Напруга, якая яшчэ гадзіну назад існавала паміж гэтымі людзьмі, неўпрыкмет выпарылася, саступіўшы месца нязмушанай раскаванасці і ўзаемнай сімпатыі. Падавалася, пагутары яны даўжэй, сустрэча скончылася б немінучым афіцэрскім застоллем.

У прыёмнай, калі наведвальнікі ўжо выходзілі ў калідор, Рэчын, працягваючы ўсміхацца генералу, амаль не варушачы вуснамі, паведаміў Скурашу:

— Шэф прасіў вас затрымацца.

— Добра, — ледзь прыкметна кіўнуў Малюта і, калі выйшаў у доўгі калідор, што вёў да прыступак, гучна, каб за ягонай спіной новае начальства чула, вымавіў: — Іван Паўлавіч, калі вы не супраць, я затрымаюся для ўдакладнення задач і атрымання далейшых указанняў.



— Так, вядома, заставайцеся, вунь якія цяпер у вас высокія апекуны! — як здалося Малюту, з сумам вымавіў генерал і, рэзка павярнуўшыся на абцасах, пайшоў.

Гэты генеральскі сум, калі ён толькі не прымроіўся, адазваўся ў душы Скураша нейкай дзіўнай тужлівай крыўдай, бо яго толькі што без хістанняў разменялі на будучую выгаду, якую Плаўскі відавочна спадзяваўся атрымаць, маючы свайго чалавека на пасту «гасударавага вока», — так звалі прэзідэнцкага намесніка ў народзе. Здушыўшы ў сабе гэтую хвілінную слабасць і начапіўшы на твар маску заклапочанай засяроджанасці, ён вярнуўся назад у прыёмную. Рэчын чакаў Малюту і, прайшоўшы наперад, піхнуў дзверы кабінета, які яны толькі што пакінулі.

Пужын размаўляў па тэлефоне і, прыціскаючы трубку плячом, нешта хутка пісаў у вялікім нататніку. Падняўшы вочы на зайшлаў, ён ледзь прыкметна кіўнуў галавой і левай рукой паказаў на стол нарад. Скураш сеў на ўжо знаёмае абабітае карычневай скурай крэсла. Агледзеўшыся, ён уразіўся непатрабавальнасці абстаноўкі кабінета. Нічога лішняга, ніякай адсябеціны, якую любяць амаль усе чыноўнікі і якая, надаючы працоўнаму памяшканню індывідуальнасць, у той або іншай меры прыадчыняе асаблівасці і прыхільнасці чалавека, які праводзіць тут вялікую частку сутак. А тут поўная, амаль на манер сталінскіх часоў, аскеза. Малюта пашукаў вачыма Рэчына, але таго ў кабінеце ўжо не было. «Ціха ходзяць, і дзверы ў іх добра змазаныя», — адзначыў ён пра сябе.

— Выбачайце, — скончыўшы гаворку, якую і гаворкай назваць было цяжка, бо за ўвесь час Мікалай Мікалаевіч вымавіў толькі чатыры словы, адзін раз «так», а ў завяршэнні: «Добра, я зразумеў». — Распавядзіце коратка пра сябе, сям'ю, чым захапляецеся, — падсаджваючыся да Скураша, спытаў ён.

Чалавек, якому часта даводзіцца распавядаць сваю біяграфію, ведае, што трэба гаварыць у падобных выпадках. Апускаючы сотні разоў напісанае ва ўсіх анкетах, акцэнт варта зрабіць на канкрэтныя эпізоды са свайго жыцця, не адыходзячы ад гэтай лініі, і Малюта пачаў выкладаць сваё жыццё, адмыслова ўпор зрабіўшы на службе ў ваеннай газеце, завочную вучобу і працу ў ветэранскіх грамадскіх арганізацыях.

— Добра. Мяркуючы па вашым аповедзе, вы павінны лепш за мяне ведаць, што і як трэба рабіць, прыбыўшы на месца.

У тым, што вы справіцеся з работай, я ніколькі не сумняюся, галоўная загвоздка ў іншым. Вы, пэўна, адчулі, што генерал, без ваганняў пагадзіўшыся з маёй прапановай, спадзяецца выкарыстаць вашыя добрыя ўзаемаадносіны ў сваіх мэтах. Гэта заканамерна: хто адмовіцца мець свайго чалавека на пасадзе чыноўніка, які абавязаны кантраляваць цябе самога і рэгулярна інфармаваць аб гэтым прэзідэнта. Дык вось, менавіта гэты нюанс вам і неабходна пераадолець яшчэ да ад'езду ў край. Вы павінны памятаць: тыя людзі, якія вас рэкамендавалі, былі аднадушныя ў сваім меркаванні аб вашай сумленнасці і адданасці, як гэта ні пафасна гучыць, ідэям дзяржаўнасці. Я не заклікаю вас, што называецца, стукаць на вашага былога начальніка, але прынцыповая пазіцыя ў дачыненні да ягоных дзеянняў і ўчынкаў у вас павінна быць заўсёды свая. Ну вось, мабыць, і ўсё. Хоць не, адну хвілінку, — Пужын вярнуўся да свайго працоўнага стала, узяў некалькі лістоў паперы і працягнуў іх Скурашу. — Я б хацеў пачуць вашае меркаванне па гэтаму дакументу, які пры расстанні ўручыў Ігнату Іванавічу дараднік Плаўскага…

— Старыкаў Аляксей Віктаравіч…

— Дзякуй, я памятаю. Прозвішчы, імёны, імёны па бацьку і твары я запамінаю аўтаматычна, — з лёгкай усмешкай вымавіў Мікалай Мікалаевіч, — выдаткі былой прафесіі, што паробіш. Якое, дарэчы, вашае меркаванне аб гэтым дарадніку?

— Складаны чалавек, кручаны, з нейкай таямніцай у мінулым, але на Плаўскага мае вялізны ўплыў, — і, прадбачачы дадатковае пытанне, Малюта дадаў: — З чым гэта звязана, я не ведаю, але не пракансультаваўшыся з ім, генерал не прымае ні аднаго важнага рашэння. Акрамя таго, Старыкаў — своеасаблівы кіраўнік найбліжэйшага круга губернатара.

— Добра, чытайце паперы, у нас мала часу.

Дакумент, набраны на трох лістах, уяўляў сабою банальны ананімны данос, бо не быў нікім падпісаны, і паведамляў аб злачыннай дзейнасці Паўла Дракава і генералаў, якія прыкрываюць яго ды кіруюць сілавымі ведамствамі краю. Малюта амаль узрадаваўся знаёмай тэме, якой яго так нечакана зацікавіў нядаўні спадарожнік, і ён памкнуўся ўжо было ўсё пераказаць былому кадэбэшніку, але нейкі ўнутраны вартаўнік практычна зняў з языка ўжо гатовыя сарвацца словы.

— Пра Дракава я нешта падобнае чуў, але з Плаўскім яны, як мяне запэўнівалі, на сённяшні дзень сябры-партнёры. Кажуць, ледзь ці не на іконе ў сяброўстве кляліся. Вы ведаеце, Мікалай Мікалаевіч, мне падаецца, што пра змест гэтага ліста Плаўскі, хутчэй за ўсё, нічога не ведае. Ды і не стаў бы ён вам пакідаць непадпісаны дакумент.

— Дакумент ён бы, можа, і не пакінуў, а вось інфармацыю на роздум, як гаворыцца ў вядомым фільме, нам падкінулі. Дзякуй. Пытанні да мяне ёсць?

— Уласна, пытанняў няма, але, прызнацца, хвалююся я моцна, і некаторыя супярэчнасці мяне яшчэ доўга будуць раздзіраць. Але вас не падвяду, аб гэтым можаце не турбавацца.

— Яшчэ раз дзякуй, заўсёды разлічвайце на маю падтрымку і не саромеючыся тэлефануйце мне або Ігнату Іванавічу. Упэўнены, што мы спрацуемся, падпалкоўнік падпалкоўніка заўсёды зразумее.



## 10

У гэтую ноч над Масквой усхадзілася нейкая нетутэйшая, прыйшлая з далёкіх стагоддзяў бура. Такога Скураш, колькі жыў у сталіцы, не памятаў. Летняя мірная цемра зацішных алеяў маскоўскіх паркаў і сквераў, якую любілі закаханыя, увомірг ператварылася ў амаль жывую кашлатую істоту, што абляпіла і прашыла сабою ўвесь вялізны горад з яго шматмільённым насельніцтвам, пампезнымі будынкамі, мірыядамі электрычных агнёў і пяццю цьмянымі вуглямі крамлёўскіх рубінаў, — усё знікла з твару зямлі. І толькі кужэлістая, шызая ад вады, што безупынна ляціць зверху, і шалёных выбліскаў маланак цямрэча, падобная да вялізнай хмары, накрыла ўзгорыстую зямлю старажытных угра-фінаў, некалі адабраную ў іх каварнымі вяцічамі. Вулічныя ліхтары не маглі справіцца з нябеснай вакханаліяй і выглядалі бездапаможнымі недагаркамі свечак у бялявых сполахах нетутэйшай, тагасветнай электразваркі. Вятры ўсяго свету, як звар'яцеўшы, насіліся па пляцах і вуліцах спусцелага горада. Падавалася, што ўсёмагутны і абыякавы да лёсаў людзей Зваршчык вырашыў нарэшце выпаліць па контуры гарадскіх межаў ненароджаны Трэці Рым і, адбіўшы акаліну малатком, закінуць яго на змрочны сметнік сваіх няўдалых праектаў. Вятры, якія атрымалі поўную волю, шалелі, нібы пачуўшыя кроў найміты, што ўварваліся ў пераможаную крэпасць. У паветры лёталі, нібы зрыўкі газет, вялізныя рэкламныя шчыты, падалі тралейбусныя прыпынкі, пінгвінападобныя урны і выдраныя з коранем дрэвы. Месцамі легкавыя машыны куляліся і скакалі па пляцах, як

валаны перакаці-поля ў стэпе. З Вялікага тэатра злупіла дах і, скруціўшы яго ў вялізныя рулоны, расшпурляла ў розныя бакі. Старажытнымі клёнамі, што раслі на ўзбярэжнай, павыбівала вялізныя драконавыя зубы Крамлёўскай сцяны, і яны валяліся ля ейнага падножжа бясформеннымі рудымі грудамі. Асабліва жахлівую карціну ўяўлялі сабою старыя сталічныя могілкі. Векавыя дрэвы былі вывернутыя, агаляючы спарахнелыя труны, пабураныя імі надмагіллі і крыжы ператварыліся ў груды бітага мармуру і граніту, спярэшчаныя пазалочанымі аскепкамі эпітафій. Прах з пабітых пахавальных урнаў, змяшаўшыся з дарожным пылам, разляцеўся навокал і, змыты дажджом, сцякаў папяліста-жоўтымі струменямі ў гарадскую каналізацыю, палохаючы несмяротныя душы.

Раніцай, як ні ў чым не бывала, узышло радаснае і бестурботнае, нібы ўсмешка ідыёта, сонца. Яно абыякава жмурылася на ўчынены ўначы рэзрух.

Людзі, найбяспечнейшыя са стварэнняў, якія калі-небудзь жылі на зямлі, прабягалі на заклік сваіх штодзённых спраў пакручанымі вуліцамі і, кінуўшы мімалётны погляд на раздушаныя дрэвамі машыны, у душы радаваліся свайму безграшоўю, што не дае магчымасці абзавесціся ўласным аўтатранспартам, — і, з палёгкай уздыхнуўшы, спяшаліся на тралейбусныя прыпынкі. І толькі тут, не знайшоўшы на месцы звыклыя рагатыя вагоны, пачыналі гучна абурацца. Дзесьці бліжэй пад абед дабраўшыся да месца працы, народ з круглымі вачыма апраўдваў спазненне жудаснай бурай, якая, аказваецца, уначы (а мы спалі і нічога не чулі!) ледзь было не садзьмула іх родны горад з твару Сярэднееўрапейскага ўзвышша…

Праблемы горада — гэта праблемы гарадскіх службаў, і асобна ўзятага чалавека, як правіла, не тычацца, як не тычацца яго наступствы цунамі ў Інданэзіі або наступствы выбараў прэзідэнта ва ўласнай краіне. Падзея адбылася, здзейснілася, пра яе пагаварылі і дружна забылі. Так было і пасля той страшнай начы. Стараннямі гарадскога галавы ў самыя кароткія тэрміны ў сталіцы ўсё было прыбрана, вычышчана, адрэстаўравана, на што з гарадской скарбонкі забралі адпаведныя сродкі, якіх з лішкам хапіла б на ўзвядзенне новага, тысячаў на чатырыста жыхароў, горада. Вядома ж, гэтыя грошы гораду былі кампенсаваныя з дзяржбюджэту, а прасцей гаворачы, са сродкаў ускрайкавых тэрыторый неабсяжнай краіны. Там прыродныя катаклізмы — з'ява звыклая, народ прасцейшы, ды і ад чужога вока далей. Так што клёны, якія выстаялі на ўзбярэжнай, выкарчавалі, ямы засыпалі і разбілі на іх месцы кветнікі, зуб'е сцяне ўставілі, дахі паправілі, месцам прыстанкаў мёртвых вярнулі першародны выгляд, балазе сваякі, як мурашы, набеглі збіраць, ратаваць і аднаўляць свае дамы скрухі. І ўсё. Бура забылася. Метэаролагі, як заўсёды, растлумачылі прычыны яе ўзнікнення перападамі атмасфернага ціску, сутыкненнем халодных і цёплых франтоў, і гэтага навуковага цемрашальства аказалася дастаткова, каб людзі ў яго паверылі. Толькі некалькі гарадскіх вар'ятаў ды з дзясятак празорлівых, састарэлых і таму ўжо не баязлівых бацюшкаў пачалі нешта невыразна бубніць аб знаку Божым, аб яго папушчальніцтве, а самыя буйныя і лядашчыя са страхам заяўлялі аб наведванні горада галоўным Супастатам, самім Люцыпарам. Не магла, маўляў, простая бура пазбіваць крыжы на шматлікіх цэрквах, вунь колькі і якіх вятругаў было дагэтуль, а крыжы стагоддзямі стаялі, а тут — на табе — уадначас і вобзем! Не, нездарма гэта ўсё, па грахах і справах нашых аддаецца! І праломы ў Крамлёўскай сцяне невыпадковыя, ці так ужо й проста яе дрэўцам прабіць можна? Нібыта яна не крэпасць, не цвержа? Яе вунь бальшавікі з гарматаў разбамбіць не змаглі, а тут гнуткай вяршалінай клёну цэглішча разварнула! Быць такога не можа! Відаць, сам рагаты хадзіў туды! Ох, не ўсё чыста сёння за гэтай сцяной, а туды ж адвеку імкнуць мары й надзеі народныя! Маліся, маліся, Русь праваслаўная, і іншаслаўная маліся, як умееш, бо не ведаеш ты, што будзе і чаму хмара тая прыйшла з паўночнага захаду.

## 11

Інаўгурацыя з чужога, незразумелага і цяжкавымоўнага слова ў расійскай свядомасці хутка ператварылася ў сінонім пышнага свята з добрай, зацяжной п'янкай. Асабліва гуляў і весяліўся службовы люд, для якога ўсшэсце на кіруючае месца прэзідэнта, губернатара, мэра або іншага галавы азначаў канчатак Міжлізня адпаведнага ўзроўню. Нарэшце пасля стольках хваляванняў, інтрыгаў і подласцяў з'явілася новая ўладная срака, якую, паводле старажытнай традыцыі, належыла надалей абходжваць сваім чыноўным языком, служачы ёй і пакланяючыся. Ну, а ўжо калі табе зрабілі ласку паклікаць на само таемства зыходу ўлады на абранніка лёсу, то весялосці тваёй і аптымізму не павінна быць ні канца ні краю.

Вялікая канцэртная зала, ВКЗ, Ясейска гула, як вулей. Старая краёвая знаць чынна фланіравала па прасторных і светлых ве-

стыбюлях, пачціва і вельмі стрымана вітаючыся, бо ніхто яшчэ дакладна не ведаў, кім заўтра будзеш ты, а кім былы суаварыш, які няшчыра ўсміхнуўся табе. Заўважыўшы сярод залы невялікі кружок, у цэнтры якога нязменна знаходзіўся хто-небудзь з тых, хто прыехаў з Плаўскім, мясцовыя бачком падкатвалі і ўважліва прыслухоўваліся да размоў, як правіла, небагата апранутага, у стаптаных чаравіках спадара, які з бляскам у вачах нёс часам поўнае глупства. Але паспрабуй жа ты разбярыся, што цяпер глупства, а што рацыянальнае зерне, з якога і павінна цудоўным чынам вырасці мадэль айчыннага капіталізму з дазаванай дэмакратыяй.

Цырымонія ўступлення на пасаду новага, шаснаццатага губернатара Ясейскага краю была абстаўленая з належнай такому выпадку пышнасцю. Цэлы сімфанічны аркестр іграў урачыстую музыку, сцэна была задрапаваная дзяржаўнымі сцягамі і дзяржаўнымі арламі, бо ўласных гербаў і сцягоў у краі яшчэ не было. Афіцыйную Маскву прадстаўляў Галоўны кантралёр прэзідэнта — Платонаў Мікалай Платонавіч, які заняў гэты пост пасля сыходу Пужына, а да гэтага служыў у Мікалая Мікалаевіча намеснікам. Чалавек з органаў, да публічнай палітыкі ніякага дачынення не меў. У назапашвальніку для адмыслова ганаровых гасцей ён нервова церабіў накрухмаленую сурвэтку, піў ваду і ад нязвыклай для тутэйшых месцаў духмені неймаверна пацеў, шэры пінжак, які страціў форму, даўно не прасаваныя штаны і штохвіліннае заглядванне ў чырвоную тэчку рабілі яго доўгую, няскладную фігуру смешнай і шкадобнай. Мікалай Платонавіч разумеў усю ўскладзеную на яго адказнасць і больш за ўсё баяўся што-небудзь наблытаць пры абвяшчэнні прэзідэнцкага віншавання. Дапамагаць і асіставаць яму ў гэтай справе быў прызначаны Замойленка Леанід Сяргеевіч, нізкарослы худзенькі чалавек з неадрознай у натоўпе знешнасцю, які некалі служыў дырэктарам сірочага прытулку аднаго з сібірскіх гарадоў. У свой цяперашні кабінет на Старой плошчы Леанід Сяргеевіч быў падняты сілай першай хвалі айчыннай дэмакратыі. За шэсць гадоў свайго знаходжання ў Маскве правінцыйная ціхоня ўмудрыўся зрабіць галавакружную кар'еру і займаў пост начальніка галоўнага ўпраўлення правінцый, і, як пагаворвалі дасведчаныя людзі, гэтая пасада не была для яго мяжой. Запарукай такой упэўненасці быў той факт, што за ўвесь свой чынавенскі век Леанід Сяргеевіч не прыняў ні аднаго самастойнага рашэння.

Малюта, хоць яго афіцыйнае прызначэнне пакуль яшчэ не адбылося, трымаўся бліжэй да афіцыйных масквічоў, вырашыўшы



пра сябе, што для карысці справы, мабыць, варта зрабіць на іх добрае ўражанне. Да прызначанага часу народ не спяшаючыся пачаў падцягвацца ў вялікую падковападобную залу, падзеленую амаль напалову шырокім папярочным праходам, на якім і размяшчаліся крэслы самага прэстыжнага рада. У цэнтры размясціўся генерал з жонкай, справа і злева ад губернатарскай пары расселіся ганаровыя госці. Малюту таксама вызначылі месца ў гэтым радзе недалёка ад правага краю. Ледзь далей, відавочна, бянтэжачыся, сціпла сядзеў Дракаў. Малады, хударлявы, са злёгку выцягнутым тварам, ярка выяўленымі скуламі, уважлівымі, чэпкімі вачыма, ён не рабіў уражання монстра, якім яго малявалі міліцэйскія зводкі і людскія плёткі. Дарагі гарнітур сядзеў на ім няскладна, было відаць, што да вопраткі падобнага крою ён яшчэ не асабліва прывык.

І вось ён, пачатак урачыстасці! Святло ў зале паступова згасае, міжволі прыкоўваючы ўвагу да зіхоткай сцэны, і цішыню ўзрываюць урачыстыя гукі гімна. Гэтая дзяржаўная музыка, закліканая ўвасабляць моц і веліч дзяржавы, у апошні час выклікала ў Скураша супярэчлівыя пачуцці. Старая мелодыя непазбежна цягнула з памяці і старыя словы: «Саюз непарушны рэспублік свабодных…». Так што замест судакранання да вялікіх спраў у душы нараджалася форменная настальгія з гаркавым прысмакам прыкрасці на цяперашніх уладароў, якія самі нічога вартага прыдумаць не могуць, а толькі прыбіраюцца ў чужыя абноскі.

З першымі гукамі гімна зала, як прынята ў падобных выпадках, дружна ўстала, і ў гэты ж самы час з бакавых дзвярэй па цэнтральным праходзе, не звяртаючы ўвагі на дзяржаўную песню, да свайго месца ганарліва прайшла Ала Пугачова, запрошаная на ўрачыстасці самім генералам. Толькі ашаламляльных памераў капялюш хаваў яе самазадаволеную і злёгку гарэзную ўсмешку. Калі б хтосьці назіраў за тым, што адбываецца, не чуючы гуку, ну, дапусцім, глухі, перад ім паўстала б найзабаўная карціна: у залу ўваходзіць Прымадона, і ўвесь народ, на чале з губернатарскай парай, урачыста ўстае. Злыя языкі потым доўга абсмоктвалі гэты анекдот, а Плаўскаму Ала Барысаўна з таго моманту рэзка перастала падабацца.

Але на гэтым казусы генеральскай інаўгурацыі не скончыліся. Усклаўшы сваю вялізную лапу на Канстытуцыю, Іван Паўлавіч прагыркаў кароткі тэкст клятвы, звернутай да жыхароў краю, пасля чаго, паводле сцэнара, на сцэне з'явіўся ўладыка Яўлагій, тады яшчэ ў чыне біскупа Ясейскага і Тунгускага. Праспяваўшы

прыемным барытонам належныя на такі выпадак малітвы, ён урачыста дабраславіў генерал-губернатара на подзвіг богадагоднага служэння народу выявай Хрыста Уседзяржыцеля і па звычцы працягнуў абраз для цалавання, чым настолькі збянтэжыў Плаўскага, які не верыў ні ў чорта, ні ў бога, — і той замёр у здзіўленні. Неапраўданая паўза зацягвалася, з залы, з першых шэрагаў, спрабуючы выправіць становішча, пачаліся падказваць, хто як мог, і, як заўсёды ў такіх выпадках, недарэчы. Між тым архірэй, успрыняўшы замяшанне Плаўскага як запрашэнне мовіць слова, павярнуўшыся да залы, зрыхтаваўся піхнуць пропаведзь. Па шэрагах пракаціўся лёгкі шум адчаю. Мясцовы люд, добра дасведчаны аб прыхільнасці свайго біскупа да публічнай пустагаварыльні, прадчуваючы весялуху, застыў у чаканні. Сітуацыю выратаваў вядучы. Спрытна адціснуўшы ўладыку ад стацыянарнага мікрафона, ён гучна абвясціў павесялелай публіцы:

— Дзякуем нашаму архірэю за духоўнае пажаданне губернатару. А зараз слова даецца Галоўнаму кантралёру Прэзідэнта Расійскай Федэрацыі Платонаву Мікалаю Платонавічу.

Усе з палягчэннем уздыхнулі. Уладыка, трымаючыся з усіх сілаў, каб не раз'юшыцца, з крыўдай у позірку накіраваўся ў правую кулісу. Але тут Галоўны кантралёр, які ў гэты самы момант паднімаўся на сцэну, нечакана спатыкнуўся на прыступцы і ледзь было не расцягнуўся яму насустрач. Сур'ёзнасці гэта прысутным яўна не дадало.

— Паважаныя есентукоўцы! — звярнуўся збянтэжаны Мікалай Платонавіч да аўдыторыі.

Зала, нягледзячы на ўсю самавітасць публікі, выбухнула смехам. З усіх бакоў пачуліся рэплікі: «Ясейцы мы! Ясейцы!»; «У Есентукі мы загараць лётаем!»; «Ды што ж гэта такое?». Прычына такой бурнай рэакцыі на банальную абмоўку была ў тым, што па прыездзе ў край Плаўскі напачатку ўпарта зваў яго чамусьці не Ясейскім, а менавіта Есентукоўскім, што, натуральна, кагосьці бавіла, а кагосьці і адкрыта злавала. Палітычныя супернікі тут жа ўзялі геаграфічную малапісьменнасць генерала на ўзбраенне і раздулі з гэтага сапраўдную контрпрапагандысцкую кампанію. Вядома ж, Платонаў гэтага ўсяго не ведаў і стаяў за лёгкай, па амерыканскаму ўзору выраблена трыбунай збянтэжаны і чырвоны, як школьнік перад грозным педсаветам. Ён не разумеў, што адбылося, і здзіўлена глядзеў на Плаўскага.

— Край наш называецца Ясейскі, — злёгку нахіліўшыся да пасланца Масквы, гучна вымавіў Іван Паўлавіч.



— Выбачайце, — выдушыў з перасохлай глоткі кантралёр, — я — не прафесійны прамоўца, і прашу мне прабачыць за хваляванне. Дазвольце мне ўсё ж абвясціць прывітанне Прэзідэнта Расійскай Федэрацыі.

І абвясціў яго, трэба аддаць яму належнае, практычна без запінак і нават з нейкім падабенствам лагічных націскаў.

Пазней, калі ўвесь афіцыёз застаўся ззаду, многія падыходзілі да Мікалая Платонавіча са словамі спагады і падтрымкі. Скураш, які знаходзіўся побач з высокім госцем, бачыў, што таму непрыемныя падобныя знакі ўвагі, і вырашыў умяшацца.

— Выбачайце, паважаны, на жаль, не ведаю вашага імя, — выступіў наперад Малюта, калі нейкі спадар, адляпіўшыся ад сваёй жонкі, зацягнуў чарговае: «Ды не бярыце так блізка да сэрца, дзяржава вялізная і абласцей безліч…» — павінен заўважыць, вы будзеце ўжо сорак трэцім чалавекам, які заяўляе аб слабым веданні вашым губернатарам геаграфіі. Чаму б вам усё гэта не выказаць яму асабіста?

Спадар імгненна зрабіўся пунсовым. Не ведаючы, куды дзець вочы, ён прамармытаў няўцямныя выбачэнні і паспешліва змяшаўся з натоўпам, які рухаўся ў бок рэстарана, дзе спела вялікая інаўгурацыйная бяседа.

— Дзякуй вам, Малюта Максімавіч, а то сапраўды дасталі яны мяне. Іншыя б прапусцілі міма вушэй, а гэтыя гамоняць і гамоняць…

— Правінцыя нашая непапраўная, Мікалай Платонавіч, — махнуў рукой Малюта, — як была геніяльнай і бестактоўнай, так і засталася. А вашая абмоўка праскочыла б незаўважанай, калі б Плаўскі сам пару разоў не назваў край Есентукоўскім…

— Дык вунь яно ў чым рэч! А я думаю, з якога боку вы генерала ўкруцілі? — засмяяўся Платонаў. — Ну ды добра. Якія тут далей планы? А то ў нас сёння пад вечар самалёт.

На самалёт паспелі, хоць у рэстаране давялося добрую гадзіну чакаць прыбыцця вінаўніка ўрачыстасці, якога нечакана адцягнулі ад бяседы неадкладныя справы. «Я сюды не жарты жартаваць прыехаў, працаваць прыйдзецца ўсім!» — апавясціў губернатар зніякавелых гасцей.

У спешным парадку выканаўшы ўсе фармальнасці і абмяняўшыся дзяжурнымі тостамі з Плаўскім, маскоўскія госці, у суправаджэнні Малюты і мясцовага прадстаўніка Галоўнага кантралёра, паспяшаліся развітацца.

Па дарозе ў аэрапорт усё больш маўчалі, кожны думаў аб сваім. Дзесьці на паўдарозе Малюта патэлефанаваў у дэпутац-

кую залу ўдакладніць час вылету, і яму паведамілі, што рэйс затрымліваецца прыкладна на гадзіну. Адчуваючы пахмурны настрой гасцей, Скураш вырашыў разрадзіць становішча і прапанаваў выйсці прагуляцца і трохі падыхаць свежым паветрам. Ідэя ўсім спадабалася, і група размясцілася на невялікім узлеску маляўнічага бярозавага гаю. Запаслівы Малюта неадкладна выняў з багажніка дзве яшчэ не паспеўшыя сагрэцца бутэлькі «Сібірскай».

Як жа ўсё-ткі добра п'ецца нашая руская на прыродзе! Асалода ні з чым не параўнальная! Пасля напружанага дня госці адпачывалі душой і целам, а неўзабаве расслабіліся канчаткова і, пачуваючыся ў сваім крузе, паступова разгаварыліся.

— Мікалай Платонавіч, вы заўважылі, што Плаўскага, які яшчэ толкам і ў пасаду не ўступіў, ужо, падобна, панесла? — пачаў Замойленка. — Аб чым толькі ні гаварыў на працягу дня, а вось аб Прэзідэнце нават і словам не абмовіўся. Я ўжо маўчу аб нейкіх там падзяках, разумею, пакрыўджаны ён на нас, але пратакольны тост за здароўе Гаранта мог бы падняць, язык бы не адваліўся! Чуе мая душа, адграбём мы з ім клопатаў.

— Драматызаваць, вядома, не трэба, але трывожныя званочкі ўжо прысутнічаюць, — па-чэкісцку ўнікліва адказаў Платонаў. — Зараз, вядома, яшчэ рана гаварыць нешта вызначанае, першыя крокі ўсё-ткі не паказчык, хоць хто яго ведае? А вось за здароўе і мудрасць нашага Прэзідэнта мы зараз і вып'ем.

Уставаць, як належыць у такім разе, не давялося, імправізаваным сталом служыў засланы чыстым папяровым абрусам багажнік службовай «Волгі», так што, падабраўшы жываты, народ дружна выпіў. Ніхто з іх тады не ведаў свайго заўтрашняга дня, а распавядзі ім зараз пра іх будучыню, ніхто б і не паверыў.

## 12

Сухарлявы мужчына, у белай кашулі з высокім расшпіленым каўняром, рэзка спыніўся ля акна, якое выходзіла ў двор комплексу будынкаў Маскоўскага Крамля. Загадкавая ці то ўсмешка, ці то грымаса блукала па ягоным твары. Невысокі спадар меў яркую запамінальную знешнасць: высокі лоб, якому вялікія залысіны надавалі сакратаўскую выпукласць, даўгаваты, з невялікай драпежнай гарбінкай нос, падбародак, які выдаваўся наперад, таўставатыя, пачуццёвыя вусны і невялікія, глыбока пасаджаныя, з характэрным нацыянальным выкочваннем, вочы, што зіхцелі ліхаманкавым бляскам апантанага чалавека.



Усё ягонае аблічча, тузаная, пераламаная фігура надавалі яму падабенства з нейкай міфічнай істотай, якая ў розныя часы і ў розных народаў звалася па-рознаму: у каго д'ябал, у каго шайтан, у каго злыдух.

Міхаіл Львовіч Амроцкі, па мянушцы Гоблін, сапраўднага сэнсу гэтай мянушкі, што прыліпла да яго яшчэ са школы, не ведаў, а тлумачыў яе заўсёды па-рознаму, у залежнасці ад акалічнасцяў. Так ці інакш, істота гэтая бачылася яму не асабліва крыважэрнай, рызыкоўнай і вельмі авантурнай. Урэшце, юнацкія ўяўленні аб гэтым невядомым нячысціку і абумовілі ягоны далейшы лёс. Амроцкі са штатнага і вельмі выдатнага служкі навукі амаль уадначас зрабіўся вялікім камбінатарам, аб маштабах і размаху круцялёў якога местачковы Ося Бэндэр нават і марыць не мог. Армагедоныч, або Гоблін, як яго за вочы звалі блізкія і сябры, умудрыўся ператварыць Крэмль у вялізную кантору «Рогі і капыты», а галоўнага яго жыхара — у своеасаблівага дырэктара Фунта, у абавязкі якога ўваходзіла сядзець, у дадзеным выпадку на троне, да заканчэння стагоддзя. Менавіта адцяжка гэтага немінучага «заканчэння стагоддзя» цяпер і бударажыла кроў і ўяўленне вялікага камбінатара.

Усякая смута нараджае сваіх выразнікаў, часам іх шмат, часам мала, як карта ляжа. Расійская смута дзевяноста першага года нарадзіла полчышчы сваіх наперснікаў, але самым зласлаўным і адыёзным з іх, безумоўна, быў Міхаіл Львовіч, своеасаблівы Распуцін нашага часу.

Чалавек небясталентны, ён адзін з першых пачуў пах вялізных грошай, якія можна без супраціву і якіх бы там ні было сур'ёзных наступстваў прысвоіць сабе. Цяперашняя дзяржаўная ўлада са старымі савецкімі мазгамі ў словах «дэмакратыя» і «капітал» бачыла новыя сінонімы паняццяў «камунізм» і «народны дабрабыт» і без пакутаў сумлення рассоўвала гэты самы набытак па ўласных кішэнях. Менавіта таму ёй неабходны былі яркія і таленавітыя тэарэтыкі, якія ўмелі б апраўдаць любое злачынства, прадставіўшы яго барацьбой з чырвона-карычневай пагрозай і неабходнасцю стварэння ўмоў незваротнасці разадраўшых краіну працэсаў. Карацей, краіна раптоўна вырашыла жыць па-новаму, па-капіталістычнаму, а ўсе атрыбуты і механізмы, якія кіравалі гэтай краінай, засталіся старымі, цэкоўска-абкамаўскімі, і паняцце «народ і дзяржава» ўсё яшчэ працягвала гучаць як нейкае адзінае цэлае. Вось і кінуўся Амроцкі і яму падобныя абіраць гэтую самую дзяржаву пад добрапрыстойнай ідэяй узбагачэння самога народа. Як і нале-

жыць апантанаму прадаўжальніку справы Троцкага–Ульянава, якія прапанавалі ў свой час дасціпны варыянт «рабуй нарабаванае», ён з радасцю пагадзіўся замяніць вядомы лозунг «усё вакол калгаснае — усё вакол маё» на яшчэ больш нявызначаны і ёмісты — «усім — усё і пароўну». Аднак здзейсніць гэта без найвышэйшага дабраславення ніхто не мог, і Міхаілу Львовічу спатрэбіліся гады працы, знявагаў і фінансавых выдаткаў, перш чым ён апынуўся ля падножжа расійскага стальца.

Рамантыкі дэмакратызатары, на чале са сваім дужа п'ючым правадыром, цешыліся наіўнымі і таму жорсткімі эксперыментамі, нібы дзеці, якія патрошаць аскепкам шкла жывую жабу. Ім здавалася — яшчэ трошкі, і яны пазнаюць сапраўдную сутнасць краіны, якая іх узрасціла, але чым даўжэй зацягваліся эксперыменты, тым страшней жылося людзям, тым хутчэй багацелі самыя нявартыя, а высокія і правільныя беззваротна дэградавалі, несучы з сабою ў нябыт самае патаемнае — жывы і старажытны дух зямлі. Цень Гобліна, злавесны і чорны, павольна ўставаў над Крамлём.

Усё, як заўсёды, вырашыў выпадак. На пачатку другой перадвыбарнай гонкі мала хто спадзяваўся, што спіты «Балівар» вывезе. Лепшыя айчынныя розумы дэмнікаў, як пачалі называць дэмакратаў, ламалі свае звіліны, толькі трэск стаяў у высокіх кабінетах. Ім на падмогу, нібы прусакі, з усіх шчылінаў лезлі розныя іншаземныя дарадцы і кансультанты. Мабілізоўвалася ўсё, аднак парадокс быў у тым, што чым больш прыцягвалася сілаў і сродкаў, тым песімістычнейшым бачыўся вынік. Вось тут і падмітусіўся Амроцкі, своечасова падсунуўшы Гаранту дзве хітрыя ідэі. Першая: арганізаваць своеасаблівы «абшчак», куды б скінулі грошы галоўныя буржуа краіны, бо гэта менавіта яны, а не народ, былі ў першую чаргу зацікаўленыя ў прадаўжэнні тэрмінаў кіравання Цара. Другая задума заключалася ў перакупцы ўжо раскручанага кандыдата ў прэзідэнты. Рабочая схема: да першага тура ўсе ідуць самастойна, а перад другім «цёмны канёк» злівае сваіх выбарнікаў у іх карысць, і грозныя камунякі застаюцца з носам. І што б вы думалі, абедзве ідэі стрэлілі бліскуча! Міхаіл Львовіч з сярэдняй рукі мільянера-паскрэбка раптоўна ператварыўся ва ўсёмагутнага фаварыта манаршага клана.

Усё гэта ўспомнілася Амроцкаму сёння ля крамлёўскага акна. Самым цяжкім было ўгаварыць Плаўскага, які ў той перадвыбарнай гонцы ішоў трэцім, а дакладней, прымусіць генерала паверыць у абяцанні і непахіснасць слова Гаранта. І ён гэта зрабіў. Ніхто б не змог, а ён зрабіў! Вядома, давялося выдаткавацца на подкуп галоўнага дарадцы прэтэндэнта, але гэта было самай лёгкай справай, цяжэй было з самім Плаўскім. Ён фардыбачыўся і набіваў сабе цану, а галоўнае, патрабаваў рэальных гарантый. Начныя пасядзелкі на дачы пагражалі ператварыцца ў форменны пшык, калі б не адна крамольная думка, якая азарыла яго неяк пад раніцу. Тады ён, праводзячы генерала да машыны, прапанаваў яму ў лоб стаць пераемцам пасады ў выпадку сыходу са сцэны Гаранта. Генерал, насупіўшыся, буркнуў: «Падумаю!» — і з'ехаў. Да вечара наступнага дня справа была ўладжана. Радасці Сям'і не было мяжы.



Магчыма, усё б і развівалася па ягоным сцэнары, будзь генерал хоць крышачку гнутчэйшым, дальнабачнейшым і разумнейшым. Але яго панесла з першых жа тыдняў працы Сакратаром Рады нацыянальнай стабільнасці. І Міхаіл Львовіч быў першым, хто прапанаваў закапаць назад у народны перагной народнага любімца.

Але гэта ўсё мінулае, мінулае. Сёння іншыя клопаты, іншыя рэаліі, і зноў недарэчы ўсплыў гэты Плаўскі, ды яшчэ дзе? У Ясейскім краі!

«Так, мабыць, цяпер яго абдурыць будзе цяжэй. Але няма задач невыканальных, так, здаецца, любіць паўтараць Плаўскі. Абуем, дайце час, калі ўжо цэлую краіну абулі, дык асобна ўзятага генерала, ды яшчэ без войска, абуем за мілую душу. Галоўнае ў іншым: ідэя пераемніка, узніклая тады спантана, сёння здабыла абалонку са шматхадовым дзеяннем і, можна сказаць, стала рэалізоўвацца. Магчыма, варта і пагуляць з цяперашнім ясейскім губернатарам, чорт яго ведае, што там будзе да двухтысячнага года? Каб застацца ў прыкупе, трэба карты ў розных рукавах трымаць. — Міхась Львовіч механічна пачухаў свой падбародак, нібы пацерабіў нябачную бараду. — Тое, што Плаўскі папрэ ў прэзідэнты, тут асаблівай празарлівасці не патрабуецца. Цяпер галоўнае — не даць яму магчымасці адвязацца і пачаць шукаць саюзнікаў і спонсараў. У Ясейск пралез з дапамогай мясцовага крымінальнага металурга, а ўжо калі на Маскву пойдзе, ахвотнікаў будзе хоць адбаўляй. Так што цяпер — толькі самае моцнае і цеснае сяброўства, самая шчырая падтрымка, галоўнае, каб раней часу не ўчуў, што ён не адзінокі ў чарзе па пасаду пераемніка. А вунь як ён замітусіўся пасля апошніх перастановак! Дурань дурнем, а чуе, што запаветнае можа сплысці. Прыляцеў з вытарашчанымі вачыма: «Што за гульні, Міхаіл Львовіч? Мы так не дамаўляліся!» Можна падумаць, што мы

неяк па-іншаму дамаўляліся. Стратэг хрэнаў! Адно добра, што прыбег ён менавіта да мяне, значыць, памятае, з чыёй падачы ўзляцеў. Гэта, можа, самае галоўнае і ёсць, можа, менавіта гэта, калі трэба, і стрэліць. Галоўнае, не перагнуць палку, а так ён, як наркаман, ніколі з гэтай іголкі не злезе».

Амроцкі любіў нядоўгімі вольнымі гадзінамі паразважаць на адцягненыя тэмы, і тады ён вырастаў ва ўласных вачах да маштабаў Спінозы і Макіявелі.

«Дзіўная справа — палітыка, — з задавальненнем учапіўшыся за любімую тэму, думаў Амроцкі, — і гульня, і бізнэс, і магчымасць самавыяўлення, і запал, і наркотык, і ўсё гэта ў адным флаконе, вось ужо сапраўды д'ябальская сумесь, варта яе аднойчы паспытаць — і ўсё, згінуў, знік ранейшы чалавек; замест яго нараджаецца хтосьці новы, неўтаймаваны, самаўлюбёны, які тупа верыць у сваю адмысловую ролю, гатовы перагрызці глотку любому, хто пакваціцца на яго запаветнае месца. Ніцшэ, безумоўна, мае рацыю са сваёй бялявай шэльмай, але толькі збольшага. У большасці перароджаны чалавек, прыняўшы новую абалонку народнага героя або абранніка, духоўна ламаецца і ператвараецца ў звычайнага бязвольнага смоўжня, які дрыжыць за сваё месца. Яго спакойна можна прымусіць выконваць самыя неймаверныя і гідкія задачы. І няма ў свеце нікога больш паднявольнага, чым гэтыя, у прынцыпе, глыбока няшчасныя людзі. Адзінкі, вядома ж, спрабуюць застацца вернымі сваім прынцыпам, ды толькі, як правіла, да прыходу ва ўладу. І няма сёння ў гэтай краіне сілы больш амаральнай і прадажнай, чым партыя ўлады. І так у Расіі было амаль заўсёды. Аднак простаму народу гэта невядома, ён працягвае свята паважаць сваіх куміраў і, пасля іх смерці, выпінаючыся з апошніх сіл, узводзіць ім пампезныя манументы, не гледзячы на пануючыя паўсюль голад і развал. І вось я — адзін з тых, хто ўсё гэта бачыць, прагназуе, адным словам, кашаварыць на гэтай д'ябальскай кухні! Так, ад сціпласці ты сапраўды не памрэш. Галоўнае, табе самому не прыпадобніцца таму кату, які так аб'еўся смятаны, што не змог са склепу вылезці».

Міхаіл Львовіч адышоў ад акна, выгляд з якога не чараваў позірку адмысловым каларытам, хутчэй наадварот, ламаныя сцэны ўнутранага двара, шэрыя да манатоннасці, уяўлялі не зусім прыглядны выварат фасаднай строгасці і напускной пампезнасці. Бакавая замкнёнасць прасторы заўсёды выклікала ў ім прыкрыя адчуванні, асацыюючыся з турэмным панадворкам для шпацыраў. Падышоўшы да працоўнага стала, ён, не перарываючы сваіх роздумаў, пачаў механічна збіраць раскладзеныя на ім паперы і акуратна складаць іх у невялікі скураны партфель. «Так, вось ты і залічыў сябе ў «лялькаводы», але ці так гэта важна для цябе зараз? Толькі не хлусі! Цябе гэта захапляе і бударажыць кроў, без гэтага ты ўжо і сам не можаш, ты паступова становішся закладнікам створанай табой сістэмы. Чым гэта можа скончыцца? Ды па-рознаму, аж да поўнага абнулення як цябе самога, так і ўсіх тваіх задум. Ну і хай, ну і чорт з ім! Аднак я сваю справу зраблю, я завяршу тое, што пачаў. Хай потым прыдуркі з універсітэцкімі дыпломамі ламаюць свае разумныя галовы, дашукваючыся, як у мяне гэта атрымалася, што ў маіх дзеяннях было першаснае, а што другаснае, ці быў я масонам і ці працавалі побач са мной нябачныя натоўпы вольных муляроў. Хай шукаюць, хай ствараюць новыя легенды, з якіх з часам і вылупіцца новая гісторыя новай краіны, гісторыя, якую я зраблю вось гэтымі самымі рукамі. А пакуль, чым больш небыліцаў — тым лепш. І ўсё ж, пара ў аэрапорт, у ноч перад інаўгурацыяй Плаўскі павінен не сваіх чарцей, а мяне сузіраць. Так будзе спакайней і мне, і яму, і ўсім. Сібірскім волатам варта зноў заняцца ўшчыльную і пастарацца трымаць яго пад рукой».



Хвіліну павагаўшыся, ён патэлефанаваў.

— Жэня, давай дозамі, не праз нашыя каналы запускай генеральскую тэму. Пракорам добра заплаці, хай смецяць да хрыпаты на тэму «Калі не ён, дык хто ж?» Ты зразумеў, гэта да нас ніякага дачынення не мае, так, ідзе само сабою, пакуль Цар вагаецца, на каго ставіць канчаткова. І нядрэнна б сёння ўвечары ўжо штонебудзь запусціць, хай найлягчэйшае. Добра? Я ўжо ў палёце.

Паралельна з гэтай гутаркай у галаве камбінатара, як на нябачным дысплэі, пранесліся сцэны доўгіх дэбатаў па выбарах кандыдатаў у пераемнікі. Гутаркі гэтыя вяліся пакуль без прыцягнення Гаранта, фактычна, за яго спіной, але, як казала яго любімая дачка, выключна ў ягоных інтарэсах.

«Да-а, займальная гэта ўсё-ткі краіна — закуліссе», — Міхась Львовіч, начапіўшы на твар маску заклапочанага дзяржаўнымі клопатамі чалавека, мітусліва, з лёгкімі падскокамі пакінуў свой кабінет, каб праз гадзіну з невялікім забыцца чуйным сном у салоне свайго самалёта, які нёс яго ў далёкі Ясейск.

## 13

Не было б гэтай начы, невядома, як бы павярнуўся лёс не толькі Плаўскага, але і ўсёй матухны Расіі.

Што ж за вялікая таемная сіла таілася ў змроку начы, і чаму яна можа тварыць падобныя метамарфозы з лёсамі людзей і дзяржаў? Чаму амаль усе айчынныя перавароты, уключна з бальшавіцкім, адбываліся па начах? Чаму адна п'яная начная пасядзелка ў глухой Белавежы абярнулася крахам вялікай дзяржавы? Чаму зусім нядаўна, у ноч паўторнага ўсшэсця на трон, барвовае полымя пажару трывожна шугала над цэнтрам сталіцы, і страшныя бліскавіцы кідаліся па анямелых сценах вечнага Крамля? Чаму ў расійскай гісторыі ноч займае ці не галоўнае месца?

Ноч паступова разгаралася над велічнай ракой, якая імкліва несла свае цёмныя воды на поўнач, да берагоў затоенага пад ільдамі акіяна, да старажытнай, не знойдзенай і дасюль калыскі таямнічых арыяў.

Урачысты дзень генеральскага трыумфу паціху падыходзіў да канца, афіцыял і шумнае застолле шчасліва адгрымелі салютамі, каб да ночы плаўна перацячы ў невялікую ўтульную залу загараднай рэзідэнцыі губернатара, дзе сабраліся толькі блізкія з блізкіх і правераныя з праверaных. Скураш многіх з прысутных зусім не ведаў і раздаваў свае візітоўкі проста так, што называецца, на ўсякі выпадак.

Праводзіўшы высокіх маскоўскіх гасцей, ён вярнуўся ў горад у добрым настроі, паспеўшы за гэты дзень абзавесціся новымі знаёмствамі і патрэбнымі кантактамі. Ды і высокія госці, слава Богу, здаецца, засталіся задаволеныя. «Хоць, калі чэсна, — думаў Малюта, — нешта госці для падобнага выпадку аказаліся не такія ўжо і высокія; прымаючы да ўвагі значнасць краю ў эканоміцы і геапалітыцы краіны, Маскву павінен быў прадстаўляць хтосьці больш значны, ну, скажам, кіраўнік адміністрацыі або прэм'ер-міністр, а не наваспечаны кантралёр і непрыкметны дэмакрат». Атрымлівалася, што Крэмль як бы намякаў зноў абранаму саноўніку і на яго нізкі рэйтынг, і на тое, што нічога з яго мінулых выхадак не забыта, а, даручаючы прачытаць казённы тэкст прывітання з факсіміле Гаранта галоўнаму кантралёру, недвухсэнсоўна даваў зразумець, што варта чакаць сталай апекі і будучага кантролю за дзеяннямі генерала. Гэта нічога добрага Малюту ў ягонай будучай працы не абяцала.

Тым часам у гасцёўні ішла даволі ажыўленая гутарка. За ўсімі гэтымі думкамі Скураш крыху адарваўся ад наваколля, і цяпер з цікаўнасцю разглядаў прысутных. Многія з іх былі сваякамі Плаўскіх, блізкімі або далёкімі, у гэтым ён яшчэ разабрацца пакуль не паспеў, але да гутаркі пачаў прыслухоўвацца з цікавасцю.



— Можа, і ёсць дзесьці нейкія таемныя і нябачныя арганізацыі, — відавочна з веданнем пытання вяшчаў высокі, грузны чалавек з лёгкім каўказскім вымаўленнем, падаецца, ён даводзіўся мужам сястры генеральскай жонкі, — і нібыта яны робяць сваю згубную справу, увасабляючы цёмны пачатак усяго свету. Магчыма. Але ў айчыннай гісторыі такіх заўважана не было. А калі нейкія і існавалі, дык уяўлялі сабою групы фанатыкаў ды, як правіла, людзей недасканалых, гатовых за сваё хваравітае светаадчуванне прынесці ў ахвяру не толькі самога сябе, але і значную частку ўсяго чалавецтва. І, што самае галоўнае, іх таемныя саюзы заўсёды раскрываліся народнаму погляду і заканчваліся судовымі працэсамі, шыбеніцамі, Сібірру, а пазней — псіхушкамі і выправаджэннем за межы дзяржавы.

— Выбачайце, ну а як жа быць з масонамі? — перабіў яго сын генерала, Сямён.

— Вольныя муляры, якіх заўсёды ў ласкавай нашай Бацькаўшчыне існавала з лішкам, больш з'яўляліся філантрапічнымі клубамі, чым нейкімі павуціннымі творцамі гісторыі. Хоць іхняя дзейнасць, акрамя кар'ернага падцягвання сваіх акультных практык і прыемнага баўлення часу, і прыводзіла да разжыжэння дзяржаўнасці і патрыятызму ў мазгах нашай творчай і навуковай інтэлігенцыі, што, у сваю чаргу, давала жыватворную глебу для стварэння разнастайных крамольных партый і груп, а галоўнае, нараджала ў шырокім грамадстве ўсеагульную да іх спагаду. Гэта, мабыць, і ўсё, у чым можна было б абвінаваціць наіўных рамантыкаў, носьбітаў фартушкоў, прыхільнікаў цыркуля і вугольніка.

— А вось бацька гаворыць якраз усё наадварот. Яны кавaрныя, моцныя і згуртаваныя, гатовыя выканаць любыя ўказанні свайго кіраўніцтва, і ў нас у Расіі яны, па ўсім, вернуць, што хочуць. Ну, а калі яны такія бяскрыўдныя, з чаго б тады ім хавацца? Вынырвайце з падполля і працуйце адкрыта, як клуб па інтарэсах…

— Вы ведаеце, Сёма, пытанне гэтае складанае, і так адразу на яго адказаць цяжка. Не, вы скептычна не ўсміхайцеся, я не збіраюся абыходзіць прамы адказ. У мяне ёсць прапанова перанесці нашыя сумныя для прысутных, і асабліва жанчын, гутаркі на больш прыдатны час… Тым больш, што ўсіх ужо да стала завуць.

— Алег Гайкавіч, лаўлю вас на слове, масоны за вамі. Толькі ўжо праўду, па-роднаснаму, добра?

— Абавязкова, малады чалавек, і абавязкова па-роднаснаму.

«Вось дзе ўжо не чакаў сутыкнуцца з гэтай тэмай, ды менавіта тут, — збянтэжана разважаў Малюта, прабіраючыся да свайго месца, пазначанага адпаведнай таблічкай, — было б цікава даслухаць іхнюю гутарку да канца».

Першым слова ўзяў сам віноўнік урачыстасці.

— Усе нашыя шляхі вядуць да перамогі, і яна ў нас адна на ўсіх! Я ніколі не стамлюся паўтараць, што толькі вялікі калектыўны розум можа перамагчы чэрствасць індывідуалізму, таму мы сёння сядзім за адным сталом, ямо адзін хлеб, п'ём адно віно, і за гэтае адзінства я вам вельмі ўдзячны. Па-добраму, трэба б, вядома, сказаць пра кожнага з вас хоць бы некалькі слоў, але вы за дзень сёння так стаміліся ад прамоў, што я не рызыкну вас загружаць новымі. Таму проста чалавечае вам дзякуй! Прапаную не спяшаючыся выпіць і закусіць. Вы ўсе, хто тут сядзіць, — мая радзіна, па крыві і па духу. Вы тыя, з кім бы я хацеў прайсці свой шлях да канца, якія б нам выпрабаванні ні выпалі. За нашую перамогу, сябры!

І панеслася ў самых лепшых традыцыях нашых застолле шырокае, а іншымі словамі — сярэднярускае хвацкая і бесшабашная п'янка, калі не трэба аглядацца на суседа, не трэба кантраляваць свае эмоцыі і словы, калі ўсё добра і хвалебна. Збоку паглядзець, дык сапраўды гуляла радня. Вельмі блізкія людзі. Хтосьці нешта ўспамінаў, хтосьці з кагосьці паджартоўваў. Тосты змянялі адзін аднаго, але сутнасць заздраўніц заставалася нязменнай: мудрасць, сіла, воля і іншыя цудоўныя якасці генерала, «пра якія яшчэ сёння не гаварылі».

Асобна генералам быў абвешчаны тост за здароўе галоўнага ягонага саюзніка ў краі — Паўла Пятровіча Дракава. Хутчэй гэта быў не столькі тост, а, як здалося Малюту, публічна паўторанае нейкае больш ранняе прызнанне, нешта накшталт клятвы ў вечным сяброўстве. Генерал гаварыў настолькі прачула, што ўсе замоўклі, а ў Дракава вочы здрадліва зазззялі няпрошанай слязой.

З прычыны малой колькасці прысутных, па першым крузе прайшлі хутка, і кампанія паступова распалася на маленькія групкі па інтарэсах і знаёмствах. Да перамены талерак многія выйшлі з-за стала распраміцца і пакурыць. Плаўскі выдаліўся з Дракавым на паветра, і прагаварылі на беразе ракі не меней за



гадзіну. Старыкаў, як ні кружыў, не знайшоў прычыны далучыцца да захопленай гутаркай пары, а ахова, мабыць, атрымаўшы адпаведныя ўказанні, нікога і блізка не падпускала. Бачачы, што спробы ягоныя дарэмныя, Аляксей Віктаравіч звярнуў свой позірк на Скураша, які старанна пасвіў Сямёна і Алега Гайкавіча, каб прыняць удзел у гутарцы пра масонаў.

— Ну, паглядзіце, Малюта Максімавіч, чаго гэта варта? Губернатар найбагацейшага ў Расіі краю ўжо цэлую гадзіну сакрэтнічае з бандытам. І як вы думаеце, аб чым яны гавораць?

— Прызнацца, я й не звярнуў на гэта ўвагі… — схітраваў Малюта, старанна робячы выгляд, што любуецца вершалінамі вялізных старажытных кедраў, якія багата растуць вакол будынка рэзідэнцыі.

— А дарма. Каму-каму, а вам на падобныя вывіхі зважаць трэба. Таксама мне, вока царова! І мала таго, што звяртаць, але і дакладваць куды трэба, што, вас там яшчэ не інструктавалі?

— Ведаеце, ласкавы Аляксей Віктаравіч, я тут прысутнічаю як прыватная асоба, запрасіў мяне Іван Паўлавіч асабіста, на пасаду я пакуль, на радасць, не прызначаны і дакладваць нічога нікому не збіраюся. А тое, што яны сакрэтнічаюць, дык у іх на тое, напэўна, ёсць свае падставы. Саюзнікі як-ніяк.

— Не дай бог вам такога союзнічка! Хадзем-ка, я адукую вас, што гэта за птушка — Паша Драка, — і, не чакаючы рэакцыі Скураша, Старыкаў учапіўся за ягоны локаць і амаль сілай пацягнуў да патанулай у зеляніне альтанкі.

Аднак пагаварыць ім не ўдалося, бо якраз у гэтую самую хвіліну губернатар і асноўны саюзнік моцна абняліся, расцалаваліся і не спяшаючыся накіраваліся да ўжо відавочна засумавалых гасцей. Старыкаў, хоць і быў павернуты да начальніка тылам, напэўна, спінным мозгам адчуў ягонае набліжэнне, рэзка павярнуўся і, імгненна забыўшы пра збянтэжанага такой пераменай Малюту, стрымгалоў кінуўся насустрач Плаўскаму.

«Раўнуе ён яго ці што? — здзіўлена гледзячы ўслед Аляксею Віктаравічу, падумаў Скураш. — Дзіўны чалавек, гэта ж трэба так шалець з-за прысутнасці ля «цела» староннай асобы. Так, дзіўныя справы твае, Божа! Трэба ж падабраць сабе такое асяроддзе: што ні персона, то кадр. У Радзе ўсё было неяк па-іншаму, па-вайсковаму. Прасцей і зразумела, ці што, а тут чорт нагу зломіць. Добра, што хоць мне не даводзіцца біцца за доступ да цела, я ж цяпер накшталт і свой, і разам з тым «гасудараў». У такім становішчы ёсць свае выгоды. Трэба толькі імі правільна

карыстацца, і гэта ўжо цалкам будзе залежаць ад цябе самога, ад таго, як ты сябе паставіш пасля прызначэння. Вось баламут!» — працягваў дзівіцца Малюта, гледзячы, як Старыкаў у сваёй упадабанай манеры ўхапіў Плаўскага за локаць і пацягнуў усё ў тую ж альтанку.

Малюта, каб лішні раз не мазоліць вочы, сышоў на бакавую сцяжыну, што нырала ў зялёныя зараснікі нейкага дэкаратыўнага хмызу. Сцяжына аказалася кароткім тупіком, які ўпіраўся ў маленечкую пляцоўку з ажурнай садовай лаўкай над вялікай і хуткай ракой. Разумеючы, што ён патрапіў у вельмі далікатнае становішча, Скураш прысеў на лаву, падумаўшы, што ўжо лепш палюбавацца мясцовымі прыгажосцямі, чым выскачыць перад носам Плаўскага з кустоў. Выгляд сапраўды адкрываўся незвычайны. Жывая, хвалістая вада, афарбаваная апошнімі густаружовымі блікамі вечаровага сонца, бестурботна перакатвалася і неслася паблізу, выказваючы поўную абыякавасць да кіпячых на яе берагах страсцей. Так яна неслася і тысячы гадоў назад, і нішто не можа спыніць гэтага раз і назаўжды наканаванага руху. А ўсе патугі чалавека нешта змяніць у сусветнай механіцы не заставаліся беспакаранымі і, пры мінімуме імгненных выгодаў, ператвараліся ў будучыні непараўнальна большымі бедамі. Але ў гардыні сваёй чалавек не заўважаў іх праўдзівых прычынаў і спісваў сваё невуцтва на бессэнсоўную жорсткасць неразумнай стыхіі. Не пазбегла падобнай долі і гэтая велічная рака. Перагароджаная некалі вялізнай плацінай, яна адмовілася замярзаць у самыя лютыя маразы і парыла ў зімовыя месяцы на працягу добрых двухсот кіламетраў, нібы прадзёртая цеплатраса ў застольным гарадку. Наступстваў гэтага парніковага эфекту ніхто не аналізаваў, і нават думкі падобнай нікому ў галаву не прыходзіла. Парыць ды і парыць, затое шэрань прыгожая!

— Іван Паўлавіч, Іван Паўлавіч, не, вы мяне выслухайце, — пачуўся прама над галавой у Малюты голас Старыкава.

«Толькі гэтага мне не хапала, — падумалася Скурашу, — яшчэ, чаго добрага, западозраць, што я іх падслухоўваю, ганьбы не абярэшся…»

— І чуць я гэтага больш не хачу, — заракатаў генеральскі бас, — якая вас муха пакусала, чорт пабяры?! Яшчэ тыдзень назад вы ж мне самі яго нахвальвалі: «Паша — гэта наша надзея! Акрамя яго ніхто нам у саюзнікі не падыходзіць! Ён — менавіта той чалавек, на якога можна пакінуць край у выпадку паходу на



Маскву!» А цяпер што я ад вас чую? «Злодзей, бандыт, пасадзіць, з зямлёй зраўняць…» Падаецца мне, што вы зноў паверылі ў бяскроўную рэвалюцыю, якую падсоўвае нам Амроцкі. Калі мне памяць не здраджвае, менавіта пасля ўчарашняга спаткання з ім вы заспявалі тут новыя вайсковыя песні супраць Дракава. Не пайду я на прамую здраду, не па-мужчынску гэта неяк, не сумленна…

— Іван Паўлавіч, а вам і не трэба нічога рабіць, а ўжо тым больш свяціць сваё сумленнае імя ў барацьбе з гэтым пярэваратнем. Так, так і яшчэ раз так, вы праўду кажаце, я перамяніў да гэтага прайдзісвета стаўленне, але справа тут не ўва мне і ўжо, тым больш, не ў Міхаіле Львовічы, справа ў самім Дракаве! Гэта ж не вы, не я, а ён першым пачаў парушаць дамоўленасці і патрабаваць ад кіраўнічага пірага самыя прынадныя кавалкі. Што, я не маю рацыі? Вы ж самі бачыце ягоныя апетыты, не супакоім яго ў самым пачатку — ён злопае нас усіх са спакойнай душой.

— Запарыцца лопаць, — голас генерала, як здалося Малюту, прагучаў ужо не так катэгарычна, што, па ўсёй бачнасці, не выслізнула і ад увагі Старыкава, і асноўны дараднік узвіўся яшчэ мацней.

— Я проста дзіўлюся вашай геніяльнасці і здольнасці ўсё ўзважваць з хуткасцю камп’ютара і прымаць адзіна правільныя рашэнні. Ох, як бракуе, — з прыдыханнем у голасе працягнуў Аляксей Віктаравіч, — сёння нашаму шматпакутнаму народу менавіта такога чалавека, з менавіта такімі валявымі якасцямі, адно толькі і суцяшае, што чакаць ужо нядоўга засталося. Іван Паўлавіч, — ледзь не завішчаў дараднік, — у імя сваёй будучыні, у імя выратавання нашага народа, аддайце Пашку ў рукі справядлівага правасуддзя! Не вы, а суд і ўсе, каму гэта належыць, хай вырашаюць ягоны лёс. Не вінаваты — ніхто яго караць не збіраецца, можа сабе працаваць дзеля дабрабыту краю, а вінаваты — у кайданы яго ды ў турму! — з непрыкрытай злосцю падагульніў ён, і, злёгку супакоіўшыся, працягнуў: — А ён жа не адзіны наш саюзнік, ды і вышыня, для штурму якой ён, уласна, і быў прызначаны, ужо ўзятая. Сёння аб іншым трэба думаць, а гэтае іншае і іншых сродкаў, і іншых саюзнікаў запатрабуе. Ёсць дакладныя звесткі, што Цар вельмі слабы. Лекары сумняюцца, ці працягне лета. І словы мае — не пустыя эмоцыі, я вас вельмі прашу, калі разыдуцца госці, вылучыць мне для гутаркі сам-насам гадзіны паўтары. Я вам усё найпадрабязней выкажу. А цяпер хадзем, блізкія ўжо зачакаліся, пакуль вы там з гэтым бандытам мілаваліся…

— Ды з чаго гэта вы ўзялі, што я з ім мілаваўся, вы, гэта… давайце кіньце глупства несці, і потым, я б параіў уважлівей ставіцца да слоў, якія прамаўляеце, а то, прыйдзе момант, я і пакрыўдзіцца магу, а ў крыўдзе я…

— Што вы, што вы, і ніколечкі я вас крыўдзіць не збіраўся, — лісой заюліў дараднік, — калі я што і раблю, дык толькі дзеля вас, а за гэта вы мяне можаце і караць, і звальняць, воля ваша. Мне галоўнае — Плаўскага для будучыні захаваць і дапамагчы яму ажыццявіць наканаваную яму місію!

Гук крокаў і галасы паступова сціхлі.

Малюта сядзеў, нібы статуя, баючыся дыхаць поўнымі грудзьмі. Толькі цяпер ён адчуў, што змакрэў ад напругі, і, пасядзеўшы яшчэ хвілін пятнаццаць у сваёй схованцы, балазе, ужо амаль сцямнела, ён пераскочыў праз невысокія поручні і пачаў спускацца да ракі па стромкім касагоры, засеяным невысокай травой. Ля самай вады шэра цьмела выкладзеная штучным каменем сцяжынка.

— Грамадзянін, хто вы такі і што тут робіце? — нечакана пачуўся голас, і з ценю на дарожку выйшаў міліцыянер.

— Фу ты чорт! — міжволі вырвалася ў Скураша, — напалохаў, ды госць я, госць, вось пайшоў прагуляцца, але, відаць, з перабору заблукаў. Як мне адгэтуль выбрацца? «Гэтага толькі не хапала, — падумаў ён пра сябе, — цікава, ці заўважыў мент, адкуль я спускаюся?» — Ты лепш падкажы, як мне да ўсёй добрай кампаніі дабрацца?

— Ды што тут падказваць, ідзіце прама, там будзе лесвіца ўверх, вось па ёй і падымайцеся, якраз у першы корпус і ўпрацеся. А яшчэ лепш, я вас сам суправаджу. Выбачайце, служба.

— Добра, давай суправаджай, — спрабуючы намаляваць у галасе нецвярозыя ноткі, пагадзіўся Малюта. — Эх, прыгажосць у вас тут неапісальная.

— Гэта ў вас там, у Маскве, прыгажосць, а ў нас што? У нас дзічына галімая. Так, дзянёк-другі прыродай палюбавацца, а вось жыць тут, ды яшчэ ў якой-небудзь таёжнай вёсцы, не давядзі Госпадзі! — міліцыянер замоўк, ці то спалохаўшыся адкрытасці з незнаёмцам, ці то ўспомніўшы сваю вёсачку. — Вы б, гэта, — працягнуў ён, — па траве б пабойваліся ўначы хадзіць…

— А што такое, змеі?

— Ды якія змеі, — з іроніяй у голасе адазваўся ці то суправаджаты, ці то канваір, — кляшчы ў нас тут энцэфалітныя лютуюць. Вы калі ў памяшканне прыйдзеце — у туалет або ў свой нумар — не саромейцеся, распраніцеся ды папрасіце каго-небудзь вас ззаду агледзець. Клешч, ён, набрыдзь, зацішныя месцы любіць — падпахі або, прабачце ўжо, машонку. Так што я вам раю: абавязкова агледзьцеся, яны, сцярвозы, новенькіх любяць. Хоць у нас тут і труцілі вясной, а падстрахавацца ўсё-ткі варта.



У Малюты адразу ўсё засвярбела. Пачало амаль выразна здавацца, што па яго ўраз астыламу целу запоўзалі нейкія невядомыя казуркі.

— Слухай, ты мяне так не палохай, з мяне прэч хмель ураз зляцеў! Што, сапраўды так усё сур’ёзна?

— Дзіўны вы чалавек, што ж я вас, як дзіцё малое, палохаць бы пачаў? Вы ж начальнік, ды яшчэ са сталіцы… Ну вось і дайшлі.

Ля прыступак іх сустрэў яшчэ адзін вартавы парадку, а з ім і начальнік аховы Плаўскага, голены налыса, амаль квадратны здаравяка з немудрагелістым польскім прозвішчам Камінскі.

— Ну, слава Богу, Малюта Максімавіч, а мы вас ужо абшукаліся. Шэф стаў турбавацца, гаворыць, можа, нашае будучае гасударава вока выкралі мясцовыя распусныя дзяўчаты?

— Ды не, Генадзь Адамавіч, якія дзяўчаты, вунь служывы гаворыць, што калі хто і адсмокча, дык толькі клешч, і той энцэфалітны, — усміхнуўся Малюта.

— Яны вам нагавораць, слухайце іх больш. Увесь участак разоў тры труцілі, так што кляшчы малаверагодныя, хоць агледзецца на ўсякі выпадак не зашкодзіла б…

— Вось і я аб тым жа, — ажывіўся было міліцыянер.

— А вось цябе персанальна ніхто і не пытае, — не занадта ласкава адазваўся Камінскі. — Глядзі, калі пакусаў начальніка клешч, адказваць табе давядзецца.

— Ды будзе вам, Генадзь Адамавіч, хадзем. А вам вялікі дзякуй за дапамогу, — павярнуўся Малюта да пануранага сяржанта і працягнуў руку.

— Хадзем, хадзем, — ледзь не перабіваючы поціск рукі, прыспешыў Камінскі і літаральна праз пару крокаў, не паніжаючы голасу, відавочна, для таго, каб яго чулі астатнія, з дакорам дадаў, — вы так нам усю дысцыпліну і субардынацыю парушыце. Няма чаго з імі ручкацца, хай ведаюць сваё месца. А то добра ўладкаваліся: учора аднаму служылі, а сёння іншаму! Дармаеды! На Каўказ іх трэба, хай трохі растрасуцца.

Малюта яшчэ з вайсковых часоў прывык ставіцца да салдата з павагай, і ў іншым становішчы абавязкова ўступіўся б за толькі

што незаслужана абражаных служак, але цяпер яму было яўна не да гэтага, і ён прамаўчаў.

— Малюта Максімавіч, ды не хвалюйцеся вы так наконт кляшчоў! Шэф загадаў усім збірацца ў лазню, каб заўтра, так сказаць, з чыстымі намерамі і светлымі галовамі прыняцца за святую справу, там і паглядзім, ці прысмактаўся хто да вас, а то, можа, сапраўды кляшчыху грудастую клікнуць. Тут яны крамяныя і сталічных ох як мілуюць, спадзяюцца, дурніцы, што западзе на іх хто ды з сабою ў Маскву павязе.

— Не ўжо, дабрэйшы Генадзь Адамавіч, платнымі паслугамі двухногіх кляшчых, як вы ўдала выказаліся, ніколі не карыстаўся і вам не раю, ужо як-небудзь патрываю да жонкі.

— Ну, воля ваша, наша справа прапанаваць. Дзе лазня, ведаеце?

— Прыблізна…

— Тады да сустрэчы, а калі раздумаецеся наконт дзяўчынак…

— Позна мне ўжо раздумвацца. Дзякуй!

Малюта зашыбаваў па дарожцы да някідкага двухпавярховага будынка, дзе яму быў вызначаны нумар. Нарэшце, застаўшыся сам-насам, ён прыняўся абкатваць выпадкова атрыманую інфармацыю. У сухім астатку атрымлівалася, што Старыкаў са сваёй камандай вырашыў раптоўна пакончыць з небяспечным канкурэнтам і застацца непадзельным распарадчыкам генеральскай галавы і цела. Цісне ён на самую хворую і слабую клавішу ў губернатарскай душы, і, мяркуючы па ўсім, дацісне і свайго даможацца. Ведаць бы толькі, каго яны плануюць у чарговыя генеральныя саюзнікі на новым этапе. Ды і ці будзе ён, гэты новы этап? Можа, усё краем і абмяжуецца? Хоць, мяркуючы па ўсім, Плаўскі ўжо закусіў цуглі і бачыць сябе ў крамлёўскім кабінеце. Вядома, дай-то Бог, а там глядзіш, і нам чаго-небудзь абламаецца. Ды марыцца яно заўсёды лёгка і прыемна, але што мне цяпер рабіць? Ну ўжо ж не тэлефанаваць у Маскву! Спачатку дачакайся прызначэння, прыязджай у край, зацвердзіся, а там паглядзім, што да чаго.

На ўсякі выпадак пакруціўшыся галышом перад люстэркам і кляшчоў не выявіўшы, Малюта пераапрануўся ў спартовы гарнітур і падаўся ў лазню. Ён выдатна памятаў, што для генерала ёсць два святыя дзействы — рыбалка і лазня.

Задумаўшыся, Малюта ледзь было не сутыкнуўся са Старыкавым і Дракавым, якія павольна прагульваліся ля корпуса.

— А вось і Малюта Максімавіч, наш будучы намеснік Прэзідэнта ў краі, — важна расцягваючы словы, прагнусавіў Аляксей Віктаравіч, — пазнаёмцеся, прашу вас.



— Дракаў — дэпутат заканадаўчага краявога схода.

— Скураш, пакуль нікуды не прызначаны госць губернатара, — паціскаючы працягнутую руку, сказаў Малюта.

— Ну, вось і выдатна, вы галоўнае, не забудзьце, хто вас пазнаёміў… — укруціў Старыкаў.

— Дзякуй, Аляксей Віктаравіч, — хітнуў галавой Малюта, — а то мы сёння ўвесь дзень з Паўлам Пятровічам то там, то тут сутыкаемся, а прадставіць нас адзін аднаму так ніхто і не знайшоў часу. Вось вы, з уласцівай вам празарлівасцю, і ўхілілі гэтую прыкрую няёмкасць.

— Так, вядома, дзякуй вам, Аляксей Віктаравіч, — трохі ў нос прабубніў Павел, — ну дык я пайду, а то яшчэ справы ёсць. Значыць, мы з вамі дамовіліся, заўтра абедаем у мяне дома. Я сам чаго-небудзь смачненькага старадаўняга зграмэздаю. Чакаю. А вы прабачце, — паварочваючыся да Скураша, працягнуў Дракаў, — што так і не пагаварылі пакуль, можа, заўтра, можа, яшчэ калі, добра? Думаю, што, э-э-э, часу ў нас будзе ўдосталь.

«Мабыць, для мяне Дракава на сёння ўжо звышдастаткова! Але Старыкаў — красавец, круціцца, як кацянё, такому атруты ў гарбату блізкаму капнуць — раз плюнуць! Цікава б паслухаць, аб чым яны там за Пашавым абедзенным сталом гаварыць будуць», — як бы падрахаваў Малюта, ідучы да лазні. Яму чамусьці было трошкі шкада гэтага неспрактыкаванага і шмат у чым наіўнага баксёра.

## 14

Прызначэнне Малюты адбылося толькі ў жніўні. Ніякіх адмысловых інструкцый і пажаданняў пасля выхаду ўказа ён не атрымаў, у дзяржаўныя кабінеты запрошаны не быў, толькі будучы ягоны начальнік, якому, невядома з якога перапуду, даручылі кантроль за намеснікамі, насіўся па шостым пад'ездзе Старой плошчы з лямантам, што ў Ясейск не таго прызначылі, што ў Малюты дзірка ў галаве, і наогул ён безгаловы, але пераплюнуць волю першага нама кіраўніка не так і проста, а калі па-праўдзе, то ўсім было да балды. Дзяржаўная Масква рыхтавалася да чарговага шунтавання, і нікога чужыя праблемы не цікавілі. Гэта пазней ужо, паблукаўшы па калідорах улады, Скураш стаў здагадвацца аб праўдзівых прычынах тых даўніх стогнаў рыжабародага начальніка з пыхкай люлькай, а прычына была банальнай і старэйшай за свет: салодкая пасада праплыла паблізу без усякай асабістай карысці і выгоды. Ох, і не ўзлюбілі

яго за гэта ў родным упраўленні! А каму ты палюбішся, калі чужому кашальку аборт зрабіў? Толькі на другі год намесніцтва Малюта сцяміў, што да чаго, і пачаў вазіць у Маскву дары. Хай і дробныя, але заўсёды начальствам чаканыя. Так ужо ўладкаваны чынавенскі свет: найніжэйшыя валакуць вышэйшым, а тыя, у сваю чаргу, яшчэ больш высокім, і так да… аж і боязна ўявіць! Але як толькі Скураш пpыняў умовы гульні і пацягнуў, дык у яго тут жа па-свойску адсеклі кавалак бязлюднай тэрыторыі, балазе фармальныя падставы былі, і пасадзілі туды парачку яго былых падначаленых, надзяліўшы іх намеснікаўскімі статусамі. Вось так, не мыццём дык катаннем, начальства сваё выкружыла. Ды і Бог з ім, што на тых ліпавых суб'ектах людзей менш пражывала, чым у вялікай сталічнай шматпавярхоўцы, каго гэта хвалюе? Малюта даўно яшчэ напісаў дакладную аб ліквідацыі гэтых пацешных суб'ектаў, што жаруць бюджэтныя грошы, як кот Васіль дармовую смятану…

У Ясейску новага намесніка чакалі з кіпучым нецярпеннем, як калісьці даўно чакалі ў глухой правінцыі прыезду справядлівага пана: вось, маўляў, ён прыедзе і ўжо ўсіх разрадзе. Як пазней аказалася, няўрымсцілася ўсім, а больш за ўсіх чакала новага аб'екта публічнага абсмоктвання пішучая брацыя, якая найперш чакала ад новага «царовага вока» адкрытых баталій з губернатарам і скарачэння генеральскага апетыту, які рос не па днях, а па гадзінах. І якое ж было ўсеагульнае расчараванне, калі прышлы чыноўнік закапаўся ў паперах, пачаў сустракацца з простымі грамадзянамі, начыста адгарадзіўся ад журналістаў, прыняўся ездзіць па гарадах і весях і лётаць па нацыянальных пасёлках, станах і факторыях, куды не тое што масквічы, а і свае мясцовыя, раённага ўзроўню начальнікі раз у дзесяцігоддзе зазіралі парыбаліць ды папаляваць.

Іншы раз, наматаўшыся па богам забытых кутах неабсяжнага краю, Малюта проста за галаву хапаўся ад беспрасветнай галечы і дзікасці ім убачанага. Страшныя, выдубленыя вятрамі, дажджамі і завеямі да металічнай шэрасці хаты, глухія, такога ж колеру платы, адрыны і свірны, што ў бязладдзі прыткнуліся па берагах рэк сярод чэзлай тайгі, падаваліся прывідамі, прышлымі з далёкай старажытнасці. Яны яшчэ потым доўга стаялі перад вачыма, не даючы заснуць па начах.

Скурашу, як заўсёды, пашанцавала з падначаленымі. У адрозненне ад агульнапрынятай традыцыі ўсюды цягаць з сабою сваіх



людзей, ён яшчэ з вайсковых часоў аддаваў перавагу давяраць і працаваць з тымі, каго Гасподзь паставіў пад ягоны ачол, і, як правіла, яны вельмі рэдка яго падводзілі. Ды і падводзяць, па няпісаных законах бюракратычнага дарвінізму, у асноўным, свае, выкармышы, якіх цягнуць і якім чэрствы сухар службы невядомы. Вось гэтыя якраз і гатовыя ўраз злопаць свайго дабрадзея з усімі трыбухамі.

Кіраўніком яго невялікага апарату быў чалавек у гадах, у мінулым з няўдалых навукоўцаў, разважлівы да занудства, датошнік і педант, якіх не адшукаць ужо ў наш сумятлівы час, хоць сам час для Патапа Філімонавіча Траццякоўскага існаваў толькі як філасофская катэгорыя і ніякага дачынення да звычайнага яго жыцця не меў. Ён, як ніхто іншы, адпавядаў унутранаму духу той зямлі, на якой нарадзіўся ён сам і ўсе ягоныя бачныя і нябачныя продкі, якія захоўваліся ў памяці. Дзетак Бог яму не даў, таму дастатак у ягонай хаце вадзіўся, і жылі яны з жонкай ціха, без зайздрасці і ў сваё задавальненне. І толькі адно невялікае памкненне жыло ў душы Патапа Філімонавіча: ён да ўтрапёнасці любіў каньяк, і не проста яго любіў, а пасучаснаму ведаў, шанаваў і мог пра яго гаварыць гадзінамі. Але каньячная закавыка была, што ныываецца, толькі запевам, потым вонкі непазбежна вырывалася адвечная хвароба рускай інтэлігенцыі — ліберальнае бурчанне аб непатрэбнасці нашай рэчаіснасці. Так, Траццякоўскі быў непапраўным лібералам. Як правіла, ён і яму падобныя індывіды з'яўляюцца як бы захавальнікамі, жрацамі, ці што, вялікіх ідэй, яны служаць ім аддана, бескарысліва і фанатычна. Магчыма, менавіта ім, а не запыленым тамам і ўсушанай уласнай значнасцю прафесуры, чалавецтва абавязанае захаванасцю жыццёвай сілы тых самых ведаў, што бударажаць мазгі; менавіта такія народныя падзвіжнікі і не даюць згаснуць Праметэеваму агню чалавечага розуму. Пасада Патапа Філімонавіча абцяжарвала, але ён змушаны быў абавязкі выконваць старанна, бо па-іншаму працаваць быў не прывучаны, іншых жа здольнасцяў для пошуку сродкаў дзеля існавання не меў.

Малюта, заўважыўшы такую незвычайнасць у сваім памагатым, стаў яе спакваля стымуляваць, памаленьку перацягваючы са свайго працоўнага кабінета ў пакой Траццякоўскага дарагія каньякі, якія намесніку багата падносілі па ўсякім выпадку. Нават немаўляці ў нашай слаўнай дзяржаве вядома, што бутэлька спіртнога, нягледзячы на годнасць і кошт, хабарам не

лічыцца. Часам пасля працоўнага дня, не парушаючы спрадвеку заведзеных традыцый, цесны калектыў груваcціўся вакол Траццякоўскага стала і аддаваўся банальнаму выпівону.

Усякая выпіўка на працоўным, так сказаць, месцы — справа патрэбная і невыкараняльная. Іншы раз яна з’яўляецца адзінай аддухай у зачарсцвелай чынавенскай душы, праз якую ў яе пранікае хоць нейкі подых свежых вятроў і павеваў. Галоўнае, п’янка не толькі спрыяе збліжэнню народа і кіруючых сілаў, але становіцца першаштуршком большасці службовых раманаў — гэтага прамяністага сонца рамантыкі ў халоднай вадзе бюракратычнай звычайнасці, ды і звычайнага сэксу, які ні да чога не абавязвае, аднак вельмі разгружае. Пераняты Малютам калектыў для раманаў ды інтыму, з прычыны сваёй сталасці, быў непрыдатным, так што з поўным самазабыццём аддаваўся гаварыльні на самыя што ні на ёсць крамольныя тэмы. Так ужо ў тутэйшых мясцінах здаўна павялося: народ папрасцей — маўкун, адкрытасці з яго абцугамі не выцягнеш. Уладары ж дум, мужы навукоўцы, да злачыннага гаманкія, ім і губляць няма чаго, адна ўцеха — размовай спатоліцца, а страх, страх ён неяк бокам прадзімае, ды і куды далей Сібіры саслаць могуць, хіба што ў суседнюю, Сібірскую воласць. У турме турмой не спалохаеш. Так што застоллі на трэцім паверсе Шэрага дома, як менавала будынак крайадміністрацыі мясцовае народнае радыё, былі часам бурнымі і заўсёды цікавымі.

— Недасведчанаму чалавеку, простаму абывацелю, — пасля некалькіх кілішкаў каньяку здалёку пачынаў Траццякоўскі, — руціннная праца бюракрата вашага рангу, Малюта Максімавіч, падаецца нейкім таямнічым дзействам, у выніку якога якраз і адбываецца мудрае кіраванне дзяржавай. На самай жа справе, як усе мы можам назіраць, усё нашмат прасцей і прымітыўней. Вялікая частка нашых калегаў прыходзіць у прысутнае месца і дэпартаменты проста праседжваць штаны, перакладаць паперкі і да самазабыцця цэрабіцца, а ў апошні час шарыць у інтэрнэце…

— Ну што вы зноў за сваё: бюракраты, бюракраты, — ды няма іх ужо, гэтых бюракратаў, згнаілі ўсіх у нашых лясных калоніях яшчэ да Другой сусветнай, — нібы тарпеда, урэзалася ў гутарку Людміла Барысенка, сярэдніх гадоў і пышных формаў жанчына, якая адказвае ў камандзе за сувязі з грамадскасцю і тэрыторыямі. — Ды і чаго гэта вы на шэфа наязджаеце? Ён і сам асабліва штаны не праседжвае, ды і нам, бывае, пакурыць няма калі.



— Вы так без падхалімажу ўжо, значыць, не можаце? Ну я не ў крыўдзе, што з вас, маладой фармацыі, возьмеш? Цяперашні младабюракрат — непрыемнейшы суб’ект, які ўвабраў у сябе самыя горшыя якасці партакрата, разведзеныя навамоднымі заходнімі павевамі. Вас, пашанотная Людміла, гэта, вядома, ні ў якім разе не тычыцца…

— Так, куды ўжо мне, з маёй-та біяграфіяй… — чмыхнула Барысенка.

— Людміла Данілаўна, ды не заводзьцеся вы, што, не бачыце, ён ужо пасля другога кілішка на свайго любімага канька прысеў, — як ні дзіўна, падтрымала сваю заўсёдную апанентку Марыя Міхайлаўна Варкоўская, пенсійных гадоў сакратарка, якая дасталася Скурашу па спадчыне, дама, што называецца, прыемная ва ўсіх адносінах. Першы парыў змяніць яе на маладзейшага і рахманага супрацоўніка быў прыціснуты Малютам у самім яго зародку, і ён дагэтуль не мог надзівіцца сваёй прадбачлівасці. Марыя Міхайлаўна аказалася незаменным і найадданейшым чалавекам.

— І чаму ж гэта вы ўсе сёння на мяне нападаеце? Малюта Максімавіч, дарагі, можа, яшчэ па малюсенькай нальём гэтым фурыям, а то разарвуць яны мяне…

— Ды няма ніякіх праблем. Давайце па маленькай, толькі я б папрасіў вас працягнуць тэму аб парожнім часаправоджанні нашага чынавенства…

— Ох, і дарма вы яго аб гэтым просіце, — разліваючы на правах малодшай каньяк, гуллівым тонам папярэдзіла Барысенка. Дарэчы сказаць, працавала яна ў апараце разам са сваім мужам Генадзем, якога неміласэрна раўнавала да ўсякай спадніцы, што мільгала на калідоры, і, трэба прызнацца, Генадзь сапраўды перыядычна падаваў на гэта падставы. Ва ўсім астатнім гэта быў выдатны супрацоўнік: разумны, маўклівы чалавек двухметровага росту і незвычайнай фізічнай сілы, да таго ж выдатны аналітык і стыліст.

Выпілі трэці, традыцыйны для тутэйшых месцаў, тост за дам, якія прысутнічаюць тут.

— Малюта Максімавіч, — зажаваўшы каньяк кавалачкам цытрыны, лісліва пачаў развіваць перарваную думку Траццякоўскі, — вы ж ведаеце, што я падчас выбарчай кампаніі шчыра падтрымліваў Бяззубава і актыўна працаваў супраць Плаўскага? — кінуў ён першы выпрабавальны шар. Не дачакаўшыся рэакцыі Скураша і праігнараваўшы здзіўленыя погляды астатніх удзельнікаў застолля, Патап Філімонавіч

працягнуў: — Ды і цяпер я да вашага куміра адмысловымі сімпатыямі не палаю. І не таму, што ён абраўся дзякуючы падтрымцы адкрытых бандытаў, і не таму, што край наш для яго — усяго толькі трамплін для скачку ў Маскву, нялюбасць мая іншага гатунку, яна, калі хочаце, местачковая: чужы ён нам, нашаму сібірскаму свету, укладу. Сібір, яна ж спрадвеку асобным кантынентам для Расіі была, са сваёй годнасцю, гонарам, укладам, са сваім менталітэтам, сваёй зладзеяватасцю і сорамам, ды і са сваім разуменнем улады і чынавенства. Мы ж раней з-за Каменя — так, дарэчы, раней Урал менавалі — і рускага-то рускім не прызнавалі ды патрабавалі ад яго пацверджання сваёй рускасці. Нават пры бальшавіках і то з нашымі традыцыямі і паданнямі лічыцца мусілі, а цяпер поўнае беззаконне. Валіць сюды ўсякі, каму не лянота, грабе ўсё пад мяцёлку, карыстаючыся нашай беспрасветнай галечай, а нам толькі рукамі даводзіцца разводзіць, ды крыўду разам з соплямі на кулак намотваць. Я вось сабе таго прабачыць не магу, як гэта я купіўся на абяцанкі саноўнага алкаголіка. Бо першапачаткова відаць было, што хлусіць непрабудна, а душа, стомленая вязніцай бальшавізму, прасіла надзеі на святло і волю, вось і паверылі. І такіх, як я, мільёны, між іншым. Легкаверны, аднак, інтэлігент, і, зазначце, такім ён быў заўсёды, колькі б яго ні гнаілі і ні рэзалі.

— Выбачайце, Патап Філімонавіч, — скарыстаўся кароткай затрымкай прамоўцы Малюта, — цікавая ў вас філасофія выходзіць: Плаўскага не любіце, хоць яго не ведаеце ні як чалавека, ні як кіраўніка; Бяззубава, які несумленна за капейкі распрадаў ваш — заўважце, ваш — край мясцовым і прышлым бандытам, вы падтрымліваеце і пры гэтым патрабуеце нейкай местачковасці ў прызначэнні або абранні кіраўнікоў губерні!

— Усё так, ды і не так, — хітра ўсміхнуўся Траццякоўскі, які, падобна, і чакаў такой рэакцыі суразмоўцы. — Прадаў, гаворыце, край бандытам? Ну і што вам на гэта адказаць?

— Праўду і адкажыце, — выпаліла, як адрэзала, Барысенка, напаўняючы бурштынавай вадкасцю рознакаліберны посуд, — толькі ўжо не віляйце, усё, як ёсць, і скажыце. А наконт ідэйнай адданасці Бяззубаву, дык гэта дзіцячае лепятанне. Я так, папростаму, па-жаночаму скажу: ідэйнасць — гэта камсамольскія соплі юнацкасці, а мы проста адпрацоўвалі свой нумар, каб на месцы нябедным застацца. І гэта яшчэ цуд, што нас дагэтуль не выперлі, хоць мы ж якраз і ёсць той самы праславуты маскоўскі адміністрацыйны рэсурс. Таніна дала каманду, вось мы Плаўскага і крылі па ўсіх масцях. Ды што вам, Малюта



Максімавіч, гаварыць, вы самі ў такіх справах дока, наколькі я разумею, дысідэнтаў у намеснікі не ставяць.

— А з чаго вы вырашылі, што я дысідэнт, і, галоўнае, адкуль такая ўпэўненасць у маёй любові да Плаўскага?..

— Так народ гаворыць… і біяграфія… — збянтэжылася жанчына. — І служылі вы разам, і ў Радзе нацстабільнасці…

— Ну, дапусцім, служыць я з ім ніколі не служыў. У Радзе, можа, з ім, а можа, і пры ім быў… Так што гаварыць могуць шмат, а праўду ведаюць адзінкі…

— Ну, вось за праўду, за яе, родную, давайце і вып’ем, — незласліва, залагоджаным тонам вымавіў дагэтуль маўклівы Генадзь.

— Філімонавіч, вы паглядзіце, да чаго дагаварыліся, мой маўчун і той слова з сябе выціснуў, — прыабняла мужа Людміла. — Ну дык давайце за сказанае, а там і паглядзім, наколькі вы ў ладах з гэтай вяртлявай асобай па імені Праўда.

— Не гледзячы на галасістых камсамалятаў, распавядаю вам, Малюта Максімавіч, найчыстую праўду: так, Бяззубаў прадаў, і пачварна танна прадаў, прамысловасць краю яўным бандытам, а калі быць яшчэ больш дакладным, прадаў ён яе людзям Пашы Дракава. Спадзяюся, вы, Людміла, цяпер задаволеныя?

— Ну ў нейкай меры.

— Гэта ўжо добра. Шчасце жанчыны ў яе задаволенасці. Усё-ўсё, я больш не маю права чапаць хворую тэму, — падняў рукі ўверх Траццякоўскі, прадбачачы чарговы націск Людмілы Данілаўны. — Так, былы губернатар прадаў флагман савецкай індустрыі і ўсё з ім Дракаву. Дык жа па закону прадаў! Па вашаму федэральнаму закону! Не ўсё ж радзімай з Масквы гандляваць, ці вы думаеце, што ўсякія там сталічныя Прабаніны, Грынскія, Туменскія, Хахмароўскія, Хадэры і іншая, іншая, іншая свалата меней крымінальныя? А менавіта ім і спусціў Гарант, не да ночы будзе ўспомнена яго імя, за бесцань самыя прынадныя кавалкі айчыннай агульнанароднай прамысловасці і прыродныя засекі ў прыдачу. Вы вось палятаеце па нашых Поўначах, пабачыце, што там дзеецца. Народ вымірае, прытым увесь: і абарыгены, і нашыя з вамі адзінародцы, усе ўшчэнт, а нафта, газ, золата, плаціна — адным словам, усё, што выварочваюць з нашай зямлі прышлыя спрытнюгі, усё гэта сплывае немаведама куды. Беззваротна сплывае, і карысці нам ад гэтага няма ніякай, бо грамадзяне свету нам і ламанага гроша, нават у выглядзе міласці, пакідаць не хочуць. Вось так-та, паважаны Малюта Максімавіч! Хоць не ведаю, можа, вы такі стан рэчаў лічыце верхам справядлівасці? А вось па мне

лепш ужо хай будзе наш, дамарослы бандыт, якога мы ведаем, які тут жыве і нікуды з'язджаць не збіраецца, бо зямлю нашую любіць і ахоўвае яе, як родную. Ён такі ж, як і мы, у яго, роўна як і ў нас, іншай Радзімы няма, і, падкрэсліваю, ён нікольki не бандзюганісцей за вашых бязродных беспрытульнікаў!

— Нічога сабе вы загнулі! — шчыра ашаламіўся Малюта. — Хоць з нейкімі вашымі довадамі я, папраўдзе гаворачы, цалкам салідарны. Але перш, чым мы працягнем нашыя дэбаты, я б хацеў задаць вам адно вельмі далікатнае пытанне: вы антысеміт?

— З чаго гэта вы ўзялі? — апусціўшы на стол папяровы кілішак, спытаў Траццякоўскі.

— Па-першае, усе пералічаныя вамі маскоўскія прозвішчы далёкія ад славянскіх каранёў. Па-другое, як разумець тэрміны «бязродныя беспрытульнікі» і «грамадзяне свету»?

— Ды як хочаце, так і разумейце, толькі, будзе вам вядома, я сам трошачкі габрэй, па матчынай лініі. Далёкія продкі яе якраз былі выхадцамі з вашых родных месцаў у Беларусі. Потым у мяне жонка таксама з падгулялай спадчыннасцю, так што для антысемітызму, выбачайце велікадушна, занадта шмат нестасовак. Хоць, як паглядзець? Цяпер усё, што хочуць, могуць пра цябе распавесці, асабліва нашая непрадажная прэса. Не здзіўлюся, калі і Шаевіча хто-небудзь у антысеміты запісаць умудрыцца. Цяпер аб прозвішчах. А вы што, зможаце мне назваць нейкія іншыя, больш мілагучныя для рускага вуха імёны банкіраў і ўласнікаў, каму абкамаўскі сакратар з прапітымі мазгамі параздаваў народны набытак, ператварыўшы тым самым народ, чыёй крывёй і потам усё гэта было пабудавана, у нацыю жабракоў? Уявіце: на пачатку дваццаць першага стагоддзя пад бокам адукаванай Еўропы раптам паўстала, нечакана ўтварылася нацыя жабракоў і абарванцаў. Каму гэта трэба? Не, гэта не я антысеміт, гэта банкіры і алігархі антысеміты! Пачнуцца пагромы, не іх, а мяне і мне падобных будзе валачы па крывавых вуліцах натоўп, а ім што, яны сядуць у свае самалёты, на свае яхты і сплывуць у сваё нікуды. Так ужо было, і не раз.

— Добра, вы толькі, Патап Філімонавіч, на мяне не крыўдзіцеся, мы ж толькі пазнаём адзін аднаго, таму нейкія непаразуменні напачатку цалкам магчымыя. З нацыянальнай прыналежнасцю, слава Богу, разабраліся. А вось у мяне, на жаль, акрамя бульбашска-крывіцкай крыві іншай у радзіне, як гавораць, не было…

— Ой, ці так? — разліваючы астаткі каньяку, не зусім цвёрда вымавіла Барысенка. — А татары, а шведы, а немцы, а палякі, нарэшце? Хто там яшчэ праз вашую незаплямленую Беларусь да нас на Русь хадзіў?

— Усё, згодзен і на татараў, і на палякаў, і на жмудзінаў…

— Вось бачыце, Малюта Максімавіч, — хітра ўсміхаючыся, іранічна вымавіў Траццякоўскі, — і вас у антысеміты варта залічыць! Як хутка вы сваё сваяцтва прызналі з усімі, нават з ненавіснымі палякамі, а ад нас, пархатых, адмежаваліся спрытна. Нядобра неяк, пагадзіцеся? А мы ж локаць да локця гадкоў трыста з лішкам жывём! — і, адзначыўшы, што начальнік злёгку нахмурыўся, з усмешкай дадаў: — Ну як, аказваецца, не такія мы і разявакі перыферыйныя, а?

— Так, так, праўда вашая! Самае складанае пытанне — нацыянальнае, дык давайце яго пакінем на сумленні нашых продкаў і зап'ём вось гэтым выдатным напоем, які ўсіх ураўноўвае і пагаджае. За інтэрнацыянал і вечнае сяброўства людзей, якая б кроў ні цякла ў іх жылах! — і, не чакаючы пярэчанняў хмельных падначаленых, Малюта перакуліў у рот свой кілішак. — Сапраўды добры каньячок. Я вось усё ніяк не магу зразумець, Патап Філімонавіч, чаму ў нас няма, аказваецца, і не было, добрага айчыннага каньяку? Раней пілі і захапляліся армянскім, дагестанскім, малдаўскім, а граніцы адкрыліся — і гэтыя калісьці нябесныя напоі адразу набылі густ трывіяльнай сівухі, настоенай на гнілым дубовым пілавінні. Што ў іх, вінаграднікі лепшыя?

— Мазгі ў іх лепшыя, і сумленне на месцы, — зажоўваючы выпітае нязменнай цытрынай, з уздыхам вымавіў Траццякоўскі. — У іх каньяк з курсам партыі і ўрада ніяк не перасякаўся, гэта, мабыць, галоўнае, ну і традыцыі, захавальнікам якіх з'яўляецца першым чынам сям'я, род, суполка, жывуць там з часоў адкрыцця вінаробства. А ў нас самі ведаеце што! Апошні асінавы кол у айчыннае каньякаварэнне забіў, сумесна са сваёй заўзятай жонкай, стаўрапальскі партсакратар. Вы мяне зараз зноў у экстрэмісты залічыце! Можаце забіваць мяне, толькі я не веру ў тое, што ўсе нашыя няшчасці рабіліся самі сабою, ужо вельмі ўсё складана атрымліваецца. Пад высакародным лозунгам барацьбы з п'янствам высеклі лепшыя лозы, пасадзіўшы народ на сурагаты і наркотыкі, не падзялілі два партыйныя прыдуркі кабінет у Крамлі — развалілі найвялікшую дзяржаву, вырашылі азалаціць народ — увесь набытак перадалі ў рукі прайдзісветаў і жулля! І што, зноў ва ўсім вінаватыя дурні і дарогі?

— Я, ці ведаеце, Патап Філімонавіч, не прыхільнік думкі аб сусветнай антырасійскай змове. Зрэдку варушачы астаткамі

звілін, воляй-няволяй прыходзіш да страшнаватай, найперш для самога сябе, высновы: самым каварным ворагам для ўсіх нас з'яўляемся мы самі. Чаму і як гэта адбываецца — іншае пытанне, але, як ні страшна, гэта ўсё, напэўна, так і ёсць. І няма іншых манголаў, акрамя нас саміх! Пакуль мы не перастанем шукаць варожую сілу дзесьці збоку, мы ад гэтага ачумення ніколі і не пазбавімся. Дык вось, насамрэч, прыкладна гэта гаворыць і спрабуе ажыццяўляць Плаўскі. Пакуль, праўда, толькі ў сваіх палітычных заявах. І тут я — яго прыхільнік. А аб тым, што ўсе вакол жулікі, дык гэта не зусім аб'ектыўна. І хоць нашыя палітычныя апаненты на ўсю моц крычаць аб гэтым, аднак я, як і вы, не бачыў ні аднаго сакратара райкама або абкама, які б пасля дзевяноста першага года сышоў у лясы і арганізаваў партызанскі атрад. Так што агулам залічваючы ўсіх у жулллё, мы толькі льём ваду на іхні млын, а гэта для дзяржчыноўніка, я лічу, няправільна…

— Ды ведаю я, што вы лічыце! — нечакана для Скураша ўзвіўся Траццякоўскі. — Калі вам ад гэтага стане лягчэй, я магу заўтра ж напісаць заяву аб сыходзе!..

— Дабрыдзень, бабуля, вось табе і Юр'еў дзень! — раскінуўшы рукі, як рэферы, падскочыла са свайго месца Марыя Міхайлаўна. — Ты што, Патап, мазгі зусім прапіў? Не звяртайце на яго ўвагі, перагрэўся ён, Малюта Максімавіч, клініць пачало нашага навукоўца, пара ўжо па дамах расходзіцца. Вось дурыла, узяў і вечар сапсаваў! Праўда, Малюта Максімавіч, перагрэў у яго на палітычнай глебе. Ён пра бескарыслівасць у адносінах з Бяззубавым не прыдумляе, яны з ім сябры яшчэ са студэнцкіх часоў. Ты ж гэта выдатна ведаеш, — напусцілася Варкоўская на Людмілу Данілаўну. — «Мы адміністрацыйны рэсурс», «За месца чапляемся», — перадражніла яна каляжанку. — Не трэба было алею ў агонь падліваць…

— Увесь вечар сядзела, сядзела, маўчала, маўчала і, на табе, прарвала! Пайшлі, Гена, дахаты! Выбачайце, Малюта Максімавіч, самі бачыце, што за народ.

Кампанія хутка распалася, пакінуўшы ў душы ў Малюты прыкры асадак і здзіўленую выснову, што не ўсё так проста ў яго малым саўнаркаме, і, пры бачнай гладкасці, ва ўсіх растуць свае зубы, ужо даўно навостраныя на бліжняга.

Але ні Скураш і ніхто іншы нават выказаць здагадку не мог, што падобная цераспалосіца і нервовасць трывала пагнездаваліся не толькі амаль ва ўсіх калектывах, сем'ях і, што самае паганае, у галовах многіх і многіх добрапрыстойных жыхароў гэтага суровага краю. Яны, следам за Траццякоўскім, падпарадкоўваючыся немаведама кім закладзенай у іх праграме, з маніякальнай зацятасцю хацелі бачыць і бачылі ў спецыялістах, якія прыехалі з Плаўскім, акупантаў, а ўсіх, хто актыўна супрацоўнічае з новай уладай, спяшаліся запісаць у паліцаі. Чаму так адбывалася, невядома, аднак, нешта ж пхнула Антона Паўлавіча Чэхава яшчэ падчас яго знакамітага падарожжа на Сахалін пакінуць у сваім дарожным дзённіку не надта пахвальныя словы аб мясцовых абывацелях. Магчыма, нейкая душэўная чарвяточына і з'яўляецца гістарычна закладзенай рысай характару мясцовага насельніцтва, хоць і само насельніцтва мясцовым назваць можна з вялікай нацяжкай. Так ужо склалася, што край гэты, дабрадатны ў аснове сваёй, быў гэтакай прыблудна-зброднай імперыяй, большасцю заселенай катаржна-канвойным людам, свабодалюбнымі авантурнікамі, валацугамі ды камсамольцамі-добраахвотнікамі вялікіх будоўляў сацыялізму. Прайшоўшы скрозь стагоддзі і крывавыя нягоды, грымучая атрымалася сумесь, імя якой праславуты «сібірскі характар». Ці не таму, асабліва ў апошні час, усе кардынальныя крокі Масквы часцяком робяцца з аглядкай на Сібір? Не, не тое каб Масква баялася сваёй вялізнай калоніі, хоць, магчыма, і не без гэтага, яна, хутчэй, страхуецца і таму спяшаецца ямчэй абдурыць і залагодзіць гэтых моцных, нелюдзімых, мабыць, трохі зайздрослівых, але ўсё ж даверлівых і наіўных людзей. І хоць за Уралам іх і засталося з гулькін нос, народ яны адчайны, спуску могуць і не даць. А каму патрэбныя ўсе гэтыя шахцёрскія каскі, што буйна грукаюць па гістарычным бруку Краснай Прэсні? Так, яны там, чаго добрага, могуць і пра Сібірскія палкі ўспомніць, і пра Калчака з Сямёнавым; не ўжо, лепш ад граху далей. Гэта толькі аднаасобны ўладар турмен па прастаце прыроднай мог перад сваімі дэпутатамі сардэчна ўскрыкнуць: «Усім прэзідэнтам людзі як людзі дасталіся, а мне — дурні». У нас кіраўнік вушлы пайшоў: або салодка схлусіць, або прамаўчыць з кіслай усмешкай, або з-пад броў так зыркне, як сярпом па адным запаветным месцы шасне. Нашыя ад амерыкосаў хутка засвоілі: народ не выбіраюць, гэта народ выбірае, а з гэтага і адпаведная выснова: хоць і праціўна, ды трывай — царом будзеш.

## 15

У Плаўскага нешта адбылося са сном. Раней ніякія трывогі і нервовыя перанапружванні не маглі аддаліць хвіліны дабрадатнага забыцця, і генерал, як толькі яго галава дакранался да падушкі, апускаўся ў моцны, здаровы сон з практычна поўнай адсутнасцю якіх бы там ні было сноў. Але, перакваліфікаваўшыся з бравага ваякі ў перыферыйныя губернатары, Іван Паўлавіч адчуў сябе не ў сваёй талерцы, і нервовая сістэма, хоць і загартаваная войнамі і стрэсамі, стала даваць збоі. Плаўскаму пачалі сніцца сны. Гэта да такой ступені здзівіла генерала, што ён ад мільгацення недарэчных і, галоўнае, ніякім чынам ад яго не залежных малюнкаў пачаў прачынацца па начах і ў першыя секунды, блытаючы сон з рэальнасцю, працягваў з кімсьці спрачацца, кагосьці лаяць або аддаваць распараджэнні. Пазней, ачухаўшыся і канчаткова агоўтаўшыся, ён доўга сядзеў у тупым здранцвенні на змятай пасцелі, дарэмна спрабуючы адшукаць логіку і першапрычыны таго, што яму толькі што прымроілася. Не знайшоўшы адказу і не звязаўшы канцы з канцамі, Іван Паўлавіч прымаўся псіхаваць, глынаць прама з бутэлькі свой любімы баржомі і хапаць цыгарэты. Пасля трох-чатырох зацяжак, нягледзячы на глыбокую ноч, ашуканы арганізм, атрымаўшы сваю належную пасля абуджэння порцыю нікаціну, аўтаматычна прыводзіў усе органы ў стан няспання, і аб хуткім вяртанні сну можна было забыць. Пашвэндаўшыся па пратакольна нясмачна абстаўленай апачывальні, у чарговы раз пацешыўшыся адсутнасці на шырачэнным казённым ложку законнай жонкі, якая абавязкова пачала б прыставаць з пустымі пытаннямі і прыдзіркамі, ён, заштурхнуўшы за спіну падушкі, спрабаваў чытаць, але, не маючы навыкаў рэгулярных зносінаў з кнігай, хутка стамляўся, таму ўсярэдзіне нараджалася адваротная хваля раздражнення, і ён зноў хапаўся за выратавальныя цыгарэты. Генерал быў чалавекам абавязковым і надзвычай выканаўчым, не важна, аддавалі каманды яму ці ён сам ставіў перад сабою нейкія мэты, усё гэта павінна было быць выканана ў тэрмін. «Загад камандзіра і стараннасць падначаленага могуць горы звярнуць!» — часцяком гаварыў ён. Аднак у гэтым новым і, чаго граху таіць, страшным праз сваю непрадказальнасць жыцці ўсё ў яго выходзіла неяк не так, нічога не спорылася і не давала патрэбных вынікаў. Ну, здавалася б, што яшчэ трэба: сабраў людзей, паставіў задачы, вызначыў сродкі, узгадніў, хто з кім узаемадзейнічае, удакладніў



тэрміны дакладаў. Дык не — сядзяць яны перад табой, вачыма лыпаюць, расходзяцца з заклапочанымі, незадаволенымі, як двухпудовыя гіры, рожамі, а галоўнае, ніхто і не паварушыцца, каб на паўсагнутых кінуцца выконваць губернатарскую волю. Усё ўразвалачку, усё з абмоўкамі, з абавязковымі паперамі, а то яшчэ, глядзіш, і пра неканстытуцыйнасць намякнуць, або на рашэнні Заканадаўчага сходу ківаць пачнуць, словам, па вайсковых мерках — поўны бардак. Вось і рулі губерняй з такімі ўпраўленцамі! Але самае паганае, што падобным чынам да справы ставяцца не толькі абарыгены, якія дасталіся яму па спадчыне. Яны чынушы старой закваскі, што з іх возьмеш? Шкодзяць, гады, і сабатуюць, памятаючы мінулую вольніцу і зладзейскую беспакаранасць, наравяць усё насуперак зрабіць. Агідна іншае: калі ўслед за мясцовымі дзяржымордамі падобную дробнамярэжыстую пазіцыю займаюць і новыя людзі, што прыбылі з ім! Вось дзе форменная подласць! Здавалася б, свае, а туды ж, так і глядзяць, як бы чаго для сябе ўрваць, накаламуціць, а справу, ім даручаную, завалакіціць. Хоць якія яны, к чорту, яго людзі! Таксама ўсе з бору па хвойцы. Таго той парэкамендаваў, гэтага — гэты, а што паробіш, адмовіць немагчыма: і той, і другі, і трэці, і чацвёрты — усе неяк удзельнічалі і ў ягонай раскрутцы, і ў фінансаванні яго выбарчых кампаній. А кампаній гэтых за пяцігодку было аж тры, і прытым якія!

Выбарчыя баталіі ён любіў і заўсёды ўспамінаў з асаблівай ахвотай, як і кароткае сваё знаходжанне на вайне, дзе яму пару разоў ледзь не давялося загінуць. А што, выбары — гэта тая ж вайна, толькі іншымі сродкамі і метадамі!

Але не пра новыя, самыя галоўныя выбары балела цяпер у яго галава. Трэба было ў абавязковым парадку ўладкаваць гэтую дурацкую правінцыю, зрабіць з яе цукерку, усім паказаць, што ён сабою ўяўляе як маштабны кіраўнік. Вось быў усюды бардак, а ён здолеў навесці парадак, даў людзям не толькі надзею, але і рэальны дастатак, а калі здолеў гэта зрабіць у краі, здолее ўправіцца і з усёй краінай. Калі б яму сказалі раней, што абраннік народа настолькі несвабодны ў сваіх учынках і рашэннях, ён бы не толькі не паверыў, але і паслаў бы куды далей падобнага казачніка. А тут гэта прыйшлося выпрабоўваць на ўласнай скуры. Ды калі губернатар, вышэйшая службовая асоба правінцыі, з амаль неабмежаванай уладай, абраны народам так апутаны абавязацельствамі перад сваімі відавочнымі і таемнымі крэдыторамі, дык можна ўявіць, у якой залежнасці знаходзіцца

першая асоба ўсёй дзяржавы. Страшна падумаць! А чаго ты хацеў? Калі няма за табой ні партыі з яе казной, ні спадчыны з заводамі і параходамі, тут ужо круціся не круціся, а па няпісаных правілах усё роўна давядзецца камусьці прадавацца. Магчыма, у гэтым і тоіцца асноўная фішка народаўладдзя. Праціўна, але што рабіць, калі такая рэальнасць: ці сам пад каго-небудзь ляжаш, ці чакай, калі цябе хтосьці заўважыць і зробіць стаўку як на жвавага і перспектыўнага скакуна. Нездарма ж палітыку часта параўноўваюць з іпадромам. Хто і калі гэта прыдумаў, генерал не ведаў, але спінным мозгам адчуваў, што дэмакратыю ў сучаснай Расіі вынаходзілі не для таго, каб народ мог сам сабою кіраваць і жыць па справядлівасці, а цалкам для іншых мэтаў. Ён сам бачыў, што ўжо даўно ў нетрах роднай кампартыі самі сабою або падвуськаныя кімсьці паўсталі новыя сілы, заклапочаныя адзіным пытаннем: як бы ўладкаваць усё так, каб на законных падставах і, галоўнае, бяскроўна адна група ўдачлівых людзей магла адняць уладу і грошы ў другой падобнай групы. Не гнаіць жа сабе падобных прахвостаў у лагерах ды склепах Лубянкі, свет не той і час не той. Напэўна, гэта і ёсць цывілізаваны падыход да праблемы ўлады. На хітрым Захадзе да гэтага дайшлі ўжо стагоддзі чатыры таму, а мы ў сваёй татаршчыне ўсё па даўніне мутузім адзін аднаго смяротным боем. Нават бальшавікі і тыя, дарэчы, пачыналі з народаўладдзя, ды і Гітлер, здаецца, таксама.

«Што за трызненне мне ў галаву лезе? — думаў генерал, з азвярэннем гасячы чарговы недакурак у перапоўненай попельніцы. — Можа, сказаць Старыкаву, хай сваіх шаманаў і ведзьмаў дашле, хоць бы сон нармалёвы аднавіўся, а то я сапраўды такімі тэмпамі не толькі да Крамля не дажыву, а, чаго добрага, месяцы праз тры ў тутэйшую дурку дагаджу. Хоць Масква — Масквой, дурка — дуркай, а пра дзень цяперашні трэба думаць, менавіта гэты дзень будучыню і корміць. Сапраўды, чахарда атрымоўваецца з кадрамі: аднаго раяць — стаўлю, другога — стаўлю, а трэцяга раяць — трэба кагосьці з папярэдніх здымаць, штаты не гумовыя, кагосьці ссоўваць даводзіцца. А каго звольніш без шкоды самому сабе? Вакол адны засланцы, за кожным стаіць маё абяцанне, і калі што, не пазбегнуць крыўдаў. Трэба нешта тэрмінова прадпрымаць, інакш усё гэта табе можа вылезці бокам. Напэўна так, Палыч, — звяртаючыся да сабе як бы збоку, працягнуў свае развагі Плаўскі, ён часта ў доўгіх дыялогах з сабою звяртаўся да гэтага няхітрага прыёму, — садзіся і пішы тэзісы сваёй заўтрашняй нарады з ключавымі намамі і напраўленцамі. Пра бессань і планы на будучыню будзеш потым уздыхаць».



Ні ў чым не вінаватыя падушкі і кніга разляцеліся ўбакі, пустая бутэлька з-пад «Баржомі» глуха бухнулася на прыложкавы дыван. Прыступ кіпучай энергіі ахапіў генерала. Ён хутка прайшоў у кабінет, зачыніў акно, з якога ўжо цягнула перадсвітальнай прахалодай і рачной волкасцю, сцепануўся і, накінуўшы на плечы куртку ад спартовага касцюма, прысеў за пісьмовы стол. Ручка сама сабою ліхаманкава заслізгала па клетках тоўстага працоўнага сшытка. Генерал пісаў доўга, перачытваў напісанае, закрэсліваў і зноў упісваў амаль тыя ж, толькі што закрэсленыя, словы. Прамучыўшыся такім чынам не меней як паўгадзіны, ён з прыкрасцю шпурнуў ручку на стол. Далей за дзясятак малазразумелых і агульных фразаў ён так і не прасунуўся, хоць скрэмзаў добрыя чатыры старонкі, затое яго нясцерпна пацягнула ў сон. Баючыся выпусціць гэты дабрадатны момант, ён паспяшаўся назад у спальню. Астылая пасцель абліла прыемнай прахалодай, і лёгкі сон мякка, па-кацінаму заплюшчыў ягоныя павекі.

Генерал праспаў доўга, занепакоеная ахова, асцярожна зазірнуўшы ў спальню і ўбачыўшы, што губернатар мірна сапе, не стала перарываць ягонага адпачынку, а паведаміла ў горад, што шэф затрымаецца на нявызначаны час у сувязі з асобай занятасцю. Пацікавіцца, што за экстраная «занятасць» утварылася ў губернатара з раніцы, нікому і ў галаву не прыйшло. Заняты — значыць заняты.

Плаўскі прачнуўся па-вайсковаму рэзка, як быццам усярэдзіне спрацавала сталёвая спружына. Зірнуўшы на вакзальнага выгляду гадзіннік, што вісеў над дзвярыма, ён прысвіснуў ад здзіўлення: ішла ўжо дванаццатая гадзіна.

Пазапланавая нарада кіруючага складу пачалася праз дзве гадзіны пасля прыбыцця галавы краю на працу. Кожнаму службоваму чалавеку здаўна вядома, што няма нічога больш агіднага, чым пасляабедзенная нарада. Ды і як жа па-іншаму, калі разамлелы пасля абеду арганізм усякай чалавечай істоты абавязкова патрабаваў супакою, лёгкай дрымоты, да прыкладу, у курылцы завода, на ахапку духмянага сена, проста на цёплай, нагрэтай сонейкам зямліцы, на скураной канапцы ў пакоі адпачынку, ці ва ўтульным крэсле прама за працоўным сталом, ці, у горшым выпадку, на скрыпучым раскіданым крэсле звычайнага канцылярыста — усё залежала ад таго, хто ты ёсць у гэтым

свеце і якой якасці і важкасці занятая табой пасада. І чаму гэта тонкія натуры паэтаў да гэтага часу ні разу не кранулі такую далікатную і пікантную тэму, як стан пасляабедзеннай чыноўнай душы? А гэтая запаветная гадзіна-другая ох як важная ў шэрым, звычайным жыцці папераводцы. О, якія салодкія нядоўгія кляванні носам у лёгкім марыве чуткага сну, якія незвычайныя і дзёрзкія для казённых інтэр'ераў і строгіх кіруючых партрэтаў інтымныя гукі вантробнага сапення маладзенькай каляжанкі, а чаго каштуюць палахлівыя, прыглушаныя акалічнасцямі стогны ўсё ўмелай і адданай сакратаркі! Чым не ода ў славу ўрачыстасці жыцця і існасці!

І вось уся гэтая прыгажосць і пяшчота сабаку пад хвост: на-ра-да! Страшнае, нібы чума, слова, шумам пракацілася па калідорах і кабінетах Шэрага дома! Чынавенскі дом нібы мурашнік — усе моцна звязаныя адзін з адным, і калі старэйшыя падаліся да галоўнага, то сярэднія не дадуць малодшым супакою, заторгаюць, заганяюць, змарнуюцца самі ды іншых змарнуюць здагадкамі і страхамі.

Тыя ўладары краю, хто сабраўся ў прасторным губернатарскім кабінеце, аднадушна адзначылі, што шэф у выдатным настроі і нічога не прадвяшчае ўзрушэнняў і наганяяў, ды і якія наганяі могуць быць пасля абеду. Чыноўны люд усё гэта імгненна ацаніў і, ямчэй размясціўшыся на цвердаватых крэслах, расслабіўся. Вось тут і грымнула навальніца.

— Я, па волі народа, з нейкага часу працую ў гэтым краі губернатарам, — мяккім, ліслівым голасам пачаў губернатар. — Ужо амаль тры месяцы мы з вамі працуем, а вось толку ад майго кіравання і ад нашай з вамі агульнай работы ўсяго з гулькін нос. Вось вы, Музадохаў, ведаеце, што гэта за мера такая — «гулькін нос», а?

Кірыла Веніямінавіч Музадохаў, які адказвае ў краі за стан фінансаў, нясмела прыпадняў з крэсла сваё маладое, але ўжо ладна заплытае тлушчыкам цела і з непрыхаваным здзіўленнем утаропіўся на губернатара. Малады засланец сталічнага банка за час працы ў камандзе Плаўскага так і не зразумеў свайго асноўнага прызначэння. Больш за тое, падчас штотыднёвых палётаў у сталіцу ён слёзна скардзіўся свайму кіраўніцтву на дубаломства краявога начальніка, гаспадары з разуменнем пляскалі яго па плячы і неназойліва працягвалі патрабаваць звароту ўкладзеных у генерала грошай з абумоўленымі адсоткамі. Кірыла Веніямінавіч хваляваўся, яго банкірская істота, так падобная на прымітыўную ўкрадайку, ніяк не магла змірыцца з тым,



што губернатар патрабаваў асноўную масу грошай адпраўляць на сацыялку, то бок на выплаты нейкіх запазычанасцяў па заработнай плаце настаўнікам, медыкам ды інвалідам. Трызненне, ды і толькі, з пункту погляду практычнага фінансіста новай фармацыі, які спасцігаў прамудрасці банкаўскай справы ў далёкай хмурнай Амерыцы. Па ўсіх тамтэйшых эканамічных чытанках грошы патрэбныя выключна для таго, каб працаваць і рабіць, як гэта ні банальна гучыць, новыя грошы. Праўда, яшчэ задоўга да гэтых чытанак гэтую прымітыўную формулу капіталізму выразна сфармулявалі заснавальнікі марксізму і найяркімі эпітэтамі ў сваіх літаратурных творах апісалі класікі сацрэалізму. Але ні тых, ні іншых у амерыканскіх хайскулах не выкладалі, ды і ў айчынных, дарэчы, таксама ў апошні час не асабліва паважалі, а таму пра «гулькін нос» банкір упершыню пачуў толькі на гэтай нарадзе. Працяглая паўза пагражала стаць бестактоўнай непачцівасцю.

— Іван Паўлавіч, я вас, прабачце, не разумею. Вы выбачайце…

— А як жа! З найнізкім паклонам, — пераходзячы на свой страшэнны бас, рэзка падняўся з месца губернатар, — я гляджу, вы хуценька і прытым не ў адзіночку, — з ліхім прыжмурваннем агледзеў ён прысутных, — а ўсе разам вырашылі, што я тут адмыслова якраз і пасаджаны выключна дзеля таго, каб падобных вам недалеткаў «выбачаць», «прабачаць» і перавучваць працаваць на расійскі манер. Не ўжо, дудкі! А вы, галубчык Кірыла Веніямінавіч, будзеце першым, каго выбачаць не буду, ды і за што выбачаць? Вы не красная дзеўка, а я не заезджы паручнік, але адно я са скрухай магу канстатаваць: у фінансах вы цяміце не больш, чым сібірская свіння ў мараканскіх апельсінах. Па вашым гірападобным твары бачу, што спазнаннем вуснай народнай творчасці розум ваш не асабліва абцяжараны, але гэта — справа нажыўная, магчыма, калі-небудзь мы дажывём да светлага часу, калі цяперашнія банкіравы дзеці будуць скінуты з круцельскага алімпу, і там, у нетрах народных, з кайлом у руках спасцігнуць асновы рускасці, да якой яны з такой пагардлівасцю да гэтага ставіліся. Што ж, — пераходзячы на звычайны тон, уздыхнуў Плаўскі, — тлумачу асобна для выпускнікоў заморскіх акадэмій: чалавек вы, па ўсёй бачнасці, добры і ў нечым нават старанны, аднак для пасады майго намесніка гэтых дзетсадаўскіх якасцяў відавочна замала, так што прашу да заканчэння заўтрашняга дня здаць усе справы свайму намесніку і адпраўляцца дадому да матулі. І не трэба мне нічога мыкаць! — апярэджваючы

апраўданні зусім скіслага фінансіста, раўнуў губернатар. — Усё, хопіць, мне надакучыла вам соплі падціраць. Гэта маё канчатковае рашэнне.

Цяжкое маўчанне, як змрочная, наскрозь прасякнутая навальніцай хмара, павісла ў кабінеце.

— Цяпер, дарагія работнічкі, я звяртаюся да ўсіх вас. Да дня паслязаўтрашняга маім намеснікам і начальнікам вядучых упраўленняў падаць пэўныя прапановы па прыцягненні ў край грошай і справаздачы аб выкарыстанні тых драбніц, якія вы расцягнулі. Пры гэтым не заманіцеся мне падсоўваць план дзеля плану, бо выконваць яго прыйдзецца вам самім, а не, — голас генерала зноў стаў напаўняцца металічным вуркатаннем, — я трымаць нікога не стану, можаце хоць цяпер напісаць заявы аб сыходзе па ўласным жаданні. Павел Анатолевіч, — звярнуўся ён да свайго памагатага Ласкаля, — раздайце спадарам чыстыя лісты для напісання рапартаў.

Павел з непрыхаваным задавальненнем паднёс усім белыя, як крэйда, папяровыя прастакутнікі, ад якіх на прысутных няўхільна падзьмула холадам забыцця і страхам галечы.

— Усё, я больш вас не затрымліваю, ідзіце працаваць, — пераможна агледзеўшы сваіх зусім паніклых падначаленых, з відавочнай здзеклівасцю падрахаваў губернатар.

Заварушыліся крэслы, і толькі людзі, імкнучыся не глядзець адзін на аднаго, пацягнуліся было да выхаду з ліхога кабінета, як ім заступіў дарогу генеральскі вокрык:

— І яшчэ, усе на працягу тыдня абавязаныя перасесці з персанальных іншамарак на аўтамабілі айчыннай вытворчасці, а вашыя закардонныя ландо будуць рэалізаваныя на аўкцыёне і выручаныя грошы пойдуць на аплату даўгоў па заработнай плаце настаўнікам і работнікам культуры. Вось цяпер усё. Новыя машыны атрымаеце на працягу квартала, а пакуль на сваіх пакатаецеся або на грамадскім транспарце. Што будзе для вас вельмі карысна, заадно пагледзіце, як народ жыве і што пра нас, лайдакоў, раніцай у аўтобусах гаворыць. Ну, вось цяпер я, здаецца, сапраўды ўсім вам пажадаў прыемнай і плённай працы! Да пабачэння. А вы, Ляскаль, застаньцеся.

Падначаленыя з губернатаравага кабінета выйшлі хмурныя і збянтэжаныя, ні табе звыклых жартачкаў, ні сяброўскіх падколаў. Толькі мінуўшы прыёмную і хол, які ёй папярэднічаў, народ напаўголасу пачаў выпускаць назапашаную пару, ды і



то рабілася гэта вельмі асцярожна, іншасказальна, з аглядкай, так сказаць, на заўтрашні дзень. Нязменныя чынавенскія атрыбуты, тэчкі і вялікафарматныя агульныя сшыткі, апякалі рукі і раздзіралі прыціснутае самалюбства, дакладней, не столькі самі атрыбуты, колькі стоеныя ў іх чыстыя лісты паперы; ніхто з падпарадкаваных генерала так і не рызыкнуў пакінуць гэтую «белую пазнаку» на адпаліраваным стале нарадаў. Але чынавенская крыўда доўгай не бывае і доўжыцца, як правіла, да першай пахвалы начальніка, да першага добрага слова, ветлівай усмешкі, ухвальнага кіўка ўладнай галавы. Канцэлярысты пра тое ведалі і гналі прэч ліхія думкі.

Кабінеты хутка ўсмокталі людзей, доўгі калідор апусцеў, толькі самотная бясформенная фігура Кірылы Веніямінавіча сіратліва цямнела на фоне падслепаватага акна, якое выходзіла ў двор.

Незразумела, па чыёй архітэктурнай прыхамаці, але амаль усе бясконцыя калідоры казённых устаноў пры павароце абавязкова ўпіраюцца ў вялікае акно з шырокім, зручным, як трамплін, падаконнікам. Такімі ж вокнамі заканчаюцца і калідорныя тупікі, якіх асабліва шмат у сталінскай архітэктуры. Цёмны, амаль трагічны сілуэт выгнанага чыноўніка ўжо бачыўся гэтым сценам чымсьці чужым, іншародным, а той толькі што канчаткова страціў усякі сэнс свайго знаходжання ў гэтай велічэзнай шэрай стадоле, некалі пабудаванай на месцы падарванага бальшавікамі велічнага храма. Цяпер часта разводзяць рукамі, а што, маўляў, паробіш, час быў такі, ды і абкамаўскія палаці тады задумваліся і ўзводзіліся, як новыя кумірні новай боскасці, у якіх павінны былі дзейнічаць і фактычна жыць новыя жрацы. А што, калі ўдумацца, у гэтым сапраўды была своеасаблівая пераемнасць, некалі візантыйцы і лаціняне пад корань бурылі малельні і капальні даверлівых і слабавольных славян ды на іх месцах будавалі храмы свайму Богу; не прайшло і тысячы гадоў, як і гэтая ўжо ўпадабаная і стаўшая роднай прыгажосць пайшла раптоўна на злом, так што месцы пад гэтыя пампезныя будынкі выбіраліся з сэнсам, а калі хочаце, і з намерам, каб сцежка страху, што вядзе да любога бога, не астывала. О, гэты страх! Вялікі і невынішчальны, ён заўсёды жыве ўсярэдзіне кожнага з нас, якія б клетачкі на шахматнай дошцы сацыяльнай няроўнасці мы ні займалі. Гняздуецца гэтае вечнае пачуццё і ў душах самых вялікіх і самых непатапляемых кіраўнікоў ласкавай Бацькаўшчыны. Праўда, пачуццё гэтае адрозніваецца ад звычайнага ліпкага страху пазбавіцца працы, што грызе і трымае ў цуглях

Плаўскі і паспрабаваў сваімі анекдотамі і вайсковымі жартачкамі хоць неяк разварушыць нахмураных сілавікоў, аднак у адказ атрымаў толькі нацягнутыя дзяжурныя ўсмешкі. Даклады і адказы генералаў былі сухімі. Нарада, якая, як правіла, расцягваецца, з абавязковым чаяваннем гадзіны на паўтары, гэтым разам скончылася за нейкіх трыццаць хвілін.

— Чаго гэта яны ў вас сёння такія сухія, як рыбец увосень на растоўскім кірмашы? — спытаў губернатар у Малюты.

— Сам здзіўляюся. Пайду разбірацца, — пацісну́ў плячыма Скураш.

— Ну разбірайцеся, разбірайцеся! І яшчэ, я б вас папрасіў не перашкаджаць Пілюрскаму фармаваць генеральскі клуб. Нічога тут процізаконнага няма, а вось лішняе з’яднанне губернатара з сілавікамі і моцнымі краю гэтага не перашкодзіць, ды і вас туды варта ўвесці, а то як жа мы гарэлку піць без царовага вока будзем?

Малюта вырашыў нічога не адказаць і, развітаўшыся, сышоў. Масква вельмі насцярожана і раўніва ставілася да з’яднання рэгіянальных федэралаў з губернскімі структурамі. А тут і зусім штосьці дзіўнае атрымоўвалася: губернатар, сам у мінулым баявы генерал, ставарае генеральскі клуб на чале з самім сабою. Забараніць яму гэта фармальна ніхто не мог, але і падтрымаць гэтакую задуму Масква асцерагалася: ці мала да чаго яны там у нефармальнай абстаноўцы даклубнічаюць. Скурашу начальства найстрога наказала: у клуб увайсці і аб кожным яго пасяджэнні дакладваць асобным паведамленнем.

Паўдня Малюта біўся над разгадкай ранішняга маўчання лампасных ягнятаў — усё без толку, а пасля абеду зазірнуў без папярэджання да начальніка мясцовага ўпраўлення ФСБ, з якім у яго неяк адразу склаліся прыяцельскія адносіны, ды і жонкі іх пасябравалі.

Уладзімір Леанідавіч быў ужо ладна падпіўшы.

— А, Малюта Максімавіч, праходзь, праходзь! А я цябе чамусьці раней чакаў…

— З чаго гэта ты, Валодзя, у працоўны дзянёк гарэлачкай забаўляцца вырашыў?

— А вось вырашыў і ўсё, — і, зазірнуўшы ў свой маленечкі пакойчык адпачынку, палову якога займаў велізарны сейф, паклікаў: — Выходзь, Мікіта Савельевіч, нядобра ад царовага намесніка хавацца, мы ж з табой як-ніяк гасударавы людзі.

Мікіта Савельевіч, вялізны, амаль двухметровага росту, мужык, быў генерал-лейтэнантам міліцыі і ўзначальваў краявое



ўпраўленне МУС. Розныя аб ім хадзілі чуткі: і што бацька яго з былых нямецкіх памагатых, і ў тутэйшыя краі быў сасланы па пуцёўцы «Смерша» адразу пасля вайны; і што сам галоўны міліцэйскі начальнік дужа звязаны з даволі вядомым Дракавым і ягонымі рукамі раптоўна расправіўся з усім арганізаваным крымінальным элементам. Аднак усё гэта было далёка ад Малюціных інтарэсаў, калі што не так, хай з гэтым разбіраецца міністэрства і служба ўласнай бяспекі, а асабіста яго міліцэйскі начальнік цалкам задавальняў.

— Я табе, Савеліч, гаварыў, што ўдвох піць нядобра, але вось, слава Богу, трэці падышоў. Малюта, вы не пагрэбуеце сціплым генеральскім застоллем? Прашу вас.

Скураш не стаў адмаўляцца і моўчкі прысеў за стол нарадаў, абстаўлены няхітрымі закускамі.

— Ну, дык з чаго генералы горкую глушаць, а? Не скажаце, буду піць не чокаючыся…

— Ты бачыш, таварыш галоўны мент, як за хворае адразу чапляе? Галоўнае, і піць, здэцца, не адмаўляецца, і ў той жа час сам па сабе, асабняком! Пакажы-ка яму паперу, Савеліч…

— Ды навошта? Можна падумаць, што ён яе не чытаў яшчэ да адпраўкі? Давайце вып’ем, ды я пабягу…

— Нікуды ты не пабяжыш! Кабінет твой за сценкай, а, паслухай, давай прама зараз дамо каманду размураваць дзверы, што злучалі нашыя кабінеты! І на чорта іх нашыя папярэднікі заглушылі? Не, гэта несправядліва! Органы павінны быць во! — ён з сілай сціснуў кулак. — Разам павінны быць органы! Малюта Максімавіч, ты гэта падтрымліваеш?

— Ды вы і так ужо разам, бліжэй не бывае! Мікіта Савельевіч, а якую паперу я павінен быў прачытаць да адпраўкі? — не ўтрымаўся Скураш.

— Якую-якую? Ды вось гэтую! Якую вы са сваім губернатарам у Маскву накіравалі, — адказаў замест міліцыянера Уладзімір Леанідавіч і, выняўшы з-пад міліцэйскай фуражкі, што ляжала на стале, у чатыры разы складзеныя аркушы паперы, пляснуў іх перад Малютам. — Вось, чытай! Мне на Лубянцы казалі, што ты езуіт і на езуіта вучыўся, але я не думаў, што да такой ступені!

Малюта прапусціў міма вушэй п’яны ўкол і пачаў чытаць адрасаваны міністру ўнутраных спраў ліст. Даволі нядрэннай мовай на дзвюх старонках выкладаліся ўсе плёткі і чуткі аб начальніку мясцовай міліцыі, сам ён вінаваціўся ў патуранні бандытам і карупцыянерам. Завяршалася гэтая папера з кепскім

пахам заклікам тэрмінова даслаць комплексную праверку і адхіліць ад пасады цяперашняга краявога міліцыянера. Пад лістом красаваўся птушкападобны подпіс Плаўскага.

Малюта здранцвеў ад прачытанага і машынальна перакуліў у рот наліты кілішак гарэлкі.

— Дурдом нейкі… Адкуль гэта ў вас?

— З міністэрства, сёння раніцай «фельдам» даставілі міністру, а мне хлопцы па сяброўству копію скінулі… — з прыкрасцю крэкнуўшы, адказаў Мікіта Савеліч.

— І на мяне прыкладна такая ж цялега на Лубянку сёння прыкаціла, толькі я там — кончаны алкаш і лайдак. Дырэктара на месцы пакуль няма, так што сяброўскую копію паказаць не магу, без дакладу пабаяліся перадаць…

— Пракурор таксама алкаголік і хабарнік, — перабіў чэкіста міліцыянер, — начальнік падатковай паліцыі — казнакрад і распуснік, старшыня краявога суда — гомасэксуаліст, мужыку амаль семдзесят гадоў, ганьба! А запраўляе ўсёй гэтай бандай дэгенератаў спікер краявога заканадаўчага сходу спадар Шусь!

— Ды кіньце вы! — ускочыў Малюта.

— Мы б і радыя кінуць, Малюта Максімавіч, ды як кінуць, калі кілішкі ўжо налітыя! Дык ты што, на самай справе пра гэтыя пісанні нічога не ведаў? — абсалютна цвярозым голасам спытаў Уладзімір Леанідавіч.

— Калі б ведаў, ты думаеш, яны б з кабінета Плаўскага выйшлі? Гэта ж поўная лухта, і стукне яна першым чынам па самім губернатары! І што, па ўсіх сілавіках такія пасквілі разаслалі?

— Калі б толькі па сілавіках! — хмурна адазваўся начальнік міліцыі. — Вунь краявога ветэрынара ўжо часова адхілілі ад выканання абавязкаў і выклікалі ў Маскву для разгляду.

— Я ж табе казаў — не мог Малюта ў гэтым удзельнічаць! Ну, зараз сам упэўніўся? Каб зняць канчаткова твае сумненні, скажу па сяброўству, мне яшчэ ў пятніцу ўначы даклалі, што ў адміністрацыі краю рыхтуюцца нейкія сакрэтныя паперы, і ў нядзелю іх кур'ер павінен даставіць у сталіцу…

— Блін! І што ж, ты не мог мне патэлефанаваць і сказаць аб гэтым? Ты, дарэчы, і па закону абавязаны мяне інфармаваць, — перабіў яго Малюта.

— Вядома, абавязаны, але толькі па ўзгадненню са сваім кіраўніцтвам. Ды і потым, аб чым бы я цябе праінфармаваў? Нешта, дзесьці, хтосьці піша! Усё, праехалі, нічога ўжо не паробіш… А пакуль, быць дабру!



Чокнуліся, выпілі, задумаліся.

— Давайце так, вы шарсціце па сваёй лініі і рыхтуйцеся да абароны па ўсіх пунктах гэтых дурацкіх абвінавачванняў, а я пакуль пайду да сябе, чуе маё сэрца, што штосьці падобнае ў абагульненым выглядзе павінны яны былі накіраваць і на самы верх…

— Ну, у абыход цябе, — разліваючы гарэлку, усумніўся Уладзімір Леанідавіч, — гэта наўрад ці. Гэта найчыстай вады табе падстава. А ты, як-ніяк, стаўленік Плаўскага, яго саюзнік.

— Я, між іншым, сюды, як і вы, прызначаны ўказам Прэзідэнта, — узвіўся Малюта, — і на пасаду намесніка маю кандыдатуру, хай будзе вам вядома, не Плаўскі прапанаваў, а Пужын! Так, я быў і застаюся палітычным прыхільнікам генерала і цалкам падзяляю яго погляды на ўладкаванне краіны! Але я зусім не ягоны памагаты ў звядзенні дробязных рахункаў! Хоць, з вялікай доляй верагоднасці, я ўжо здагадваюся, хто мог быць ініцыятарам гэтых цыдулак.

— Добра, Малюта, праехалі! Мы таксама сёе-тое ведаем. Давай на расхадуху — і ўсё.

У канцылярыю Прэзідэнта ніякіх папер ад губернатара Ясейскага краю не паступала — такім быў казённы адказ на званок Малюты ў Маскву. «Гэта ўжо лягчэй», — падумаў ён і паспрабаваў звязацца з Плаўскім.

Губернатара нідзе не было. Як у песні аб патрэбным чалавеку: усе яго бачылі, але нідзе яго няма. Урэшце праз усёведнага Ляскаля ён дазнаўся, што Іван Паўлавіч тэрмінова паляцеў у адзін з аддаленых раёнаў Эркійскай акругі па неадкладных справах, і дні з тры з ім сувязі не будзе. Камандзіроўкай па неадкладных справах у губернатарскім асяроддзі звалі рыбалку, але ў Эркію, як правіла, ляцелі або пасля абеду ў пятніцу, або рана раніцай у суботу, ды і потым на падобныя мерапрыемствы Плаўскі заўсёды запрашаў Малюту. Чым гэта было выклікана, ніхто толкам не ведаў, аднак Скураш нязменна займаў месца ў верталёце насупраць губернатара.

Да вечара наступнага дня ўвесь край стаяў, як кажуць, на вушах. Усе лісты дайшлі да адрасатаў, нешта падобнае прыйшло і на адрас Прэзідэнта. У ім патрабавалася тэрміновага стварэння вялікай міжведамаснай камісіі, татальнай праверкі ўсяго ды тэрміновых аргвысноў, інакш губернатар за спакой даручанага яму краю ручацца не мог і здымаў, у выпадку непрыняцця пэўных мер, з сябе ўсякую адказнасць. Малюта перамовіўся з

усімі блізкімі Плаўскаму людзьмі, не толькі ў Ясейску, але і ў Маскве, выслухаў усе іх чартыханні і абурэнні, дамовіўся аб кансалідаванай пазіцыі і вырашыў дзейнічаць, не чакаючы губернатара. Прыдумаў сабе на суботу імяніны і склікаў усіх так або інакш уцягнутых у гэты канфлікт службоўцаў.

Натхніцелем ды ініцыятарам усяго гэтага паскудства, як ён і меркаваў, быў Старыкаў і яго людзі. Яны, ці бачыце, для ўзняцця ўсерасійскага іміджу шэфа вырашылі ініцыяваць гучную крымінальную справу па ўзбекскім узоры і былі стоадсоткава ўпэўненыя, што ў Ясейск дашлюць калі не Іванова і Гдляна, дык хоць бы кагосьці ім падобнага. Але ўсё выйшла з дакладнасцю да наадварот. Змест лістоў наўмысна злілі ў мясцовыя СМІ, і пайшла пісаць губерня! У Маскве здзіўляліся і адразу ж высунулі версію аб кіраўнічай безгрунтоўнасці нядаўна абранага губернатара ды яшчэ прыпісалі спробу праз замену непажаданых яму сілавікоў на сваіх людзей, фактычна, вывесці край з-пад кантролю цэнтра.

Плаўскі вярнуўся з рыбалкі ва ўжо іншы, абсалютна варожы яму край. Даведаўшыся аб несанкцыянаванай ініцыятыве Малюты, ён спачатку наадрэз адмовіўся ісці на імправізаваныя імяніны. Але пасля дзвюх гадзін угавораў і магутнага ціску сваіх правераных прыхільнікаў са сталіцы даў дабро і прыйшоў у другі корпус прэзідэнцкай рэзідэнцыі. Уся сходка да імяніннага стала не датыкалася і гатовая была дэманстратыўна пакінуць «рэзервацыю», так мясцовыя журналісты ахрысцілі пасёлак «Кедры», калі першая асоба краю іх праігнаруе. Але падбухторшчык спакою з'явіўся, і ўсе паспяшаліся пасесці за стол.

Аднак «імяніны» не задаліся. Плаўскі сядзеў ускудлачаны, нібы пакрыўджаны верабей, і без адмысловай цікавасці слухаў вельмі каларытныя і ў асноўным вернападданніцкія тосты генералаў і дэпутатаў. Падчас невялікага перакуру Малюта, знайшоўшы хвіліну, калі губернатар, пагаварыўшы па тэлефоне, застаўся адзін, у лоб задаў пытанне, якое не давала спакою. На твары генерала не адбілася ніводнай эмоцыі.

— Якія лісты, Малюта Максімавіч? Не ведаю я ні пра якія лісты…

— Як не ведаеце, калі ў мяне ёсць усе іх копіі, даручэнне разабрацца ва ўсім і дакласці кіраўніцтву…

— Што?! Вам даручылі разбірацца?… — імгненна ўзвіўся Плаўскі, хапаючыся за цыгарэты.



— А вы што, Іван Паўлавіч, думалі: сам Прэзідэнт кіне ўсё і прыбяжыць раскручваць чарговую інтрыгу Старыкава? — ледзяным тонам спытаў Малюта. — Аднак, запэўніваю вас, сутнасць цяпер не ў гэтым. Цяпер галоўнае — супакоіць сілавікоў і мясцовых дэпутатаў, паспрабаваць перацягнуць іх на свой бок, інакш, мне падаецца, краем кіраваць будзе вельмі складана…

— А навошта ж вы тады ўсім разбалбаталі пра мае дакладныя? І наогул, адкуль яны ўсё ведаюць? — Плаўскі — як бык — матнуў галавой убок публікі.

— Іван Паўлавіч, няўжо вы сапраўды такі наіўны? Са сваіх міністэрстваў, натуральна.

— Дык яны што там, у Маскве, не збіраюцца прысылаць сюды камісію?

— Якую камісію, і, галоўнае, навошта? — закіпеў Малюта. — Усё, што вы напісалі, у міністэрствах даўно ведаюць як плёткі і паклёпы. Адзінае, што можа зрабіць Масква, дык гэта праверыць вашую фінансавую і арганізацыйную дзейнасць. Вы за федэралаў не турбуйцеся, у іх з вынікамі праверак усё будзе нармалёва, іх па два-тры разы ў год правяраюць, а вось для вас гэта будзе першым выпрабаваннем і, наколькі я разумею, зусім нясвоечасовым. Мая вам парада: прымірыцеся з цалкам лаяльнымі да вас чыноўнікамі. Сваіх людзей на іх месца вам ніхто паставіць не дазволіць, а прышлюць, я ўпэўнены, не лепшых за гэтых. І яшчэ, мы раней з вамі так адкрыта ніколі не гаварылі, дык вось, мая шчырая парада: ганіце ад сябе Старыкава, інакш будзе позна. Толькі прафесійны правакатар мог вам такое ўраіць і ўвомірг пасварыць амаль з усімі міністрамі…

— Ды пры чым тут міністры, што вы такое несяце?! — загрымеў Плаўскі. — І яшчэ, калі вы збіраецеся і надалей са мной працаваць, не дазваляйце сабе даваць мне ніколі і ніякіх парад. Вы вельмі многага не ведаеце. Ідзіце да сваіх гасцей, мне трэба зрабіць яшчэ адзін тэлефонны званок.

## 19

— Якія, к чортавай матары, імяніны! Ён жа нарадзіўся дзесьці ў лістападзе або снежні! — абураючыся, кідаўся па гасцінічным нумары Старыкаў. Я вам даўно гаварыў, што ён — засланы казачок! І імя ж якое — Малюта! Калі нічога не распачаць, то ён сапраўды нас усіх на дыбу ўзніме і скуры здзярэ.

У пакоі, акрамя Плаўскага, знаходзілася яшчэ чалавек пяць верных Аляксею Віктаравічу людзей. Губернатар сабраў свой

малы круг ноччу і падрабязна распавёў аб тым, што адбывалася на ўяўных імянінах Скураша. Аднак было і сёе-тое, аб чым ён вырашыў змаўчаць. Напрыклад, аб тым, як ён, пасля гутаркі з Малютам, калі ўсе прысутныя зноў расселіся за сталом, распачаў вельмі нязграбную спробу прымірэння і нават своеасаблівага пакаяння перад мясцовымі. Ён таксама апусціў сваё абяцанне абавязкова пакараць людзей, якія рыхтавалі гэтыя няшчасныя дакументы і пераканалі яго ў неабходнасці іх адпраўкі. Паслухаўшы ягоны аповед, чалавек недасведчаны мог бы падумаць, што ўся гэтая важданіна была загадзя спланаваная Плаўскім выключна дзеля таго, каб праверыць сілавікоў і мясцовых на іх лаяльнасць да яго. Ён з самаздаволеным выглядам паліў, уставіўшы цыгарэту ў нязменны муштук, набраны з рэдкага гатунку бурштыну. Генерал заставаўся верным свайму прынцыпу: ніколі не прайграваць, а перад падначаленымі і неспрактыкаванай публікай заставацца заўсёды пераможцам, нават калі дзеля гэтага неабходна адкрыта хлусіць.

— Іван Паўлавіч, віншую вас з чарговай перамогай! — выразна трымаючы нос па ветры, вымавіла Міхайліна Гаржынава, умаладнелая жанчына гадоў пяцідзесяці, якая выконвае не зусім зразумелую ролю ў свіце губернатара. — Не, я без усякага падхалімажу, заўсёды дзіўлюся вашаму таленту прымушаць любую сітуацыю працаваць на сябе…

— Вы ў корані памыляецеся, Міхайліна Міхайлаўна, я ніколі ў жыцці не прымушаў нікога працаваць на сябе асабіста, і ў гэтым мая сіла і маё адрозненне ад тых, хто расцягвае сёння Расію. Я ўмею і ведаю, як звярнуць любое дзеянне або бяздзейнасць на карысць нашай агульнай з вамі ідэі, ідэі ўсенароднага дастатку, — надаўшы голасу выраз суровасці, вымавіў генерал.

— Так, ды я вас разуменню! Але будучыня народа настолькі асацыюецца ўва мне, як і ў думках мільёнаў простых людзей, з вашай тытанічнай дзейнасцю, што мы маем поўнае права называць яго вашым імем, — са штучнай крыўдай запярэчыла Гаржынава.

— Іван Паўлавіч, ды хрэн з ім, з народам, ён у нас асабліва ніколі не ўмеў быць удзячным, трэба думаць, што рабіць з Масквой і мясцовымі заканадаўцамі, вы ж разумееце, што яны вам фактычна абвясцілі вайну? — узбуджана звярнуўся да губернатара Старыкаў.

— Віктар Аляксеевіч! — раўнуў генерал. — Я б вас папрасіў надалей пра народ у маёй прысутнасці так не гаварыць! Гэта раз.



Другое, вайна — гэта звыклы для мяне стан, і не было яшчэ ні аднаго бою, які б я не выйграў! Вось жанчыны, — ён бесцырымонна ткнуў пальцам у Міхайліну Міхайлаўну, — і тыя гэта разумеюць, хоць, у адрозненне ад вас, не ўяўляюць сябе вялікімі аналітыкамі і камбінатарамі. І, нарэшце, трэцяе — Скураш мае рацыю: поўнае глупства вы са сваімі дармаедамі прыдумалі, якія комплексныя праверкі, якія следчыя па надзвычай важных справах, вы ж хоць праверылі, ёсць цяпер такія зубры ў генпракуратуры?

— Іван Паўл…

— Не перабіваць мяне! — груба абсёк Старыкава раззлаваны губернатар. — Што, не падабаецца, калі супраць поўсці? Нічога, давядзецца выслухаць! Не трэба мне гарадзіць глупства, што Малюта рые пад вас і вашую групу, выконваючы заданне свайго начальства са Старой плошчы. Лухта гэта поўная! Я правяраў па сваіх каналах, там нават не здагадваюцца аб вашым існаванні! А вы тут уявілі з сябе гэтакую жудасную грозную сілу! Ды цьфу вы, а не сіла! Больш за тое, яны на поўным сур’ёзе ўпэўненыя, што ўсё гэтае трызненне з сілавікамі я прыдумаў сам асабіста, каб вывесці край з-пад кантролю Крамля і пачаць развал Расіі! Дык хто ў маім асяроддзі вораг? Я вас усіх пытаю?! — генерал з нянавісцю абвёў прысутных поглядам.

— Таварыш генерал-губернатар! — са зрывістым ад напругі голасам ускочыў навыцяжку старэйшы з братоў Укольнікаў. — Мы ж выконвалі ваш загад і хацелі, каб усё было як лепш…

— Што?! — зароў Плаўскі. — Дык выходзіць, гэта я сам дадумаўся да ўсёй гэтай хуйні? Прэч адсюль, і каб духу вашага паганага заўтра ў Ясейску не было! Ну, хто яшчэ хоча абвінаваціць мяне ў разбурэнні маёй Радзімы?

Ахвочых пярэчыць або апраўдвацца больш не знайшлося. Усе сядзелі, панура апусціўшы галовы, і чакалі любой падставы, каб вышмыгнуць, пакуль і іх не спасцігла доля Дзядоўскага любімчыка.

На іхняе шчасце, у кішэні ў генерала зазваніў тэлефон. Нагул Іван Паўлавіч лічыў ніжэй сваёй годнасці насіць з сабою мабільныя тэлефоны, іх з паўтузіна цягала за ім ахова, аднак, для аднаго апарата было зроблена выключэнне, нумара якога ніхто не ведаў, нават Старыкаў. Вось менавіта гэты тэлефон і забзыкаў цяпер у адной з генеральскіх кішэняў. Забзыкаў неяк асабліва звыродна і настойліва.

— Усе вольныя, — злосна кінуў Плаўскі, незадаволены тым, што давялося перапыніць разнос.

Літаральна праз секунду ў памяшканні нікога не было. «Прусакі ашпараныя!» — з пагардай гледзячы ім услед, падумаў генерал і расхінуў вечка тэлефона.

— Прашу выбачэння за начны званок, гэта я, — затараторыла трубка голасам Амроцкага, — дабрыдзень. Я, напэўна, вас разбудзіў?

— Ды які разбудзіў! Я тут са сваімі дарадцамі сэкстрэнаж праводжу! Так што ваш званок для іх прагучаў як голас Выратавальніка. Добры вечар, чым абавязаны?

— Ды гэта я вам абавязаны вашай добразычлівасцю, — злёгку ўсцешыў маскоўскі паўночнік, улавіўшы суровасць у голасе Плаўскага. — Ёсць абнадзейлівыя навіны, Іван Паўлавіч. — Амроцкі замоўк, падахвочваючы суразмоўцу задаць сустрэчнае пытанне. Аднак трубка ўпарта маўчала. — Атрымалася перамясціць «галаўны боль», заўтра выйдзе ўказ, — шматзначна завяршыў Міхаіл Львовіч.

— І куды, хацелася б пацікавіцца? — голас генерала адразу стаў амаль аксамітным. — Сапраўды, на ноч паднялі настрой, а то ледзь было не разагнаў палову сваёй адміністрацыі…

— Ганіце, калі таго акалічнасці патрабуюць. Мы талковымі людзьмі заўсёды дапаможам, а аб тым, што ў вас бесталкоўшчын хапае, Масква ўжо, калі не памыляюся, дні тры як пляткарыць. Што ж датычыцца нашага пытання, так да былога месца службы яго вызначылі…

— У памочнікі граданачальніка, ці што?

— Не, па першай, асноўнай спецыяльнасці. Чысціць зусім ужо спаршывелае ведамства.

— Вунь яно як! Гэта добра, а там, прыйдзе час, і галаву звярнуць можна, народу адзічэлага цяпер усюды хапае, абавязкова ў чые-небудзь інтарэсы ўмяшаецца. І каму ж гэта такая светлая ідэя прыйшла?

— Не паверыце, не мне! Пры сустрэчы ўсё падрабязна распавяду, я да вас на днях збіраюся, не прагоніце?

— Ды калі ласка, добрым людзям, ды з добрымі весткамі заўсёды радыя. Прылятайце, толькі пра час загадзя паведаміце, а то гаспадарка ў мяне цяпер клопатная, падрыхтоўка да зімы, паўночны завоз. — І ўжо збіраючыся развітацца, Плаўскі як бы схамянуўся: — Дык, гаворыце, шуміць Масква? Можа, мне на паклон да Цара напрасіцца?

— Шуміць, шуміць, а нам цяпер шум зусім не патрэбен. Лепш бы абтэлефанаваць усіх міністраў, папрасіць прабачэння і сказаць, што ў агульнай тэчцы папер, прадстаўленых на подпіс,



утоеныя злоснікі, яшчэ ад былога губера пакінутыя, сумысна падсунулі. А наконт паклону Гаспадару, вельмі своечасовая і слушная думка. Прыняць не прыме, а станоўчы момант застанецца. А таго, хто вам дурацкую ідэю з лістамі падказаў, ганіце, ды яшчэ гучны загад выдайце. Ды што гэта я! Не мне ж вас, баявога генерала, вучыць, калі трэба быць грозным і бязлітасным, у тым ліку і да сяброў. Усё, поспеху вам.

— Дзякуй за параду. Чакаю ў госці… — вымавіў Плаўскі ў трубку, якая ўжо ўсхліпвала кароткімі гудкамі. — Вось сука! — і, ужо ў калідоры, гучна загадаў: — Ляскаль і Міхайліна Міхайлаўна, за мной!

— А мы? — ліслівa падаў голас Старыкаў.

— Скажыце дзякуй, што тут жанчына, а то б я сказаў, куды вам варта накіравацца!

Дзядоўскія засталіся стаяць у калідоры сірочай групай.

Не паспела волатаўская фігура генерала і ягоных памочнікаў схавацца за паваротам доўгага калідора першага корпуса, як знізу па лесвіцы на іх паверх убег задыханы Пётр Зацееў — малады чалавек з мясцовых, калісьці круціўся ў падручных у Дракава. Падчас выбарчай кампаніі Пётр сядзеў на чорнай касе, а ў апошнія месяцы, спрактыкаваны абяцанкамі важнай пасады, якую яму абяцаў прабіць у адміністрацыі Старыкаў, фактычна адкрыта перайшоў у лагер масквічоў.

— Аляксей Віктаравіч! Можна вас на хвіліначку? — не перавёўшы дыханне, выпаліў Зацееў і, не звяртаючы ўвагі на незадаволеную фізіяномію Старыкава, схапіў яго за рукаў і ледзь ці не сілай запіхнуў у адчыненыя дзверы пакоя, які толькі што пакінуў Плаўскі. — Бяда, Аляксей Віктаравіч, Дракаў сустракаўся з Шусем, гадзіну як разышліся. Прынята рашэнне на заўтрашнім пасяджэнні закcходу пачаць супраць вас сапраўдную вайну…

— Супраць мяне асабіста? — перакасіўся Старыкаў.

— Першым чынам супраць губернатара, ну, і ўсіх не нашых! А вас, вас… — малады чалавек панізіў голас і запнуўся, насцярожана абводзячы пакой калючым поглядам.

— Ну, дык і што там наконт мяне? — з нецярпеннем тузануў яго за рукаў Старыкаў. — Ды не круці ты галавой, тут усё чыста, гэта ж мой пакой! Заўчора Саня асабіста правяраў на «жучкоў».

— Страшна, Аляксей Віктаравіч, — зашаптаў ён амаль у самае вуха Старыкаву, — вас вырашылі прыбраць, калі застанецеся ў краі…

— У якім гэта сэнсе «прыбраць»? — абурыўся таемны дараднік генерала, які лічыў сябе ўсёмагутным.

— Ды цішэй вы, у нас паветра чуе! — адхіснуўся ад яго Пётр.

— Як?.. — амаль закрычаў спалатнелы Старыкаў, да якога пачаў даходзіць страшны сэнс пачутага.

— Як, не ведаю, але каманду ён ужо аддаў…

— Ды як жа гэта так, ды якое ён мае права?! Трэба ж нешта рабіць!.. Пецечка, родны, трэба хутчэй да губернатара…

— Дык позна ўжо…

— Не позна, ён толькі што пайшоў да сябе. Не, разам хадзем! Ты яму ўсё распавядзеш. Пайшлі, пайшлі, — цяпер ужо Старыкаў піхаў перад сабою Зацеева, спачатку са свайго пакоя, а потым і па калідоры, невыразна галосячы яму ў спіну: — Тут сваім жыццём рызыкуеш, а ён ні ў грош не ставіць…

— Аляксей Віктаравіч! А нам што рабіць? — крыкнуў ім хтосьці наўздагон.

— Не спаць, чакаць мяне! — загадаў усёмагутны.

Да Плаўскага іх доўга не прапускала ахова, спасылаючыся на тое, што губернатар ужо адпачывае. Нарэшце з апартаментаў выскачыў заклапочаны Ляскаль.

— Аляксей Віктаравіч, ішлі б вы адгэтуль ад граху далей, ён працягвае буяніць. Загадаў кадравікоў разбудзіць. Мая вам парада, не хадзіце вы да яго цяпер.

— Ды я не адзін, ты яму перадай, што я з Зацеевым, тут такая справа! Увогуле, мяне замовілі!

— Што?!. — Ляскаль шмыгнуў назад і праз пару хвілін вярнуўся. — Праходзьце! — і, звяртаючыся да ахоўніка, распарадзіўся: — Выклічце да губернатара Забродзіна і заварыце для ўсіх моцнай кавы.

— Ну, і што вы ўжо паспелі высмактаць з пальца, каб папраўціць сваё пахіснулае становішча? — не ўстаючы з-за стала, вымавіў Плаўскі. — Толькі не трэба мяне спрабаваць разжаліць сваім няшчасным выглядам і страшнымі баечкамі.

Старыкаў, як самы каштоўны аргумент, моўчкі выштурхнуў наперад Зацеева. Пётр, збіваючыся і блытаючыся, паўтарыў тое, што нядаўна распавёў свайму апекуну.

— Зараз людзі Дракава, — амаль асуджаным голасам працягнуў ён, — абыходзяць усіх дэпутатаў і папярэджваюць аб наступствах, якія будуць для іх у выпадку няправільных паводзінаў на сесіі.



— Ляскаль! Начальніка міліцыі да мяне! — стукнуў сваёй лапай па стале Плаўскі.

— Не трэба, — ціхім, здушаным голасам вымавіў Зацееў і, не звяртаючы ні на каго ўвагі, адсунуў ад сцяны крэсла і сеў пасярод кабінета. Ніхто нават і ўявіць сабе не мог таго жаху, які раптоўна выстудзіў душу гэтага чалавека. Пётр з усёй дакладнасцю зразумеў тужлівую безвыходнасць свайго становішча. Убачыўшы дробязнасць і баязлівасць Старыкава, на якога ён зрабіў сваю памылковую стаўку, які, падавалася, зусім не заўважаў людзей Плаўскага і ўвесь гэты мурашнік чужынцаў, ён пазваночнікам адчуў холад Ясейскай вады. Як расправуляюцца з непаслухмянымі, ён добра ведаў: каласнік да ног — і з абрыву. За дваццаць хвілінаў звар'яцелая плынь і вострыя, як разцы, прыдонныя камяні ператвараліі чалавечае цела ў здробнены корм для рыб. — Не трэба ніякай міліцыі… Шусь хваліўся, што ён угаварыў галоўнага мянта заўтра звярнуцца да дэпутатаў з заявай і папрасіць ад імя ўсіх федэралаў абараніць ад паклёпу і нападкаў губернатара.

— Хто, я — паклёпнік?!! — узарваўся Іван Паўлавіч. — Ды я іх усіх у бараноў рог сагну!!!

Зацееў расплакаўся, адпіхнуў Гаржынаву, якая кінулася да яго са шклянкай вады, і выскачыў прэч з пакоя. Больш яго ніхто ні жывым, ні мёртвым не бачыў.

## 20

Калі Дзяржаўная Дума ў нас у краіне — цырк з больш або менш падрыхтаванымі і абкатанымі блазнамі, дык заканадаўчы сход у правінцыі часоў позняга Цара ўяўляў з сябе цырк самадзейны з вельмі разнароднай трупай, якая складаецца спрэс з непрызнаных геніяў. Чуючы векавую любоў народа да юродзівых, ва ўсе выбарныя органы ў пачатку нашай нядоўгай дэмакратыі перш за ўсё ламанулі вясковыя дурылкі, разнастайныя выскачкі ды самавукі-ўсёведы, на якіх заўсёды была багатая наша правінцыя. Ужо хто-хто, а яны, услед за дабрапомным Манілавым, дакладна ведалі, як нам і краіну сваю і ўвесь свет уладкаваць.

Ясейскія заканадаўцы мала чым адрозніваліся ад сваіх субратаў. Пад змясцілішча народных трыбунаў была прыстасавана вялікая зала партыйных урачыстасцяў у былым крайкаме партыі. Са сцэны прыбралі, як гэта цяпер было прынята, вялізны гіпсавы бюст былога шушанскага сядзельца, саму сцэнічную

пляцоўку разламалі, замяніўшы яе нешырокім подыумам; шэрагі з аксамітавымі крэсламі яшчэ сталінскага фармату выкінулі; зрабілі добры рамонт, расставілі вельмі сімпатычныя столікі на дваіх, накшталт вучнёўскіх партаў са зручнымі крэселкамі-круцёлкамі. Кожнае працоўнае месца забяспечылі мікрафонамі і адмысловымі, замоўленымі за мяжой, механізмамі для галасавання. Вось так і завялі мы ў другі раз у сябе парламент на заходні манер і, з кепікамі з сябе, назвалі яго гэтак жа, як на пачатку стагоддзя, Думай, начыста забываўшы, да чаго мінулыя думцы краіну нашую прывялі. Наогул нездарма мудрыя людзі так асцерагаюцца тэктанічных часовых зрухаў на стыках стагоддзяў, ёсць у гэтых двух першых дзясятках гадоў нешта сівернае, нават пры адносна мірным надвор'і, а ўжо тым больш у нашай спакон веку расхрыстанай дзяржаве. Але рака часу нясе пясок забыцця, і заносяцца сляды мінулага, і мы, ідучы па нявінным нерушы, уяўляем сябе першапраходцамі, не адчуваючы пад сабою працьмы чужых грахоў ды старых магілаў.

Мяркуючы па мноству журналістаў у зале і прысутнасці амаль усіх кіраўнікоў рэгіянальных упраўленняў федэральных структур, пасяджэнне абяцала быць цікавым. Гэта Малюта адзначыў, як толькі ўвайшоў у залу і з цяжкасцю прабраўся скрозь лес поціскаў рук да свайго месца. З раніцы яму шапнулі на вуха, што пасля «імянінаў» губернатар усю ноч бушаваў, звольніў старэйшага Укольніка, Старыкава адправіў у маскоўскае прадстаўніцтва ледзь ці не простым клеркам, а разам з імі сёння раніцай у першапрастольную адбылі нарэшце ўсе экстрасэнсы і ведзьмакі, якія заседзеліся ў краі пасля выбараў. Былі і яшчэ розныя звальненні і зрухі. Малюта здзіўляўся: з чаго б гэта? Здавалася б, учора ўвечары ўсе разышліся з мірам ці, прынамсі, з надзеяй на прымірэнне, так, ва ўсякім разе, яму здалося. Усё гэта было даволі дзіўна, ды да таго ж яшчэ і Уладзімір Леанідавіч, вітаючыся ў калідоры, сціснуў шапнуў яму аб пабоішчы, якое рыхтуецца на сённяшнім пасяджэнні. «Ды і чорт бы з імі, — падумаў Скураш, — у канцы канцоў, сваіх мазгоў нікому не ўставіш…».

Аднак хваляваў яго цяпер не столькі сённяшні дзень, уся гэтая вайжданіна як-небудзь сама сабою ды рассмокчацца; не такія ўжо і бязгрэшныя гэтыя федэралы на месцах, і, будзь яго воля, ён больш пяці гадоў чыноўніка на адным месцы трымаць не стаў бы. Але Цару відней, калі ён, вядома, яшчэ ў стане хоць што-небудзь бачыць. Зараз Скураша хвалявала першым чынам праблема самога Плаўскага. Да гэтага ён неяк асабліва пра яго



ўнутраны свет і не задумваўся, патрэбы такой не было, ды і ведаў яго ён дрэнна, так, сустрэліся ў службовых кабінетах і разышліся. Ён — начальнік, Малюта — падначалены, вось і ўсе ўзаемаадносіны. Палітычны складнік генерала не бярэцца ў разлік. Нясхільны барацьбіт, трыбун, які гаварыў палымяныя і правільныя словы — такога Плаўскага ведалі і любілі мільёны людзей, не адзін Малюта. А тут, у Ясейску, лёс прымусіў іх жыць, што называецца, плячук у плячук, тут нікуды не дзенешся, усё навідавоку, як у маленькай вёсцы, і захочаш схавацца, не атрымаецца. І вось чым больш яны мелі зносін, тым большую колькасць Плаўскіх ён пазнаваў, не, не рысаў характару і асаблівасцяў аднаго чалавека, а менавіта цалкам розных людзей, якія жылі ў адным чалавеку. Часам яму нават станавілася ад гэтага трохі страшна. Часамі Малюту падавалася, што ён нарэшце пазнаў усе так адрозныя паміж сабою «я» гэтага чалавека, але праходзіў час, і ён з журботай прызнаваўся сабе, што яшчэ вельмі далёкі ад поўнага разумення ўнутранага свету таго, які прэтэндуе стаць чарговым уладаром Расіі. Назіраючы за непрадказальнымі кульбітамі народнага ўлюбёнца, Малюта прыходзіў у жах, на секунду ўявіўшы, што ўсё гэта вытварае прэзідэнт!

— Дабрыдзень, паважаныя калегі, пачынаем нашу працу, — перапыніў разважанні Малюты голас Шуся, які адкрыў пасяджэнне.

Зала прыціхла і напружылася, падавалася, вакол Скураша не было ні аднаго чалавека, які не ведаў таго, што тут зараз павінна адбыцца. А можа, усё ўжо даўно адбылося, і цяпер дагульваецца апошні акт гэтай трагедыі або фарсу?..

Зацвердзілі парадак дня і змены ў ім; без адмысловых абмеркаванняў адхілілі ўсе ініцыятывы, якія паступілі ад адміністрацыі, адправіўшы іх у пагаджальныя камісіі; аднадушна зацвердзілі зварот да Дзярждумы ў падтрымку ліста курскіх заканадаўцаў і перайшлі да рознага. Скураш даўно зазначыў: чамусьці так ужо павялося на падобных мерапрыемствах, што «рознае» заўсёды аказвалася значна больш змястоўным і актуальным, чым асноўнае.

— Дарагія калегі, — будзённа абвясціў старшыня, — у наш адрас паступіла заява ад начальніка галоўнага ўпраўлення ўнутраных спраў краю. Сам паважаны Мікіта Савельевіч па службовых справах адправіўся ў камандзіроўку і звярнуўся да шаноўнага сходу пісьмова. З гэтым, гм-м, поўным смутку дакументам папрацаваў незалежны дэпутат Семітрусаў, дазвольце яму і даць слова. Пакуль Мікалай Захаравіч ідзе да трыбуны,

я б папрасіў работнікаў сакратарыята раздаць дэпутатам тэкст дадзенага дакумента…

— Арсень Віктаравіч! У камісіі па этыцы ёсць рэпліка па рэгламенце!

— Таварышы дэпутаты, ніхто не пярэчыць супраць рэплікі камісіі па этыцы? Прашу вызначыцца.

Усе прагаласавалі «за».

— Прашу вас, калі вы не пярэчыце, з месца.

— З месца дык з месца. Этыка ніколі ў нас у пашане не была, — пакрыўджана вымавіў дэпутат Мурчанка. — Такім чынам, спадары, камісія па этыцы ў перапынку азнаёмілася з толькі што раздадзеным вам дакументам і прыйшла да высновы, што дадзеная заява не можа слухацца ў адкрытым рэжыме, бо гаворка ідзе аб гонары і годнасці вышэйшых федэральных службоўцаў, а таксама наўпрост датычыцца дзеянняў першай асобы выканаўчай улады краю. У нас маецца меркаванне… папрасіць выдаліцца запрошаных і прадстаўнікоў прэсы і далей працягнуць нашае пасяджэнне ў закрытым рэжыме.

Па зале пракацілася хваля незадаволенага шуму. Шусь, прыняўшы збянтэжаны выгляд, нямогла развёў рукамі, маўляў, выбачайце, кіна не будзе, але не па маёй віне, і вымавіў у мікрафон:

— Ці будуць у каго меркаванні па рэпліцы старшыні этычнай камісіі?

Нечакана для ўсіх, першым руку падняў дэпутат Дракаў.

— Прашу вас, Павел Пятровіч!

— Я, калі можна, са свайго месца.

— Так, калі ласка.

— Тут, э-э-э, такая справа. Мы павінны думаць аб будучыні нашай, э-э-э, малой радзімы і ейнага гонару, таму што без гонару, э-э-э, нашага мы станем ганебнымі людзямі, а так жыць няправільна, э-э-э, не вельмі добра так жыць, — адчувалася, што быламу баксёру кожнае слова, вымаўленае публічна, давалася з вялікай цяжкасцю.

— Дык што вы прапаноўваеце, Павел Пятровіч? — паспяшаўся на ратунак старшыня.

— Я прапаноўваю, э-э-э, — яшчэ больш збянтэжыўся Дракаў, — пагадзіцца з прапановай камісіі, э-э-э, па этыкеце.

Хтосьці на фоне ажыўлення залы нягучна захіхікаў.

— Цыцэрон ты наш! — з відавочнымі кепікамі, нягучна вымавіў дэпутат ад камуністаў Смірніцкі, які сядзеў перад Скурашом.



— Ці будуць яшчэ прапановы?

— Падтрымаць меркаванне Дракава, — пачуліся рэплікі з розных бакоў.

Усе староннія без адмысловага задавальнення пакінулі залу пленарных пасяджэнняў. Але больш за ўсіх, вядома ж, з нагоды нечакана сарванага рэаліці-шоў, былі абураныя тэлевізійнікі.

Інфармацыя Сямітрусава і гарачыя дэбаты па ёй расцягнуліся на доўгія тры з паловай гадзіны. У зале не было ні аднаго чалавека, які не выказаўся па гэтым пытанні, і ўсе меркаванні былі відавочна не ў карысць Плаўскага і яго адміністрацыі. Рэзалюцыя і зусім прагучала як прысуд: «Паказаць губернатару на грубыя парушэнні канстытуцыі РФ і Статуту Ясейскага краю ў частцы, датычнай падзелу правоў і паўнамоцтваў федэральнага цэнтра і суб'екта федэрацыі. Прызнаць дзейнасць адміністрацыі краю нездавальняльнай. Заслухаць Губернатара краю на найбліжэйшым пасяджэнні Заканадаўчага сходу. Зацвердзіць склад камісіі па правядзенні падрабязнага расследавання фактаў, выкладзеных у звароце начальніка Галоўнага ўпраўлення ўнутраных спраў рэгіёна. Зацвердзіць тэкст звароту дэпутатаў да Прэзідэнта РФ аб неканстытуцыйнай дзейнасці галавы адміністрацыі».

Усе дакументы былі выкананыя з дзіўнай хуткасцю і акуратнасцю. Запэўненая па ўсіх правілах копія рэзалюцыі была публічна ўручаная Скурашу для аператыўнага інфармавання свайго кіраўніцтва.

У сваёй прыёмнай Малюту чакалі дзве навіны. Першая: падпісаны ўказ аб прызначэнні Пужына дырэктарам Федэральнай службы нацыянальнай аховы, і другая: губернатар, пасля рэарганізацыі свайго кіраўнічага апарата, моцна адзначыў гэтую справу і сышоў у водпуск на нявызначаны тэрмін.

## 21

Павел Дракаў моцна нерваваўся, яму падавалася, што так ён не хваляваўся ніколі ў жыцці. Аднак страху як такога не было. Ён добра ведаў сябе: чым мацнейшае хваляванне перад сутычкай, тым спакайнейшыя і ашчаднейшыя будуць яго дзеянні падчас бою. Так было ў спартовым жыцці, так засталося і цяпер. Дракаў даваў першую ў сваім жыцці прэс-канферэнцыю ў Маскве. Вядома ж, сам ён на такі адчайны ўчынак ніколі б не рашыўся. Павел наогул лічыў, што чым менш свецішся на публіцы, тым

мацнейшая твая ўлада над навакольнымі, а народ, які мільгае ў тэлевізары або павучае ўсіх са старонак газет, ён сур'ёзна ніколі не ўспрымаў і ў глыбіні душы пагарджаў ім. «Калі ты такі разумны, — часам закіпаў ён перад экранам, — чаго ж ты сядзіш у скрыні, ідзі сюды, да нас, да людзей, якім жэрці няма чаго, і мудрагелі тут, калі не баішся па рэпе схлапатаць».

Дракаў прыляцеў у сталіцу праз пару дзён пасля сходу Ясейскіх заканадаўцаў, што ўзбударажыў усю краіну, на чарговы сход асацыяцыі боксу і ні аб якіх сустрэчах з журналістамі нават і не падумваў. Вядома, яму падабалася, што гасцінічны тэлефон разрываўся ад прапаноў сустрэцца з былым саюзнікам грознага генерала і, што называецца, з першых вуснаў распавесці ўсё заходняму і айчыннаму чытачу і тэлегледачу аб сібірскай баталіі. Паша аджартоўваўся, як умеў, паведамляючы, што «справядлівасці дзеля і роднай радзімы» гатовы Плаўскага выклікаць, як былога баксёра, на паядынак, не гледзячы на іхнюю весавую розніцу. І быў шчыра здзіўлены, калі на наступную раніцу ў адной з папулярных газет убачыў вельмі дасціпны калаж, на якім пад кідкім загалоўкам «Бой былых саюзнікаў. Хто — каго?!» яны з губернатарам, у поўным баксёрскім экіпіяванні, зрыхтаваліся да бою.

«Забаўляюцца, як малыя дзеці», — падумаў ён, але газету акуратна згарнуў і паклаў у сваю спартовую торбу. Калі насіць касцюм яго, хоць і з вялікай цяжкасцю, але ўсё ж прызвычаілі, ад спартовых торбаў ён адмовіцца так і не змог.

У дзверы нумара нягучна пастукалі. У гасцінічных апартаментах Дракаў быў адзін, хлопцы, якія выконвалі ролю ахоўнікаў і памагатых, з яго дазволу разышліся хто куды. Зброі ён пры сабе ніколі не насіў і трохі спалохаўся: ці мала што можа адбыцца з прыезджым дэпутатам у сталіцы, тым больш, што дома ён адназначна «абвясціў генералу вайну на поўнае знішчэнне», хоць слоўца гэтага — «знішчэнне» — ён і не гаварыў, яго пасля Шусь перакананаў прыпісаць. Павел Пятровіч, не выключаючы тэлевізара, асцярожна прайшоў у спальню і патэлефанаваў па мабільным у суседні нумар, дзе павінны былі адпачываць хлопцы, якія дзяжурылі ўначы. На радасць, трубку ўзялі хутка.

— Гера, ты?

— Ну, я…

— Давай-ка, вызірні асцярожненька ў калідор, зірні, хто там да мяне ў нумар тарабаніць… — нягучна сказаў ён прама ў трубку.



— Счас, шэф! — пасля нядоўгага шамацення трубка хіхікнула Герыным басам: — Дзеўка да цябе, сімпотная…

— Ты, гэта, зубы не шчэр, я яе ўпушчу, дзверы не замкну, а ты следам увайдзі ціха, зразумеў? Ці мала што… І сваіх на строму пастаў, зразумеў?

— Ну, не ўпершыню… — шмаргануў носам ахоўнік.

Дзяўчына аказалася сапраўды сімпатычнай, чымсьці нават падобнай на яго жонку.

— Вы Дракаў Павел Пятровіч? — не вітаючыся, спытала яна і, не чакаючы запрашэння, ступіла ў нумар.

— Ну, я. А ты што за птушка? — пакінуўшы дзверы непрычыненымі, спытаў Павел, ацэньвальна аглядаючы яе фігуру ззаду.

— Я ніхто і завуць мяне ніяк, я наконт дзяўчынак. Вось гэта вам ад іх, — і, развярнуўшыся, саўганула яму ў рукі даўгаваты канверт. — Прачытайце і, нічога не каментуючы, адкажыце, так ці не.

Паціснуўшы плячыма, Паша раскрыў канверт. На аркушыку было надрукавана некалькі сказаў: «Маё прозвішча Амроцкі. Мы знаёмыя. Трэба тэрмінова сустрэцца. Калі згодны, вярніце занатоўку Насці, яна вас да мяне прывязе. Бяспеку гарантую».

— Ну, калі там дзяўчынкі такія ж, як ты, то паехалі, — працягваючы назад паперу, адказаў Павел.

Ехалі нядоўга. На адным са скрыжаванняў яго папрасілі перасесці ў мікрааўтобус, які спыніўся побач.

— Дабрыдзень, Павел Пятровіч! Рады вас бачыць у добрым здароўі і выдатнай форме, што для спартоўца, які кінуў спорт, гэта вялікая праблема, па сабе ведаю, — папляскаўшы сябе па сцёгнах, асляпляльна ўсміхаючыся, вымавіў Міхаіл Львовіч. — Ужо прабачце велікадушна, што з такімі засцярогамі, вельмі не абы-якія справы закручваюцца.

— Здрасце. А чаго, мне нават падабаецца, як у кіно пра шпіёнаў. А наконт спартовай формы, дык трэба ў спартзалу хадзіць, я вось са сваімі хлопцамі чатыры разы ў тыдзень трэніруюся…

— Шпіёны, мілы Павел Пятровіч, — дзіцячыя гульні ў параўнанні з вялікай палітыкай, для яе, дарэчы, і шпіёны былі ў свой час вынайдзеныя. — Ну ды добра! Я сапраўды вельмі рады, што вы адгукнуліся на маю прапанову і пагадзіліся на сустрэчу. Паверце мне, цалкам без ліслівасці, я дзіўлюся вашым поспехам і ўпэўнены, што гэта далёка не мяжа. У вашыя гады — і такі ўзлёт: майстар спорту, кіраўнік дэпутацкай групы, паспяховы

бізнесмен, адзін з уладальнікаў металургічнага гіганта, амаль народны герой…

— Ага, спартоўка, камсамолка, прыгажуня, ці разумееш! А як жа, мы, сібіракі, такія! — жартам адклікнуўся на яго ліслівасць Дракаў. — Вы б гаварылі адразу, што трэба, а то я ох як не люблю, калі мяне хваляць! Бабка гаварыла, так і ссурочыць можна.

— Ну я-то не ссурочу! Аднак праўду кажаце, справа вельмі сур'ёзная, — змяніўшы тон, працягнуў Амроцкі, а пра сябе не без злосці адзначыў: «Толькі з бруду вылез, а ўжо ганарлівасці куды там! Подлы ўсё-ткі ў гэтай краіне народзец!» — Дык вось, Плаўскі прыняў рашэнне перці ва ўвесь дур на Маскву. Дуру ў яго годзе і падтрымка сякая-такая маецца, але фінансаў замала. Грошы, аднак, яму паабяцалі, калі ён вас з камбіната вышыбе…

— Цікава, як гэта ў яго атрымаецца? — насупіўся Дракаў. — У мяне пакет, які блакуе, між іншым!

— Раз вы так любіце айчыннае кіно, я вам дазволю нагадаць адзін вельмі вядомы фільм, дзе галоўнаму герою папулярна тлумачылі, як можна з яго дыяменты зняць…

— Ну, памятаю — «Дыяментавая рука», — няхітра ляснуў Павел і зразумеў, што звёрз лухту. — «Вось гад, яшчэ і падлоўлівае!», — а ўслых сказаў: — Ну, наконт трупа, э-э-э, у яго, гэта, рукі кароткія…

— Да трупаў, спадзяюся, не дойдзе, а вось пасадзіць вас у турму ён, мабыць, зможа. Мне яго людзі аб такім варыянце паведамлялі.

— Ну хай паспрабуе, мы таксама, э-э-э, не з ануч пашытыя. Я вось толькі ў толк не вазьму, вам-то якая выгада мне ўсё гэта раскрываць? Вы ж накшталт як сябрукі з Плаўскім? А?

— Ну, сябрамі мы ніколі не былі, так, часовыя саюзнікі па дасягненні вызначаных мэтаў. Кінуў ён мяне, як і вас, Павел Пятровіч, — дадаўшы ў голасе крыўды, прызнаўся Амроцкі.

— І на вялікія бабкі? — паспачуваў Дракаў. — Гэта ён можа, гэта ў яго модзе. Кепскім ён аказаўся чалавекам, я ж таксама яму паверыў, усё на блакітнай каёмцы паднёс, а ён! — Паша з прыкрасцю махнуў рукой. — Ну дык навучыце, што рабіць-та трэба, можа, мы таксама саюзнікамі станем часовымі.

— Самая забойная зброя супраць Плаўскага — гэта вы! — імгненна выдаў падрыхтаваную фразу Амроцкі. — Так-так, не ўсміхайцеся, менавіта вы. Толькі вы можаце распавесці ўсім, які ён кайварны і беспрынцыповы, як прагне ўлады і для яе дасягнення пойдзе на самыя крайнасці.

— Як гэта я змагу распавесці, ды і хто мяне слухаць стане?



— Можаце. Я усё ўстрою. Сёння вы сустрэнецеся з журналістамі і ўсёй краіне праўду распаведзяце…

— Ды я ж, э-э-э, і гаварыць-та толкам яшчэ не ўмею і баюся перад камерамі…

— Усё гэта не бяда, а каб вам было лягчэй, мае хлопцы з вамі папрацуюць, нарэжуць нескладаных пытанняў. Усё пройдзе выдатна, галоўнае, мець баявы настрой, як перад выхадам на рынг.

Павел хадзіў па калідоры, яго біла сапраўдная дрыжака. «І якога, блін, я даў сябе ўгаварыць, добра з газетчыкамі і імпартнымі тэлевізійнікамі, там усё хутка. Там не складана, а тут цэлых паўгадзіны сядзець і з разумным выглядам вяшчаць на ўсю краіну! А галоўнае, калі дур якую спораш, то ўжо не пераробіш! Усе потым дома будуць пальцамі тыкаць, поўны накаўт!»

Але дзявацца было ўжо няма куды, яго запрашалі ў студыю.

— Паважаныя тэлегледачы, — бадзёрым голасам пачаў папулярны ў той час вядучы Зміцер Крысакоў, — добры вечар, сёння ў нас у гасцях незвычайны чалавек. Найперш хацелася б адзначыць яго мужнасць, якой так цяпер бракуе не толькі радавым грамадзянам, але і, першым чынам, вышэйшаму кіраўніцтву краіны. І гэта не выпадкова, калі ва ўлады паралізаваная воля, грамадства само спараджае такіх людзей, як наш сённяшні госць. Знаёмцеся — Павел Пятровіч Дракаў, чалавек, які зрабіў сябе сам. Спартовец, народны дэпутат, паспяховы бізнесмен, абаронца зняважаных і абражаных! — і, звярнуўшыся да нясмелага Паўла, працягнуў: — Я не буду прасіць вас распавесці пра сябе, сёння вашую біяграфію ведае ўся краіна, скажыце, вам не было страшна паквапіцца на сістэму ўсёдазволенасці, створаную дэспатам Плаўскім у краі?

— А чаго гэта мне было баяцца ў сябе дома? Так, э-э-э, і не прывык я уцякаць ад суперніка. Я ж баксёр. Мне навязалі бойку, і я адказаў. Э-э-э, калі нас пакрыўдзіць, то мы і выгнаць можам…

— Вось так, я б сказаў, проста, без лішніх эківокаў, адказвае глыбінка на хамства ўлады, якая зарвалася — «выганім!» Як не захапіцца такім адказам! Уявіце, што Плаўскі прыме ваш выклік, і што? Вы на самай справе пойдзеце біцца з такім бамбізай?

— Ну, павінен прыняць, калі ён мужык, а што вялікі, дык не ў масе сіла. Ён ужо, пэўна, і не помніць, калі апошні раз зарадку рабіў. Яму галоўнае — улады пабольш заграбастаць…

— Давайце ўдакладнім, Павел Пятровіч, што галоўнае для Плаўскага, які ў апошні час адкрыта заяўляе аб прэтэнзіях на прэзідэнцкае крэсла — дабро для людзей або солад самой улады?

— Ну, я вам магу далажыць, што на людзей яму простых далёка, як гаворыцца, напляваць. Ну а ўладу ён любіць, як наркот траўку…

— Прызнацца, мне вельмі шкада, што так хутка бяжыць эфірны час, таму што нам рэдка атрымліваецца пазнаёміць нашых гледачоў з такімі фенаменальнымі людзьмі, якія яшчэ жывуць у нашай краіне. Наогул, феномен «Дракавых» і іх уплыў на стварэнне цяперашняга новага расійскага грамадства, — упіваючыся ўласным краснабайствам і часова забыўшы аб суразмоўцы, працягваў Зміцер, — застаецца і дагэтуль далёка ўбаку ад увагі сур'ёзных сацыёлагаў і палітолагаў, а цалкам дарма. Бо ў кожнай вобласці, у кожным горадзе і гарадку сёння жыве і дзейнічае свой Дракаў. Дрэнна гэта або добра, мы не ведаем і ведаць не жадаем, гэта, мауляў, ніжэй нашай дзяржаўнай годнасці! А менавіта да іх ідуць людзі ў надзеі на дапамогу і абарону, зняверыўшыся ў дзяржаве і мясцовых уладах. І што вы думаеце? Дракавы ім дапамагаюць! Па-свойму, хай няўмела, але дапамагаюць хутка і пэўна, без папяровай цяганіны і зневажанняў. Магчыма, пройдзе час, і Дракавыператворацца ў новых Строганавых і Марозавых, якія ведаюць і любяць сваю зямлю, і зменяць нарэшце дакучлівых усім алігархаў, для якіх зямля наша — усяго толькі прадмет нажывы і гандлю. Але для гэтага дзяржава павінна звярнуць на іх увагу, як і на ўсё самадзейнае і самабытнае, а не захапляцца ліпавымі заслугамі ліпавых генералаў, якія ніколі нікога не перамагалі!

## 22

Малюта, як і ўсе яго дамачадцы, не адрываўся ад тэлеэкрана. Без перадыху званіў тэлефон, пыталі, ці глядзіць ён тэлевізар. Тэлевізар ён глядзеў і намагаўся зразумець, хто ж за ўсім гэтым стаіць? Зроблена было на славу! Так, Паша Дракаў быў на вышыні, не без дапамогі дасведчаных рэжысёраў, вядома, а так, ні даць ні ўзяць, гэтакі шукшынскі персанаж, герой-самародак з сібірскай глыбінкі. Але яшчэ больш бы здзівіўся Скураш, калі б даведаўся, што за чатыры тысячы кіламетраў гэтую ж перадачу ўважліва глядзяць яшчэ два чалавекі.

Плаўскі на лецішча Амроцкага прыбыў, як заўсёды, доўгімі вакольнымі дарогамі. Не чакаючы прылёту свайго лютага сябра, генерал праз поўнач, куды ён, нібыта, адправіўся рыбаліць, паляцеў у белакаменную, нідзе не засвяціўшыся, правёў некалькі, па ягоным меркаванні, важных сустрэч, пасля чаго прыбыў у гэты памятны для яго загарадны дом. Уласна, менавіта тут яму ўпершыню і было прапанавана спачатку падтрымаць у другім туры Цара, а затым і стаць пераемнікам, калі прыйдзе патрэбны час.



Пасля лёгкай вячэры Міхаіл Львовіч пацягнуў госця ў вялікую гасціную са шкляным эркерам і вялізнай плазмай на процілеглай сцяне.

— Вы, Іван Паўлавіч, не ўпарціцеся, калі я прапаноўваю паглядзець тэлевізар, значыць, ведаю, што будзе нешта цікавае…

— Пра мяне? Ды надакучылі яны мне, усе гэтыя прадажныя сукі, хто заплаціць, пад таго і брэшуць, — раздражнёна адмахнуўся генерал. — Давайце лепш пагаворым, мяне ўсё роўна хвалюе гэты чэкісцкі афіцэрышка, нездарма ён, як чорт з табакеркі, выскачыў…

— Ды паспеем яшчэ нагаманіцца, — з усмешкай кіўнуў Міхаіл Львовіч, — ноч наперадзе, а перадачу паглядзець трэба, мяне адмыслова аб гэтым папярэдзілі.

— Добра, уключайце сваю скрыню, — здаўся генерал і наліў сабе каньяку.

«Баюся, сябрук, табе зараз валяр'янка спатрэбіцца, а не “Хэнэсі”», — назіраючы за генералам, падумаў гаспадар.

Аднак, на здзіўленне Міхаіла Львовіча, перадача, здавалася б, чаканага эфекту на Плаўскага не зрабіла, і калі б не цыгарэты, якія прыкурваліся адна за другой, ды не спустошаная за паўгадзіны бутэлька каньяку, мабыць, можна было б і не заўважыць, што насамрэч ён сціснуты, як спружына.

Блакітны экран у подлы свет ужо даўно згас, а ў пакоі ўсё яшчэ вісела цішыня. Амроцкаму на нейкае імгненне стала жудасна. А што калі гэты салдафон аб усім здагадаўся і цяпер збіраецца з духам, каб устаць і прыкончыць яго чым-небудзь цяжкім, ды вунь хоць бы гэтым бронзавым бюстам Прэзідэнта, які яму некалі ў знак вечнага сяброўства падарыў Цар. Страх быў настолькі рэальны, што ён раптам падняўся з месца і на слаба гнуткіх нагах, не ў сілах вымавіць ні слова, выйшаў прэч з пакоя.

Цёмны цень падазрэння нечакана кінуўся ў галаве Плаўскага, і ён сапраўды падумаў: «А можа, шарахнуць гэтую гніду вось той бронзавай гнідай і пакласці канец усёй гэтай несусветнай вайне? Як жа мне надакучыла дзень і ноч боўтацца ў нечым лайне! Можа, праўду кажа маці, і варта паслаць усё гэта да чорта ды паехаць разам з Булдаковым лавіць карасёў на маё любімае

балота? Чаго мне, уласна, не хапае? Усё ёсць, акрамя, праўда, сямейнага цяпла, ды і гэта, у прынцыпе, можа вярнуцца, калі перастану з сябе страшнага блазна курчыць».

Аднак, як ні імкнуўся генерал сябе супакоіць і вярнуць назад нешта беззваротна страчанае, далікатнае і простае, усё роўна ў душу ўпаўзаў шызы смурод яго сённяшняга дня, дух бясконцай гонкі за самай страшнай і самай салодкай марай, марай аб уладзе. Калі і дзе занядужаў гэтай хворасцю, ён ужо не памятаў, падавалася, што яе бацыла драмала ў ім з самога дзяцінства, з таго самога моманту, калі маленькі хлопчык Іванка, хлюпаючы пабітым носам, не апускаў кулакоў або заціснутай у руцэ палкі і біў, біў, біў сваіх крыўднікаў, біў і гнаў датуль, пакуль яго не спынялі дарослыя або пакуль ён сам, выбіўшыся з сіл, не падаў на распалены паўднёвым сонцам буры пыл станічнай вуліцы…

— Ну і як вам гэтая байда? — асцярожна прасоўваючыся ў пакой, перапыніў яго думкі Амроцкі.

— Трызненне сівой кабылы, — дзяжурна буркнуў генерал, яшчэ не вярнуўшыся ў рэальны свет. — Галоўнае, даведацца, якая сука яму ўсё гэта праплаціла. Гэты Крысёныш, калі мне памяць не здраджвае, ваш чалавек? — вочы госця бліснулі ліхімі агеньчыкамі.

— Вашая праўда, быў калісьці ён у маёй камандзе, але выключнай сукай аказаўся, курваваў на ўсе бакі, хто больш дасць, пад таго і ляжа! Уяўляеце, працуючы ў мяне, на мяне ж замовы браў і зліваў усю інфармацыю, пакуль я яго не прыціснуў. Дык ён, гадзёныш, да Бусінскага перакінуўся, і вось бачыце, што вытварае? Паверце, Іван Паўлавіч, гэта не толькі вам выклік, гэта плявок і мне ў твар, — канчаткова ачуняўшы, разліўся салаўём Амроцкі. — Гэта ж трэба, падонка, крымінальніка выцягнулі на экран і вырашылі з яго айчыннага Робін Гуда зрабіць. Эх, паспяшылі вы Пашку з кароткіх пастронак спусціць, хай бы пакуль ля нагі, як верны сабака, пакруціўся, а потым, пасля таго, як камбінат у яго аднімеце, можна было б і ў турму саджаць…

— Пастойце, а ці не вы мне раілі яго прыжучыць, патрымаць у чорным целе, каб памяркоўней наконт акцый стаў? — падняў уверх бровы Плаўскі.

— Іван Паўлавіч, дык я ж вам Дракава раіў прыжучыць, а не калёсы на краявых генералаў пісаць! Вы хоць з міністрамі-то паспелі перамовіцца?

— Ды неяк часу ўсё не было, закруцілася ўсё…

— Яно, можа, і да лепшага! — ускочыў з месца Міхаіл Львовіч. Калі яго апаноўвала смага дзейнасці, ён не мог усе-



дзець на месцы і хадзіў па пакоі, падскокваючы, як блыха. — Вы ведаеце, гэта вельмі нават добра, гэта цудоўненька! А ці не звярнуць нам усё гэта з дакладнасцю да наадварот! Яны хацелі вашай дыскрэдытацыі, і ім падаецца, што яны свайго дамагліся, правільна?

— Ну, — буркнуў генерал.

— Ну дык вось, насамрэч вы мелі рацыю, звяртаючыся да міністраў за падтрымкай у барацьбе з карупцыяй, якая, як іржа, праела ўсе органы федэральнай улады ў вас у краі! Вы разумееце, куды я хілю?

— Пакуль не вельмі…

— Ну што вы, Іван Паўлавіч! Вы як поўнаўладны гаспадар рэгіёна, як асоба, падтрыманая Прэзідэнтам краіны, выявілі абуральныя факты беззаконня, калі, фактычна, уся ўлада добраахвотна легла пад новапаказанага бандыта, а сілавікі і дэпутаты замест таго, каб дужацца з гэтым бандытам, кінуліся навыперадкі яму служыць, разумееце?

— Падаецца, разумею, але не ўсё пакуль…

— Ды што гэта з вамі сёння? Арганізаваная злачыннасць разам з прадажнымі чыноўнікамі, — ментарскім тонам настаўніка пачаў растлумачваць Міхаіл Львовіч, — арганізавала татальны адпор губернатару, які адмовіўся ад іхніх правіл гульні і паспрабаваў данесці ўсё, што робіцца ў глыбінцы бязладдзя, да аглухлай ад гультайства Масквы. Так што вы — не паклёпнік, як спрабаваў прадставіць вас краявы мент, а мужны барацьбіт з карупцыяй. Трэба не марудзячы, заўтра ж ісці на прыём да міністра ўнутраных спраў і дырэктара ФСБ. Ваш ліст на імя Цара адпісаны ў Галоўнае ўпраўленне прэзідэнцкага кантролю, там мы яму ногі прама зараз і прымайструем. — Вялікі блытанік паспешліва схапіўся за тэлефон.

— Алё! Інакенцій Аліевіч! Прабач, што позна, не клаўся яшчэ, тэлевізар глядзеў? Так, так, ты маеш рацыю, зусім бандыты распаразаліся, мала ім правінцыі, дык яны вырашылі і сталіцу пад сябе падмяць! У цябе там ліст губернатара Плаўскага зверху распісаны, трэба яму поўны ход даць. Усё ўзгоднена. Спасылацца на мяне, вядома, не трэба, але я толькі што прыехаў ад Самога, — Амроцкі па-змоўніцку падміргнуў уважліваму генералу, — дык Першы ў лютасці, лічыць, што гэта замах на асновы ўлады. Сёння губернатара ў ашмоцце парвуць, а заўтра і ад краіны нічога не застанецца. Ды не трэба падзяк! Гаворыш, ужо хадакі з іншага боку былі, і хто? Шусь? Вось паганец! Добра, гэта не па тэлефоне, заўтра забягу. Ох, і добрая ў цябе сакра-

тарка! Не, такія падарункі не прымаю, калі толькі памяняцца. Пакуль, пакуль!

— Усё, з раніцы да кантралёраў, а яны прышпіляць і МУС, і пракуратуру, і яшчэ каго трэба, — паціраючы рукі, паведаміў Амроцкі.

Праз два дні цяжкі махавік дзяржаўнай машыны з рыпеннем закруціўся, набіраючы ўсё новыя і новыя абароты, пагражаючы перамалоць у пыл усё, што трапляе пад яго невідушчую правіцу.

Мясцовыя заканадаўцы, як найбольш няўстойлівы элемент, не зважаючы на зласлівае шыпенне спікера, пачалі хуценька адкручваць назад і раскалоліся на некалькі варагуючых груп. У першыя шэрагі, як заўсёды, вырвалася недалёкая хабалістая жанчынка, якая прадстаўляла паўночныя тэрыторыі. Яна верашчала ва ўсіх мясцовых газетах і тэлеперадачах пра шкодных мянтоў, прадажных суддзяў, заграбушчых кантралёраў, блізарукіх калегаў-дэпутатаў, абыходзячы пры гэтым аксамітавым маўчаннем толькі свайго таемнага спонсара, Пашу Драку. Мясцовыя федэральныя чыноўнікі хуценька застрачылі наверх, што яны, асабіста, да заканадаўцаў па дапамогу не звярталіся і ва ўсім вінаваты галоўны міліцыянер, які, да таго ж, з'яўляецца ледзь ці не сваяком Дракава.

У край прыбыла цэлая брыгада следчых, сабраных з розных губерняў Расіі, на чале з грозна рыкаючым намеснікам міністра ўнутраных спраў Іллёй Уладзіміравічам Калаўратавым.

Плаўскі святкаваў, усё атрымалася, як ён хацеў, а галоўнае, ён цяпер адкінуў усе сумненні ў шчырасці стаўлення да яго Амроцкага. Міхаіл Львовіч у які ўжо раз уваскрос у яго душы як усёмагутны анёл-абаронца.

Выдаленне з двара Старыкава жыватворна адбілася на ўнутранай атмасферы Шэрага дома, ды і ў краі справы пайшлі, як гэта ні дзіўна, угору. Запалярны камбінат пачаў плаціць падаткі, Ясейскі металургічны, загасіўшы запазычанасць па электраэнергіі, фактычна пакрыў усе даўгі краю па заработнай плаце бюджэтнікам. Паша Драка ад граху далей і не без дапамогі Амроцкага кудысьці змыўся. Увогуле, для ўсіх надышло нейкае падабенства залатога веку, а залатыя вякі, як вядома, доўгімі не бываюць…



## 23

Малюта са шчырым шкадаваннем глядзеў на скручанага радыкулітам Калаўратава. Міліцэйскі генерал хоць і казырыўся, але рухацца мог з вялікай цяжкасцю, а таму нараду праводзіў у сваім гасцінічным нумары, які яму вылучылі ў рэзідэнцыі «Кедры». Падобныя нарады праходзілі шторанку, брыгадзіры адчытваліся аб праробленай за мінулыя суткі рабоце і атрымлівалі каштоўныя ўказанні. Два разы ў тыдзень, выконваючы закон аб галоснасці, Ілля Уладзіміравіч павінен быў з'яўляцца перад прэсай ды інфармаваць шырокую грамадскасць аб ходзе сваёй працы.

Скураш яшчэ з журналісцкіх часоў дзівіўся, як гэта міліцэйскія апяры і следчыя наогул умудраюцца працаваць і хоць нешта раскрываць. Іх, бедных, з раніцы да ночы прымушалі пісаць нейкія планы раскрыцця злачынстваў, а потым штодня адчытвацца аб іх выкананні. Аднак пісаніна была не самым галоўным бізуном, асабліва вымотвалі пустыя нарады, дзе міліцыянтаў за іх жа ўласную прароблену працу спрабавалі абвінаваціць ва ўсіх смяротных грахах. Ну а «палачная» справаздачнасць, што панавала ў органах яшчэ з берыеўскіх часоў, спрэс адбівала рукі нават самым таленавітым і здольным. Ты тут хоць трэсні, але «палкі», гэта значыць паказчыкі, адной графы павінны былі ўраўноўвацца або перавышаць «палкі» іншай, вось і ўся арыфметыка. Аднак жа чым менш палак было на паперы, тым рэзультатыўней лічылася праца, а што там робіцца на вуліцы, усім было абсалютна па барабане! Высокае начальства па вуліцах не ходзіць, яно з мігцелкамі пралятае, так што ў любой працы галоўнае — справаздача.

Намеснік міністра далёка ад гэтай тактыкі не адыходзіў. Пяцьдзясят восем дасведчаных афіцэраў рылі, што называецца, свідрам, толькі рылі яны, у асноўным, пакуль паперу. Скураш бачыў гэта і адкрыта злаваўся, разумеючы, што ўся гэтая тытанічная праца ператворыцца ў чарговую паказуху і пойдзе, хутчэй за ўсё, сабаку пад хвост.

— Намі ўжо праверана восемсот крымінальных спраў, — грозна пазіраючы на прысутных па-над акулярамі, роў міністэрскі генерал, — семдзесят чатыры непасрэдна датычацца арганізаванай злачыннай групы Дракава, праз пракуратуру вернутыя на паўторнае расследаванне ў органы дазнання. Сам грамадзянін Дракаў П. П. абвешчаны ва ўсерасійскі і міжнародны вышук, група цесна працуе з Інтэрпалам.

«Такое адчуванне, што ён усё гэта гаворыць для мяне і прадстаўнікоў губернатара», — Малюту хацелася задаць якое-небудзь закручанае пытанне, аб эфектыўнасці і канкрэтыцы, ці што, але яго ніхто не абавязваў кантраляваць працу намміністра, а сам ён ужо навучыўся жыць без лішняй ініцыятывы, якая, як правіла, заўсёды вылазіла бокам.

Падпарадкаваныя разышліся, і Ілля Уладзіміравіч з падзякай прыняў з рук намесніка губернатара Зураба Беркуса выратавальную шклянку гарэлкі.

— Так і спіцца нядоўга, пакуль вылечуся, — крэкнуў генерал, ставячы пустую шклянку на стол і зажоўваючы пакінутым ад гарбаты печывам.

— Можа, распарадзіцца што-небудзь закусіць прыгатаваць? — спытаў Беркус.

— Гарэлка з закускай — гэта п'янка, а я лячуся. Вось вылавім гэтага нягодніка Дракава, тады і закушу і вып'ю. Хоць, паміж намі, усё ў гэтай справе няпроста, тут і бізнесам і палітыкай не тое што папахвае, а проста смярдзіць. А ў мяне нос старога шныпара… — і ён раптам замоўк, не то ад болю, не то дапетрыўшы, што ляпнуў лішняе. — Хранова мне, хлопцы, я яшчэ накачу ды прылягу, можа, адпусціць? Вы ўжо прабачце старому.

У горад Скураш вяртаўся разам з Беркусам, саракагадовым, спартовага целаскладу мужчынам, з голеным чэрапам і чэпкімі шэрымі вачыма. Быўшы не то латышом, не то сванам, не то аджарскім князем, а хутчэй за ўсё, і тым і іншым адначасова, ён з'яўляўся чалавекам вельмі неардынарным, інтэлектуалам з вострым розумам. Знаёмыя яны былі вельмі даўно, яшчэ з тых часоў, калі Плаўскі рабіў у палітыцы першыя крокі. Абодвум тады генерал быў вельмі сімпатычны, і абодва яму бясплатна дапамагалі, у надзеі на перспектывы ў будучыні. З прыходам Зураба Пятровіча ў адміністрацыі Плаўскага прыкметна ажывілася міжнародная дзейнасць, але не гэта было галоўным для Скураша ў гэтым чалавеку. Беркус, як і ён сам, быўшы досыць блізкі да генерала, пры гэтым заставаўся як бы чалавекам не з каманды і таксама, як і ён, стаяў над пастаяннай звадай дворні за блізкасць да цела. Дробязная і стамляльная мітусня: хто што сказаў, хто аб чым падумаў, хто з кім сустрэўся, пастаянныя падазрэнні ў здрадзе, падсоўванне адзін аднаму жучкоў і кампраматы да таго вымотвала, што часам хацелася выць ад безвыходнасці. І толькі ў іх, ды яшчэ, мабыць, у галоўнага эканаміста Аляксея Зараева, была простая чалавечая магчымасць мець зносіны, што называецца, без падвойнага дна, гаварыць адзін з адным ні аб чым, проста спрачацца пра літаратуру, сучаснае мастацтва, тэатр, міжнародныя справы, травіць анекдоты і адкрыта здзекавацца з Ясейскай рэчаіснасці.



— Ну і як табе гэтыя мянтоўскія нарады? — каб перапыніць працяглае маўчанне, спытаў Скураш.

— Ды як табе сказаць, — паціснуў плячыма Беркус, — мне падаецца, Ілля б і рады тузануць на поўную, дык, падобна, начальства не загадвае. Папомніш мае словы, усё круціцца вакол нашага металургічнага камбіната. І Дракава, па ўсім, будуць лавіць толькі дзеля таго, каб акцыі адабраць, — і, памаўчаўшы, дадаў: — Дурнем ён, вядома, поўным будзе, калі на гэта пойдзе…

— Чаму дурнем? Прадаў — і ўсё, ад цябе адсталі, а з такімі грашыма ты ва ўсім свеце будзеш кум любому каралю!

— Ды не, Малюта, — пахітаў галавой Зураб, — прадаваць трэба было раней, а ў турме які можа быць гандаль, там і акцыі адбяруць, і жыццё таксама. Так што як толькі пачуеш, што Дракаў прадаў свае металічныя акцыі, чакай у найблізкіх газетах некралога аб заўчаснай і дурной смерці зэка-мільянера. Можа, грып яго разаб'е, можа, крываўка, а хутчэй за ўсё, сэрцайка прыхопіць. Ды добра, бог з ім, з гэтым бесталковым Пашкам! Ты заўважыў, як перамяніўся губернатар, здаецца, акрыяў духам…

— Яшчэ б, тут і нябожчык акрыяе, калі з цябе з дзясяткаў паўтара чарцей выгналі! Галоўнае ж, наколькі яго хопіць, ён жа без вайны доўга не можа, — адазваўся Малюта. — Чуў, што на мінулым тыдні, пакуль ты ў сваіх Францыях знаходзіўся, Амроцкі да нас прылятаў?..

— Ды я яшчэ і прызямліцца не паспеў, як мне паведамілі гэтую найнепрыемнейшую вестку. Ты ведаеш, што Амроцкага ў Маскве многія завуць Гоблінам? Чаму, думаю, гоблін? Парыўся ў даведніках па дэманалогіі, аказалася, вельмі гідкі і каварны нячысцік гэта са Скандынавіі і Заходняй Еўропы.

— Калі ён і сатанёнак, то, хутчэй, з Блізкага Усходу, Асмадзей які-небудзь. Хоць ты ведаеш, мне неяк даводзілася ўжо чуць гэтае слоўца — гоблін, нават спрабаваў філасофстваваць на гэтую тэму, вось, маўляў, выгадавалі гэтых стварэнняў на сваю галаву. Мне тады даўні прыяцель запярэчыў, што іх прыкаспійскія гобліны нічым, практычна, не адрозніваюцца ад нашых, хіба што меней крыважэрныя. А ты ж галоўнага не ведаеш, Зураб, чаго Гоблін, — цьфу ты, ужо прыліпла! — чаго Міхаіл Львовіч да твайго шэфа прылятаў?

— Пэўна, зноў трон прапаноўваў…

— Можа, і трон, толькі гэта тады без маёй прысутнасці, а пры мне ўвесь вечар падбіваў яго пайсці ў лідары новай партыі. У снежні ж выбары, і яны хочуць згламэздаць новую партыю ў піку і камуністам, і адвязаным дэмакратам, а галоўнае, падкантрольную Крамлю. І назоў ужо прыдумалі і сімволіку…

— Цікава, і як жа яны гэтую новую партыю абазваць вырашылі? — ямчэй уладкоўваючыся на сядзенні, спытаў Беркус.

— Вельмі абцякальна — «Аб’яднаныя абнаўленцы», а знакам, па задуме Гобліна, — цьфу ты! — і яго каманды павінен стаць барсук…

— Жартуеш? Барсук-то з якога перапуду? — хіхікнуў Зураб.

— Думаю, што на заходні манер, у іх там сланы, аслы, бегемоты, а ў нас родны барсук, як знак дамавітасці і заможнасці, прынамсі, менавіта так мне, неразумнаму, і было растлумачана бацькам-заснавальнікам.

— Малюта, — правёўшы рукой па голым чэрапе, сказаў Беркус, — а табе не здаецца, што дзіўны нейкі знак атрымоўваецца, я б нават сказаў, з не зусім патрыятычным падтэкстам. Сам падумай: паўгода звярок наш па лясах, і прытым глухім лесам блукае, птушачак душыць, а паўгода ў смярдзючай нары дрыхне. Лепш бы птушку якую ўзялі, вунь таймырцы прысабечылі на герб чырваназобую казарку, і хоць трава не расці. Усё галаву ламаюць, прычым тут птушка і амаль незалежны Таймыр? А тут грызун нейкі. Хоць, калі сапраўды, то мутна ўсё гэта. Ну дык і што, пайшоў шэф у партыйныя босы?

— Ты не паверыш! — прысунуўся бліжэй да сябра Скураш. — Усё ўспрыняў у багнеты, Амроцкага назваў авантурнікам, адмовіўся сам узначаліць барсучынае племя і рух свой, «Радзіма і Гонар», як аснову падстаўляць не даў. Давялося, каб новай вайны не паўстала, параіць Міхасю Львовічу падцягнуць галодных ветэранаў лакальных войнаў, у якіх яшчэ з дзевяноста другога года маецца нічым не заплямленая агульнарасійская партыя пад гучным назовам «Народныя патрыёты»…

— Ух ты! І адкуль ты гэта выкапаў?

— Крыўдзіш, генацвалі, навошта выкапаў, сам калісьці дапамагаў ляпіць. А што, хай сабе хлопцы грошай улёгкую ссякуць, а то яны пад лужкоўскую «Бацькаўшчыну» класціся памкнуліся, а там суцэльныя гобліны, там і капейкі не абламаецца.

Іхнюю гутарку перапыніў кіроўца:



— Выбачайце, што перабіваю вас, вось паслухайце, ужо другі раз перадаюць, — ён павялічыў гучнасць радыёпрымача.

— …падчас перасячэння Грэчаскай мяжы паліцыяй затрыманы абвешчаны Інтэрпалам у міжнародны вышук прадпрымальнік з Ясейска Павел Дракаў…

## 24

У скіце было ціха і пахнула вечнасцю. Набеглай зеленаватай слязой міргала лампадка. Ад незвычайнай цішыні ледзь чутнае патрэскванне дзвюх тоўстых свечак з непрывычкі здалося трэскам ляснога вогнішча. Манахі, якія прывялі яго сюды, кудысьці бясшумна зніклі, нібы растварыліся ў густой азёрнай смузе. У вушах яшчэ стаяў гуд верталётнага рухавіка і спеў маторкі ў белай смузе, калі раптам з жывога марыва паўстаў гранітны ўцёс, ён здрыгануўся ад нечаканасці. Лодка рэзка крутнулася і зашастала дном па ўзбярэжнай гальцы. Усяго нейкая няпоўная гадзіна, і ён апынуўся ў іншым свеце, дзе зусім па-іншаму цёк час і іншымі меркамі вымяраліся каштоўнасці.

Упершыню на гэтых выспах ён пабываў яшчэ хлапчуком, са школьнай экскурсіяй. Царкоўныя будынкі тады хутчэй нагадвалі развалiны і былі па-над старажытнымі фрэскамі спісаныя ўсякай бруднотай. У струхлелых гаспадарчых пабудовах туліўся нейкі дзіўны ў сваёй убогасці народ з папрашаек, амаль заўсёды п’яны. Нават дзеці, якія асцярожна выглядваюць з таямнічых і толькі ім вядомых лазаў і пераходаў, і тыя былі нейкімі дзікімі і не выходзілі са сваіх схovішчаў, як яны іх да сябе ні клікалі. Аднак цукеркі, пакінутыя на перакуленым каменным крыжы, знікалі неспасцiжным чынам, варта толькі крыху адысці.

— Божа! Як гэта было даўно! — Мікалай Мікалаевіч асцярожна, каб не спалохаць цішыню, падышоў да вялікага іканастаса, які займае амаль увесь усходні кут невялікай келлі, перажагнаўшыся, запаліў адну з прывезеных з сабою свечак, дзве іншыя паклаў на нешырокую паліцу побач са сцертым стараннасцю і часам малітоўнікам у старой скуранай вокладцы з паламанымі срэбнымі зашпількамі. Моўчкі глядзеў, як павольна разгараецца зачэпленая ім малая ахвяра. І раптам ногі як быццам подламіліся самі сабою, і нейкая невядомая сіла паставіла яго на калені. Словы малітвы і слёзы лінулі з яго адначасова, за ваконны, дый іншыя светы зніклі, засталася толькі гэтая ўвешаная амаль да столі абразамі сцяна. Сцяна і дзясяткі

ўважлівых, дапытлівых вачэй нябачнага і ўсюдыіснага Бога, якія бачаць цябе наскрозь.

Вось ён, нікчэмны і маленькі чалавек, стаіць пахілым ля аблічча ўсёмагутнага волата, стаіць і малітоўна просіць, як калісьці прасіў Выратавальнік Бацьку свайго: «Хай міне мяне чара гэтая, калі на тое будзе Твая воля!» Дзясяткі, а можа, сотні разоў ён паўтараў гэтую просьбу і не чуў адказу, і тады змірылася ягоная душа, і скрозь малітоўную смугу слёзаў убачыў ён, як рыжабародыя Сергій і Герман прыўзнялі над ім свае рукі, і дзесьці вельмі высока зазванілі званы.

Слёзы высахлі гэтак жа нечакана, як і нахлынулі, зноў пачалі праступаць абрысы рэальнага свету, запаленая ім тоўстая свечка згарэла амаль да паловы і ў адзіноце ледзь асвятляла патанулую ў мяккім шэрым змроку келлю. Дзве іншыя свечкі, выгараўшы да канца, даўно згаслі. За сценамі скіта хутка згасаў кароткі паўночны дзень.

Пужын з цяжкасцю падняўся з каленяў, хістаючыся, нібы п’яны, сяк-так дабраўся да вузкага манаскага ложа, не распранаючыся, зваліўся на чыстае радно набітага свежым сенам матраца, і сон, непранікальны і шчыльны, як снежная лавіна, накрыў яго цалкам.

Раніца прынесла абуджэнне і нястрымную прагу жыцця. Ён быў спакойны і поўны рашучасці несці ўскладзеную на яго Госпадам ношу, якой бы непасільнай і ненавіснай яна не была. Адкрыццё сышло на яго сёння ўначы, і зрабілася дакладна ясна, што ніколі, ні пры якіх абставінах ён не стане нічыёй марыянеткай, а пройдзе свой адмераны лёсам і Богам шлях так, як яму загадаюць яго сумленне і праўда.

Скіт пахнуў хлебным духам. Мікалай Мікалаевіч рэзка ўстаў, але рэзкасці чамусьці не атрымалася, рухі выходзілі нейкімі павольнымі, спакойнымі, мернымі. Цела прыемна ныла, як пасля добрай трэніроўкі. Мігаценні лампады і ўчарашняй амаль дагарэлай свечкі амаль не было відаць, промень толькі што завіталага сонца жаўтлявым слупом упіраўся ў старадаўнюю выяву Спаса. Вялікія і дапытлівыя вочы неяк нязвыкла падобраму і з цікаўнасцю разглядвалі яго; здавалася, Хрыстос моўчкі пытаў: «Няўжо гэта той, якога сёння ўначы да мяне прыводзілі Валаамскія святыя і малілі аб заступніцтве? Ці не занадта хліпкі, ці вытрывае?»

І Пужыну не заставалася нічога іншага, як вытрываць.



## 25

Амроцкага біла дробная дрыготка. Усё не ладзілася і валілася ў яго з рук. Галава была забітая абрыўкамі, кавалкамі недадуманых думак і зусім нейкай недарэчнай каламутай, што перыядычна вынырвала з памяці. Ён тупа сядзеў за сталом у сябе дома і спрабаваў у адзіноце напіцца, такога з ім не здаралася ўжо гадоў дваццаць. Аднак калі падобнае дзейства адбываецца прынцыпова і мэтанакіравана, арганізм мабілізуе ўсе свае ўтоеныя магчымасці, каб запрацівіцца і не даць выратавальнаму алкаголю затуманьваць мазгі, якія прагнуць адпачынку.

Міхаіл Львовіч злаваўся, хвастаў свае любімыя скроні і ніяк не мог дасягнуць стану блажэннай нірваны, калі свет ціхі, гладкі і табе на яго напляваць.

Да сённяшняй начы ўсё ішло добра, усё ўкладвалася ў яго складаныя схемы, хоць былі, былі дробныя званочкі будучай небяспекі. Калі ён на мінулым тыдні вырашыў падзяліцца сваімі сумненнямі з Галам Уладленавічам, той уважліва яго выслухаў і пагадзіўся. Разам яны пайшлі да Эдуарда, але той, як заўсёды, працаваў над кнігай, а да Наталлі яны не дастукаліся, так што рассталіся ў той дзень у поўным раздраі. Пазней дачка Цара патэлефанавала і сказала, што коней на пераправе не мяняюць, бацька даў канчатковую згоду, усё адбудзецца пасля думскіх выбараў, і наогул няма чаго псіхаваць, кандыдат цалкам прыстойны, тата з ім гуляе ў шашкі на шчаўбаны.

Шчаўбаны гэтыя наогул дабілі Амроцкага, ён жыва прадставіў гэтую дурацкую карціну і заледзянеў знутры. Потым не было калі, ён насіўся з партыяй, яе з’ездамі, вышэйшымі органамі і фінансаваннем. Ні Гол, ні Наташа далей носу Цара нічога бачыць не хацелі, а ён, ён адзін думаў аб будучых прэзідэнцкіх выбарах, якія павінны быць чыстымі і пераканаўчымі, каго б персанальна ні давялося абіраць. Без партыі гэта зрабіць хораша і тэатральна было немагчыма. Але вось бяда, палітыка і Цар так усім надакучылі, што ніхто з вартых людзей у партыйную вярхушку ісці не хацеў. Давялося задавольвацца тым, што пад руку патрапіла. Ды і чорт іх бяры! Усё роўна гэта прадметы аднаразовага выкарыстання. Пройдуць галоўныя выбары, і можна будзе разганяць гэтых дармаедаў, а сёння трэба абавязкова выкарыстаць жывую энергію мас, новы Цар павінен быць усенародным, па-іншаму нельга! І так складанасці з пераемствам могуць паўстаць, асабліва ў міжнародным плане.

І вось на табе, якраз напярэдадні падпісання ўказа аб прызначэнні Пужына прэм'ер-міністрам сярод ночы і раздаўся гэты званок. Спрасоння ён ніяк не мог сцяміць, хто з ім гаворыць, а калі дайшло, дык сон як рукой зняло. Далёкі аўтаадказнік паўтараў адну і тую ж фразу: «Кандыдат патрабуе дапрацоўкі, прыміце меры да яго блакавання».

Вось мудакі, ім спатрэбілася амаль тры месяцы, каб вынесці такі вердыкт! А позна! Позна ўжо! Але апраўдацца, сказаць нешта ў адказ гэтай машыне-папугаю было немагчыма. Міхаіл Львовіч спалохаўся, ён уявіў, у што можа выліцца для яго невыкананне волі клуба, нават гук няшчаснага гонга праплыў пахавальным маршам у ягоных вушах. Трэба было нешта прыдумляць, а думаць не атрымлівалася.

У другой палове дня па лініі таго ж клуба прынеслі невялікі скрутак, у ім знаходзіўся маленькі CD-дыск. Ён яго праслухаў, пэўна, разоў дваццаць.

«— Гэта добра, што ты прыйшоў па параду да старэйшых таварышаў. Садзіся, выпіць не прапаноўваю, ведаю, што гарэлку ты не п'еш, а твайго любімага баварскага піва ў мяне няма. Старым стаў, піва лекары не рэкамендуюць. Мне Гаўрыла Пятровіч па-дзядоўску ўсё распавёў. Разумею цябе, твае сумненні, нават страх. Я б, пэўна, і сам баяўся. Але ісці, Коля, трэба! Так справа паварочваецца, што іншага такога моманту ні ў цябе, ні ў нас, ні ў краіны нашай не будзе. Быў бы я, як ты, вернік, сказаў бы, што гэта промысел Божы, а так, па-атэістычнаму, думаю, што гэта праява гістарычнай справядлівасці. Можа, яшчэ і не ўсё страчана, можа, яшчэ хоць нешта і атрымаецца адрадзіць? Ты ж сам як думаеш?

— Ды цяжка мне на гэтую тэму думаецца. Як уяўлю сябе ў гэтай ролі, смех разбірае, ну які я прэзідэнт? Самі паглядзіце!

— Вось гэта і ёсць галоўнае, у гэтым жа ўся сутнасць і закапаная. Калі не ўяўляеш — значыць, зможаш выканаць ускладзеную на цябе справу, значыць, сумленне ў табе яшчэ не памерла. А каб лягчэй было, уяві, што гэта заданне, а, па сутнасці, яно так і ёсць, таму што ідзеш ты ў варожы лагер не на год, не на два, а, можа, на ўсё жыццё. Так што сцісні зубы й ідзі. Іншых на такое не пашлеш, няма каго, ты адзін. Успамінай, чаму цябе вучылі, ды з тваім паслужным спісам ты і сам зараз каго жадаеш навучыць зможаш. Напрыканцы я табе адну параду дам: падбірай людзей сабе сам, на нашых не асабліва спадзявайся, не ўсе яны добрыя для такіх чыстых спраў. Вось, мабыць, і ўсё!



Давай, ідзі, не варта, каб цябе хапіліся, ды і, не дай бог, у мяне засеклі. У нядзелю ў Гаўрылы на лецішчы сустрэнемся. Ты ўжо памаскіруйся трошкі, да старых адпраўляючыся».

Гэта быў адзін кавалак нейкай гутаркі, былі і яшчэ два ўрыўкі. Дзе і хто гэта пісаў, яму не сказалі, а самому пытаць у клубе прынята не было. Другая частка, калі гэта можна было так назваць, была для Амроцкага не такой цікавай і змястоўнай, у ёй Мікалай Мікалаевіч камусьці распавядаў пра ўмовы, якія яму неабходна выканаць пасля ўзыходу на сталец. Ды і што тут было цікавага, калі ён сам рэдагаваў, і не раз, усе варыянты гэтых умоў. А вось трэці кавалак быў самым трывожным і цікавым. Ён быў як бы адмыслова выдраны з вялікай гутаркі, пэўна, хтосьці вырашыў, што Міхаілу Львовічу можна адкрыць толькі гэтую вельмі малаважную яго частку.

Амроцкі зрабіў вялікі глыток віскі і, уторкнуўшы ў вушы маленечкія слухаўкі, зноў уключыў плэер. Ён ужо даўно падзяліў гэтыя тры абрыўкі і перанёс іх на розныя дыскі. Зашастала плёнка, і прычуўся скажоны староннімі гукамі голас Пужына:

«— … мне б так было лягчэй. Але на мяне ціснуць.

— Галоўнае, ты даў згоду, вось што галоўнае. Баяцца ўжо няма чаго, так што згаджайся на ўсё, якія б табе ўмовы ні ставілі, тут для чыстаплюйства не час.

— Але як быць з парадамі нашых старых? Адмахнуцца ад іхняга заступніцтва таксама нельга, а яны якраз за чыстаплюйства, ды і без іхняй падтрымкі мне ў тых сценах будзе ох як няўтульна.

— Кінь ты, яны даўно зусім з розуму выжылі, думаеш, я не здагадваюся, што яны табе там спяваюць на сваім лецішчы? Нябось, пра доўг, пра заданне. Старыя ўсюды аднолькавыя, што ў вас, што ў нас. Галоўнае, ты памятай — мы заўсёды побач, і ў бядзе цябе ніколі не пакінем.

— Табе добра разважаць, а мне ж прыйдзецца выконваць іхнія ўмовы. Там адзін Амроцкі чаго варты, ён так і бачыць сябе рэгентам пры мне!

— Я цябе не пазнаю! Табе-то што да іхніх умоў! Мы іх, дарэчы, уважліва вывучылі, нічога ў іх асаблівага няма, так, просяць аб асобных паслугах і захаванні сваіх людзей на хлебных месцах. Я б на тваім месцы наогул гэтага ў галаву не браў. Гэта не ўмовы, так, дзіцячы лепет! Амроцкі твой — звычайны пазёр і выскачка, будзе надакучаць — у цябе заўсёды знойдзецца, чым

яго прыструніць. Хоць сёння можна з гульні выключыць. Мне б з табой аб іншым пагаварыць хацелася…»

На гэтым запіс абрываўся. Мяркуючы па ўсім, гутарка адбывалася ў нейкім людным месцы, хутчэй за ўсё ў бары або ў адным з кафэ.

Менавіта гэты запіс чамусьці трывожыў, ды якое там трывожыў, раз’юшваў Міхаіла Львовіча! Нешта ў ім было не тое! Была нейкая таямніца, якая хавала небяспеку. Ён зірнуў на гадзіннік, было дзесьці каля дзвюх ночы, дапіў шклянку, саўгануў плэер з толькі што праслуханым запісам у кішэню і спусціўся да машыны.

— На лецішча Пужына, — аддаў ён распараджэнне кіроўцу і забыўся спакойным сном чалавека, які прыняў правільнае рашэнне.

## 26

Вестку аб прызначэнні Пужына старшынёй урада паведамілі Плаўскаму падчас пасяджэння генеральскага клуба. Усе афіцыйныя пытанні былі ўжо вырашаныя, і шаноўная публіка расслаблялася за багата сервіраваным парадным сталом. Нязменным арганізатарам губернатарскіх застолляў і баляў з нядаўняга часу быў яго новы намеснік па моладзевых справах Мікалай Верцер, чалавек спрытны, вельмі арыгінальны і адданы свайму шэфу і яго сям’і яшчэ з малдаўскіх часоў. Ён, дарэчы, і паспяшаўся ўзрадаваць начальніка, як яму падавалася, прыемнай навіной.

За апошнія месяцы Ясейскі губернатар разы чатыры сустракаўся з Пужыным, які імкліва рабіў кар’еру, і публічна распавядаў усім «па сакрэце», якія выдатныя ў іх складваюцца адносіны і як Мікалай Мікалаевіч, ледзь ці не пад запіс, прыслухваецца да ягоных парадаў, асабліва ва ўсім, што датычыцца працы Рады нацыянальнай стабільнасці, якую ён, Плаўскі, калісьці кароткі час узначальваў.

— Што?! — зароў губернатар, ускочыўшы са свайго месца і ледзь было не перакуліўшы схіленага да яго Верцера. — Калі, хто сказаў?! — Ён ірвануў на сабе каўнер накрухмаленай белай кашулі, сцягнуты нешырокой стужкай нейкага ордэна, ад чаго крыж з мячамі зазвінеў па лакаванай падлозе. — Хто даў права?

— Іван Паўлавіч, — знаходзячыся ў поўным здзіўленні і паднімаючы з падлогі ўзнагароду, разгублена вымавіў правадыр Ясейскай моладзі, — па ўсіх тэлевізарах перадаюць…



— Уключыць тэлевізар, — паніклым голасам распарадзіўся генерал, тупа зірнуў на працягнуты яму крыж і саўгануў яго ў кішэню.

«Не да дабра гэтае зрыванне з сябе крыжоў», — падумаў Скураш і звярнуўся да краявога пракурора, які сядзеў насупраць: — Што гэта ён ускіпеў?

— А хто яго ведае? — пацiснуў плячымі пракурор. — Верцер штосьці шапнуў, ён і ўзарваўся. Хутчэй за ўсё, у Маскве нешта не так выйшла. Цяпер тэлевізар усё распавядзе.

А тэлевізар вяшчаў пра тое, што сёння Цар адправіў у адстаўку чарговага Прэм’ера, па яго ўласнай, натуральна, просьбе, і прапанаваў Дзяржаўнай Думе новую кандыдатуру кіраўніка ўрада — Пужына Мікалая Мікалаевіча. Амаль усе, хто сядзелі за сталом, адкрыта здзіўляліся ад такой бурнай рэакцыі генерала на гэтую, падавалася б, такую далёкую ад іхняга краю навіну.

— Таварыш генерал-губернатар, — парушыў агульнае замяшанне ўжо прыстойна захмялелы старшыня генеральскага клуба Аляксей Мацвеевіч Нявелікаў, найласкавы адстаўнік, які кірваў у адміністрацыі мабілізацыйнымі пытаннямі, — а давайце паднімем гэты куфель за новага прэм’ер-міністра, простага рускага падпалкоўніка!

Усе чакалі рэакцыі губернатара. Плаўскі ўзяў сябе ў рукі і, дачакаўшыся, пакуль яму нальюць гарэлкі, ледзяным голасам вымавіў:

— У прынцыпе, у нас няма ніякіх пярэчанняў. За падпалкоўніка, дык за падпалкоўніка, можа, з часам і да яфрэйтара дакоцімся, а чым мы горшыя за Нямеччыну? Прашу вас, спадары! — і перш чым пракуліць гарэлку ў рот, ледзь чутна вымавіў: — Хай, сука, чужым падушыцца!

Малюта, які сядзеў амаль насупраць, у адрозненне ад сваіх суседзяў, не здзівіўся гэтакаму завяршэнню тоста. Яшчэ неяк даўно Старых, потым некалькі разоў усёведныя масквічы, а зусім нядаўна і Беркус распавядалі, што Амроцкі з клятвай гарантаваў Плаўскаму крэсла прэм’ера, а следам і месца пераемніка. Нават, нібыта, у генерала адбыліся нейкія сустрэчы з Царом, яго сям’ёй і блізкім асяроддзем. Малюта свята падтрымліваў непахіснасць Канстытуцыі, ні ў якіх пераемнікаў не паверыў, а інфармацыю гэтую так, на ўсякі выпадак, у розуме трымаў, ці мала што, дыму, як гаворыцца, без агню не бывае. «Чорт ведама што, напэўна, Гобліна хтосьці перайграў, а можа, ён сам вырашыў змяніць фігуры ў толькі яму вядомай партыі», — падумаў Скураш і вырашыў, паддаўшыся агульнаму куражу,

сёння хоць раз проста нажэрціся і ні аб чым не думаць. «Можа, беднай Расіі яшчэ і пашанцавала, што не хвацкі ваяка будзе далей ёю кіраваць? Ды якая табе справа, ты вунь пі, ды лепш пра сябе думай! Трое дзяцей, а ў цябе ў кішэні блыха на мішэні. Гавораць, сусед твой па лецішчы ўчора ўвечары каробку з-пад тэлевізара, поўненькую даляраў, дахаты прывалок. Жонка яго не выцерпела, сёння раніцай Кацьцы прабрахалася. А ты ўсё за перспектыву неіснуючую на чужога дзядзьку спіну хіліш!» — і ён з прыкрасцю перакуліў кілішак сабе ў рот.

Тым часам Плаўскі з кілішкаў перайшоў на вінныя фужэры і прымусіў усіх рушыць услед за ягоным прыкладам. Гарэлку генерал глынаў, як простую ваду, пры гэтым не п’янеў, а толькі раскручваў нястрымную весялосць.

— Такім чынам, спадары генералы і тыя, хто далучыўся да іх, у парадку генеральскага клуба паўстала адно вельмі далікатнае пытанне, — з куфлем у руцэ запатрабаваў цішыні губернатар, — а дзе, дарэчы, старшыня клуба, і чаму не вядзецца пратакол, а?

Кінуліся шукаць старшыню, хтосьці даклаў, што той у мужчынскім пакоі і небараку дрэнна.

— Такім чынам, спадары! Абыдземся без пратакола, калі старшыню нашага ванітуе, — працягнуў Плаўскі. — Па просьбе шматлікіх таварышаў стаўлю на галасаванне адно пытанне: ці этычна будзе запрасіць на наш высокі сход жанчын з паніжанай сацыяльнай адказнасцю?

— Этычна! — ажывілася публіка.

— Галасуем куфлямі, спадары! Тост кантрольны, хто не выпіў — той Філіп Кіркораў.

Вечар набіраў абароты. Верцер, які ўжо скінуў пінжак, сам прысеў за барабаны, хтосьці з чальцоў клуба ўзяўся за гітары, Зараеў сеў за клавішы, і губернатар, абхапіўшы вялізнай лапішчай мікрафон, заспяваў сваю любімую душашчыпальную песню аб белых птушках.

Пасля апладысментаў, віншаванняў і клятваў ва ўзаемнай вернасці ўсе зноў згрудзіліся каля стала.

— Сябры, — пранікліва пачаў Плаўскі, — запомніце сённяшні дзень, з гэтага часу мы пачынаем жыць сваім, не залежным ні ад кога жыццём. У нас ёсць усё і, што самае галоўнае, — любоў і давер нашага народа. Мы без Масквы абыдземся, а вось ці абыдзецца яна без нас, паглядзім! Хопіць ужо цягацца за Крамлёўскую сцяну, як казлы па моркву, і выклянчваць у іх нашыя ж грошы. Больш такому не бываць! Чуеце, Скураш, гэта і для вас гаворыцца, так што, не саромеючыся, дакладзяце свайму начальству ўсё, што я гавару…

Малюта паспрабаваў нешта запярэчыць.

— Не трэба, — перабіў яго абсалютна цвярозым голасам генерал, — не трэба намотваць соплі на кулак! Дакладвайце свайму апекуну! Бач, як яго нясе ўверх! Ён жа вас у свой час мне парэкамендаваў намеснікам у край, нашыя добрыя з вамі стасункі ад гэтага не пацерпяць. Так і кажыце, адвязаўся Плаўскі, і не дай Бог яны мяне там не зразумеюць, у мяне хопіць і сілаў і волі нагадаць ім пра Калчака, — і, выпіўшы, дадаў: — Усё, баль скончаны, усе па дамах! Заўтра настане новая эра, усім рэкамендуецца добранька выспацца і не спазняцца на службу.

На наступны дзень нічога з разраду незвычайнага не адбылося. Экспедыцыйны корпус ніхто фарміраваць не кінуўся, у новыя Сямёнаўцы, Шкуро і бароны Унгерды запісвацца не спяшаліся. Была, праўда, адна навіна: губернатар захварэў.

Масква, як заўсёды, прачнулася ў гадзіну дня па мясцоваму часу. Малюта ўжо паспеў дабрацца да свайго кабінета. Галава была цяжкаватай, але рабоце расійскага чыноўніка такі стан галавы ніколі перашкодай не з’яўлялася. Намесніка падмывала патэлефанаваць Рэчыну і павіншаваць іх з Пужыным з чарговым падвышэннем. У тым, што Ігнат Іванавіч і цяпер застанецца пры шэфе, ён ніколькі не сумняваўся. З аднаго боку, ён і радаваўся за іх, якія-ніякія, а ўсе ж знаёмыя, могуць стаць кіраўнікамі краіны, а з іншага — усярэдзіне шкрэблі паганыя коткі, бурыўся цэлы свет створаных за два гады ілюзій, знікала, распадалася, як тлен, наіўная мара. Яны доўга гаварылі ўчора пра гэта з Зурабам. Прымітыўна і смешна ўладкаванае жыццё чалавека, няма для яго нічога пастаяннага ні ў радасці, ні ў горы. Толькі што, падаецца, радаваўся ён запалоненым каханнем, а позірк, ненаедныя вочы ўжо блукаюць па чужым целе. Бясконцым і крыклівым бывае боль страты маці або дзіцяці, а праходзяць кароткія дні — і з вуснаў, якія нядаўна выпускалі рыданне, вырываецца вясёлы смех, і бяжыць чалавек далей, каб жыць, прыстасоўвацца, дзесьці не дагаворваць, камусьці ветліва ўсміхацца, паблізу кагосьці праходзіць, не заўважыўшы. З нядобрых маленькіх учынкаў складаецца вельмі нават і нядрэннае жыццё.

Малюта ўсё ж у Маскву патэлефанаваў. Трубку падняў сам Рэчын, выслухаў віншаванні, падзякаваў.

— Ты чаго не дакладваеш аб учарашніх выліваннях твайго губернатара? Мы цябе навошта туды накіравалі, соплі за ім подціраць? Усё, Малюта, служба ў двух спадароў скончылася, давай вызначайся! Перадай гэтаму наваяўленаму Калчаку, што прэм'ер чакае яго ў гэтую пятніцу да шаснаццаці ў сябе ў Белым доме. Што маўчыш?

— Слухаю начальніка, ды і гаварыць асабліва няма чаго. Значыць, вашы гэтае п'янае трызненне вам перадалі ўжо. А я думаю, з чаго б гэта ўчора ўнучаты пляменнік жалезнага Фелікса мяне ўсё выпытваў пра тое, ці збіраюся я ўначы ў сталіцу тэлефанаваць?

— Ну вось і вучыся ў пляменнікаў апаратыўнасці. Добра, ты нос не вешай, гэта я так, для постраху, каб не забываў, з кім размаўляеш, з самім кіраўніком канцылярыі прэм'ер-міністра. Хоць і да п'янага трызнення часам трэба прыслухоўвацца, так што вуха трымай тарчма, часы настаюць складаныя. Усё, пакуль! Ах, да, ледзь было не забыў, ты па Ясейскім краі адказваеш за выбары і, хутчэй за ўсё, будзеш прызначаны начальнікам выбарчага штаба. Цяпер усё.

— Барсучыных, ці што, выбараў?

— Якіх, на хрэн, барсучыных, нашых выбараў! — выпаліў Ігнат і кінуў трубку.

Скураш даў адбой і вырашыў, што працоўны дзень для яго на сёння скончыўся, як-ніяк доўг ён свой выканаў: начальства павіншаваў, каштоўныя ўказанні згроб, нават нейкую перспектыву высвеціў, так што пара, як гаворыцца, і гонар ведаць. Ды і Зураб, пакінуты дома, ужо тэлефанаваў пару разоў і ўзяў з яго клятвеннае абяцанне, што ён кіне ўсё і прыедзе выбаўляць сябра, таму што, прытрымліваючыся каўказскіх звычаяў, горац у адзіночку піць не можа. Ужо развітваючыся са сваімі відавочна ўзрадаванымі раннім сыходам начальства падначаленымі, ён успомніў аб даручэнні даставіць губернатара на сустрэчу ў Белы дом. Па дарозе ён зазірнуў у першую прыёмную, дзе яму невыразна растлумачылі, што паняцця не маюць, дзе і чым хварэе генерал. Хлуслівым галаскам тое ж самае паўтарыла і Гаржынава, усёведны Ляскаль нёс нейкую лухту пра ўзмацненне рэжыму сакрэтнасці, губернатарская ахова маўчала, словам, куды ні кінь, усюды клін. Малюта не на жарт устрывожыўся, да пятніцы, як ні круці, засталося няпоўных трое сутак! Ды якіх трое, сённяшні дзень ужо не ў разлік, толькі заўтра, а пазаўтра ўжо і пятніца, трэба ляцець! Ён ліхаманкава ціскаў свой мабільнік, пакуль не патэлефанаваў Беркус:



— Ты дзе? Я б на тваім месцы паспяшаўся, інакш мы з Іванам Паўлавічам угаворым учарашні дваццаціпяцілітровік без тваёй дапамогі.

— Ты жартуеш? Мне ўсе гавораць, што губернатар хворы і ледзь ці не пры смерці, я ўжо ў Маскву сабраўся дакладваць…

— Быў пры смерці, як і я, але цяпер мы рэанімаваныя і праходзім курс інтэнсіўнай тэрапіі! Хопіць трапацца, прыязджай хутчэй…

Яшчэ на ганку дома Скураш сцісла распавёў Зурабу аб маскоўскім даручэнні і папрасіў дапамогі. Дамовіліся дзейнічаць разам. Гадзіны паўтары пілі, травілі анекдоты, дзівіліся каварству і нахабству Амроцкага, які, аказваецца, сёння ўжо разоў тры тэлефанаваў і парываўся дамовіцца аб сустрэчы.

— А я яму прама ў лоб і сказаў: ад вінта, палестынская птушка! Гадкі ён чалавек, такія, як ён, і загубяць Расію! Як ты, Зураб, гаворыш, яго ў маскоўскіх тусоўках завуць?

— Гоблінам, — адказаў генералу гаспадар застолля, выкочваючы новую, аплеценую лыкам, дваццаціпяцілітровую бутлю. — Гэта добрае аджарскае віно, у нас яго завуць вясельным. Яно лёгкае, выпіць можна шмат, гаварыць і спяваць доўга, мазгі не туманіць, але сысці ад гасціннага стала нікому не дасць.

— Гоблін, гаворыш? Якое гнюснае і злавеснае слова! — разглядаючы свой куфель, расцягваючы словы, вымавіў Плаўскі. — Папомніце мяне, ён проста так ад нашай зямлі не адстане. Колькі ж паскуддзя ты яшчэ народзіш на сваю пагібель, мая зямля? А можа, зямля і не нараджае нічога падобнага, можа, мы самі неяк паступова і неўзаметку для саміх сябе ператвараемся ў гоблінаў, і ўжо недалёка той час, калі на зямлі будуць жыць адны гобліны? Адно радуе — мы да гэтага не дажывём! А пакуль толькі іх цені лунаюць над намі…

— Іван Паўлавіч, — рашыўся Малюта, адчуваючы, што далей сур'ёзную гутарку заводзіць будзе ўжо позна, — мне тэлефанавалі з канцылярыі ўрада і прасілі перадаць просьбу Пужына, каб вы прыехалі ў пятніцу да яго на сустрэчу.

— А не, абламаецца, каб я да гэтага метра з кепкай на каньках першым на паклон пайшоў! Не дачакаюцца! Хай і не мараць. Ты ім, Малюта, перадай: патрэбен Плаўскі — хай самі ў Сібір ляцяць, а ў Маскву я больш не яздок!

Зламаўся губернатар толькі пад абед наступнага дня. Віно сапраўды аказалася слаўным, і толькі яго цудадзейным сілам Малюта і Зураб прыпісалі станоўчы вынік.

27

У прызначаны час губернатар Ясейскага краю пераступіў парог галоўнага кабінета на Краснапрэсненскай узбярэжнай.

Час, які ляціць у бездань, запаволіў сваё падзенне і насцярожыўся ў прадчуванні пераменаў, а вялізная краіна з дзіўнай абыякавасцю глядзела на ўсё нецвярозымі, злымі і галоднымі вачыма.



# ХАЛОП ЯСНАВЯЛЬМОЖНАГА ДЭМАКРАТА

1

Дзесьці далёка за вёскай надрыўна і працягла выў сабака, як быццам нечая грэшная душа прасілася на неба.

— Вось чортаў вырадак, як вынюхае поўню, тут і пачынае свой д'ябальскі канцэрт. Так што цяпер начы тры будзе галасіць, пакуль гэтая паганка на сход не пакоціцца. — Прохар нядбайна матнуў рукой на палкі матавы шар ліпеньскага месяца, наліты нейкай нетутэйшай, маладой і дурлівай сілай. — І галоўнае ж што? Як гэты мячык прыбывае або сходзіць — сабака маўчыць. Дый не павінна тамака быць сабакі, ну ніяк не павінна! З таго краю вёскі ўсе ўжо даўно паз'язджалі. Хаты — хто на вываз, хто на дровы — папрадавалі. Дзве-тры халупы, праўда, без вокнаў і дзвярэй, стаяць, дахі абваліліся, пазарастала ўсё. Далей, туды да лесу, рэшткі яшчэ пасляваеннай фермы. Адкуль тамака сабаку ўзяцца, не дапетру? Мясцовыя мужыкі ўжо і так і сяк прылоўчваліся, каб яго, паганца, злавіць ды прыбіць! Гэта ж, відаць, трэці год ваколіцы жыцця ў поўню не дае. Ужо і ланцугом хадзілі, і хітрасцямі рознымі, і засады ўлаштоўвалі — усё без толку. Толькі яны да халупаў тых падбяруцца — выццё і заціхае. Па роснай жа траве ў пояс паспрабуй пабегай! Так што нацягаюцца, вымакнуць, а то яшчэ і штаны аб якую патырчаку падзяруць, ідуць назад, мацюкаюцца. Цішыня. Толькі гэтая ланка і чуваць, а дойдуць да сяла — зноў выццё пачынаецца. Ды і, здаецца, усё ў тым жа месцы, адкуль толькі што паляўнічыя вярнуліся. Ну тут мацюк яшчэ мацнейшы, а яны назад з трыколлем ды віламі. Выццё гэтае, значыць, ля хатаў разваленых сціхне і, чуеш ты, да лесу, да фермы пакоціцца. Вось так-та, мілы чалавек. І што — не чартаўня, вы скажаце?

— Ды адкуль жа мне знаць, я жыхар у вас новы, і выццё гэтае, дарэчы, вельмі прыемнае выццё, трэба сказаць, толькі сёння і пачуў. Не звярні ты на яго ўвагі, я б гэтыя месяцовыя пакуты і наогул міма вушэй прапусціў. Давайце ж, дарагі Прохар Піліпавіч, збіраць на стол, ды і закусім пацíху, нягледзячы на позні час ды ўгаворы дактароў. У мяне ў самога ў страўніку такое выццё і буркатанне, што, так і глядзі, усе вакольныя сабакі, ці хто яны там, пазбягаюцца.

— А ў мяне, пане, ужо, бадай, усё даўно гатова. Вы пакуль, калі ласка, мыйце рукі, я ўміг і зграмуздаю.

— Дзякуй, голубе, — Енах Мінавіч не без цяжкасці выняў сваё яшчэ не старое, але ўжо прыкметна раздабрэлае цела з плеценага крэсла, ад чаго яно неяк клапатліва зарыпала і нават злёгку хруснула. «Расціснy я яго калі-небудзь!» — падумаў, уздыхаючы, Енах і, цяжкавата ступаючы па некалі фарбаванай падлозе прасторнай веранды, увайшоў у хату.

— Ды не расціснеш, — нібыта адгадваючы думкі свайго новага пастаяльца, прабубніў сабе пад нос Прохар, — не ты ж першы на ім сядзіш… Яму, крэслу гэтаму, ужо гадоў з трыццаць. Я гэта на службе ўжо дваццаты год, а яна, пляцёнка, у дзядзькі, царства яму нябеснае, памятаецца, ужо стаяла… — І, аддаючыся цалкам клапатлівай справе сервіроўкі стала, Прохар засоўгаўся туды-сюды, як вадамер, на сваіх доўгіх, сухіх і злёгку крываватых нагах.

Той, хто займаецца павольнай механічнай працай, ведае, што пры поўнай занятасці рук галава ў гэты час застаецца абсалютна вольнай і адкрытай для высокага палёту разнастайных думак. Прохар любіў той разумовы працэс, у які без адмысловай патрэбы імкнуўся не ўмешвацца. Праца рабілася сваёй завядзёнкай, а думкі і разнастайныя ўяўленні як бы асабняком жылі ў ім, не перашкаджаючы. Там, у сваім унутраным свеце, ён быў зусім іншым Прохарам, там ён жыў сваім старым жыццём, якое яшчэ памятаў і якое любіў. Здавалася б, што таго і прайшло з 1991 года, а ты глядзі, як усё памянялася! Хоць і быў ён у тым далёкім мінулым сямігадовым хлапчуком, а цяпер ужо, бадай, старац, ці смех — хутка семдзесят дзевяць, але памяць захоўвае ў сабе ўсё, нібы ўчора гэта было. І Юмціна, якога сягоння і ўспамінаць перасталі, і Пеціна, які змяніў яго. Таго больш памятаюць як Пераемніка Першага Вялікага. Цяпер ужо цяжка ўспомніць, яго на пераломе стагоддзя ў Пераемнікі абралі ці ён ужо тады самога сябе прызначыў? Тры ці чатыры тэрміны валадарыў, гэта, здаецца, пры ім інстытут пераемства



стаў канстытуцыйным, а Расійская Федэрацыя пасля вайны з аб'яднаным войскам хахлабульбаў, якім пасняхова кіраваў еўраяснавяльможны князь Арон Другі, была ператвораная ў Вялікую Дэмакратычную Імперыю. Праўда, межы імперскія скурчыліся, як шчыгрынавая скура. З захаду мяжа праходзіла кіламетраў на сорак ад Адзінцова, з поўдня — недалёка ад Арла, на поўначы, выгінаючыся дугой па Волзе, паўзла праз Ільмень і Перм за Вялікі Камень. Пасля чаго надзімалася ў велізарную бурбалку, якая ахоплівае амаль усю заходнюю і цэнтральную Сібір, так што ўсходняе памежжа складана змяілася заходней былога Краснаярска, пераназванага кітайцамі ў Дзін-дза-мін. Гэтулькі ўсяго з тых часоў памянялася, святы Божа! Толькі вось тытул галоўнага валадара — Прэзідэнт-Імператар — застаўся нязменным, і яго імя ва ўсе часы гучала аднолькава: Пераемнік. Лічбы, вядома, змяняліся, сёння, да прыкладу, панаваў Пераемнік Шосты Мудры. Так што хто іх тамака, наверсе, разбярэ, яны ўсё, што ні зробяць, усё па канстытуцыі і па закону.

Праўда, хто іх, гэтыя законы, сёння прачытаць здолее? Яны, вядома, маюцца ў наяўнасці ва ўсіх крамах, піцейных установах і пунктах харчавання, нават адмысловыя паліцы абсталяваныя, дзе і ляжаць гэтыя тоўстыя кніжкі, але надрукаваныя яны на новай дзяржаўнай мове, а просты люд, як заўсёды, за ўладай не паспявае. Кажуць, у рускага дваранства ў дзевятнаццатым стагоддзі было вельмі модна размаўляць па-французску, фарціла ж людзям! Ах, шарман, шарман! Што тут складанага? А цяпер без камп'ютарнага русіфікатара хрэн ты чаго разбярэш. Затое прагрэс! Новай дзяржаўнай мовай міжэтнічных зносінаў грамадзян Імперыі павінен у найбліжэйшыя пяць гадоў стаць бліскучы гібрыд, які ўвабраў у сябе лепшыя лексемы кітайскай, азербайджанскай і гутарковай амерыканскай. Рускімі, па задумах яго стваральнікаў, Развінталя, Мамедава і Юнь Сімта, павінны былі застацца толькі вымаўленне, ненарматыўная лексіка і жэсты. Мову прыдумалі, законы на ёй надрукавалі, справаводства запусцілі, а народ усё цягнецца, не паспявае! Але Прэзідэнт-Імператар на тое і правадыр нацыі, у яго ўсё прадумана, і каб грамадзяне Сібрусіі шустрэй сваю новую родную мову вучылі, быў прыняты дзяржаўны мемарандум аб тым, што ўсе паперы, падаваныя ў афіцыйныя ўстановы, павінны быць напісаныя на новай мове. А тут круці не круці, вучыць давядзецца. Тлумачы, вядома ж, адразу аб'явіліся, за ўмераную плату гатовыя любую паперу выправіць. Яны, тлумачы гэтыя, заўсёды пры ўладзе трымаюцца, ва ўсе часы і пры ўсіх дзяржавах, а што ім рабіць,

небаракам, застаецца, калі ў іх з нараджэння рухаючай сілы — працоўнага прыгоннага сялянства — не было. Так гістарычна склалася, ва ўсіх народаў ёсць, або, прынамсі, была, рухаючая сіла, а ў таго народа-небаракі яе начыста не было. Вось і давялося ім рознымі рамёствамі па свеце гарбець. Гарбелі-гарбелі, ды так усюды і папрыжываліся. Трэба ім аддаць належнае, мужны і мудры аказаўся народ — за сем тысячаў гадоў чалавечай гісторыі ні разу мовы сваёй і веры не памяняў. Сёння такая стабільнасць і прыхільнасць да старых традыцый, праўда, не дужа вітаецца. Новыя філасофскія тэорыі чаму нас, недасканалых, вучаць? Ды таму, што ўсякі кансерватызм і ружовыя соплі па нацыянальных карэннях ды ўсялякай там любові да свайго кута — выключна ад унутранай сухасці ды недалёкасці розуму індывіда, а таксама недахопу ў грамадстве дзейсных свабодаў і сапраўдных агульначалавечых каштоўнасцяў. Калісьці і мы жылі ў такой вось поўнай стагнацыі, але ўсё ж знайшлі ў сабе сілы і ўслед за адукаванай Еўропай адмовіліся ад праклятага мінулага. А тое, што тлумачы замкнуліся ў сваёй недасканаласці, дык гэта не бяда, іх мала. Падумаеш, што могуць значыць нейкія два-тры адсоткі ад агульных шасцідзесяці трох мільёнаў насельніцтва вялікай Імперыі.

— Ты глядзі, Прохар, усё яшчэ вые!

— Дык я ж вам казаў, пан, цяпер дні на тры. Садзіцеся да стала, ваша правялебнасць. А то смаката астыне.

Енах Мінавіч яшчэ не быў правялебнасцю. Менавіта за ёй ён сюды, у гэтую Богам забытую глухмень, і прыцягнуўся. А што загадаеце рабіць, так усё жыццё ў дойных мільянерах і прахадзіць? Не ўжо, дудкі! Гэта раней можна было на зэкаамленыя ад народа грошы выкупіць палову чужой сталіцы пад выглядам набыцця спартовага клуба. Цяпер часы іншыя, грошы мала прысвоіць (дурное слова «зарабіць» да вялікіх грошай ніякага дачынення ніколі не мела), іх, грошы гэтыя, трэба яшчэ і адслужыць. Не адслужыш — ураз усяго пазбавішся. У лепшым выпадку, паспееш змыцца ў бярозавы маёнтак Герцэна, так у апошні час сталі зваць Лондан, горад, які калісьці даўно, здаецца, быў сталіцай нейкай Ангельшчыны, а сёння гібее пазаштатным гарадком магутнай Аб'еўры.

Не паглыбляючыся ў душэўныя нетры, Енах запар перакуліў у рот тры пяцідзесяціграмовікі астуджанай анісавай гарэлкі, ухвальна кракtануў і прыняўся за няхітрую вясковую вячэру. Падыходзіў да канца трэці тыдзень яго знаходжання ў



Чулымскім павеце, які павінен быў на паўтара гады стаць для новаспечанага дзяржаўнага мужа новым домам, а можа быць, і будучай вотчынай. «А што, прыстойна гучыць: граф Енах Чулымскі, — прыслухоўваючыся да няспыннага выцця, падумаў пра сябе службовец, з апетытам хрумстаючы гур'еўскую капусту. — Добрая капуста, ды і пельмешкі хвацкія!»

— Паслухай, Прохар, а пельмені гэтыя хто лепіць?

— Ды сам і ляплю, калі ўлетку. Ну а зімой ужо, вядома, усім гуртам варганім. Як маразы возьмуцца, дык бабы ды дзяўчаты садзяцца мяса крышыць, цеста мясіць, а ляпіць ім і мужыкі дапамагаюць, асабліва маладыя хлопцы. Тыя лепяць ды на маладух вірляць, якую, значыць, яна пельменіну выкручвае. Па прыкметах старадаўніх чым тая пельменя меншая, тым у дзеўкі гэтая самая «радзілка» шчыльней. А дзеўкі таксама пра тое ведаюць, вось і шальмуюць: то з мядзведжае вуха пельменіну вылепяць, то з салаўінае вока. Вясёлы занятак, пан. Ваш-та папярэднік і сам, бывала, любіў папельменнічаць ды парагатаць з маладухамі, прабач яму Госпадзі!

— Ты мне вось што, Прохар, кальян раздзьмі, таз з гарачай вадой нясі і садзіся побач, распавядзі, што ўсё-ткі з гэтым небаракам здарылася? А то там, у Маскве, нейкай смугі панапусцілі. Дурата, адным словам.

Пакуль Прохар моўчкі выконваў яго даручэнне, Енах Мінавіч ямчэй уладкаваўся ўсё ў тым жа плеценым крэсле, некалькі разоў пагарцаваў на ім мясістымі ягадзіцамі, зняў доўгія шкарпэткі, звязаныя з грубага вясковага прадзіва, якія Прохар усунуў яму ў першы ж вечар замест звыклых тапак, апусціў ногі на прахалодныя дошкі, расшпіліў падбіты пунсовым кітайскім шоўкам і вышыты хакаскімі ўзорамі паўхалат, з храбусценнем пацягнуўся і ўдыхнуў поўнымі грудзьмі цягучае, настоенае на разнатраўі ды ігліцы дурманлівае паветра цёплай ліпеньскай начы.

Яшчэ ў Маскве, рыхтуючыся да паездкі ў правінцыю, ён прыналёг на праслухоўванне кружэлак з творамі некалі вядомых, а цяпер забытых і для шырокай публікі малазнаёмых аўтараў, якія апісвалі жыццё і побыт рускіх абшарнікаў у васямнаццатым і дзевятнаццатым стагоддзях. Кнігі сёння мала хто чытаў, ды чытанне асабліва і не заахвочвалася ўрадам, усё, што неабходна, было запісана на маленькія CD-кружэлкі, твая справа была толькі ўставіць патрэбную ў міні-плэер і націснуць на кнопку. Многія школьнікі, атрымаўшы сярэднюю адукацыю, так толкам чытаць і не ўмелі, ды што школьнікі, калі і дыпламаваныя спецыялісты, якія скончылі прэстыжныя ВНУ, ледзь

маглі прачытаць надпісы на рэкламных плакатах. Ну дык вось з гэтых праслухоўванняў Енах ведаў, што рускі дваранін некалі павінен быў піць анісавую гарэлку, паліць кальян, перад сном парыць ногі ў срэбным тазе, лакея часам менаваць «братка», па суботах хадзіць у лазню, абавязкова з прыгоннай дзеўкай, а яшчэ мець свой выезд і сабакарню. Атрымаўшы маёнтак (а ён на гэта вельмі разлічваў), па старой модзе належала разбіць сад, а таксама ў абавязковым парадку значыцца ў якой-небудзь масонскай ложы і марыць аб вызваленні толькі што набытых сялян. Усё гэта Енаху вельмі падабалася, і ён аддаўся марам з прыемнасцю, зручна ўладкаваўшыся ў крэсле і выцягнуўшы наперад свае ногі.

Прохар прынёс вялікі, цяжкі срэбны таз, больш падобны на царкоўную хрысцільню, чым на трывіяльную шайку, такі ж вялікі медны гарлач з па-ўсходняму выгнутым носікам, выліў у таз гарачую ваду, паспрабаваў яе локцем, каб пераканацца, што пан не ашпарыцца, і падсунуў гэтае рукатворнае азярцо да крэсла.

— Вы, Енах Мінавіч, павольна ногі апускайце, хай перш сцерпяцца, звыкнуцца, а ўжо потым жарком насыцяцца. Гэта вы правільна з нагамі завялі, гэта па-нашынску, кажуць, такое і даўней было — і пры барынах, і пры камісарах, і пры рознахвалевых дэмакратах. Не, што ні кажы, добра, што ўсё на кругі свае вяртаецца. — І, як бы спахапіўшыся, пляснуў рукамі: — А пра кальян я зусім забыўся, галава садовая! Цяпер, бацечка пане, прынясу.

Вядома, Енаху было прыемна слухаць кудахтанне-галашэнне пажылога лакея, які з першых дзён прыняў пана як малое дзіцё і ахінуў яго непадробным клопатам і ўвагай. Такая поўная самааддача і немаведама адкуль уваскрэслая цяга служыць гаспадару заўсёды выклікаюць непадробнае замілаванне і гонар за свой народ, у нетрах якога, што б з ім хто ні рабіў, спрадвечна жыве імкненне дагаджаць і падпарадкоўвацца. Вядома, такіх яркіх прыкладаў, як Прохар, яшчэ замала. А што вы хацелі, нямногім больш за паўстагоддзя мінула пасля вызвалення Расіі ад Савецкага Саюза. Адкуль ім узяцца, новым людзям, калі старыя яшчэ не памерлі. Енах памятае, колькі было крыку і шуму, калі апублікавалі ўказ аб падзеле нацыі на саслоўі. Усе кінуліся ў спадары! Кінуцца-то кінуліся, а што толку? Спадаром, аказваецца, мала назвацца, ім трэба стаць, а як стаць, калі ні кала ні двара? Прыйшоў у мэрыю, заявіў сваю прэтэнзію, ды хоць радавод прынёс з дваранскімі і княжымі гербамі, — выбачай, брат, пасунься: эпоха не тая, і спадары сёння іншыя патрабуюцца. Галоўнае ў панаванні — маёмасны цэнз ды заслугі перад найсвятлейшымі. Ёсць нерухомасць або капітал? Добра! Гэта і ёсць пачатак шляху да дваранскай годнасці. А так, дарэчы, ва ўсе часы і было.



Продкі Енаха свой дабрабыт збівалі на прыватызацыі Нарыльскага нікелю. Старая і цёмная гісторыя. Ды сёння любому хоць трохі кемліваму хлапчуку вядома, што за кожным буйным капіталам заўсёды стаіць ну ўжо калі не сур'ёзнае злачынства, дык, прынамсі, розная ступені цяжару супрацьпраўнае дзеянне. Не мінула чара тая і іхняга сямейства. Злачынства было, гэта ён ведаў, але якое, так у дзеда выведаць і не змог. Памятаецца, у дзяцінстве яму хацелася, каб іх сямейнае ліхадзейства было не горшым, чым у іншых: з крывёй, забойствамі, пагонямі ды іншымі страсцямі. Пазней, ужо вучачыся за мяжой, ён чуў, што падчас прыватызацыі гонару сталінскай індустрыі за Палярным кругам многія людзі без кавалка хлеба засталіся, забамжавалі, паспіваліся, а два паўночныя абарыгенныя народы, шмурасане і караткане, пра якіх і новыя ўласнікі, і ўлады проста забылі, вымерлі з голаду. Але гэтыя змрочныя навіны Енах на рахунак сваёй радні запісваць не спяшаўся. Якая рамантыка ў падобным бяспамяцтве? Ды і да фамільнага герба нічога з гэтага мору не дадасі. А герб у яго роду, папраўдзе, быў не з крутых. Так, сярэдняй рукі дваранскі гербішка, з нейкай цаглянай не то завадской трубой, не то худой прыгоннай вежай, бледна-ружовым плюмажам і трыма маленькімі рыбкамі, падобнымі на хамсу. Што да чаго? Крыўдна, што ўжо выкручвацца? Род жа знакаміты і найбагаты. Дзед вунь здуру палову Балівіі выкупіў! На фіга каму тая Балівія сёння здалася? Добра, што ў былыя часы на перадвыбарныя справы Юнціна, а потым і, відаць, усім Пераемнікам нямераныя грошы адвальвалі. Не проста так, натуральна. Тыя, вядома, пасля ўсшэсця ва ўладу маёмасцю і землямі з дзяржаўнай казны спакваля разлічваліся, так што калі грымнула прыгоннае права, і зямелькі і сялян у Енахавага роду было з лішкам. Усяго досыць, а статусу нуль, як у бедных габрэяў за рысай аселасці, балазе хоць бацька прымудрыўся ў Трэцяга Пераемніка не акцыі за дапамогу ў фінансаванні выбарча-перадаткавай кампаніі папрасіць, а якую-небудзь дзяржузнагародку. Узрадаваны Пераемнік адзначыў продка вялікім дзяржмедалём «За ахвярнасць у побыце» другой ступені, а належныя бацьку акцыі, як потым пляткарылі пры Двары, перадаў

сваёй палюбоўніцы, стрыечнай Енахавай цётцы, так што ўсё роўна прозвішча ў прыкупе засталося. Дзедава прымаўка, якая пазней стала радавым дэвізам: «Нам узнагароды не патрэбныя, за грошы працуем!», ледзь была не ператварылася для сям'і ў злосны жарт.

Пры Пераемніку Чацвёртым Вызваліцелі было ўведзена саслоўнае дзяленне грамадства, і ўсякі мог прыпісаць сябе да любога саслоўя, калі, вядома, адпавядаў тым цвёрдым патрабаванням. Вось ужо дзе народ закруціўся! Енахаў род таксама. Па ўсіх канонах іх прозвішча нават на імяннае дваранства не цягнула. У купцы першай гільдыі спакойна праходзілі, у знакамітыя мяшчане — калі ласка, у ганаровыя заводчыкі — няма пытанняў, а вось у запаведны палац Вышэйшага Свету — нос не дарос! Крыўдна! Столькі для краіны, а асабліва для Пераемнікаў зрабілі! Каго толькі не падключалі — усё без толку! Грошы бяруць, дапамогу абяцаюць, а потым пры сустрэчы сарамліва вочы ўбок адводзяць. Ох ужо гэтыя бюракраты! Ну што зробіш, відаць, так выпала нашай радзіме: усё можа змяніцца, акрамя хлуслівага і прадажнага службоўца-чыноўніка. Ужо, відаць, зусім страцілі надзею, можна было пайсці іншым і таксама прапісаным ва Указе шляхам: купіць годнасць, уключаючы тытулы. Але гэта ж форменная ганьба, ды і спусташэнне немалое, ды ізноў-такі — усё гэта імяннае, без права спадчыннасці. Бацька прыкупіў, а потым сыну яшчэ раз бацькоўскую годнасць выкупляй? На радзе вырашылі: ніколі! Лепш ужо, калі зусім няймецца, з'ехаць у тую ж Хахлабульбію і за вельмі ўмераныя зайгрыўцы купіць спадчыннае шляхецтва. А можна і яшчэ прасцей: ад'ехаць у адну з Балтыйскіх зон, якія церпяць дэмаграфічныя ды іншыя бедствы, пераспаць з якой-небудзь баранесай, балазе іх тамака на любым скрыжаванні гаць гаці, толькі рукой махні. Галоўнае — падчас сакральнага акта не гаварыць па-руску. Разлічыцца еўрамі ды атрымаць у магістраце гербавыя паперы аб сваім баронстве. Нічога гэтага бацька рабіць не хацеў, а састарэлы дзед пагражаў праклёнам усякаму, хто асмеліцца з сямейнай скарбніцы хоць бы ламаны даляр узяць на пустыя задумы. Тут пра бацькаў медаль і ўспомнілі! І хто ўспомніў? Ён, Енах! Рыхтуючыся да нейкага іспыту, ён уважліва праслухаў Указ аб правілах узвядзення ў дваранскую годнасць і ахнуў! Вось няўклюды! Бацька са сваёй другой ступенню высокай дзяржаўнай узнагароды мае поўнае права на спадчыннае дваранства. Разабраўся ва ўсім і потым цэлую гадзіну тлумачыў бацьку, што да чаго. Слава Богу, усё ўладкавалася. Праўда, высветлілася, што бацькавыя дарадцы



і адвакаты ўсё гэта выдатна ведалі, але вырашылі да пары да часу маўчаць, выцягваючы з бацькі і маці дадатковыя ганарары.

Глыбокія роздумы або чароўную дрымоту пана парушыў служка, які вярнуўся з водарна-струменным кальянам. «Вось глядзі ж ты, прыжыўся-такі ў новай цывілізацыі гэты духмяны гарлач опіякурыльняў распуснага Усходу», — міжволі падумаў Енах.

— Паберажыцеся, пане намеснік, я адвару падалью, а то, мабыць, вадзіца і зусім ззімела.

Енах выцягнуў з купелі ногі ды ў які ўжо раз падзівіўся, да чаго ж мудры і вялікі наш народ. Паўстагоддзя не прайшло, а былыя звычкі і навыкі да слугавання ўжо аднаўляюцца, і, што самае галоўнае, самае, мабыць, глыбіннае — мова спрадвечная, вялікая мова ўваскрасае. Сталічныя штучкі вынайшлі нейкую тарабаршчыну і назвалі яе новай дзяржаўнай мовай. Бясспрэчна, народ ёй з часам авалодае, але гаварыць між сабой на ёй ніколі не будзе, ён да сваёй спрадвечнай вернецца і на тым стаяць будзе. Вядома, народ народам, але і самому не перашкодзіла б у слоўным наробку папрактыкавацца, дзяржслужбовец у генеральскай годнасці як-ніяк. Хоць сібрусінскую мову ён ведаў нядрэнна, у свой час нават вершы на ёй адной аб'еўрачцы пісаў. Але вершы — гэта добра, а вось паператворчасць і кручкатворства — гэтая справа паскладаней будзе.

— Вой, чорт, гарачая! — крыкнуў Енах, матляючы пачырванелымі ступнямі. — Можа, ужо годзе, Прохар?

— Дык чаму ж і не годзе? Можна і выціраць ногі. Дазвольце ручнік. А вадзіца, яна не такая ўжо і крутая, — макаючы ў таз локаць, прамовіў, як бы апраўдваючыся, чалавек, — проста скура вашая далікатная крыху астыла, пакуль я ваду падліваў, а вы хутка ногі ў падагрэтасць і акунулі. Вось ён, канфуз, і выйшаў.

— Добра, братка, ты не бурчы ўжо. Адставіць, мабыць, пакуль ручнік, відаць, ты маеш рацыю, абвыклі ногі, вось ужо і не горача. Давай-ка сюды кальян.

Енах, наогул, не курыў. За ўсё сваё жыццё, у якіх бы калатнечах яму не даводзілася бываць, ён ні разу не запаліў, чым невымоўна ганарыўся, а вось супраць моды свету на кальян выстаяць не здолеў. Ды і як тут выстаіш, калі ва ўсіх салонах, ва ўсіх VIP-клубах ды, відаць, і ў шматлікіх уладных установах, — усюды кальян. Вунь апошні Пераемнік, той, не саромеючыся, прама перад тэлекамерамі да кальяна падсаджваецца. Нават ягонае прызначэнне вокам Пераемніка ў гэтую дзірку без кальяна

не абышлося. Шосты візір, які вёў пры Вярхоўнай канцылярыі кадравыя пытанні, быў заўзяты анашыст і хабарнік, а хабары браў дарагімі кальянамі, лепшыя з якіх перадорваў першай асобе дзяржавы, за што на сваім месцы і сядзеў трывала вось ужо які год. Тоячы агіду да тытунёвага дыму, Енах Мінавіч забароненыя зеллі не паліў, а проста песціўся разнастайнымі водарамі, набіраючы смачны дым у рот і выпускаючы яго праз нос. Адным словам — дурэў. Пагуляўшы са струменьчыкамі шарага дыму, ён адклаў муштук і з прыемным здзіўленнем выявіў на выкшталцоным разьбяным часопісным століку са шкляной стальніцай вялікі кубак духмянай зялёнай гарбаты і дзве срэбныя вазачкі з цукеркамі й здобным печывам.

— А што, Прохар, мой папярэднік таксама ногі перад сном парыў і кальянам песціўся? Ты, памятаецца, мне абяцаў пра яго расказаць?

— Ды годзе вам, пане, — прыбіраючы курыльню і падсоўваючы столік са стравамі, выгукнуў служка, — якое тамака парыць! Ды я, прызнацца, і не прыпомню, калі ён іх мыў наогул. Хіба што раз у тыдзень у лазні, ды і лазні ж не кожны тыдзень мы яму палілі. Дзікім ён быў, вашая правялебнасць. Іншы раз сярод начы як ускочыць, хоп за аўтамат і давай паліць у акно, якое ў нас на раку выходзіць. «Мяне, — крычыць, — проста так за панюх табакі не возьмеш!» — і гранатай туды. Я, пане, гэтулькі страху нацярпеўся. Ды і не толькі я адзін, і мужыкі нашыя таксама. А яны не з баязлівага дзясятка. Многія на Каўказскіх войнах, як і гэты небарака, ваявалі. Добра хоць з ім ардынарца нейкага путнага прыслалі, дык ён патроны сапраўдныя пахаваў, а зброю проста шуміхамі начыніў, ну і з гранат асяродак павыцягваў, так што без крыві ўсё абыходзілася. Ну а так-та службу спраўляў, вядома, спраўна. Увесь уезд яго баяўся. Калі што, на расправу хуткі быў. Ён судоў і канвояў не чакаў. Сам і асудзіць, сам і да вышэйшай меры дэмакратычнай справядлівасці прывядзе. Пасля толькі гэты яго ардынарац пакліча мяне або яшчэ каго дапамагчы закапаць злачынца, а часцей за бутэльку радні нябожчыка аддасць, ды і справа з канцом. Яно, вядома, законам забаронена, але што паробіш — мядзведжы ў нас куток. Сюды покуль гэтыя самыя законы прыйдуць, пасівець паспееш.

— Пра яго майстэрства я чуў. Варварства і свінства поўнае. Ты мне пра яго знікненне распавядзі. Вось дзе туман, а гранаты ды самасуды — гэта ўсё дурасці.

— Авохці, пане, боязна. Можа, на ноч і не варта? Ужо вельмі ж каламутная гісторыя тады здарылася. Ды ізноў-такі — месяц у поўні, і стварэнне гэтае няўрымслівае вые. Вы ўжо злітуйцеся, Енах Мінавіч, га?

Енах перш хацеў націснуць на сваё, але нешта смутнае нібы піхнула яго ўсярэдзіне, і ён не стаў настойваць, тым больш, што час сапраўды быў ужо позні, а заўтра раніцай належала цягнуцца з першым дакладам у губернскі горад да начальства.



## 2

Машка ніяк не магла заснуць. Велізарная, амаль ненатуральная поўня бессаромна глядзела ў яе акно і перашкаджала. Спачатку яна ніяк не давала ёй засяродзіцца на цікавай кнізе (першы том якой яна з зачараваннем праглынула ў горадзе і, абліваючыся слязамі, узялася за другі ў самалёце, калі ляцела сюды, да цёткі), потым загнала за старую, усю ў нейкіх дапатопных колерах, рассоўную шырму, бо варта было толькі Машцы сцягнуць з сябе лёгкую сукенку, як яе тут жа ахапіла смутнае незразумелае трапятанне. Ёй здавалася, што ў пакоі хтосьці ёсць і ўважліва яе разглядае. Начапіўшы на сябе за шырмай тое, што сёння завуць начной кашуляй, Машка расхінула ў сад вялікае двухстворкавае акно. Разам з незнаёмымі гукамі і водарамі ў пакой лёгкім, амаль нячутным павевам запырхнула ноч.

Што мы, смяротныя, ведаем пра гэтую таямнічую валацугу, такую ж пераменлівую і капрызную, як і ўсякая жаночая істота? О ноч, ноч! Якая вялікая неразгаданая таямніца тоіцца ў тваіх цёмных пакрывалах, чаму ва ўсе часы чалавек, пераадолеўшы страх, раствараўся ў табе, шукаючы кахання, разумення і супакою. Можа быць, мы — дзеці ночы? Мы вынырнулі на нейкія імгненні з тваёй беспрасыпнай цемені, павесяліліся ў жорсткіх праменнях дзённага святла, паззялі сваім розумам, несуцішным тэмпераментам, палязгалі дурнотай ды зноў назаўжды згінулі, растварыліся ў тваім усёпаглынальным морыве.

За акном ляжала начная зямля. Спакойная і таямнічая, якой яе калісьці і стварыў Бог адмыслова для сваіх запатрабаванняў, не падазраючы, што адно з яго няўдалых тварэнняў, чалавек, кіне ўсе свае сілы на знішчэнне гэтай нерукатворнай прыгажосці. Вялікі барскі дом, перабудаваны з колішняга закінутага двухпавярховага будынка праўлення саўгаса, ганарліва стаяў на высокім, пар ослым хвояй і кедрам узвышшы. Яшчэ ў старыя часы частку іглістага лесу выкарчавалі і разбілі вакол цагляных уладных будынкаў нядрэнны для тутэйшых мясцінаў сад. Да

нашага часу сад, вядома, ужо моцна збуцвеў, зарос хмызняком і стаў сапраўдным раем для незлічонай колькасці разнастайнай жыўнасці, якая пырхае, цвыркоча і заліваецца на розныя галасы. Мясцовая валадарка, Паліна Захараўна, дзябёлая, высушаная гадамі і працай жанчына, у свае шэсцьдзясят тры выйсці замуж так і не адважылася. У далёкай маладосці, праўда, быў у яе кавалер з мясцовых, было сапраўднае каханне, былі непадробныя салаўіныя ночы, запоўненыя да краёў шчасцем, былі бабіны слёзы і праводзіны на вайну, а потым — казённая папера, якая суха паведамляла, што такі-та там-та і тады-та знік без вестак. Потым была чарната і злосць людская, якая забіла яе так і не народжанае дзіця. Як адляжалася ды як адышла, аднаму Богу вядома. Маці, нябожчыца, выхадзіла. Хоць і самой тады нялёгка было. Яшчэ раней, калі пры другім тэрміне Першага Пераемніка, якога потым у народзе назвалі Вялікім і панабудавалі яму помнікаў-храмаў, пачалі муніцыпальную рэформу, маці адразу дапетрыла і ўзялася за справу. Пакуль мужыкі вечарамі, паддаўшы, чухалі рэпу і п’яна размаўлялі аб карысці і шкодзе муніцыпалітэтаў, маці, пакінуўшы дзесяцігадовую дачку на суседзяў, падалася ў горад ды даведалася, што да чаго. Сабрала ўсе неабходныя дакументы, вярнулася ў вёску ўжо з паперай, якая ўпаўнаважвала яе правесці сход і ўтварыць муніцыпальнае паселішча. Вядома, нічога ўтвараць, як заўсёды, не давялося, сяло ж іх тут стагоддзі два як стаяла. Была проста вёска Званская, а стала муніцыпальнае паселішча вёскі Званская. На шумным і п’яным сходзе (маці і падпойвала, перад гэтым разам з суседкай Еўдакіміхай дзве ночы самагонку гналі) Палініну родзічку аднагалосна абралі кіраўніком муніцыпалітэта. Ну а там панеслася-паехала: зямлю ва ўласнасць перадаваць пачалі, сельгасугоддзі, так тады зваўся цяперашні надзел, у маці ў раёне завязкі поўныя, у вёсцы свой актыў з самотных і непітушчых баб, — так ціхай сапай і стала яна паўнапраўнай гаспадыняй вакольных мясцін. Ферму новую пабудавала, малаказаводзік, каўбасны цэх, добрай тэхнікай абзавялася, мармуровых бычкоў з Японіі выпісала, і гэтае дэфіцытнае і дзіўнае для нашых краёў мяса пайшло да стала ўдзельных і губернскіх начальнікаў. Ну а дзе страўнік задзейнічаны, там заўсёды поспех забяспечаны.

Паліна Захараўна маці любіла і паважала, вучылася ў яе, здаралася, без матчынай парады ні аднаго кроку не рабіла, і калі тая памерла, гаравала дужа, думала, наогул не вытрымае і далей не зможа валачы на сабе гаспадарскія клопаты. Але, відаць, парода адазвалася, закусіла аброць і паперла. Гаспадарку ў перадавыя вывела, людзей уладкавала, школу адкрыла, паставіла новую царкву, завяла цяпліцы. Ордэн нават умудрылася з рук самога Трэцяга Пераемніка атрымаць, так што калі паўстала пытанне аб саслоўях, Паліну Захараўну Званскую без усякіх пярэчанняў узвялі ў спадчыннае дваранства і замацавалі адпаведнай крэпасцю за ёй землі з сялянамі. Вясковыя, дарэчы, асабліва і не супрацівіліся, ім пры Паліне жылося куды лепш, чым у былыя часы. Усё б добра, але гады падціскаюць, а дабро і гаспадарку перадаць няма на каго. Хацела было ўзяць каго-небудзь з дзіцячага прытулку, ды пабаялася чужой крыві. Чужая яна і ёсць чужая, твайго берагчы і прымнажаць не стане. Вось і ўспомнілася, што ў маці была малодшая родная сястра, якая даўно, яшчэ да Палінінага нараджэння з’ехала ў горад ды дзесьці там і згубілася. Розныя плёткі хадзілі па вёсцы, неслі хто што мог: маўляў, і распусьнічала яна там з гарадскімі, і са зладзеямі звязалася, і яшчэ ўсяго гэтулькі, што хоць святых з хаты вынось! Цётку Паліна не знайшла. Памерла яна да таго часу ад шалапутнага жыцця, а вось сястру стрыечную адшукала. Ірына пайшла па матчыных слядах і боўталася пустазеллем па цягніках ды вакзалах. А вось дачушка ў яе цудоўная ўдалася. Замурзаная ўся, а свяцілася, нібыта анёлачак. Словам, старгаваліся яны з сястрыцай, узяла тая грошы, паплакала для парадку, аддала дачку і знікла ў безаблічным натоўпе. Толькі напрыканцы не стрымалася, упарола: «Бабкі, сястрычка, скончацца, дык я табе яшчэ парачку ад якіх-небудзь чурак нараджу, так што не хвалюйся, што сама не можаш!».

Машка дыхала на поўныя грудзі. Там унізе, у садзе і за новай барскай агароджай, на залітых казачным святлом вакольных палях, пралесках, і ў зіхатлівым — як срэбная луска — паўнаводным Чулыме, і ў напоўненых трывогай ценях, — усюды буяніла ціхае, непрыкметнае, незнаёмае і ўсё ж такое роднае і звыклае ёй жыццё. Дзяўчына баялася яго таямнічасці і адначасова да яго цягнулася, разумеючы, што і цела яе і душа з’яўляюцца малой часцінкай чагосьці велічэзнага, моцнага і непадуладнага яе недасканаламу розуму. Госпадзі, як яна марыла вось аб такой ночы там, за мяжой, у задушлівым сваёй чысцінёй і паказной прыстойнасцю пансіянаце! Там таксама быў месяц, былі прыгожыя, нібы захаваныя на глянцавай фатаграфіі, горы, на акуратных лужках пасвіліся амаль стэрыльныя каровы, добрапрыстойныя мамы вадзілі за руку лялечна апранутых дзяцей. Усё было размерна і запраграмавана раз і назаўсёды.

Першыя дзевяць гадоў, пасля таго, як яе забралі ў Ірыны, Машка жыла ў вёсцы, акружаная ўсімі мажлівымі і неймавернымі клопатамі згаладалай па мацярынстве цёткі. Цяпер яна ўжо слаба памятала сваё тое быццам бы чужое жыццё, нават не магла ўявіць сабе пакой, у якім яны жылі з маці. Так, уласна, яна імкнулася і не называць напаўзабытую жанчыну гэтым напоўненым нейкай незямной цеплынёй словам, а калі і даводзілася з кім-небудзь гаварыць аб мінулым, дык называла яе проста па імені. Яе дзяцінства пачалося са спазненнем амаль на шэсць гадоў. Не ўсё з першых дзён і месяцаў новага жыцця яна памятала. Многія смешныя і пацешныя гісторыі ёй пазней распавядала цётка або хтосьці з хатняй прыслугі. Але лепш і смяшней гэта рабіў далёкі цётчын сваяк Прохар, які трапіў спачатку ў казённыя прыгонныя, але сам выкупіўся і застаўся на ранейшым сваім месцы аканомам і служкай у доме намесніка, які месціўся ў старой Чулымскай крэпасці.

Памятаецца, на трэціх, ці што, летніх вакацыях яны сядзелі на верандзе, пілі традыцыйную гарбату і маўчалі. Дакладней, гутарка ішла пра нешта вясковае і яе асабіста мала датычнае. Машка стамілася, але, прывучаная да паслухмянства за тры гады пансіяната, прамяніста і, як ёй здавалася, шчыра ўсміхалася ў адказ на любое цётчына пытанне або жэст увагі. Гэта яна пазней зразумела, што цётку аніяк нельга было абхітрыць падробнай закардоннай ветлівасцю. А тады наіўна думала, што за няшчырай усмешкай можна было схаваць нуду і дзікае жаданне хутчэй збегчы з дваровымі дзецьмі на Чулым. Цётка, адчуваючы фальш любімай выхаванкі, паступова пачала хмурыцца і ўжо памкнулася было адправіць яе з-за стала, і толькі ўзялася за званок, як тут далажылі аб прыходзе Прохара. Цётчыны застольніцы ажывіліся, сама Паліна Захараўна, прадчуваючы забаўку і прыемнасць, заўсміхалася, прыбрала руку з разьбянога касцянога тронка валдайскага званочка і, павярнуўшыся да пляменніцы, сказала:

— Ты ўжо крыху пачакай са сваімі скокамі па стромах ды бесталковым боўтаннем у каламутнай чулымскай вадзе. Пасядзі яшчэ з паўгадзінкі, зрабі ласку цётцы.

— Ды што вы, Паліна Захараўна, я зусім і ў думках не маю ніякіх уцёкаў, — пачала было па-пансіённаму Машка, але раптам зніякавела, залілася фарбай ад сваёй недарэчнай хлусні і, набраўшы поўныя грудзі паветра, горача выпаліла: — Цётачка, міленькая, я так там засумавала па свабодзе, вы ўжо мне выбачайце за дурату. Я, вядома ж, пасяджу, воля вашая.



— Вось у тым жа і рэч, што мая. А хітрыць са мной анягож, тут табе ніякія езуіты, дачка, не дапамогуць. Пасядзі, паслухай Прохара, ён хоць і просты чалавек, — цётка пляснула далонямі, — але можна падумаць — мы складаныя! Вось загадзілі людзям галовы. Ты, Маша, вучыцца тамака, у Швейцарыях гэтых, вучыся, але памятай, што і бедныя і багатыя — усе павыходзілі з тых жа дзвярэй, што і ўвесь народ.

Машка тады грубаваты жарт пра дзверы не зразумела, але цётку паспяшала паправіць.

— Гэта ў мінулым, цётачка, тое месца, дзе я вучуся, Швейцарыяй звалася, а цяпер гэта лектаральная зона Аб'еўра-пяць «Ш»…

— Ох ужо мне гэтыя разумнікі: Аб'еўра, Аб'еўра! Якой толькі муры не панапрыдумлялі? Мала таго, што самі сабе галовы свае тоўстыя гэтым шалупіннем пазабівалі, дык яшчэ і дзіцячыя галоўкі па нявіннасці сваёй пакутаваць павінны. Ну ці не супастаты, га? І нашыя кіраўнікі туды ж! Ёлупы, прабач Госпадзі, чаго ўпаролі: Расію ў Сібрусію пераназвалі. Ці бачыце, сусветная прагрэсіўная супольнасць бянтэжыцца гэтага назову як сіноніма рабства і таталітарызму, а то, маўляў, Нямеччыны няма як напаміну аб фашызме, а Расія — як костка ў горле, тырчыць у пашчы ўсяго добрага свету. А я, асабіста, не ведаю, ці добры гэта свет для маёй вёсачкі?

— Так іх, матухна! Так іх, падшыванцаў паршывых! Папераназывалі ўсё, аспіды, цябе, наймудрую, не спытаўшы. Нядобра!

— Што яны не спыталі — гэта паўбяды, а вось ты ж, пень стары, чаго гэта са сваёй інваліднай камандай узяўся маю атаву касіць?

— Дык, Паліна Захараўна, злітуйся, гэта ж землі, якія адышлі яшчэ ў пазамінулым леце да Чулымскай крэпасці! У нас жа і папера ёсць, і размалёўка твая імперская на памежным плане маецца, так што па ўсіх канонах сваё крэўнае косім.

— Гэта ж з якіх часоў табе казённае крэўным стала? Што, з прыгонных выбраўся — і ўжо старанны служака? Глядзі, не спаліся! А можа, ты ў каменданты крэпасці меціш? Ужо вельмі даўно месца Намесніка пустуе. А што, давай, мітусіся, глядзіш, пад старасць і кар'еру зробіш! Я табе і пратэкцыю, калі спатрэбіцца, складу. Ты ж ведаеш, у мяне сувязі і ў губерні, і ў сталіцах. Адзін Сямён Міхайлавіч чаго варты! Быў жа смаржком, казюлькай, паршывым інструктарчыкам райкама камсамола, а

сёння, глядзі ты — яснавяльможны князь! Ох, ужо часы пайшлі, мудрэй, чым пры ўсякіх прошласцях якіх.

— А чым табе часы дрэнныя? — цалуючы прысутным рукі, не змяншаў жартаўлівага тону Прохар. — Няўжо ж ты б у іншыя часы праўленне саўгаса-мільянера пераабсталявала пад барскі дом?

— Ну, дапусцім, пачала будаваць не я, а мая родзічка, ды і кадзёлка гэтая стаяла разрабаванай ды кінутай гадоў дваццаць, толькі ваколіцу сваім выглядам паганіла. Годзе пярэчыць, ідзі глядзі, хто да нас завітаць вырашыў.

— Бацечкі святыя! А я ж, сляпы дурань, думаю, што гэта за сонейка тамака бліскоча? Маладая барынька з замежжаў прыбылі! А выраслі, выраслі як! Роўна нявеста! Нябось, тамака ўжо панічы так і кружаць? Дазвольце, Марыя Захараўна, ручку для роднаснага, так сказаць, цалавання!

— Эка цябе, Прохар, панесла! Што гэта ты, не раўнуючы, як лёкай або тракціршчык які закудахтаў! Панічы, панічы! Я табе дам «панічы». Вывучыцца спачатку хай, на ногі стане, а панічоў мы і дома знойдзем сваіх, дужых ды наравістых, праўда, Машка?

Але адказаць Машы не далі, ды, мяркуючы па ўсім, адказу яе на гэтае далёкасяжнае пытанне і не патрабавалася.

— А ці памятаеш ты мяне, Машка? — дастаючы з кішэні нейкую цудоўную, выразаную з блакітнага каменя, фігурку, ласкава спытаў Прохар. — Мы ж з табой роўненька пяць гадоў не бачыліся. Гэта якраз з таго лета, калі цётачка цябе да нас на адкорм і прывезла…

— Прохар, што гэта яшчэ за «адкорм»? Як пра бычка якога-небудзь кажаш, а не пра дзіця, — напусцілася было на яго Паліна Захараўна, але, убачыўшы блажэнную асобу старога, які бабылём дажывае век і хінецца да гэтай кветачкі як да цудоўнага пасланца, які пацягне і далей іх радавую нітку, з разуменнем уздыхнула ды пачала аддаваць нейкія распараджэнні…

Маша ўсё яшчэ стаяла ля акна, і яе чароўныя блакітныя вочы ніяк не маглі насыціцца відовішчам месяцовага паднябесся, а памяць без аглядкі на строгія вокрыкі выхавальнікаў выцягвала і шчодра рассыпала, як неацэнныя скарбы, радасную і яркую мазаіку яе ўжо закончанага дзяцінства. Яна не была дома два гады. Пазамінулым летам цётка моцна захварэла, і, даведаўшыся аб тым, Маша на злом галавы кінулася за ёй на курорт у Карлавыя Вары. Час, праведзены разам, іх тады вельмі моцна зблізіў.



Колькі ўсяго было перагаворана, перадумана, перааспрэчана, пераплакана. Калі Паліне Захараўне стала зусім дрэнна і лекары толькі спагадліва ўздыхалі, Маша сядзела з ёй неадлучна, і начамі, калі ёй здавалася, што цётка заснула або знаходзіцца без прытомнасці, яна давала волю сваім слязам і гадзінамі раўла, молячы Бога пашкадаваць «матулю» і вярнуць ёй здароўе. Так, менавіта тады яна ўпершыню назвала Паліну мамай, дакладней, гэтае слова само неяк сарвалася з яе вуснаў. Спачатку Маша спалохалася яго, а потым узрадавалася. Ёй раптам стала спакойна, утульна і вельмі лёгка.

Цётка акрыяла. Пасля ўжо, з'ехаўшы дадому, яна напісала Машы ў лісце, што гэта яна, маўляў, вымаліла яе ў Бога. А потым была ў іх доўгая перапіска. Дзіўная для нашага часу прыдумка, якая выклікала шмат кпінаў і перагавораў як у пансіёнскіх сяброўак, так і ў адміністрацыі.

Летась перад заканчэннем курса іх адправілі на стажыроўку і адпачынак у Амерыку, якая цяпер завецца па-новаму — Афраюсіяй. Гэта была абязалаўка, без якой ні адна прыстойная навучальная ўстанова не мела права выдаць сертыфікат свайму выпускніку. Эталонная краіна і абавязковая паездка туды стала для маладога папаўнення заможных грамадзян свету чымсьці накшталт дзіцячых прышчэпак, якія гарантуюць захаванасць іх маральнага ды ідэалагічнага здароўя ў будучыні. І вось гэтыя два доўгія гады нарэшце ззаду. Яна зноў дома. Звар'яцець, цэлыя два гады яе не было тут! А вакол нічога не змянілася, нават пах у яе пакоі. Як жа тут добра! Машцы захацелася скінуць з сябе празрыстую кісяю адзежы, выскачыць у разамлелы ад ліпеньскай пяшчоты сад і з дзіцячым віскам купацца ў гэтым цудоўным нябесным святле, што пругкімі серабрыстымі струменямі лілося на спакойную спелую зямлю.

Спіну лізнуў асцярожны халадок. Машка ўздрыганула і, скурчыўшыся, азірнулася на прачыненыя дзверы. У пакой асцярожна ўвайшла Паліна Захараўна.

— Мама!.. — маладая дзяўчына птушкай пырхнула насустрач.

3

Агідныя ў Расіі раніцы! І гэта праўда. Як бы гэтую краіну ні абзывалі: ці азіятчынай, ці саўдэпіяй, новай або старой імперыяй, ці дэмакратычнай федэрацыяй, ці Сібрусіяй, — гэтае гадлівае адчуванне ў большасці асобаў абодвух палоў застаецца

нязменным. Карацей, змяніцца можа ўсё, але пахмельная раніца застанецца. Бы-р-р-р…

Генерал-Намеснік Урза Піліпавіч Верабейчыкаў абуджаўся з цяжкасцю. А калі па праўдзе, дык саноўны муж адыходзіў ад цяжкага п’янага сну часткамі. Першым узбурваўся мачавы пухір. «Вечна гэтай гадзіне няймецца, — праплыла першая думка ў дзяржаўнай галаве, — аднёс бы хто яго, паскуду. — Следам за пухіром завуркатала нутро, потым заёкала сэрцайка, потым ніякавата пазяхнулася і балюча скрывіла левую скулу, на ілбе, тоўстых шчоках і зморшчынах шыі выступіў ліпкі агідны пот. — Ну й паехала! Трэба зваць сатрапаў, больш паспаць не атрымаецца».

— Гэй! Гамадрылы! Спіце, лайдакі?

— Ніяк не, ваша высокая правялебнасць спадар Генерал-Намеснік яго светласці Прэзідэнта-Імператара па Барабінскай асобнай акрузе. Мы на варце і гатовыя да выканання любых вашых наказаў! — бадзёрымі, але злёгку сіпатымі галасамі складна-завучана выдалі два дзяржслужбоўцы па адмысловых даручэннях, забягаючы ў спачывальню.

Урза Піліпавіч быў чалавекам гадоў пад шэсцьдзясят, сярэдняга целаскладу, з бясколернымі вадзяністымі вачыма, што блішчалі бязглуздымі гузікамі на круглым, як блін, твары, цалкам пазбаўленым якіхсьці прыкметаў інтэлекту. Да гэтай высокай пасады ён доўгія гады праслужыў па ваеннай частцы, вялікіх чыноў не меў, але ў апошняй Каўказскай вайне вызначыўся вельмі незвычайным чынам. Калі натоўпы звар’яцелых фанатыкаў з ваяўнічымі крыкамі «Алах акбар!» кінуліся на кволыя пазіцыі нашых войскаў, генерал Верабейчыкаў адзін з велізарным, у свой рост, партрэтам Прэзідэнта-Імператара пайшоў у контрнаступленне. Ужо невядома чаго збаяўшыся, басурмане спынілі бязладную страляніну і павярнулі назад. Фронт быў выратаваны, стомленыя ад бязмэтных санітарных стратаў і непрабуднай п’янкі салдаты вярнуліся на свае рэдуты. Пра подзвіг генерала расказалі Яснавяльможнаму Дэмакрату, і той падабраў для свайго вернага салдата больш ганаровую і статусную пасаду. Вядома, пасля знайшліся зайздроснікі і кляўзнікі, якія паспрабавалі сказіць сутнасць гераічнага ўчынку генерала, распаўсюджваючы гнюсныя здагадкі аб тым, што Урза Піліпавіч загадзя дамовіўся з каўказцамі і ледзь ці не падкупіў іхніх верхаводаў. Была і іншая катэгорыя, якая весела скаліла зубы: «Верабейчыкаў — дзьмутая шэльма і заўзяты нахабнік, усё пралічыў наперад і здзейсніў публічнае ашуканства. Базар-бузукі (а менавіта так



іх цяпер, з лёгкай рукі журналістаў канца мінулага стагоддзя, усіх кагалам і назвалі, не робячы адрозненняў паміж грузінамі, азербайджанцамі, чачэнцамі ды іншымі -янамі ды -інамі) ні за якія грошы не дазволілі б страляць у партрэт галоўнай асобы дзяржавы, з якім яны імкнуліся ўз’яднацца. Маўляў, падобнае блюзнерства адкінула б далёка назад цяжкія і заблытаныя мірныя перамовы аб добраахвотным звароным уз’яднанні Каўказа з Сібрусіяй, з-за чаго, пэўна, і ішла пятнаццаты год шостая Каўказская вайна». Пакінем на сумленні тых ды гэтых здагадкі аб праўдзівых прычынах каўказскай трагедыі, аповед пра якія наперадзе, а вернемся да канчаткова разбуджанага генерала.

— З апахмеліцам вас, Урза Піліпавіч, — прымаючы апусцелую і яшчэ потную ад лядоўні чарку, вымавіў, кланяючыся, Ірван Сідаравіч Босанька, найбліжэйшы да Генерала-Намесніка чалавек. Якіх толькі плётак пра яго не хадзіла ў акрузе! Але й пра тое пазней… А цяпер раніца генерала.

— Душу, Ірван, чаркай не абдурыш! Давай, налівай яшчэ адну, і баста! Усяму свой час, вып’ю другую — і прыбірай гэтую згубніцу паўназадую з вачэй маіх, — ён зрабіў пальцамі какетлівую «казу» зялёнай старадаўняй бутэльцы, з якой нязменна піў ужо гадоў дваццаць, прымушаючы падначаленых трымаць бутлю заўсёды поўнай і астуджанай.

— Ну, дзве толькі на памінках п’юць, Урза Піліпавіч, — не даючы перадыхнуць, Босанька падаў і трэцюю.

— Угаварыў, угаварыў, ты і слуп тэлеграфны ўгаворыш. Эхма, — генерал перакуліў і трэцюю, — мацнее з кожнай чаркай змяіны вырадак. Усё, апранацца і — у Прадстаўніцтва.

Прадстаўніцтва Генерал-Намесніка размяшчалася ў шэрым, непрыкметным, прысадзістым будынку з чатырма квадратнымі калонамі, неяк аляпавата прытулілася сярод жылых шматпавярховікаў на адной з пыльных абшарпаных вуліц цэнтральнай часткі акруговага горада. Пусты недагледжаны двор быў падобны больш на вайсковы пляц з фігурнымі асфальтавымі латкамі. Кажуць, у гэтым будынку калісьці даўным-даўно размяшчаліся банк і публічны дом адначасова, і грамадзяне маглі атрымаць належныя ім па фундушах адсоткі ў натуральным, так сказаць, выражэнні: паслугамі дзяўчат з паніжанай сацыяльнай адказнасцю. Установа квітнела доўгія гады, а потым растварылася ў свежым паветры зменаў разам з грошыкамі фундатараў, пакінуўшы за ўсё расхлёбвацца бедных прастытутак. Усярэдзіне ўсё так і засталося: шырокія мармуровыя прыступкі, паркет, у

правым, меншым, крыле на другім і трэцім паверхах — прасторныя кабінеты і офісы былога банка, у левым — малюсенькія працоўныя пакойчыкі жрыцаў кахання. Па немаведама кім заведзенай традыцыі ў галоўным будынку прадстаўніцтва адмысловай акругі на сценах калідораў уладкоўваліся выставы мясцовых мастакоў, з-за чаго казённы будынак часамі прымаў ваўкаваты выгляд і быў падобны то на батлейку хакаскіх разбойнікаў часоў Чынгіз-хана, то на стойбішча алтайскіх шаманаў.

Як і кожная паважная казённая ўстанова новага часу, Прадстаўніцтва выконвала прадстаўнічыя і каардынацыйныя функцыі, ні за што не адказвала і нічым не кіравала, гэта значыць, фактычна нічога не рабіла. Вядома, скажы вы гэта ўслых у калідорах улады, вас бы ўміг скруцілі б у абаранак. Як так, амаль паўтысячы чалавек — і нічога не робяць?! Такога быць не можа! Яны ж усе штомесяц атрымліваюць заробак, розныя там надбаўкі і прэміі, даплаты за сакрэтнасць і выплаты за асаблівыя ўмовы працы, пайкавыя, праязныя, камандзіровачныя ды іншыя, іншыя, іншыя. Дакладней, не іншыя, а нашыя крэўныя, якія штомесяц браты-службоўцы спраўна выварочваюць з народнай кішэні! Можна было б і так крыкнуць, ды вось няма каму. Пасля вялікай бюракратычнай рэвалюцыі, якую пры Другім Пераемніку ўчудзіў мысляр сусветнага маштабу і, як вядзецца, выбітны дзяржаўны дзеяч Дзіянісій Казёл, службоўцы канчаткова адолелі народ і перамаглі разумны сэнс, балазе, казлінае насенне ўпала на за стагоддзі ўгноеную і апрацаваную глебу.

Працоўны дзень Генерал-Намесніка пачынаўся з прыёму дакладаў. Першым, як правіла, заходзіў Мустафій Муфланавіч Скліcь, генерал на выданні, які кіраваў у акрузе курыраваннем усякіх поскудзяў і пошасцяў, чалавек утойлівы і каварны.

— Дазвольце, Урза Піліпавіч? — з годным паўпаклонам праціснуўся ў кабінет Скліcь…

— А чо тут дазваляць, калі ты ўжо тут? Садзіся, дакладвай!

— У цэлым становішча ў акрузе стабільнае, за мінулыя суткі ніякіх няштатных сітуацый не было. У Чулымскім удзеле зноў пачаў выць сабака…

— Што, ужо поўня?

— Так. У тым жа ўдзеле працягваюць пашальваць ліхія людзі…

— Хто такія? Ці распачаты разгляд па факце вытвараных імі бязладдзяў? А што яны дзеюць на самай справе?

— Разгляд і следства распачатыя яшчэ ў мінулым годзе, ды вынікаў пакуль ніякіх няма. — Бачачы насупленыя бровы кіраўніка, якія прадвяшчалі пачатак разносу, Мустафій Муфланавіч паспяшаў апраўдацца: — Ды няма ў тым нашай віны. Удзел той убогі, скрайні, аддалены, тамака якога толькі паскуддзя не ашываецца: і беглыя, і ўйгуры, і разбойныя хеўры хакасаў, і купленыя сяньзянцамі шорцы. І зноў-такі, ужо скора дзевяць месяцаў няма над удзелам дзяржаўнага догляду…



— Ну дык вось ты і едзь туды, бацечка, ды і дагледзь, — з закіпелай злосцю прашыпеў Генерал-Намеснік.

— Не сярдуйце, вашая высокая правялебнасць, намеснік Намесніка туды ўжо тры тыдні таму прызначаны. Вы ў той час мелі літасць адпачываць з князем Ван-Пятровым Тэр-аглы. А новы прызначэнец — сталічная штучка, у замежжах выгадаваны і засланец вядомага роду колішніх алігархаў Понт-Калаційскіх. Енахам Мінавічам зваць.

— Пачакай жа ты! Дык я ж яго дзеда памятаю, ды і бацьку, Міну, добра ведаю, — намеснік задумаўся, прымружыў вочы.

Мустафій заціх. Ён ведаў, што ў падобныя імгненні лепш растварыцца, ператварыцца ў пыл, з'есці самога сябе знутры, чым выдаць хоць бы гук або малаважны рух здзейсніць. Не дай Бог! Бо менавіта ў гэтыя секунды ў дзяржаўны розум заходзіла яе вялікасць Думка. Дама капрызная і няпэўная, са сваімі выкрутасамі і вычварэннямі, і ў апошні час не пацыкала ўвагай састарэлага генерала.

— Ты вось што, Мустафій, пакліч-ка да мяне гэтага алігархіка. І трэба яшчэ… — Урза Піліпавіч знарочыста замоўк, як бы мераючы важкасць тых слоў, якія прасіліся вонкі. — Хоць не, гэта потым. Працягвай дакладваць.

— Слухаюся. У Томскім удзеле ўдзельны староста п'янстваваў сумесна са старасціхай, а затым распачаў бойку з пратэстанцкім прэсвітарам на глебе рэлігійных дэбатаў аб цноце, але неўзадаўжкі ўсе памірыліся, працягнулі папойку, а потым сумесна пабілі мулу, які праязджаў міма з гарэмам ды па няведанні мясцовых звычаяў спаслаўся на Каран і не пажадаў далучыцца да застольнай дыскусіі. Мула ганебна збег, а гарэм застаўся і, падрапаны старасціхай ды іншымі добрапрыстойнымі дамамі, хаваецца дзесьці па навакольных засценках. З гэтай прычыны адзначаныя частыя адлучкі мужчынскага насельніцтва ўдзелу ў невядомым кірунку.

— А гарэм-та хоць варты?

— Людзі, якія разбіраюцца і прымалі ўдзел… ну ў гэтых, як іх…

— Шурах-мурах, дурань!

— Так і ёсць! Кажуць, варты гарэмец…

— Пашлі каго-небудзь, ды разумнейшага, хай праінспектуе, і пасля медагляду да мяне!

— Ужо ўсё выканана.

— Ну, — хмыкнуў генерал, — тады працягнем.

— Ва Угарскім удзеле суцэльная смута. Староста і муніцыпальны старшыня падбіваюць халопаў і несвядомых памешчыкаў пісаць чалабітную Прэзідэнту-Імператару аб нібыта вытвараным вамі ў ваколіцы бяздзеянні, — і, як бы апярэджваючы начальніка, Мустафій дадаў: — Выведнікі адпраўленыя, комплексная праверка рыхтуецца і да вечара будзе на месцы.

— І каб не міндальнічалі. Бяздзеянне ім, ці бачыце, не падабаецца, ну, можа, дзеянне больш даспадобы прыйдзецца. І глядзі, каб старасту ў калодкі па выніках агляду, а памешчыкаў з бунтаўшчыкоў лупцаваць публічна; маёнткі з малатка, толькі вось апошняе — з казённага малатка, а не з твайго! Ты мяне зразумеў?

— Чаго ж тут не зразумець? Малаток жа ў мяне адзін, вашай мосці, так што як загадаеце. У Гор-Чамальскім удзеле староста на пасяджэнні народнага каганату вас, прабачце за гадкае слова, назваў прыдуркам.

— Надакучыў мне гэты ганаровы свінапас на пенсіі! — тупнуў пад сталом нагой начальнік. — Гэта ж трэба, што ні каганат — адно і тое ж, хоць бы ўжо разнастаіў, ці што? Давай далей. Сам ведаеш, што гэты стары ішак — далёкі сваяк другога візіра Прэзідэнта-Імператара.

— Ну, на тэрыторыях больш асаблівa ніякіх нюансаў не было. У апараце таксама руціна, выказванняў і знеслаўлення не заўважана. Блудадзеяць усе па-старому, праўда, сакратарка вашай намесніцы паклала вока на намесніка па Гор-Чамальску.

— Вось каза! А ты яе адпраў да ўлусаў з перадвыбарнымі ўлёткамі, хай сабой за кандыдатаў ва Усенародны Усевялікі Курултай паагітуе. Бач чаго заманулася — на бок хадзіць, быццам майго сакрэтнага распараджэння не ведае, усё павінна заставацца ў родным калектыве. Ідзі, голубе.

Наступным заходзіў намеснік па тэрыторыях і кантролю. Потым — па забаўках і народнай весялусе, потым кадры, ну і напрыканцы так, чыноўная дробязь. Пра яе можна было б і не згадваць зусім, калі б яна, гэтая дробязь, не выконвала вельмі важную апаратную працу — «стукаць» на сваё начальства. Вядома, рабілася гэта таемна, у высокі кабінет заходзілі пад якой-небудзь бязвіннай падставай або па загадзе шэфа, каб, не прывядзі Госпадзі, тваё непасрэднае начальства ў чым-небудзь гэтакім не западозрыла. Наогул галоўным клопатам айчыннай мадэлі ўлады была барацьба за прамы доступ да валадарнага цела. І калі ўлічыць, што ўладныя калектывы амаль цалкам складаліся з асобаў моцнай паловы, то проста нейкі Садом з Гаморай атрымліваўся: усіх цягнула да начальніка, а самога начальніка — да яшчэ больш высокага валадарнага цела, і так, пэўна, да самага верху.



Верабейчыкаў быў дасведчаным, хоць і салдафоністым кіраўніком і на ўсю моц заахвочваў падобнае спаборніцтва, у якім бачыў запаруку непахіснасці персанальнай улады, без якой краіна немінуча загразла б, па ягоным разуменні, у крывавым хаосе.

Пасля дакладаў ішло чытанне штодзённай мясцовай прэсы. Хоць газеты ўжо даўно лічыліся атавізмам, але менш іх ад гэтага чамусьці не станавілася. Відаць, Міністэрства народнай маральнасці і цноты, робячы папраўку на народную тупасць, забітасць свядомасці, а таксама ведаючы аб прыхільнасці простага люду да традыцыйнага нямэтавага выкарыстання друкаванай прадукцыі, не зніжала наклады перыядычных выданняў. Верабейчыкаў газеты чытаў не з цікаўнасці, а з недаверу да сваіх падначаленых, пісанні якіх, як правіла, ігнараваў і лічыў пустым пераводам паперы. Вычытаўшы якую-небудзь крамолу, што здарылася ў якім-небудзь з улусаў ці ўдзелаў, ён тут жа склікаў нараду і задаваў форменны разнос усім і ўсялякаму. Пераканаць яго ў тым, што гэта ўсё дурата і выдумкі кручкатвораў, было немагчыма. Не, вы толькі не падумайце, што саноўніка злавала недасведчанасць падначаленых ці спроба што-небудзь ад яго ўтаіць. Не, ён шалеў усё з той жа прычыны: бруд выйшаў вонкі, так, чаго добрага, і да сталіцы можа дайсці, а ўжо там знойдзецца безліч ахвотнікаў усё гэта сказіць, прыманіць яшчэ з тры палукашкі і данесці да манархавых вушэй у такім выглядзе… што ўжо лепш і не казаць!

## 4

Пры ўсёй ліпеньскай цеплыні перадсвітальнай пары ў гэтых краях, як правіла, зімна. Частая раса, нібы зямныя слёзы, выбельвала густую зеляніну і блякла цьмянела на траве, лісці дрэў і прыдарожных кустоў, і яны, перапоўненыя гэтай матэрыялізаванай з ніадкуль вільгаццю, прагіналіся і пралівалі тоненькія сцюдзёныя струменьчыкі. Росная белізна трымалася

толькі да першых промняў узыходзячага сонца. І варта яго асляпляльна яркім пасля ночы і перадсвітальнага змроку промням зваліцца на зямлю, як матавы налёт імгненна ператвараўся ў казачныя россыпы, якія загараліся мільярдамі рознакаляровых іскрынак і блікаў. Шараватая маса на кожным лісточку, кожнай націнцы прымала свае адценні, кожная расінка перад тым, як бясследна знікнуць, ператваралася ў яркую крыштальную сферу, якая адлюстроўвае ў сабе ўвесь свет. Магчыма, тое ж самае адбываецца і з чалавекам, толькі паспрабуй ты адгадай свой час.

У цэнтр выехалі яшчэ зацемна, дарога, хоць і не далёкая па тутэйшых мерках, але ўсё ж дарога, патрабавала сваіх трох гадзінаў хуткай язды. Трэба аддаць належнае апошнім двум Прэзідэнтам-Імператарам, чаму-чаму, а дарогам пры іх кіраванні (а гэта, відаць, гадоў дзевяць) надавалася самая пільная ўвага. Да гэтага падштурхоўвалі і нацыянальны гонар, і эканамічная неабходнасць, і пагроза міжнародных санкцый аж да пазбаўлення дзяржаўнай самастойнасці. Асабліва хутка і спрытна дарожныя справы ішлі пры папярэднім кіраўніку. Ён вынайшаў войны па дамоўленасці з кітайцамі, балазе, з імі мог ваяваць любы, ці жарт — чатыры з паловай мільярды народу! І вось з дазволу Усясветных Захавальнікаў волі і дэмакратыі айчынны Дэмакрат-Самадзержац аб'яўляў нашчадкам хунвэйбінаў форменнае «іду на вы», прыбіраў з мяжы чалавек сто пяцьдзясят вартаўнікоў, і полчышчы ханьцаў урываліся на абшары роднай айчыны. Праўда, гэта былі дзіўныя войскі, узброеныя ў асноўным лапатамі, кетменямі, сітамі для прасейвання пяску ды іншай немудрагелістай будаўнічай усячынай. Войска ішло з дзеткамі, хатнім скарбам, начыннем і жыўнасцю, а галоўнае — з рускімі народнымі песнямі на вуснах. Калі праз святыя межы перавальвала мільёнаў пяць-шэсць, варта вярталася на ранейшыя месцы, сапернік аб'яўляўся акружаным і ўзятым у палон. Ладзілася доўгачаканае перамір'е. Кітайскія таварышы дзяжурна звярталіся да сусветнай супольнасці з пераканаўчымі просьбамі забяспечыць гуманныя стасункі з палоннымі, спрыяць імкненню вярнуцца на гістарычную радзіму і ўступалі ў доўгія перамовы аб спрэчных тэрыторыях. Але палонныя назад у Паднябесную і не збіраліся. Усю гэтую разнастайную масу ў спешным парадку раскідвалі па асобных акуёмах і ўдзелах, ставілі на будаўніцтва дарог, і гады праз два ўтоенага рабства, запісаўшы кіргізамі або бурятамі, адпускалі на ўсе чатыры бакі. Высокія бакі-ворагі заставаліся задаволеныя і, праз нейкі час, змацоўвалі сваю задаволенасць чарговай доўгатэрміновай мірнай дамовай. Пры гэтым айчынны бок спяшаўся ў чарговы раз паведаміць сваёй і сусветнай грамадскасці аб рэзкім росце колькасці насельніцтва Імперыі, абумоўленым, вядома ж, ростам жыццёвага ўзроўню падданых, а таксама аб пазбаўленні ад першай паловы адвечнага расійскага праклёну — кепскіх дарог. Хто так кажа — або нахабна паклёпнічае, або папросту не ведае цяперашняй нашай рэчаіснасці, іх ласкава просім — прыязджайце і самі пераканаецеся ў якасці і колькасці нашых шляхоў-ростаняў. Пра другі складнік часткі нашых бедаў — дурняў — бацькі роднай дзяржавы сарамліва маўчалі, і, можа, яно й правільна.



Дарога шырокай шэрай змяёй, пабліскваючы на ўздымах і выгібах, павольна вілася па маляўнічым краявідзе. Буркатлівы матор, манатоннае калыханне, слабы чад выхлапных газаў і прыгарэлага масла, парыпванне і меладычнае пахрустванне стваралі ні з чым не параўнальны мікрасвет айчыннага сродку самаперамяшчэння. Можа, сусветны аўтапрагрэс сышоў кудысьці далёка і Аб'еўра ганяе на суперкарах, але мы, падпарадкоўваючыся прыроджанаму інстынкту месіянства, як стаялі, так і стаім на сваім: маўляў, адзіная выратавальная вера — праваслаўе, а лепшай машынай для чыноўнага люду і заможных грамадзян быў і застаецца цуда-аўтамабіль «Волга». І нікога не павінна бянтэжыць, што вялікая частка гэтай вялікай некалі рускай ракі ўжо даўно адышла незалежнаму Татарстану, а той у сваю чаргу раскалоўся на тры варожыя арды і цяпер актыўна спрабуе ўключыцца ў Каўказскую вайну па зваротным уваходжанні ў склад вялікай Сібрусіі. Справа гэтая, па сцвярджэннях аналітыкаў і паліттэхнолагаў, можа мець вехавае значэнне: з вяртаннем татараў адкрываецца відавочная перспектыва ўзнаўлення былой Расеі. Вядома, пакуль без гэтага назову, які палохае ўсіх сваёй дакучлівай любоўю, без сусветных замашак, але ўсё-ткі! Чым мы горшыя, скажам, за амерыканцаў, якія ўжо амаль дамагліся рэабілітацыі ранейшага назову сваёй дзяржавы — ЗША — наўзамен цяперашняга — Афраюсія. Краіну эталонную пераназвалі гэтак гадоў пятнаццаць назад, па агрэсіўным волевыяўленні пераважнай большасці тамтэйшых грамадзян адпаведнай афарбоўкі.

Эх, дарога, дарога, якія б кітайцы не закулі цябе ў шэрую браню заходняга асфальту, ты ўсё роўна застанешся родным, пыльным, разгулістым і небяспечным расійскім шляхам. Ляціш ты па-ранейшаму ў неўтаймаваную далеч, закіпае кроў ад

мільгацення тваіх паласатых верставых слупоў, і здаецца — няма і не будзе табе канца.

Але не гогалеўская брычка неслася па гэтай дарозе, а грукатлівая і чадная (ад прагарэлага глушыцеля) казённая «Волга», а ў ёй — не заўчасна забыты і выкінуты са школьных падручнікаў Чычыкаў паўдрамаў на сядзенні, а нехта яшчэ не вядомы свету, але гэтак жа, як і яго папярэднік, ён прагнуў славы, багацця і дабрабыту.

Думалася Енаху Мінавічу дрэнна. Раздражняла ўсё: і нявыспанасць, і ўбогасць службовага сродку перамяшчэння, і нявызначанасць з дакладам, і нуда, якая пачынала паволі падточваць дзейную авантурысцкую душу, і яшчэ цэлая куча розных дробязяў, назовы якім з наскоку і падабраць складана. Кіроўца, нелюдзімы мужык з вечным чорным да сіні шчаціннем на запалых шчоках, пакрыўджана маўчаў, учапіўшыся за руль. Пасля першай жа паездкі з Берыем, а менавіта такім дзівакаватым імем яго ўзнагародзілі бацькі, Енах паскардзіўся Прохару на незадаволены выгляд шафёра.

— А хопіць вам, пане, не звяртайце ўвагі, ён заўжды такі, як толькі есці захоча, а ўжо чаго-чаго, а напхацца ён ахвотнік заўсёды і, галоўнае, ніколі не наядаецца! Вось такі канфуз і атрымліваецца. З ім нават дзеўкі звязвацца не хочуць, кажуць, нібыта пры гэтых справах і крэкча-мыкае, а пыса ўсё адно кіслая. Не звяртайце ўвагі і ўсё тут. Бо іншага шафёра па-любому нямашака. Абвыкнецеся, дасць Бог, як-небудзь!

За акном бясконца цягнулася тайга.

«Які дурань знаходзіць прыгажосць у гэтым бессэнсоўным нагрувашчванні дзелавой драўніны? Гэтулькі грошай знікае дарма, бо перастойвае лес! Калі ўжо мы пазбавімся ад гэтай бязладнасці? Ну вось, Енах, ты ізноў за сваё! І хто гэта такія «мы»? Мы гэта якраз ты і ёсць, ад цябе і залежыць гэтае збавенне. Не аб драўніне лепш думай, а аб сваім дакладзе. З першага разу не спадабаешся Генерал-Намесніку — ніякія сталічныя сувязі не дапамогуць. А ён, гэты Верабейчыкаў, кажуць, з куляй у галаве, ледзь што — адразу за тэлефон і ну Цару наярваць. — Недалюбліваў і пабойваўся Енах Мінавіч вайскоўцаў, хоць і былых. — Дзіўны яны народ. За душой ні паўграша, а гонару на ўзвод алігархаў хопіць. І галоўнае, грошы ж возьмуць, але тут жа пры табе іх на вецер пусцяць і з паршывым пятаком у кішэні кінуцца абараняць інтарэсы Дзяржавы і Самадзержца, а цябе, замест таго, каб дзякаваць, так і мецяць у хабарадаўцы запісаць. Дуб'ё, адным словам! Непрадказальны чалавек горшы за злодзея. Злодзей — ён што! Ён свой, душа яго як на далоні, ён не самае складанае стварэнне цывілізацыі, звычайны дзелавы чалавек, і жадае таго ж, што і ўсе: укласці менш, а лепш, наогул нічога не ўкладваючы, атрымаць пабольш. Сродкі антыгуманныя? А хто полюсы гэтага гуманізму вызначае? Ну не курултайцы ж, насамрэч! Тыя самі адно жуллё і хапугі, таксама мне народныя выбраннікі, тарэкалы заказныя. Хто ботала падвесіў, для таго і звоніць. Ізноў ты, Енах, па выбоінах ды рытвінах паляцеў. Вярніся на зямлю. Пра знаёмства з начальствам думай, аб тым, як прывітанне ад баці лаўчэй перадаць. Па словах бацькі, яны з Верабейчыкавым адзін час дружкаваліся і нават круцілі каханне з адной і той жа дзяўчынай, якая адначасова з задавальненнем даіла і маладога афіцэра, і пачаткоўца банкіра. Так што на мужчынскім слэнгу яны — нібыта як і парадніліся, сталі малочнымі братамі. Выходзіць, я свайму начальніку малочны пляменнік, калі такія, вядома, бываюць?»

Уздоўж дарогі замігацелі рэкламныя плакаты: звалі і прапаноўвалі, пераконвалі і заклікалі. Бурлівая дурнота рэкламнага бізнесу яшчэ ў канцы мінулага стагоддзя як лінула ў айчыну, якая дапала да ўсёдазваляльнай свабоды, так у ёй і затрымалася навекі, як кавуновая корка ў памыйным вядры. Толькі гультай не яхіднічаў наконт нашых рэклам! А што толку? Ну, вунь, паглядзіце — новенькі, тры на шэсць, плакат, заклікае аддаць свае галасы за кандыдата на замяшчэнне Пераемніка. Ужо амаль месяц мінуў пасля выбарча-перадатачнай кампаніі галоўнай пасады ў дзяржаве, ужо Прэзідэнт-Імператар Пераемнік Шосты кіруе народам і рыхтуецца на другі тэрмін, а гэтая нахабная рожа, якая з ім канкурыравала і Пераемнікам дзеля гэтага прызначаная, усё абяцае народу адмену прыгоннага права, забарону продажу людзей, умацаванне сям'і шляхам абмежавання аднаполых шлюбаў. Бязладдзе! І гэта пры ўездзе ў акуёмскі цэнтр. Ды што паробіш, рэкламнае месца аплачана! Хоць і святое права свабоднага прадпрымальніцтва, руху тавараў і інфармацыі, але ўсё роўна свінства, трэба далажыць Генерал-Намесніку.

Ці вунь яшчэ адзін шэдэўр. Плакат тых жа памераў з напаўаголенай дзяўчынай, якая асядлала, нібы ведзьма юнага парсюка, яркі пыласос. Прыгожы нахабны твар, выразна надзьмутыя вусны і велізарны надпіс на чатырох мовах: ангельскай, арабскай, кітайскай і расійскай: «Сасу амаль задарма! Тэл. 40-56-00». А ўнізе дробная прыпіска на новай расійскай мове: «Айчынныя пыласосы «Тайфун», сабраныя ў Кітаі, эканомяць

не толькі час, але і грошы, спажываючы мінімальную колькасць электраэнергіі».

Навошта купляць дарагія кружэлкі з анекдотамі, ездзі сабе па дарогах айчыны і паднімай настрой. Можа, з-за гэтага невынішчальнага народнага пачуцця гумару і пафігізму мы яшчэ і трымаемся. Машына ўлілася ў струмень гарадскога транспарту і заскакала па выбоінах. Гарадскія вуліцы, аддадзеныя муніцыпалітэтам, не рамантаваліся з пачатку муніцыпальнай рэформы, а рэформе гэтай, калі не падводзіць памяць, гадоў шэсцьдзясят хутка споўніцца. Грошы на яе ўбухалі нямераныя! Але ўсё сышло ў пясок, дакладней, у каналізацыю і муніцыпалізацыю ўсёй краіны! Даўно гэта ўжо было, спрабуючы прыструніць губернатараў і адабраць у іх як мага больш паўнамоцтваў, цэнтральная ўлада кінулася рукамі ўсё таго ж Дзіянісія праводзіць кардынальную муніцыпалізацыю і замест пяці-шасці гарадскіх раёнаў панастварала па трыста-чатырыста, а дзе-нідзе і па тысячы муніцыпальных утварэнняў, а калі маецца ўладная завязь, павінен быць і апыляльнік будучых кветачак, ды не адзін, а неадменна са сваімі падначаленымі і сакратаркамі, машынамі і тэлефонамі, і, і, і… То-бок, павінен быць начальнік з усімі адпаведнымі наступствамі. Вось гэтыя наступствы і выцякаюць… прама на вуліцы ямамі, смуродам ды абваленымі балконамі на дамах, што стаяць без вады і святла.

Каб не спазніцца і даставіць начальніка своечасова, Берыя ўключыў мігцелку і сірэну, якая выла так гучна і надрыўна, што ў Енаха ледзь усе вантробы вонкі не вывернуліся. Эфекту, праўда, было мала. Бліжэй да цэнтра дарога забіта разнастайнай тэхнікай, якая традыцыйна дастаўляецца ў гэтыя далёкія краі з усіх аўтамабільных памыйніц свету. Гэта там яны — хлам, а ў нас падшаманіш трошкі, і будуць бегаць, як новенькія! Усё адно лепш, чым айчынныя наборы дрэнна пафарбаванага металалому. Енах з непрытоенай зайздрасцю глядзеў на ўсіх гэтых бывалых прадстаўнікоў аўтамабільнай фаўны, ведаючы, што, нягледзячы на свой дапатопны выгляд, яны былі нашмат зручнейшыя і ўжо відавочна практычнейшыя за ягоны драндулет. Паміж машынамі з незалежным і ганарлівым выглядам цягнуліся нагружаныя вярблюды. Побач крочылі крыклівыя паганятыя ў падраных халатах, на іхніх спінах красаваліся моцна выцвілыя партрэты ўладароў тых халіфатаў, адкуль яны былі родам і ад чыйго імя везлі прадаваць свае тавары. Унізе пад партрэтам віднеліся стандартныя вялізныя надпісы, з якіх выразна можна



было разабраць толькі адну: «Я — Абдула, сын Алі з роду выйчы — верны раб вялікага халіфа Сташні-башы, хай падоўжыць Усявышні ягоныя гады! Адданы, як сабака, майму гаспадару і заўсёды яму пакорлівы». Надпісы гэтыя служылі і замежным пашпартам, і візітнай карткай, і сертыфікатам якасці, і самой ліцэнзіяй на права гандлю, таму паганятыя болей, чым сваё жыццё, берaглі халаты, выдаваныя шчодрым халіфам бясплатна адзін раз у пяць гадоў. Да аўтамабільнай копаці прымешваўся ўстойлівы, ні з чым не параўнальны пах Азіі.

Перад пустым дваром прадстаўніцтва ля вузкіх тратуараў у некалькі шэрагаў стаялі аднолькавыя брудна-шэрыя стварэнні Горкаўскага аўтазавода са спецнумарамі. Так-сяк праціснуўшыся ў гудлівай аўтаплыні, Берыя з першага разу ўмудрыўся прыпаркаваць іхні рыдван на толькі што вызваленае месца ў бліжнім радзе.

Вакол кіпела нейкае сваё жыццё. Службоўцы, якія прыехалі з усіх удзелаў акуёма, выгружалі з багажнікаў усякую ўсячыну і паспешліва, абганяючы адзін аднаго, валаклі ў шэры будынак. Чаго тут толькі не было! Велізарныя вэнджаныя кумпякі, бутлі з нейкай мутнаватай вадкасцю, мяшэчкі з карэннямі, плеценыя кашы з разнастайнай ежай, асятровыя хвасты і драпежныя пысы тайменяў, мядзведжыя шкуры і яшчэ нешта жывое ў велізарных мяхах.

«Вось гэта я ўліп, — падумаў Енах, нясмела крочачы да ўладнага ганка і сарамліва памахваючы худым партфельцам, — сюды трэба было везці не вычварныя аб'еўраўскія сувеніры ды імпартныя шакаладкі, а кантэйнер добранькага сэкандхэнду. Добра, першы раз у першы клас, далей выправімся».

Неймаверная колькасць дароў з дзіўнай хуткасцю развалакалася па чыноўных кабінетах. Енах заўважыў аднаго з калегаў, які толькі што выйшаў з кабінета і ўсміхаўся раскосымі вачамі. Уздыхнуўшы з відавочнай палёгкай, чалавек выцер мокры лоб нясвежай хусцінкай. Адказаўшы на прывітанне, Енах няспешна падняўся на трэці паверх і звярнуў да кабінета генерала Скліся, адзінага пакуль знаёмага яму тут чалавека. Але не тут-та было, там тоўпілася цэлая чарга. Чыноўны люд, рассунуўшы буйнагабарытныя прэзенты па дробных, але вельмі патрэбных клерках, спяшаўся засведчыць сваю лаяльнасць не толькі ўпаўнаважанаму Трэцяга спецаддзела таемнай канцылярыі Яго Вялікасці, кім з'яўляўся генерал, але і асабіста выказаць павагу другому чалавеку акуёма, а ў ягонай асобе і самому Генерал-Намесніку. Мяркуючы па нервовым абмацванні левай

унутранай кішэні даўно ношаных пінжакоў, гэтая павага вымяралася ў папяровым эквіваленце эннай колькасцю матэрыяльных каштоўнасцяў.

Енаха зноў пакарабаціла. «Да чаго ж усё прымітыўна! — падумаў ён з раздражненнем. — Азія, цябе ж папярэджвалі. Аднак галоўнае — не баяцца! — Ён, вядома, ведаў, што ў краіне ўсе бяруць, але каб вось так, у адкрытую! А чаго ж саромецца? Гэтая частка федэральнай імперыі і ў былыя часы лічылася ў сталіцы калоніяй, адпаведна і норавы тут былі каланіяльныя. Ды і цяпер засталіся. — Ну, глядзі, ты сябе ўжо і да каланіяльнага службоўца давёў. Ды і чорт бы з ёй, з калоніяй, мне б займець крыж на шыю, галун грамадзянскага генерала на віц-мундзір, а галоўнае — тытул да прозвішча. Вось тады баста! Тады можна назад, у родную Аб'еўру, жыць спакойным мерным жыццём, пакутаваць ад настальгіі па дзікай радзіме і пісаць мемуары».

— Вы, спадар, выбачайце, не ведаю вашага імя, на аўдыенцыю спрабуеце ці так сабе? — крануўшы Енаха за рукаў, спытаў невысокага росту чалавек у вялікіх акулярах, дзіўным гарнітуры з тоўстай ваўнянай тканіны, рабым гальштуку і жоўтай кашулі з зашмальцаваным каўняром.

— Ды я, мабыць, як і ўсе.

— Ну-с вось і добра, ну вось і добра. А нешта я вас раней у гэтых сценах і не сустракаў? Ах, выбачайце за бестактоўнасць! Дазвольце прадставіцца: праўдзейны таемны інспектар, намеснік Генерал-Намесніка па Цюмокскім удзеле Іваноў Юнус Маацзэдунавіч, — ён ліха матнуў галавой і пасля невялікай паўзы дадаў ціха: — Дваранін-с.

Народ вакол прыціх. Усе з цікаўнасцю сачылі за развіццём падзей, з цікавасцю прыглядаючыся да мажнага, элегантна апранутага спадара з выпешчаным абліччам, які немаведама адкуль і з якой мэтай наведаўся ў іхнія пенаты.

— Намеснік Генерал-Намесніка па Чулымскім удзеле Енах Мінавіч Понт-Калаційскі да вашых паслугаў, спадары! — гучна і выразна вымавіў Енах, ледзь нахіліўшы галаву.

— Калега! — пляснуў рукамі Юнус Маацзэдунавіч і палез было з абдымкамі, але, сустрэўшы ветліва-халодны погляд візаві, абмежаваўся поціскам працягнутай яму рукі. — Ну і як, сабака выць пачаў? Ужо другія суткі поўні.

— А што з ім станецца? — неахвотна адазваўся Енах. — Вые, шэльма.

Апошняя заўвага адразу разрадзіла абстаноўку, і пасля хвіліннага замяшання пачалася лёгкая гамана. Да Енаха



пацягнуліся рукі, кожны спяшаў назваць сваё прозвішча, удзел, званне, вымавіць адну-дзве пустыя фразы, абавязкова запрасіць у госці і пажадаць поспехаў на новым месцы. Словам, народ уздыхнуў з палёгкай.

«З усёй гэтай шаціі толькі адзін граф, адзін барон і тры ханы, — адзначыў Енах, — не густа, але на бязрыб'і і рак за шчупака сыдзе».

Аднак у наступную хвіліну ўвага прысутных была адцягнута ад Енаха, бо стала ясна, што ўсім ахвочым патрапіць у высокі кабінет сёння ўжо не атрымаецца. Патрабавальны званок, як у тэатры, абвясціў аб неабходнасці спяшацца ў актавую залу, дзе ўжо былі расстаўленыя на сталах таблічкі з прозвішчамі службоўцаў, запрошаных на нараду.

Калі Енах з'явіўся ў зале, народ павольна і без вэрхалу рассаджваўся, перагаворваючыся напаўголаса, стрымана вітаючы адзін аднаго лёгкімі ківамі альбо паважна раскланьваючыся, мяркуючы па ўсім, са старэйшымі па службе. Нараду вёў першы намеснік Генерал-Намесніка, чалавек ад прыроды спакойны, з ціхім, невыразным і злёгку шапялявым голасам. Ці то ад гэтага шапялення, ці то ад нявызначанасці тэмы, ці то ад дарожнай стомы, але літаральна хвілін праз пятнаццаць вялікая частка прысутных спала мёртвым сном. Вядоўцу і дакладчыкаў гэта ніколькі не бянтэжыла, і самі выступоўцы, адтарабаніўшы належнае, неўзабаве мірна засыналі, уладкаваўшыся ў зале на цвёрдых адкідных крэслах. Незаўважна ў здрадлівую дрымоту праваліўся і Енах. І не толькі праваліўся, але паспеў нават убачыць нейкі да незвычайнасці прыемны сон.

Енаху снілася вялікая месяцовая паляна ў хваёвым бары, пасярод якой стаяў высокі шаўковы былінны шацёр, каля шатра сядзела ў празрыстай адзежы светлавалосая блакітнавокая прыгажуня і павольна расчэсвала срэбным грэбнем доўгія густыя валасы. Гучала нейкая чароўная музыка, увішна і бязгучна хадзілі прыслужніцы, — як і гаспадыня, прыгожанькія і гнуткія… Музыка паступова зацягвалася, нібы дзесьці ў нябачным магнітафоне заела плёнку. Енаха гэта насцярожыла, ён напружыў слых, і раптам ужо не музыка, а нібы надрыўнае звярынае выццё запоўніла ўсё наваколле, і ў гэты час незнаёмка падняла галаву і пазвала Енаха да сябе. Нечакана вакол загуло, і Енах прачнуўся.

Высокі сход заскрыпеў крэсламі, пацягваючыся, загаманіў, заўсміхаўся, заспяшаўся, курцы пацягнуліся з залы, дастаючы з кішэняў свае прывады, нецярпліва размінаючы тонкія хрумсткія белыя цыліндрыкі заморскіх цыгарэт.

— Спадар Понт-Калацiйскi! Вас запрашаюць для аўдыенцыi да яго высокай правялебнасцi спадара Генерал-Намеснiка, — гучна абвясцiў службоўца, якi ўвайшоў з правых дзвярэй.

Енах спрасонку разгублена азiрнуўся вакол, нiбы чакаючы яшчэ якога-небудзь пацвярджэння пачутаму.

— Енах Мiнавiч, вы б паспяшалiся. Iрван Сiдаравiч тамака вас у калiдорчыку чакае, ён, вядома, не бог ведама якi чын, але ўжо вельмi блiзкi да самога. Так што паспяшайце, раю вам! — з запалам шапнуў Юнус Маацзэдунавiч амаль у самае вуха. — Верабейчыкаў жах як не любiць спазненняў, ваенная костачка, самi разумееце! Так што ўжо iдзiце з Богам, не марудзячы…

Прамармытаўшы невыразныя словы падзякi i прыхапiўшы свой худы партфельчык, Енах паспяшаў да выхаду. У цесным калiдоры i сапраўды стаяў нейкi чалавек, хмуры i непрыступны, нiбы байкальскi ўцёс.

— Выбачайце, я — Енах Мiнавiч Понт-Калацiйскi.

— Добра-с, — крутнуўшыся на абцасах, вымавiў службоўца i ўжо з-за спiны кiнуў: — Крочце за мной.

«Таксама, мусiць, з ваякаў, балван нячэсаны», — падумаў Енах, без прыязнасцi разглядваючы шырокую спiну свайго павадыра. Прайшлi тры пасты аховы i, пракрочыўшы некалькi метраў па тоўстым, вiдавочна ўсходняй работы, дыване, апынулiся ў прасторнай прыёмнай.

— Пачакайце хвiлiначку, iх высокая правялебнасць гавораць па тэлефоне. Прысаджвайцеся, калi ласка.

Прадэкламаваўшы поўны набор дзяжурнасцяў буркатлiвым грудным голасам, паўнаватая мiлавiдная жанчына выплыла з-за стала i, ашаламiўшы Енаха рэдкай для гэтых месцаў стройнасцю ног i недарэчнай у такой высокай установе кароткасцю спаднiцы, прайшла ў адчыненыя дзверы пакоя памочнiка Генерал-Намеснiка.

«Звар'яцець можна ад iх прастаты i непасрэднасцi. Аброкi цягнуць не саромеючыся, канвертамi шапацяць ледзь не ў адкрытую, дамы на працоўным месцы ў поўнай баявой гатоўнасцi. Не здзiўлюся, калi ў яе пад гэтай «мiма-спаднiцай» нiчога няма», — праводзячы сакратарку разгублена-зацiкаўленым поглядам, падумаў Енах.

«Бач як на чужое зеўрыць, хапатлiвец маскоўскi, — назiраючы за пачаткоўцам, адзначыў у думках Iрван Сiдаравiч. — Напрысылаюць сюды розных хлюстоў, а нам з iмi валаводзься. Куй будучыя кiраўнiчыя кадры сабе ж на галаву. Гэта яны цяпер такiя рахманыя i сарамлiва на чужых сакратутак тарашчацца, а як паабвыкнуцца ды ўзляцяць на верхнiя шасткi, тут ужо нiчога добрага ад iх не чакай! Пройдуць i не заўважаць, ды i на тым дзякуй, добра, калi не нагадзяць! А вось тое, што ты, штучка, на Iндыяну са слiнаю глядзеў, пра гэта мы неадкладна прасiгналiзуем каму належыць».



На працоўным стале сакратаркi нешта запiлiкала, заўздыхала. Яна ўпырхнула ў прыёмную, спрытна ўзяла трубку, уважлiва яе выслухала i, звярнуўшыся да Енаха, са шматзначнай усмешкай паведамiла:

— Вас чакаюць. Прашу пакiнуць у прыёмнай мабiльныя тэлефоны i пэйджары.

— Пакуль не абзавёўся, — з разуменнем усмiхнуўся ў адказ Енах i прайшоў у высокi кабiнет.

## 5

Машка прачнулася позна. Амаль усю ноч яны прагаварылi з цёткай. Ах, ужо гэтыя жаночыя гутаркi! Колькi ў iх усяго самага-самага! Як яны бударажаць душу, як соладка часам даюць волю слязам, як кранальна вырываюць з грудзей доўгiя ўздыхi! Хто не выпрабоўваў на сабе iх саладжавыя чары, той або чэрствы, або абдзелены вялiкай мiлатой душэўнага сваяцтва чалавек. Доўгiя гадзiны ператвараюцца ў кароткiя iмгненнi, калi, здавалася, толькi што месяц абяцае бясконцую ноч, а глядзi ж ты — ужо перадсвiтальна залiваюцца птахi i на ўсю моц залоцiцца набраклы новым святлом усход, а гутарка ўсё не канчаецца i не канчаецца. I вось у вынiку ўжо белы дзень на дварэ, а павекi яшчэ заплюшчаныя, i сон адпускаць не хоча i саступаць месца назолеранiцы не спяшаецца. Сонца павольна плавiцца ў паўдзённым мареве, i трэба абуджацца, а як не хо-о-о-чацца…

Дзяўчына пацягнулася ўсiм целам, удыхнула поўнымi грудзьмi, затрымала дыханне, доўга выдыхнула i толькi затым адкрыла вочы i села на ложку, матляючы з боку ў бок злёгку цяжкаватай галавой. Акно так i засталося расчыненым, толькi тонкая сетка ад камароў выгiналася, нiбы ветразь, i здавалася, што не паветра вагае тонкую тканiну, а пругкiя струменi сонечнага святла. У памяцi ўсплыла начная гутарка, i Машка крыху засумавала. Так нязвыкла, што яна ўжо не дзiця, што праз чатыры днi ёй васямнаццаць i наперадзе складанае, невядомае дарослае жыццё, замужжа, дзецi, свой дом i нейкiя новыя клопаты. Яна ўстала, падышла да люстэрка, прыдзiрлiва сябе агледзела i, застаўшыся цалкам задаволенай сваiмi правiльнымi формамi, пайшла мыцца.

У сталовай было ціха і прахалодна. Дваровая дзяўчына Даша, з якой у Машкі было старое сяброўства і яшчэ дзіцячыя агульныя сакрэты, хутка сабрала няхітры сняданак.

— Вы, паненка, не наядайцеся, праз паўтары гадзіны абед. Гаспадыня загадала вас разбудзіць да стала, а вы вунь самі раней усталі.

— Дашка, я цябе калі-небудзь паб'ю! Што гэта яшчэ за «паненка»! Мы ўсе рускія людзі і ўсе перад нашым Богам роўныя!

— Перад Богам, можа, мы і роўныя, Марыя Захараўна, а вось перад вамі і цётачкай вашай мне ўраўноўвацца неяк не спадручна будзе. Вы — баяры, я — простая прыгонная дзяўчына.

— Ну, Дашка, што ты нясеш? Мы ж з табой сяброўкі, успомні, колькі ўсяго і ўсякага нас звязвае? Ці ты знарок гэта задумала, каб мяне пазлаваць?

— Ды што вы, што ж гэта я вас спрасонку злаваць буду? Проста дзяцінства дзяцінствам, а жыццё жыццём. Мне вунь Паліна Захараўна з раніцы загадалі паступаць у поўнае ваша распараджэнне і быць неадлучна з вамі, так што з сённяшняга дня я — вашая асабістая прыслужніца.

Дзяўчына заплакала.

Маша адкінула сурвэтку і, выскачыўшы з-за стала, абняла яе.

— Што гэта яшчэ за дурасці такія? Перастань зараз жа! Дашка, ды гэта я сама ўчора ўвечары папрасіла цётачку дазволіць мне часцей бываць з табой, вучыцца ў цябе вязанням ну і ўсяму такому, ты ж ведаеш — я поўная няўмеха. Прабач, калі я цябе гэтым пакрыўдзіла. Далібог, я гэтага не хацела…

— Ды няўжо я супраць вучыць вас усяму і дапамагаць ва ўсім? — працягваючы шморгаць носам, скрозь слёзы адказвала Даша. — Не, вы нічога такога не падумайце. Мне гэта радасна, ды і звыкла, вунь ужо гэтулькі гадоў разам. І цікава мне з вамі, вы вучоная, не тое, што я: пяцігодку бясплатную скончыла і ўсё, а далей у бацькоў дастатку дваіх вучыць і не хапіла. Вы ж ведаеце, брат поўную школу скончыў і цяпер у губернскім горадзе ў акадэміі вучыцца. Не таму я плачу, што загадана мне пры вас быць, а з таго, што вы вунь пагасцюеце і паедзеце назад у замежжы, і мне тады з вамі ехаць трэба будзе. А мне нельга… — дзяўчына зноў заплакала.

— Перастань жа ты раўці, як дзіця малое! Нікуды я пакуль не збіраюся ад вас з'язджаць. Год дакладна буду тут, вырашыла цётцы дапамагаць, ды і пажыць па-нашаму, па-руску, рабоце ўсякай сельскай навучыцца, паглядзець, як гаспадарка вядзецца. Вось таму цябе да сябе і папрасіла, ты ж мне як родная. Вось дурная, — працягваючы пагладжваць сяброўку, ласкава казала Машка, — замежжа спалохалася, а і тамака цікава. Сама ж усё распытвала, прэзентамі маімі сярод дваровых хвалілася, і на табе — слёзы…



— Што вы, Марыя Захараўна, вы такая добрая, я з вамі хоць куды гатовая, толькі не магу я цяпер з'ехаць з дому, сэрца маё не вытрымае, — і, употай зірнуўшы на дзверы, што вялі на кухню, яна горача зашаптала: — Я ж у Юньку закахалася. Мы, мабыць, ужо як паўгода жаніхаемся…

— Як жаніхаецеся, і хто гэты Юнька? — таксама пераходзячы на шэпт і касавурачыся па баках, з непрытоенай цікавасцю перабіла яе Машка.

— Ды ўсяк, — хіхікнула скрозь слёзы дзяўчына, — я зусім галаву страціла, ведаю, што нельга так, а інакш не магу, як уяўлю, што ён з кімсьці іншым на сена палезе, аж іскры з мяне ляцяць. Не крыўдзіцеся на мяне, Маша, але нельга мне цяпер з'язджаць.

— Ды хто ж цябе няволіць? І яшчэ раз паўтараю, я нікуды і сама пакуль не збіраюся. Дык хто такі гэты Юнька? Ты ўжо адкрыйся, не стамляй сэрца, мне ж самой, ох, як цікава!

— Ды ведаеце вы яго, Юань гэта ж, сын Агафія, конюха панскага!

— А госпадзі! Ён жа зусім васпаваты! І памятаецца, ці не ты больш за ўсіх яго за гэта і цвяліла?

— Дурнічкай малалетняй была, а можа, і тады ўжо бабская натура свайго патрабавала, толькі я таго яшчэ не разумела. Вы не падумайце тамака чаго, — раптам як бы спахапіўшыся, з гонарам дадала Даша, выціраючы заплаканы тварык, — у нас гэта ўсё цалкам сур'ёзна. Ён таксама мяне кахае, і пажэнімся мы, Бог дасць.

— Ну, вось і добра, на вяселлі паскачам, — летуценна працягнула Машка, — успомні, мы ж пра гэта з табой не аднойчы марылі. Кахае. Ды як жа гэта хораша! Тут спяваць, крычаць трэба ад радасці, а ты ў слёзы, ды пра нейкае сена ці адрыны…

— Гэта ў вас, можа, у спадароў, крычаць трэба. У вас, вядома, усё напаказ, а ў простых пра каханне лепш маўчаць да пары да часу, а то і наогул пра яго і не напамінаць, цалейшым будзе. А адрына, яна — што будка для сабакі. Паходзіць, пабадзяецца ён кругамі адзін ды і прывалачэ каго-небудзь, ці якая сука сама на сябе зацягне. Тут, паненка, вушамі пляскаць аніяк нельга!

— А што гэта вы тамака буркуеце? — перабіла іх на самім трапяткім месцы цётчына домакіраўніца Глафіра Ібрагімаўна. — Дашка, ты што вытвараеш? Хутка абед, а стол не прыбраны! Ты,

Мар'я, мне выбачай, пасля абеду пагаворыце, народу працаваць трэба.

— А дзе цётка?

— Як дзе? У полі. Яшчэ зранку ўкацiла на сваёй тарантайцы. Хутка прыедзе. Ты б, барынька, сама б пайшла да абеду прыбралася-прыапранулася, а то, відаць, трэцяя гадзіна ўжо…

Машка, адначасова прысаромленая і абураная, паднялася да сябе. У блытаным аповедзе сяброўкі дзяцінства было нешта такое, чаго ёй бракавала самой, ад чаго яна прачыналася па начах з неспакойным сэрцам, ад чаго натужліва і доўга ныла ўсярэдзіне. Ох ужо гэтае каханне ў перадпачатку васямнаццацігоддзя!

Паліна Захараўна заехала ў двор на пакоцаным амерыканскім вайсковым джыпе, іх на пачатку прыгоннага права пастаўлялі нам па новым лэнд-лізе з Афраюсіі нібыта задарма, але пазней аказалася, як заўсёды: бясплатны бывае сыр толькі ў пастцы. За гэтыя састарэлыя на вайсковых складах машынкі давялося адпісаць афраюсам, мабыць, палову Чукоткі. Калі гэтая здзелка стагоддзя адбылася, высветлілася, што другую чукоцкую палову тым жа юсікам ужо гадоў сорак як заклала сям'я Рамавічаў, чый дзед калісьці там губернатарстваваў ды і прыватызаваў за бесцань гэтыя непрыдатныя землі. Юсікі тут жа разбілі на гэтай велізарнай тэрыторыі дадаткова тры штаты, за паўтара месяцы адшукалі ў Чукоцкіх нетрах безліч золата, нафты ды іншых карысных, а галоўнае, уплывовых выкапняў і абгарадзілі сваю мясцовасць высачэзнай Празрыстай сцяной. Нашыя туды, да сцяны гэтай, на выходныя ездзяць на аленях, як у кінатэатр, паглядзець на казачнае жыццё.

Атрасаючыся ад пылу, Паліна Захараўна кагосьці люта лаяла. Толькі ўважліва прыслухаўшыся, можна было зразумець, што ўсе гэтыя віртуозныя завіхрэнні напаўнарматыўнай лексікі адносяцца да Генерал-Намесніка Верабейчыкава.

— Ну, ёлуп егіпецкага разліву! Ну, варажына! І дзе іх Цар толькі адшуквае, у якім гаўнаадстойніку? Захочаш пудзіла агароднае знайсці, чорта з два падобнае адшукаеш! А гэтыя як лепехі пасля каровінага статку, куды ні ўстань — суцэльная дрэнь! Гэта ж што генеральская рожа ўчудзіла! Не, вы толькі паслухайце, людзі добрыя, — пры гэтым пані чамусьці ўзняла рукі свае да неба, як быццам толькі там і засталіся яшчэ прыстойныя суграмадзяне, а побач, на зямлі — спрэс верабейчыкаўскія выкармышы. — Гэты ёлуп, ужо не ведаю, ці сам прыдумаў, ці высокае начальства нараіла, але кагадзе выдаў найстрогі ўказ аб



забароне мясцовым курам несці больш чым тры яйкі ў тыдзень. Ну дуралом! І галоўнае, адказнасць за захаванне гэтага ашаламлення ўсклаў на ўладальнікаў пеўняў. О, птушнік у лампасах!

Усе дваровыя высыпалі на вуліцу, слаба цямячы, што адбываецца, але разумеючы: лепш быць у пані перад вачыма, чым потым атрымліваць лупцоўку за адсутнасць на «маралізатарстве», як ахрысцілі падобныя формы крытыкі начальства мясцовыя жартаўнікі.

— Дык, можа, матухна, для яго, сабакі, што дзеўка, што курыца — адна масць, — адазвалася з ганка Глафіра Ібрагімаўна.

— Ох, ужо й не кажы, Глафірка! Дзе толькі вось адшукаць грамацея, каб пеўням увесь гэты бздур растлумачыў? Відаць, прыйдзецца Юаньку ў Маскву за тлумачамі пасылаць. І смех і грэх. Але вы ж галоўнага яшчэ не чулі! — З гэтымі словамі яна выняла аднекуль з-за пояса складзены гармонікам даўгаваты ліст паперы, разгарнула яго і, стоячы на аўтамабілі, як сапраўдны вястун, пачала чытаць: — А хто стане пярэчыць гэтаму наказу, загадваю: гаспадара пеўня, нягледзячы на палавую прыналежнасць, веравызнанне і век, секчы батагамі, вылічваючы колькасць пакарання ў простай прагрэсіі за кожнае незаконнанароджанае яйка… — Ды не ржыце вы! — ледзь стрымліваючы сябе, прыцыкнула Паліна Захараўна на дзевак і працягнула: — …пеўня-неслуха, — пані набрала поўныя грудзі паветра, — пасля публічнага збівання вярбовым дубцом малога калібру падвергнуць прымусовай кастрацыі, якую належыць рабіць пад наглядам адпаведнага медыцынскага работніка па жывёла-птушынай частцы!

Ад пачутага ў прысутных анямелі языкі, яны нейкі час маўчалі, толькі было чуваць, як кудахтае за хатай кура, апавяшчаючы навакольных аб знесеным яйку, але потым уся дворня выбухнула такім рогатам, што, здавалася, хмаркі сарвуцца са сваіх нябачных крукоў і гахнуцца на зямлю. Разам з усімі да слёз смяялася і Машка. Паліна Захараўна стаяла манументальна ганарліва, як статуя якога-небудзь вайскаводца, з паперай-злыбядой у руцэ. Яна не смяялася, толькі гарэзныя іскры, нібы кароткія сінія маланкі, сыпаліся з вачэй ды ходырам хадзілі вужлакі на скулах. Пераможна аглядаючы сваю рацць, яна затрымалася на пляменніцы.

— Ну і як табе, Маша, законнасць наша? Ты глядзі, я з гэтымі кастрыраванымі пеўнямі вершамі разгаласілася. Прывыкай, дачка, гэта Радзіма, а яе не выбіраюць, тут не жывуць, тут выжываюць і ўсё роўна спяваюць песні, улюбляюцца, раджаюць

дзетак і ад пуза ржуць з сябе і начальства. Госпадзі, колькі ж нам яшчэ мучыцца ўсім гэтым? Ну хоць дзяцей нашых пашкадуй, яны ўжо ў замежжах навучаныя, паразбягуцца ж усе, тут і так ужо адны дурні ды алкашы пазаставаліся! Ох, грахі нашыя цяжкія! А што, Глафіра, абед гатовы?

— Так, пані! Астыў ужо, мабыць!

Абедалася весела. Тут за сталом і высветлілася, што грозная рэляцыя была выкліканая асцярогамі Генерал-Намесніка «…узмацнелай у апошні час тэндэнцыяй росту кура-пеўневага пагалоўя ва ўручаным мне адмысловым акуёме, што можа непазбежна прывесці да нанясення незваротных стратаў сяброўскай нам Афраюсіі ў цяжкія часы здабыцця старога свайго наймення Злучаныя Штаты Амерыкі. І страты сіі могуць здарыцца ў галіне вытворчасці асноўнага выгляду іх экспарту — курыных ножак імя бацькі, сына і ўнука Буша. А гэтая недальнабачнасць пагражае новай хваляй гонкі ўзбраенняў і магчымасцю вайсковага канфлікту, коій цяпер вельмі непажаданы для нашай квітнеючай дзяржавы».

Усе дружна смяяліся і вырашылі ўвечары сабрацца на птушніку, каб ад імя пеўняў з салідарнасці да іншых асобаў мужчынскай паловы напісаць пратэст на бясчынствы генерала Верабейчыкава ў Міжнародны камітэт па правах і свабодах усіх відаў зямнога жыцця.

Яшчэ не ўсталі з-за стала, як пайшоў хвацкі дожджык. Спрытныя хмаркі збіраліся ў нейкія шэрыя туманнасці, напаўняліся нябеснай вільгаццю і даіліся цёплымі струменьчыкамі, праз якія аднекуль свяціла сонца. Адразу тры вясёлкі выгнулі над светам свае рознакаляровыя старажытныя падковы, пра нешта вяшчаючы аблудным людзям.

Пасля абеду ўсе разбрыліся па сваіх завуголлях, прытуліліся хто куды, салодка і мірна акунуліся ў ціхую пасляабедзенную дрымоту. На шчасце, і гэтая старажытная нашая традыцыя вярнулася. Аказалася, што днём падрамаць карысна не толькі дзецям, але і іх зацюканым штодзёнкай бацькам. Ва ўсе часы і ва ўсім свеце народ пасярод дня расслабляўся хто як мог і каму як дазвалялі ўмовы і традыцыі, а мы апошнія паўтара стагоддзя, спехам душачыся паловай батона з кефірам або слізкай катлетай з каламутай вадкага супчыку, паспешліва абцёршы ліпкія вусны, з задавальненнем уставіўшы ў рот смярдзючую гарэлай анучай «прыміну», ляцелі подскакам на сваё працоўнае месца, каб у напаўсонным стане гнаць пасляабедзенны брак. Добра было НДІшнікам, яны сваё ўсё роўна адрывалі ўпотай за кульманам, размазваючы па ватмане салодкую сонную сліну. Ва ўсёй Еўропе сіеста, а ў нас брак, траўматызм і недарод па частцы дэмаграфіі. Але і гэта, слава Богу, у мінулым. А некаторыя кажуць пра згубнасць прыгоннага права! Балабоны і гнілыя лібералішкі! Якая згуба? Цалкам станоўчыя моманты на шляху ўваскрашэння велічы нацыі.



Машка задрамала адразу ж, як толькі кранула галавой падушку, так і не зняўшы з сябе модную прыгожую сукенку, у якой выйшла да абеду, чым вельмі пацешыла цётку. І прысніўся ёй сон. Быццам яна сядзела пасярод залітай месяцовым святлом паляны, амаль голая, у нейкай празрыстай накідцы, і павольна расчэсвала свае валасы вялікім срэбным грэбенем. Дзесьці далёка ціха і хораша выў сабака, свісталі нябачныя начныя птахі, міма спрытна і гнутка, нібы танцуючы, хадзіла Даша з іншымі дваровымі дзяўчатамі. Усё было спакойна і міла. Раптам Маша ўбачыла нейкага мужчыну. Спачатку ёй здалося, што гэта Юнька, быццам зваў яе ў адрыну. Яна паднялася і, хаваючы вочы ад Дашы, пайшла на гэты бязгучны кліч. І ўжо амаль наблізіўшыся да ўсходаў, ужо ўзяўшыся рукамі за прахалодныя, адпаліраваныя часам і мільёнамі яе папярэдніц перакладзіны, яна зрабіла першы крок і з жахам убачыла, што там, наверсе, яе вабіць рукамі не Юнька, а нейкі зусім незнаёмы ёй чалавек у прыгожым замежным убранні і з загадкавай усмешкай на вуснах. Яна ўскрыкнула ад нечаканасці і прачнулася. Ля дзвярэй з бярэмем яе рэчаў, сабраных для мыцця, замерла спалоханая Даша.

— Госпадзі! — губляючы сваю паклажу, кінулася яна да разгубленай Машкі. — Што ж гэта вы сабе такое наснілі? А закрычалі ж як! Аж кроў заледзянела, вунь рукі якія халодныя зрабіліся, вы толькі пакратайце!

— Ах, Дашка, дурасць нейкая прыснілася…

— Не ўжо, вы мне хоць намякніце, хто вас так напалохаў? Ну, калі ласка, Марыя Захараўна! А я вам паспрабую сон растлумачыць. Вунь іншы раз сама Глафіра Ібрагімаўна мяне да сябе заве па гэтай частцы. Але ў яе сны ўжо дужа нецікавыя, усе пра пакуту ды пра варэнні з саленнямі. Машка, ну распавядзіце…

— Добра, толькі, глядзі, не заманіся разбалтаць, — і яна расказала ўсё: і пра паляну, і пра галізну, і пра сабачае выццё, і пра ўсходы, і пра невядомага сімпотнага мужчыну, апусціла толькі пра Юньку, на кліч якога, уласна, і памкнулася яна на адрыну паднімацца…

— Ой, пані, каханне вас чакае наймоцнае! — радасна пляснуўшы рукамі, заскакала па пакоі Даша. — Якая я радая! Вось толькі ёсць у вашым сне нейкія невыразнасці…

— Якія?.. Кажы ж, не стамляй мяне…

— Ды я і сама пакуль не зразумела. Можна мне з кумой млынара, Анюціхай, параіцца? Не, Божа ўратуй, пра вас ні слова! Я ўсё нібыта як пра сябе распавяду. Яна ў акуёме лепшая тлумачка і гадалка. Ну не бойцеся. — Дзяўчына замоўкла, а потым, адразу пасур'ёзнеўшы, неяк распеўна прамовіла: — А можа, і не трэба пра ўсё даведвацца, прыйдзе час, яно само і адкрыецца.

— Не ўжо, Дашка, ты мне пра ўсё даведайся. Я ж цяпер сама не свая буду, пакуль пра ўсё не знацьму. Сэрца дагэтуль так і скача.

— Ды вы ж, мабыць, яшчэ і нецалаванай будзеце? Ой, прабачце мне, Марыя Захараўна, нешта я зусім ад радасці за вас у дурноту паперла…

— Ды чаму ж у дурноту? Ты, зразумела, больш дасведчаная, чым я. Не, я, вядома, цалавалася, і не раз, але далей пацалункаў і ўзаемнай дрыготкі неяк усё, прызнацца, і не заходзіла. Праўда, адзін раз… — Маша як бы спахапілася, — але гэта не лічыцца, і да мужчын не мае ніякіх адносінаў. — Дзяўчына залілася чырванню.

— Ды перастаньце вы, справа гэта жыццёвая, усе мы, бабы, першы сок з сябе самі або з сяброўкамі выціскаем. Гэта ўжо пасля, як іншага мядку паспрабуеш ды ў жадобу ўвойдзеш, вось тады ўжо запал апаноўваць пачынае, а ўсё, што да гэтага, — дзявоцкія свавольствы. Добра, пра ўвесь ваш сон я даведаюся. А яшчэ, ой, Госпадзі! Зусім з галавы выскачыла, — яна чамусьці з асцярогай пакрывілася на дзверы, падышла да акна, перахіліўшыся, зірнула ўніз і вярнулася да Машынага ложка: — Юнька сёння пагадзіўся ўзяць мяне на адну вельмі рызыкоўную справу. Яна супрацьзаконная, і, калі хто даведаецца, усіх калодкі чакаць будуць, а можа, і вугальныя капальні…

Машка ўся напружылася і падалася наперад, баючыся прапусціць хоць адно слова.

— …У нас тут у навакольных гушчарах абвясціўся нядаўна вястун уваскрэслага старадаўняга бога. Людзі да яго розныя па начах збіраюцца. Пытанні пытаюць аб жыцці, аб ураджаі, аб уладзе, аб жонках… ну і аб іншым розным выпытваюць, а стары гэты іх, вядома, навучае. Ды, кажуць, так лоўка, граматна, а галоўнае — усё, што ні скажа, спраўджваецца. Жудасць як цікава. Юнька кажа, што туды толькі мужыкоў пускаюць, хоць



за Дзедам тым неадлучна ходзяць тры ці, можа, і больш маладых высачэзных дзевак. Унучкі яны яму, прыслужніцы ці яшчэ хто, аб тым нікому не вядома. Вось так. Ну што, пойдзем?

— Вядома, пойдзем… але толькі ты ж сама казала, што дзяўчат туды не пускаюць…

— А мы ўпотай пойдзем. Дзед гэты з гушчару ў поўню выходзіць і заўсёды да адной і той жа ярыгі. Яны тамака ўнізе ля вогнішча будуць сваё гаварыць, а мы зверху, у хмызе стаіўшыся, паслухаем. Можа, што і пачуем, а не пачуем, дык хоць убачым. Ці жарт, вястун самога старажытнага бога! Вы гэта… як дом увесь засне, акенца адчыніце, Юнька лесвіцу прыставіць звечара пад вашае акно, нібыта як рамантаваць што задумаў, а вы потым па ёй у сад спускайцеся, як умоўны сігнал пачуеце. Зязюля тры разы кукукне, крыху памаўчыць і яшчэ два разочкі: ку-ку, ку-ку. Добра? Толькі ў цёмненькае апраніцеся, у штаны якія і кашулю. Ну, я пабегла, а то не паспею вашыя адзежы памыць ды высушыць…

## 6

Аўдыенцыя ў Генерал-Намесніка атрымалася. І прэзент ён прыняў, і бацькава прывітанне, і сам, мабыць, цэлую гадзіну ўспамінаў іх маладыя прыгоды. Расчуліўся, а калі Енах яшчэ паведаміў, што ў Крамлі яму выбар быў, куды пайсці служыць айчыне, і ён свядома, ну і па парадзе бацькі, вядома, выбраў гэты далёкі акуём, а не сталічнае завугалле, тут Урза Піліпавіч і наогул у поўнае захапленне прыйшоў.

— Я вось што вам, наймілы Енах Мінавіч, скажу, кожны дзяржаўны муж прыходзіць да такога, што яму ўжо ні грошай, ні чыноў не трэба, а адзінае душу і розум напружвае — прага перадаць свой вопыт, свае веды моладзі, якая ідзе за табой па дзяржаўнай дарозе служэння Яснавяльможнаму Дэмакрату. Вось у чым увесь сэнс нашага зямнога быцця, вось што ні тлен не кране, ні чарвяк не падточыць. Але рэдка цяпер знойдзеш годных юнакоў, здольных стаць вучнямі. Усе адразу імкнуцца ў настаўнікі, усе намагаюцца павучаць! А сам жа, сам жа ад чыгуна на вяршок, бародку адгадаваў, заморскую бурсу, прабач Госпадзі, скончыў, вятроў розных панахапаўся — і ўжо ўяўляе сябе слупам эканомікі, ужо ў міністры рвецца, ужо ісціны з экранаў вяшчае, вялікай дзяржавай кіруе! Грэфіт хрэнаў! А сам жа і цвіка ржавага самастойна ніколі не забіў, паршывай лаўкай на ўдзельным кірмашы ніколі не кіраваў. Затое языком спрытна брынькае! Цьфу, ды і ўсё!

— Вы, глыбокапаважаны Урза Піліпавіч, нават і не падазраяце, да чаго вы праўдзіва кажаце. Майму пакаленню, хоць і пажылі мы яшчэ не шмат, але ўжо шмат чаго такога дасталося. І нагледзецца на ўсякае давялося, і разумнікаў гэтых сярод маіх пагодкаў назіраць прыходзілася, так сказаць, у самім зародку. Гнілы ў пераважнай масе народзец, пуставаты і басяцкі. А галоўнае, амаль усе іншародцы. Ну, пра якія яны інтарэсы Дзяржавы клапаціцца могуць, калі іхняя зямля запаветная — Аб'еўра. Ці ж яны ад піску нашага айчыннага камара ў замілаванне прыйдуць і замілаванасць гэтую дзеткам сваім перададуць? Я й больш вам скажу — толькі вы ўжо прызнанні мае за крамолу не прыміце… Дык вось, не той параснік малады вакол нашага Цара-бацечкі сабраўся, а скрозь чартапалох нейкі бязродны, дачна-прыазерскі. Мне думаецца, што вось такія светлыя розумы Айчыны, як вы, Урза Піліпавіч, павінны быць у блізкім асяроддзі Прэзідэнта-Імператара. Радзіме замежнікі ніколі асабліва не спрыялі.

— Мая вам парада, — шматзначна ўзняўшы ўказальны палец, павучальна вымавіў генерал. — Аб замежніках ды чужынцах сярод чужых людзей паменш распаўсюджвайцеся. Адкуль у нашай шматнацыянальнай дзяржаве чужынцам жа ўзяцца? Усе мы іншародцавыя дзеці, і ад гэтага нікуды не дзецца, так што лепш маўчаць ад граху далей. Часіны сягоння, самі ведаеце, якія! Блакітныя колеры ізноў у модзе, і старажытная ісціна «лепш першым стукнуць, чым потым паўстагоддзя перастуквацца» ох як актуальная…

«Так, здаецца, перабраў я крыху, — злёгку здрэйфіў Енах, — і баця пра яго іншародства нічога не казаў. Дый наогул нешта мяне для першага разу занадта панесла!» — а ўслых злёгку вінаватым голасам вымавіў: — Дык я ж пра дабрабыт Айчыны і клапачуся, а крамола якраз ад гэтых разумнікаў і ідзе…

— Голубе вы наш разлюбезны, — ухвальна, бачачы пакору, пачаў павучаць начальнік, — з-за мяжы да нас, цёмных, святло ісціны і свабоды ідзе. А крамола, яна ў нас саміх каласуе, як быльнік. Вы гэта добра запомніце, без Захаду і без Захаду-Усходу мы — нуль без палачкі! Мы — сярэдняя мяккацеласць, у тым бяда і сіла нашыя. Таму давайце ў працоўных кабінетах аб пустых прадметах казаць не будзем. Яно што, у нас з вамі іншых тэм для гутарак не знойдзецца? — вырашыў на ўсякі выпадак перастрахавацца Намеснік. «Хто яго ведае, што за фрукт прыехаў у яго акругу, хоць і сынок малочнага брата, але для пачатку варта праверыць, а ўжо потым дазваляць крамолу казаць», — падумаў



ён і, не змяншаючы абаротаў, працягнуў: — Я вось у толк ніяк не вазьму, вас што тамака, за бугром, не давучылі драбніцу ці, наадварот, перавучылі да смерці? Роўна як Бяроз-Венікоўскі, царства яму нябеснае, глупства несяце, падобнае, мне здаецца, не па чыну.

— Вы прабачце мне, спадар Генерал-Намеснік! — пераходзячы на афіцыйны тон і разумеючы, што ён сапраўды перагнуў палку, пачаў з дурнаватым нахрапам апраўдвацца Енах. — Я з вамі цалкам згодзен, вядома, у нас і сваёй крамолы досыць, аднак ворагі Цара-Прэзідэнта і святой Дзяржавы нашай, якія ўцяклі, яны ж у асноўным у замежжах акапаліся і ўсё парываюцца душы маладыя калечыць! — робячы выгляд, што папярэднія словы начальніка яго ніякім чынам не датычыліся, гнуў сваё наведвальнік высокага кабінета. — Сягоння наш бацькоўскі дом, як лічыць народ і бацька наш Яго Вялікасць Пераемнік Шосты, на ўздыме знаходзіцца. Дабрабыт людскі расце, прамысловасць прэ ўверх, чырвонец стабілізаваўся, таго і глядзі залатым стане, войны аціхаюць, хлеба і відовішчаў сваіх маем звышдастаткова, а галоўнае, дэмакратыя замацярэла і стала непарушнай. Гэта ж відавочна ўсяму свету! А што гэтыя, прабачце за несалоннае слова, гніды дзеюць? Яны знеслаўленне на нас збіраюць, кожны поспех у паразу наравяць перакруціць. Дзяцей ад бацькоў спрабуюць адбіваць! Тургеняць, адным словам, рахметаўшчыну з базараўшчынай разводзяць. Чужынцы яны для ўсіх нас і ўсяго дэмакратычнага чалавецтва. Чужынцы не па нараджэнні, не па крыві, а па духу сваім гадкім. Замежнікі, бо за межамі прыстойнасці і маральнага патрыятызму жывуць. Вось які сэнс я ўкладваў у гэтыя словы. Вы павінны зразумець маю гарачнасць. А цяпер пра вучобу ў Аб'еўры і мілай сэрцу Афраюсіі. Калі быць да рэшты сумленным, вучобе той грош цана. Напляваць і забыцца, я вось толькі з гэтага дня па-сапраўднаму вучыцца й пачаў, за што вам паклон зямны і сыноўняя падзяка.

«Ты паглядзі на гэтага вырадка банкірскага! І дзе толькі нахапаўся ўсяго? Так, з такім вуха трэба трымаць халодным. А можа, ён праўду кажа? Паспрабуй іх сёння разбяры, маладых гэтых, хоць не такі ўжо ён і малады. Вунь куды хапіў, аж самога Тургенева прыплёў. Да месца або не да месца, а вучонасць сваю паказаў. Малайчына! Можа далёка пайсці, калі, вядома, мы яму дазволім», — паўзакрыўшы твар шырокай далонню, думаў стары генерал.

Потым доўга пілі гарбату і гаварылі пра мясцовыя прыгажосці, дзікасці нораваў і звычак.

палову чалавецтва па-за сценамі свайго дома глядзеў не толькі без пажадлівасці, але і з відавочна выяўленай абыякавасцю.

— Хай яе цела будзе як памінальная свечка нашай скрухі.

— Хвіліначку, спадары, — умяшаўся ў гаворку Енах. — Што ўсё гэта значыць? Вы што гэта, мяне — хаваць сабраліся ці што?

— Ну, навошта ж так, найласкавейшы ты наш калега, — палез да яго з п'яным пацалункам Тангай-Бек, — не дурні ў нас тут па акрузе рыскаюць, нашто цябе забіваць, за цябе выкуп добры можна атрымаць ці прадаць куды, а ты адразу: забіваць, забіваць.

Пасля гэтых слоў Енаху, трэба прызнацца, не зусім добра зрабілася і ехаць, калі па праўдзе, неяк перахацелася, але адмяніць паездку было немагчыма: баязліўцам ён ніколі не быў, дык ужо будзь што будзе.

— Енах Мінавіч, ты не засмучайся, калі цябе зацапаюць хакосы, гавары, што ты мой сябар, — заўважыўшы збянтэжанасць Понт-Калацыйскага, пляснуў яго па плячы Бек, — і, лічы, прыстойны прыём табе забяспечаны…

— А калі людзі Макуты-бея, аддайце-с вось гэты рэкамендацыйны ліст-с, — працягваючы абрывак паперы, як бы перапрошваючы, сказаў Юнус Маацзэдунавіч, — у яго бандах шмат людзей з нашых удзелаў, нават радня мая такая-сякая маецца.

— Камандзір! Якога хрэна мы тут тырчым? Месяц ужо хутка на захад папрэ!

Высокі сход разам з «журботнай свечкай» павярнуўся да выхаду. На парозе стаяла Эрмітадора Гопс у напаўадкрытым камуфляжным камбінезоне, з помпавай стрэльбай у руках.

Усе, уключна з самой Гопс, дружна зарагаталі і, прыхапіўшы бутэлькі, падаліся на вуліцу. Пасля нядоўгіх аглаблёвых чарак нарэшце падаліся ў дарогу.

Вуліцы соннай сталіцы акуёма жылі сваім начным жыццём, і, каб яго апісаць, трэба было на гэтых вуліцах нарадзіцца, пражыць і састарэць, хоць да старасці вулічныя насельнікі ночы дажываюць рэдка. Аб'язджаючы вярблюдаў, якія спалі на праезджай частцы, і іх паганятых, месцамі адбіваючыся ад зап'янелых і, відавочна, з пустымі кішэнямі і страўнікамі жрыцаў свабоды, «экіпаж машыны баявой» без асаблівых прыгодаў выбраўся з горада і, уладзіўшы ўсе фармальнасці з вартавымі гарадской брамы, бясклапотна затросся па ўкатанай месяцовым святлом дарозе.

Пакуль Енах і Гопс з дзікім сапеннем ды іншымі мудрагелістымі гукамі задавальнялі адно аднаго на заднім сядзенні, Берыя з нудой думаў аб сваёй незайздроснай долі панскага вадзілы. І куды ты ні павярні гэтую долю, усё ў ёй было неяк не так, таму цяжкая зайздрасць усплывала ў душы яго, як дохлая і смуродная рыбіна. Вечна незадаволенага ўсім, яго грэла, мабыць, толькі адна думка: ён дакладна ведаў, чым скончыцца іх сённяшняя язда. Берыю турбавала адно: якім яшчэ бандытам гарадскія вартаўнікі прадалі інфармацыю аб іх неразважлівасці. Таму, праехаўшы кіламетраў сто пяцьдзясят адносна спакойнага шляху і толькі разоў два стрэльнуўшы па нейкай прыдарожнай шпане, ён звярнуў з асноўнай дарогі Е52 на добра ўкатаны прасёлак, па ім да роднага ўдзелу было нашмат карацей, ды і верагодней, што чужыя не адбяруць абяцанага яму барышу. А што рабіць, усякі выжывае як умее! У Берыі родны дзядзька падзарабляў начамі ў бандзе Сар-мэна, чалавека наравістага і хуткага на расправу, але вядомага сваёй адвагай атамана. Са сваяком ён дамовіўся, што выведзе машыну да Рабога Яра.

— Мінавіч, ты глядзі, вазніца наш коціць тваю высокую правялебнасць прама ў банду, ужо і з дарожкі звярнуў, — з задняга сядзення падала голас Эрмітадора.

«Вось сука, пачакай, даедзем да месца, я цябе на халяву пакарыстаю!» — раззлаваўся Берыя, а ўслых дадаў: — Ты гэта, языком у правільным кірунку працуй, а я ўжо як-небудзь з паваротамі дарожнымі і сам разбяруся. Адсюляка да дома, Енах Мінавіч, кіламетраў на трыццаць бліжэй будзе, ды і Бурчалурочышча мінём, а тамака хакосы ўсякую ноч шыюцца, пра тое і малышня ў вёсцы ведае, а далей кіламетраў праз пяцьдзясят на Камяністай Градзе сядзяць вузкавокімі крумкачамі уйсуры! Вы яе не слухайце, яшчэ невядома, на каго яна насамрэч арэ.

— Берыя! Перастаць у падобным тоне гаварыць пра жанчыну, тым больш баранесу! — нязлосна прыпыніў Енах падначаленага. — Эрмі, галубка, а можа, ты і напраўду здала нас якім-небудзь ушкуйнікам, га?

— Не, я не па гэтай частцы, — вывесіўшы голыя ногі ў акно і сёрбаючы з бутэлькі, бясклапотна адказала дзяўчына. — Гопс-Шумейкі ніколі ні на каго не стукалі, хіба што па загаду сэрца. Глядзі, якая ноч, у такую ноч і ў палон здавацца не страшна…

— А чаму гэта? — з ленасцю і відавочна засынаючы, спытаў Енах.

— А мы ўжо ўсе ў палоне гэтага ўсёмагутнага месяца. Енах, а ты чуў, што ў тваім удзеле нейкі старац аб'явіўся і вяшчае пра старых багоў, што спяць дзесьці ў нашых гарах? А, Енах?

Але стомлены і здаволены шукальнік тытулаў і славы ціхамірна соп, і яму сніўся ўсё той жа дзіўны сон, які так нечакана зваліўся на яго пасярод нарады.

## 10

Пасяджэнне ложы «Паўночная масліна паўднёва-шанхайскага рытуалу» было абвешчана адкрытым. Яшчэ стук малатка майстра не растаў у вушах братоў, як на невялікую кафедру, упрыгожаную чалавечым чэрапам і аксамітнай шыльдай з дзяржаўным гербам — двухгаловым мядзведзем — ды традыцыйнай братэрскай сімволікай, узышоў сам Генерал-Намеснік. Апрануты ён быў па-смешнаму: у дапатопныя ружовыя панталоны, высокія белыя панчохі, нейкі вышываны золатам камзол, на шыі боўтаўся абрывак упрыгожанай дыяментамі вяроўкі, а ногі былі абутыя ў старадаўнія чаравікі, запатрабаваныя ім з мясцовага музея дзекабрыстаў, выключна дзеля захавання пераемнасці. Дарэчы, варта сказаць, што і астатнія браты нарадзіліся адпаведна дакладчыку, але кожны меў хоць малую, а ўсё ж адрознасць ад сабрата. Так, скажам, у Верабейчыкава, пры ўсёй смяхотнасці яго музейнага адзення, да братэрскага фартуха былі прыстасаваны ордэнскія планкі, у майстра ложы на вераўчанай пятлі, своеасаблівым правобразе нашага гальштука, віселі, нібы тля на сакавітай сцяблінцы, мініяцюрныя панагіі, крыжы і херувімы, у акруговага пракурора была свая сімволіка, у жандараў свая і гэтак далей. Толькі ў аднаго брата падол быў цнатліва чысты, малюнак псінай галавы і венікі, якія ў свой час насілі апрычнікі, былі тайна вытатуіраваныя на ўнутраных баках ягадзіцаў, а ў паўсядзённым жыцці ён працаваў звычайным аптэкарам і для ўсеагульнай прыстойнасці насіў у пятліцы маленькі малюнак абвітай змеямі чары.

— Браты! Надзвычайны выпадак, які сабраў нас у спешным парадку на гэты сход. Многім давялося зведаць значны сорам і нязручнасці, але дух нашага брацтва, — аратар урачыста паклаў руку на чэрап, ад чаго той заблішчаў знутры пунсовым святлом, — усепераможны і святы. Магчыма, таму Яснавяльможны Дэмакрат, карміцель і духоўны наш магістр, не па афіцыйных каналах, а па шляху братэрства разаслаў сваю волю, а паколькі вы ўсе, за выключэннем найпаважанага брата аптэкара, яшчэ з'яўляецеся і вернымі салдатамі нашага Бацькі, то будзем лічыць, што найсакрэтнейшую нараду мы правядзём цяпер! — на апошніх словах голас Генерал-Намесніка займеў металёвае



гучанне. — Дык вось, — працягнуў ён, — па вядомых аднаму Богу каналах Найвысокаму і Яснавяльможнаму Дэмакрату стала вядома, што свет наш, грубіянскі і неадукаваны, стаіць на мяжы несусветных узрушэнняў, а галоўнае, што ўвесь непарушны светалад можа абваліцца ўадначас!

Гул ці сполаху, ці абурэння пракаціўся па зале. Высокі сход, нібы галодная зграя ваўкоў на свайго важака, упіўся поглядам на дакладчыка, перастаўшы шаптацца і калупацца ў насах. Па цяперашнім ладзе нават сама думка пра якія б там ні было разбурэнні прынятага светаладу з'яўлялася страшнай крамолай і несла за сабой самыя жорсткія санкцыі Усявышніх куратараў свету.

Пры гэтым санкцыі ўжываліся не супраць нейкага штрафніка-раёна ці мястэчка, а супраць усяго насельніцтва «зоны», «сектара», «акуёма-акругі» або іншай тэрыторыі пражывання, у якія акукліліся да дваццатых гадоў цяперашняга стагоддзя некалі незалежныя і ганарлівыя дзяржавы Еўропы і Амерыкі. Афрыка ўжо даўноператварылася ў паўдзікую пустэльню, населеную толькі зверынай і бандытамі. Рэдкія выспачкі цывілізацыі цяпліліся толькі на розных шахтах і свідравінах, аднак людзі там стала не жылі, а працавалі вахтавым метадам. Такія ж вахты былі і ў нашай некалі найбагатай Сібіры, пакуль кітаёзы пад падставай вечнага і непарушнага сяброўства не выкралі і Далёкі Усход і амаль усю Усходнюю Сібір. Што здарылася з Індыяй ды іншымі Акіяніямі і Аўстраліямі, свет папросту не ведаў, а хутчэй за ўсё, і не хацеў ведаць. Можа, іх ужо і не было, а можа, яны, наадварот, былі абязлюджаныя і закансерваваныя для запатрабаванняў будучых пакаленняў залатога мільярда, хто вам пра гэта цяпер адважыцца сказаць?

Вось такой была непарушная светабудова, і любыя намеры па яе змене неміласэрна караліся. Кастрацыя мужчынскага насельніцтва была лёгкім спалохам, як правіла, крамольнае паселішча выпальвалася разам з усёй маёмасцю і людам, выключэнняў прынцыпова ні для каго не рабілася: палілі і вышэйшых кіраўнікоў, і членаў іх кланаў. Так, дарэчы, паступілі з дзвюма зонамі на Балканах, адной у Ханьшчыне, чатырма ў Афраюсіі і яшчэ дзесьці. А адносна нядаўна збіраліся змарнаваць і цяперашнюю сталіцу Сібрусіі Маскву, і толькі за тое, што таемныя паслядоўнікі Дзіянісія Козела, якія таксама здрадліва хаваліся пад брацкай ложай, вырашылі крыху ўсумніцца ў правамернасці муніцыпальных пераўтварэнняў, некалі імі ж і праведзеных.

Чацвёра сутак засядала Сусветная Сямёрка, і толькі дзякуючы спрыту і значным тэрытарыяльным саступкам нашага Пераемніка, які па няпоўнаму мандату ўваходзіць у Сямёрку на правах не зусім восьмага і дапушчаны быў разносіць гарбату ўпаўнаважаным Куратарам падчас пасяджэнняў, сталіцу атрымалася абараніць. Вядома, з паслядоўнікаў Козела злупілі па сем скур, а паколькі ў чалавека скура ўсяго толькі адна, то адсутныя шэсць дзерлі з найбліжкай радні. Прашнырылі амаль усе брацкія ложы, вось ужо дзе народ страху нацярпеўся! Бо без абавязковага членства хоць бы ў дзяржложы «Адзінства» ўжо гадоў трыццаць як на працу ў дзяржустановы браць перасталі, адукацыі, пачынаючы з сярэдняй, не давалі і часцей, чым на іншых, накладалі падвоеную «трубавую павіннасць» на ўсенародных газавых здабычах. Чысткі яшчэ ішлі поўным ходам, але і гэтага Вярхоўным кіраўнікам здалося мала, і яны для ўсеагульнага павучання найвысока загадалі знесці высачэзныя Крамлёўскія сцены і абнесці гэтую цытадэль улады такім жа зубастым цагляным плотам у метр дваццаць вышынёй. А ва ўсіх туалетах прымусілі дзверцы паздымаць, каб відаць было, чым народ тамака чыноўны ды іншы займаецца і па колькі іх ля аднаго, так сказаць, ачка збіраецца. Вось такія страхі — і ўсё за адны толькі намеры! Слава Богу, не папалілі яшчэ! А што, увесь свет павінен бачыць, як сусветная свабодалюбнасць умее адстойваць свае ліберальныя заваёвы!

А тут раптам сам Генерал-Намеснік загаварыў пра магчымасць разбурэння асноў, тут ёсць з чаго перастаць калупацца ў носе. Публіка замерла, толькі злавесна няўмольна цікаў вялікі камінны гадзіннік.

— Браты! — застаўшыся задаволеным рэакцыяй залы, працягнуў генерал. — Гадзіна прабіла, і погляды ўсяго адукаванага свету звернутыя да нашага акуёма! Дакладна вядома, што нейкая дагэтуль усімі шуканая Шамбала знаходзіцца ў яго межах і ўжо гатовая выявіцца. Найвысокім Самадзержным Дэмакратам, яго вялікасцю Пераемнікам Шостым — ды не абдзеляць усякія багі яго сваёй літасцю! — прынята рашэнне аб пошуках гэтага схову і яго аховы да прыходу асноўных сіл Міралюбцаў! Вы разумееце момант адказнасці? Можа, услых нават страшна і прамаўляць… — Намеснік сапраўды перайшоў на шэпт, прысутныя ў зале падаліся наперад, нібы марская хваля да берага. — Дык вось, не выключана, што і сама Пышная Сямёрка Свету можа завітаць у нашую глухамань для асабістага, так скажаць, інспектавання! — Зала ў жаху вохнула. — Вы, спадзяюся, разумееце, спадары, якая гэта адказнасць! Га?!



Зала маўчала, толькі па-ранейшаму злавесна цікаў гадзіннік.

— А што гэта яшчэ за такая Шамбала? Я асабіста аб такой і не дасведчаны зусім. І галоўнае, што ж шукаць? Акуём жа наш на старыя меркі з добрую Аб'еўру, мабыць, пацягне! — пляснуў рукамі брат-пракурор.

— Гасподзь святы! — хрысціўся, забыўшыся аб прыстойнасцях, майстар ложы. У іншы час за падобнае маханне пальцамі ён мог бы паплаціцца крэслам майстра, братам усіх рытуалаў яшчэ спрадвеку была забаронена ўсякая адкрытая рэлігійнасць. Гістарычна даказана, што ўсё ў нашым свеце створана Вялікім Архітэктарам, а разнастайныя багі і бажкі да гэтага не маюць ніякага дачынення. Ад Архітэктара, дарэчы, і вядуць свой духоўны радавод Найвышэйшыя Куратары і, як у апошні час дакладна вызначана навукоўцамі, і нашыя айчынныя Пераемнікі.

— Ды што ж гэта за пошасць такая на нашую мілую айчыну! — працягнуў сваё галашэнне божы служка. — Ох, нездарма я так не люблю ўсю гэтую ўздыбленую зямлю, горы гэтыя распраклятушчыя! Ды і ў божым жа свеце на добрае няўжо што калі ўздыблівалася? Не, спадары, усё гэта сорам, усё да зла ды распусты! Чула душа мая, будзе нешта непатрэбнае і небяспечнае для набожных людзей нашых!..

— І што ж прапаноўвае вялебны майстар? Спалохацца і чакаць немінучага канца свету? Дык вы яго нам ужо трэцюю тысячу гадоў абяцаеце, — па-лісінаму, з відавочнай яхіднасцю, спытаў брат аптэкар.

— І ні ў якім разе, вялебныя аднадумцы! — катэгарычна парыраваў захавальнік майстроўскага крэсла. — Нашая найпершая задача — зрабіць самы поўны росшук і аб выніках неадкладна далажыць яго высокадэмакратычнасці Генерал-Намесніку. Мне вернікі пасродкам споведзі ўжо даўно сігналізуюць, што ў Чулымскім удзеле нейкія вандроўнікі абвясціліся, народ бударажаць, супроць зацверджаных Курултаем канфесій агітуюць, брыдоты аб роўнасці ўсіх людзей гавораць. Анафема, адным словам, і здрада!

— Браты! Завываннямі і гаманой, — як бы не чуючы слоў князя свабоды сумлення, заракатаў Намеснік сталіцы, — мы з задачай не ўправімся! А таму слухайце баявы загад: без адмысловай паспешлівасці і, галоўнае, ахоўваючы ўсё ў тайне, кожны з вас павінен сабраць усе наяўныя чуткі, казкі, прыпавесці і іншую небыліцу, якая існуе ў акуёме пра гэтую Шамбалу,

і тэрмінова прадставіць у маю канцылярыю. Людзей, якія небыліцы вымудроўваюць і шкадліва ўкараняюць у несвядомыя галовы, якога б роду-звання яны ні былі, падвергнуць арышту і правесці ў казематы свабоды і справядлівасці. Перамовіць па гэтаму пытанню са сваімі людзьмі ў бандах, гэтыя шэльмы многае могуць нам распавесці. Абвясціць аб павелічэнні ўзнагароды за затрымку супастата Макуты-Бея, і яшчэ загадана нічога ні пад якім выглядам, ні за якія грошы не перадаваць ханьцам, а менавіта яны ўбачылі сляды гэтай самай Шамбалы ў нашых гарах. Вось, здаецца, і ўсё! За працу, другі мае! — і ён мігам кульнуў паднесены яму мажардомам кілішак анісавай гарэліцы.

— Спадар Генерал-Намеснік… — пачуліся вымольныя воклічы.

— Да парадку, браты! — стукнуў малатком майстар ложы. — Прашу не забывацца, што ў гэтых сценах няма ні спадароў, ні чыноў! Мы браты адзін аднаму! Любы брат жывёлапрамысловец, — звярнуўся старшыня да больш за іншых мітуслівага гладкага чалавека, — явіце нам сваё пытанне.

— Правялебны брат майстар! Перапрашаю я вялікадушна, але спадар Генерал-Намеснік, бацька наш, заступнік, — разгаласіўся, спрабуючы перасіліць у сабе неймавернае хваляванне, найбагацейшы чалавек акуёма, — будзьце добрымі, не пагрэбуйце цемрай інстытуцкай, адукуй ты нас, Архітэктара дзеля: што такое гэтая самая Шамбала?

— Так! Так! — пачуліся з усіх бакоў воклічы падтрымкі.

— Дакладна гэтага ніхто толкам не ведае. Аднак шукаюць гэтае тайнае месца ўжо вельмі працяглы час, можа, і паўтысячы гадоў, а можа, і больш. Што ў ім утоена, таксама найпоўная таямніца, адны кажуць, маўляў, гэта сховішча вялікіх ведаў, іншыя, — што дзесьці глыбока ў пячорах спяць старыя багі і толькі чакаюць свайго часу, каб паўстаць і за ўсё спытаць… Словам, гэта ёсць нейкая таемная пячора, у якой невядома што… — І праз паўзу дадаў: — Ды глядзіце мне, каб без дазволу туды ніхто соваца не замануўся, — грозна гохнуў малатком майстар, — а інакш пракляну і анафеме аддам!

— І мы таксама праклянём! — паўскоквалі са сваіх месцаў муфтый, рабін, нейкі жанчынападобны ксёндз і яшчэ з паўдзясятка дробных служкаў дробных культаў.

— Вось з такой пахвальнай аднадушнасцю мы і павінны дзейнічаць. І язык за зубамі трымаць, — падрахаваў Верабейчыкаў.



## 11

Мяшок, накінуты на галаву, прыліпаў да твару і не перашкаджаў дыхаць. Смурод застаялай галечы, якую струменіла грубая тканіна, перыядычна выклікаў ванітныя пазывы. Машцы здавалася, што яшчэ крышку — і яна памрэ. Усё цела нясцерпна ныла; як звязаную авечку, яе перакінулі праз сядло і кудысьці везлі. Хутчэй за ўсё, яна некалькі разоў губляла прытомнасць, апошняе, што памятала, — быў туман, які растварыў і схаваў у скалы людзей. Па меры таго, як прытомнасць да яе вярталася, яна пачала адрозніваць не толькі смурод мяшка, але і гукі, у яе галаве, нібы патурбаваныя конікі, заскакалі розныя думкі. Першым чынам да слёз стала шкада маці, яна ўявіла сабе яе боль, убачыла, як тая пакутуе і не знаходзіць сабе месца, зрываючы злосць на нявіннай дворні. Потым нахлынула іншая думка, і яе ахапіў жах: а дзе Даша? Няўжо яна засталася адна з гэтымі бандытамі?! Што з ёю будзе? Міжволі ў галаве нараджаліся страшныя карціны нейкіх дзікіх оргій, нявольніцкіх рынкаў, рэкі слёз ды іншыя брыдоты. Падобныя фільмы былі вельмі папулярныя ў Аб'еўры, балазе знакаміты Галівуд ужо гадоў дваццаць як перамясціўся ў былую Турцыю, а цяпер звычайную лектаральную зону. «Мамка… толькі не гэта!..» — Машка зусім па-іншаму ўяўляла сваю блізкую будучыню. Слёзы бяссілля і горкай крыўды пакаціліся па шчоках.

Коні, праскакаўшы працяглы час, ужо павольна ішлі крокам. Выкрадальнікі ціха перагаворваліся на нейкай дзіўнай і малазразумелай ёй мове, і манатоннасць руху амаль люляла. Раптам нешта адбылося, і гутарка нечакана перайшла на падвышаныя таны, яны гучна заспрачаліся, і конь затанцаваў на месцы. Машка перастала плакаць, і калючы страх ахапіў яе душу.

— Ты, кабяліна паганы! — як выратавальны круг для тапельца, даляцеў да яе Дашын голас. — Ты і думкі такой нават не трымай! Вунь кабылу сваю абходжвай, а пра маладую барыньку і не думай!

— Гамадрыл, я табе кажу: не цапай кызымак, яны таньга вялікі каштуюць, а папсуеш — Сар-мэн твая яйкі на патэльню класці будзе. Мая маўчаць не стане, маёй барышу хоца!

— Ай, лё! Зацэм пустое на паветра брэшаш? Я тваёй сам таньга дам, я такоя куня нават рукой не чапаў…

— Твая мая не разумей! Маўцаць, аднак, мая не будзе, мне свой яйкі даражэй будзе. Не цапай куня, хутка ўжо дома будзем, тама таньга свой паганы, аднак, дас свабодныкам зрыцам і ўсё

палуцыс. А яссё, Мурдыксар цатырох маладых асліцак, аднак, у банды прыгнаў, зусім задарма дае пасябраваць.

— Ты гэта пра асліцыкаў не брэсас? — падабрэлым голасам вымавіў той, якога звалі Гамідрыл.

— Мамай Буды клянуссс! Сама бацыў адзін такая рыжанькі, як ты лубіссс, аднак.

«Госпадзі, жах які…» — у Машкі загрукала ў скронях. Хацелася крыкнуць сяброўцы слова падзякі, але горла зусім перасохла і замест слоў вывяргала нейкія бездапаможныя хрыпы.

Яны яшчэ шмат ехалі, хутчэй за ўсё, вершнікі злёгку прыкімарылі, і коні самі павольна цягнуліся дадому. Ад мернага калыхання яна таксама пачала правальвацца ў няпрошаную дрымоту. І сніўся ёй усё той жа месяцовы сон, які яны так і не паспелі разгадаць з Дашай…

Абуджэнне было імгненным.

Вакол гаманіў разнамоўны натоўп. Саслабелыя ногі не трымалі, і Маша, яшчэ нічога не цямячы, паваліласа на зямлю. Хтосьці паспешліва сарваў з яе мяшок, і яна зажмурылася ад яркага ранішняга святла. Павярнуўшы галаву, яна ўбачыла Дашу, якая ляцідь да яе і здзірае з сябе вяроўкі.

— Ой, горачка нашае! Цэлая! — аглядаючы і абмацваючы яшчэ напаўпрытомную гаспадыню, галасіла прыслуга. — Не знасіць мне дурной галавы, і заслужана, заслужана! Ды не плачце вы цяпер, самае страшнае ўжо мінула, а тута, у логаве іхнім, вас ужо ніхто не пакрыўдзіць. Яны ж, нябось, грошай захочуць за вас атрымаць… Як высвятляць, што ды як, так і адправяць да цётачкі вашай ганца.

— Чаму ты ўвесь час кажаш пра мяне адну, а ты як жа? — яшчэ шморгаючы носам, але ўжо з цікаўнасцю азіраючыся вакол, спытала Машка.

— Ды што я? — важдаючыся з вяроўкай на сваёй назе, ціха адказала Даша, — я ж з простых, хто за мяне што дасць?

— А цётачка?

— Ды яна яшчэ, нябось, і прыплаціць, каб мяне куды-небудзь далей у гарэм запрадалі. І правільна зробіць, заслужана мне, прыпадачнай! І што ж мяне тузанула вас з сабой у горы цягнуць?

Вакол гаманіў ставокі стагорлавы натоўп несусветнай набрыдзі абодвух палоў і самага рознага веку. І натоўп, як адзіны арганізм, прагна пазіраў на незнаёмак. Погляды, вядома, траплялся самыя розныя, але нават пры самым гарачым жаданні



вы б не выявілі там ні аднаго спагаднага. І кожнаму з іх здавалася, што ёсць у яго на тое свае падставы. Бо натоўп апушчаных людзей заўсёды ненавідзіць выпадковых чужынцаў, і не гэтак за тое, што яны — дзеці іншага свету, а проста з-за ўласнай ганебнасці. Гледзячы на гэтых чысценькіх, наіўных і спалоханых паненак, прадстаўнікі нізу навідавок адчуваюць усю глыбіню сваёй нікчэмнасці, а зрабіцца іншымі ў іх няма ні жадання, ні магчымасці. Менавіта ў гэтым і ўтоеныя першапрычыны ўсіх бунтаў і рэвалюцый. І не будзь у іхніх душах страху, які толькі і кіруе падобнымі супольнасцямі, гэтыя дзве іншародныя для іх свету істоты даўно б былі разадраныя і зняважаныя. Але страх, вялікі і ўсёмагутны страх, прымушаў натоўп трымацца на адлегласці ад прынаднага кавалка, і толькі вочы, ліхія і зайздросныя, нахабна мацалі бедных ахвяр, утыкаючыся ў іх, як вострыя нажы мясніка.

Натоўп загаманіў з новай сілай, прымусіўшы спалоханых палонніц цясней прытуліцца адна да адной ад страху, што прыйшла іх апошняя гадзіна, хтосьці ўсёмагутны прызнаў іх бескарыснымі і вырашыў аддаць на водкуп сваёй ненаеднай зграі. Але, на здзіўленне дзяўчат, прагны натоўп раптам страціў да іх усякую цікавасць і з шумнымі воклічамі кінуўся да варот гэтага закінутага ў горнай тайзе астрога.

Праз нейкі час у невялікі, верагодна, прызначаны для зімовага ўтрымання авечак загончык, у якім трымалі дзяўчат, упіхнулі трох новых палонных. У мужчын рукі яшчэ былі звязаныя, а сімпотная маладая жанчына ў вайсковым камбінезоне ліха адмахвалася ад нападаўцаў невялікім нажом. Натоўпу гэта падабалася, і ён з ухвалай роў кожны раз, калі ваярцы атрымлівалася ўчапіць сваім клінком асмялелага бандыта. Апынуўшыся ў загоне і пераканаўшыся, што ёй і яе спадарожнікам небяспека не пагражае, дзяўчына спрытна разрэзала вяроўкі на руках аднаго са сваіх таварышаў, пыхліва праігнараваўшы працягнутыя рукі другога, схавала нож і з цікаўнасцю ўтаропілася на прыціхлых сунявольніц.

— Даўно, дзеўкі, у гэтым лайне сядзім? — вызначыўшы, што гэтыя перапуджаныя кваткухі ёй не канкурэнткі, спытала яна і, працягнуўшы руку, прадставілася: — Эрмітадора Гопс! Не бойцеся, падзельніцы, не дам я вас у крыўду. Ну, чаго здранцвелі, завуць вас як?

— Мы — Даша і Маша, нас таксама толькі нядаўна прывезлі, — чамусьці за абедзвюх адказала прыслужніца. — Цьфу

ты! Гэта я — Даша, а вось яна — Марыя Званская, дачка знакамітай чулымскай пані.

— Ну, вось гэта ўжо ясней, а то «Маша-Даша». — Пацiскаючы рукі, пыхліва вымавіла Гопс і, нядбайна кіўнуўшы галавой у бок мужчын, дадала: — А гэта — Енах з уладных і яго вадзіла-мудзіла пад імем Берыя, які і здаў нас, гад, гэтай зграі…

— Эрмі! — дапамагаючы кіроўцу развязацца, паспрабаваў угаварыць яе Енах. — Берыя — нармалёвы, сумленны хлопец, успомні, дарэчы, гэта ж не мы, а ён адстрэльваўся ад разбойнікаў…

— Эт чо я чую, хто гэта тута сумленных лясных браценікаў зграяй назваў, а? — уладным жэстам рассунуўшы ўраз прыціхлы натоўп, да загарадкі ўперавалку ішоў сярэдняга росту чалавек у падбітай чырвоным атласам ватоўцы і вайсковых брыджах, запраўленых у невысокія сінія кітайскія боты. За поясам у яго тырчала пазалочаная дзяржальня дапатопнага «маўзера», а на самой дзязе боўталася некалькі таўсценных залатых ланцугоў ад кішэнных гадзіннікаў.

— Ды я, Сар-мэн, і назвала. Не ведаючы, што да цябе ў госці патрапіла, — ганарліва расправіўшы плечы, выйшла яму насустрач Эрмітадора.

— Опа, бля! Гопс уласнай фотакарткай! Ты чо дзееш, бесталковая? Я-та думаў — заграбастаў тоўсценькіх карасёў, а мне Гопс прывалаклі ўласнай персоначкай, вось ужо невязуха! Ну тады здароў, ці што, туляга маёй душы! — Яны абняліся, здзівіўшы не толькі палонных, але і ўсю сумленную брацію, што высыпала паглядзець на цікавае прадстаўленне.

У аддаленні, неяк бачком да натоўпу, стаяў Гамадрыл са сваім нядаўнім спадарожнікам, пыса першага выяўляла поўную асалоду, мяркуючы па ўсім, ён паспеў ужо пасябраваць з рыжанькай ішачкай. Убачыўшы братанні атамана з палоннымі, Гамадрыл змяніўся з твару і ўмольна зірнуў на таварыша. Дружбак, хітра ўсміхаючыся, працягнуў лодачкай даўно не мытую далонь. Бамбіза Гамадрыл, за што ён і быў надзелены сваёй прыматаўскай мянушкай, абрадавана ўклаў у яе купку жоўтых кругляшоў, якія мусілі гарантаваць маўчанне таварыша. Кітападобны разбойнік грунтоўна паспрабаваў кожную манету на зуб, адну вярнуў для замены і, задаволены, нырнуў у натоўп, растварыўшыся ў яго разнаітасці.

— Ну і куды ты на гэтых парсюках пыліла сярод начы? — задаў пытанне Сар-мэн, кпліва агледзеўшы палонных. — Слухай, а гэты, у натуры, нібыта нічога, на прыстойныя бабкі пацягнуць можа, — ён ткнуў пальцам у грудзі Енаха. — Ну ты ж хрэн аддасі, га? Дык, можа, прадасі мне яго? А чо, нядрэнна прабашляю. Ты ж у рабагандлярах ніколі не лічылася, табе ж гэта западло было. Ну так чо, па руках і ў школу не пойдзем?



— Сар-мэнчык, ну чаго ж ты, родны, расчокаўся? Ды і кінь ты сваю танную феню, непрыстойна, анягож. Што пра нас тваё госці могуць падумаць? Ды і нязручна неяк на вуліцы ў гандаль пускацца, ці ты за апошні час лаўрушнікам паспеў стаць, га? Пачаставалі б бедную ахвяру свабоды якім-небудзь напоем, лепш, вядома, добрай горнай гарбатай. Я ж памятаю, гарбату ў цябе выдатную вараць…

— Гопс, ды гэта я — ахвяра, век волі не відаць. А чо, пайшлі да дастархана, чыфірнём па малюсенькай, — і ўжо павярнуўшыся, кінуў камусьці праз плячо: — Гэтых таксама пакарміце, толькі не надта, а то дур папруць.

Енах хацеў быў нешта сказаць, ды словы неяк самі сабой затрымаліся ў горле. Нядаўняя палюбоўніца, нават не ганараваўшы яго позіркам і прызыўна калыхаючы сцёгнамі, у абдымку з бандытам накіравалася да мудрагелістага церама, прылепленага да самай скалы.

Не ўбачыўшы чаканага, натоўп пачаў моўчкі разыходзіцца, выносячы раздражненне і прыкрасць па сваіх норах, дзе яе можна было спаўна спагнаць на дамачадцах і тых, хто слабейшы.

Прыгнечаны намеснік Намесніка засумаваў. Сітуацыя складвалася даволі незразумела, і ён не ўяўляў, чаго яму трэба чакаць ад заўтрашняга дня. Захінуўшы шчыльней сурдут, ён прысеў на парослую вільготным смарагдавым мохам зямлю і асуджана прыхінуўся спінай да плеценай загарадзі авечага загона. У яго галаве блукалі трывожныя думкі, і, сцепануўшыся ад ранішняй прахалоды, ён прымружыў вочы. І тут яго наведала нейкае дзіўнае пачуццё. Ён выразна адчуў на сабе нечы погляд.

Такое часам бывае з чалавекам у хвіліны небяспекі і моцнай душэўнай напругі, нешта звярынае вылазіць з глыбіняў яго існасці і прымушае жыць асаблівым, дагэтуль няведамым, чуллівым жыццём. Абвастраюцца нюх, слых і зрок, мозг улоўлівае самыя тонкія ваганні надыходзячай небяспекі, спіна адчувае не толькі лёгкі ветрык чужога руху, але і чужы погляд.

Енах прачытаў на сабе гэты погляд, і амаль адначасова прыйшло адчуванне, што ў гэтым не ўтойваецца ніякай для яго небяспекі. Ён павольна павярнуўся. Вялікія блакітныя вочы з цікаўнасцю глядзелі на яго, пухнатыя шаўкавістыя валасы рэд-

кага папялістага адцення паслухмяна струменіліся па тонкіх, амаль дзіцячых плячах. Енах здрыгануўся ад нечаканасці: перад ім сядзела тая самая незнаёмка, якую ён двойчы за апошнія суткі бачыў у сваіх дзіўных, непадобных на ранейшыя снах.

Іх погляды сустрэліся, і цяпер ужо Машка, ускрыкнуўшы ад нечаканасці, залілася фарбай збянтэжанасці: яна таксама пазнала ў незнаёмцу чалавека, які зваў яе ў адрыну ў тым дзіўным трывожным сне… Яна разумела, што так глядзець на незнаёмага мужчыну непрыстойна, але нічога не магла з сабой зрабіць, ды і ён, відаць, таксама быў не ў стане вынырнуць з бяздоннага блакіту яе вачэй.

Берыя і Даша са здзіўленнем сачылі за тымі глядзелкамі, нічога не разумеючы. Аднак асабліва ўнікаць у гэтую справу нікому з іх не хацелася, бо ў той момант кожнага мучылі свае праблемы: кіроўцу, як заўсёды, да ашаламлення хацелася есці, а дзявоцкае сэрца раздзіралася ад жалю: яна ўяўляла, як яе няшчаснага Юньку валакуць лупцаваць на стайню.

## 12

У маёнтку Званскай тварыўся несусветны пярэпалах. Усе ўжо былі не адзін раз адлупцаваныя і пастаўленыя на вушы. Знікла ўсеагульная ўлюбёнка Машка і яшчэ двое шалапутных дваровых людзей. Распусная, як цяпер высветлілася, Дашка («І гэта я на яе, акаянную, анёлачка свайго панадзеяла!» — галасіла пані) і Дашчын сабака — Юнька. Пані даклалі ўсё: і пра адрыну, і пра лесвіцу, якую сын конюха прыладжваў вечарам да барышнінага акна, і пра весніка старых багоў, і пра тое, што ў тайзе ўначы сварка была, і пра тое, што апоўдні ля Змяінага каменя, вёрст з дзесяць ад вытоку Бел-ракі, знайшлі пяць асядланых коней, а вершнікаў ніякіх заўважана не было. Словам, страсці ды й толькі! І яшчэ страх-та які — сабака завыў гэтай ноччу, мабыць, перад самым заходам месяца, раніца ўжо ў расе купалася, тут ён і зацягнуў сваю маркотную арыю. Вось такія справы нячыстыя дзеяліся ў акрузе.

Паліна Захараўна сядзела на ганку, у адмыслова з гэтага выпадку вынесеным з пакояў старадаўнім матчыным фатэлі. Сядзела, грозная і непрыступная, як непуцёвы кіраўнік мінулага стагоддзя Юнцын з вялікага пахмелля. Яна машынальна аддавала каманды, прымала даклады, а сама ў душы касцярыла Бога за тое, што не даў ёй хоць якога-небудзь валяшчага мужычка, усё ж як-ніяк было б лягчэй, аказваецца, не ўсякая справа бабіным розумам спорыцца.



Алею ў агонь падліў і запыханы ад бегу Прохар.

— Ох, бяда, бяда, матухна, — забожкаў стары, цалуючы сваячцы рукі. Пані скамянела, чакаючы самага страшнага. Глафіра ўжо трымала напагатове нюхальную соль. — Знік, выкрадзены на знявагу! Токі аўтамабіль яго, увесь разрабаваны, знайшлі ля Рабога Яра! Што будзе-та, матухна? Што будзе?

— Ды нічога не будзе, — уздыхнуўшы з палёгкай і адводзячы Глафірыну руку з соллю, вымавіла Званская, — дашлюць новае боўдзіла, ды і справа з канцом. Ты што гэта, прыдурак, пра пустое клапоцішся, калі ў нас дзіцё роднае нехта скраў?! — пераходзячы на строгі тон, напусцілася яна на Прохара. — Прэч з вачэй маіх, бручка параная!

— Ой, і дарма ты так на мяне, пані, дарма! Агульнае ў нас з табой гора, толькі бачыцца мне, што, уладзіўшы адно, мы і іншае, з Божай дапамогай, адолеем, — панізіўшы голас, зашаптаў ёй амаль на самае вуха, — мне верныя людзі паведамілі, што Макуты-Бея малайцы нашкоднічалі сёння ўначы і ля Змяінага Каменя, і ля Рабога Яра…

— Ды прычым тут Камень і Яр, я табе, садовая башка, кажу: Машка знікла, а ты зноў пра…

— Ды не гарлапань ты так! — прыцыкнуў Прохар на сваячку, — і фурый сваіх адпраў куды-небудзь, а то вушы ў нашай гаворцы так і палошчуць, а справа тут нежартоўная.

Паліна Захараўна, замест таго каб пакрыўдзіцца, жэстам адправіла сваіх прыбліжаных і, абапершыся на руку старога служакі, таропка падалася з ім у далёкія пакоі.

— Цёмна ў нашай справе, Захараўна, цёмна, — пасадзіўшы пані на канапу і ўладкаваўшыся поплеч, пачаў стары, — Макута-Бей цяперашні ўначы сваіх верхаводаў збіраў на сход, аб чым тамака гутарылі, ніхто не знае, а хто і знае, таму спадручней язык свой праглынуць, чым хоць паўслова мовіць. Адно сказана: недалёка ад нашых месцаў сышліся яны, ну, можа, вёрст пяць будзе, не больш. Пасядзелі, пашушукаліся і адышлі ў цемры начной. А якраз у той жа час ля Змяінага Каменя, гэта ці не на другі дзень поўні прыходзіцца, ужо які месяц наша мясцовае мужычно збіраецца, і да іх, нібы, выплывае човен…

— Ды дзе ж тамака чоўну плаваць, тамака ж Бел-раку і верабей у брод пяройдзе? Ды і не таміў бы ты душу сваімі байкамі, давай дзела кажы!

— Ну злітуйся, матухна, не перабівай ты мяне, я і так у думках блытаюся! Вядома, няма дзе тамака чоўну байдаць, дык не аб тым кажу! Знаць, выплывае човен, а на ім нейкі старац, а пры дзеду дзеўкі здаровыя, як твая Нюшка з маслабойні…

— Ды ідзі ты! У Нюшцы ж, мабыць, два метры з чвэрцю!

— Вось табе праўдзівы крыж, — абнёс лоб знакам Прохар, — сам, праўда, не бачыў, мужык адзін гаварыў, а ён высокі, метр восемдзесят будзе, я яго сам рулеткай мераў, дык вось, мужык той ёй па сіські.

— Госпадзі святы! Што гэта ў вас, у мужыкоў, усе меркі нейкія непрыстойныя: то да пупа, то па сіські, адзін сорам у галовах, — пані заплакала.

— Ды што ты, што ты… — пачаў яе суцяшаць Прохар.

— Ой, Прохарка, адзін ты ў мяне на свеце родная крывінка застаўся! Што тамака з нашай Машуткай, што з анёлачкам маім? Можа, хто наздзекуецца з небаракі! — пані зараўла ўголас.

— Ну што вы, бабы, за народ такі, нічога не даслухаюць і ўжо ўміг у слёзы. Ды жывая і цэлая твая Маша! Дашка пры ёй, як ланцужны сабака, сядзіць, нікога не падпускае.

— Ты адкуль гэта ведаеш? — ураз абарваўшы рыданне, валявым і ўжо строгім голасам крыкнула Званская.

— Не, вы толькі паглядзіце на яе, ужо камандуе, а імгненне якое таму слязамі мылася! Юнька твой распавёў…

— Дзе шэльма? Да мяне яго — і розгамі, дубцамі яго…

— Злой ты пад старасць, Захараўна, становішся, у дзічыну цябе бач, як прэ, а яшчэ народная пані. Таму і не пайшоў да цябе хлопец…

— Ты яго яшчэ манахам назаві, сабаку паскуднага! Мне кагадзе парасказалі, як ён ялдыром сваім на адрыне махаў! Хлопец! Пачакай, толькі дабяруся, я яму гэта «хлапецтва» крапівой нашпару. Дзе гэты нахабнік? Вядзі яго да мяне!

— Ды каб і мог, усё адно не прывёў бы! Чаго ты распальваешся, можа, Глафіру клікнуць з яе бурбалкамі? А то ізноў зваліўся, а табе яшчэ дзеўку паднімаць, замуж выдаваць, зяця ва ўкарот браць, — і, не пераводзячы духу, выпаліў: — У бандзе ў Сар-мэна Юнька дачку тваю і сваю нявесту Дашку пільнуе. Мо яшчэ ўначы прыскача ды што новае распавядзе. Так што ты давай астынь, гасцінцаў якіх збяры, толькі без гэтых панскіх выкрунтасаў, сама знаеш…

Паліна Захараўна паціху супакоілася. Глафіра прынесла нейкіх ханьскіх смактулек ад нерваў, заварылі гарбату. Прохар усё турбаваўся пра свайго пана, а толкам ніхто сказаць не мог, хто яго прыбраў і калі назавуць цану за яго свабоду.

Трэба сказаць, што гандаль людзьмі ў Сібрусіі квітнеў яшчэ, мабыць, з часоў Пераемніка Першага Вялікага. Як пры ім пачалі адводзіць людзей у рабства і для продажу ды падрываць дамы з соннымі гараджанамі для пастраху народанасельніцтва і ўздыму рэйтынгаў, так гэтая невясёлая традыцыя дасюль і засталася. Словам, народцам прыгандлёўваць ужо ніхто не грэбаваў.



Летась скандал сусветны разгарэўся: прышчучылі дачку аднаго ўдзельнага ўладара. Дама тая без сораму прадавала падуладны бацечку народзец і оптам і ў розніцу, толькі шоргат стаяў. За год, глядзі, сорак тысяч казённых душ загнала, каго сваім абшарнікам, каго на запчасткі ў Аб'еўру, каго ў далёкія электаральныя зоны, што і канцоў не адшукаць. Прышчучыць прышчучылі, пашумелі для пастраху, татку на пенсію адправілі, а дачку ж і адпусцілі, яна цяпер ва Усевялікім Курултаі засядае, законы і правы для недапраданых вынаходзіць. Вось такія пірагі.

Таму пані і супакоілася, ведала, што цяпер сапраўды нічога з дачкой не здарыцца. Сар-мэн хоць і безгаловы, але ўсё ж Макутаў чалавек, беззаконнічаць не пачне. Вось каб уйсуры дзевак выкралі, ханьцы ці каўказскія чыкінцы, вось тады сапраўды трэба было б хвалявацьца. А так Званская напісала лісты і Макуце-Бею, і Сар-мэну з прапановай сустрэцца і абгаварыць пытанне аб выкупе дачкі і яе прыслужніцы. Дарэчы будзе сказаць, Макуту-Бея і Сар-мэнавага бацьку яна нават вельмі нядрэнна ведала. Усе яны калісьці ў адной школе вучыліся, а іншых у іх тагачаснай глухамані і не было.

Так у клопатах ды ўздыханнях і дзень мінуў. Прохару бліжэй да вечара прынеслі тэлеграму ад Генерал-Намесніка, у якой іх высокая правялебнасць неадкладна патрабавалі Енаха Мінавіча да сабе на канфідэнцыйную аўдыенцыю. Доўга думалі, што адказваць на гэты заклік, і вырашылі: найсвятлейшаму воку трэба давесці ўсю праўдзівую праўду. Так і зрабілі. І, па патрабаванні Глафіры, адказ падпісалі: «Выканаўца абавязкаў каменданта Чулымскай крэпасці Прохар Піліпавіч Званскі», праўда, перш, чым прапісаць прозвішча, доўга спрачаліся, якое яно ў Прохара, гэтае самае прозвішча. Яго ж ад нараджэння ніхто па прозвішчы і не зваў, усё больш Прошка ды Прошка. Верх узяла пані, настаяўшы на роднасці.

— А што, правільна, — выпраўляючы ганца на пошту, задаволеная сабой, разважала Паліна Захараўна, — трэба калісьці і табе ў людзі выбівацца, а то ўсё жыццё служыш, служыш, а карысці — пшык! А тут глядзіш, можа, і чын які дадуць ды сапраўды камендантам паставяць, а то ўжо, мабыць, гадоў пятнаццаць як крэпасць нашая без галавы.

— А што я — не галава? — з робленай крыўдай вымавіў Прохар, якому былі прыемныя развагі сваячкі.

— Ты галава, ты ў нас на ўсе выпадкі галава…

— А, між іншым, Прохар Піліпавіч за апошнія якія месяцы тры над парахавымі склепамі дах перакрыў, — шматзначна дадала Глафіра Ібрагімаўна.

— Ох, ты ўжо мяне хоць не смяшы, якія парахавыя склепы? Ды ён тамака са сваёй інваліднай камандай капусту квасіць, агуркі соліць і самагонку паціху гоніць…

— Ну, пані, гэта пакуль пораха ў няма, а як вайна?! — стаяла на сваім даверная прыслужніца.

— Бацечкі святыя! — пляснула рукамі Званская. — Вы толькі паглядзіце на яе! Глафіра! Ці не ўтрэскалася ты ў гэтую аблезлую малпу?

Прохар збянтэжыўся. А Глафіра, можа быць, упершыню ў жыцці не падтакнула сваёй гаспадыні.

— Чаму ж гэта Прохар Піліпавіч — малпа? Ён яшчэ цалкам спраўны мужчына, ды і сваяк ваш як-ніяк будзе.

— Ну, Глашка, глядзі, а то я ж пасля Калядаў магу і пад вянец вас адправіць, ды з гаспадарскім роднасным благаславеннем! А што…

Далажылі, што з пошты вярнуўся ганец і зноў з паперай.

У зваротнай тэлеграме паведамлялася, што Прохару Званскаму прысвоена званне обер-капцінармуса, і ён прызначаны камендантам Чулымскай крэпасці, а таксама яму ставілася ў абавязак неадкладна мабілізаваць усе наяўныя ва ўдзеле сілы і прыняць належныя меры па росшуку зніклага высокага чына. «Акрамя таго пачаць следства па дадзеным абуральным факце і аб ходзе гэтага дакладваць асабіста яго высокай правялебнасці Генерал-Намесніку Верабейчыкаву». Вось такія справы.

Усе кінуліся віншаваць аслупянелага Прохара, а той усё ніяк не мог паверыць, збянтэжана церабіў у руках запаветную паперу, пакуль Паліна Захараўна яе ў яго не адабрала.

— На вось, Глафіра, ды добранька схавай, а то як чаго кране, так і канцоў не адшукаеш! Папера — яна ў нашых палясцінах заўсёды галоўнай лічыцца, яна не роўня чалавеку, ёй, мілай, толькі і вераць.

Прохар, ураз памаладзелы, пабег выконваць найвысокую волю, а пані са сваёй дворняй пачала рыхтаваць гасцінцы ў палон ды клапаціцца ўпотай аб шыцці мундзіра для новаспечанага каменданта крэпасці.

Юнька прыскакаў пад раніцу.

Сабака ўжо перастаў выць. Густы туман засцілаў усё вакол,ператвараючы наваколле ў поўную непазнавальнасць. Нешта



дзіўнае і таемнае жыве ў тумане, змяняецца ў ім падпоўневы свет, і знаёмае становіцца незнаёмым, і вядомае атрымлівае чужыя рысы. Можа, таму даўней і не пускалі мацяркі дзяцей бегаць у тумане, можа, сваёй незразумелай сілай ён і сёння цягне да сабе маладых, якія імкнуцца пазнаць сваё будучае і ў нерэальнай белізне ўбачыць свайго наканаванага. Можа, яно і так, у тумане ўсё можа быць…

Юны вершнік скакаў скрозь туман, не баючыся і не заўважаючы яго. Яму пра туман было вядома многае такое, што і ў сне не снілася самым мудрым кніжнікам.

Юнь наблізіўся да крэпасці і здзівіўся. Старыя вароты гэтай фартыфікацыйнай непатрэбнасці былі наглуха зачыненыя, а ў каравулцы над імі блякла свяцілі вялікія алейныя ліхтары, якія ўвесь час, колькі ён памятае, валяліся на гарышчы дома намесніка.

«Салдатні з акуёма панагналі, — паварочваючы свайго вернага Буша назад у туман, падумаў ганец, — ну і як мне цяпер Прохара адтуль вызваць? Бач ты, і вароты зачынілі, іх спакон веку ніхто не замыкаў! Рабіць няма чаго, давядзецца да пані ехаць». — Толькі ад адной гэтай думкі спіна, а галоўнае, мяккае месца ў юнака нясцерпна занылі ў прадчуванні добра вымачанага дубца.

Да сядзібы Званскіх ён пад'ехаў асцярожна, вырашыў так: зайду да бацькі, а той хай па Прохара збегае ці пані пабудзіць, ужо як бацька вырашыць, хай яно так і здарыцца. Але Юньку, аказваецца, чакалі. І не хто іншы, як яго бацечка, які, на здзіўленне, без кухталёў і папрокаў павёў яго ў сядзібу. Толькі адно і спытаў:

— Ну, і доўга ты ў бандзе марозіцца будзеш? Тут працы поўна…

— Нічога, бацька, вось ухаджуся і дадому вярнуся…

— Ты ўжо вярніся, вярніся, дык яно гэта… і вяселле трэба ладзіць, а то неяк няёмка ўсё ў вас выходзіць…

Юнька страх як узрадаваўся бацькавым словам, але дагаварыць ім не далі. Насустрач, як яму здалося, вельмі знаёмай хадой тупаў нейкі вайсковец. Толькі юнак злаўчыўся, каб шмаргнуць у кусты, як бацька цапнуў яго за рукаў.

— Не гарачыся, сынок, гэта ж наш Прохар Піліпавіч…

— А чаго ён, як блазан, прыбраўся, я яго ў гэтым маскарадзе адразу і не прызнаў, — усё яшчэ падазрона гледзячы на ваяку, вымавіў Юнь.

— А вось бач, брат, як усё павярнулася! — абдымаючы ганца, вымавіў задаволены камендант, папраўляючы завялікі картуз, які разам з пабітым моллю мундзірам быў спешна выняты з прыгонных камор, пачышчаны і нацягнуты на прызначэнца. — На чужым, можна сказаць, горы, на людскім смертазабойстве кар'еру раблю. Вось як яна, юдоль-та, закручвае.

— Ды на якім смертазабойстве? Што ты гародзіш, дзед Прохар? Вы што тамака, з глузду з'ехалі, ці што? Што здарылася? Хто салдат выклікаў?..

— Ты б, сынок, акуратней. Прохар Піліпавіч, — адцягнуў яго бацька, — цяпер пры выкананні службы. Кагадзе прызначаны камендантам крэпасці!

— ...Што? Дзе? Юнька, паршывец! — ім насустрач імкліва неслася пані, ззаду з ліхтарамі ў руках — Глафіра.

У вачах у юнага донжуана пацямнела, ногі саслабелі, але бегчы ён і не збіраўся. Ды што ён — не мужык, не бандыт, ці што?! Паправіўшы за поясам абрэз, ён адважна пайшоў насустрач лёсу.

13

Енах рэзаўся з Сар-мэнам у карты, спрабуючы адыграць хоць нейкую частку прызначанага атаманам выкупу. Жанчыны шапталіся пра нешта сваё ў процілеглым куце бандыцкай святліцы.

— Не, Енах, ты ж не храновы кент, — падліваючы сабе ў піялу мясцовай — на малацэ зваранай — гарбаткі, у якую выключна для водару дадаваліся шышкі канопляў, ватным языком шавяліў гасцінны гаспадар: — Ну вось чаго ты ў мяне выйграць спрабуеш, сірату хлебца пазбаўляеш, сам бачыш, колькі ў мяне ратоў, ды яшчэ і Макуце-бею на абшчак скідваць трэба.

— Сар-мэн, брацельнік, ты мне сам, у натуры, гэтую важданіну прапанаваў! Ды я больш прадуў, чым выйграў.

— Не, Маша, ты толькі паслухай іх гутарку, — пакрывілася на мужчын Гопс, — адразу і не разбярэш, хто разбойнік, а хто царскі службоўца! Сар-мэнчык, мілы, ну саскоквай ты са сваёй фені, мы ж з табой дамаўляліся.

— Спакойна, мая баранеса, гэта ўва мне рызыка разгулялася...

— А будзе вам вядома, дабраслаўная Эрмітадора, — перабіў яго Енах, — што службоўца падобны бандыту, не, не высакароднаму разбойніку, яркі прыклад якога ўяўляе наш шаноўны гаспадар, а самаму крыважэрнаму бандыту, і чым дэмакратычней



дзяржава, тым нахабней і бязлітасней прадстаўнік улады. У свой час граф Крапоткін...

— Енах, а я ведаю Поткіна, сусветны валацуга, мы з ім, — і хітра зірнуўшы на жаночую палову, Сар-мэн нешта горача зашаптаў у вуха карцёжнаму прыяцелю.

Абодва зарагаталі. Адсопшыся, прадоўжылі гульню.

— Убачыў бы вас Верабейчыкаў, яго б кандрат хапіў, — Гопс па-кацінаму грацыёзна пацягнулася і пачала какетліва красціся да гульцоў.

Маша захоплена назірала за нечаканай сяброўкай. Ёй усё падабалася ў гэтай свавольнай і таямнічай жанчыне. Яна нават прабачыла ёй блізкасць з Енахам, тым больш, што ўсё гэта адбылося да яе. Не, вядома, Енах Мінавіч дарослы і свабодны мужчына, а яна хто? Звычайная зялёная дзяўчынка, якія паміж імі могуць быць адносіны? Аднак варта было Машцы яго ўбачыць, як сэрца пачынала стукаць у грудзях, шчокі гарэлі, думкі блыталіся, яна часам забывала, куды і навошта ішла. Спачатку яна гэта спісвала на свой нядаўні спалох і падазравала, што ў яе звычайны нервовы зрыў. Але аднойчы не вытрымала і прабрахалася Дашцы. Тая заскакала вакол яе і запляскала ў далоні. Вось дурніца, чаго ўдумала, і не збіралася яна ні ў каго закахацца. А потым была сур'ёзная гутарка з Эрмі, тая ёй такога панагаварыла, што яе, небараку, ледзь было не званітавала. Усё гэта звалілася на нядаўнюю інстытутку, як гром сярод яснага неба. І двух сутак не прайшло, як яна міжволі выслізнула з-пад усякай апекі і такога панадаведвалася, на такое наглядзелася! Чаго толькі варта адна сённяшняя ноч! Спачатку Даша з Юнькам саплі ўвесь вечар за сценкай. Яна і так і сяк круцілася, а сапенне, хоць і ціхае, але такое таемнае і саромнае, што як ні зачыняйся, яно ўсё роўна ў вушы лезе. Потым Юнька панёсся ў маёнтак, павёз ад яе цыдулку маці. Дашка прыйшла ўся расчырванелая, як пасля лазні, задаволеная, вочы ад шчасця гараць, як вуголле, таго і глядзі, што-небудзь запаліць. Уляглiся яны спаць, сяброўка адразу заснула, а Маша яшчэ доўга варочалася, ёй усё здавалася, што хтосьці ходзіць каля іх святліцы, масніцы рыпалі — і чуліся ўздыхі. А потым дзесьці далёка, спачатку сцісла, а потым і ва ўвесь голас енчыла і нават крычала Эрмі. Яна спалохалася жудасна, такіх страхаў панаўяўляла, расштурхала Дашку, тая пазяхнула спрасонку, паслухала, хмыкнула: маўляў, спіце, паненка, прыйдзе час, вы, можа, і пабольш галасіць будзеце, і зноў заснула. У такой важданіне яна забылася толькі пад раніцу трывожным зыбкім сном. А ўжо прыснілася ж ёй пасля ўсяго гэтага такое — дагэтуль без сораму ўспамінаць не

можа! Раніцай усе прачнуліся ў добрым настроі, і толькі адна яна — з сінякамі пад вачыма і з галавой цяжэйшай за калоду. Адна радасць — Юнька ліст і пачастункі ад матулькі прывёз. Калі везлі іх у мяшках, плакала яна і малілася, і маму звала, і вырашыла з тых часоў больш ніколі яе цётачкай не называць ды іншых папраўляць.

Ліст прывезлі не толькі ёй, але і Сар-мэну. Увечар ён сабраў іх у вялікім пакоі і абвясціў:

— Вось чо я вам скажу. Маляву я тут ад усім вядомай Паліны Захараўны атрымаў. Сярдуе старая знаёміца, пагражае, калі што не так, на фарш мяне пусціць. Але ў нас жа ўсё так, ці не праўда? Маўчыце, шаноўная паненка? Вось і выдатна! А галоўнае, фарт папёр, па маляве прыстойнае бабло можа абламацца, — але ўбачыўшы капрызна скрыўленыя вусны Эрмітадоры, атаман аціх і паспяшаўся выказаць толькі што вымаўленую фразу на лягчэйшай гаворцы: — Прашу пардону, паважаны сход, капрызная мадам фартуна павярнулася да мяне сваім выдатным тварыкам, хоць я асабіста аддаю перавагу бачыць у добранькай дзяўчыны тое месца, якое вышэй ног расце і квітнее. Вашая цётачка дазволілі прапанаваць мне прыстойную грашовую ўздапамогу. Ці правільна я тлумачу, мілая? — звярнуўся ён да Гопс.

— Сар-мэн, калі ты будзеш і далей выварочваць свой язык і строіць з сябе дэбіла, я цябе проста задзяўбу! — напусцілася на яго Эрмітадора. — І канец нашаму сяброўству прыйдзе! Перад табой жа нармалёвыя людзі сядзяць, вось і кажы з намі па-чалавечы, у цябе ж, калі мне памяць не здраджвае, не адна вышэйшая адукацыя маецца.

— Ну добра, Эрмік, добра, — прымірэнча падняў уверх рукі атаман. — Ох, казаў мне нябожчык бацька: не спі з разумнымі — паразумнееш! А ў маёй юдолі розум часам — перашкода. Карацей, каб асабліва не мудрагеліць, я вам так скажу: без выкупу вас адпускаць мне не ў радасць, свае ж засмяюць, ды і Енаха са службы без усякага гонару папруць. А так мы яму пасля таемнай перадачы грошай уцёкі забяспечым са стральбой і раненнямі, таго глядзі, і ордэнчык яшчэ абграбе…

— Ды як гэта яму раненні прычыняць?.. Гэтак жа і пакалечыць можна! — заліваючыся фарбай, вымавіла Маша.

— Марыя Захараўна, ды мы яго падстрэлім акуратненька і без шкоды для будучага шлюбнага жыцця, — лагодна скрывіўся Сар-мэн. — А каб не крыўдна было, можна на ўсю суму выкупу згуляць у карты. Ідзе? Ну, хто тут адважны? Часу ў нас досыць, усё роўна трэба і грошай і Макуту-бея чакаць…



— Сар-мэнчык, міленькі, ну, можа, мы самі асцярожненька зазірнём хоць адным вочкам у тыя падзямеллі? — лісой захадзіла Гопс. — Проста зазірнём і адразу назад, га?

— Табе ж, па-мойму, чалавечай мовай растлумачылі: невядома, што тамака, і Макута вельмі строга туды самім хадзіць забараніў. Пацярпі ўжо, вось лепш у карты, садзіся, па маленькай перакінемся…

— Ды я ўжо свой выкуп за сённяшнюю ноч амаль увесь аддала…

— Міленькая, не амаль увесь, а ўсяго чвэртку… маўчу, маўчу, але гэта ж твае словы! — выварочваючыся ад кінутага клубка нітак, вымавіў атаман і пачаў тасаваць карты.

На картачны паядынак падахвоціўся Енах, які ўважаў сябе нядрэнным гульцом. Гульня ішла з пераменным поспехам і пагражала ператварыцца ў зацяжную шматдзённую баталію. Дамы адкрыта нудзіліся, у соты раз перамолваючы апошнія падзеі. Гопс некалькі разоў спрабавала падкаціцца да свайго кавалера і прымусіць звярнуць увагу на яе дамаганні. Але ўсё марна. Вярнуўшыся пасля чарговай няўдалай спробы, яна з прыкрасцю махнула рукой.

— Нагулены кабяліна, цяпер да ночы і брывом не павядзе. Была б ты, Машка, паразваротлівей, Енаха б выцягнула, а ўжо тамака і я б да свайго прысмакталася…

— Эрмі, я, напраўду, цябе не разумею… Што значыць паразваротлівей? Ён спелы мужчына…

— А ты думаеш, спелым маладзіцы ўжо і не трэба? Дар'я, ты чаго ж гэта паненку сваю не адукоўваеш? Як з бандытам сваім дзе папала дручыцца — на гэта ты мастачка, а вось растлумачыць някемлівай, што Енах гэты на яе запаў беззваротна, не можаш… Ці не хочаш?

— Ды што вы, Эрмітадора Астапаўна! Я ўжо і так ёй кажу, і гэтак, а ўсё ў пустую. Не магу я ёй растлумачыць гэта па-ейнаму, а па-нашынску баюся, як бы не пакрыўдзіць! Сёння ноччу папалохалася паненка вашых крыкаў, мяне разбудзіла, ідзём, кажа, Эрмітадору ратаваць, ён яе, душагуб, забівае, чуеш, маўляў, як небарака крычыць, — пырснула ў кулак Дашка.

— Ну і трэба было прывесці, хай бы зірнула. Лепш адзін раз убачыць, чым месяц тлумачыць. Маш, а Маш, ды не залівайся ты малінавым сіропам, ты што, і на самай справе паняцця ні пра што гэтае не маеш? Вось бедны Енах!

— Ды што вы ўсе на мяне напалі? — ускочыла дзяўчына. — Усё я ведаю, а чаго не ведаю, прыйдзе час, пазнаю…

— Марыя Захараўна, — заўважыўшы, што Машка збіраецца выскачыць з пакояў, падняўся з-за століка Енах. — Ужо ці не пагуляць вы? Калі не супраць, я б з найвялікшым задавальненнем склаў вам кампанію! — і, звярнуўшыся да саперніка, спытаў: — Брат Сар-мэн, не ўскрываемся, вярнуся, дайграем. Ты ўжо прабач…

— Справа панская, я з прыбыткам, а вось ты сваю ўдачу перабіў! Мне ўсё на карысць…

— Ды не, — ужо ад дзвярэй нейкім незвычайным голасам адазваўся Енах, — мне здаецца, што мой фарт яшчэ ўвесь наперадзе…

## 14

Макута-Бей спяшаўся. Ноч выдалася неспакойнай, спачатку, ледзь ці не ўсе ў адзін момант, прыскакалі чатыры яго чалавекі з акуёмскага цэнтра. Добра, хоць не сутыкнуліся насамі ў лагеры, а то б канфуз выйшаў. Па горадзе яны былі знаёмыя, і двое нават служылі ў адным ведамстве, аднак ніхто з іх не здагадваўся аб гэтак цесных сувязях сваіх таварышаў з вольным лясным народам. Усе чатыры ганцы прывезлі адну і тую ж навіну. Верабейчыкаў, пабаяўшыся агалоскі, сабраў пазачарговы сход вольных муляраў і абавязаў усіх братоў, кінуўшы іншыя клопаты, заняцца таемнымі пошукамі Шамбалы. І, мяркуючы па аповедах сваіх людзей, Макута зразумеў, што шалапутным уладам многае вядома, а самае непрыемнае заключалася ў тым, што ў глухі Чулым пагражалася панаехаць гэтулькі народу, што аб вольным жыцці-быцці можна было б проста забываць. Сыходзіць жа са сваімі людзьмі за кардон ён не збіраўся, ды і куды было бегчы? Дома і без таго рэзрух і поўная пахабшчына, а тут яшчэ гэтыя Уладары сусветныя ўдумалі наляцець. Бач ты, усім, відаць, ахвота да вялікіх тайнаў дакранупца! І як жа хутка бягуць цяпер весткі. Яшчэ падумаць не падумаў, сказаць не сказаў, а ўжо, вось, палова зямнога шара ведае, што дзесьці тут, у Чулыме, і ўтоена запаведнае ўваходжанне ў гэтую самую Шамбалку. Уваходы ж пакуль утоеныя, можа, калі і адшукаюцца, а вось што за чартаўня такая гэтая самая Шамбала, так ніхто толкам апісаць і не можа. Ужо колькі ён за апошнія дні баек панаслухаўся аб гэтых палясцінах, не злічыць — плойма! А толку ніякага, адзін нуль на выхадзе. Шамбала, Белаводдзе, таемная Дзяржава прасвітара Іаана і яшчэ як толькі ні менавалі гэтае месца, і ўсё, выходзіць, адно і тое ж і ўтоена, атрымліваецца, дзесьці зусім



побач. Ну, а калі побач, то дзе?! Ён ужо і так і гэтак прыкідваў, усе мазгі разбіў, — усё ў паражняк! І тут на табе! Пра каго і падумаць не мог, мабыць, дурань, хоць і палову свайго жыцця па замежжах вучыўся, вось жа ўзяў і дадумаўся! Хоць усяляк бывае, можа, ад каго і даведаўся! Вось табе і Сар-мэн, вось табе і ахвяра нецвярозага зачацця! Вынюхаў, пранырa, галоўнае ж, сам не папёрся, а яго, важака, апярэдзіў. Малайчына! Хоць чымсьці ў бацьку атрымаўся. Вось у яго стан і спяшаўся Макута-бей.

Сам па сабе разбойніцкі атаман нібыта грозным з выгляду і не быў, так, камлюкаваты ды гужаваты мужчынка, моцна звязаны з гэтай старажытнай зямлёй. Здаўна тут жылі яго калісьці даўно высланыя з далёкай і ўжо амаль міфічнай Украіны продкі. Колькі мінула гадкоў, ужо і запомніць цяжка, а шкадлівае і ўпартае Макутавае насенне дало добрыя ўсходы, амаль ніхто з яго роду не пайшоў, што называецца, у чартапалох, усе спатрэбіліся для ўладкавання параднелай Чулымскай зямлі. Шмат чаго маглі б парасказаць пра гэтае сямейства краязнаўчыя хронікі, калі б іх перыядычна не палілі наезджыя з першапрастольнай чыноўнія людзі. Так ужо ў нас павялося, што з Крамля заўсёды відней, што і як павінна на самай справе адбывацца ў глыбінках любай Айчыны. Галоўнае, і гэта ўсім вядома, важная правільная высновa, а не вынік, атрыманы падчас натуральнага працэсу. Абвешчаная высновa — вось усяму галава! Ёй цешацца, ад яе і скача наступная гісторыя, а што там напраўду адбылося на бязмежных прасторах дэмімперыі, дык гэта ўсім, як гаворыцца, па барабане. І так паўсюдна: і ў жыцці дзяржавы, і ў перыпетыях сямейства, і ў юдолі асобнага чалавека. Як каго абвясцілі, абрахавалі, так таму і быць, і ніякіх табе хістанняў і адсябяціны.

Аднак Макута, як і ўвесь яго род, чужым падрахаваннем жыць не прывык. Прозвішча яго, яшчэ і без прыстаўкі «бей», загучала пасля дамаганняў Хахлабульбіі на тутэйшыя землі. Міжвольным вінавайцам гэтай кампаніі і зрабіўся нікому дагэтуль не вядомы Макута.

Мала каму цяпер ужо і вядома, што некалі на месцы цяперашняй Сібрусіі, толькі ў яшчэ больш поўных аб'ёмах, існавала сабе найвелізарная краіна пад назовам Савецкі Саюз. Што гэта была за краіна, а галоўнае, што і калі з ёй здарылася, ніхто не памятае. Забыліся ўсе аднадушна, і справа ў балота. Адно дакладна вядома: разваліўся раптоўна гэты самы Саюз на няроўныя кавалкі. Ад чаго гэта адбылося, цяпер памятаюць хіба што самыя лядашчыя старыя, ды і тыя маўчаць сабе ў бароды. Старыя маўчаць, энцыклапедыі ў рот вады набралі, усе маўчаць,

увесь свет маўчыць, і, мусіць, правільна робяць, навошта народу залішняе мудрагельства, а галоўнае, што яму дадуць тыя веды? Ці хлеба больш стане, або пенсія пабольшае?

Ну дык вось, гадоў шаснаццаць назад хахлабульбы, хоць іх правільней было б называць салабульбамі, бо акрамя свіней і бульбачкі на гэтых, некалі дабрадатных, землях цяпер нічога больш талковага не расце. Словам, пачулі былыя Макутавыя землякі з нейкай аб'еўраўскай перадачы аб існаванні ў Чулыміі ліхога разбойніцкага атамана з гучным празвішчам. І што тут нарабілася! Ледзь не вайна! Макута ўраз з разбойніка ператварыўся ў высакароднага барацьбіта з маскалямі за незалежнасць і хутчэйшае далучэнне спрадвечна хахлабульбскіх тэрыторый вялікай Чулыміі да гістарычнай радзімы. А дзеля Радзімы чаго толькі не зробіш! І пайшла пісаць губерня, навуковыя інстытуты і акадэміі працавалі дзень і ноч і дакладна давялі, што даўнія продкі Макуты служылі прыват-бандытамі пры княжым двары самога Уладзіміра Чырвонага Сонейка! І былі гэтым хуліцелем і апалагетам багоў вельмі аблашчаныя. Вось так, не больш і не менш. А ўжо калі такая здарылася гісторыя, то і землі цяперашняга існавання Макуты з'яўляюцца спрадвечнымі землямі Вялікай Хахлабульбіі. Магчыма, гэта і было б смешна, але не ўмяшайся вялікія Усяленцы, невядома, чым бы скончылася для Сібрусіі вайна, абвешчаная Вялікім яснадэмакратычным князем Аронам Трэцім. Макуце-Бею давялося, выкарыстоўваючы ўсялякія выкрутасы, тлумачыць сусветнай грамадскасці, што ён ніякі не барацьбіт за сусветную Хахлабульбію, а звычайны рамантык нажа і сякеры з вялікай дарогі. З паўгода цягнулася гэтая бадзяга, князь нават у міжнародны Гагарскі Трыбунал на Макуту пазовы падаваў, але, з прычыны нез'яўлення на судовыя пасяджэнні адказніка, усё так і завяршылася безвынікова, хоць смяротны прысуд яму ўсё ж вынеслі, — так, на ўсякі выпадак.

Макута-бей і спяшаўся, і не спяшаўся. Верны конь яго то ляцеў наўскач, то пераходзіў на мерны крок, а то і зусім спыняўся, мірна скуб сакавітыя дзікаросы. Атаман быў у нерашучасці. Ну вось даедзе ён да сар-мэнаўскага бівака, ну праскачуць яны з ім ды яшчэ з дзясяткам верных людзей гэтыя чатыры кіламетры да вытоку Бел-ракі, ну адшукаюць патаемны лаз, ну ўвойдуць унутр, а што далей, а што там, у гэтых запаведных палацах? На што натыкнецца людскі недасканалы погляд, а галоўнае, як адрэагуюць на іхняе з'яўленне тыя, хто гэтага ўварвання не толькі не чакаў, але і актыўна не хацеў цэлыя тысячагоддзі!



«Ну вось уляціш ты са сваёй бандыцкай рожай у нейкае свяцілішча, — думалася атаману, — а тамака хутчэй за ўсё ўсё па-іншаму, усё па-чыстаму, ну і што ты ім скажаш? Маўляў, сумленныя… як-вас-тамака, я Макута-бей — бандыт з вялікай дарогі, прыбыў абараніць вас ад немінучай пагібелі і сусветнай знявагі. І гэта скажаш ты — пігмей акаянны, і, галоўнае, каму? Уладарам свету, творцам Сусвету! Якім варта толькі пальцам або звілінай адной паварушыць, і шар зямны перавернецца!»

Словам, было з-за чаго дрэйфіць, ды што там дрэйфіць! Мароз спіну ледзяніў, бо аніяк не мог ён уявіць сабе тых падземных насельнікаў. Якія яны, з адной або з трыма галовамі? Ці можна з імі па-нашаму пагаварыць, ці яны страшыдлы якія, пра якіх у старамудрых казках старыя са старымі баюць? Тут хочаш не хочаш, а мазгі закіпаюць, і каб не ноздры ды вушы, даўно б разляцеўся Макутаў чарапок. Ужо перад самым Сар-мэнавым логавам прыняў атаман канчатковае рашэнне: «Людзьмі рызыкаваць не буду, сам пайду, адзін, пагляджу, што ды як. Галаруч пайду, без зброі, а то як бы з перапуду ў каго не пальнуць незнарок. А тамака будзь што будзе, патрафлю падзямельцам — добра, а ў няласку прыйдуся ім, хай губяць, не ўпершыню, відаць, ім! Можа, для гэтых жыхароў неба і чалавек як казюлька сярлівая. Хоць якія ж яны нябеснікі, калі ў пячорах зямных хаваюцца, нібы совы ці кажаны! Сонейка божага цураюцца! Ох, раз за разам не лягчэй, аднак што вырашана, тое вырашана: іду адзін, а згіну ці смерць лютую прыму, што тут паробіш, усё роўна калісьці паміраць, і так ужо зажыўся. Тры смяротныя прысуды за спінай, як галодныя ваўкі турацца, калі-небудзь, а нагоняць. Яшчэ і падумаць моцна трэба, дзе паміраць лягчэй будзе: ці ў пячорах горных, ці на царскай дыбе ў лубяных засценках? Эх, ды дзе нашая не прападала! Н-но-о, залётная, пайшла, пайшла!»

Вызначыўся разбойнік, і з душы нібы камень зваліўся. Імглістая ноч прасвятлела, і капыты вернага канька па горнай сцежцы весялей застукалі. Так ужо здаўна на зямлі нашай павялося, што атаман, у адрозненне ад доблесных золатапагонных камандзіраў, заўсёды наперадзе сваёй ватагі, а не будзь ён там, і ў важакі чорта з два выбіўся б, ды і слухаць бы яго ніхто не стаў, так незаўважаным і згінуў бы ў людскім калаўроце.

## 15

Машка і ісці не ішла, і чуць не чула, і дыхаць не дыхала. Сэрца, як спутаны верабей, скакала ў грудзях, трапятала сваімі

нябачнымі крылцамі, дзерлася на волю, а воляй гэтай быў чалавек, які ішоў побач і нешта весела распавядаў, махаў рукамі, забягаў наперад і спрабаваў зазірнуць ёй у вочы. Маша баялася і таму цуралася гэтага погляду, ёй здавалася, што сустрэнься іх вочы — здарыцца нешта непапраўнае, нясцерпна грэшнае і непазбежнае. «Прэч і прэч варта турыць ад сябе гэтыя недарэчныя страхі! Што можа адбыцца ад аднаго пагляду? Вось цяпер падніму вочы і пагляджу на яго!» — дзяўчына замарудзіла крок і неймаверным высілкам волі прымусіла сябе павярнуць галаву да свайго спадарожніка.

Здавалася, той толькі гэтага і чакаў, іх погляды, нібы п'яныя, сутыкнуліся і, замест таго каб размінуцца, спляліся ў нешта адзінае і праваліліся ў чуллівыя глыбіні. І ад гэтага ўзаемнага пранікнення ў дзявоцкай душы раптам усё адразу неяк супакоілася, навакольны свет набыў звыклыя абрысы, дыханне выраўнялася і перастала ўздымаць грудзі з агрубелымі ад узрушанасці смочкамі. Машы нясцерпна захацелася прыціснуцца да гэтага вялікага і моцнага чалавека, уткнуцца ў яго грудзі і, не ўтойваючыся, удыхнуць у сябе ні з чым не параўнальны водар чужога свету. Яна ўжо больш не баялася палону, агідных разбойнікаў і, што самае дзіўнае, ёй не хацелася нікуды з'язджаць з гэтага цудоўнага месца. Патроху пасмялеўшы, яна заўважыла, што ў яе спадарожніка вельмі натхнёны і таму злёгку дурнаваты выраз твару, здавалася, што ён гатовы выскачыць з самога сябе, каб хоць неяк дагадзіць ёй. Машка адразу ўспомніла развагі ўсёведнай Эрмітадоры аб тым, што ўсе закаханыя мужыкі падобныя на цялят, якія бачаць сіську: і пыса дурная, і мыканне недарэчнае, і сліна раўчуком цячэ, і свету божага яны не бачаць, пакуль не дарвуцца да жаданага. Яна на хвіліну ўявіла, як у Енаха цячэ сліна і ён, гледзячы на яе, пажадна мукае, карціна атрымалася такой пацешнай, што яна ледзь была не пырснула ад смеху.

Ад свайго свавольства Машка трохі збянтэжылася і, адвярнуўшыся ад Енаха, азірнулася вакол. Тут яна ў здзіўленні заціхла, і словы захаплення самі вырваліся з яе вуснаў.

— Госпадзі, прыгажосць якая! Паглядзіце, Енах Мінавіч, Бялуха адкрылася!

Яны стаялі на нешырокай горнай сцяжынцы, якая, вычварна віхляючы, упарта караскалася да вяршыні навіслай над разбойніцкім станам гары. Унізе, хутаючыся ў познім тумане, ляжаў парослы векавым кедрачом распадак. Толькі блізкія дрэвы, што раслі збоку невялікай лугавіны, мелі больш або менш выразныя абрысы, усё астатняе было размыта да непазнавальнасці. Там, далей, на процілеглым беразе гэтай бялявай бездані, уздымаліся далёкія чорныя горы. Зверху над імі як бы лунаў беласнежны, іскрысты ў залацістых праменнях яшчэ нябачнага сонца вялікі і запаведны даўгаваты дах Бялухі — гары свавольнай і наравістай. Не ўсякаму яна адкрывалася і кідалася ў абдымкі, нібы доўгачаканаму сваяку, які вярнуўся ў родную хату. Некаторыя паляўнічыя тыднямі пільнавалі яе з'яўленне, каб зашчоўкаць фотаапаратамі, загнаць святое аблічча ў мікрачыпы і пацягнуць у далёкія, смярдзючыя смерцю і адыходамі гарады. Кажуць, што там, у бяздушных каменных джунглях, адзін толькі малюнак гары тварыў цуды, лячыў, суцяшаў, дапамагаў шматлікім людзям застацца людзьмі. Не будзь яна такой недаступнай, хутчэй за ўсё яе б спасцігла доля многіх святыняў свету, якія ўдзячныя аматары старажытнасцей і экзотыкі проста расцягнулі на сувеніры.

Машка стаяла, як зачараваная. Ёй здавалася, што яшчэ трохі, і яна, адштурхнуўшыся ад гэтага вятрамі адпаліраванага каменя, паляціць туды, далёка, да крышталёва-беласнежнай, іскрыстай вечнасцю вяршыні! Можа, і праўда, калі доўга-доўга глядзець на гэтую вялікую гару, душа твая можа зліцца з ёй, і тады табе адкрыюцца вялікія таямніцы свету. Толькі жыццё тваё і намеры павінны быць чыстыя, як снягі Бялухі. Машцы было так добра, што абдымкі Енаха ніколькі яе не збянтэжылі, а хутчэй наадварот, яна прыціснулася да яго, яшчэ шчаслівейшая ад думкі, што вось яны абое ўганараваныя магчымасцю бачыць гэтую святую для Азіі вяршыню, і яна, як добрая разумная маці, благаслаўляе іх на нешта важнае і непазбежнае.

— Машачка, — баючыся спалохаць дзявочы настрой, ціха вымавіў вопытны Енах, — вы самая цудоўная, чуллівая і трапяткая дзяўчына, якую я сустракаў у сваім жыцці.

Ён казаў, прамова яго станавілася ўсё больш напорыстай, і Машка адчувала ягоны запал.

— У мяне ўсё блытаецца ў галаве, — працягваў ён, — гэта, далібог, нейкае насланнё. Госпадзі! Як я ўдзячны лёсу за гэтае начное вандраванне, якое прывяло мяне сюды, на гэтую гару…

— Нас прывяло, — здушаным, быццам чужым голасам дадала дзяўчына.

— Так, так, вядома ж, нас! Госпадзі, як я рады… Машачка, не прыміце за дурасць, але я… я… — Енах запнуўся на паўслове, кроў стукала ў скронях, ён і сам адчуваў, што яго цвярозы і прак-

тычны розум адмаўляецца яму падпарадкоўвацца. Невядомая і страшная сіла перапаўняе яго існасць і гатовая перавярнуць увесь свет, каб толькі гэтае наіўнае стаянне на адкрытай вятрам вяршыні гары ніколі не канчалася. — Я кахаю вас, Маша! — вымавіў ён, здзівіўшы самога сябе.

Галава кружылася. Здавалася, яшчэ ледзь-ледзь, і яна бразнецца ў непрытомнасць. «Госпадзі, мамкі мае, што ж мне рабіць? Нешта трэба рабіць…» — яна павярнулася да яго, але адказаць нічога не паспела. Яго вусны ўладна і патрабавальна заступілі шлях і словам яе, і дыханню. Свет, горы, Бялуха — усё закруцілася і правалілася ў мяккую бездань асалоды. Колькі працягвалася гэтая ўтрапёнасць з іх вуснамі, яна не змагла б адказаць, і толькі адна думка стукала ў галаве: хай гэта не канчаецца, не канчаецца… Спачатку дробная дрыготка, а потым неўтаймоўныя ліхаманкавыя дрыжыкі ахапілі ўсё яе цела, напаўняючы яго невядомым і непераможным клічам.

Яны разам растулілі вусны і, па-дурному гледзячы адно на аднаго, прагна ўдыхалі цягучае горнае паветра. А потым як па камандзе засмяяліся на ўвесь голас. Абачлівае горнае рэха, шматкроць узмацніўшы іхнюю радасць, разнесла яе па навакольных гарах. Праз імгненне ўвесь паднябесны свет ужо ведаў, што дзве адзіноты сустрэліся і гатовыя зліцца ў адзінае цэлае.

Потым яны яшчэ доўга-доўга цалаваліся, ганяліся, дурэлі. І невядома, чым бы ўсё гэта скончылася, калі б іх вясёлыя гульні не перапыніў недалёкі стрэл.

— Ой, што гэта было? — запознена здрыганулася Машка, пазіраючы з-за пляча Енаха ў бок стромкага схілу, дзе яшчэ білася рэха смяротнага гуку.

Яны збянтэжана і з відавочнай неахвотай падняліся з зямлі і, атрасаючы з адзежы дробныя травінкі і каменьчыкі, насцярожана прыслухаліся.

Унізе пачуўся гучны жаночы крык.

— Госпадзі, ды гэта ж, здаецца, Эрмітадора! — Машка рванулася наперад, але Енах на лёце злавіў яе, амаль груба тузануўшы за плячо.

— Значыць, так, — іншым, цвёрдым і незнаёмым ёй голасам вымавіў ён, — спяшацца на злом галавы не варта…

Унізе зноў бухнулі стрэлы. Адзін, два, тры! Пасля трэцяга мядзведзем зароў нейкі мужык. Хлестанулі яшчэ два стрэлы, рэха раздрабніла іх па навакольных скалах, і на атарапелую парачку гулка звалілася горная цішыня.



Машка не паспела ні пакрыўдзіцца, ні спалохацца, яна ляжала на зямлі, зверху шчыльна прыціснутая Енахам, нават не паспеўшы сцяміць, як ён яе паваліў.

— Маша, — прыўздымаючыся на руках, вымавіў мужчына, — справа, здаецца, сур'ёзная, ляжыце спакойна і не заманіцеся ўздымацца, мне думаецца, што гэта ў нас толькі што стралялі. — Ён агледзеўся вакол і прашаптаў: — На карачках, хуценька, за мной вунь да тых камянёў. — Непаваротліва, але спрытна, як нейкі буйны звер, ён, смешна віхляючы тоўстым задам, падаўся да трох вялікіх даўгаватых камянёў, што ляжалі над адхонам, адкуль, верагодна, і стралялі.

Машка, мусіць, толькі цяпер па-сапраўднаму спалохаўшыся, пакорліва паўзла за Енахам, балюча збіваючы аб камяні локці і каленкі. На некаторы час яна згубіла яго мядзведжую пастаць, а калі дабралася нарэшце да камянёў, з жахам убачыла, што яго там няма. Машынальна спрабуючы атрэсці са штаноў зеляніну і зямлю, яна перапаўзла бліжэй да сярэдняга каменя і зазірнула за яго. Крык жаху застыў у горле. Прама перад ёй сядзеў здаравенны бандыт, бездапаможна прыхінуўшыся да горнай расколіны, зброя валялася побач у лужыне крыві. Цёмныя, шырока раскрытыя вочы нерухома глядзелі кудысьці ўверх. Ад нечаканасці слёзы лінулі з вачэй, дзяўчына адхіснулася назад, адпаўзла далей і, прыціснуўшыся да каменя, пачала спалохана азірацца. Туман ужо даўно растаў, абложнымі хмарамі сонца было нібы размазана па ўсім небе. Святая гара схавалася з вачэй. Ад безвыходнасці і страху слёзы высахлі, крышку супакоіўшыся, дзяўчына прыціснулася да шэрай каменнай сценкі і ніяк не магла вырашыць: варта ці не ёй пазваць Енаха? Цішыня вакол міжволі прымусіла яе прыслухацца. Злева хтосьці, цяжка дыхаючы і спатыкаючыся аб камяні, паднімаўся па скале.

## 16

У Крамлі стаяў форменны перапалох. Наспяваў самы сапраўдны канфуз. Мала таго, што вялікая дзяржава рыхтавалася да адказнай перадачы вышэйшай канстытуцыйнай пасады, і сама працэдура знаходзілася, можна сказаць, у самай што ні на ёсць кульмінацыі. Так-так! Яго Вялікасць Яснавяльможны Дэмакрат рыхтаваўся перадаць усю паўнату сваёй неабмежаванай улады непасрэдна самому сабе. Вядома ж, гэтая ўрачыстасць не адбывалася так сабе, з бухты-барахты, а вылівалася ў самыя сапраўдныя роўныя, прамыя і ўсеагульныя выбары. А як жа, інакш нельга!

Дэмакратыя-с! Паводле даўняй традыцыі, Пераемнік ну аніяк не мог заставацца ў сваёй вышэйшай вакансіі больш чым два разы. Так, як ва ўсім цывілізаваным свеце: раз абіраюць, іншы раз пераабіраюць — і ўсё. Вядома, можна якую-кольвек змову сплесці, заціснуць свайго пераемнічка, пасля, скажам там, паўгадовага панавання можна, вядома, але не рэкамендавана сусветнай хартыяй, ды і часы сягоння не тыя! Вакол усеагульная свабода, роўнасць і найпоўнае братэрства. Чаго, уласна, муціць без дай прычыны? І тут раптам на табе — канфуз!

І сядзіць гэты «канфуз» у прыёмнай першай асобы дзяржавы ў непрацоўны час, нямым дакорам нашай айчыннай расхрыстанасці і галавацяпству. Хоць, зрэшты, чаму галавацяпству? Ну што мы за людзі такія, хлебам нас не кармі, а дай толькі галаву попелам пасыпаць ды абгаварыць сябе дарэмна! І што праціўна, апаганім сябе цалкам і задаволеныя, а люд жа вакольны верыць і шугаецца ад нас, як ад хворых.

Мусіць, менавіта так і думаў канцыляраначальнік Яснавяльможнага Ібрагім Іванавіч Сучыянін, панура пазіраючы на замежнага шэльму, які немаведама з якой патрэбай прыпёрся ў нашыя палясціны. Вось прыляцеў, ніхто яго не сустрэў, бо ніхто і ведаць пра ягоны прылёт нічога не ведаў, а, ці бачыце: «Дзякуй, мяне польскія сябры падкінулі!» Падкінулі, ды яшчэ «ляхі»! Гэтыя ўсё жыццё нам што-небудзь імкнуцца падкінуць! Ну падкінулі, дык і сядзеў бы ў іхніх пасольствах, чаго ж па Крамлях швэндацца без папярэджанняў? І пропуск у яго ўсюдыходны, спецсусветнага ўзору, такіх на ўсім зямным шары не больш як тры дзясяткі набярэцца. У нашай дзяржаве ўсяго чатыры, ды і то — у якіх людзей!

А заморац жа самы што ні на ёсць важны, аж з-за самага акіяна, чорны, роўна асмалак, з раскосымі вачышчамі і белымі, як дым, кучаравымі валасамі. Ініцыялы яго басурманскія — МПС, расшыфроўваліся смешна — Магамедчанка Пафнуцій Смітавіч. Менавіта так ён і прадставіўся Ібрагіму Іванавічу, дадаўшы, што, маўляў, прыбыў па тэрміновай справе да Яснавяльможнага Дэмакрата. Выслухаў усё гэта нязменны канцылярыст (пры пасадзе ён ужо і не запомніш ад якога Пераемніка), а пра сябе думае: «І дзе ж я табе, міл чалавек, Яснавяльможнага адшукаю пасля абеду? У нас жа не толькі шукаць, а нават і падумаць пра турботу Найвысокай асобы ў гэты час небяспечна. Псіныя вушы дачуюцца — і ўсё: цю-цю!»

— А ці ведаеце, неацэнны вы наш, — падумаўшы, мовіў канцылярыст, — давайце мы паступім такім чынам. Цяпер аформім ваш візіт і, паколькі па дакументах вы асоба высокага рангу, надамо яму адпаведны статус, размесцім і ўважым, як заведзена, вы са шляху-дарожанькі адпачняце, а ўжо заўтра ранкам, як у нас заведзена, з чалабітнай да двара, у палацы, так сказаць, вальнадумства. А калі вы дазволіце намякнуць аб тэме-с, якая вас заклапоціла ў нашай айчыне, і, як бы гэта далікатней патлумачыць… — столаначальнік выразна пацёр вялікі палец аб сагнуты ўказальны, — то можна і аб станоўчым выніку вашага пытання паклапаціцца.

Ад такіх слоў заморац аж збялеў і панёс нейкую тарабаршчыну на невядомай у нашых азіяцкіх мясцінах мове.

— Ды ён жа, падла, на найчыстай англіцкай шпарыць, — шапнуў на вуха Іванавічу дзяжурны перакладнік з адкульпатрэбных, — а гэта катэгарычна забараняецца сусветнай моўнай хартыяй! Параграф шосты сто восемдзесят першага артыкула катэгарычна забараняе ўжыванне несінтэтычных моў у дзяржустановах і грамадскіх месцах, за парушэнне — найстрогія санкцыі.

— Ці-ці, галуба! — выставіўшы наперад руку, астудзіў прыезджага Ібрагім Іванавіч. — Вы б, паважаны, акуратней з мёртвымі мовамі ў прысутнасці. — Хоць не без агрэху, але фраза была вымаўленая на агульнапрынятай у свеце мове.

Госць збянтэжыўся, але вочы працягвалі злосна зыркаць.

— Я — высокі амбасадар Сусветных сіл! І я патрабую неадкладна далажыць аб маім візіце вашаму Кіраўніку, у адваротным выпадку мне прыйдзецца… — скончыць думку яму не даў Ібрагім Іванавіч, які выйшаў з-за свайго стала. Рашуча наблізіўшыся да пасланца, ён шырока ўзмахнуў рукамі, абняў яго і трохразова смачна пацалаваў у вусны. Заморац — які дагэтуль стаяў — ад нечаканасці плюхнуўся ў фатэль.

— Калі вы амбасадар, ды яшчэ і высокі, рулілі б вы, ласкавы, наўпрост у Міністэрства замежных спраў! Я вам належнае ў такіх выпадках трохразовае цалаванне ад Гаранта перадаў, а ўсё астатняе заўтра раніцай…

Цяжка цямячы, госць спрабаваў нешта запярэчыць.

— Не-не, дарагі, у МЗС. Там тваё месца, а мне няма калі, — Сучыянін згроб са стала бярэмя папер, — у мяне, вось бачыш, дакументы дзяржаўнай важнасці. Мне не да амбасадараў.

І вось тады… Тады гэтая басурманская рожа з яхіднай усмешачкай падышла да стала і ветліва так паклала на самую яго сярэдзіну невялікі даўгаваты жэтончык, на якім былі выча-

каненыя сем залатых скарпіёнаў, якія трымалі на сваіх хвастах зямны шар.

Цяпер бялець давялося канцначальніку. Непадпарадкаванне прад'яўніку падобнай біркі магло разбурыць не толькі кар'еру любога службоўцы, але і астаткі крамлёўскай агароджы, а можа, і ўсю краіну.

Але самае ж страшнае заключалася ў тым, што, па чутках, такія пазнакі перадаваліся кіраўніку дзяржавы ў выпадках, калі Уладары Свету аднагалосна выносілі Вердыкт аб Недаверы да яго, а Недавер гэты цягнуў за сабой добраахвотны сыход кіраўніка і з улады, і з жыцця.

— Зараз жа, увомірг! Гарбату госцю, гарбату! Ды мацней! Зараз, найласкавы Пафнуцій Смітавіч, пра вас будзе куды трэба дакладзена. — Ібрагім Іванавіч са спрытнасцю ваверкі шуснуў з-за стала. — Ты тут глядзі, — гыркнуў ён дзяжурнаму, — і не сядзі седзьма, а складайце пратакол аб ненарматыўнай лексіцы, сігналізуй па сваёй лініі, ну і яго «круці», а я мігам, — і, цапнуўшы са стала бірку, рынуўся ў дзверы.

— Каця! — пакінуўшы збянтэжанага афіцэра, крыкнуў ён у бакоўку. — Заваркі не шкадуй, не шкадуй і сып з правільнага слоіка! Ну, вы ўсе ў мяне!..

Апошнія словы ўжо падхапіла гулкае рэха доўгіх палацавых калідораў, у якіх з-за эканоміі і іншых этычных меркаванняў гадоў дзесяць як папрыбіралі дываны. Знікненню дываноў папярэднічала доўгае фракцыйнае і ўнутрыпалітычнае змаганне, вынікам якога стала знакамітая фраза Пераемніка Чацвёртага: «Пуста і гулка, затое нас ніхто не абвінаваціць у паддывановых інтрыгах!». Каласальнейшай мудрасці быў кіраўнік, ды ў нас іншых, слава Богу, і не бывае.

Перш-наперш вушлы канцылярыст кінуўся да намесніка галоўнага візіра, правадзейнага таемнага дарадцы Уладзісура Джахарыйскага. Невялікага росціку (а невялікія росцікі ў нас даўно трывала ўвайшлі ў моду), някідкі, як склепавая паганка, з кароценькімі ручкамі, губасценькі, з гарбаценькім носікам, востранькімі вушкамі, у сціплым гарнітурчыку, акуратненькі да грэблівасці, ён таксама адносіўся да старажылаў і быў, мабыць, галоўным інтрыганам сярод велізарнай прыдворнай світы. Менавіта яму прыпісваюць чуткі права быць родапачынальнікам суверэннай дэмдыктатуры — галоўнага ідэалагічнага вучэння сучаснай эпохі. Многія, вядома, сумняваюцца ў яго першародстве: маўляў, дзе ўжо яму, ён і кажа карава, а ўжо пісаць, дык, гэта ўсім вядома, ён толькі ў Крамлі навучыўся. Але ў суверэннай дэмдыктатуры галоўнае дух — апора народатворчых сіл прawa-парадку і адміністрацыйнай патэнцыі рэгіёнаў, а не праціранне, прабачце за выраз, штаноў у акадэміях.

— Бяда, Уладзісур, бяда! Што і рабіць, не ведаю, адно спадзяванне на цябе!

— Ібрагім! Не дуркуй, адсапіся, сербані чайку, вось прысаджвайся. Бач, як задыхаўся! Давай усё па парадку.

— Ды досыць мяне суцішваць і гарбатай песціць! Бяда, я табе кажу, у дзяржаве! Цару, цьфу ты чорт, Яснавяльможнаму Дэмакрату пазнаку прывезлі!..

— Якую яшчэ пазнаку? Ты што, брат, абкурыўся? — хмыкнуў гаспадар кабінета.

— Са скарпіёнамі пазнаку, башка твая тупая! Ад Вышэйшых сіл! — і ён акуратна, нібы баючыся разбіць або пагнуць, выклаў на стол прывезены неграм жэтон.

Джахарыйскі збялеў, як палатно.

— Ды не можа гэтага быць, бо няма ж за што… Няма за што! Усе ўказанні выканалі, сцены збурылі, крамолу змарнавалі! Дзіянісія склялі! Нафту амаль усю ім выпампавалі! Газу ўжо дванаццаць гадоў як няма, а мы яго пастаўляем! Пастаўляем! Жаром усім народам гарох, пярдзім, спампоўваем і пастаўляем! Дык за што, за што пазнака? — з цяжкасцю прымайстраваўшы на нос акуляры, ён дрыготкімі рукамі ўзяў страшную кругляшку, пакруціў і паднёс да вачэй зваротным бокам, пасля чаго кінуў яе на стол і з бачнай палёгкай адкінуўся на спінку фатэля.

— І як ты, Ібрагім, гэтулькі гадоў з дакументамі працуеш? — грэбліва вымавіў дарадца. — Ты з выварату жэтон чытаў?

— Не, а што?

— Пудоў сто! Ледзь да сардэчнага прыступу не давёў! Слова там адліта, кароценькае такое: «кантакт»! Паштар твой чарнамазы, важны, вельмі важны, але ўсяго толькі паштар! Эх ты! А яшчэ ветэран Крамлёўскіх спраў! Ідзі ўжо, забяспечвай кантакт, а вось калі не забяспечыш, тады могуць быць і наступствы, і санкцыі, і трыбуналы.

Сучыянін, пакуль яшчэ цалкам не верачы ў шчаслівае завяршэнне яго турбот, асцярожна ўзяў бяздольную бірку і, блізарука прыжмурыўшыся, утаропіўся на выратавальнае слова.

— Госпадзі, паштар! І як жа гэта я, сава старая, не дагледзеў, маеш рацыю ты, дружа, старэю, можа, і сапраўды пара на пенсіён?

— Каму на пенсіён? Глядзі, дзе ў іншым месцы такое не ляпні! Ты ж, нібыта, з вайскоўцаў, а дэвіз забыўся: служыць, пакуль ногі

ходзяць, а рукі носяць. Ідзі, доступ да цела забяспечвай, хоць зацяжка будзе ў такі час, — ён зірнуў на гадзіннік: — Ого-го, пачатак другой. Яснавяльможнасць ужо, мабыць, закацілася за якую-небудзь снежную вяршыню і чмурэе.

— Так, тут ты маеш рацыю, а рабіць няма чаго, прыйдзецца парушаць спакой і асалоду бацечкі нашага.

Па ўсім было відаць, што ў сваю канцылярыю вяртацца было неахвота, і Ібрагім Іванавіч цягнуў час, ды і пасля такіх нерваў ён быў не супраць трохі пачасаць язык. Яны, мабыць, толькі ўдваіх і засталіся са старых на сваіх месцах, а цяперашнія — так, драбяза, ківу ўхвальнага не годныя, не тое што слова. Вядома, Уладзісур быў не цукар, ды і сам Ібрагім не з добранькіх ды рахманых, ох і папускалі яны адзін аднаму кроўкі, пакуль састарэлі, прыцерліся ды і, чаго ўжо ўтойваць, прыкраліся. Важная, дарэчы, справа пры суладнай працы ў камандзе, без яе ніякія вялікія праекты ў маштабах краіны ісці не могуць.

— Што, Іваныч, не цягне цябе, я гляджу, да негрытоса?

— Ох, не цягне! Як уяўлю яго праціўную рожу, аж верне. Здаецца, даўно ўжо абвыкнуць пара, па свеце поўны інтэрнацыянал і талярант, а мяне карабаціць! А тут яшчэ яму тры дзяржпацалункі адпусціў! Цьфу!

— Дакументы трэба ўважліва чытаць, а то не толькі ў вусны яго паганыя, а куды і ніжэй цмокаць давядзецца. Ды добра табе дзьмуцца, — утрымліваючы раззлаванага прыяцеля і прымірэнча пляскаючы яго па плячы, вымавіў Джахарыйскі. — Давай садзіся, гарбаткі дзюбнем, а паштара твайго хай вартаўнікі ды Кацька апякуюць.

— Кацька без каманды апекаваць не стане, хоць хто ведае? Гарбатку ж я ёй з правільнага слоічка загадаў заварыць, нябось, і сама сербане, не ўтрымаецца.

— Ну бачыш, усё да лепшага вяжацца. А з гарбаткай ды з Кацькай справа можа не толькі да раніцы, але і да міжнароднага скандалу дакаціцца, і прытым, заўваж, без нашай з табой дапамогі. Дык гарбату ці чаго мацнейшага?

«Сябар ты мне, вядома, сябар, але каньячок я з табой у працоўны час піць не буду, — ухваляльна ўсміхаючыся калегу, падумаў Ібрагім. — Бач чаго заплесці вырашыў! Хрэнушкі! І галоўнае, гэта ж ён на аўтамаце ўсё дзее, па сабе ведаю. І ў думках нічога благога не трымаеш, а яно ўжо само сабой, як па накатаным, выходзіць. Прафесіяналізм, куды ад яго дзенешся? Вунь адстаўнікі-апрычнікі скардзяцца, што як выпіўка якая прыстойная, адразу на блізкіх данос накатаць цягне, а часам і таго горш — на сябе самога ананімкі штабнуюць! Вось як яна, царова служба, у мазгі ды ў звычку ўядаецца», — а ўслых вымавіў: — Дзякуй табе, верны таварыш, і рады б каньячку сербануць, ды сэрцайка раздурэлася, ды яшчэ папсіхаваў і па калідорах гэтых грэбаных да цябе бег… Ты як хочаш, а я вось дачакаюся, пакуль Яснавяльможнасць ізноў узыдзе на сваё ўсенароднае служэнне, і падам прашэнне аб пенсіёне. Годзе, не магу ўжо. А ты яшчэ паслужы, ты ж гадкоў на восем, мабыць, за мяне маладзейшы?



— Не люблю я твайго ўпадніцкага галашэння, — разліваючы гарбату з хітрага агрэгата, пахітаў галавой Уладзісур. — Ты думаеш, мне ўсё гэта не надакучыла? Табе ж лягчэй: графік, сустрэчы, даклады, візіты, жыццё якое-ніякое, а ў мяне — галімая гнілата. Ты нават не ўяўляеш сабе, што за народ на акуёмах ды ўлусах сядзіць, бандыт, як той жа Макута, ягня Божы ў параўнанні з гэтымі губернатарамі. Як яшчэ Дзяржава трымаецца, хрэн яе ведае. Можа, з бакоў падпіраюць, вось і не развальваемся, ты ж зірні вакол: нічога свайго, усё чужое, нават папера туалетная. Тут затрубілі, што дажыліся, нарэшце, пшаніцу за мяжу прадаваць сталі. Усе ў ладкі пляскаюць, а тое, што булкі ды печыва, з нашай жа мукі выпечаныя, нам назад утрая даражэй прадаюць — гэта нікому неўздагад! А з курултаем што дзеецца! Ібрагім, ды не зыркай ты так на мяне, не зыркай! Ведаю, што мая віна, але ты ўяўляеш, на выбары як збіралі падушна з «бізнэсаў», так і грабуць. Несці нам зусім ужо перасталі, а намякнеш, дурня ўключаюць і ўсё тут. Які, нахрэн, яны народ прадстаўляюць? Мільянеры і мільярдэры ў другім ды ў трэцім пакаленні. Баюся, я сыду, праціснуць яны закон аб спадчыннасці дэпутацкіх мандатаў. А цяпер ты толькі паглядзі, што робіцца: на пасяджэнні не ходзяць, карткамі для таемнага галасавання гандлююць!

— Ды быць гэтага не можа, яны ж персанальныя, гэтыя карткі, сам бачыў! — адстаўляючы тонкі японскі кубак, недаверліва спытаў канцылярыст.

— Ну і што толку, што персанальныя?! Я іх нават загадваў ім да рукі прыкоўваць на тонкі ланцужок, усё роўна не дапамагае. Гандлююць і ўсё тут.

— Ды як жа гэта магчыма?

— А проста хочаш ты, да прыкладу, тыдзеньчык-другі пабыць народным курултайцам — плаці еўратаньгу гаспадару карты і засядай сабе на здароўе, праціскай сабе выгадны закон або папраўку якую. Сорам! А ў побыце што робіцца: служак панаймалі сабе, кожны аховы да батальёна мае, у кабінетах зала-

тыя бідэ панаставілі, у прыёмных цэлыя гарэмы ўтрымліваюць. Фракцыя на фракцыю вайной ходзіць, за год, можа, законы тры прымуць і ўсё, а астатні час або ў футбол, або ў покер рэжуцца ды па замежжах шныраць.

— Ты ўжо загаворвацца, дружа, стаў, — адсёрбваючы па старынцы са сподка чай, запярэчыў Ібрагім. — Адкуль жа ў нас фракцыі ўзяліся? Іх, мабыць, гадоў сарок як пазакрывалі, у нас жа з тваёй падачы суцэльная эра суверэннай дэмдыктатуры наступіла! Забыўся, ці што? — не без задавальнення падшпіліў ён сябра.

Суразмоўца ўскочыў і, не выпускаючы з рук літровы кубак з малюнкам «Я — чырвонае сэрцайка — народ», забегаў па кабінеце.

— Усё сказілі, сукі, абылгалі, спахабілі. Фракцый няма і цяпер! Яны нам гістарычна проціпаказаныя, ад іх адна смута і гаварыльня. Мінулае чаму вучыць? Вальней за ўсё жылося толькі прыгонным, заўваж, галава ты садовая, бесклапотна жылося. За сорак гадоў шэсцяя маёй ідэі толькі самую драбніцу мінуўшчыны ўваскрэсілі, а народ жа як адразу лепш жыць стаў! — ён на імгненне замёр у манументальнай паставе, як перад нябачным фотааб'ектывам. — Але ворагі не дрэмлюць, фракцыя ў нас адна, як была, так і засталася — гербавая, мядзведжая. Але ты нават не ўяўляеш, колькі пры адным сямействе гэтых вядзмедзяў развялося на маю галаву: і белыя, і гімалайскія, і нейкія плямістыя, а нядаўна вузкаплёначныя вылучыліся ў сумчатых, у каал, прабач, госпадзі!

Пачуўся званок. Дарадца неахвотна спыніў сваё палымянае выкрыванства і зняў трубку. Уважліва паслухаў, пару разоў зірнуў на свайго суразмоўцу і, апусціўшы на рычаг жаўтлявую дапатопную слыхавую прыладу, на якой быў намаляваны яшчэ двухгаловы арол, Уладзісур таямніча заціх.

— Што, здарылася нешта? — паспешліва абпальваючыся гарачай гарбатай, замітусіўся Ібрагім.

— Трэба б цябе памучыць, — прысаджваючыся, вымавіў стары езуіт, — ды так ужо і быць, пашкадую тваё сэрданька. Поўны парадак з тваім піндосам. Кацька твая, золата-баба, ухайдохала афраюсіка! Той ёй на захаванне пакет сакрэтны аддаў, у цябе ў сейфе замкнулі, а цяпер яны ў спецасабняк для высокіх гасцей адбываюць, каб ужо ва ўсёй сваёй красе і магутнасці разгарнуцца. Ну, дык будзеш каньячок-та?

— А чорт з ім, з сэрцам, накатвай!

Выпілі, пасядзелі моўчкі, прыслухоўваючыся, як гарачая хваля прабегла па нездаровых старэчых вантробах.



— Ты кажаш, каалы? Ды хай іх! Усё роўна, калі на іх як след цыкнуць, яны хутка ўгаворацца. Гнабіць іх трэба, ці цябе вучыць? А вось мне зайздросціць — гэта ты дарэмна. Якія візіты і сустрэчы, калі дзяржаўныя пацалункі і тыя прыходзіцца самому раздаваць, справаздачы потым замучышся пісаць. Графік працы адзін і той жа ўжо гадоў васямнаццаць: штораніцы даклад па зводцы: колькі ў трубу напярдзелі, колькі нафты вычарпалі, колькі збожжа вывезлі, колькі новых грамадзян у дзяржаве нарадзілася, крымінальная хроніка. Потым звесткі па курсу валют, потым апошнія спартовыя дасягненні ў нас і ў свеце. Вось і ўсё. Трыццаць хвілін працы з калькулятарам. Званок у банк, два званкі Сусветным і — канец працоўнага дня. Паперы, колькі ні падсоўваў, не чытае. Як пакіну стусам, так стусам і забяру. Толькі на трэцім годзе пераемніцтва мне яго жонка шапнула, што ён ні чытаць, ні пісаць не ўмее. Вось такія пірагі! Тут нехаця з табой пагодзішся: мінулі добрыя часы, цынізм вакол і звод. Апрычнікі зусім знахабіліся, самі сабе храначаць указы, нават у мяне ў канцылярыі не кожны раз рэгіструюць. Ганьба! А ты кажаш, служы далей! — Сучыянін усё больш распальваўся.

Бываюць такія ўсплёскі-заскокі ў састарэлых службоўцаў. Не тое каб сумленне іх заела або прасвятленні якія адкрыліся, хутчэй накіпела, пад самае горла брыдота паднялася, усярэдзіне трымаць ужо сіл няма, вось і наспявае неабходнасць апаражніцца, каб кроў благая ў галаву не стукнула. У маладыя і спелыя гады на такое фантанаванне чыноўны люд рэдка ідзе, ужо моцна балючае яно наступствамі, а па старасці, калі ўжо ўсё набыта і прызапасена, іншы раз здараецца, асабліва сярод блізкіх адзін аднаму людзей. А чаго асцерагацца, калі ты сам яшчэ для каго-небудзь небяспечным можаш быць, ды і для здароўя ведзьмакі рэкамендуюць кроў астылую паганяць, нешта накшталт дзеўкі маладой пасля лазні.

— Эка цябе праперла, — разліваючы каньяк, са спагадай адазваўся Джахарыйскі. — Разумею, разумею я, брат, твае парывы, ды не глядзі ты на мяне недаверлівай букай: куды, а галоўнае, каму я пайду на цябе стукаць? Да Сонца? Дык яно, акрамя сябе, нікога не бачыць і не чуе. Да апрычнікаў? Дык яны такі кошт заламаюць за захаванне дзяржаўных інтарэсаў, што і рады не будзеш. Старым верным сабакам трона — што нам з табою дзяліць? Ну, ты хоць верыш мне?

— Веру, веру, а каму мне яшчэ верыць застаецца, як не табе? — аддазваўся Ібрагім Іванавіч, а пра сябе падумаў: «Чорт хай табе верыць, але і баяцца мне цябе няма чаго, сам у лайне па самыя вушы». — Давай за нашу з табой баявую маладосць

вып'ем. Памятаеш, якія дзянькі былі? Што ні імгненне, то — эпоха! Але ўсё кудысьці дзелася, усё пераблыталася, спаганілася. Тут ты маеш рацыю. Хто б мог падумаць, што ўсё так павернецца?

— Давай, сябар, чаго чаркі дарма трымаць, давай! Нам за сваё жыццё не сорамна, мы аб лепшым для народа марылі, а што ўсё лайном павярнулася, дык сам народ і вінаваты.

Выпілі. Памаўчалі. Хто ведае, што ў гэтыя імгненні прамільгнула ў іх памяці? Але ўжо сапраўды не карціны галечы народнай, не мільёны памерлых і ненароджаных людзей, чыімі жыццямі яны безаглядна брукавалі дарогу ў светлую будучыню, усімі сіламі праштурхоўваючы наперад свае вар'яцкія ідэі. У нас так заўсёды: шчасце народнае на касцях, слязах і пакуце самога народа, а дастатак і сытасць суграмадзян ацэньваецца па вонкаваму выгляду блізкага круга. Ёсць жа такая старая народная прыкмета: чым буйнейшыя дыяменты на жонках службоўцаў, тым драбнейшая бульбачка на стале ў падданых. Нячыстыя статыстыкі плюсавалі ў адну кучу прыбыткі мільярдэраў, мільянераў, багацеяў і галечы, дзялілі ўсё на колькасць жыхароў Сібрусіі, без уліку ханьцаў, валацугаў, беспрытульнікаў, і атрымлівалі цалкам прыстойныя паказчыкі, з якімі не сорамна было і ў людзі выйсці. Адзін час народныя выбранцы спрабавалі нават працягнуць праз Вялікі Курултай законапраект, які прапануе лічыць народам дзяржавы толькі тых грамадзян, чый сукупны гадавы прыбытак перавышае мільён даляраў. Ледзьве заблакіравалі! Ці бачыце, ім сорамна нават разам стаяць у адным шэрагу з нейкімі абадранцамі. Дарэчы, і ў нас, і ў Аб'еўры даўно ўжо хадзіла адзіная валюта — «еўратаньга», — аднак дэпутаты ўпарта лічылі ўсё па старынцы, у даўно не існых грошах — счарнелых юэсах.

— Падумаць страшна, колькі ўсяго мінула! — першым спыніў зацягнутае маўчанне Ібрагім. — А ўсё кудысьці ляцім, ваюем адзін з адным, а часу ж на жыццё, глядзі, і не засталося зусім. Мне за восемдзесят, табе крыху менш. Калі што, і за дамавінай ісці не будзе каму. Вядома, салдат і студэнтаў панагоняць, адных за пачак махоркі, іншых за піва, але ўсё гэта казённа, праціўна. Плакальшчыцы з Вялікага тэатра прыгонных акцёраў па найму прагалосяць, можа, з гарматы пальнуць, калі порах хто праплаціць — і ўсё, забыццё. Ты сёння, пры нашым яшчэ жыцці, паспрабуй ад'ехаць кіламетраў пяць за загараджальныя сцены сталіцы і назаві нашыя з табой прозвішчы — хрэн хто і вухам павядзе. Налівай яшчэ па поўнай!



— Вось гэта я разумею! Не-е, ёсць яшчэ порах у парахаўніцах! Давай сёння нажаромся з табой, як раней, хоць і невясёлая ў нас п'янка, Іваныч, атрымліваецца. За цябе, сябар мой дарагі, — сапраўды ўсякае паміж намі бывала. За жыццё нашае, — а што паробіш, закон куратніка: пакуль да верхняга шастка дабярэшся, увесь у гаўне будзеш, гэта ўжо абавязкова, затое зверху гадзь на каго хочаш. А мы вось з табой прадзерліся і ўжо колькі гадоў на гэтай тычцы сядзім, і ніхто, ніхто нас адгэтуль не скалупне! — Ён першым перакуліў сваю чарку, крэкнуў і, закусіўшы кавалкам паўднёваамерыканскага кантынентальнага яблыка, працягнуў: — Галоўнае, крыўдна, аж вось тут слёзы стаяць, — ён сekануў рабром далоні па горле, — калі мы з табой прыдумлялі Пераемства, няўжо такім яго ўяўлялі? Мы ж ізноў аб народным спакоі і дабрабыце клапаціліся. Абаранялі яго ад прайдзісветаў і дэмагогаў усякіх, народныя грошы бераглі і супакой у дзяржаве! А што да сярэдзіны стагоддзя атрымалі? Няўжо дзеля таго з такой цяжкасцю прышчаплялі безнародныя ўсеагульныя выбары, укаранялі маўклівыя дэбаты кандыдатаў на тэлебачанні, вынішчалі плакатаманію і ўсе гэтыя ўлёткі — атавізмы падпольных войнаў і народніцтва? Ёсць адзін найвелізарны банэр на разваліах так і не дабудаванага публічнага дома ў цэнтры сталіцы — і годзе. Ну і які вынік? Пераемнікі наогул здрабнелі, з намі, бацькамі-заснавальнікамі, не тое што не дзеляцца, дык нават і не раяцца. Гэта паўбяды, але яны ж і да людзей перасталі выходзіць, фатаграфіі для газеты не дапросішся, каб падданым давесці, што сёння ўжо не Пяты Пераемнік на троне, а Шосты, і асноўны закон выкананы…

— Ды і чорт з ім, з гэтым народам, — перабіў яго канцылярыст, — за сябе крыўдна. Служыш, служыш, а ні слова добрага, ні наганяю праведнага. Як мышы: раніцай шмыг за сценку, гадзіны тры шу-шу, му-шу і немаведама куды адыдуць, а час прыйдзе, прыводзіць такога ж, як сам, шэранькага ды незаўважненькага: вось ён — мой прадаўжальнік! І ляпі з яго будучага Яснавяльможнага Дэмакрата! Дзе яны толькі адзін аднаго знаходзяць, як быццам у нашых казематах нябачны тата Карла завёўся і габлюе іх па шаблону, галоўнае — усе спартоўцы… Вось такія, брат, справы, а ты кажаш, каалы!

## 17

Незадоўга да таго, як удалечыні за гарой пачуліся прыглушаныя стрэлы, Макута-Бей сядзеў разам з Сар-мэнам на тэрасе і дапытваў спалоханага Юньку.

— Дык гаворыш, стары туману напусціў, і ўсе сталі для маіх людзей нябачнымі? — сёрбаючы гарбату, пытаў атаман.

— Ісціна, гаспадар. Бялесіны такія ў паветры заскакалі, і нас перасталі бачыць, ды і ў туман яны зайсці не маглі, нешта іх не пускала. Потым, пакуль вершнікі вакол гарцавалі, мы ў гэтым туманцы да ладдзі пайшлі, — хлопец быццам бы спатыкнуўся і замоўк.

— Ты гэта… усё як на духу Бею кажы, а то башку і табе, і тваёй кралі адкручу! Глядзі ў мяне! — Сар-мэн пагразіў хлопцу сваім здаравенным кулаком.

—Ды хіба ж я не разумею? А потым у нас, у прыгонных пані Званскай, і звычкі хлусіць няма. Матухна гэтую рысу ў нас начыста адбіла. Ну дык вось, рушылі мы да карабля гэтага…

— Ужо так і карабля? — перабіў яго з недаверам Макута.

— Вось табе праўдзівы шасціканцовы крыж, атаман! Барты высокія, я ледзь дацягнуўся, а іншых і зусім падсаджваць давялося. І што дзіўна: воды па цырды, а такая махіна плавае…

— Пачакай, Бей! А чаго гэта ты раней запнуўся, праўдзівец званскі? — зноў умяшаўся Сар-мэн.

— Ды вось з-за гэтага, атаман, — малады разбойнік дастаў з-за пазухі невялікі скрутак нейкай дзіўнай матэрыі і працягнуў яе начальнікам.

Пакруціўшы ў руках гэтую бязважкую ці то марлю, ці то павуцінне, паспрабаваўшы яе парваць і ледзь было не парэзаўшы сабе руку, Сар-мэн працягнуў шматок Макуце.

— Жалезная яна, ці што? — дзьмучы на выгіб далоні, прабурчаў ён.

Макута доўга з цікавасцю разглядаў дзівоцтва, паспрабаваў яе на смак, панюхаў, асцярожна патузаў, дастаўшы нож, паспрабаваў разрэзаць, нарэшце, паклаўшы на невялікі таўкач, які немаведама дзеля чаго стаяў побач са сталом, дастаў свой дапатопны пістоль з глушыцелем і двойчы стрэльнуў у анучу. Адна куля дзынкнула і стукнулася ў сцяну, а другая, разбіўшыся ў аладку, звалілася на падлогу.

— Вот табе і ядрон пірамідон! — з павагай забіраючы чарадзейную анучу, вымавіў правадыр. — Хвацкая штучка, дзе ўзяў, там, ці што?

— Трафей, атаман, — панура вымавіў Юнька, у душы праклінаючы сябе за тое, што прафукаў такое дзіва. Трэба было адразу Дашцы аддаць, ды пашкадаваў, хацелася выгадна прадаць, каб на вяселле грошай хапіла. Ды і нявеста добрая, як угледзела палатно гэтае, дык аж зайшлася ўся: маўляў, блузку сабе з яе сканстрамолю. Блузку! Тут вунь якраз латы з яе каваць.



— Трафей, кажаш? — перапытаў яго Бей.

— Ды які трафей, калі ён яшчэ ні ў адной справе не быў! — узарваўся, дзівячыся нахабству падначаленага, Сар-мэн.

— А тады ля каменя, тамака што, не справа была? — стаяў на сваім Юнь. Ён хоць і зялёным яшчэ быў бандзюком, але ўжо добра ведаў, што, па святых зладзейскіх паняццях, трафей сілай не адымаецца, а можа быць толькі выкуплены.

— Ну і колькі ты за гэты трафей хочаш? — не звяртаючы ўвагі на гнеў змоўшчыка, пацікавіўся старэйшы.

— Шмат, — апусціўшы галаву, прамовіў хлопец, — мне хутка жаніцца, а дома — вош на аркане, ды і няма яшчэ свайго дома. Так што і лічыце: грошы на хату — раз, на гаспадарку, карову ды іншую жыўнасць — два, на прыстойнае вяселле — тры. І на выкуп — чатыры.

— Ты зусім абарзеў, шчанюк! — завыў Сар-мэн. — Я табе шчас дам і водкуп, і закуп, і цёлак з кнарамі ў дадатак! Ты ў мяне…

— Сар-мэн, дарагі, — спыніў яго важак, — што гэта ты, як прэм’ер які, лаешся? Правільна хлопец усё лічыць. Добра, я на твае ўмовы згодзен. Будзе табе і гаспадарка, і вольная, і яшчэ зверху ад нас з тваім атаманам. Праўда, шаноўны?

Не разумеючы яшчэ, куды хіліць старэйшы, Сар-мэн на ўсякі выпадак пагадзіўся.

— Тады па руках! Дык адкуль у цябе гэтая штучка? Толькі не брашы!

— А калі да карабля беглі, у адной панны, што з дзедам прыплыла, яна і вывалілася. Я перш думаў аддаць, а ў перапудзе і забыўся. І добра гэта аказалася. Мы гэта, у пасудзіну залезлі, і яна паплыла, ды хутка так, не гледзячы, што супраць плыні! Я і вокам міргнуць не паспеў, а перад намі вадаспад, ну ведаеце вы — выток Бел-ракі. Камяні тамака і гайданка высокая, ну, думаю, кердык нам прыйшоў!

Было відаць, што хлопец не хлусіў, збялеў нават ад успамінаў, замоўк, вусны толькі варушацца.

— Ну і чо ж ты язык прыкусіў, давай далей, — прымусіў яго Сар-мэн, — не тамі душу.

— Цяжка, дзядзечкі атаманы, гаварыць, словы вунь шэпчуцца, а гукаў ніякіх няма. І ў вуха быццам хто шэпча: маўчы, маўчы! Не магу гаворку з рота пусціць, не лезе…

— Ты дурку не танцуй, сам жа мне казаў, што пячора тамака з Шамбалой, — строга нагадаў малодшы атаман.

— Ну, казаў, а цяпер не магу. Забарона на мяне нейкая легла.

— А з чаго ты ўзяў, што ў Шамбалу вы патрапілі? — нягучна спытаў Макута.

— Дык яно само неяк у галаву ўцямяшылася. Я раней і слова такога не ведаў.

— А назад як выбраўся? — ужо стражэй спытаў важак.

— Усяго не памятаю, мо і памятаю, ды вусны звязаныя. Адно токі ведаю, што ачухаўся ў вадзе перад вадаспадам, і гэтая кісяя на мне вісіць, — ткнуў ён пальцам на свой трафей.

— Ну гэта ўжо хоць нешта! А ну-тка, Сар-мэнка, накінь на гэтага знямелага палатніцу ды пхні яго, што ёсць духу, вось у гэтыя зачыненыя дзверы.

Праведзена гэта было хутка і моўчкі. Юнька з дзікім лямантам паляцеў на таўшчэзныя дубовыя дзверы, але замест таго, каб разбіцца да смерці, увайшоў у дошкі, як нож у алей, і яго немы лямант ужо чуўся знутры іншага пакоя.

Сар-мэн тузануў на сябе ручку — недалёка ад парога на падлозе ляжаў Юнь, здзіўлена гледзячы на атаманаў. Ён быў без аніякіх пашкоджанняў.

У гэты самы час за гарой і пачуліся стрэлы.

— Што ў цябе за страляніна ў лагеры? — змрочна ссунуў бровы Макута.

— Не ведаю, шчас разбяруся, — і раптам увесь збялелы, Сар-мэн кінуўся да сцежкі, па якой нядаўна сышлі прагуляцца закаханыя.

Наперадзе і ззаду атамана беглі разбойнікі, ляскаючы затворамі размаітай зброі. «Няўжо гэтая дурніца ва ўсё паверыла і паперлася сама да старой пячоры?» — білася ў галаве адзіная думка. І трэба ж яму было ўчора ўначы пасля бурных пяшчотаў выказаць здагадку, што другі лаз у гэтую, чорт бы яе падраў, Шамбалу знаходзіцца пад вялікім сінім каменем у той дзіўнай пячоры, што расчыніла сваю чорную пашчу якраз з іншага боку гары, дзе прыляпіўся яго дом. А што яму заставалася рабіць, калі гэтая сцерва падслухала частку яго гутаркі з Юнькам, калі той выхваляўся, што ведае, як пракрасціся ў патайную краіну. Выхаду не было! Не распавядаць жа ёй праўду. Хоць і пра пячору ён дарэмна распавёў, там сапраўды быў таемны лаз, і не толькі ў божыя палацы, а і ў яго дом. Адкрыў яго яшчэ нябожчык-бацька, калі ўладкоўваў пад гарой сваю зімоўку, сам усё зрабіў і толькі перад смерцю распавёў аб гэтай таямніцы сыну. Там, у гэтым змрочным лабірынце, у зацішным месцы было прыхавана і ўсё фамільнае дабро, з такой цяжкасцю здабытае і бацькам, і сынам. Быў там, у сярэдняй пячоры, і дзіўны камень, які часам нібыта як свяціўся шэрым святлом. Яшчэ бацька засыпаў яго зямлёй ад граху далей. Словам, няпростая была пячорка, таму дзень і ноч на сцежках, што вялі да яе, дзяжурылі верныя Сар-мэну людзі, якія мелі строгае ўказанне страляць у любога без усякіх папярэджанняў і вокрыкаў. Мясцовыя гэта ведалі і на запаведны адхон нават носа не паказвалі.



«Вось дурніца! А што дурніца, сам добры — наплёў дзеўцы з тры кашы, ужо чаго-чаго, а фарбаў ты, прыдурак, не пашкадаваў! Быццам не ведаеш яе вечную цягу да любых авантур. Так што сам вінаваты, ты яе і падштурхнуў да гэтай чортавай нары, будзь яна няладная! Ну, пустадоміна, застанься толькі жывая, на дупе жывога месца не пакіну, годзе мне з табой цацкацца!» — атаман спяшаўся што было духу.

Ён кахаў гэтую дзіўную і шалапутную жанчыну, кахаў даўно і шчыра, яшчэ са студэнцкіх часоў, калі бацька выцягнуў яго з суседняй банды і пагнаў у Аб'еўру на вучобу. Стары лічыў, што прыстойны бандыт без Сарбоны — проста цёмны лох, сам жа ён у свой час з чырвоным дыпломам скончыў акадэмію дзяржслужбы пры прэзідэнце, тады яшчэ так менаваўся Пераемнік. Сціснуўшы сэрца, ён выканаў волю бацькі, хоць нават па заканчэнні часу так і не змог зразумець, дапамагала яму гэтая вучоба ў жыцці ці не. Памяталася толькі адно: вярнуўшыся да разбойнай здабычы, многаму давялося вучыцца зноў, а галоўнае, абвыкаць да волі. Вось Гопс са сваёй воляй ніколі не расставалася, яна ў яе заўсёды сядзела ўсярэдзіне і часам вытварала такое, што яму, ужо даросламу мужыку і заўзятаму нягодніку, станавілася ніякавата.

Сар-мэн спыніўся. Насустрач па сцежцы спяшалася невялікая чарада. Наперадзе, хістаючыся, ішоў Енах, несучы на руках Эрмітадору. Рукі і ногі жанчыны боўталіся, нібы зробленыя з анучаў, Маша падтрымлівала ёй галаву і ўвесь час нешта казала. Атаман выставіў наперад свае дужыя рукі, гатовы прыняць дарагі яму груз.

— Мэн, асцярожна, асцярожна, яна вельмі слабая. Лекар патрэбен тэрмінова, можа, яшчэ і выратуем, куля прайшла навылёт. Галаву, галаву падтрымлівайце! Гавары, гавары з ёй, Сар-мэн, яна цябе ўвесь час клікала і прасіла, каб ты аднёс яе на нейкі сіні камень.

— …на камень, на камень… яны выратуюць мяне… прабач, прабач, — ледзь варушачы вуснамі, шаптала дзяўчына, спрабуючы прыціснуцца да блізкага ёй чалавека.

— Зараз, зараз, маленькая, зараз будзе доктар…— у адчаі шаптаў Сар-мэн.

— Не трэба дактары… на камень, на камень, Сар-мэнчык, міленькі…

Доктар у бандзе быў. І не адзін. Але выратаваць Эрмітадору яны не змаглі.

— Цуды не па нашай частцы, — агледзеўшы параненую, вымавіў старэнькі лекар, які выцягнуў дзясяткі тры разбойнікаў з таго свету. — Дзіўна, што пры такой ране яна яшчэ дагэтуль падае прыкметы жыцця… Гэта, Макута-бей, проста нерэальна.

Сар-мэн, як каменны, яшчэ гадзіны дзве сядзеў побач з ужо астываючым целам і ніяк не мог заплакаць. Ён хацеў, зваў выратавальныя слёзы, яны не ішлі, а ў вушах стаяў Эрмінін шэпт: «Аднясі мяне на сіні камень, яны мяне выратуюць…». Ніхто не рашаўся чапаць панурага і, здавалася, закамянелага атамана, такім яго яшчэ ніколі не бачылі. Нарэшце прыйшлі мясцовыя бабкі, загарнулі Эрміну ў палотны і панеслі з галашэннем і толькі ім адным зразумелым выццём.

Даша напаіла Машку нейкім супакаяльным зеллем, і тая спала глыбокім сном, моцна ўчапіўшы за руку Енаха.

Макута пра нешта нягучна гаварыў на тэрасе са старымі бандытамі або сыходзіў далёка ўбок сакрэтнічаць з пасланцамі, якія прылятaлі да яго з розных куткоў акуёма. Смерць гарадской аторвы выбіла з сядла Сар-мэна, зблытала ўсе карты Бею, ён быў пануры, замкнуўся на сваіх невясёлых думках. Іншым разам можна было і тры, і дзевяць, і ўсе сорак дзён чакаць вяртання да нармалёвага стану важака мясцовай шайкі, але сёння не тое што дзень, кожная гадзіна была на ўліку. Пасланцы дакладваюць, што па ўсім чулымскім краі хістаецца маса прышлага люду, і ўсе на розныя лады выпытваюць мясцовых пра Шамбалу. Аддаў загад рабаваць чужынцаў неміласэрна, але жывата не пазбаўляць. Дзядам ды бабам, якія сказы сказваюць, было загадана ўсе мясцовыя байкі пра тайную дзяржаву перайначваць на ханьскі ды чорскі лад і накіроўваць у тыя, ужо зусім небяспечныя, месцы. Аднак усё гэта, вядома, не ўсё, кажуць, па чыгунцы тараць нейкую цуд-тэхніку, якая падземныя хады чуе, ну гэта для дурняў ды для гучных справаздачаў начальству. У нашых гарах на груваcткіх машынах далёка не дасунешся. Усё адно дабром такое не закончыцца. Гэта табе не бязмежныя Гімалаі або Памір, калі возьмуцца як след — дакапаюцца, а ўжо цяпер і пагатоў, з дзецюком гэтым колькі мужыкоў было, і калі іх усіх выпусцілі, то звону ў акрузе будзе хоць вушы затыкай.



Наогул аб той скале, дзе з вадаспаду пачынаецца Бел-рака, шмат цікавых гісторый народ спрадвеку распавядае, што каго і чаго тамака толькі ні бачылі. То агні нейкія, то розных чалавекаў, і маленькіх і аграмаднага росту. Варажэі і шаманы з усяго акуёма туды часам збіраліся, тыднямі жылі, агні палілі, у бубны білі. Яшчэ маці-нябожчыца казала, што калі набраць у нейкі дзень вады з вадаспаду ды паставіць яе ў гліняным чыгуне перад рукатворнай свечкай, то ў бязмесячную ноч можна многае ўбачыць у тым чыгуне, а бяду ці небяспеку якую сапраўды можна адвесці. Макута гэта па сабе ведаў. Не аднойчы яго выбаўлялі матчыныя засцярогі. Толькі вось маці слухаў, а сам чагосьці на ваду глядзець асцерагаўся.

Вадаспад ён той добра памятаў яшчэ змалку. Камень пад гэтым вадаспадам дзіўны быў, ды які там камень — сцяна аграмаднейшая, спусцістая і блакітная, як яйкі дразда; тады ім, дзецюкам, здавалася, што камень той быццам цёплым быў. Пад тым вадаспадам дзятва навакольная любіла ўлетку плёскацца ды, мусіць, і цяпер купаецца да дрыжыкаў, дык вось грэцца яны часам не на сонейка выбіраліся, а, наадварот, паднырнуўшы і ўзлезшы на доўгі чорны камень. Над гэтай чорнай плітой якраз і размяшчаўся той цёплы блакітны камень. Велізарны ён быў. Можа, гэта, вядома, ім і здавалася, але ж і ўзімку, у самыя лютыя маразы вада лілася такой жа шырокай лавінай, ды і бакі асабліва не абмярзалі. Словам, было нешта ў гэтым месцы незвычайнае і страшнаватае нават. Ды не толькі варажбіткі, але і многія з навакольных паселішчаў туды ў поўню па ваду хадзілі, вялікія гаючыя ўласцівасці яна нібыта мела.

Калі жывеш побач, усё гэта табе вядома і ты гэта часта чуеш, то з тым неяк зжываешся і можаш наогул не звяртаць увагі. Але Макута ўявіў сабе чужынца з кумкай галавой, якому пазбіраюць усе быліцы і небыліцы, усе казкі, страшылкі і павер'і, і ён хутка дапетрыць, дзе варта шукаць лаз у гэтую самую Шамбалу.

А цяпер, пасля страляніны ды пасля таго, як, відавочна, не адзін Юнька з таго падзямелля выбраўся, уся акруга толькі пра гэты вадаспад і кажа. Вунь пасланцы не паспяваюць даносіць. Вядома, баек на гэтую тэму і да ўчарашняга дня ў іхніх краях хапала. Амаль у кожным сяле і ўлусе ёсць людзі, якія зніклі, а потым знаходзіліся, яны, як правіла, з часам юродзівымі станавіліся, не спадручнымі для нашага паўсядзённага жыцця. Чаму так з імі адбывалася, ніхто разгадаць не мог, самі ж яны маўчалі.

— Дзе гэты Юнька? Яго ж дараспытваць варта. — Атаман даў каманду шукаць маладога разбойніка, сам зайшоў у святліцу,

вырашыўшы лепей разгледзець выкуплены трафей, аднак чарадзейнай накідкі ў яго кайстры не было.

«Што за чартаўня, не маглі ж яе ў мяне стырыць?.. — атаман збянтэжана пашкроб сівую патыліцу. — Вось гэта ты ўліп у гісторыю, такога з табой яшчэ не здаралася ні разу, і як выкруціцца з гэтага пераплёту — адразу і не вырашыш».

Разбойнік пахадзіў па пакоі, яшчэ раз перавярнуў усё ў сваёй торбе.

«Ну і дзялы, выйдзі і распавядзі каму-небудзь, што Макуту-Бея абчысцілі, як апошняга застольнага мужычка, — засмяюць. Ды і нядобра грознаму атаману ў сваіх слабасцях распісвацца. Народ даведаецца, смяшок пусціць. Няма нічога больш небяспечнага для ўладароў, як гэты самы смяшок, грэблівая ўхмылка, калі яны пойдуць — можна на атаманстве крыж ставіць і сыходзіць на пчольнік, не чакаючы, пакуль у спіну штурхнуць. Гэта ўжо як піць даць! Як ні круці, што гэта за разбойніцкі правадыр, калі яго абабралі, ды яшчэ ледзь ці не ў сваёй уласнай хаце! У Сар-мэна нешта хутка выпытаць будзе, лічы, немагчыма. У іх з нябожчыкам таткам смутак па бабах спадчынны. Той таксама, помніцца, улюбляўся ў каго заўгодна, а потым тыднямі пакутаваў, калі абранніца рогі яму наставіла ці збегла…

Добра, разбяромся. Чужы, напэўна, у хату зайсці не мог, а свой пабаяўся б у маёй кайстры пароцца! Незразумелы нейкі злодзей мяне абдурыў. Кайстры не ўзяў, а там дабра досыць, а вось немудрагелісты кавалак матэрыі несамавітай цісканул. Дзіўна! Вось і выходзіць, што зрабіў гэта, хутчэй за ўсё, Юнька, а больш няма каму!»

— Мітрыч! — пазваў Бей, вызірнуўшы на тэрасу. Верны нукер заўсёды быў побач, нягледзячы на тое, што яны былі з атаманам амаль аднагодкі, выглядаў ён нашмат маладзей, невялікага росту, сухі, худы, рухомы і гнуткі, як рысь, ён неадступным ценем цікаваў за гаспадаром, гатовы ў любое імгненне прыйсці на выручку. — Даведайся, дзе Сар, што робіць, у якім стане, толькі ціха, непрыкметненька. І яшчэ, адшукай таго хлапца, з якім мы сёння тут размаўлялі, пакуль уся гэтая катавасія са стралянінай не ўсчалася. І да мяне яго, але таксама без лішняй мітусні… — Макута запнуўся на паўслове і прыслухаўся, ніжэй у пасёлку, дзе размяшчалася жытло разбойнікаў, нешта відавочна здарылася: вылі бабы і мацюкаліся мужыкі, іх угаворваючы. — І з гэтым перапалохам таксама разбярыся, — матнуў ён рукой. — Нездарма, відаць, старыя кажуць: бяда адна не ходзіць.



Не паспеў яшчэ Зміцер зрушыцца з месца, як да ганка падбегла, адбіваючыся ад двух бандытаў, ускалмачаная і відавочна перапуджаная баба. Убачыўшы Бея, яна звалілася на калені і разгаласілася праціўным піскрявым голасам:

— Бацечка, сумленне ты душаў нашых акаянных, не аддай на зневажанне хоць целы забітых! Не па-божаму гэта і аніяк! Спыні…

— Ціха, жанчына! Не перастанеш блажыць, загадаю вылупцаваць і ў раўчуку астудзіць, — прыняўшы разінскую паставу справядлівага суддзі, вымавіў Макута. — Мітрыч, дай ёй вады!

Пакуль няшчасная, глынаючы, стукала аб канты кубка зубамі, мужыкі, якія пераследавалі яе (адзін з іх аказаўся ёй мужам, а другі родным братам), перабіваючы адзін аднаго, прыняліся былі тлумачыць верхаводу, што там, у іх у пасёлку, здарылася.

— Бабы ўсе ўспудзіліся, старэйшыя з іх — завадатары, некаторыя валасы на сабе рвуць, а ён яе скраў… — блажыў брат такім жа ўедлівым і тонкім, як у сястры, галасочкам, хоць сам быў падобны да мядзведзя.

— Ды нікога ён не краў, — уклінаваўся басамі муж, па пастаці і звычках поўная супрацьлегласць швагру, — ён яе сам вырашыў схаваць, бо каханне ў ім яшчэ…

— Нехрысці, супастаты, кары на вас ніякай няма, — не вытрымала жанчына, — якое такое каханне, калі цела ўжо астыла і пахавання патрабуе…

З пасёлка ўсё падыходзіў і падыходзіў народ. Страшачыся атамана, ішлі маўкліва, бачком, насуплена, толькі бабы нягучна скавыталі і ўсхліпвалі, уткнуўшыся ў спіны мужыкоў.

«Толькі мне смуты сёння і бракавала!» — падумаў Макута. Мяркуючы па ўсім, справа пачынала набываць сур’ёзны абарот.

— Так, вы трое, з вачэй маіх прэч! Вось ты, старая, — ён ткнуў пальцам у згорбленую часам бабулю, — падыдзі бліжэй, маці. Чыя ты будзеш?

— Пуркіна я! Удава, маці бандыта, дачка бандыта, бабка бандыта і прабабка бандыцкая.

— Ну, здароў, сумленная жанчына, пашана і павага твайму роду, выходзіць, я калісьці ў бацькі твайго, Гульсараса, у падручных быў.

— Можа, яно і так, атаман, толькі не па-нашаму цяпер твой улюбёнец Сар-мэн паступіў! Нядобра гэта, і людзі ўсё бачылі.

— Ды што ж гэта вы мяне цяпер мутузіце! Што здарылася ў вас, скуль такі пярэпалах? Хоць ты, маці сумленных разбойнікаў, мне растлумач толкам! Дзе сам Сар-мэн?

— Не круці галавой, ватажнік, няма яго сярод нас! Нябось, дзесьці ў зацішным месцейку твой улюбёнец са сваімі падручнымі, а што яны тамака вытвараюць з целам беднай бабы, аднаму Госпаду вядома, — народ за яе спінай няўхваляльна загудзеў.

Не любіў Макута гэтага шуму, бо вельмі добра ведаў яму цану, і, не перабіваючы старую, грозна падняў уверх руку.

— Толькі мы абмылі гэтую дзеўку, з якой кагадзе атаман уначы мілаваўся, абцерлі яе масліцам пахкім і ўжо апранаць памкнуліся, як дзверы нашай лазенкі насцеж бразь — і сам атаман уваліўся, на ўсіх ваўчынымі вачыма зыркнуў, моўчкі накрыў дзеўку нейкай анучынай, узваліў на сябе і ходу. Мы ў крык ды за ім, а хрэн — тамака дзверы падперлі. Усе выюць, а я да акенца, гляджу — трое іх: ахальнік наш, палонны, што ў Чулым намеснікам паслалі, і яшчэ адзін мне не знаёмы, але пазней яго прызналі як халопа пані Званскай. Вось яны і ўвалаклі беднае цела…

— А куды? — здзівіўся атаман.

— Ды сюды, да задоў гэтай хаты! — паказала маршчыністым пальцам старая.

— Мітрыч, траіх з сабой і абшукай жыллё. Каго знойдзеш, мігам да мяне. А вы, сумленны лясны народ, разыходзьцеся па сваіх патрэбах, пакіньце старую Пуркіну і двух-трох дзясятнікаў, калі што важнае будзе, у звон клікну.

Натоўп хоць і неахвотна, але памаленьку пачаў разыходзіцца, і хвілін праз пяць ля ганка, нібы сіратлівыя лісцвякі, на сонцы засталіся толькі тыя, каму загадана было застацца.

— Ну чо вы тамака, як нябродныя, унізе трэцеся, падымайцеся да мяне ды прысядзьце, — стомлена падняў руку атаман. — Ну дык з чаго гэта ты прыдумала, што для здзекаў атаман дзеўку сцягнуў?

— А чо ж мне думаць-та, калі ён як заграбаставаў яе, усё шаптаў, як не ў сабе: «Прабач, прабач, недалюбіў я цябе, мілая, патрывай крыху, патрывай, я ўсё выпраўлю…» — розумам ён, відаць, крануўся, а тых двух сілком прымусіў! Ох, чуе маё сэрца, дабром гэта не скончыцца.

«Так, чым далей у лес, тым больш дроў, адно хоць цешыць: накідка знайшлася, без ганьбы абыдзецца, — слухаўшы ганаровую разбойніцу, думаў Бей. Астатняе пачутае ну ніяк не хацела ўкладвацца ў галаву. — Навошта Сар-мэну спатрэбіўся труп дзяўчыны? Што значаць яго словы пра «далюбліванне»? І галоўнае, дзе яны? У тым, што іх у доме няма, ён быў амаль упэўнены. Ужо не такі гэта палац, каб у ім можна было схавацца…»

Праз нейкі час прыбеглі задыханыя бандыты.

— Пуста, атаман! — быў іх вердыкт.

— Бесаўшчына нейкая! Бярыце выбарных і яшчэ раз абмацайце ўсё, са скляпоў да гарышча! Шукайце, калі людзі бачылі, што яны сюды пабеглі, значыць, дзесьці тут і схаваліся, шукайце, маць вашу! — Макута раздражнёна тупнуў нагой і здрангвеў. Са святліцы, адкуль толькі што вярнуліся пасля безвыніковых пошукаў яго людзі, выйшаў схуднелы, нейкі загадкава прасветлены Сар-мэн і два ягоныя змоўшчыкі.

— Дзе дзеўка? — асіплым ад нечаканасці голасам спытаў атаман.

— Пахаваў, як яна мяне прасіла, такая воля ейная была, — стомлена адказаў разбойнік, — яны сведкі. Ты, маці, прабач, што я вас тамака ўсіх напалохаў, — звярнуўся ён да старой, — на вось, вазьмі і са сваімі таварышкамі падзяліся, — ён паклаў на стол некалькі залатых манет. Толькі мужыкоў вельмі не паіце, бач, начальства тут, ды і справа можа неўзадаўжкі вызначыцца.

Бабка спрытна змахнула грошы, недаверліва зірнула на навакольных і падалася ўніз, дзе яе ля кустоў чакалі надта шустрыя сяброўкі. Услед за ёй падаліся і разбойнікі, у здзіўленні паціскаючы плячыма. Ніяк не маглі яны ўцяміць, як з дома, дзе нікога не было, маглі выйсці трое дарослых людзей. Як?

18

— Вашая Усясветнасць! Зноў поўная бязладзіца ў гэтай краіне, — на найчыстай амерыканскай дакладваў камусьці па тэлефоне Джахарыйскі. — Вашага пасланца сродкамі жаночых чараў і чарадзейных грыбкоў спакусілі са шляху праўдзівага, і ён цяпер распусьнічае з сакратаркай Сучыяніна, які, я ж вам ужо даўно сігналізаваў, з'яўляецца таемным алкаголікам і агіднейшым тыпам. Гэтак жа асабліва хачу падкрэсліць: у апошні час, упадаючы ў старэчы маразм, ён становіцца прамой пагрозай сусветнай дэмакратыі. Я ўжо маўчу аб яго непрыстойным уплыве на нашую рэчаіснасць, на ўнутраны свет Яснавяльможнага Дэмакрата і ўсёй лектаральнай зоны ў цэлым. Дакуль, Вашая Усясветнасць, трываць мы будзем гэтага супастата, бо вакол яго ўюцца нездаровыя сілы, рэакцыянеры, а галоўнае, мілітарысты, а ў нас жа як-ніяк тры ракеты і восем боегаловак з ядзернымі

зарадамі таталітарызму засталіся… Адзначце, калі ласка, што я асабіста, падвяргаючы сваё жыццё неймавернай небяспецы, неаднаразова пранікаў у палацы захоўвання гэтай пагрозы і, як мог, псаваў усё. Вось у апошні раз я нават на ржавым крыле ракеты напісаў пунсовай губной памадай: «Жыве дэмакратыя!», а да гэтага размаляваў пацыфісцкімі графіці сцяну ў адным з найбольш наведвальных памяшканняў іхняга штаба. Прабачайце, прабачайце, больш не ўхілюся ад магістральнай лініі дакладу. Што-што? Ці стаў вядомы змест паслання староннім? Вось чаго не ведаю, таго не ведаю, але я мігам… Алё… алё! Ну, вось, трубку кінуў! Усё ж няўдзячныя людзі цяпер кіруюць светам! У былыя часы, калі Радзіма нашая была яшчэ багатай, яны так з намі сябе не паводзілі. Пераемнікаў што ні год людзьмі года рабілі, прэміі міратворныя выдавалі, а за Пераемнікамі і нам, недастойным, перападала…

І вось у гэтую самую хвіліну Уладзісур нарэшце сцяміў, што ён працягвае казаць усё гэта ў трубку. Змярцвелая бледнасць накрыла яго твар, і на лбе выступіў халодны пот. Галава закруцілася, ён на імгненне ўявіў сабе наступствы, якія няўхільна будуць, калі апаратары з таго боку не адключыліся разам з Сусветным. Гэта канец! — выразна ўявіўшы сабе малюнак выгнання з улады, што для ўсякага службоўцы страшней за смерць, царадворац пазбавіўся прытомнасці.

Ібрагім Іванавіч у прыўзнятым настроі піў звычайную гарбату з заморскім пасланцам, струменячы ўсёй сваёй існасцю такую падлізлівасць, што не толькі чалавек, а і прадметы неадушаўлёныя прамянелі ўдзячнасцю. Пасланне Найвысокіх, знарок таемным чынам узятае Кацярынай з сейфа шэфа, было перададзена Пафнуцію Смітавічу, якому, мяркуючы па жэстах і зіхоткіх вачах, было не да выканання сваёй місіі, аднак жа абавязак патрабаваў, і ён вырашыў часова наступіць на горла сваёй любоўнай песні. Прагумаваны і прафальгаваны канверт з падачы найласкавага канцылярыста быў укладзены ў выдатную скураную тэчку з адціснутымі на ёй карцінамі прыгоннага побыту, напыленнем найчыстага золата і абсыпаную каштоўным каменнем.

— А тэчку пасля аўдыенцыі пакіньце сабе як прыемную дробязь у памяць аб наведванні Яснавяльможнага Дэмакрата і нашай гасціннай краіны, — укладваючы ў яе канверт, растлумачыў столаначальнік.

Пафнуцій хоць і працягваў бачыць свет выключна скрозь прарэз Кацькіных грудзей, але падаруначак ацаніў, і таму заззяў шчырай сімпатыяй да вартавога найсвятлейшага ўваходу.



Раптам у гэты момант адбыўся нейкі ледзь прыкметны рух паветра, і Сучыянін напружыўся, нібы спружына. З'яўленне ў тронным кабінеце першай асобы дзяржавы ён чуў усёй сваёй існасцю, прыводзячы тым самым у замяшанне не толькі ахову, але і самога Пераемніка.

— Ну, вы ўжо тут з Кацькай дапівайце гарбатку, а я на даклад, на даклад… — па ўсім было відаць, што думкі гаспадара прыёмнай ужо далёкія ад месца чаявання.

І толькі зазванілі куранты на адзінай, захаванай па патрабаванні ЮНЕСКА галоўнай вежы Крамля, а на іх адклікаліся ўсе званы цэркваў, сабораў, храмаў, гонгі і ляскоткі дацанаў, скрозь трэск дынамікаў заклікалі да нябёсаў мінарэты, аб вечным забубнілі сінагогі, у горны затрубілі «Ідучыя Нашы», у Ахотным радзе на ўсе лады загыркалі мядзведзі, з мільёнаў гучнагаварыльнікаў над зямлёй разнеслася: «Слухай, краіна! Мілата над табой заззяла! Сейбіт вечны, Пераемнік народны, погляд на цябе звярнуў…» — як Ібрагім Іванавіч ужо расчыняў высачэзныя двухстворкавыя дзверы ў тронны зал дэмакратыі, за якім дасведчаны чалавек патрапляў у паўсядзённыя пакоі Уседэмакрата. Менавіта іх інтэр'ер і дэманстраваў адданаму народу нашыя дзетрэбныя служэбнікі масавых камунікацый.

Працоўны кабінет Пераемніка быў абстаўлены з належным густам, годна і сціпла. Трохі малахіту, трохі золата, прыстойныя шпалеры, дыхтоўная старая мэбля, зручны, але ўжо пацёрты ад часу і непасільнай працы пісьмовы стол, нязменны чарнільны прыбор, на правай сцяне абавязкова па этыкету партрэт папярэдняга Пераемніка — вось, здаецца, і ўсё, хоць не — у далёкім куце рассоўная шырма, на шаўковых створках якой намаляваныя двухгаловыя дзяржаўныя мядзведзі з шырока расхінутымі лапамі, гатовыя дадушыць любога ў сваіх сяброўскіх абдымках. Ніжнія лапы ў іх былі злёгку падкурчаныя, правая — кіпцюраста ўчапілася ў старажытную дзяржаву, знак самавітай улады, левая — моцна трымала лаўровую галінку, якая абазначала свабоду, мірныя памкненні і ўсеагульны дастатак. Верхнія лапы трымалі адпаведна шчыт і меч, на двух павернутых адна ад адной галовах размясціліся тры скарпіёны, што трымалі на сваіх хвастах контуры Сібрусіі.

Дык вось з-за гэтай шырмы нязменна выглядала частка простага жалезнага ложка з нікеляванай дужкай, засланай звычайнай сіняй салдацкай коўдрай з трыма цёмнымі палосамі. Часам камера магла слізгануць і глыбей, за шырмачку, і тады народ,

да свайго задавальнення і захаплення, мог назіраць на сціплым сервіравальным століку са старадаўнім медным імбрычкам і простым эмаляваным кубкам рэшткі чорнага хлеба і абалонкі доктарскай кілбаскі, недаедзены бутэрброд з сайрай, а іншым разам лупіны цыбуліны, а то акуратна абгрызены селядцовы шкілецік ці надкушаны яблык. І ўсе гэтыя астаткі сняданку нязменна знаходзіліся на грубай фаянсавай талерцы з зацёртым сінім надпісам «Агульнахарч». Так, менавіта так, па-спартанску, на знос, не шкадуючы сілаў і здароўя, працуе днямі і начамі ўлюбёнец народны, стаадсоткава абраны Самадзяржаўны Дэмакрат. Можа, для кагосьці такія падрабязнасці і дробязь, а вось народанасельніцтву дзяржавы ў пераважнай большасці прыемна, што ў іх сёння сямейны сняданак быў смачнейшы і каларыйнейшы, чым у самога Гаранта.

Сучыянін праценяваў у кабінет, яшчэ поўны цнатлівай цішыні і спакою. Пераемнік сядзеў да яго спінай на сваім крэсле-вяртушцы і пераабуваўся ў кабінетныя туфлі. Канцылярыст нягучна чхнуў.

— Вечна ты, Ібрагім, як прывід, з'яўляешся і мяне заўсёды палохаеш. Хутка ў другі тэрмін гэтага няўдзячнага порыва ўвайду, а вось да тваёй кашастасці ніяк не прывыкну. Пакажы, што ў цябе за падэшвы на чаравіках?

— Калі ласка-с, самыя што ні на ёсць звычайныя і, прашу адзначыць, айчыннай вытворчасці, як вы таго патрабуеце, — сагнуўшы нагу ў каленцы і прыхапіўшы яе рукой, ён паскакаў да стала Уладара.

— Сапраўды звычайныя, ды яшчэ і з набоечкамі! А чаго ж яны ў цябе, братка, не цокаюць? Вось у мяне, чуеш, — ён прайшоўся па кабінеце, стукаючы абцасамі аб паркет — чуеш, як стукаюць?!

— А маім чаравікам у вашым кабінеце цокаць не дазволена, лычом не выйшлі, так што субардынацыю яны ведаюць.

— Умееш адказаць, умееш, за што і цаню, — царскім жэстам выказаў сваю добразычлівасць Пераемнік. — Ну, давай дакладвай, я то ўжо з чатырох гадзін раніцы як на нагах.

«Мне хоць не трэба загінаць, скажы яшчэ — спаў вунь там, за шырмачкай», — у думках з'едліва сказаў службовец і, напусціўшы на сябе важны і сур'ёзны выгляд, тэатральным голасам абвясціў:

— Дазвольце пачаць свой сціплы даклад з прыемнай весткі: увесь ваш народ кленчыць і дзякуе за тое, што сонца ўстала над вашай блаславёнай краінай!



— Глупства, братка, поўнае, але прыемна, прыемна! І як гэта ты ўмудраешся кожны раз адшукаць новыя падставы для падзякі: то за багатую расу, то за прылёт гракоў! Забаўнік, забаўнік. І што там у нас далей? Толькі, цур, аб эканоміцы і цяжкасцях ні слова, хай аб тым ва ўрада галава баліць.

— Аб эканоміцы толькі два словы…

— Не-не, я ж цябе прасіў!

— Паўтара, для міжнароднай справаздачы!

— Паўтара — валяй!

— У нас самая лепшая эканоміка ў свеце! Усё! — на адзіным дыханні выпаліў Ібрагім.

— Ай, малайчына, ай, малайчына! Дай я цябе расцалую! — засмяяўся Вялікі.

— Ваша Усяміласць, дазвольце лічыць ваш пацалунак дзяржаўнай узнагародай і занесці яго ў свой паслужны спіс!

— Вельмі слушная думка, вельмі слушная, а галоўнае, узнагарода гэтая для казны каштаваць нічога не будзе, трэба б усё добранька абдумаць, ты падрыхтуй-ка праект указца, добра? Што там далей?

— А далей у нас ідзе поўная інтрыга супраць вас!

— Хто, як, якім чынам асмеліўся? Здрада! Дзе, куды глядзяць апрычнікі? Усіх, усіх на дыбу! — задыхаючыся ад лютасці, загыркаў уладар.

— Выбачайце, што з раніцы і з непрыемнасцямі, вінаваты, вінаваты. Раскажу, і можаце пакараць смерцю як весніка кепскіх навін. Аднак маўчаць не магу. Інтрыгу ў чарговы раз заплёў ваш галоўны дарадца Джахарыйскі. Пляце ён супраць вас, ой пляце! Мне, вядома, не з рукі ўсякія тамака плёткі збіраць і вам іх падносіць, але ўжо вельмі многія аб гэтым кажуць, а галоўнае, ёсць такія рэчы, аб якіх прамаўчаць ну проста немагчыма. Вось што ён учора па п'янцы набалбатаў і пра вас, і пра Усевялікі Курултай, і пра гербавую партыю. Каб не быць галаслоўным, я вось усё гэта зафіксаваў на дыктафон. Вось дазвольце…

Дэмакратычнейшы з суграмадзянаў усунуў у вушы слухаўкі і з цікавасцю паглыбіўся ў праслухоўванне. Твар яго ўяўляў сабой жывы экран унутранага змагання і абурэння. Трэба адзначыць, што з запісам учорашняй гутаркі добранька папрацавалі адпаведныя адмыслоўцы, якія прыбралі няёмкія для Ібрагіма Іванавіча месцы, а асобныя фразы і зусім пераагучылі голасам Уладзісура, да прыкладу, развагі аб Пераемніках і татах Карлах, якія выштукоўваюць іх.

— Падла, падла! Маё цярпенне нарэшце лопнула, і я не пагляджу на падтрымку Сусветных, звольню, звольню! Ты перадай, хай нават і на парог да мяне не паказваецца. Усё, больш нічога слухаць не буду! На бальнічны, у горы, у санаторый!

— Ніяк нельга! — з металам у голасе вымавіў канцылярыст. — Да вас асабісты пасланец Усевялікіх з таемным пасланнем!

— Можа, заўтра, га? Ну знерваваўся я вельмі! Усё ўва мне дрыжыць і вібруе. Кальян мне, кальян! Не, пастой! Давай пасланца, ён хоць у рангу?

— У рангу, Вашая Уседзяржаўнасць! І са скарпіёнавай біркай, і мною, па вашым даручэнні, дараваны ўчора трохразовым дзяржпацалункам. Пратакол выкананы. Вось кароткі змест паслання…

— Вось ты даеш! Маладзец, аднак, маладзец! Але ты толькі пачытай услых, галуба, а то нешта вочы ломіць з самае раніцы.

— З найвялікшым задавальненнем! — Ібрагім Іванавіч выразна, як у старыя добрыя часы ў школе, пачаў чытаць інфармацыю аб Шамбале, мерах па яе росшуках і захаванні да прыбыцця саміх Сусветных дэмакратаў.

— Ты што-небудзь зразумеў? Я асабіста нічога. Што такое Чулым? На храна нам шукаць незразумела што? Справа занадта сур’ёзная, каб я мог узяцца за яе рашэнне, вельмі сур’ёзная. Мне трэба падумаць хоць бы да заўтра.

— Не, Вашая Яснавяльможная Дэмакратычнасць! Спачатку трэба прыняць пасланца, выслухаць, так сказаць, афіцыйны даклад, а ўжо там што-небудзь прыдумаем. А Чулым — гэта такая вялікая і доўгая рака ў Вашай дзяржаве, далёка на ўсходзе. Вы, вядома, прабачце мне, але я рызыкну даць вам маленькую параду…

— ?..

— А вы з гэтым супастатам і не гаварыце зусім, вазьміце пакет, раскрыйце, патрымайце паперы перад вачамі і скажыце, што ўсё, маўляў, будзе выканана, ідзі з мірам і гэта перадай Усевялікім. А ўжо ўсё астатняе мы ўладкуем.

На твары Уладара адбілася відавочнае задавальненне.

— Хітры, шэльма! Ну што ж, так сапраўды нядрэнна будзе. Добра, давай яго сюды, хвілін… праз дзесяць.

У канцылярыі чакаў сваёй чаргі Джахарыйскі. З зацёртай карычневай тэчкі здрадліва выглядалі праваднікі слухавак. Сучыянін гэта адразу ўсёк, адзначыў пра сябе: маўляў, «позна, голубе, справа ўжо зроблена» і, не ганараваўшы ўчарашняга сабутэльніка нават поглядам, ветліва запрасіў на аўдыенцыю заморскага госця. Правёў яго ў палацы. Вярнуўся і толькі пасля гэтага, не паднімаючы галавы, холадна вымавіў:



— Вам, спадар дараднік, адмоўлена ў аўдыенцыях да адмысловага распараджэння.

— Ібрагім, дружа…

— Давайце афіцыйна, я свіней з вамі не пасвіў! І, ведаеце, засуньце вашыя слухаўкі куды-небудзь глыбей. А то, я гляджу, занадта шмат ахвотнікаў развялося мяне на пенсіён спраўдзіць! Не атрымаецца! І парада вам бясплатная: не завіце старца Хіню і не заказвайце яму чарговую чарнушную кнігу пра злыя падкопы смутных сіл супраць стальца, які вы адзін і аберагаеце. Годзе, нааберагалі ўжо. Не буду вас больш затрымліваць.

Дараднік, увесь пунсовы ад гневу, выбег з кабінета і ледзь быў не сутыкнуўся з Кацярынай, якая абмяркоўвала свае ўчарашнія прыгоды з таварышкамі з іншых прыёмных. Неўзабаве з канцылярыі выйшаў і спецпасланец, увесь задаволены і з пазалочанай тэчкай пад пахай.

— Ну, усё, дзеўкі, — скаланула кучаравай галавой Каця, — пабягу я да сваёй швейнай машынкі «Зінгер» — строчыць нядрэнна, але ўжо занадта хутка ніткі заканчваюцца, так што ні кайфу, ні выгодаў адмысловых няма…

Ібрагім Іванавіч заспеў Гаранта, калі той старанна круціў ручку прамога тэлефона міністра абароны.

— Бязладдзе! Дзе міністр? — звярнуўся ён да старога канцылярыста.

— Дык ён ужо трэці месяц як на паляванне ў вас адпрасіўся…

— Ды што ж гэта за паляванне такое, і на каго, цікава, трэба так доўга паляваць? Не разумею я гэтых вайскоўцаў, ну хоць забі ты мяне, не разумею! Тры месяцы па лясах і палях, жах! І адкуль толькі здароўе бярэцца?

— Ну, гэта адмысловае інспектарскае паляванне, яно зацяжное і вельмі цяжкае… А навошта вам міністр гэты здаўся?

— Як жа навошта? Загад хачу аддаць: разбамбаваць гэты Чулымскі акуём, і справа з канцом. Хай туды які ядроны зарад фуганучь! — Гарант выйшаў з-за стала і з раздражненнем прайшоўся па кабінеце. — Слухай, а можа, і без бамбёжкі гэтай абысціся? Хай лепш ханьцам у палон гэтыя землі гадоў на сорак аддадуць. Толькі ты правер, ці правільны таемны пратакол яны тамака падпішуць, а то ад гэтых «паднябеснікаў» усякай

поскудзі чакаць можна. Скандал, вядома, грымне, ну нічога, не ўпершыню, прымiргаемся. Мы міністра з міністраў выганім і прызначым яго нашым галоўным ляснічым, хай па лясах матаецца, пакуль зусім не здзічэе.

— З міністрам гэта Вы, Вашая Вялікасць, геніяльна прыдумалі, — пачаў здалёку заплятаць Ібрагім Іванавіч, — хоць чалавек ён вам асабіста адданы і спіну заўсёды гатовы прыкрыць. Вы толькі ўспомніце, калі да нас сакрэтная праверка па раззбраенні наляцела адтуль, — Ібрагім тыцнуў старэчым пальцам у столь, — дык менавіта ён паспеў чатыры няўлічаныя боезарады са сховішча выкаціць і ў сябе ў сарціры схаваць, вось. Выходзіць, дзякуючы яму вы сёння самы ўзброены кіраўнік.

Нячысцік бюракрат ведаў, куды і як трэба паварочваць падобныя гутаркі, тым больш, што абаронны міністр даводзіўся блізкім сваяком прэм'еру, прэм'ер быў дзеверам генпракурора, а той, у сваю чаргу, з'яўляўся сватам самога Сучыяніна, унук жа Ібрагіма даводзіўся зяцем Пераемніку Трэцяму, дачка сястры жонкі якога была другой жонкай сына цяперашняга Кіраўніка. Ды і наогул у вышэйшых сферах даўно ўжо выпадковых людзей не існавала, калі хто каму не радня, дык прыяцель, зямляк, палюбоўнік, студэнцкі таварыш, дачны сусед або на благі канец малочны брат. Гэта павялося так даўно, што стала ўжо не проста звычкай, а існасцю кадравай палітыкі нашых вышэйшых эшалонаў. Змагацца з падобнымі перажыткамі бружнеўскай кланавасці (а менавіта ён, Бружнеў, калісьці першым прывёў ва ўладу каманду днепрапятроўскіх, і з тых часоў якіх толькі камандаў не пабывала ў Крамлі!) перыядычна, вядома, спрабавалі. Былі гэтымі барацьбітамі, як правіла, людзі пакрыўджаныя, абызданыя ўладай і чынамі, спрабаваць яны спрабавалі, ды што толку, выходзіла, толькі сабе і шкодзілі. А калі і атрымлівалася каго скалупнуць, дык выключна дзеля таго, каб на месца, яшчэ не астылае, сваю радню або знаёмца пасадзіць.

— Бачыш, ты зноў маеш рацыю, — кіўнуў Пераемнік, зноў усаджваючыся ў фатэль. — Не варта нам адстаўляць вернага ваяку. Гэтага адставіш, невядома яшчэ каго падсунуць. А што ж тады нам з гэтай Шамбалой рабіць, што рабіць-та, га? Адкрыць мы яе адкрыем, тут, чарнамазы казаў, — Найвысокі ткнуў пальцам у дэпешу, — і прыкладнае месца ўваходу названа, так што на гэта вялікай мудрасці не трэба, а вось як зберагчы ад развалаквання і рабавання, вось у чым закавыка! Народ, сам ведаеш, дзікі, каго ахоўваць ні пастаў, яны першымі ж перці і



пачнуць. І галоўнае, што тамака ў гэтай пячоры ўтоена, аднаму сусветнаму Архітэктару і вядома! Ты ж сам, часам, не ведаеш?

— Ды адкуль мне, Ваша Мудрэйшаства! Праўда, людзі рознае кажуць і пішуць на гэтую тэму: хто аб магільнях апошніх людзей данашанскай расы, якія нейкімі таемнымі ведамі валодаюць…

— Масонаў, ці што? — з відавочным расчараваннем вымавіў Правадыр, ізноў устаючы з дзяржаўнага фатэля і тупаючы па кабінеце.

— Ды не, браты муляры толькі шукаюць макулінкі таго, што некалі было ўсеагульным, — прыладкаваўшыся ля акна і без патрэбы цярэбячы аксамітную парцьеру, працягнуў Ібрагім, — другія сцвярджаюць, што тамака ўтоена сховішча старажытных кніг, вывучыўшы якія чалавек можа стаць несмяротным, хтосьці ўпэўнены, што гэта адзін з лазаў у іншы падземны свет, куды і згінула чудзь белавокая…

— Вось-вось, а падаткі яна, гэтая чудзь, плаціць за карыстанне нашымі зямнымі нетрамі? Гэта ўжо сур'ёзная справа, ты фіскалам заданне дай, хай усе нядоімкі спагоняць і каб з працэнтамі, з працэнтамі! А адмовяцца плаціць — газам іх, газам, балазе збегчы з пячор няма куды! Але ты мяне супакоіў, супакоіў, — вяртаючыся ў фатэль, ужо раўнадушна сказаў гаспадар кабінета, — хоць растлумач, а то я ніяк у толк не вазьму: з-за чаго, уласна, такі перапалох? Ну, адкрыецца нейкі старажытны могільнік, або паліцы з паедзенымі мышамі кнігамі, або хованка гэтых, як ты іх там назваў, чудзікаў падземных, карысць нам і Сусветным ад гэтага якая?

— Аб карысці мне не вядома, а вось даручэнне Вышэйшых сіл выконваць трэба. Я вось вас уважліва паслухаў, хоць стары тут я, а вось мудрасцю зіхціце вы! Сапраўды праўду кажуць: «Маўчы пры сонцы, за месяц сыдзеш!». А ці не дазволіце вы даручыць гэтую далікатную справу правесці па лініі брацкіх ложаў? Хай браты вольныя муляры хоць адзін раз паслужаць роднай айчыне на справе, а не братэрскай інтрыгай. Ды і Намеснік у вас тамака баявы, сам генерал Верабейчыкаў, стрэляны, так сказаць, верабей, прабачце за каламбур.

— Зноў ты маеш рацыю! А ведаеш, братка, прызначу-ка я цябе з гэтага дня яшчэ і галоўным сваім дарадцам, — і з гэтымі словамі ён узяў няўмелымі пальцамі вечнае пяро і вывеў на пустым бланку Усенародных Указаў свой мудрагелісты подпіс. — Ну вось, цяпер парадак, — любуючыся сваімі вензелямі і завіткамі, вымавіў Уладар і працягнуў счырванеламу ад задавальнення падначаленаму гербавую паперу, — трымай, тэксцік сам прысабачыш.

Здзейсніўшы гэтую дзяржаўнай важнасці справу, Усеагульная Вялікасць устаў і марудна падышоў да акна.

— Дык, кажаш, масонаў прыпахаць? Добрая ідэя, добрая, а то яны ўсё нас спрабуюць вучыць капусту варыць ды ля пасольстваў шакаляць, вось хай папацеюць. Тэрмінова рэскрыпт Намесніку… і, ведаеш, ідзі-тка ты, братка, стаміўся я моцна, стаміўся. Так, абавязкова яшчэ кагосьці пашлі туды дзеля мацнейшага суглядатайства, ды і не аднаго! Толькі каб не з апрычнікаў, зусім сабакі апаршывелі, зусім. Будзем чысціць, будзем чысціць. Хоць усё ж бомбай, мне здаецца, было б спадручней. Няма пячоры — і пытання няма. Можна падумаць, сямёрачнікі ўжо вельмі ахвотныя кніжкі чытаць ды чужых парадаў слухацца. Ну, ідзі, ідзі…

Не паспелі зачыніцца за ашчаслiўленым столаначальнікам дзверы, як Кіраўнік схапіўся за трубку прамой сувязі з грозным начальнікам псіных галоў.

## 19

Макута быў здзіўлены пачутым. Уваход у Шамбалу амаль прама пад ім! Як ужо тут не асалапець, атрымліваецца, хадоў гэтых можа быць колькі заўгодна!

— І каму гэтая светлая ідэя прыйшла ў галаву: нябожчыцу ў катакомбы запхнуць? — строга пытаў Сар-мэна атаман, сеўшы па-ўсходняму на белай кашме, якая пакрывала нізенькую шырокую канапу ў асабістых пакоях гаспадара дома. Усе астатнія ўдзельнікі гэтага хутчэй допыту, чым сяброўскай гутаркі, панура стаялі перад важаком. За іх спінамі, прыхінуўшыся да дзвярнога вушака, з абыякавым выглядам нудзіўся Мітрыч.

— Вунь яго нявесце, — кіўнуў галавой на Енаха Сар-мэн. — Яна пра гэтую Шамбалу гэтулькі ўсякай усячыны, аказваецца, ведае, у яе сяброўка ў нейкім таемным таварыстве «Праведнага Белаводдзя» лічыцца…

— І дзе гэтая нявеста цяпер? Хай усё мне сама і распавядзе, а то ад вас ніякага толку, бітую гадзіну нейкую ахінею несяце, ужо галава кругам ідзе. Заві сюды даму. А наогул, атаман, нічога я ў тваім бардэлі не разумею, хто з кім, што пачым? Гэтага, — Бей паказаў рукой на Понт-Калацiйскага, — у палон забралі, як і памерлую, як аказалася, тваю сарбонскую знаёмку, ніякай іншай нявесты пры спадары службоўцы не мелася. Так?.. Маўчыце? Добра. У тую ж ноч захапілі яшчэ дзвюх дзевак: дачку пані Званскай і ейную прыслужніцу, Дашку, здаецца. Дашка гэтая жаніхаецца з Юнькам, які, валацуга, усю гэтую кашу з падзямеллямі і заварыў, — важак спрытна ўскочыў і хапіў Юня за правае вуха. — Правільна я кажу, ёлуп цара нябеснага?



— Правільна, грамадзянін атаман-башы! Ой, балюча, дзядзечка! Балюча! Пусці, пусці! — хлапчук, вывернуўшы шыю, амаль вісеў на сваім вуху.

— Пусці, кажаш? Я табе шчас пушчу! Мітрыч! Камчу мне! — і, выпусціўшы вуха маладога разбойніка, пачаў лупцаваць яго пададзеным целаахоўнікам бізуном. — Вось я табе пушчу! Гэта табе за дзевак! Будзеш знаць, як іх па начах з хаты зводзіць! Гэта — за крадзеж чужых накідак! А гэта за цягу да разбойніцкага жыцця! — атаман кінуў на падлогу камчу і, пабацькоўску абняўшы Юньку, спытаў Енаха Мінавіча: — Дык дзе ж ваша нявеста? Баюся, што аб вашым сватаўстве да дзяўчыны Званскай матухна яе не ведае і бацькоўскага свайго дабраславення на гэта не давала.

Енах не знайшоў, што адказаць атаману. Прызнацца, з ім ніколі ў жыцці падобным чынам не размаўлялі, хіба што нябожчык-дзед, ды і то ў глыбокім блазенстве.

— Што маўчыш, паніч? Можа, і цябе камчаком пачаставаць ці дзеля большага построху загадаць павесіць на найблізкім кедрачы? Ты не зыркай на мяне так, не зыркай, не я ў цябе ў засценку на дыбе вішу, а ты ў мяне гасцюеш пакуль. Хоць, думаю, ты б да мяне ў засценак, мабыць, пагрэбаваў бы спусціцца, нябось, палічыў бы, што не па чыну. Дык дзе барынька Званская? Ты што, са страху аглух, ці што? Сар-мэн, — развёў рукамі Макута, выпускаючы прыціхлага Юньку і паднімаючы бізун, — давай тады ты адказвай, а гэтага адпраў у камору, хай паўспамінае разам з пацукамі правілы добрага тону.

— Атаман, ён мой госць, — насупіўся разбойнік, — адказваць яму няма чаго, усю гэтую кашу заварыў я, з мяне і адказ. А калі да пацукоў, то і я з ім пайду.

— Ды хоць у ж…пу ідзі! Бесталкоўшчына! Я ж ад цябе так путнага нічога і не дамогся. Адзінае, чаго даведаўся, што ты цела баранесы гэтай, прабач госпадзі, у нейкую студню ў сваім падзямеллі кінуў, а мне мазгі пудрыш, што ў Шамбалу яе спрavaдзіў дзеля лячэння ад смерці. Навошта подсціл у мяне Юньчын спёр? А галоўнае, куды маладую Званскую дзеў? Маці хутка за ёй прыбудзе.

— Ды яны ж яе, акаянныя, у бездань і ўвялі! — расхінуўшы дзверы, з рыданнямі ўвалілася ў пакой Даша, якая падслухоўвала з іншага боку.

— Што? Жывую ў прорву?! Мітрыч! Вяроўкі, дошку і людзей, мігам! — выхопліваючы пісталет, загадаў Макута. — Стаяць, голубы, ціха, хто тузанецца — заб'ю, як байбака! Юнька, хуценька ўзяў кайданы і скаваў гэтым катам ногі. Не марудзь, а то і цябе павешу.

— Бей, Бей, не трэба спяшацца! Нікога мы жыцця не пазбаўлялі, так трэба было, чуеш! — замёршы па стойцы «Зважай!», гарлаў Сар-мэн, які добра ведаў, што варухні ён хоць мезенцам, атаман застрэліць тут жа.

Мітрыч, чуючы далікатнасць пытання, заклікаў на дапамогу толькі чацвярых сваіх людзей, ды і тыя ў дом не ўвайшлі, а сталі вакол ля вокнаў. Стрыножаных і звязаных змоўшчыкаў пасадзілі на лаўку каля сцяны, Макута прысеў ля акна і пустымі вачыма глядзеў на вуліцу. Распагодзілася. Сонца расквечвала свет, у якім, здавалася, не было гора і смерці. На небе ні аблачыны, гулі і папісквалі божыя стварэнні, лунялі над абуджаным разнатраўем. Унізе, каля пасёлка, дзятва задумала гульню ў лапту. «І хто іх толькі навучыў гэтай старой і азартнай забаве? — сумна думаў атаман, не жадаючы паварочвацца і вяртаць сябе да невясёлых абавязкаў суддзі і ката. Што ён скажа пані, якая свята верыць у яго справядлівасць, як паглядзіць ёй у вочы? Як забіць сына лепшага сябра, свайго хросніка, а можа, у недалёкім будучым і Пераемніка?»

— Дзядзька Макута! — перапыніла яго невясёлыя думкі Дар'я. — У ямку тую пані сама пагадзілася боўтнуцца…

— Ну-ка, дзеўка, распавядзі хоць ты мне ўсё па парадку, — неахвотна прамовіў Бей, паставіўшы пісталет на засцерагальнік і саўгануўшы яго сабе за пояс. — Толькі па парадку: як нябожчыцу забралі, куды панеслі, што далей было, добра?

Заўважыўшы, што дзяўчына ўпотай косіцца то на свайго наканаванага, то на звязаных палонных, Макута ледзь прыкметна матнуў у іх бок галавой. Мітрыч пстрыкнуў пальцамі, у апачывальню ценямі слізганулі два малойцы і, раскрыўшы шырокія дзверы прасторнай святліцы, дзе на ломберным століку ляжалі яшчэ не ўскрытыя карты гора-палюбоўнікаў, закінулі туды абодвух, нібы мяшкі з бульбачкай. Калі дзверы зачыніліся, шум і лаянка заціхлі, атаман паклікаў абодвух, хлопца і дзяўчыну, і загадаў гаварыць.

— Усё здарылася нечакана, — засланяючы сабой нявесту, пачаў кавалер. Ён з гонарам прыгладзіў валасы, абцягнуў куртатую кашулю, падперазаную ці то поясам, ці то скручанай у жгут жаночай хусткай, і машынальна пацёр левай рукой нос. — Маладая спадарыня ляжалі і спалі, учапіўшыся за руку Енаха Мінавіча, Дашка сядзела побач і плакала па забітай. Яна заўжды плача, калі хто дзе непадалёк памрэ. І тут забягае атаман і кліча Мінавіча. Ну яны сышлі вось у гэты пакой, а мы засталіся тамака, — ён паказаў на дзверы, за якія толькі што вышпурнулі галоўных герояў яго апавядання, — аб чым яны гаварылі, я не чуў. Толькі неўзабаве яны вярнуліся…



— Машка прачнулася і піць папрасіла, — дапоўніла асмялелая дзяўчына, вызірнуўшы з-за спіны маладога чалавека, яе твар быў нейкім дзіўным чынам яшчэ не крануты ні мангольскай раскосасцю, ні кітайскай жаўцізной. Вялікія шэрыя вочы глядзелі наіўна і даверліва.

— Так, Марыя Захараўна прачнуліся і гаварылі з намі, — запіхваючы нарачоную ад граху далей, пагадзіўся Юнь, — а калі спадары вярнуліся, барынька кінуліся на шыю Енаху Мінавічу і іх пацалавалі.

— А калі ж гэта яны замілавацца паспелі? — пацікавіўся атаман.

— А калі на гару раніцай бегалі ды з яе падстрэленую Эрмітадору прынеслі, — зноў абазвалася дзяўчына і раптам, нібы спахапіўшыся, адскочыла назад за спіну сябрука і ўжо адтуль, праўда, не так бойка дадала: — А Юнькі тады яшчэ і не было, ён да старой пані з лістом ездзіў.

Юнька піхнуў яе локцем і раздражнёна цыкнуў.

— Па даручэнню атамана я ў сяло матаўся, наконт выкупу і на выведку. Войска ў старую крэпасць прыгналі, вароты зачынілі, гарматы ладзіць пачалі, а старога Прохара вырабілі ў каменданты крэпасці і загадалі вас адшукаць ды закандаліць.

— Ну, і хай сабе кандаляць, ты толькі гэта, хлопец, ад галоўнага не ўюльвай. Дык што далей было?

— А далей яны ўтрох ужо нейкую незразумелую гутарку завялі, і словы нейкія нянашанскія, мы ні фігушкі так і не разабралі. І тамака яшчэ больш барынька наша казала, а мужыкі маўчалі ды пытанні задавалі.

— Праўда, дзядзечка! — як аўтарытэтная сведка, пацвердзіла дзяўчына. — Я хоць і не ведаю новай мовы, але вучыла крышку, дык змагла разабраць толькі, што яны казалі пра сінь-камень і пра нейкіх чарадзеяў, якія, нібыта, у гэтай гары жывуць…

— Словам, — перабіў нявесту хлопец, — пайшлі мы ўтрох да журботнай хаты, дзе бабка Пуркіна народ да замагільнага жыцця рыхтуе, атаман зайшоў, забраў голай нябожчыцу, прыкрыў яе маім трафеем, і яны з Мінавічам пабеглі да хаты,

а я дзверы ў хаце падпёр і за імі. Потым мы адкрылі патайны лаз — ён тамака, у дроўніку — і, зацепліўшы паходні, пачалі пад зямлю спускацца. У пячоры страшна было. Неўзадаўжкі давалакліся да падземнага каземата, вялікага такога — ні сцен, ні столі не відаць. Пасярод, а можа, дзе і ў іншым месцы такая вялікая блакітная камянюка ляжыць, як пад вадаспадам, куды мы са старцам ды ягонымі дзеўкамі на ладдзі паляцелі. Енах разаслаў на камень ну тую анучу-марлю, камень, здалося, нават засвяціўся. Узяў анучу моцна за канцы і загадаў мне на яе камень цяжкі кінуць. Я ўсё выканаў, і камень пайшоў у камень, а матэрыю ён выцягнуў назад. Паслалі яны яшчэ раз тую анучу, ды за адзін край удваіх трымаюць, а мне з дзеўкамі загадалі на яе нябожчыцу прымайстраваць…

— Цяжанька гэта было зрабіць. Ніяк яна, небарака, не змяшчалася на тым лапіку, — уставіла сваё сведчанне Даша. — Вось усё ж пасадзілі, а цуду няма. Тады наша барынька і кажа, гэта яе, маўляў, грахі не пускаюць, трэба каб нявіннай яна была.

— Не вінаватай у чым? — перабіў яе Макута.

Даша залілася чырванню і апусціла галаву, не ведаючы, што і адказаць даросламу мужчыну.

— Так, каб яна мужыка не спрабавала, — прыйшоў ёй на выручку Юнь, задаволены тым, што самому Макуце нешта растлумачыў. — Знялі мы забітую, паклалі ў старонцы, а Енах Мінавіч хоп Дашу і на лапік гэты, я яе за руку ледзь паспеў хапіць, а яна таксама не правальваецца. Тады Маша ўстала на калені, абаперлася на той камень, тут рукі ейныя туды і загразлі. Яна спужалася і адскочыла. «Бачыце, мяне яны пускаюць, — кажа, — я цяпер, маўляў, вазьму Эрмітадору, абніму, вы яе да мяне рамянямі прывяжыце, і я скокну. А тамака будзь што будзе. Веру, — кажа, — яны добрыя і нам дапамогуць». Так усё і зрабілі. Зараз яны абедзве тамака, — шумна выдыхнуў Юнька.

— А што ж ейны жаніх? — павольна ўстаючы і пагладжваючы вусы, спытаў атаман. — Няўжо так спакойна і кінуў сваю зазнобу ў пашчу чорт ведама чаго? Добры гусак… Ці гэта яго Сар-мэн прыстрашыў?

— Ды што вы, дзядзечка атаман! — пляснула рукамі зусім асмялелая Дашка. — Яны на тым камені і самі ўсе скакалі, і Юньку прымушалі — і ўсё ні ў якую. А потым Енах Мінавіч і Машка доўга цалаваліся і кляліся адно аднаму ў каханні, і што заўсёды будуць чакаць адно аднаго. Так хораша было, што я нават заплакала. Вось цяпер усё.



— А ануча тая дзе? — як бы няўзнак спытаў атаман, працягваючы гладзіць вусы.

— Дык яна ж у тым камені і затрымалася. Як паненка з нябожчыцай згінулі ў сінь-камені, ён пацямнеў, і ануча тамака замуравалася. Мы колькі не цягнулі, колькі не спрабавалі рэзаць, нават сякерай секлі. Усё нізашто!

За акном ужо памаленьку пачаў збірацца вечар. Горы пацямнелі, кедрачы нахмурыліся, лёгкай смугой па нізінах забялеў юны празрысты туман. Сонца яшчэ працягвала чапляцца сваімі прамянямі за высокія вяршыні гор, ружова іскрыцца на далёкіх снягах і глетчарах, у цёмна-блакітным бясхмарным небе запаліліся першыя зоркі, далёкае вогнішча паярчэла, нязырка засвяціліся падслепаватыя на заходзе вокны ў крайніх хатах пасёлка, а кароткі змрок ужо набраў сілу, вось яшчэ крышку, і пакліча ён на зямлю сваю валадарку — ноч.

Людзі, якія стаміліся адзін ад аднаго, спяшаліся хутчэй шмыгнуць у сваю адзіноту, каб хоць некалькі нядоўгіх гадзін пабыць сам-насам з сабой і адчуць сябе чалавекам.

## 20

Верабейчыкаў быў як заўсёды нястомным. Застаяўшыся ў бюракратычным марнаванні часу, ён, што называецца, рыў зямлю носам. За няпоўныя чатыры дні, якія прайшлі з вядомага сходу вольных муляраў, адміністрацыйная акруга была пераўтвораная ў ваенную, а народанасельніцтва, уключаючы валацугаў, уйсураў, нелегалізаваных ханьцаў і ўсіх іншых, было бязлітасна пастаўлена пад стрэльбу. У кожнай заняпалай вёсачцы ў спешным парадку засноўваліся вайсковыя камендатуры, палявыя трыбуналы і адкрытыя пункты поркі для вінаватых. У асобных мясцінах, з прычыны відавочнага недахопу мужыкоў, пад стрэльбу былі пастаўленыя бабы і незамужнія дзеўкі. Аднак неўзабаве ад гэтакай задумы давялося адмовіцца, бо вайсковыя казармы і баракападобныя доўгія зялёнага колеру намёты ператвараліся начамі ў форменныя Садомы і Гаморы, дзе нават з ліхтаром немагчыма было адшукаць бездапаможнага падабенства Лота. Бачачы гэтакі здзек са святых асноў вайсковай казармы, Намеснік выліўся гучным і падрабязным загадам, які абвяшчаў: «Гэта форменнае свінства, якое распладзілася ў апошні час у падпарадкаваных мне войсках, не толькі вядзе

да нявыспанасці асабовага саставу, але і адмоўнейшым чынам адбіваецца на маральным духу байцоў, якія на працягу ўсяго дня знаходзяцца ў непрыязных адносінах са сваімі калегамі на глебе ўзаемнай рэўнасці і перманентнай цягі да разнастайнай распусты. У даручаным мне войску атрымалі распаўсюджанне рукапрыкладства, мардабойства, а таксама нябачаныя дагэтуль у вайсковым калектыве інцыдэнты, як: цяганне за кудлы, плюсканне кіпнепадобнай вадкасцю (гарбатай) на грудзі каляжанкі, царапанне мяккіх тканак твару і іншых месцаў. А таму…» — і далей ішоў найпадрабязны пералік мераў па нявядзенню паўсюдна ўзорнага парадку. Жаночая частка войска была тэрмінова распушчана па дамах, іх месца занялі мужыкі з больш густанаселеных удзелаў і дарожныя рабочыя. Праўда, у кожнай мясцовасці з ліку сацыяльна актыўных дзевак і баб, не абцяжараных сувяззю шлюбу, былі сфарміраваныя адмысловыя жаночыя батальёны, у абавязкі якіх уваходзілі карныя і заахвочвальныя функцыі. Пасля таго вайсковае жыццё ўвайшло ў сваё звыклае паўсядзённае рэчышча.

Ханьцы і кіпчакі, бачачы такую неабыякую мілітарызацыю памежнай з імі акругі, не на жарт збаяліся і ад граху далей адкаціліся кіламетраў на пятнаццаць углыб сваёй тэрыторыі, тым самым вызваліўшы не толькі нашыя крэўныя землі, якія яны ўмудрыліся ціхай сапай адсекчы, але і сваёй зямлі не менш як пяць, а то і больш кіламетраў пакінулі, нібыта ў парадку кампенсавання. Верабейчыкаў, бачачы такі каленкор, умомант перанёс памежныя слупы і замацаваў новую мяжу шырокай п'янкай ды вечнай дамовай з кіруючым складам сумежнага боку. Зямліцы, дарэчы, набралася прыстойна! Гэта калі аддаеш яе, не відаць, а вось калі забіраеш, прыбытак адразу адчувальны. Да таго ж і дэмаграфія ад усяго гэтага толькі палепшылася.

Не дачакаўшыся вызвалення свайго намесніка з бандыцкага палону, Генерал-Намеснік сам падаўся ў Чулым у парадку інспектавання каравульна-паставой службы і, спыніўшы машыны з суправаджалымі яго асобамі недалёка ад адміністрацыйнага цэнтра, сам вырашыў прайсціся па невялікай прыгараднай вёсачцы.

Усяму свету вядома адвечнае ўбоства нашай вёскі. Шэрыя, крытыя лапленым-пералапленым шыферам замшэлыя дахі выбеглых з дзікага мінулага падслепаватых хацінак, такія ж шэрыя ад старасці і безвыходнасці скрыўленыя загарадзі, гарбаценькія



хлеўчукі. Здаецца, нічога тут не змянілася з часоў Іаана Грознага, толькі яшчэ мацней разбурылася і запусцела. Ранішні туман павольна выпаўзаў са спадзістай поймы металёвай ракі на прасёлкавую дарогу, якая крыху далей ператваралася ў вясковую вуліцу. Сонца яшчэ не ўзышло, а толькі пазначыла ўсход, свет быў насычаны журботнай прахалодай, і таму нясцерпна тужлівай здавалася самотная постаць Генерал-Намесніка на гэтым дзікім і патрыярхальным шляху.

Верабейчыкаў напаўголаса чартыхаўся, ён ужо ў трэці раз уляпаўся ў каровіную ляпёху. У горных селішчах скаціна жыве сваім вельмі незалежным жыццём, асабліва маладняк, які і на ноч у стойла прыходзіць рэдка. Таму, заўважыўшы наперадзе размытыя туманам контуры вялікіх, бурых, як яму здалося, камянёў, інспектар адзначыў кемнасць мясцовага вайсковага начальніка, які ўзвёў непераадольныя перашкоды для руху механізаваных частак саперніка. І якое ж было ягонае здзіўленне, спалох, а галоўнае расчараванне, калі адзін з гэтых камянёў з гучным уздыхам падняўся і зрушыўся яму насустрач.

Урза Піліпавіч ліхаманкава пашукаў у кішэнях сурдута акуляры, якія не насіў пастаянна з-за вайсковага форсу. З акулярамі ён з палёгкай уздыхнуў: на яго, павольна разгойдваючыся, ішла мірная буронка.

— Вось напалохала, скаціна рагатая! — вымавіў генерал, і, ледзь адступіўшы, зноў уляпаўся ў аладку. Правая нага, абмазаная смуродным зялёным жэле, здрадліва заслізгала па мокрай ад расы траве, і апора свабодалюбнай манархіі, недарэчна ўзмахнуўшы рукамі, паваліўся прама на свежае каровінае лайно. І трэба ж такому здарыцца — менавіта ў гэтую хвіліну з туману пачуўся грозны вокрык:

— Стой, хто ідзе?! Гавары пароль, не то стрэльну!

— Няправільна, няправільна! — паднімаючыся і агідліва выціраючы хусцінкай уквэцаную адзежу, адазваўся генерал. — Першая каманда пададзеная правільна, а ўсё астатняе адсябяціна! Няведанне статута…

— Ты шчас у мяне Госпаду свой статут глаголіць будзеш! — у тумане злосна ляснуў затвор.

— Страляй, страляй, Сямёныч, вельмі спраўныя ў яго боты і адзежа, — падбадзёрваў хтосьці збоку.

— Не смець, я сам Верабейчыкаў…

— Ды мне ўсё адно, што верабей, што курапатка, што які кракадзіл, рукі ўгору ўздымай ды ідзі да мяне.

Невядома, чым бы завяршылася гэтая канфузія, каб не пада-спела да месца сутычкі генеральская ахова.

«Усё ж хоць і карава, але служба на подступах да Чулыма пастаўленая нядрэнна», — адзначыўу пра сябе стары ваяка, памыўшыся ледзяной калодзежнай вадой і выціраючыся чыстым вышываным ручніком.

— А скажы ты мне, служывы, хто ў вас воінскі начальнік? — вяртаючы ручнік, пацікавіўся глаўкам.

— Дык вядома ж, іх сокароддзе оберкаптынармус Званскі, камендант мясцовай крэпасці! За ім ужо мной і пасланец падрыхтаваны.

— Добра, малайчына! А зваць як?

— Каго-сь, каменданта? Дык Прохам… Звіняйця, Прохарам Піліпавічам…

— Ды не, цябе, ваяр, як завуць? — аглядаючы здаравеннага дзяціну, спытаў Намеснік, падставіўшы выцягнутыя назад рукі новаму, прынесенаму з абозу мундзіру з залатымі генеральскімі пагонамі.

— Мяне-та Апанасам Вановічам Джэксенка завуць…

— Радавы Джэксан! — зашпіліўшыся на ўсе залатыя гузікі, голасна ўзвысціў генерал. — За стараннасць і праяўленую пільнасць прысвойваю табе чарговае воінскае званне пад'яфрэйтар. Служы, сынок, глядзіш, як і я, да генерала даслужышся.

— Служу сусветнаму дабру!..

Вялікая службовая нарада была прызначана ў салдацкім клубе Чулымскай крэпасці, на якую, акрамя мясцовага начальства, з прычыны важнасці і асобай сакрэтнасці пытання, былі таксама запрошаны вакольныя абшарнікі, духавенства, паэты і адзіны мясцовы кампазітар для ўвекавечвання, так сказаць, манументальнасці моманту.

Вядома, называць клубам доўгую прысадзістую хату было б занадта адважна, але чаго-чаго, а адвагі нашаму войску ў тыле, ды яшчэ і ў мірны час, не займаць. Праўда аб клубе заключалася ў тым, што хата гэтая была шматфункцыянальнай і выкарыстоўвалася кожны раз па розным прызначэнні: то для перабыўкі маладняку ў адмыслова лютыя зімы, то як казарма, то аддавалася пад інтэрнат маладым спецыялістам, то пад прытулак для турыстаў, якія збіралі дзікаросы, у асноўным анашу, то дзейнічала як клуб, а адзін час нават была лазарэтам і сталовай уадначас. Стараннем мясцовых і прышлых начальнікаў да абеду яе прывялі ў належны культурнай установе выгляд. Над уваходам вывесілі сцягі і партрэт Яснавяльможнага Дэмакрата. Мясцовыя жартаўнікі і зласловы пырскалі ў кулак: маўляў, вельмі ўжо на партрэце цяперашні Пераемнік падобны аж на пазамінулага, але ўсё гэта не з-за крамолы якой або шкоднасці, а выключна з прычыны мясцовай нуды і беднаты свецкага жыцця.



Крэпасць жа невымоўна змянілася: усё было выфарбавана, выбелена, вымецена, абноўлена і адрамантавана. Паўсюль былі відаць гаспадарскае вока і бацькоўскі клопат. Генерал-Намеснік інспекцыйным абыходам фартыфікацыі застаўся вельмі задаволены. Адмысловае захапленне ў яго выклікаў стан прыгоннай артылерыі. Дзе Прохар за такі кароткі тэрмін назбіраў гэтакую плойму музейнага халусця, аднаму Богу вядома! Галоўнае, што ўся гэтая гістарычная адсталасць справна паліла, ззяла латунню і свежай фарбай ды магла яшчэ паслужыць айчыне і дэмакратыі. За гэтакую стараннасць каменданту, на радасць Глафіры, было прысвоена пазачарговае званне «падпрапаршчык» і абяцаная высокая дзяржаўная ўзнагарода.

Нарада пачалася з усеагульнага выканання дзяржаўнага гімна «Слухай, краіна! Мілата над табою заззяла!». Не схаваю, у многіх пасля спеву ў горле ўстаў камяк, а некаторыя і зусім употай змахнулі з павільгатнелых вачэй патрыятычную слязу.

— Другі мая! Людзі багатай Чулыміі! Салдаты! — тэатральна распасціраючы перад сабой рукі, натхнёна пачаў Урза Піліпавіч. — Толькі жалезная вайсковая дысцыпліна і строгае захаванне загадаў старэйшых начальнікаў можа быць асновай суверэннай дэмакратыі і забяспечыць росквіт нашай вялікай Айчыны. У нас для гэтага ёсць усё: і нафта, і наш сапраўды ўсенародны газ, і багатыя лясы ды, слава Архітэктару, паўнаводныя рэкі і яшчэ шматлікае мноства разнастайных выкапняў і сыравіны. Але галоўнае нашае багацце, — ён высока падняў над сабой руку, а потым рэзка апусціў, ткнуўшы ўказальным пальцам у залу, — гэта вы, народ! Невынішчальны ваш ганарлівы дух і адданасць бацьку і дабрадзею нашаму — Пераемніку Шостаму! Ура, браты!

Зала ў адзіным парыве сарвалася са сваіх месцаў, у паветра паляцелі шапкі, фуражкі, картузы, панамы, будзёнаўкі, станікі і пілоткі, а голаснае «Ура!!!» прымусіла здрыгануцца старажытныя сцены цытадэлі. З саламяных дахаў, выфарбаваных у зялёны колер, у неба спалохана ўзнялася ўся птушыная жыўнасць, здавалася, што і гэтыя бязмоўныя стварэнні аднадушна пляскалі сваімі крыламі і на ўсе лады славілі Усясціплага і Уселюбімага бацьку сібрусаў.

Дачакаўшыся, пакуль народ адсапецца, агоўтаецца і пасядзе па месцах, Верабейчыкаў, адсярбнуўшы з запаветнай бутэлькі, працягнуў:

— Вось жыве чалавек і не ведае свайго праўдзівага прызначэння. Ён так і памерці можа, не пазнаўшы гэтага, але прыходзіць у родны край час выпрабаванняў, час галечы і ваеннай нягоды, і расквітае яго душа, і да гераічнасці спяшаюцца яго думкі, і ўсвядомлена ён робіць той адзіны крок, які захавае яго імя ў народнай памяці на стагоддзі. Галоўнае, што падобныя людзі ёсць і сярод вас! — зала ад нечаканасці заціхла, публіка закруціла галовамі, шукаючы сваіх герояў. Застаўшыся задаволены зробленым на слухачоў эфектам і зноў сербануўшы з запаветнай, генерал працягнуў: — Вы вось адразу пачалі вачамі шукаць героя! Гэтакага асілка, майстра, як тамака яго, білдзі-болдзінга, разумееш, заакіянскі малюначак, а сапраўдны герой — ён непрыкметны, а часцяком і мізэрны. Хочаце, я вам яго пакажу?

— Хочам! Хочам! — з новай сілай узарвалася зала, зноў падкінуўшы ў неба паспакайнелых было галубоў і варон.

— Ну, дык глядзіце! — царовы вочы нечакана спрытна саскочылі са сцэны і спыніліся перад Прохарам, які сядзеў у першым шэрагу, — вось ён, ваш герой! Надзея айчыны і апора Самадзержнага Дэмакрата! Я павінен узнагародзіць цябе аднакратным дзяржпацалункам, брат ты наш ласкавы!

Весялосці народу не было мяжы, нават пані Званская і тая замілавана паплакала, не зважаючы на сваю шчырую пагарду да сталічнага выскачкі. У парушэнне рэгламенту ў зале ўтварылася стыхійнае чытанне патрыятычных вершаў і спеў гімнаў. Кампазітар, не маючы пры сабе музычнай прылады, прыняўся напяваць, насвістваць і прытанцоўваць толькі што складзеную араторыю. Немаведама адкуль грымнулі псалмы, а айцы, што сядзелі ў зале, раскачагарылі кадзілы і заспявалі велічальныя малітвы, пусціўшы па зале сагнутых служак з падносамі і паўвядзёрнымі кубкамі для ахвяраванняў.

Убачыўшы падобнае нахабства, Ірван Сідаравіч ледзь быў не папярхнуўся гарэлкай, якую цішком адсёрбваў з запаветнай генеральскай бутэлькі. «Вось нахабнікі, яшчэ кесаравы і крыхі малой не цапнулі, а яны ўжо вёдрамі грабуць», — як чалавек дасведчаны ў паборах, Ірван ведаў, што народ наш шчодры на міласць толькі ў першы раз, а ўжо ў другі і трэці абнос можа і ў кубак плюнуць, і зборшчыку між вачэй засвяціць.



Ледзьве суняўшы ўсенародны запал, гатовы ўжо перайсці ў масавыя беспарадкі, Генерал-Намеснік вярнуў нараду ў працоўнае рэчышча.

— Перш чым мы пяройдзем да галоўнага пытання: таемнага адшукання і зберажэння сусветнай культурнай спадчыны, званай Шамбалой, мне б хацелася падзяліцца з вамі невялікімі асабістымі назіраннямі, запазычанымі на блізкіх подступах да вашага хвалебнага граду. Спадзяюся, вы не супраць?

Хваля ўхвалы прабегла па зале, народ, пераўзбуджаны ад нядаўняй весялосці, прыгатаваўся крыху перадрамаць.

— Дык вось сёння рана раніцай я ўляпаўся, прабачце за шчырасць афіцэрскай мовы, у гаўно! — дрымоту ў зале як языком злізала. — Так, ды ў самае свежае каровіна гаўно, і прытым не аднойчы, — на задніх шэрагах хтосьці хіхікнуў. — Смяецеся, і правільна робіце. Добра, што ўляпаўся я, баявы генерал, які пабачыў на сваім вяку ўсякае. А вось уявіце, што на маім месцы мог бы апынуцца малады чалавек, які спяшаецца на спатканне, або, яшчэ горш, рамантычная паненка, і што тады, я вас пытаю? Маўчыце? Адказваю сам: трагедыя! Паламанае жыццё! Невылечная псіхалагічная траўма, комплексы непаўнавартаснасці, і ўсё з-за нейкай разняшчаснай аладкі! А хто вінаваты? — як калісьці запытвалі наіўныя прадвеснікі вальнадумства. Можа, неразумная жывёліна, да якой у поўнай меры адносіцца ўсё рагатае быдла? Што «так»? Хто сказаў «так»? — рыкнуў у залу Намеснік. — Не кожны раз варта сцвярджальна адказваць начальніку, нават такога высокага рангу, як я. Дык вось, я вам афіцыйна заяўляю, што праўдзівым вінаватым багацця мін жывёльнага паходжання на нашых дарогах і вуліцах з'яўляецца ў першую чаргу не буйная рагатая жывёла, а коснасць нашага мыслення, безалабершчына, лянота ды іншае разгільдзяйства!

Паглядзіце, грамадзяне, як уладкаваныя нашыя селішчы! Ні парадку, ні плану, ні аднастайнасці пабудоў і фасадаў. На гэтай убогай разнамаснасці і погляду культурнага чалавека спыніцца няма дзе. Дык вось, пасля сённяшняга ранішняга інцыдэнту вырашыў я Усевелічайшаму Пераемніку адправіць шыфраграму з прапановай тэрмінова выдаць указ аб кардынальнай перабудове нашых вясковых селішчаў, малых гарадоў і мястэчкаў. Ідэальнае сельскагаспадарчае паселішча павінна выглядаць наступным чынам: на пярэднім плане праходзіць парадная вуліца, якая мае свой назоў і цвёрдае пакрыццё, пажадана асфальт. Па ёй забаронены рух коннага транспарту, прагон быдла і выпас птушкі. На гэтую магістраль выходзіць аднастайны штакетнік палісадаў,

засаджаных сезоннымі кветкамі і дэкаратыўным хмызняком, за палісадамі топяцца ў садах весела афарбаваныя тыпавыя хаты, за імі агароды, пасля жывёльныя двары і іншыя пабудовы, а завяршае ўсё гэта што? Адказваю сам: тылавая дарога, па якой вольна перасоўваюцца каровы, коні, бараны, птушка ды іншае быдла, а таксама вывозіцца на палі гной…

— І свінні, — па-падлізніцку ўставіў хтосьці з першых шэрагаў.

— Правільна, і свінні! І як вам мой праект? Адказваць не трэба, бачу, што крануў за жывое!

Апошнія словы дакладчыка патанулі ў бурных апладысментах, якія перайшлі ў аглушальныя авацыі.

Верабейчыкаў стаяў, як вялікі вайскаводзец, адставіўшы наперад левую нагу, заклаўшы далонь правай рукі за абшлаг мундзіра, атрымліваючы асалоду ад сваёй славы і захапляючыся глыбінёй дадзенага яму Усявышнім розуму. Гэта быў сапраўдны трыумф. А потым пасыпаліся шматлікія ўдакладняючыя пытанні — аб дызайне і колеры агароджаў, аб расадзе, і іншае, іншае, іншае. З'явілася вялікая грыфельная дошка, якую салдаты прывалаклі са школы, каляровыя крэйды, маленькія сцяжкі на прысосках. Новы тып паселішча з параднай і тылавой дарогамі быў паказаны насельніцтву ва ўсёй сваёй красе.

— Галоўнае, каб гэтая бесталкоўшчына не стала ажыццяўляцца ў нашым удзеле! — недаравальна гучна заявіла Паліна Захараўна Глафіры, якая сядзела побач з ёй. — Хадзем-ка мы адседа, Глаша, а то галава зусім спухне і ўначы не заснём зусім, ды і аб палонніцы сэрцайка маё ные. — Яна дэманстратыўна ўстала і падалася прэч, а за ёй, нібы гуска за гусаком, перавальваючыся з нагі на нагу, засемяніла верная таварышка.

Намеснік у гэты час крэсліў чырвонымі і сінімі стрэламі шляхі вывазу каравяку і падвозу свежых кармоў па тылавой дарозе. Учуўшы шум у зале, ён абурана азірнуўся.

— А вы гэта куды, без дакладу? І не выслухаўшы Усевысачайшага паслання аб Шамбале? — пастукаў ён указкай па грыфельнай дошцы.

— Дзе ўжо нам, бацечка, укеміць твае надта разумныя прамовы? Баба, яна як курыца пры шалапутным пеўні, якога ты секчы загадаў за лішнія яйкі. Не крыўдуй, пойдзем мы, скаціна нядоена, клопатаў безліч, ды і за тылавую дарогу пара ўжо даўно збегаць, а то з раніцы з гарбатай у бруху, церпячы, сядзім, — матнула рукой Званская.



— А… Шамбала? — не ведаючы, як угаварыць неваеннаабавязаную, разгублена выгукнуў Верабейчыкаў.

— А што Шамбала? Яна, калі ёй час прыйдзе, сама выявіцца, так старыя гавораць! — ужо ў дзвярах адказала пані.

## 21

Маскву ўзрушыла вестка аб адстаўцы Джахарыйскага. Усе прыціхлі, стаіліся ў чаканні чагосьці непазбежна-страшнага. Усім, пагалоўна ўсім, а не толькі жыхарам неба, здавалася — услед за гучным звальненнем асабіста на іх галавы абавязкова ўпадзе непапраўнае, і доля гэтая не абміне ні аднаго жыхара вялікага горада, уціснутага ў старажытную радыяльна-кольцавую клетку. Чаму адбываюцца падобныя перапалохі, навукцы пакуль не вядома. Аднак падзенне ўсякай буйнай постаці з айчыннага палітычнага Алімпа непазбежна кідае спачатку сталіцу, а потым і ўсю краіну ў нейкі містычны жах. Агульнадзяржаўны ступар паралізуе астаткі еўразійскага гмаху, нібы будучы канец свету, страхам перад якім ужо дзве тысячы гадоў з поспехам гандлююць хвалебныя ды іншаслаўныя папы.

Менавіта аб гэтым парадоксе і разважаў вядомы палітолаг, паліттэхнолаг, тэлепрарок і таемны вядзьмак Крамля Паўлін Таётавіч Глябоўскі. Таўстаморды, падобны на састарэлага кныра, з акуратным патройным падбародачкам, заўсёды лоевымі валасамі, пустымі, як косткі даміно, вачыма, ён штотыдзень голасам, падобным на арганчык, вяшчаў краіне несуцяшальныя прагнозы і сыпаў гнеўныя праклёны ў адрас шматлікіх ворагаў суверэннай свабоды і Яснавяльможнага Дэмакрата. Але нават яго, заўзятага цыніка, шчыра дзівіў гэты агульнанародны псіхоз.

— Для мяне ды іншых насельнікаў бяздоння дзяржулады зразумелыя прычыны цяперашняй дурной боязі. Нам ёсць ад чаго трапятаць, — мармытаў сабе пад нос дэміург. — Я — іншая справа! Без мяне ўсё ў Крамлі стане і закасцянее, я — паравы кацёл дзяржаўнага лакаматыва! Хоць паравы кацёл — гэта неяк банальна, не пафасна, нешта накшталт хуткаваркі. Дрэннае параўнанне, глядзі, дзе-небудзь яго не лясні на людзях. Не, я не кацёл, а нешта іншае, але ўсё роўна асабіста мне ёсць што губляць і ад чаго трапятаць. Зразумела, чаму дрыжаць міністры, іх апараты і дамачадцы. Не трэба доўга тлумачыць, чаму дрыжаць начальнікі ведамстваў і дэпартаментаў з іх эканамічнымі камандамі, але чаму баяцца тыя, хто і баяцца не павінен зусім? Хто гэта можа растлумачыць, хто адкажа на гэтае простае

пытанне? Вось свежая статыстыка. — Глябоўскі расклаў на стале паперы з дыяграмамі. — Цудныя справы твае, хто б ты ні быў там, на нябёсах! Але і нават ты мне выразна не зможаш адказаць, чаму адстаўкай Джахарыйскага так заклапочаныя хатнія гаспадыні, працаўнікі жэкаў, міліцыянеры, настаўнікі, а галоўнае, пенсіянеры — сорак адсоткаў! Ва ўсіх газетах, радыёпрымачах, тэлевізарах, ранішніх электрычках і цягніках метрапалітэна — усюды шу-шу-шу: «А вы ведаеце …знялі?», «а вы чулі?..», «сёння перадалі…», «ды што вы кажаце, які жах!». І галоўнае: «Ах, што цяпер будзе?.. што будзе?!»

Ды якая вам сабачая справа, вы тут пры чым? Я, вядома, магу вам адказаць, што будзе з пенсіянеркай цёткай Шурай пасля нечаканай адстаўкі майго ўсёмагутнага шэфа! А, уласна, нічога не будзе, нічога! Як жыла яна ў сваёй малагабарытнай каморцы, так і будзе жыць роўна гэтульки, колькі адпусціць ёй Бог на тэрмін дажыцця! Як атрымлівала пенсію, налічаную па прынятым толькі ў нас у краіне прынцыпе: «Ад кожнага — па магчымасцях, кожнаму — што дадуць», так і будзе атрымліваць. Як хадзіла галасаваць, так і будзе хадзіць галасаваць, вось толькі абраць яна, балезная, нікога не зможа. Таму што народ галасуе, а выбіраюць іншыя і ў іншым месцы. У гэтым і заключаецца вялікая ісціна суверэннай дэмакратыі. Аднак народ нічога гэтага не ведае і нават не здагадваецца, слава вялікаму Архітэктару! Так што падстаў у яго для падобных турботаў ніякіх няма. Ну чаму ж тады ён вібруе?

— А ён баіцца, што ў яго і сённяшнюю драбніцу адбяруць, ды яшчэ вайну развяжуць, пенсію зрэжуць, праязныя адбяруць. Надзею на дарэмшчыну народную вы ўрэжаце, — пачуў Паўлін спакойны голас нядаўна знятага шэфа і здрыгануўся.

Правая рука як бы няўзнак слізганула ў нішу паміж вечкам стала і тумбай са скрынямі, учапілася ў вялікую, зашклёную фатаграфію; левая — нацягнуўшы рукаў пінжака на ўнутраны бок далоні, прынялася выціраць нябачныя на шкле плямы. Дзеля мацнейшай пераканаласці Таётавіч пару разоў на яго хукнуў, яшчэ пацёр і, як бы любуючыся, паставіў фота на звыклае месца, злева ад сябе. Задаволены ўлоўкай, падняў галаву, каб усміхнуцца шэфу і аслупянеў — у кабінеце нікога не было.

Паўлін Таётавіч, як чалавек, які публічна вызнае містыку і метафізіку, яшчэ з дысідэнцкіх часоў сваёй юнацкасці цвёрда ведаў, што свет матэрыяльны, духаў, манадаў ды іншых казачных персанажаў у аб'ектыўнай рэальнасці не існуе, таму пасапраўднаму спалохаўся. На ўсякі выпадак ён выйшаў з-за стала,



зазірнуў у прыёмную, спатыкнуўся вачыма аб свайго вернага і гатовага ўсё выканаць у любы момант сакратара Ваньку Ван Блюма, вярнуўся назад, піхнуў для ўпэўненасці дзверы пакоя адпачынку — пуста.

«Гэта глюкі! — у думках вынес ён несуцяшальны дыягназ. — Дапрацаваўся, маць тваю! І ў твае-та няпоўныя пяцьдзясят! Слыхавыя галюцынацыі — гэта нават для цябе ўжо занадта!» — Паўлін Таётавіч панічна баяўся хвароб, асабліва разумовых, і на тое былі свае, так сказаць, спадчынныя прычыны. Ён сеў зноў за стол, з раздражненнем узяў фатаграфію, на якой быў увекавечаны ў абдымку з адляцелым у нікуды шэфам, і саўгануў яе назад у нішу.

Аднак нематэрыяльныя дзівацтвы прынялі матэрыяльны характар: масіўная залатая аўтаручка, упрыгожаная барэльефам са снежнага барса з рубінавымі вачыма, паднялася над сталом і, крануўшы белую паперчыну, пачала акуратным школьным почыркам былога начальніка выводзіць словы:

«Паўлін! Ты мудак! Такога нават я ад цябе не чакаў! Мы ўсе ў гэтым доме падлы, але каб вось так, адразу! Гэта занадта! Фатаграфію не муч, лепш выкінь, яна не казённы партрэт і здачы не падлягае! А я цябе з сэрца свайго выкіну, гадзёныша!» — нават па паперы адчувалася: Джахарыйскі не на жарт распальваўся.

Паліткамбінатар сядзеў белы, як тварог. Пальцы яго міжвольна ўчапіліся ў падлакотнікі фатэля і, здавалася, прыкіпелі да скуранай абіўкі, астаткі свядомасці гатовыя былі ў любы момант пакінуць апусцелую галаву.

«Ды што ж ты так бздзіш? — працягвала паскрыпваць вечнае пяро. — Вадзіцы папі. Не дрэйфі, не звар'яцееш, пакуль я гэтага не захачу. І яшчэ, для твайго ведама, я — не містыка, не дух нейкі паганы, я — воля! Звычайная воля моцнага чалавека. Воля, Паўлінчык, нічога, што я цябе, як даўней, заву? Воля, яна, недалёкі ты мой, субстанцыя матэрыяльная і цалкам аб'ектыўная, палохацца яе не варта. А цяпер слухай! Дакладней, уважліва чытай і запамінай. Указ, у якім прапісаны нябыт мой, вораг мой на саракавым годзе нашага лютага сяброўства ўсё ж праштурхнуў! Дакументы ў мяне адабралі, машыны пазбавілі, з дачы паперлі, перад Сусветнымі зганьбілі, а тут яшчэ і ты… ды добра! Словам, у поўнай я і, як гаворыцца, у самай што ні на ёсць глыбокай… Але і адтуль ёсць выхад. Дык вось, уся надзея на цябе, сябрук. Пераемнік табой зачараваны, і не без маёй дапамогі, дарэчы. Жонка Усевялікага гаворыць, што без тваіх тэлебаек ён і заснуць ужо не можа, піша іх сабе на плэер

і перад сном разы па два слухае. У гэтым і ёсць нашае з табой выратаванне. Я цябе не палохаю, але бачыцца мне, што ты наступны на вылет. А як інакш? Бо ты мой кадр».

Пяро бегала па паперы, як звар'яцелае. Ад спеху почырк станавіўся неахайным і дрэнна чытэльным. Паўлін з цяжкасцю паспяваў прабягаць вачыма і пераварваць прачытанае. Але зразумець, куды хіліць былы начальнік, ніяк не мог.

«Дык вось, я ведаю, дзе схаванае яйка з неўміручасцю Сучыяніна, і ты мне дапаможаш яго дастаць, дапаможаш, зоймеш яго месца, а я так і застануся па-дзядоўску пастухом мядзведзяў ды ўдзельных бярложнікаў, мне гэта бліжэй і радней. Бачу, што згодзен. Пагаварыць са мной можна заўсёды, толькі не ў кабінеце, нашыя кабінеты… сам ведаеш! Ну і сустракацца таксама рызыкаваць не варта, як ні маскіруйся, усё адно вынюхаюць. Лепш перапісвацца. Вазьмі іншую ручку і напішы: «Згодзен». Ну, давай жа, не бойся, і ў цябе ёсць, хоць і паршывая, але воля!»

Паўлін Таётавіч, нібы ў гарачцы, з цяжкасцю адляпіў ад падлакотніка руку, вызваліў з кішэні сваю любімую (матулін падарунак яшчэ ў пятым класе) чарнільную аўтаручку з далатопнай гумавай піпеткай для набору чарнілаў «Вясёлка» і дрыготкім почыркам вывеў на тым жа лісце: «Згодзе». Чужая нябачная рука тут жа ўпісала прапушчаную літару і дадала: «…вось так-та лепш, а фота вярні на месца, паскуднік!»

Кабінетная рэальнасць вярталася павольна. Першае, што зрабіў Глябоўскі, адчуўшы магчымасць каардынаваць свае рухі, — дастаў бяздольнае фота і аднёс яго ў кніжную шафу ў пакой адпачынку, а на стол паставіў фатаграфію Пераемніка з асабістай Уседзяржаўнай размалёўкай. «Так яно будзе правільней. Воля не можа быць матэрыяльнай! — спалоханай птушкай білася ў пустой галаве самотная думка. — А лекару трэба здацца абавязкова».

Агоўтаўшыся, Паўлін вырашыў перачытаць начальніцкае трызненне. Акуратна закруціў каўпачок мамчынага падарунка і пасунуў да сябе дурную пісаніну. Ніякіх запісаў на цнатліва чыстых лістах паперы не было. Толькі амаль у самым нізе красаваліся яго крамзолі «Згодзе», і ўсё. Паўлін, працягнуўшы руку з драпежна растапыранымі, напаўсагнутымі пальцамі, схапіў гэты бездапаможны лапік некалі жывога, прыгожага дрэва і саўгануў яго ў прагную шчыліну паперарэзкі. Чорная пластмасіна вантробна завуркатала, з зайздросным апетытам



перамолваючы паперу дробнымі шчупаковымі зубкамі ў бясформенную пацяруху. Астаткі ліста вывернуліся ў апошнім смяротным выгібе, Паўлін апошні раз убачыў свае закавыкі і зноў здрыгануўся: над імі танчыла-красавалася выведзеная рукой начальніка літара, прапушчаная ім ад хвалявання — «н». Ён працягнуў руку, каб выхапіць гэтае нямое сведчанне невядомай яму рэальнасці з нячулай пашчы, але ўжо было позна, ненаедныя жалезныя нажы закруціліся хутчэй у чаканні новай ахвяры.

З паўкаматознага стану яго вывеў Ванька, які зазірнуў у кабінет.

— Паўлін Таётавіч, да вас Ван-Салавейчык і ўсекурултаец Хіньша Стук-пастук, — з цікаўнасцю разглядаючы шэфа, вымавіў фарбаваны пад вядомага ў старыя часы цырульніка Зверава зманлівы малады чалавек з пажадлівымі сіліконавымі вуснамі. — Ім было прызначана, — вінаватым голасам дадаў ён і, шчыльней прычыніўшы дзверы, устрывожана спытаў: — Дарагі, з табой усё ў парадку? — Аднак, натыркнуўшыся на халодны і абыякавы погляд палітведзьмака, капрызна падціснуўшы вусны, расхінуў дзверы і помсліва вымавіў: — Праходзьце, спадары, вас чакаюць!

«Ну, сучка! Цяпер да вечара будзе мачаліць мне нервы. Заўтра ж памяняю яго на звычайную дзеўку, надакучыў», — злаваўся пра сябе Глябоўскі, міжволі ўздымаючыся насустрач сваім піяраўскім калегам.

Візіцёры былі як на падбор укормленыя, выпешчаныя, мардатыя, з аднолькавымі выпуклымі вачыма і даволі немаладыя. Апранутыя госці былі ў аднолькавыя, казённага крою гарнітуры заморскай вытворчасці, запясці правай рукі сціскалі залатыя з дыяментамі хранометры, у гальштуках пунсавелі буйныя лалы-рубіны, як вечны знак таемнага брацтва, на нагах чорным перламутрам мігцелі туфлі тонкай ручной работы. У апошні час толькі па замежным гардэробе і можна было адрозніць народных выбраннікаў ад асноўнай масы дзяржслужачых, якіх у сталіцы, не без стараннаяў усё таго ж незабыўнага Дзіянісія Козела, было адсоткаў семдзесят ад усяго насельніцтва.

«Паны, ні даць ні ўзяць, паны», — халодна паціскаючы візіцёрам рукі, адзначыў Паўлін. Абцягнуўшы крысы свайго не ў прыклад сціплага шэрага пінжака са скуранымі карычневымі ўстаўкамі на локцях, ён жэстам запрасіў гасцей прысаджвацца за доўгі стол нарадаў.

Падышоўшы да свайго стала, ён націснуў кнопку селектара і, укладваючы ў голас як мага больш цеплыні і нават крыху прабачэння, папрасіў сакратара:

— Ванечка, будзьце настолькі ветлівыя, наколькі вы жорсткія: распарадзіцеся, хай дзяўчаты зробяць для нас гарбату!

— Я сам, я сам! — узрадавана адазваўся дынамік.

Госці шматзначна пераглянуліся: маўляў, дыму без агню не бывае, і да Крамля дакаціліся блакітныя хвалі! Аднак усім сваім выглядам прадэманстраваўшы поўную талерантнасць, — маўляў, нам якая справа? У кожнага начальніка свае замарочкі з сакратаркамі і памагатымі, — яны найграна безуважна заслізгалі жвавымі вачыма па ўладным кабінеце.

Паўлін Таётавіч узяў свой вялікі працоўны сшытак і па звычцы пацягнуўся за каштоўнай ручкай, але тая зноў ажыла і вывела на перакідным календары: «Свалата!». Гэтым разам спалоху не было, Глябоўскі нават не здрыгануўся, ён моцна зажмурыўся, а потым хутка раскрыў вочы, так ён часта рабіў у дзяцінстве, калі чагосьці палохаўся. Надпіс задрыжаў і павольна, нібы неахвотна, растаў. На лістку календара яго рукой было напісана: «Нараджэн. мін. Шустрыка». Трэба будзе не забыцца павіншаваць жвавага міністра, а заадно даведацца, дзе грошы за апошнюю партыю перададзеных Аб'еўры каштоўнасцей. Узяўшы звычайную казённую самапіску, ён вярнуўся за стол нарадаў.

Людзей ён гэтых ведаў як аблупленых і сам асабіста калісьці прывёў кожнага з іх да ўсёмагутнага тады Джахарыйскага. Хіньша Мойша Стук-пастук Зус — найвядомы ў краіне праўдапісец, калісьці яшчэ ў маладосці падчэплены на гаплік псінымі галовамі, спраўна ляпіў таўшчэзныя кніжкі з абвінавачаннямі слупоў найсвятлейшай дэмакратыі, а часам і дзяржаўных сяброў Пераемнікаў, што пайшлі на супакой. Народ ахкаў і славіў Хіньшу, а саноўнікі ціха вастрылі на яго зубы і рылі на пісаку компру. Мабыць, толькі Паўлін дакладна ведаў праўдзівы кошт расследаванням Хіньшы, апетыты якога раслі год ад году, нават купля за казённы рахунак дарагушчага цяпер дэпутацкага крэсла ва Усевялікім Курултаі не зменшыла прагнасці, а толькі разахвоціла амбіцыі пажылога пісакі. Ужо двойчы Паўліну дакладвалі, што ў дошку абарзелы Хіньша на падпітку пагражаў у хуткім часе ціскануць трохтомнік з гадасцямі на самога Г…

Не адставаў па брыдотах ад пісакі і вялікі шоумен, усенародны тэлекумір Ван-Салавейчык, аўтар, вядучы і нязменны прадзюсар ток-шоу «Двубой каля сметніцы», які адрозніваўся рэдкай нават для цяперашніх часоў беспрынцыповасцю, халуйствам ды імгненнай зменай асабістых палітычных ды іншых перакананняў у залежнасці ад зменнай кан'юнктуры.



«У адным мае рацыю шэф, — прыдзірліва разглядаючы сваіх падручных, падумаў Паўлін, — з якім гаўном даводзіцца нам працаваць!» — а ўслых вымавіў: — Так, калегі! Джахарыйскага адхілілі ў сувязі з пераходам на іншую працу, але дух яго… — і тут Паўлін Таётавіч запнуўся, крышку памаўчаў і паправіўся: — Воля яго, вядома ж, воля яго жывая і патрабуе працягваць раней пачатую працу па ўдасканаленню кіраўнічых структураў нашай блаславёнай Радзімы. Калі мы гэтага не зробім, не зробіць ніхто, а прапушчаны час звароту не падлягае! — працягваючы гаварыць, ён у думках уразіўся, як падобная яго прамова на істэрычныя загаворы былога начальніка. Амаль тыя ж словы, тая ж манера. Цікава, а зайшлы гэта заўважаюць?

— А вось і гарбатка, гарбатка, гарбатушка! — піхаючы не па-мужчынску круглявым азадкам дзверы, у кабінет уціснуўся сакратар з вялікім срэбным падносам у руках.

— Дзякуй, Іван, мы тут самі справімся…

— Ну, што вы, што вы, Паўлін Таётавіч, ні ў якім разе. Я ўсё-ўсё сам. Мне, папраўдзе, гэта не цяжка, ды і потым калі яшчэ прадставіцца такая магчымасць — абслужыць адразу трох такіх годных мужчын. Я ж памятаю, хто якой гарбаце з нашых гасцей аддае перавагу. Вось Ван Саламон-аглы ібн Салавейчык любіць зялёную з чаборам, правільна? — і паставіў перад тэлефакірам кубак, — а народны ўлюбёнец Стук-пастук Хіньша мае прыхільнасць да чорнай з экзатычнымі дадаткамі, а вы ў гэты час сутак п'яце зялёную з лімоннікам, — сумна гледзячы на шэфа, вымавіў Іван і, забраўшы паднос, накіраваўся да дзвярэй, уздыхаючы і віхляючы задам.

— Таётыч, ты чаго хвост распушыў? — адсёрбваючы з кубка, не паднімаючы галавы, спытаў Хіньша. — Перавыбарная кампанія амаль у завяршэнні, дэбаты, як бы нас ворагі ні палохалі, адбыліся, і прытым якія! Нябачныя, бескантактавыя, Пераемнік нідзе не паказваўся, ні з кім не сустракаўся, і таму мы іх, як заўсёды, выйгралі. Ды ты і сам ведаеш, які ад іх рэзананс і ў нас і за межамі! Рэйтынг нашага Перавыбранца вырас адразу на дванаццаць пунктаў. А ты нясеш уладзісураўскае глупства. Сытыя мы ўжо ім па самае не магу. Ты хоць заўважаеш: дня не мінула, як ён вылецеў, а ты яго словамі, яго інтанацыямі гаворыць пачаў? Няма яго, расслабся! Ці, — сівавалосы Хіньша злёгку збянтэжыўся, — цябе ўжо на яго месца прызначылі? Калі так, выбачай за вольнасці, я ж ад чыстага сэрца, па старым сяброўстве… — і ўжо зусім па-падхалімску, ліслівa перапытаў: — Усё-ткі прызначылі, так?

— Ніхто мяне нікуды не прызначаў, прынамсі, радыё пра гэта пакуль нічога не аб'яўляла, а толькі яно ў нас у краіне ўсё ведае. Ды і прызначаць — не прызначаць, вялікай ролі цяпер не іграе. Ты маеш рацыю, пераўзыходжанне Яснавяльможнага трэба забяспечыць блiскучае, каб ні ў каго і сумневу не паўстала ў нашых магчымасцях. Вынікі рабілі, робім, будзем рабіць мы і толькі мы. Але галоўнае, сыход суверэннага прайдзісвета трэба суправадзіць адпаведнай піяршуміхай. Вы мяне разумееце? Газеты, радыё, тэлебачанне, плёткі, анекдоты, прыпеўкі і галоўнае — усё гэта для замежжа. Нашым жа разумнікам і народу чаго-небудзь прасцейшага. Трэба, як заўсёды, хутка зграмэздаць добрую, «праўдзівую» кніжку старонак на паўтысячы. Чытаць яе ніхто, вядома ж, не будзе, ну і хай. Галоўнае, што кніга ёсць, а кнігам у нас заўсёды вера была вялікая. Добра, ці мне цябе вучыць, словам, усё як заўсёды — аб'ектыўнае гістарычнае расследаванне аб гідкім жыцці гвалтаўніка малалетніх, казнакрада, ворага народа і Яснавяльможнага Дэмакрата, гэта значыць, пра ўсю якую ні на ёсць праўду. Хай увесь свет ведае, якая гадзюка доўгія, недаравальна доўгія гады грэлася на грудзях даверлівай улады, і не проста грэлася, а піла сокі нашай дзяржавы, забівала яе, словам, усё так, як ты ўмееш. Ганарар падвойны. Фактуру апрычнікі ўжо падбіраюць і да вечара сёе-тое перададуць. А вось табе, Салавейчык, трэба каля тваіх памыйных бар'ераў…

— Паўлін Таётавіч, а можна, я таксама кніжачку цiскану, у мяне ж атрымліваецца, помніце? — перабіў яго стары шоумен.

У гэты момант кабінет нечакана напоўніўся дзяржаўнай музыкай. Прысутныя, нібы па камандзе, ускочылі і замерлі па стойцы «Зважай!». Гадоў дваццаць таму ў адпаведныя крамлёўскія кабінеты былі ўсталяваныя адмысловыя апараты прамога выкліку да Пераемніка. Дзе яны гнездаваліся і як імі карыстацца, ніхто не ведаў. Проста вось, як цяпер, уключалася дзяржаўная музыка, якая прадвяшчала нейкае вышэйшае паведамленне.

— Імем Найвысокага Пераемніка Шостага вам загадваюць неадкладна з'явіцца ў яго, Яснавяльможнага Дэмакрата, канцылярыю для аўдыенцыі з Ім, — абвясціла нешта пасля музыкі голасам самога Сучыяніна.

Глебаўскі вобцасам кінуўся з кабінета, крыкнуўшы праз плячо:

— Мяне не чакайце! За працу! Час абраў нас!



## 22

У апошнія гады Усевялікі Усенародны Курултай народаў Сібрусіі збіраўся рэдка і неахвотна, так што вялікая частка памяшканняў на Даходным радзе пуставала або здавалася ў арэнду нейкім цёмным асобам і структурам. Як правіла, кабінеты выбранцаў выкарыстоўвалі па сваім прызначэнні дзяўчаты лёгкіх паводзінаў, якіх па рашэнні Курултая даўно мянуюць жрыцамі дэмакратыі. Многія аналітыкі мяркуюць, што дзевак у гэты аграмаднейшы дом з мармуровымі ўсходамі цягне выключна ад духоўнага сваяцтва з гаспадарамі. Пераважная частка задумцаў народных стала пражывала ў сваіх закардонных маёнтках, і выцягнуць іх на мілую Радзіму было вельмі складана, ды і накладна. Ужо даўно вядома, што народны выбранец задарма не толькі нікуды не зрушыцца, але і рукі для галасавання ніколі ў жыцці не падніме. У іх на ўсё ёсць свая такса, такая, відаць, спецыфіка мясцовага народаўладдзя. Аднак дом народных уцехаў ніколі не аціхаў і не спыняў сваёй дзейнасці, і не толькі з-за прастытутак, для якіх ужо гадоў трыццаць як рэстаўравалі велізарны гатэль насупраць. Давалі жару і курултайцы са сваімі памагатымі, кумаўём ды іншымі кагортамі падтрымкі. Пакінутыя ў Даходнарадскіх палацах выбранцы вялі страшныя бітвы адзін з адным, купіліся, збіваліся ў фракцыі, групы, апазіцыі, пісалі заклікі і даносы, плялі мудрагелістыя інтрыгі, і ўсё гэта адбывалася на высакародных падставах змагання за народнае шчасце і дастатак. У фальваркі не выязджалі лепшыя з лепшых, правераныя з правераных, якія ўжо даўно перадавалі высокае званне народнага выбранца па спадчыне, ніхто ім у гэтым не перашкаджаў, усе іх баяліся ці папросту не хацелі звязвацца з людзьмі абцяжаранай спадчыннасці. Узначальваў Курултай моцны, доўгі стары з амаль мядзведжым прозвішчам — Бураломаў. Быў ён лісліві з усімі Пераемнікамі, якіх нямала змянілася на яго дэпутацкім жыцці.

— Не аб хлебе, не аб відовішчах паганых трэба думаць, не блажыць аб неіснуючых душах чалавечых і аб дабрабыце народным, яго ў нас ніколі не было і не будзе! Галоўнае — вада! Звычайная прыродная вада, якой усё менш і менш у нас у закрамах застаецца. Яе трэба берагчы і памнажаць.

— А як прымножыць тое, што выпілі ўжо? — пачулася з залы нечае наіўнае пытанне.

— Выключна шляхам зберажэння і абмежавання спажывання яе простым і подлым людам, яму ўсё роўна, а нам пра сябе трэ-

ба думаць. Чыстая прыродная вада — гэта галоўны сродак для дасягнення неўміручасці. Улічыце, гэтая інфармацыя выключна толькі для нашай дзяржаўнай фракцыі! — строгім голасам, які не церпіць пярэчанняў, вымавіў галоўны курултаец.

— Футбол Небяльмесавіч, я, вядома, перапрашаю за скупасць, так сказаць, свайго розуму. Вы ўжо не крыўдуйце, калі што не так спытаю. З глухой я правінцыі, дзе і святла электрычнага ніколі ніхто ў вочы не бачыў, — паважна кланяючыся, пачаў стаўленік вуглездабыўцоў, які ўмудрыўся перасаджаць сваіх гаспадароў і стаць паўнапраўным гаспадаром капальняў.

— Ды ўжо не прыкідвайся, не прыкідвайся парыжскай сіратой! Ведаю я цябе яшчэ з апрычных часоў, усё сіроткай прытвараешся. Ты пытанне задавай.

— А запытанне маё да вас, ды падоўжыцца вашае спікерства, глыбокапаважаны Старшыня, такое. Калі вада прыродная гаючая і непазбежна вядзе да неўміручасці, то чаго тады нашыя старажытныя продкі памерлі, яны ж ёю, чыстаганнай, толькі і паіліся?

— Сапраўды дурное пытанне абсалютнага невука! — грэбліва вымавіў вялікі вадалюб і, ужо звяртаючыся да ўсіх, абвясціў: — Адкрыццё аб удзеле вады ў неўміручасці было зроблена зусім нядаўна, а пітэкантрапы нашага калегі аб тым нічога і не ведалі, таму і дохлі на дваццатым годзе жыцця. Толькі веданне пытання можа даць патрэбны вынік, у тым ліку і неўміручасць, вось такта! Грошай нагроб, а розуму так і не нажыў.

— А дазвольце і мне задаць вам пытаннейка? — узвіўся даўні нядобразычлівец, засланы калісьці ва Усенародны Курултай лютым ворагам і канкурэнтам Бураломава, усёмагутным галавой Рады старэйшын — Серапімам Геолагавічам Мірамісцінскім. — Ужо ці не з сакрэтаў Шамбалы гэтыя вашыя веды? Гэта раз. Не ці наробіць іх абнародаванне дзяржаўнай шкоды? Два. І галоўнае: калі ўсё гэта так, дык ці не стануць асобныя ворагі Яснавяльможнага яго несмяротнымі ворагамі? Растлумачце нам гэта, калі ласка.

Зала прыціхла ў перадпачатку блізкага скандалу. Ахова жвава пачала выганяць староннiх, у асноўным пераапранутых у путанаў папарацы, і разгортваць брандспойты для астуджвання міжфракцыйнай баталіі, гатовай вось-вось успыхнуць.

— Сам дурань, — паспрабаваў ухіліцца ад адказу спікер, — і пытанні вашыя нікчэмныя, недаспелыя! Не дараслі вы яшчэ да звання паўнакроўнай фракцыі. Будзеш блазнаваць, пазбаўлю слова на ўсю пяцігодку!



— За дурня адкажаш! — здавалася, толькі таго і чакаючы, узвіўся зласлівец. Лядашчы чалавек ускочыў на дэпутацкі стол і, топчучы апараты для галасавання, павярнуўшыся да сутаварышаў, залямантаваў: — Справядлівасць растапталі! Ату бярложнікаў. Годзе, нацярпеліся! Дакуль яны будуць гандляваць нашымі месцамі ў Курултаі? Дакуль ім усе прынадныя кавалкі будуць абломвацца? Мы не менш іхняга дэмакратызуем і не тое яшчэ ўмеем! Ату іх, хлопцы!

Брандспойты ўцягнулі ў залу пасяджэнняў, але вады ў трубах не аказалася, відаць, яе як экалагічна прыдатную ўжо хтосьці паспеў адпампаваць і камусьці прадаць як прыродна чыстую. І грымнула пабоішча, якога яшчэ не бачылі гэтыя сцены. Ва ўсе куткі свету ляцелі тэлеграмы-«маланкі» з чырвонымі палосамі, якія тэрмінова склікалі падмацаванне. Бітва пагражала зацягнуцца мінімум на паўгода.

## 23

Машка прачнулася ад холаду. Вочы расплюшчваць было боязна. Дзесьці непадалёк шумела вада, а яшчэ далей, мусіць, пасвіліся коні: знаёмае з дзяцінства храбусценне вырванай травы і нягучнае палязгванне путаў нельга было зблытаць ні з чым.

«Коні? Якія коні, адкуль?» — вочы расплюшчыліся самі па сабе, і дзяўчына села. Вакол хмарылася туманам раніца. Побач, нягучна падскокваючы на невялікіх каменьчыках, спяшаўся кудысьці шырокі раўчук. За ім сапраўды пасвіліся коні. Вада шумела дзесьці ззаду; прыпадняўшыся на локці, Машка азірнулася і ўбачыла незвычайнай прыгажосці вадаспад. Ён быў асабліва прыгожы ў першых, яшчэ далёкіх промнях нованароджанага сонца. Шырокая сцяна вады, блакітнаватая ад неба, смарагдавая ад навакольнай зеляніны і залаціста-далікатная ад ранішняга світанку, з белавата-цёмнымі пералівамі — стромка падала з велізарнай вышыні. Унізе, у мільярдах расхрыстаных пырскаў, успыхвалі і згасалі першыя нясмелыя вясёлкі.

— Енах! А дзе Эрмітадора?! — ускочыла на ногі, вакол нікога не было. — Эрмі! Эрмі! — прыціснуўшы далоні да твару, закрычала яна.

«Рмі-рмі-рмі-рмі!» — падхапіла рэха. Коні перасталі скубсці траву і насцярожана павярнулі галовы ў яе бок.

— Што ты гарлапаніш, як прыдуркаватая? Цішыню спалохаеш, — вынырваючы з вадаспаду, адазвалася Гопс.

— Эрмі! — Машка, не разбіраючы дарогі, кінулася насустрач уваскрэслай сяброўцы.

Эрмітадора, голая і прыгожая, як антычная наяда, павольна цягнулася па плыткаводдзі, атрасаючы ваду з коратка стрыжанай рудой галовы. Не дабегшы да сяброўкі метраў дзесяць, Маша спынілася. Прама над вадаспадам ва ўсёй сваёй красе ззяла святая Бялуха. Здавалася, гара радасна ўсміхалася цуду неспадзявана здабытага жыцця. Невядомая сіла апусціла дзяўчыну на калені, і вусны самі сабой зашапталі незнаёмыя ёй раней, але такія родныя і цёплыя словы старажытнай малітвы.

Эрмі, здзіўлена зірнуўшы на Машу, адвярнулася і бязгучна заплакала.

З таго берага, дзе пасвіліся коні, да іх беглі нейкія людзі і гучна крычалі, радасна размахваючы рукамі. Наперадзе ўсіх, чамусьці з велізарным кажухом у руках, высока паднімаючы ногі, ляцеў Сар-мэн. За ім, таксама з нейкімі коўдрамі, нібы пародзісты бык, нёсся Енах, а ледзь зводдаль — Дашка з Юнькам. Ззаду ўсіх, не спяшаючыся, абапіраючыся на свой любімы кій, якім служыла лёгкая каравая галіна з дрэва невядомай пароды, ішоў Макута-Бей са світай. Убачыўшы Бялуху, ён асцярожна апусціўся на калені, яго прыклад паўтарылі іншыя разбойнікі, якія ішлі следам. Святыня ў Азіі блізкая для кожнага адкрытага Богу сэрца, так ужо тут уладкаваны свет.

Сустрэча была бурлівай, са смехам, гучнай весялосцю, слязамі і ціхім сумам. Пасля агульнай радасці і спехам сабранага дастархана ўсе разбрыліся хто куды. Енах з Машкай пайшлі прагуляцца. Сар-мэн, які ўвесь гэты час не спускаў Эрмітадору, як дзіця, з рук, нарэшце, прыткнуўшыся ля нагрэтых сонцам камянёў, не расціскаючы абдымкаў, заснуў як забіты. Сама нядаўняя нябожчыца была на здзіўленне ціхай, нічога не ела і глядзела на ўсіх пустымі вачыма. Вакольныя ставіліся да гэтага з маўклівым разуменнем, ніхто з іх не ведаў, як павінны паводзіць сябе толькі што ўваскрэслыя з мёртвых.

Пахадзіўшы кругамі, народ, хрысцячыся або творачы на свой лад малітвы, імкнуўся ўсялякім чынам дакрануцца да жанчыны і пераканаць свайго ўнутранага Тамаша Няверніка ў створаным на іх вачах цудзе. Многія з тых, хто не бачыў Эрмі мёртвай, і зусім ставіўся да гэтага з непрытоеным сумневам, — як да нейкага незразумелага розыгрышу або містыфікацыі, маўляў, не было пахавання, няма і ўваскрасення. Іншыя, хто ўсё бачыў і хоць неяк паспеў «пагутарыць» з учарашняй нябожчыцай, наадварот, шэптам, каб атаман, не дай Божа, не пачуў, амаль у адзін голас бажыліся, што, маўляў, дзеўка падобная, але не тая, падмянілі яе, мабыць, у пячорах і што, можа, яна ўжо і не чалавек зусім, а нежыць якая-небудзь.



Макута да ўсяго прыслухоўваўся, меркаваў, супастаўляў, успамінаў свае сустрэчы з «павяртанцамі» — людзьмі зніклымі, завочна раднёй і аднавяскоўцамі аплаканымі, якія потым раптам вярнуліся. Цяжкім на зносіны і нелюдзімым быў гэты народ, ды і сярод людзей ён доўга не ўжываўся, зноў кудысьці знікаў, назаўжды застаючыся ў народных гутарках і дзіцячых страшылках. Паглядзеўшы на стомленага хваляваннямі і бяссоннай ноччу атамана, на абыякавую да яго сонных абдымкаў жанчыну, ён паклікаў Мітрыча і ў суправаджэнні яшчэ двух разбойнікаў адправіўся да вадаспада. Пакінутыя ў лагеры займаліся звыклымі справамі: кашаварылі, ставілі падстрэшкі, ладзілі буданы, абсталявалі на кедрачах ды скалах ахоўныя гнёзды, зацягваючы туды ваду, правізію і патроны, — мяркуючы па ўсім, уладкоўваліся не на жарт і надоўга.

— У нейкай журбе ты сёння, кум? — збіваючы нагайкай верхавіны саспелых у дуроту канопляў, асцярожна пачаў Мітрыч. — Ці й ты думаеш, што баба — наўе?

— Наўе яна ці не, хто ж табе скажа? А вось глядзі ж ты, саромнай ды пахабай жыла — і на табе, уваскрэсла! Жывенькай ходзіць, халоднымі вачыма лыпае. Мне Сар-мэна шкада, боязна нават за яго, чуе маё сэрца, прападзе мужык. Ну ды добра, яго гэта справа, з якой бабай ночы бавіць. Толькі вось што, — ён рэзка павярнуўся да спадарожніка, прыцягнуў яго бліжэй да сабе і грозна прашаптаў: — Дзень і ноч вачэй з яе не спускаць! Нешта праспіце, не ўвартуеце, галовы асабіста сам паадкручваю! Зразумеў?

— Зразумеў, кум, зразумеў. Я сам напачатку за ёй пагляджу. Мне нат цікава…

— Ты вельмі не зацікаўлівайся, заўсёды думку асноўную май: няпросты яна чалавек, і адкеля прыйшла, невядома. Ты вось што, — расшпільваючы каўнер простай сацінавай кашулі, падперазанай тонкай скураной папружкай са срэбнымі будысцкімі падвескамі, распарадзіўся атаман, паказваючы на суправаджатых-разбойнікаў, — перадай сваім абрэкам, хай адзін на той бок раўчука пяройдзе і стане ля скалы, дзе вадаспад, а другі — з нашай, а мы з табой вунь з таго каменя пад заслону водную і паднырнём. Ох, і даўно я туды не залазіў, мабыць, з малалецтва.

— Дык хіба мы тамака змесцімся? — перадаўшы распараджэнні і наганяй Бея, спытаў Мітрыч. — Тамака, відаць, толькі падшыванцу працiснуцца і можна…

— Пайшлі, шчас усё сам убачыш.

Сапраўды, прайшоўшы бачком па камянях у вадзяным пыле і каляровых стужках вясёлак, яны апынуліся ў своеасаблівым, змрочным, высачэзным тунелі. Злева сыходзіла ўверх стромая скала, справа, ледзь прапускаючы сонечнае святло, ляцела ўніз жывая сцяна вады. Пад нагамі да процілеглага берага вяла ідэальна роўная, коўзкая ад вільгаці і нейкай слізі каменная пліта, на якой спакойна пры жаданні маглі размінуцца два дарослыя чалавекі. Асцярожна, каб не паслізнуцца, разбойнікі, прытрымліваючыся за скалу, пайшлі наперад.

Макуту-Бея больш за ўсё цікавіла скала. Яна выглядала нейкай неаднастайнай. Пад нагамі была амаль ідэальна роўная, падобна, нават паліраваная паверхня. Хоць хто яе тут мог паліраваць? Калі вада, тады чаму край, які сыходзіць у бурлівую ваду, не сашліфаваны, а застаўся вострым, быццам толькі што з каменяломні?

— Я таксама, гаспадар, гляджу — вельмі ўжо ўсё акуратна. Як каменячосы добрыя прайшліся. І галоўна, ні аднаго стыку не відаць, — абмінуўшы начальніка, Мітрыч пайшоў наперад, — хоць ёсць, ёсць стык, Макута! Але камянюкі так падагнаныя, што і лязо нажа не ўлазіць. Калі не шукаць, ні ў жызні не заўважыш!

— Пакінь ты ў спакоі гэтую пліту, тут і каню зразумела, што прырода такога, пры ўсёй да яе павазе, стварыць не магла, ты ўнё на сцяну паглядзі!

Сцяна сапраўды ўяўляла сабой яшчэ больш дзіўную карціну. Знізу і па краях, наколькі хапала асвятлення, яна была цёмнашэрай і шурпатай, як камяні навакольных гор, а пасля прыкладна метровай матчынай аблямоўкі вонкі выходзіла аднатонная блакітная парода, ідэальна роўная і ўвагнутая да сярэдзіны. Падобных камянёў ні ў акрузе, ды і наогул у іхніх гарах Макута ніколі не бачыў. Камень сапраўды быў незвычайным і быў падобны на нейкі каламутна-нябесны мінерал; калі адхіліцца і зірнуць на гэтае блакітнае вока нібыта збоку, то стваралася не толькі адчуванне, што ад яго зыходзіць роўнае і спакойнае святло, але яшчэ і здавалася, што з яго непранікальнай глыбіні на цябе хтосьці ўважліва глядзіць.

— Да-а, кум, шмат я з табой усякай чартаўні наглядзеўся, але такое бачу ўпершыню! — чамусьці шэптам вымавіў Мітрыч. — Хадзем-ка адсюль, няўтульна неяк.



Баязліва касавурачыся на геалагічны парадокс, яны паспешліва закрочылі да процілеглага ўвахода, імкнучыся барзджэй пакінуць гэта сапраўды няўтульнае месца. Неўзабаве заслона вадаспада засталася ззаду, разбойнікі забраліся на невялікі горны выступ і, жмурачыся ад нясцерпна яркага сонца, убачылі на беразе, з якога да іх вёў нешырокі вераўчаны масток, пацешную карціну: пажылога сталага бандыта, пасланага для падстрахоўкі на гэты бок вадаспада, абходжвала сукаватай палкай сухенькая бабулька ў аўчыннай камізэльцы, апранутай на шэрую доўгую сукенку. Мужык хістаўся, закрываючы твар і галаву рукамі, адштурхваў багамолку, не даючы ёй прабіцца да кладкі. Абое нешта крычалі, але з-за шуму вады нічога не было чуваць. Мітрыч коткай слізгануў на бераг і, перахапіўшы бабчыну прыладу, спыніў бойку. Следам, асцярожна ідучы па звязаных вяроўкамі жэрдках, спусціўся Макута.

Бабулька асалапела і, пакінуўшы зброю ў руках целаахоўніка, паспрабавала з дзіўным спрытам шмыгнуць за выступ скалы, але была спыненая сваёй нядаўняй ахвярай.

— І што гэта ў вас тут за бітва? Можа, знайшлі чаго ды не падзялілі? — імкнучыся лепш разглядзець твар старой, спытаў атаман. — Нібыта ведаю цябе, а вось не ўзгадаю, чыёй жа ты, маці, будзеш?

— А ты, нябось, мой шалапутны зроднік Макута? — сварліва вымавіла бабка, выдзіраючы з рук Мітрыча сваю кульбу. — Мала што бандзюкуеш змалку, дык яшчэ да нашага прозвішча басурманскі давесак прысабачыў, нібыта паганы хвост. «Бей» ён, ці бачыш ты.

— Цётка Ганна! Вось ужо каго не думаў я на гэтым свеце сустрэць! Я грэшнай справай думаў, што цябе даўно пахавалі, а ты, глядзі ж, яшчэ цалкам жывенькая старая? — узрадаваўся атаман, прапускаючы між вушэй калючасці. — Усё! — звярнуўся ён да разбойнікаў. — Свабодны! Мы ўжо самі да бівака дабяромся. Вы тамака наконт гарбаты распарадзіцеся, як-ніяк старэйшыну Макуцінага роду ў госці вяду. Табе ж, цётка, ужо за сто пераваліла?

— Глянь ты на яго, прызнаў! Толькі хаваць ты мяне, Воўчык, ранавата заманухся, ці бач, сапраўдная жызня токі апасля ста гадоў і пачынаецца. А мне, мабыць, з пазамінулага месяца ўжо як-ніяк сто шосты пайшоў, вось так-та!

— Вось гэта да! А я ж, бабуля, шукаў цябе, — абдымаючы сваячку, якая даводзілася яго нябожчыку бацьку цёткай, прачула сказаў Макута, — мяне ўжо гадоў з трыццаці ніхто

Воўчыкам і не зваў. У тую страшную зіму, калі ўрад, мабыць, усю Чулымію выпаліў, я, як воўк, кідаўся па глухой тайзе, а зіма, сама знаш, гэта табе не зялёнка, кожны след, кажда драпіна на снезе супраціў цябе крычаць. І ўсё роўна, як пра бяду вашую даведаўся, людзей адправіў, ды і сам неўзадаўжкі да старога дзедаўскага засценка прывандраваў. Нелюдзяў тых, хто на вас бяду навёў, мы пакаралі…

— Зло само сябе карае! — перабіла бабка зродніка. — Галоўнае, каб той, праз каго пакаранне ідзе, сам злом не стаў. Прыставучае яно вельмі, зло-о! Пра цябе шмат ведаю, — старая адступіла і схіліла сваю галаву (у такой жа шэрай, як і сукенка, хустцы) злёгку на бок, чаму зрабілася падобнай да старой мудрай ваўчыцы, — дзе людзі што шапнуць, дзе сама ўгледжу, шмат ведаю, ой шмат, Воўчык, шмат!

— Пойдзем, цётка, пакармлю хоць цябе, гарбатай папешчу, ды пабалакаем аб тым, аб гэтым. Парада мне трэба, а ўзяць няма ў каго, я ж таксама, лічы, адзін, як былінка, застаўся. Са старых нікога ўжо няма, а ў моладзі якой парады запытаць можна? Пойдзем, не крыўдзі.

— Хіба ж цябе, супастата, пакрыўдзіш? — па-добраму прабурчала старая і, абапёршыся на кульбу, пільна зірнула кудысьці далёка за Макуту. Атаман інстынктыўна азірнуўся: ззаду за ім зеўрала чорная паражніна рукатворнага тунеля, створанага вадой і скалой. У тым, што гэта так і ёсць, ён цяпер амаль не сумняваўся.

— Знаш, цётка, што тамака? — само сабой сарвалася з языка.

— Знаш — не знаш, табе-та што? Месца тамака святое, і лепш бы вам яго не чапаць. Вы тут паднюйце, паначуйце ды і аргашце сабе назад, нашто дарма ў глухмені тырчаць? Пайшлі ўжо, паі старую цётку гарбатай, а есці я не буду, высахла, як лясіна, сокаў зусім няма. Стары чалавек, ён як сухая палка, крэпкі, ды ломкі.

Макуце здалося, што цётка, нібы дасведчаная ліса, спрабуе хутчэй адвесці яго далей ад гэтага месца, як ад сваёй нары. Ох, нездарма яна тут апынулася, ды і невядома яшчэ, ці яна гэта, бо тады, дваццаць гадоў назад, яму адназначна сказалі, што ўсіх на тым засценку павыбілі, а целы, каб не дзяўбці магілы ў мерзляку, кінулі ў Чортаву багну, якая з-за гарачых ключоў не застывала ў самыя лютыя маразы. — «Другая нежыць за суткі, гэтага нават для мяне зашмат», — нядобрым ценем хітнулася ў яго галаве.

Цётка, не спяшаючыся, прыпадаючы на левую нагу, мірна клыпала побач, з выгляду чалавек як чалавек, толькі вельмі стары і сапраўды высушаны жыццём і горам. Хоць у нас здаўна павялося, што жыццё і гора — калі не адно і тое ж, то ўжо занадта часта гэтыя заможныя пані блукаюць па навакольных весях разам, і ніяк ім адно ад аднаго не адысці.



— А дзе ж ты жывеш? — нечакана рэзка перапыніў маўчанне Макута, бакавым зрокам разглядваючы родзічку, якая немаведама адкуль звалілася на яго. Ён напружваў усе сілы, прыцягваў усю сваю назіральнасць, каб хоць нешта прачытаць на шэрым, маршчыністым твары старой.

— Ды недалёка адгэтуль, на Далёкім Караташы, мажа, ведаеш? — будзённа назваўшы самае дзіўнае і жудаснае месца ў акрузе, старая нават вокам не павяла.

Макута ледзь быў не спатыкнуўся на роўным месцы. Крок за крокам не лягчэй! «Чорная гара», «Шайтанавы іклы», «Чортаў палец», «Той свет», «Засценак крумкача» і яшчэ з дзясятак такіх жа змрочных тапонімаў пазначалі адно і тое ж месца. Знаходзілася яно за два дні коннага пераходу і ўяўляла сабой панурую самотную скалу на высакагорным плато, камяністую і цалкам пазбаўленую расліннасці ўнізе, з густа парослай вяршыняй, да якой вяла адна адзіная сцежка, больш падобная на высечаную ў гары лесвіцу. Ніхто не бачыў чалавека, які б адважыўся падняцца туды без адмысловай патрэбы, нават шукальнікі дзікаросаў і даўніны да гэтай панурасці і блізка не соваліся.

Бываюць такія месцы, дзе не толькі вандроўніку, але і неразумнай скаціне страшна становіцца. Іржане каняціна, застрыжэ вушамі, нядобрым нальецца вока, і тады ўжо трымай мацней павады, а то ўвомірг апынешся на камяністай зямлі, і калі пашэнціць быць не пабітым капытамі, дык скакуна ты свайго шукаць будзеш доўга, калі наогул адшукаеш.

Такіх ліхім месцам і быў куток, названы цёткай. Па паданнях, на той гары жылі ведзьмы, і толькі самыя адчайныя бабы адважваліся падняцца метраў на трыста па сцежцы і пакінуць на шырокім плоскім камені свае дары з запісанай на паперцы просьбай аб дапамозе. На трэці дзень належыла вярнуцца па адказ. Часам і ежа, і цыдулка так і заставаліся некранутымі, але ў большасці выпадкаў просьбіта чакаў адказ у выглядзе бутэлькі з вадой, вузельчыка з соллю, пучкамі нейкіх дзіўных карэнняў і травы, слоічкі з глейкім зеллем або немудрагелістага, звычайнага на выгляд каменьчыка. Самыя адважныя ахвотніцы (а такіх заўсёды хадзіла больш, чым мужыкоў) былі перапоўненыя прагай пазнаць сваю ці нечую будучыню, ці хацелі звесці кагосьці са свету, — і зусім адважваліся на поўную неразважлівасць: заставаліся начаваць у прасторнай сухой пячоры, якая размяш-

чалася метраў на сорак вышэй стала для дароў. Існі на начлег належала галяком, у адным свабодным, без усякіх жалезных зашпілек, адмыслова пашытым дзеля гэтага касцяной іголкай балахоне. Узімку падобную адзежу трэба было апранаць у самой пячоры, дзе амаль заўсёды цьмеў збудаваны справа ад увахода агмень. Уначы ў пячору спускалася адна з ведзьмаў, але ніхто вам дакладна не скажа: ці чалавек гэта, ці нейкі дух у людскім абліччы, ці проста звычайны сон. Ды і наогул аб візітах на «Чортаў палец» смельчакі імкнуліся памоўчваць, так што Макуту было чаго прызадумацца.

— Цётка, дык ты што ж, адна з насельніц той чортавай гары? — пасля працяглага маўчання выціснуў з сябе атаман, працягваючы ўпотай касіцца на сваячку.

— Шмат ты, бачу, у чарцях разбіраешся! — пакрыўджана запярэчыла старая, спынілася і, не міргаючы, утаропілася на пастарэлага пляменніка, цясней зацягнула вузельчык хусткі пад падбародкам. — Для вас што незразумелае, усё — чорт! Вы ж толькі свой страх богам і шануеце. Чаго баіцеся, таму і моліцеся! А вось у нашым доме спакон веку ніякіх чарцей не было, бо мы заўгодныя Богу. Толькі ад вашых багоў наш надта адрозніваецца! Я табе боле скажу, вось: вашыя багі чарцямі і з'яўляюцца, і гэта вы — паганцы паганскія, а мы-та якраз у праўдзівай веры і знаходзімся. Вось так! — цётка замоўкла і, задаволеная сабой, пакрочыла далей.

— Ды пачакай ты, старая, а то за табой і не згонішся! Давай вось прысядзем, — змахваючы неіснуючыя парушынкі з адпаліраванага вясновымі паводкамі палутараабхватнага бервяна, прапанаваў Макута. — Ты вось мне па-роднаснаму растлумач такія-сякія закавыкі, якія мяне апошнім часам даразаюць. Ты ж найстарэйшая ў нашым родзе.

— Нешта гэта табе, ліхому атаману, бабіны мазгі спатрэбіліся? — відавочна ўсцешаная прапановай, прысаджваючыся, буркнула старажылка. — Хоць я і знаю, што ты ў мяне выведваць пачнеш…

— Ты мне наперш, маці, адкажы, з чаго гэта ты ў такенную далеч да гэтага вадаспада прыперлася, відаць, калі пешшу, дык дні тры тупала, ці і больш?

— Праз горы прасцяком ды па пячорных лазах яно і за дзень ухадзіцца можна. А што рабіла? Дык зразумела што — па ваду прыйшла, якраз апошні бурдзюк напаўняць клэпала, калі твой мардаварот мне дарогу й засціў. Ёмістасць у куст ледзьве паспела саўгануць, а ўсё астатняе ты сам бачыў.



— Ці не далёка па вадзіцу хадзіць? Калі мне памяць не адцяла, у вас тамака з гары цэлы раўчук скочваецца. Сцюдзёны такі, ажно зубы ломіць!

— Скочвацца-та скочваецца, а для нашай справы вада тая не гожая. Зацірку якую зварыць, адвар запарыць на ёй, вядома, можна, а сапраўдныя лекі з яе не выйдуць, і для прароцтваў яна не гожая.

— А чым жа гэтая вада ад той адрозніваецца? Вада як вада, — паціху хіліў да свайго Макута. — Я і тую, і гэтую каштаваў і вялікай розніцы не ўгледзеў. А тут, — ён махнуў на шумлівы вадаспад, — і зусім усё дзяцінства прабоўтаўся, як парася.

— З выгляду ды на смак усякая вадзіца падобная, — з ноткамі настаўніцтва загучаў адказ, — а вось нябачнае паміж імі вялікае адрозненне, чаму так, хто ж яго знае, але така вада толькі ў гэтым месцы і боле нідзе. Так што хоцькі-няхоцькі, а цягаць у такую далечу даводзіцца…

— А гэта не таму, што тут уваход у Шамбалу? — як яму здавалася, абсалютна абыякава перабіў атаман цётку.

— Можа, і таму, — у тон яму адазвалася цётка. — Толькі яна неўзадаўжкі зноў сукрыецца, край гэты запаведны…

— Хто сукрыецца?!.

— Дзюра жывая, што ў Белаводдзе вядзе. Нядоўга ўжо засталося, вока і напраўду туманіцца пачало, прожылкі пайшлі, хутка і зусім пашарэе, — журботна, як няўхільны факт, канстатавала бабулька. — Калі зноў адкрыецца, адна Бялуха й ведае!

Малюта слухаў ледзь ці не з адкрытым ротам. Слухаў і вушам сваім не верыў.

— А чаму яна з'явілася, гэтая дзюра? І галоўнае, калі гэта сталася?

— Адкрылася яна даўно, можа, ужо з год як. Ды і не ўсякаму яна і адкрытай-та бачыцца даецца. Можаш побач днямі хадзіць — і нічога не ўгледзіш. Тут боле на ўнутраны погляд трэба спадзявацца. Старыя і сведамыя людзі сказваюць, што, можа, раз у сто гадоў палягчаюцца ўваходы ў таемныя лазы, і пасланцы ад Невядомых з іх да нас вывяргаюцца ды глядзяць, значыць, як свет наш жыве: ці лепшымі, ці горшымі мы ўсе зрабіліся, ці надышоў час адкрыцца для вучнёўства нашага і прасвятлення…

— А хто ж гэта тамака ў падзямеллях жыве і пашто ад людзей і свету Божага хаваецца?

— То таямніца вялікая, і ніхто яе не знае. А пячоры, яны што? Яны толькі ўваходы, а лазы куды вядуць, невядома. Ніхто тамака не быў, а хто й быў, да канца ўсё адно не дабрыў. Адно я табе

скажу: святло тамака і мілата, па сабе ведаю. Ды што я з табой сяджу-та, — пляснула рукамі бабулька, — роўна тарадэйка яка! Пайшлі, гарбатай гарадской напоіш, ды і дадому мне трэба, — яна жвава паднялася, але потым як быццам нешта ўспомніла, прысела зноў. — Ты пра чо мяне спытаць-та хацеў?

— Дык, мабыць, адказала ты на маё пытанне, — задуменна пацiраючы няголены падбародак, адазваўся атаман, — а калі яна зусім зачыніцца, знаеш?

— Па ўсім выходзіць, што ў ноняшнюю ноч, — перабіраючы пальцы, нібы нешта падлічваючы, адказала цётка.

— Ну, калі цяпер, то, мабыць, яны і не паспеюць, — больш для сябе, чым для спадарожніцы, вымавіў Макута. — А вось скажы, калі ўваходы знікнуць, ці можна іх будзе прабіць сілай?

— Ты чаго гэта, голубе, задумаў? — з асцярогай зірнуўшы на зродніка, насцярожылася старая.

— Нічога, маці, дрэннага, — і Макута падрабязна распавёў цётцы ўсё, што ведаў аб пагражальнай таемнаму свету небяспецы.

## 24

Усё адбылося хутка і нечакана. Яны, як і ў мінулы раз, самазабыўна цалаваліся, зваліўшыся ў высокую траву. Зямля кружылася ў нясцерпным бляску сонца, гудзенні пчол і цяжкім паху раздушаных імі сцяблін травы. Смутная і вабная стома разлілася па безабаронным целе дзяўчыны, якое дробна дрыжала ад нецярпення. Нешта павінна было з ёй вось-вось адбыцца, і яна не супрацівілася яго прыходу. Рэальны свет страціў свае абрысы, Маша моцна прымружылася, ёй здавалася, што яна правальваецца ў нейкую салодасную непрытомнасць. Ачулася яна ад свайго не то стогну, не то крыку і нейкіх цалкам незвычайных адчуванняў. Енах яшчэ працягваў рухацца, гучна дыхаючы шырока раскрытым ротам; толькі цяпер дзяўчына адчула, які ён цяжкі і моцны.

Потым яны плёскаліся ў раўчуку і доўга грэліся на плоскіх, распаленых, як патэльні, камянях. Ёй не хацелася ні пра што думаць, проста было добра. Яна стала жанчынай, і нешта новае, дагэтуль не вядомае нарадзілася ў ёй, яна яшчэ не разумела, што гэта, і з цікаўнасцю прыслухоўвалася да свайго новага стану. Побач ляжаў мужчына, яе мужчына, вялікі, моцны і нейкі ўвесь кудлаты, не чалавек нават, а нейкі прышэлец з далёкай і не



знаёмай ёй планеты. Машы да нясцерпнасці жадалася вёрткай яшчаркай падпаўзці да яго і бессаромна вывучаць, чапаць, спрабаваць на смак гэты новы свет, які немаведама адкуль зваліўся на яе. Аднак варта было толькі на некалькі сантыметраў пасунуцца да Енаха, як рознапалярныя магніты, якія спалі ў іх, ажывалі з сілай, роўнай маладосці і неразважлівасці, і зноў спрасоўвалі іх целы ў адзінае цэлае.

Дзіўна, мінула амаль палова дня, і добрае сонца, якое ўсё бачыць, ужо без ахвоты зазбіралася на свой невядомы пастой, а яны яшчэ не вымавілі ні слова. Шэпты, уздыхі, нейкія паўдзіцячыя клятвы, адрывістыя выкрыкі, бескантрольны смех і доўгія, як ныранне ў акіяне, пацалункі замянілі ім чалавечую мову, да дрыготкі не хацелася вяртацца да рэальнасці, аднаўляць здольнасць казаць і выразна думаць.

Цела чалавека на тое і аддзеленае Госпадам ад яго духоўнай асновы, каб не даць нашым дзікім парывам загубіць яго ўадначас. Каленкі, локці, ягадзіцы ў абаіх былі бязлітасна збітыя і сцёртыя, разам з чырвонымі плямамі, гатовымі пырснуць кропелькамі крыві, распаўзаліся нейкія плямы, мудрагеліста расквечаныя зялянінай расціснутай травы і чымсьці жоўтым, пялёсткі расплясканых высакагорных кветак былі падобныя на мудрагелістыя татуіроўкі; на спінах засталіся неглыбокія, доўгія, тонкія парэзы ад усюдыісных пясчынак; вусны набрынялі, гідка нылі і гатовыя былі ў любое імгненне парэпацца; цела, якое стамілася ад перанапружвання, паступова налівалася свінцовым цяжарам, быццам па ім пару разоў добранька прайшліся бамбукавымі палкамі.

Машка ўявіла сябе збоку і здрыганулася, непрывабную карціну завяршалі зблытаныя і поўныя рознага смецця валасы, ні грэбеня, каб іх расчасаць, ні хусткі, каб прыкрыць, у яе не было, а тут яшчэ Енах, задаволены і зіхоткі, як цётчын нядзельны самавар, напяўшы на сябе штаны і кашулю, як ні ў чым не бывала, пачаў яе распытваць пра пячору і Эрмітадору. Слёзы крыўды і сораму падкаціліся самі сабой. У галаву палезлі ўсякія дурныя думкі, невядомая дагэтуль рэўнасць чорнай коткай учапілася ў сэрца.

«Дурніца, што ты скажаш матцы, а яна ж абавязкова пра ўсё даведаецца! Сораму ж, сораму будзе! У двор не пакажашся, ды што там далёкі матчын двор, калі трэба вяртацца назад, у лагер, дзе любы чалавек ёй абавязкова скажа, а не скажа, то ўжо падумае абавязкова: «Гэта тая, што забыла пра ўсякі сорам. Добрая ж дачушка ў Званскай!» — ды і заслужана будзе».

Не звяртаючы ўвагі на незадаволенага Енаха, які, напэўна, па-свойму вытлумачыў яе маўчанне, Машка незнаёмай ёй хадой пайшла да раўчука, распранулася і, апякаючыся ледзяной вадой, пачала адціраць тонкімі авальнымі паралонавымі ўкладышамі, выцягнутымі са станіка, праціўную зеляніну з каленяў і локцяў. Апусціўшыся ў па-вар'яцку імклівую ваду, якая так і намагалася сцягнуць яе ў сваю бездань, дзяўчына спрабавала хоць неяк супакоіць наспелыя смочкі грудзей, астудзіць без меры разагрэтую кроў, а галоўнае, вярнуць здольнасць цвяроза думаць. Слёзы каціліся па мокрым твары незаўважна і ачышчальна. Яна з азвярэннем церла скуру і паласкала валасы, вызваляючы іх ад травінак і дробных суквеццяў, і нарэшце, дачакаўшыся таго моманту, калі халаднюшчая вада стала здавацца цёплай, рэзка вынырнула з плыні. На бераг выйшла ўжо не пакрыўджаная і спалоханая дзяўчынка, а мудрая ў сваім наіве жанчына, якой вядомыя дарослыя таямніцы жыцця і смерці.

— Не крыўдзіся на мяне, Ен, ужо вельмі незвычайны выдаўся дзень, — ускудлаціўшы шавялюру Енаха, прымірэнча вымавіла Машка. — У цябе выпадкова расчоскі няма?

На радасць, яна ў яго была. Дбайна расклаўшы свае саламяныя валасы, якія на санцапёку імгненна высыхалі і пачыналі злёгку кучаравіцца, дзяўчына падзівілася сваім нядаўнім наіўным крыўдам, даволі будзённа цмокнула свайго абранніка ў вуха і прысела побач, злёгку хітаючы галавой і любуючыся цёплай гульнёй сонца ў сваіх пышных і густых пасмах.

— Я не памятаю нічога з таго, што адбылося з намі мінулай ноччу ў пячоры. Калі ты мяне туды кінуў, прывязаўшы да трупа тваёй былой палюбоўніцы…

— Ну што ты! — чамусьці вельмі спалохана ўскрыкнуў Енах, ускочыўшы з месца. — Я цябе і не думаў туды кідаць! Ты сама, сама, нібы звар'яцелая, настойвала на гэтым, а вязаў цябе да баранесы і піхаў Сар-мэн! Калі вы зніклі ў камені і покрыва звярнулася ў сталь, я ледзь быў розумам не паехаў! Як ты можаш мяне папракаць! Ды я цябе кахаю, і з гэтага дня нікуды не адпушчу нават на імгненне!

Ёй было дзіўна чуць, як ён апраўдваецца, і яшчэ яна адчула, што словы гэтыя гучалі не зусім шчыра. Маша яшчэ не ведала, што любое апраўданне заўсёды замешанае на баязлівасці і хлусні.

— Супакойся, мілы, бачыш, усё абышлося добра, — ёй чамусьці хацелася яшчэ дадаць, што Сар-мэн, пхаючы яе ў бездань, ратаваў сваё каханне, а вось каго або што ратаваў ты, мой дарагі, дапамагаючы яму ў гэтым, — невядома; аднак яна прамаўчала і працягнула: — Мы зваліліся ў вільготны срэбны туман, падсветлены знізу, і святло гэтае здавалася абсалютна матэрыяльным, яно не давала нам каменем паваліцца ўніз, мы павольна спускаліся, пакуль не патрапілі ў калаўрот светлавой варонкі. Я паляцела па гадзіннікавай стрэлцы, а Эрмі ў адваротны бок… і ўсё…



— Як усё?! А што было ў пячоры, хто там ёсць? Ці бачыла ты таго старога, пра якога вы распавядалі з Дашкай? — са шчырай цікаўнасцю зазіраючы ёй у вочы, выпаліў Енах.

— Не было там ніякай пячоры, ні старых, ні дзевак, ні чоўна, там было цёплае, добрае, яркае святло, цішыня і супакой, і ўсё. А потым я ачулася ад холаду на лузе ля вадаспада. Спалохалася і пачала зваць цябе.

— Дурненькая! — абдымаючы гатовую заплакаць ад жалю да сябе дзяўчыну, вымавіў Енах, пацалаваў яе ў вочы. — Слава Богу, усё ззаду! Хадзем у лагер, а то нас там, я думаю, ужо даўно шукаюць.

Па дарозе размова не вязалася, і кожны маўчаў пра нешта сваё.

А ў гэты час на камянях, ужо сагрэтых сонцам, ля самай Бел-ракі, якая толькі пачынала свой магутны бег дробным шырокім раўчуком, сядзела Даша са сваім жаніхом; яны нягучна размаўлялі. Гутарка круцілася толькі вакол адной тэмы: будучага вяселля. Пра гэтую важную падзею ведалі ўжо ўсе: і разбойнікі, і вясковыя, ды і сама пані галасна аб гэтым абвясціла дворні, праўда, папярэдне абгаварыўшы абавязковую Юнькаву лупцоўку на стайні. Але гэтакай дробязі значэння імкнуліся не надаваць, тым больш што здзяйсняць экзекуцыю павінен быў стары прыяцель Прохара, ветэран Каўказскіх войнаў, састарэлы інвалід Дон Петра дэ Анчоўс, які служыў калісьці ў войску Арона Вялікага і добраахвотна здаўся ў палон пад памежным горадам Адзінцова. Праўда, здача гэтая была нібыта і не зусім добраахвотнай, а завязанай на нейкай любоўнай інтрызе, са здрадамі і двубоямі, але гэта адбывалася так даўно, што і канцоў адшукаць сёння ўжо немагчыма.

— Галоўнае, ты з Макуты барыш за трафею спатрабуй, — далікатна пагладжваючы галаву будучага мужа, лісліва даводзіла Дар'я. — Хто ж яго знае, кагды яшчэ такі выпадак падвернецца. Ды і з Сар-мэна-та… — трохі падумаўшы, працягнула яна, —

таксама варта такія-сякія таньгі злупіць за ўваскрашэнне гэтай гарадской лахудры. Праз тваю анучыну ж усё гэтае блюзнерства сатварылася. І як ён з гэтай мярцвячкай кахацца-та далей будзе — аніяк не ўцямлю. Як успомню яе халаднюшчую, як лёд, у той пячоры, дык мураш па скуры прама ходзіць! Бы-р-р-р-р!

— Во-во, сапраўды! З атаманам ты гэта правільна прыдумала! Ну і галава! — ускокваючы і пляскаючы сябе па каленках, выпаліў Юнька. — Галава, слоў няма, я б да гэнтага ні ў жысьць не дадумаўся! Ай малайчына! — хлопец ад лішку пачуццяў схапіў доўгую палку, якая ляжала побач, і пачаў, як дзіця, латашыць ёю па вадзе. — Машыну, японку я з яго спатрабую, трэцягодку! — палка пляскала па вадзе, уздымаючы фантаны пырск. Нечакана яе канец выдраў з вады, нібы рыбіну, нейкую анучу, і тая, праляцеўшы над іхнімі галовамі, пляснулася ззаду.

Даша азірнулася, падняла яе і ўскрыкнула ад нечаканасці: у яе руках быў пашматаны станік гаспадыні.

— Машка, паненка мая неразумная! Што ён, кат, з табой сатварыў? Страляй, заві народ! Прыб'е мяне Званская, ох, людцы, прыб'е, і заслужана, заслужана мне будзе! І ўсё з-за цябе, ялдыр акаянны! Ну, чаго ты на мяне ўтаропіўся? Палі! — тыкаючы ў твар атарапеламу Юню мокрай ажурнасцю, крычала спалоханая прыслужніца, спрабуючы выдраць у яго з-за пояса абрэз.

— Ды пагодзь ты! Астынь! — вырываючы з рук каханай апазнаны грудкатрымальнік, уціхамірваў яе наканаваны. — Чаго ты блажыш? Станік жа цэлы, глядзі, падшыўкі толькі выдраны, дык, можа, яны тамака чаго…

Дагаварыць хлопцу не дала жаночая збруя, якая смачна шлёпнула яго па шчацэ.

— Усё адно пайшлі іх шукаць! Пакуль не ўбачу яе сваімі вачыма, не суцішыцца маё сэрца, — ужо значна спакайней вымавіла Даша і, падабраўшы ніз сукенкі, перайшла раўчук уброд па плыткаводдзі і накіравалася ўздоўж будучай ракі туды, куды пасля сняданку павалок у горы яе гаспадыню гэты нетрывушчы Енах.

Парачку яны заўважылі здалёк і паспелі ад граху далей шаснуць у кусты. Енах з Машай пляліся задаволеныя і стомленыя, нібы перасмактаўшыя матку цяляты.

— Скураным ножыкам — ці што — ён яе ўвесь дзень раздзіраў? — яхідна зашаптаў Дашы ў вуха Юнька, і тут жа ўсё яшчэ мокры станік апынуўся ў яго ў роце ў якасці кляпа.



Гаспадыня і яе кавалер ужо схаваліся за выступам скалы, і Даша пачала паднімацца, каб выбрацца на дарожку, як з таго ж боку, адкуль толькі што выйшлі закаханыя, прыціскаючыся да скалы і абыходзячы камяні, паўз іх праслізнуў незнаёмы чалавек у плямістай ваеннай адзежы са зброяй наперавес. Дзяўчына прыціснулася да зямлі і зірнула на свайго спадарожніка, але таго побач не было: на прымятай траве ляжаў толькі кінуты Машкін станік.

## 25

У адрозненне ад дэтэктыва ўсякая сапраўдная авантура не адбываецца раптам, а доўга і павольна спее, потым падае нечаканай навальніцай на галовы сваіх родапачынальнікаў і, уразіўшы іх сваімі нечаканымі маштабамі, пачынае кружляць, запалоньваючы ў свой ужо бескантрольны вір усё новых і новых людзей, часам цэлыя краіны, а то і кантыненты.

Ніхто не мог і здагадацца, што нягучная аперацыя айчынных спецслужбаў можа абярнуцца падобным. Месяца паўтара назад Эрмітадору Гопс выклікалі ў Кадастр Галоўнай Пільнасці і прадставілі ў кабінеце самога Касталомскага Эдмундзі-Чэкісаглы. Пасля дванаццаціхвіліннага прывітання ў пакоі адпачынку задаволены галава Усесібрускай апрыччыны ўсеўся ў сваё нязручнае драўлянае крэсла з высокай прамой спінкай, выкананай у выглядзе гільяціны, запаліў доўгую цыгарку і, пыхкаючы шызаватым дымком з вельмі спецыфічным пахам, паглыбіўся ў чытанне тоўстай кнігі, якая ляжала перад ім на стале, расхінутая якраз на сярэдзіне.

Чытаць Эдмундзі Чэкісавіч, як і ўсякі высокапастаўлены службовец, не любіў, не хацеў і ленаваўся, аднак модныя кнігі дома і ў кабінетах трымаў і нават глядзеў кіно, знятае па матывах некаторых з іх, так што пры жаданні цалкам мог скласці нейкае меркаванне аб напісаным свяцiламі сусветнай славеснасці. Меркаванні гэтыя былі, вядома ж, хадульнымі, аднабокімі і бязмежна ўбогімі, але хто аб гэтым мог распавесці галоўнаму людаеду краіны? Вось так і атрымлівалася, што менавіта ён і вяшчаў асноўныя культурныя ісціны, якія з такім трапятаннем чакала падлізніцкая інтэлігенцыя, каб у імгненне вока падхапіць і расцягнуць іх у сваіх мяккіх лапках па ціхіх і сытых кватэрках і працоўных кабінетах. І там, як ім здавалася, у бяспечнай цішыні, улегшыся за свой пісьмовы стол і паволі, смакуючы, аблізваць і абсмактваць пачутае, распускаючы ліпкую сліну на свае ўласныя

паперкі, газеткі, праграмкі, кніжачкі, шоу ды іншыя носьбіты «абсалютнай праўды і справядлівасці». І ўсё гэта рабілася абавязкова ва ўгоду і на карысць народа, які прагнуў менавіта такой, а не нейкай іншай праўды, а праўда, як вядома, у нас жыве толькі ў Кадастры Галоўнай Пільнасці. Так што чаго не зробіш дзеля любімага і дарагога народанасельніцтва.

Чытанне ён імітаваў хвілін дваццаць, а сам атрымліваў асалоду ад смакаты знаёмства, зафарбаванай заборыстым чуйскім самасадам, і ўпотай назіраў за дамай, якая пачала ўжо нудзіцца.

«Эх, добрая Гопсіха, можна было б, вядома, і ў штат узяць, ды кабялі мае сокам сойдуць і, як піць даць, перагрызуцца, а ўжо яна дзеля гэтага прыстараецца, у дошку разаб'ецца, але кантору маральна раскладзе па ўсіх, што ні на ёсць, членах. Ды потым і небяспечна яе доўга без адрэналіну трымаць, яшчэ спаліць штонебудзь, дыпкорпус разбэсціць ці падарве што больш сур'ёзнае. Гэта ж трэба, у мінулы раз у бронзавай статуі маршальскага каня яйцы замінавала, пасля выбуху давялося жарабца перакаваць у кабылу, добра хоць маршал даўно памёр, а то б чаго добрага і бунт падняў. Не, што ні кажы, добра, што мы з гэтымі маршаламі ды военначальнікамі пакончылі, няма іх — і цішыня, і мір вакол, і ніякіх баталій. Вайна ж толькі ад военначальнікаў і зыходзіць, нікому іншаму і ў галаву не прыйдзе марна губіць такую прорву народа. Мудрым усё-ткі чалавекам быў Пераемнік Трэці, калі Генеральны штаб у генеральскі пераўтварыў і міністрам абароны сваяка прэм'ерскага паставіў, ох, мудры!.. Што ж гэта я аб справах царовых задумаўся? Баба маладая насупраць сядзіць, нудзіцца, а я аб вайскоўцах! Можа, яшчэ раз пайсці з Гопсіхай паздароўкацца? — і, пакрывіўшыся на падапечную, адзначыў: — А вусны ж яе нічога, выдатныя вусны, хай папрацуе, не адваляцца ж!»

Паўторнае прывітанне атрымалася нейкім зацяжным, таму давялося адтэрмінаваць запланаваную калегію, на якую прыбыў народ з усіх акуёмаў Неабсяжнай. Але дысцыпліна на тое і дысцыпліна, а генералы на тое і генералы, каб аўдыенцыі да іх у прыёмных гадзінамі, а то і днямі чакаць. На тое яна і царова служба. І вось, з горам папалам давёўшы не зусім дзяржаўныя цалаванні да гэтак жаданага яму канца, галоўны апрычнік так расчуліўся і размяк, што прапанаваў рудай шэльме самой выбраць у сейфе пару дзяржсакрэтаў, прыдатных для продажу на міжнародным аўкцыёне, не грошы ж ёй даваць… Але прадуўная і цёртая ва ўсіх адносінах дзяўчына запрасіла замест сакрэтаў невялікую квоту на газ. А што рабіць, час цяпер такі, усё на газе ды нафце трымаецца. Як яны ў нас скончацца, дык адразу ж канец свету і наступіць.



Каб скараціць час на давядзенне новага задання да свайго суперсакрэтнага агента, было прынята рашэнне інструктаж правесці прама тут, на разбоўтанай шырокай канапе ў пакоі працы і адпачынку.

— Агент Апостал! — як мага стражэй вымавіў Эдмундзі, — вам даручаецца заданне дзяржаўнай важнасці і найстрогай сакрэтнасці. Дзетка, — пераходзячы на заступніцкі тон, працягнуў ён, — табе належыць пракрасціся ў Шамбалу…

— Лепш ужо адразу назад да мамкі ва ўтульнае месца! — абурана перабіла яго Эрмітадора. — Шамбалу гэтую драную, як дурань пісаную торбу, увесь свет ужо якое стагоддзе шукае! А я — вось, пайдзі і ўкараніся! Не, не трэба было цябе другі раз вітаць, можа, мазгі б цямілі…

— Маўчаць! Я не пагляджу на нашую сяброўскую сувязь і хутка цябе ўгавару! Што, даўно не была на экскурсіі ў нашых склепах, я гэта прама цяпер арганізаваць магу, хочаш? Маўчыш? Вось і правільна робіш. Я яе, можна сказаць, як залаты запас, берагу! Не тузаю дарма, на самае адказнае прызапашваю, а яна тут выкабеньваецца! Маўчы і слухай. Знайшлі мы гэтую Шамбалу! Ды не выпірай ты свае зенкі, я табе праўду кажу! Вось глядзі, у мяне нават план ёсць, як туды патрапіць можна, — ён дастаў з глыбінь канапы невялікую кардонку, на якой быў налеплены пажоўклы ад часу і спарахнелы на згінах кавалак матэрыі, спярэшчаны ледзь бачнымі знакамі.

Эрмітадора, як ганчак, які пачуў звера, імгненна напружылася, забыўшы пра крыўды і пярэчанні, выцягнула сваю прыгожую шыю і ва ўсе вочы ўставілася на старадаўні план. Як прыроджаная авантурніца, яна з ранняга дзяцінства цягнулася да падобных рэчаў: старажытныя карты схаваных скарбаў, падземныя катакомбы зніклых рэлігій і культаў, акультныя арганізацыі, дзяржаўныя перавароты і змовы — усё гэта цягнула яе да сабе, нібы магніт. Калі яе аднагодкі яшчэ гулялі ў лялькі, яна ўжо ў дамашніх умовах варыла нітраклятчатку ды ўзрывала смеццевыя скрыні. Эдмундзі і вокам не паспеў міргнуць, як кардонка з планам апынулася ў руках рудавалосай, якая, абышоўшы канапу ад акна, бесцырымонна падняла жалюзі і з апантаным нецярпеннем прынялася вывучаць план.

— Гэта старажытная штука, вельмі старажытная, старажытнейшая, чым страта гонару маёй прапрабабкай! Дзе ўзялі? — і, убачыўшы твар галаўкама, які пачаў надзімацца значнасцю

апрычнікаў, скурчыла кіслую міну, перасцерагальна выставіўшы наперад выкшталцоную далоньку з доўгімі пальцамі. — Толькі не ўкручвай мне, што гэта твае барбосы накапалі! Кішка ў іх тонкая! Добра, давай заданне, я згодная.

Гопс на ўсё згаджалася сама, калі гэта мела прысмак сапраўднай авантуры, так было з самага пачатку яе працы ва ўсёмагутным ордэне «Псіных галоў», сутнасць якога яна вывучыла настолькі добра, што пры выпадку магла выкарыстаць яго сілы ў сваіх шкурных мэтах, і, трэба сказаць, у гэтым яна была не адзіная. А што тут дрэннага, усякі выкарыстоўвае сваю працу на сваю карысць, што токар, што інжынер, што службовец, што той жа брат-апрычнік, няўжо ён горшы за іншых?

Яшчэ ў малалецтве перад паступленнем у Сарбону Гопс падкацілася да Эдмундзі, тады сярэдняй рукі апрычнага начальніка сталіцы, і той накінуўся на яе красу, як кот на валяр'янку. Сустрэчы станавіліся частымі, часам яна сама сабе дзівілася, адкуль усё гэта ў ёй бралася, бо не вучыў ніхто, не раіў, відаць, прыроджаны талент, вырашыла яна і стала ім карыстацца, нібы дамушнік адмычкай. Аднойчы, пакуль гаспадар кабінета спакойна пахропваў, аб'еўшыся «хуткаспелай клубнічкай», Эрмі, дрыжучы ад страху і ўзрушанасці, сперла ў яго ключы ад сейфа і за гадзіну перазняла на мікраплёнку ўсе аператыўныя дакументы на членаў нейкага элітнага пісьменніцкага клуба, а пісьменнікаў афіцыйная прапаганда тады доўга і ўзмоцнена рыхтавала ў галоўныя бунтаўшчыкі Айчыны. Але ўсё гэта на той момант было абсалютным глупствам, і нават па каравых даносах сэксотаў і стукачоў выходзіла зусім наадварот. Аднак якая дзяржава можа жыць і квітнець без унутранага, а таму і самага каварнага ворага? І вось на ганаровае месца ворагаў былі прызначаныя састарэлыя пісьменнікі, кнігі якіх ужо даўно не чыталі, а імёны і зусім пазабываліся. Але ў каго трэба — памяць доўгая, а таму пра іх было дакладзена на самы верх і прынята адпаведнае рашэнне. Юная Эрмі ў той час круціла сваё трэцяе сапраўднае і вар'яцкае каханне з пісьменніцкім правадыром, былым футбалістам і масцітым паэтам Таўром Пелапанэскім. Ратуючы каханага, як ёй здавалася, ад немінучай лютай згубы, яна і пайшла на гэты рызыкоўны крок. Фатаграфіі дакументаў сышлі за кардон, грымнуў скандал, каханага ніхто чапаць не рашыўся.

Аднак каханне, як і ўсё сапраўднае, мінула на крыўду хутка. Адгрымела кананада міжнароднай баталіі, Аб'еўра, а за ёй і Пышная сямёрка за сваіх стаўленікаў супакоіліся. У нетрах



трохлітарнага ведамства мінулі чысткі, разборкі і высвятленне шляхоў уцечкі сакрэтаў. Чалавек восем самых лепшых стукачоў падвергліі вышэйшай меры ліберальнай абароны; многія ў апрычным ведамстве пазляталі са сваіх месцаў і былі пераведзеныя ў радавыя банкіры; Эдмундзі, з-за блізкасці па лініі жонкі да вярхоў, не зачапілі, а нават даручылі яму кіраўніцтва грандыёзнай аперацыяй па разгроме шырокай шпіёнскай сеткі, якая бессаромна акапалася пад шыльдай «Англіканскага звязу» і нібыта загадвала справамі міру і адукацыі. Якія крывадушнікі! Аднак праправўнукаў «жалезнага дрывасека Фелікса» на альбіёнскай мякіне не правядзеш! Звяз быў разагнаны ў самыя кароткія тэрміны і без адмысловага шуму.

Вось тут, са сваімі расчараваннямі ў сардэчных справах і гатоўнасцю кінуцца ў любую авантуру, у другі раз і цалкам добраахвотна абвясцілася расквітнелая Эрмітадора Гопс, ці то дачка, ці то пляменніца састарэлага барона, а ў далёкім мінулым лідара моладзевага руху «Не чужыя». Барон і цяпер заставаўся неабыякавым да маладога пакалення і, мусіць, таму ўтрымліваў у сваім велізарным маёнтку прыют для дзяўчынак-сірот. Як і чаму там навучалі небарак, дакладна невядома, але некаторыя з іх за асобныя, толькі барону вядомыя заслугі адорваліся ягоным прозвішчам і тытулам. Кажуць, Эрмі якраз і была з іх.

Старое ўваскрасае хутка. Былая малалетка не толькі пасталела і ператварылася ў суперлюбоўніцу, але і аказалася вушлай вучаніцай па прамой прафесійнай прыналежнасці набіраючага саноўны цяжар апрычніка. Выпырхнуўшы з-пад удасканаленага ў сваёй езуіцкай мудрасці Эдмундзі, яна зажыла заблытаным, поўным небяспек і подласці жыццём. Справа «Англіканскага звязу» была толькі пачаткам яе шляху. Падчас вучобы ў лектаральнай зоне Француз-ага не без яе ўдзелу выліўся страшны скандал з выкрыццём тэрарыстычнай арганізацыі «Блакітныя брыгады», актывісты якой патрабавалі ўзнаўлення інтымнасці аднаполага кахання, забароны гей-парадаў або сумяшчэння падобных шэсцяў са святам дэсантнікаў ці першамайскіх дэманстрацый. Потым быў скандал з разбадзяжваннем нафты пад маркай адпрацаваных алеяў і нікуды не прыдатных мазутаў, потым не зусім прыстойныя гісторыі ў арабскім свеце, пасля чаго частка газавых здабыч адышла пад кантроль афраюсаў, і іх ястрабам нічога не заставалася рабіць, як прыступіць да вываду абмежаванага кантынгенту сваіх войскаў з Блізкага Усходу, а гэта аказалася яшчэ больш цяжкай праблемай, чым увод іх туды. Войска настолькі глыбока загрузла ў ваенных дзеяннях, што

кожны салдат, не кажучы ўжо аб афіцэрах, абзавёўся сваім персанальным гарэмам, даўно прыняў іслам, на ўсю моц гандляваў казённай маёмасцю і паленым бензінам на шматлікіх кірмашах былой Саддамаўскай імперыі. А ў гандлёвых справах у нас і сам чорт нагу зломіць, якая ўжо тут вайна? Ды і наогул у апошні час ваяваць стала не модна, бо як ні ваюй, сабе ж даражэй выходзіць.

Кіпела жыццё вакол Эрмітадоры, а падазрэнні нават лёгкім ценем не слізгалі побач з яе стройнымі ножкамі, якія служылі пастаментам для не менш апетытнай попкі. Вось такой знаходкай, а можа, і бядой для краіны зрабілася гэтая маладая жанчына, якая ўвайшла ў сілу.

— Па тваіх здольнасцях гэта прасцяцкае заданне, — адцягваючы ад акна агентшу, якая так і не дадумалася апрануцца, павучаў Касталомскі, — да Чулыма мы цябе даставім на самалёце, там легалізуешся. З нашымі ні ў якія кантакты не ўступаеш, шукаеш падставу, укараняешся ў банду свайго сябрука па Сарбоне, а ўжо з яго дапамогай да вадаспада рукой падаць. Сабой дарэмна не рызыкуй, другой такой, — умела ўсцешыў дасведчаны вярбоўнік, — у краіны няма, але да падыходу вайскоўцаў ты павінна ў пячорах пабываць, гэта вельмі важна. Аб тым, што там і з чым гэта ядуць, дакладзеш мне асабіста па спадарожніку. З чым ты там сутыкнешся, я не ведаю, не выключана, што цябе чакае сустрэча з самой што ні на ёсць чартаўнёй, хоць табе гэта і не ўпершыню, але быць напагатове трэба. Галоўнае, памятай: агента губіць, як правіла, не чартаўня, а элементарны чалавечы фактар ва ўсім яго непрадказальным разгільдзяйстве. Чорта пралічыць можна — чалавека ніколі! Без твайго дакладу вайскоўцы нічога прадпрымаць не стануць, хоць там гэты дурань Верабейчыкаў сядзіць, а ад яго ўсякага чакаць можна, так што ты паспрабуй не зацягваць з вандраваннем у бездань. Ты ж у мяне разумніца, — прыцягваючы да сябе ўжо напаўапранутую Эрмі, прабурчэў апрычнік, — нырнеш, зірнеш, ацэніш і назад. Спраў-та! Толькі малю, без самадзейнасці, цябе цяпер правядуць у наш спецсхоў і азнаёмяць з усімі матэрыяламі на гэтую тэму, спадзяюся, гэта табе дапаможа і зберажэ ад неабдуманых крокаў. І глядзі там у мяне, перад Махатмамі ногі не рассоўвай, а то з цябе станецца, я ж ведаю!

Эрмітадора памятала гэты інструктаж да драбнюткіх падрабязнасцей, да пылу на падаконніку ў пакоі адпачынку шэфа, да пахаў, гукаў і нават сваіх на той момант думак. Яна памятала ўсе свае наступныя дзеянні, гутаркі, асацыяцыі, памятала ўсе тры



сеансы сувязі, апошні быў якраз перад тым дурным стрэлам, які забіў яе. Смерці яна спалохацца не паспела, проста сонца стала чорным, а ўсё вакол шэрым, свет ліхаманкава закруціўся, утвараючы гіганцкую варонку, якая імкліва ўсмактала яе ў сябе. А потым апусканне ў бясконца-страхавітую пустэчу. Святло прыйшло нечакана, яна спачатку яго нават не заўважыла. Жыццё вярнулася ў цела гучным булькатам крыві ў пустых венах і артэрыях, хрыплым і напачатку арытмічным стукам сэрца; непрыемней за ўсё далося ўзнаўленне дыхання: грудзі раздзіраліся ад нясцерпнага болю, хацелася крычаць, але гуку не было, а толькі сіпенне-дыханне і боль. Яна паступова вярталася ў сябе. Ёй здавалася, што цела нібы вісіць у нейкім жаўтлявым марыве, якое паступова запавольвае сваё кручэнне і ператвараецца ў цёплае пругкае святло. Было ўтульна і добра, здавалася, што няма ні яе самой, ні матэрыяльнага свету з яго бедамі і жорсткасцямі, ёсць толькі бязважкасць і супакой, вечны і бязмежны супакой, з якога ўсё адбываецца і ў які ўсё вяртаецца. Потым быў нечы погляд, абстрагаваны і ўважлівы. Унутрана яна здрыганулася і павярнула да яго яшчэ невідушчы твар. З белых клубоў святла на яе глядзелі велізарныя шэрыя вочы. Глядзелі ўважліва, не міргаючы, у іх не было ні цеплыні, ні холаду, ні цікаўнасці, толькі ўвага і незразумелая, усеахопная сіла. Сіла, якая змагла стварыць немагчымае, вярнуць яе ў той стан, які ўсе мы прывыклі называць жыццём. Ці доўга гэта судакрананне поглядамі працягвалася, яна не памятае, раптам нешта як быццам пстрыкнула, і святло зрабілася не такім яркім, кручэнне спынілася, і яна пачала апускацца. Вось і ўсё.

Агоўталася Эрмі на лугавіне ля вадаспада. Вочы расплюшчыліся з цяжкасцю і не адразу. Навакольны свет здаўся ёй брыдкім і чужым, захацелася перастаць дыхаць, адчуваць, бачыць, хутчэй вярнуцца назад, у дабрадатную лёгкасць пустэчы і чакання пульсуючага святла, аднак аказалася, што самохаць чалавек гэтага зрабіць не можа, для гэтага ён павінен памерці.

А потым прыбеглі ўсе, гаманілі, трэслі яе, ціскалі, шчыкалі, прымушалі піць, есці і, самае страшнае, гаварыць. Гаварыць Эрмітадора ўпарта не хацела і баялася, голас быў зусім не яе, яна яго палохалася і чула нібы збоку, яшчэ цяжэй было жаваць і глытаць ежу, таму каб не пакрыўдзіць клапатлівага Сар-мэна, яна згаджалася піць гарбату і нейкія нясмачныя адвары. Цела паступова ўспамінала звыклыя рухі, паставы, жэсты, але разам з тым усярэдзіне разрасталася нешта новае, ёй дагэтуль невядомае, і таму гэта палохала. Жанчына са здзіўленнем адзнача-

ла ў сабе дзіўныя асаблівасці, напрыклад, яна не магла доўга знаходзіцца на сонцы, яго цеплыня імгненна ператваралася ў энергію, і тады яе распірала незвычайная прага дзейнасці, а цягліцы налівалiся свінцовым цяжарам і не ўласцівай ёй раней сілай. З яе фізічнымі магчымасцямі рабілася чорт ведама што. Яна без адмысловай патрэбы неяк вяртаючыся ў юрту атамана злёгку штурхнула нагой здаравенны, з бычыную галаву, камень, а той, нібы валейбольны мяч, паляцеў далёка, балазе нікога не забіў. Потым, каб сябе праверыць, Эрмі секанула тыльным бокам далоні па даволі тоўстай бярозе, і тая, як падсечаная сякерай, павалілася да яе ног. Ці, напрыклад, беручы ў далонь камень, яна сцераглася расціснуць яго ў пыл. Адкрыцці гэтыя нікольки яе не цешылі, але і, як ні дзіўна, пакідалі абсалютна раўнадушнай, — маўляў, так і павінна быць. Яшчэ адно дзівацтва пасялілася ў ёй: прыхільнасць да гэтага месца. Нібы хтосьці чужы штохвіліны нагадваў ёй аб неабходнасці быць напагатове, адчуваць таемнае і нябачнае жыццё навакольных гор, у якіх было ўтоена нешта вельмі важнае і недаступнае для яе разумення. Былі такія моманты, калі ёй здавалася, што яна — звычайны камень, якіх вакол раскінутыя тысячы, што яна проста частка гэтых панурых і ганарлівых уцёсаў, бясконцых распадкаў і асыпкаў, і што ёй трэба быць такой да вызначанага часу, да той пары, калі яе сіла і ўся яе існасць спатрэбяцца для чагосьці вельмі важнага і адказнага. Эрмітадора з радасцю разумела, што больш нікуды яна адсюль не сыдзе, а будзе заўсёды тут, і гэты падмесячны свет стане яе вечнасцю, яе ўсёпаглынальнай бездданню, і дзеля гэтага яна гатовая была трываць людзей, якія сталі ёй раптоўна нецікавымі, падаліся наіўнымі і дурнымі, якія не разумеюць свайго праўдзівага прызначэння. Сар-мэн раздражняў яе менш, чым усе астатнія, — чаму, яна не разумела, а калі, выспаўшыся, ён пацягнуў яе ў сваю паходную юрту, пачаў цалаваць, шаптаць нейкія дурасці і ад нецярпення раздзіраць на ёй адзежу, яна, не ведаючы, навошта, падпарадкоўвалася яму, а потым так рассмакавалася, што некалькі разоў прымусіла здзіўленага мужыка паўтарыць тое, чаго ён так хацеў ад яе спачатку.

— Ну ты даеш, Эрмік! — захоплена прашаптаў дарэшты затомлены атаман, засынаючы сном малатабойца, які вярнуўся ўвечар з кузні.

Эрмітадора са здзіўленнем адзначыла, што «гэта» засталося ў ёй такім жа жаданым, як і ў той, мінулай, цяпер ужо далёкай і не заўсёды знаёмай ёй Эрмі. Дзіўна, але блізкасць з мужчынам, як і доўгае знаходжанне на сонцы, зараджала яе новай энергіяй і патрабавала нейкай неадкладнай дзейнасці. Прыкрыўшы коўдрай галізну атамана, яна апранулася, выйшла з юрты, бязмэтна пабадзялася па лагеры і набрыла на дрывасека, узрадавалася і, узяўшы ў рукі сякеру, пачала калоць дровы. За гэтым заняткам і заспеў яе Макута-бей са сваёй спадарожніцай.



Бабка ўважліва агледзела дзіўную дзеўку, якая лёгка махала цяжарэнным калуном з непад'ёмнымі нават для мужыкоў піхтавымі круглякамі, пахітала галавой і патэпала прэч, нешта шэпчучы сабе пад нос.

— Ну і што, цётка, скажаш? — дагнаў яе Бей. — Сапраўдны яна чалавек ці нежыць?

— Іхняя яна, іхняя! Толькі не вядома мне, у чым спатрэбіцца ёй прызначанае, адно я табе скажу, мілы чалавек, не пярэч ты ёй дзеля сваёй жа карысці. Ох, і кепска будзе таму, хто супраць ейнай волі задумае стварыць чаго няпутнага! А лепш бы вы, галубы мае шызыя, ішлі б сабе па дамах, пакедава жывыя і здаровыя, няма чаго вам тут мазоліцца. Калі яны яе тута паставілі, то ўжо, відаць, усё і самі ведаюць, што ды як… Дык дзе ж твая хвалёная гарбата, плямяш? — цётка задумалася, замарудзіла крок, нагнулася, сарвала нейкую націнку, пакруціла яе ў руках і, павярнуўшыся да Макуты, дадала: — А мо ты і праўду кажаш, для падстрахоўкі і вам варта тутай патырчаць гэнту ночку, пакуль усё схаваецца. Вядома, сцеражонага сцеражоны сцеражэ. Насамрэч давай-ка гарбату ды пайду я. Бач, сонечка на шасток збіраецца, мой шлях-та няблізкі, а вадзіца надта тамака патрэбна…

— Не хвалюйся, цётка, дам я табе і людзей, і каня, усё ў лепшым выглядзе выканаюць. А вось і дастархан наш, — вымавіў разбойнік, паварочваючы за невялікую скалу, дзе на шырокім горным уступе, што навісаў над маладой рачулкай, невялікай лугавінай і тым самым дзіўным вадаспадам, масцеравітыя горцы ўжо згламэздалі падстрэшак са сталом і шырокімі лавамі, пакрытымі дыванамі. На чале стала стаяла вялікае атаманава крэсла. — Ну, размяшчайся, найстарэйшая майго роду, а я пайду Сар-мэна клікну.

— Ды не дагукаешся ты яго, атаман, — адазваўся аднекуль Мітрыч, — дрыхне ён як забіты. Народ гаворыць, з гэтай рудой нацешыўся да поўнай адключкі і ўжо з гадзіну як спіць, а зазноба яго, чуеш, калуном няспынна махае.

— Ды ўжо надзівіліся, — размясціўшыся на лаве насупраць цёткі і начыста праігнараваўшы крэсла, кіўнуў Бей. — Мітрыч, ты б гэта… з гарбатай распарадзіўся, ды хай ведзьмам ад мяне гасцінцаў збяруць, глядзіш, яно, можа, калі і спатрэбіцца. І яшчэ,

падбяры пару хлопцаў, ды каб разумнейшых і больш надзейных, з цёткай пойдуць. І хай з дзясятак пустых бурдзюкоў збяруць, вунь бабка ім пакажа, дзе і якой вадзіцы набраць…

— Сама набяру, у гэнтым памочнікі без патрэбы, — перабіла сваяка задаволеная старая.

26

Генерал-Намеснік быў вельмі збянтэжаны, яму толькі што ласкава паведамілі дзіўнаватую навіну: у падведамны яму і цалкам забыты Усёвідушчым Вокам Чулым толькі што прызямліўся верталёт усёмагутнага верхавода апрычнікаў генералісімуса Касталомскага.

«Гэтага-то якія чэрці прыгналі ў наш край і, галоўнае, перад вырашальным этапам распрацаванай мной аперацыі? Не, нездарма гэтакая аказія!» — перабіраў тысячы розных адказаў генерал, крочачы па перыметры сваёй рэзідэнцыі, у якую часова ператварылі жыллё стомленага палонам Понт-Калацыйскага. Падпарадкоўваючыся яшчэ немаведама калі заведзенай традыцыі, Верабейчыкаў як кадравы вайяка пагарджаў людзьмі псінага ведамства, без патрэбы не лез да іх у прыяцелі, ды і руку пацiскаць не спяшаўся, лічачы гэта ніжэй сваёй афіцэрскай годнасці. А тут на табе, самага галоўнага людаеда чорт прыгнаў! «Ох, і нездарма гэты візіт, а галоўнае, нічога добрага абяцаць ён не можа. Я нешта і не прыпомню, каб гэты людажор далей, чым кіламетра на паўтара ад трона адлучаўся, ды яшчэ так надоўга». Намеснік спыніўся ля акна і пачаў разглядаць павольнае жыццё сельскай раніцы. У іншыя часы гэтая так мілая гарадскому сэрцу ідылія прывяла б зацягнутую чэрствасцю генеральскую душу ў нейкае падабенства замілавання, аднак сёння лянота прыроды і няспешнасць у руху людзей і скаціны яго злавалі. «Вось з-за гэтай вечнай марудлівасці і адбываюцца нашыя адвечныя беды, у ёй і ўтоеныя вытокі нашага рабства і вечнага панавання над намі Касталомскіх ды іншай набрыдзі. І ўсё ж якога чорта ён сюды прыпёрся? — павярнуўшыся да акна спінай, працягнуў свае невясёлыя думы Намеснік. — Ну ды добра, з'явіцца, сам растлумачыць. Аднак сустракаць яго я на ганак не выйду! Вялікі гонар, хай чэлядзь лебязіць».

Падышоўшы да дзвярэй, генерал гучна раўнуў:

— Сатрапы! Жыва арганізаваць на верандзе ваенсавет. Пяць хвілін тэрміну! — і, задаволены сабой, прыняўся апранаць палявы мундзір з палегчанымі камуфляжнымі рэгаліямі.



Роўна праз пазначаную колькасць хвілін ён урачыста выйшаў на веранду намесніцкага дома і ўразіўся аператыўнасці падначаленых. На сценах былі панавешаны нейкія схемы і навучанні, шырачэнны стол, які немаведама адкуль узяўся, ператвораны ў макетную скрыню, што адлюстроўвае ландшафт будучых батальных дзеянняў. Сувязісты завяршалі падлучэнне паўтара дзясяткаў розных тэлефонных апаратаў.

— Малайцы, малайцы! — прымаючы са срэбнай талеркі заінелую чарку, вымавіў генерал: — Сокалы! Камандзіраў палкоў да мяне! — і, захрумстаўшы маласольным агурочкам, рушыў да макета.

Пакрыўджаны відавочнай няўвагай Эдмундзі Чэкісавіч кіпеў праведным апрычным гневам. Так ужо было заведзена ў іхнім ведамстве, што ўсякая непавага любога, нават самага дробнага кадастравіка, прыраўноўвалася да абразы самой дзяржавы, знявагі яе інтэрасаў і патрабавала адпаведнага пакарання. А тут яго, самага ўсёмагутнага і жудаснага, на аэрадроме, у які на скорую руку пераабсталявалі школьны стадыён, сустрэлі падначаленыя і нейкі незразумелы блазан-стары ў дапатопным мундзіры, які адрэкамендаваўся, запінаючыся ад страху, камендантам мясцовай крэпасці. Добра хоць ганарлівая шэльма Верабейчыкаў зрабіў ласку даслаць свой аўтамабіль.

Каля штабной хаты ўжо на ўсю моц тарабанілі рухавічкамі тры магутныя радыёстанцыі, у чацвёртай, з парабалічнымі антэнамі, мацюкаючыся, хадзілі ваенныя.

«Ён што — у космас сабраўся кагосьці пасылаць? — са здзіўленнем аглядаючы ўсё вакол, падумаў галоўны апрычнік, праціраючы круглыя акуляры. Акуляры-ровары, як і казліную бародку, значок чальца Прэзідыума Вярхоўнай Рады, гадзіннік на правай руцэ, мехаватыя гарнітуры айчыннага крою і многае іншае ён насіў выключна з прыхільнасці да пераемнасці: як бы ні пераназывалі грознае ведамства, лічыў Касталомскі, як бы яго ні рэфармавалі, але пераемнасць павінна няўхільна захоўвацца, а інакш нельга. Інакш — канец: усё разваліцца, разбяжыцца, і тады мора крыві, разлітае ў родных склепах, ператворыцца ў халодны кашмар. Толькі пераемнасць, якая як кругавая парука, можа ўтрымаць карны меч суверэннай дэмакратыі ў праведных руках і забяспечыць дзяржаве адзінства, а народу падпарадкаванне і ўменне спраўна працаваць на свой жа дабрабыт.

Вайскоўцы, захопленыя сваімі справамі, не звярталі ўвагі на худога і доўгага чалавека ў цёмным камбінезоне са злавеснай абрэвіятурай Кадастра, акружанага такой жа, як і ён, цёмнай

світай. Касталомскі, заціскаючы ўнутраную абуранасць, няспешна падымаўся па прыступках на веранду, ужо зацягнутую маскіровачнай сеткай.

— Грамадзяне свабоды! — гыркнуў над ягонай галавой Верабейчыкаў.

Апрычнік ледзь быў не спатыкнуўся ад нечаканай каманды, якая замяніла пры Пераемніку Чацвёртым старарэжымнае «Зважай!».

Усё вакол замерла і аслупянела, нават бабы, якія мылі ўдалечыні камуфляжныя зрэбнікі, застылі, сабакі перасталі брахаць, а дызелі сувязістаў залапаталі паважней і цішэй.

— Ваша Непахіснасць, Член правадзейнай тайнай рады Яснавяльможнага Дэмакрата! Даручанае мне войска рыхтуецца да правядзення сакрэтнай аперацыі па выкананню найвысокага вердыкту…

— Дабрыдзень, дабрыдзень, дарагі Урза! Вельмі рады вас бачыць! — працягваючы руку генералу, вымавіў апрычнік. Генерал як бы ад безуважлівасці (а што ты з кантужанага спытаеш?) праігнараваў поціск рукі, ліха казырнуў і гаспадарскім жэстам запрасіў высокага госця ў палацы ваеннай таямніцы. Вось якая таямніца можа быць у вёсцы? А бач, Глафіра, якая нібыта бесклапотна чакала Ціхана, хутка падазвала да сябе дваровую дзеўку, нашаптала ёй чагосьці на вуха, саўганула ў руку цыдулку і адправіла гаспадыні чарговае паведамленне аб становішчы крэпасці. І такіх пасланцаў у розныя канцы адправілася нямала.

— Галоўнай сваёй задачай, — круцячы ў руках доўгую алюмініевую ўказку, пачаў дакладваць аператыўную задуму Верабейчыкаў, — я бачу належным чынам арганізаваную ахову і абарону вызначанага Яснавяльможным аб'екта. Аб'екту для ўтоенага пазначэння мною прысвоены кодавы назоў «Шашня». На блізкіх падыходах да «Шашні» цяпер актыўна вядзецца агентурная выведка. Не пазней заўтрашняга дня будзе прадпрынята поўнае акружэнне як самога аб'екта, так і подступаў да яго. Для гэтага мною плануецца задзейнічаць: прыладаў артылерыйскіх — семдзесят чатыры, восем самаходных рэактыўных комплексаў, кулямётаў — сто шаснаццаць, жывой сілы змешанага саставу — да трох з паловай тысяч, баявой абарыгеннай конніцы — сто дваццаць вершнікаў…

— А не маглі б мы з вамі куды-небудзь адасобіцца, ласкавы спадар Намеснік, — як бы прапускаючы між вушэй даклад, помсцячы за непрыняты поціск рукі, халодна вымавіў апрычнік і, не чакаючы адказу, накіраваўся да дзвярэй у хату.



Верабейчыкаў, злосна зірнуўшы на падначаленых, затупаў следам.

У сенцах панаваў заўсёдны вясковы прыцемак. Касталомскі на хвіліну замарудзіўся, даючы абвыкнуць вачам да беднасці асвятлення.

— Дазвольце на правах гаспадара праводзіць Вашую Непахіснасць ва ўнутраныя апартаменты, — адціскаючы ў нешырокім калідоры высокага госця, вымавіў генерал і піхнуў другія дзверы, за якімі размяшчаўся самы прыстойны пакой ва ўсёй крэпасці — старая бібліятэка.

Кнігі былі паўсюль, высокія, да столі зашклёныя кніжныя шафы з цікаўнасцю ўтаропіліся на зайшлаў, здзіўляючыся, навошта ў гэтае сховішча мудрасці завіталі гэтыя спадары, якія відавочна не чытаюць. Ля акна стаяў шырокі стол з газавай лямпай пад жалезнай дахападобнай засняй, старадаўняе, з разьбяной спінкай і падлакотнікамі, крэсла. Злева прымастаколілася пад кніжнымі стэлажамі невысокая скураная канапа з круглымі мяккімі валікамі і акуратны, відавочна нядаўняй работы, кніжны столік.

— Вось тут нам ніхто не перашкодзіць, будзьце добрыя, размяшчайцеся, дзе душы заманецца, — здабываючы было згубленую ініцыятыву, запрасіў Намеснік.

Аднак госць не спяшаўся рушыць услед прапанове і пачаў з цікаўнасцю разглядаць кнігі.

— Божа ты мой, Божа! — расхінуўшы скрыпучую створку і беручы наўздагад першую, якая трапіла, кнігу, здзівіўся апрычнік — ды тут жа суцэльная крамола! Так-а-ак, А. Лебедзь «За дзяржаву крыўдна!» — ён саўгануў кнігу назад і, сашчапіўшы рукі за спінай, нібы баючыся запэцкацца, пільна ўчытваўся ў назовы збеглых у далёкі Чулым кніжак. — «Гісторыя дзяржавы Расійскай» Карамзіна, Слоўнік Бракгаўза і Эфрона, а далей і яшчэ горш: Вярнадскі, Салжаніцын, Быкаў, Астаф'еў, Бялоў, Распуцін, Морыц, Кіплінг, Бёль, Шэкспір, Булгакаў! Жах, жах! — здавалася, яшчэ трохі — і ён страціць прытомнасць. Тут, у гэтым невялікім пакойчыку было спрасаванае ўсё сусветнае паскуддзе, якое ўжо, мабыць, з паўстагоддзя калёным жалезам выпальваюць на ўсёй планеце, а асабліва ў нашай непахісна дэмакратычнай айчыне. — І хто, цікава, гэта ўсё збіраў? Генерал! Вы што, ахранелі? Ды вы наогул цяміце, што робіце? Гэта ж форменная здрада Радзіме! У вас у акуёме ў цэласці і захаванасці знаходзяцца самыя небяспечныя для вальнадумства прадметы, а вы тут расслабляецеся, п'янствуеце, дзевак па лазнях шчэміце!

Ды я вас! — апрычнік рэзка крутануўся на абцасах да генерала ды імгненна памякчэў: на яго ва ўпор глядзеў ліхой чорнай зрэнкай ствол старога і вернага кольта.

— Давай вось што, пыса жандарская, прыкусі свой язык, гэта па-першае; па-другое, перад табой баявы генерал, і я цябе зараз прыстрэлю, як апошнюю суку, ды спішу на натуральныя страты; па-трэцяе, рускі афіцэр ні храна, акрамя статутаў, навучанняў і парнухі не чытаў, не чытае і чытаць ад нараджэння не будзе; і, нарэшце, па-чацвёртае, мараць рукі спальваннем кніг, як і мірных жыхароў, я не навучаны. Хочаш, сам падпальвай, я бачу, там на стале запалкі ляжаць, давай дзейнічай, а я пайду пакуль аперацыю рыхтаваць, старэйшым у гэтай справе мяне, а не цябе, Яснавяльможны прызначыў. Палі, толькі ведай, дзверцы я падапру, а да акна мужыкоў з рагацінамі прыстаўлю.

— Пачакай, ваяка! — асіплым ад спалоху голасам выціснуў з сябе аблезлы галава апрычнікаў. — Пераемнік прыняў іншае рашэнне і прызначыў мяне адказным за выкананне гэтага далікатнага задання, вы, генерал, паступаеце ў маё поўнае распараджэнне. Ды апусці ты пісталет нарэшце! Ён жа ў цябе, нябось, зараджаны?

Генерал саўгануў пісталет у кабуру.

— А на пісьмовы прыказік можна пацікавіцца?

— Вось, — з палёгкай апускаючыся на канапу, вымавіў апрычнік, дастаўшы з невялікай палявой кайстры даўгаваты канверт і расшпільваючы спацелымі пальцамі гузік каўняра.

— Так, ясна, — суха адчаканіў генерал, — я начальнік — ты дурань, ты начальнік — я дурань! Дык якія будуць указанні?

Іншым разам Эдмунд Чэкісавіч не прамінуў бы паздзекавацца са старога служакі, ды што там паздзекавацца, удзеланага ваяку ўміг бы ўпяклі ў Лубяныя склепы — і ніякія ранейшыя заслугі не выратавалі б яго ад дыбкі, але цяпер было не да таго.

— Вы са сваім пацешным войскам у прынцыпе працягваеце займацца тым жа, атачаеце і бераце пад ахову ўваход у таемнае схованішча падземных сіл. Мне здаецца, вы згадалі пра абарыгенную конніцу?

— Так, такая маецца, — паніклым голасам адказаў экс-глаўкам, — да паўтары сотняў добрых рубакаў, але ў абароне яны малаэфектыўныя…

— Адбярыце з іх чалавек трыццаць вузкавокага выгляду, пераапраніце ў кітайскую ваенную форму і пакіньце дзе-небудзь у рэзерве. Калі я вам падам сігнал, накіруйце іх на свае пазіцыі, нібы для праверкі пільнасці, кулямётчыкам у ачапленні аддайце



загад у выпадку з'яўлення ханьцаў адкрываць агонь на паражэнне. Пасля расстрэлу ўяўных ворагаў здымайце войскі і сцягвайце іх як мага бліжэй да вадаспада, пад які замаскіраваны ўваход у гэтую, як тамака ў вас?..

— «Шашню»!

— Вось-вось, да яе, роднай, і падцягвайцеся. Гэта, можна сказаць, кульмінацыяй усёй вайны і будзе. Спадзяюся, вы са сваім багатым франтавым досведам уразумелі галоўную задачу?

— У прынцыпе так, але…

— З гэтага моманту ніякіх «Але», а то вы, генерал, з усім гэтым гаўном, — апрычнік абвёў рукой вакол сябе, — да канца сваіх дзён не ўбачыце святла божага, а ў казематах будзе звышдастаткова часу, каб навучыцца чытаць не толькі ваенную, але і літаратуру больш эратычнага складу. А цяпер ідзіце, я адпачну з дарогі, калі ў вас не будзе пярэчанняў, — пацягваючыся, з'ехіднічаў член Кадастра. — Да, генерал, невялікае ўдакладненне: вузкавокія павінны бесперашкодна прайсці амаль да самага вадаспада, ну і ў метрах ста ад яго напароцца на вашыя кулямёты. Кулямётную каманду таксама падбярыце з намерам, каб не было знаёмцаў, а яшчэ лепш, каб нашыя байцы люта ненавідзелі кітаёзаў. Вам зразумела?

— Зразумела, толькі ж салдат шкада. Свае сваіх… можна сказаць…

— Можна сказаць. А можна і прамаўчаць, ды і наогул аб гэтай задуме варта моцна маўчаць і вам, і вашым падначаленым, якіх вы да выканання прыцягнеце, — абыякавым тонам перабіў яго апрычнік, гучна пазяхаючы. — Калі я праз гадзіну не прачнуся, пашліце каго-небудзь разбудзіць.

Не паспелі за відавочна ашаломленым генералам зачыніцца дзверы, а маскоўскі госць у даспелай дрымоце яшчэ мучыўся пытаннем: здымаць ці не здымаць цяжкія і нязвыклыя для яго вайсковыя чаравікі, як у бібліятэку асцярожна ўвайшоў стары, які сустракаў Эдмундзі на аэрадроме, з падушкай і тонкай вярблюджай коўдрай. Боты, каб не стукаць абцасамі, ён зняў яшчэ ў калідоры, мякка тупаючы ў высокіх вязаных шкарпэтках, падышоў да канапы, прыпадняў саноўную галаву і паклаў яе на прахалодную і пахкую чысцінёй падушку. Хутка і спрытна сцягнуў з госця чаравікі, ахінуў ногі коўдрай і бязгучным ценем выслізнуў прэч. Нейкае пачуццё падзякі і захаплення за свой народ віхнулася ў сонным мазгу службоўцы, хоць ні ён, ні яго

продкі да гэтага народа не мелі ніякага дачынення і глядзелі на яго выключна са спажывецкага пункту гледжання.

І прысніўся апрычніку сон.

Уваходзіць ён у знаёмы да аскомы трыбунал і накіроўваецца да свайго законнага месца экзекутара, а яго спыняе дзіўнага выгляду вартавы, нейкі ўвесь плоскі і дабрачынны, і без усякіх тлумачэнняў запіхвае яго ў клетку для падсудных. Не паспеў Эдмундзі Чэкісавіч і апамятацца, як за ім ляснулі закратаваныя дзверы і суха, як стрэл, пстрыкнуў замок.

Падкowападобная ўрачыстая зала Усенароднага Трыбунала з гэтай лавы выглядала зусім інакш, чым з яго звыклага крэсла. Усё было больш прысадзіста, блякла, убога і аддалена нагадвала хлеў, нават пазалочаная вяршыня дэмакратыі, судзейскі стол, — і той быў падобны на набрынялую дамавіну. Але больш за ўсё жандара ўразіла публіка, якая сабралася ў зале. Тут не было ні вайсковых фрэнчаў з пагонамі і аксельбантамі, ні шытых залатымі пазументамі статс-мундзіраў, ні крыналінаў, ласых да страшных прысудаў прыдворных дам: на цвёрдых і няёмкіх дубовых крэслах сядзелі кнігі. Сотні, а можа, і тысячы размаітых, худых і тоўстых, старых і яшчэ па-маладому глянцаватых тамоў. Яны былі маўклівыя і суровыя, на тытулах няяўна праступалі такія ж непрыступныя асобы іх аўтараў. У зале панавала нязвыклая для відовішчнага месца цішыня.

— Устаць, суд ідзе! — абвясціў судовы прыстаў.

За судзейскі стол праціснуліся тры аб'ёмістыя тамы ў цёмных мантыях з ажурнымі каўнярамі і абшлыўкамі. Калі суддзі звярнуліся да залы і занялі свае месцы пад высокімі спінкамі крэслаў сляпой Феміды, Касталомскі пахаладзеў: ад гэтых чакаць паблажкі і патуранняў не даводзілася. Старшыню-кнігу ён пазнаў адразу, гэта быў «Архіпелаг ГУЛАГ», справа ад яго руплліва гартаў таўсценную справу важкі том «Ідыёта», а вось левага суддзю ён ніяк не мог узгадаць, хоць і з гэтай кнігай ён відавочна дзесьці сутыкаўся.

— Вось гэтыя барадатыя, хутчэй за ўсё, Маркс з Энгельсам, а голены — Пляханаў, — амаль у патыліцу апрычніку прашаптаў знаёмы голас.

— Ды кіньце вы, з барадамі — Леанарда да Вінчы і Леў Талстой, а безбароды — Шыкпір… — і гэты голас, які пярэчыў першаму, быў яму знаёмы.

— Шаксьпір — гэта камедыянт з Літвы, — грунтоўна паправіў хтосьці знаёмым да болю шапатком.



Эдмундзі не вытрымаў і азірнуўся, клетка была бітком набітая размаітым народам. Многіх ён ведаў і толькі ўчора з імі расстаўся, іншыя асабіста былі не знаёмыя, але вядомыя па малюначках, гістарычных хроніках і дакументах спецсхова. Тут сядзелі, чакаючы сваёй долі, амаль усе Пераемнікі са сваёй дворняй; нейкія замшэлыя цары і дыктатары, паэты-песеннікі, збянтэжаныя дэтэктыўшчыкі, аўтарыцы любоўных раманаў і яшчэ хтосьці, безаблічны і ледзь улоўны.

— Працэс «Літаратура супраць улады» аб'яўляю адкрытым! — Стук малатка балюча гухнуў па барабанных перапонках.

Пракурорам выступаў і зусім нікому не вядомы таўшчэзны том. Насельнікі клеткі і так і сяк выварочвалі шыі, каб прымудрыцца прачытаць пазалочаны надпіс на пацёртым карэньчыку кнігі.

— Пу-шкін, — шаптаў па складах Уладзісур, прасунуўшы вузкі твар між жалезных дубцоў.

— Артылерыст нейкі, — паспрабаваў адгадаць спадар са слаба знаёмых.

— Ды не, тамака наперадзе перад гэтымі «гарматамі» яшчэ слова «ас» напісана, — уцягваючы галаву назад у клетку, вымавіў былы галоўны дарадца.

— Артылерыст і лётчык? Няўжо такое бывае? — разнерваваўся Пераемнік Трэці. — А дзе ў нас міністры абароны?

Усе шэсць міністраў апынуліся ў наяўнасці. Яны, карыстаючыся ўсеагульным замяшаннем, ужо паспелі адабраць у міністраў культуры іх лаву, паставілі яе паміж дзвюма сваімі, насаджалі сабе на калені рублёўскіх і правінцыйных пісьменніц павульгарней і самазабыўна рэзаліся ў «пераваднога дурня». Ардынарцы зацiхлі з бутэлькамі і прэзерватывамі напагатове.

— Ды вас бы за такое наплявальніцкае стаўленне да справы народа варта было б паставіць да сценкі, — скрушна хітаючы галавой, вымавіў Сталін і, пыхнуўшы люлькай, дадаў: — Вунь пасля мяне ўсё чыста: ні міністраў, ні культуры, затое якая літаратура засталася!

— Ты нас, вусаты, сценкай не палохай, мы пад ёй па пасадзе сваёй ходзім, — смачна хлестануў картай аб лаву міністр Пераемніка нумар пяць, — а сямёрачку красцёвую ці не дазволіце, спадары?

— А мы да яе чырвовую-с і ў перавод, — адазваўся галоўны воінскі начальнік пераходнага перыяду часоў Пераемніка Першага і Другога, камерцыйнага выгляду мужчына з круцельскімі

вачыма. — Мы-с толькі пад мэблевай сценкай хадзілі, іншых, прабачце велікадушна, і не бачылі-с.

— Артылерыст таксама можа быць асам, — зграбаючы карты, выказаўся міністр Трэцяга Пераемніка, — гэта значыць, што класны стралок, адным словам, бог вайны!

— Ды Пушкін гэта! — віскатліва выгукнуў боравападобны службовец са смешным прозвішчам, які заведваў грашыма кіно, абіраў жабрацкія бібліятэкі і клубы, а свае мільярды скалаціў на спекуляцыях музейнымі каштоўнасцямі ў закардонныя калекцыі.

— Так-так, абавязкова гэта Аляксей Самуілавіч, наш дэмаградскі паэт і выхаванец, — дагодліва падтакнуў Шустрыку яго змоўшчык па музейным бізнесе Пішыпрапаўскі, злёгку крывабокі мужык з вечным шалікам вакол шыі, які, як гавораць дасведчаныя людзі, ён адмаўляецца здымаць нават у парылцы.

— Аляксандр Сяргеевіч! — захацелася з абурэннем паправіць музейшчыка, але асцярожны Касталомскі прамаўчаў і пачаў запамінаць усё, што гавораць навакольныя, так, на ўсякі выпадак.

А тым часам родапачынальнік славеснасці хвацка чытаў абвінаваўчае заключэнне. Але насельнікам клеткі было не да яго. Пераемнікі, хоць і шэранькія ўсе, як на падбор, невялічкія, а штурханіну між сабой задумалі прыстойную. Аднак справядлівасці дзеля варта абмовіцца, што родапачынальнікам усякіх пярэчанняў, як заўсёды, быў упарты Горбі. Сёння яго ўжо ніхто толкам і не памятае, хіба што ў глянцавых часопісах зрэдку мільгане старая рэклама модных кайстраў або піцы, з якімі, як дурань з пісанай торбай, насіўся былы генеральны сакратар усевелічайшай партыі. Большасці народу так і невядома, кім калісьці была гэтая старажытная старэчына, але цяперашнюю сварку задумаў менавіта ён:

— А вось Макса Раісаўна такога б не стрывала, каб бацькузаснавальніка, ганаровага масона шостай гільдыі — і ў клетку…

— Ну ты, разумееш, заткнуўся б! — зароў Бэн, які сядзеў побач і, як заўсёды, быў крышку пад шафэ. — Я вам, расіяне…

— Гэй, дзядзька, — злёгку папляскаў яго па плечуку Князь Арон, — няма ўжо ніякіх расіян, яны яшчэ пры мне дадружыліся і пачалі рассасвацца, так што ўважаць дыялектыку нада, навука такая была…

— Яшчэ мне дыялектык хрэнаў знайшоўся, ды каб я, блін, толькі ўявіць мог, што ты такія фарцэлі выкідваць пачнеш, сваімі ўласнымі рукамі задушыў бы, паскуду! — мацёрая глыбішча адзінага ўсенародна абранага ўладара страшэнна навісла рэальнай небяспекай над запалоханым Князем.



І тут такое пачалося, што, калі б не клетка, сабраныя тамака асобы перагрызлі б добрага паўсвету. І суддзі, і пракурор, і паважныя адвакаты, і ўся зала замоўклі і са здзіўленнем утаропіліся на падсудную брацію, якая стагнала, біла ды грызла саму сябе.

— А каб чытачы іх убачылі ў такім выглядзе?! — вымавіў з уздыхам трэці прасветлены суддзя, і апрычнік пазнаў яго — гэта была кніга «Мёртвым не баліць» Васіля Быкава…

— Ваша непахіснасць, ваша непахіснасць!

Касталомскі, як механічная сава, шырока размружыў вочы. Ён так прывык прачынацца, але дурны сон усё ніяк не хацеў адыходзіць, яго зноў з усіх бакоў атачалі кнігі.

— Ды гэта ж, чорт бы яе пабраў, бібліятэка! — канчаткова ўваходзячы ў рэальнасць, мацюкнуўся апрычнік і толькі цяпер заўважыў побач з канапай старога каменданта са старадаўнім медным гарлачом і чыстым ручніком.

— Хадзем, бацечка-пан, мыцца, а тамака ўжо і да Генерала-Намесніка на абед збірацца пара.

— Збірацца, кажаш, ну-ну. Паслухай, стары, а адкуль у вас гэтая бібліятэка? — бачачы здзіўленне на твары ваякі ад незнаёмага слова, Эдмундзі паказаў рукой на кніжныя шафы.

— А, эфта! — узрадаваўся Ціхан, прачыняючы дзверы ў сенцы, — дык кніжыцы гэтыя адвеку за нашай фартыфікацыяй лічацца. Я вот апошні час за імі даглядаю, каб хто па непісьменнасці сваёй на самакруткі не спёр. Яны ж, кніжышчы гэнтыя, дзяржаўны, выходзіць, атрыбут, і штэмпелі маюць гербавыя. А многія кнігі, дык яны ссыльныя, аўтары-та папераўмёрлі, а кнігі, бач, засталіся…

## 27

Даша зірнула на дарогу і самлела. Следам за немаведама адкуль узніклым вайскоўцам з велізарнай сукаватай палкай у руках краўся яе Юнька. Не паспела дзяўчына спалохацца, як гэты дубец бухнуў на галаву незнаёмца, і той, гучна войкнуўшы, грукнуўся з усяго росту носам аб камяністую сцежку.

Даша выскачыла са свайго схованчча і кінулася да наканаванага, гатовая быць падмогай у гэтай небяспечнай і нязвыклай для яе справе. Аднак дапамогі адмысловай не спатрэбілася. Юнь — і адкуль толькі спрыт узяўся — ужо звязваў рукі і ногі беспрытомнага чалавека сваім рамянём ад нагавіц. Відаць, учуўшы дзіўныя гукі, з-за павароту да іх спяшаліся Енах і Машка.

— Енах Мінавіч! — камандаваў Юнь. — Мы бяром гэтага парсюка і айда ўніз, а то яшчэ за ім яшчэ хтось прытопаць можа. Ты, Дашка, вазьмі і якой галінай яго кравень са сцежкі сцяры ды пылам прысып, а вы, паненка, бярыце ягоны наган, ды глядзіце, ні на што не ціскайце…

Усё адбылося хутка. Палонны яшчэ не паспеў і ачухацца, як яго прывалаклі да атамана. Юньку бандыцкі народ віншаваў і па-добраму пад'юджваў: маўляў, панаслаў урад таптуноў і выведнікаў, што сумленнаму бандыту і ў лес схадзіць з мілахай нельга, так і ягада пераспець можа. Даша пасмейвалася, употай касавурачыся на паненку, падбіраючы належны момант, каб неўзаметку адцягнуць тую ў зацішнае месца ды пераапрануць, пакуль надзвычай вірлавокія бандыткі не разгледзелі ейны выгляд. «Ну і гад жа гэты Енах, ужо не мог да прыстойнага месца, ужо хоць бы з ложкам, датрываць…»

Знайшоўшы хвіліну, калі ўсе згрудзіліся вакол стала, яна пацягнула невясёлую гаспадыню ў іх з Юнькай будан.

Нічога не кажучы, толькі моўчкі ўздыхаючы і часам хліпаючы, дзяўчаты прыселі на бервяно перад увaходам у новы будан. Шчымота нейкай беззваротнай страты аб'ядноўвала іх у гэтыя хвіліны. Векавая салідарнасць, гэтая іх агульная прыналежнасць да горкага бабінага свету, пудовым цяжарам навалілася на іх далікатныя, яшчэ па-дзіцячы вуглаватыя плечыкі, было тужліва, — вось і яшчэ адна юная душа пераступіла трапяткую рысу і кінулася ў жаданую бездань, і нікому не дадзена ведаць, што яна ў сабе ўтойвае для кожнай на дне вялікага акіяна штодзённасці.

Потым Даша, з асцярогай азіраючыся, зацягнула дзяўчыну ў будан. Хутка распранула сваю гаспадыню, пакудахтала, павохкала, пры гэтым акуратна змазваючы ўсё пазбітае і падрапанае прахалодным і пахкім алеем. Затым дастала з вялікага цюка Машчыны спадніцы і кофты, якія мінулай ноччу перадала старая пані, дапамагла ёй апрануцца, прычасацца і, пакінуўшы адпачываць, сама панеслася да народа, які ўжо перамясціўся з-пад цеснага падстрэшка да старога разлапістага дуба ля рачной лугавіны.

Макута-бей сядзеў на пакрытай аўчынай калодзе, справа на ніжнім суку дуба ўжо боўталася вялікая пятля, злева, абапёршыся на доўгі тронак дапатопнай сякеры, балванам тырчаў пануры бандыт з густой, да самых вачэй, барадой, ці то кат, ці то



вартавы. Перад атаманам, схіліўшы перавязаную галаву, стаяў палонны, публіка размясцілася шчыльным паўколам ззаду яго ў самых маляўнічых паставах і ўважліва слухала, пры гэтым час ад часу людзі цыкалі адзін на аднаго, ад чаго ў натоўпе блукаў лёгкі шапаток, які перашкаджаў слухаць.

Палонны адказваў на ўсе пытанні з панурай абыякавасцю. Адчувалася, што гарадскому хапіла аднаго Юнькавага палена.

— Нас спешна перакінулі сюды з Масквы…

— Адкуль? — перапытаў яго Макута.

— З Падмаскоўя, тыдзень таму назад, і далі заданне зверыць карты з мясцовасцю, вызначыць, ці ўсе дарогі на месцы, ці не памяняліся рэчышчы раўчукоў і рэк, дзе засталіся старыя масты, а дзе з'явіліся новыя. Мы спакойна працавалі групамі па два чалавекі, пакуль не прыйшлі вы…

— Дык мы адсюль нікуды і не дзяваліся ўжо гадоў з дзесяць, — перабіў яго Сар-мэн. — Ты гэта, нам бакі-та не забівай, геадэзіст хрэнаў, чо, акрамя дарог, вынюхвалі?

— Фіксавалі вашыя перасоўванні і паведамлялі каардынаты камандаванню…

— Макута, давай яго павесім, усё роўна ката за хвост цягне, чо з ім цацкацца, ён — пешка, шасцёрка паганая! — відавочна палохаючы, выдаваў з сябе адпетага нягодніка Сар-мэн.

— Бач, мілы чалавек, — пагладзіўшы вусы, лісліва пачаў атаман, — прапаноўваюць цябе галавой у вароты саўгануць. Ты зірні, зірні, голубе, пяцелька — яна па форме накшталт тых варот, адкеле ўвесь народ, токі наадварот. Вось такія шанешкі з кацяняткамі выходзяць. Ты вось распавядзі нам, ці вялікае войска на нас ідзець?

— Аб колькасці сказаць сапраўды не магу, але мне здаецца, што дні праз два салдат і тэхнікі тут будзе хоць адбаўляй.

— Ды якія тамака ваякі! Слухай ты яго больш, атаман, чо, старыччо, з вёсак сагнанае, ваяваць-та будзе? — перабіў палоннага Сар-мэн. — Давай яго вешаць, чо зра час цягнуць.

— Вешаць, дык вешаць, — абыякава пагадзіўся Макута і ўстаў са свайго крэсла. — Вы тут асабліва доўга не таўчыцеся, — звярнуўся ён да народа, — самі чулі, што сіла на нас неймаверная перці збіраецца, так што на чужую смерць паглядзіце ды ідзіце да сваёй рыхтавацца. Агнёў не разводзіць, самагонку не піць, каго залаўлю, галаву Сар-мэну аддам. Адна надзея на горства нашае ды на Маці-Бялуху… — і верхавод, злёгку накульгваючы, падаўся прэч.

— Атаман, атаман! — спрабуючы вывернуцца з чэпкіх рук бандытаў, што ёсць духу залямантаваў палонны. — Атаман, мне трэба сказаць вам нешта вельмі важнае!

Макута ў асяроддзі сваіх набліжаных працягваў не спяшаючыся выдаляцца, на шыю шныпара ўжо накінулі пятлю і падшуквалі калоду, якую б было зручней выбіць з-пад яго ног.

— Бей, мо паслухаеш прыдурка, глядзіш, чо слушнае і сказане? — нахіліўшыся да вуха атамана, нягучна прапанаваў Сар-мэн.

— Паспею. Чым шчыльней пятля на глотцы, тым праўдзівей з яе прамовы выходзяць, — амаль не варушачы вуснамі, адказаў атаман. — У смерці, як і ў каханні, спяшыць не трэба. Аднак ты пашлі, на ўсякі выпадак, талковага рубаку, каб вяроўку своечасова секануць паспеў.

Нядоўгія падрыхтоўкі да пакарання смерцю скончыліся. Палонны са звязанымі рукамі і нагамі быў ужо пастаўлены на хісткі ад няроўнасці камяністай зямлі тоўсты таўкач і з пятлёй на шыі імкнуўся з усіх сіл трымаць раўнавагу на гэтай апошняй у сваім жыцці цвержы. Хто ведае, якія думкі і пачуцці біліся ў ягонай галаве ў гэтыя перадсмяротныя хвіліны? Крык жаху і маленні ўжо не пралазілі скрозь абхопленую смуроднай вяроўкай глотку, вочы няшчаснага ўтаропіліся кудысьці ўверх, нібы ён спрабаваў разгледзець у гэтай бяздоннай і раўнадушнай вышыні месца свайго будучага прыстанку.

— Мо распрануць яго, а то апасля цяжка будзе з мерцвяка адзежу здымаць, а яна, аднак, бач, яка спраўна, — прапанаваў хударлявы разбойнік з ірваным шнарам праз усю шчаку, ацэньвальна абмацваючы камбінезон асуджанага.

— Пабойсі Бога, жывадзёр! — запярэчыў чарнабароды бандыт, спрабуючы на парыў вольны канец перакінутай праз сук вяроўкі. — Ды і Макута гэтага ох як не любіць, ты вунь трымай мацней вяроўку, ды памагатых клікні, а то, глядзі, выпусціш яе, алі эўтат табе цяжкім апынецца — і ўсё: другім-та разам перавешваць аніяк нельга. Гэй, браткі, памажыце Касабокаму вяроўку ўтрымаць!

Ахвотнікі знайшліся хутка.

— Ну што, раб Божы, гатоў ты алі не да свайго скону? — заходзячы збоку і задзіраючы галаву, спытаў барадаты. — Ты не бойся, вяроўка ў самы раз: і не тонкая, і не тоўстая, болю і не паспееш спазнаць. Толькі хрусь і ўсё. Гэй, небарака, — ён нямоцна тузануў палоннага за калашыну, — мо чаго хочаш, спірцяжкі алі курнуць, а?



Адказу не было, зверху на ката безуважна глядзеў бледны і ўжо нейкі нечалавечы твар.

— Ну, як знаш! Браты, я як калоду выб'ю, вы вяроўку на сябе маленька пацягніце, каб вышэй балезнага падняць, а я пасля ўжо сам усё замацую. Ну! — і ён спрытна гвазалнуў нагой па калодцы.

Асуджаны, замест таго, каб затузаць нагамі і дрыгануцца ў апошняй канвульсіі, зваліўся на зямлю, устаў на калені і, нічога не цямячы, закруціў галавой. Побач, укладваючы ў ножны казацкую шашку, стаяў адзін з Сар-мэнавых целаахоўнікаў. Тры разбойнікі, на чале з Касабокім, сядзелі на зямлі, учапіўшыся ў абрывак вяроўкі, многія гледачы, ачуўшыся ад нечаканасці, пачалі ржаць і мацюкацца. Рубака, не звяртаючы ні на каго ўвагі, штурхялём паставіў на ногі гора-шыбеніка, разрэзаў путы і, як бычка, за пятлю павалок яго за сабой.

— От паскуда, таку вяроўку спорціў! — злосна крыкнуў яму ўслед барадаты. — І як з такім народам працаваць? Ну, пагодзь, трапіш ты да мяне!

Бледнага шныпара завялі за невысокі ўцёс і паставілі на калені перад Макутай.

— Ну, чаго ты мне такога распавесці хацеў, люб чалавек? — жэстам адправіўшы ўсіх, акрамя Сар-мэна, ласкава спытаў атаман. — Цябе-та як, балезнага, завуць?

— Кірыла-аглы Мяфодзій-джан ібн Ван Саід… палкоўнік таемнай варты Яго Дэмсвяцейшасці… асабісты даручэнец вялебнейшага князя Касталомскага… — адчувалася, што словы з цяжкасцю праціскаліся праз кантужаную трахею, але палонны, пераадольваючы боль, спяшаўся казаць, баючыся чарговага прыступу апатыі разбойніцкага важака.

— О-го! Атаман, чуеш, каго да нас занесла? Дык мы з табой ледзь баярына не задралі! Ды яшчэ з таемнай варты! Чо дзеецца, чо дзеецца… Проста гонар апаноўвае. Ты глядзі, Бей, каго нас з табой вытоптваць ужо пасылаюць! — развесяліўся Сар-мэн.

— Мая група, — не звяртаючы ўвагі на бандыта, працягваў палонны, не адрываючы свайго поўнага надзеі погляду ад Макуты, — была адпраўлена сюды з адмысловай звышсакрэтнай місіяй. Атаман, я магу гаварыць у прысутнасці гэтага чалавека? — ён ледзь скасіў вочы на Сар-мэна.

— Ну, ты на яго зірні! Вось сука! Я яго, можна сказаць, з пятлі выняў, а ён! — І падручны верхаводы з усяго маху гвазануў сваім ботам небараку пад дых. Той захрыпеў, сагнуўся напалову.

— Суніміся! Дай чалавеку-та хоць слова сказаць. Ты, балезны, папрысядай, папрысядай, яно дыхалку-та і адновіць, а на гэтага злосці не трымай, ужо вельмі ён на вашага брата ўзлаваўся, і ўсё за вашу ж лютасць. Ох, неспасціжныя шляхі твае, Госпадзі! І пашто Табе кветкі-та выдаліся лепшымі, чым людзі? Вось ужо загадка дык загадка. Ты, Кірыла разам з Мяфодзіем і Саідам, прысядзь, прысядзь на зямельку. Супакойся. Больш цябе ніхто крыўдзіць не будзе, ды і жыццё я табе захаваю, аб гэнтым не сумуй. Ты, галоўнае, кажы ўсё, як яно ёсць, ілжой душу не паскудзь, а яго, Сар-мэна-та, не бойся, мо яшчэ і пабратаецеся. Хто знае? — І, звярнуўшыся да падручнага, распарадзіўся: — Скажы, хай небараку вады алі морсіку прынясуць, глотку-то, бач, злёгку хлапцу-то падушылі. І ўсё, баста балбатню разводзіць, рабі, што кажуць. А ты, недабітак, вунь садзіся на каменьчык, ды вяроўку-та з сябе здымі, а то роўна масон які ў ганебным гальштуку.

Макута толькі цяпер з цікаўнасцю пачаў разглядаць палоннага. «Чалавек як чалавек, — падумаў ён, — толькі сухі і гужаваты нейкі, нібы з карэння выгабляваны, не гваздані яго Юнька бярвенцам, мо і з дзесятак маіх архараўцаў з такім не ўправіліся б. Праўду кажа Сар-мэн, такія тоўстыя птахі яшчэ ні разу не залятталі ў нашыя дзікія краі. Бач ты! Даручэнец самага галоўнага апрычніка! Па дробязях такіх не пасылаюць. Усё звіхнулася ў паднябесным свеце з гэтай трыклятай Шамбалой! І трэба ж такому зрабіцца, што лазы яе сакрэтныя адкрыліся ў маёй мясцовасці! Вунь бабка кажа, што краіна гэтая таемная распасціраецца пада ўсёй зямлёй-матухнай. А пошасць, бач ты, на аднаго мяне са таварышы! Добра хоць, што, па прароцтву ўсё той жа старой, неўзабаве зачыняцца ўсе гэтыя лазы, і ніякім кукішам туды не праб'ешся, хоць усе горы з месца пассоўвай».

Палонны зайшоўся цяжкім надрыўным кашлем, відаць, зрабіўшы занадта прагны глыток з прынесенага яму меднага кубка, ён папярхнуўся, і вада, патрапіўшы ў гартань, выклікала сапраўдны прыступ удушша.

«Не задыхнуўся б, — гледзячы на тое, як Сар-мэн стукае па спіне шпіёна, падумаў Макута. — Цудоўная ўсё-ткі нашая жытуха, толькі што ён яго ботам абходжваў, а ўжо, глядзі ты, апякуе, як брата. Вось чаго такі рэзкі пераход у прабачэнні да былога ворага ў ватажных людзей ёсць, а ў казённага войска няма? Тыя ўжо калі задумаюць пакаранне смерцю, дык жывадзёрам скуру здзяруць, а ў палон захопяць, не лягчэй будзе — таксама пакараюць смерцю, толькі павольней, пакуль голадам ды мардабоем не змарнуюць, не супакояцца. Усё ж нейкі нялюдскі дух у дзяржаўных людзях жыве, як і ў самой дзяржаве, токі патрап ім у лапы — і ўсё, пішы прапала. Усе энтыя байкі пра справядлівасць і гуманнасць законаў мігам з мазгоў павылятаюць. Гэта пакеда ты з тым законам нос да носу не ссунешся, можна яшчэ ў нешта верыць, а як на сваёй скуры пачуеш яго подлы дотык, тут ужо ўсё. Не могуць быць чалавекамі царовыя людзі, ім гэнтага не даюць, а хто і як, ці ж знізу-та разбярэш? Галоўнае, у нас дзікасць такая, падобна, спрадвеку была, і няма таму ні канца, ні выпраўлення».



— У лагеры вашым знаходзіцца шныпар з таемнай місіяй, — адсопшыся, выдушыў з сябе палонны, — мы былі пасланыя самім Касталомскім адмыслова для забеспячэння сувязі з ім і… — небараку зноў пачаў біць кашаль.

— Ды не стукай ты яго так, заб'еш! — атаман спрытна перахапіў руку свайго падначаленага, гатовую ў чарговы раз грукнуць па спіне палоннага.

Адкашляўшыся, адсмаркаўшыся, па-дзіцячы размазваючы па твары слёзы, палонны з вымучанай падзякай прыняў з рук Сар-мэна кубак.

— Ты цішэй пі, малюсенькімі глыткамі, а то яшчэ і задушышся. Глотка ў цябе пакамечаная, — папераджальна павучаў яго Макута. — І хто ж такі гэты шныпар, мілы чалавек?

— Ды вось гэтага палюбоўніца, — не паднімаючы вачэй, сцісла адказаў той і паказаў кубкам на Сар-мэна.

— А, сука! — зароў бандыт і што ёсць сілы гвазданўў па ім нагой.

Кубак, бліснуўшы на сонцы донцам, паляцеў прэч, астаткі вады аблілі атарапелага ад нечаканасці атамана. І не пхні Мітрыч неяк па-езуіцку закаханага ў спіну, невядома, чым бы ўсё гэта павярнулася. Падручны Бея расцягнуўся на ўвесь свой немалы рост на зямлі побач са сваім крыўднікам. Атаман, прыцісуўшы яго ботам, нагнуўся і прашыпеў:

— Яшчэ раз ты адкрыеш сваю пашчу, дзе не трэба, я цябе сам парашу… Што, ад бабінай саладосці апошнія мазгі праз хрэн выцяклі? Уставай і не дуры, а то загадаю скруціць і пад варту пасадзіць.

— Ты ўжо яму выбачай, — прыбраўшы са спіны разбойніка нагу, звярнуўся да чужынца атаман, — справы сардэчныя, сам далжон разумець. Сапраўды вы падружкуецеся, калі так б'яце адзін аднаго.

— Пакуль што гэта ён мяне б’е, — пасмялеў палонны, з асцярогай гледзячы на крыўдніка.

— А хто знае, мо да ночы і ты яго адмяцеліць паспееш, — роблена хіхікнуў атаман. Па ўсім было відаць, што інфармацыя пра Сар-мэнаўскую пасію яго вельмі збянтэжыла. — Кажы, мілы чалавек.

— А што тут казаць, дзеўка гэтая, дакладней жанчына, — паспяшаўся выправіцца шныпар, касавурачыся на Сар-мэна, — даўні асабісты агент шэфа, ён яе на свой кручок ці яна яго на сваю закавыку падчапіла, не ведаю, аднак разам яны ледзь ці не з яе школьных часоў. Адчайная і вёрткая шэльма, якіх яна толькі спраў не рабіла, у якіх калатнечах не была, і ўсё як з гусі вада, а галоўнае, яна заўсёды дамагалася таго, што ёй даручалі. Адзін час усе апрычнікі Аб’еўры на вушах стаялі, беспаспяхова лавілі мужыкоў-дыверсантаў, а ўсе поскудзі сусветнай дэмакратыі ўладкоўвала мілавідная дзяўчынка-студэнтка. З ёй і не ўсякі мужык-та можа цягацца. Ну, не глядзі ты на мяне зверам, — звярнуўся ён да нацягнутага, як струна, Сар-мэна, — усё, што я кажу, чыстай вады праўда. Маю групу сюды закінулі адмыслова для забеспячэння Эрмітадоры ўмоў па правядзенню адмысловага мерапрыемства, — апрычнік замоўк, як бы мяркуючы, ці варта быць адкрытым да канца.

— Ты ўжо, мілы чалавек, працягвай. Нядобра на паўпраўду з’язджаць, не па-людску гэта, — як бы пачуўшы яго сумневы, падбадзёрыў Макута. — Дык што яна павінна была зрабіць у Шамбале?

— А вы адкуль ведаеце? — выразна выпаліў палонны і, не дачакаўшыся адказу, дадаў: — Яна павінна яе падарваць!

— Што? — ускочыў са свайго месца атаман. — Як падарваць? Чым? Гэта ж горы, тут рві — не перарвеш!

— А ёй усе горы ўзрываць і не трэба. Вось гэты вадаспад і пячору пад ім у пыл пусціць, і ўсё…

— Ды хоць бы і гэтую асобную гаруху падарваць! Гэта ж прорва колькі ўсяго трэба!

— Усё мы ёй даставілі, галоўнае, гэта ў пячору пранесці…

— І чо гэта за бамбіна павінна быць, тон на пяць, ці што? — падаў голас Сар-мэн.

— Навошта тоны, калі навука ўжо даўно вынайшла кілатоны і мегатоны… — пацiснуў плячыма палонны.

— Ты не мудрагель! — віхляючы з нагі на нагу, перабіў яго Макута. Таптацца атаман пачынаў толькі ў хвіліны наймацнейшай напругі або прадчування смяротнай небяспекі. Як гэта атрымлівалася, ён не ведаў, але ногі чамусьці пачыналі прытанцоўваць самі сабой.



— А я і не думаю мудрагеліць, мы даставілі сюды два ранцавыя ядзерныя боезарады, калі падарваць хоць бы адзін — мала не пакажацца! Я ўжо не кажу аб наступствах радыяцыйнага заражэння мясцовасці. На дзясяткі кіламетраў вакол усё будзе фаніць і сеяць згубу, так што ў гэты край ні адна падла не сунецца гадоў дзвесце.

— Ка́ты, а людзі ж як? — ускрыкнуў Макута, а пасля матнуў галавой, мусіць засарамаціўшыся сваёй наіўнасці, і злосна плюнуў на зямлю.

— Эх, атаман, атаман, калі вырашаецца лёс Айчыны, жыцці людзей ва ўлік ніколі не бяруцца, наадварот, чым больш пераб’юць, тым святлейшай і доўгачаканейшай будзе перамога, а галоўнае, у памяці людзей застануцца боль і страх. Страх — вялікі эканом! Адсюль і народнае: «Ужо як-небудзь патрываем, абы вайны не было». Што, скажам, варта маё або вашае жыццё, калі ўсяму заведзенаму ўладамі ў нас у краіне светаладу пагражае спусташэнне, тут ужо зусім іншая мэтазгоднасць уступае ў сілу, і ніхто ёй процістаяць не зможа…

— Зможа! — па ўсім, агоўтаўшыся пасля пачутага, напорыста перабіў яго Сар-мэн. — Вось табе спадабалася застацца жывым, а не боўтацца на суку, а не з баязлівых жа, значыць, асечка ў вайсковым мозгу адбылася. І я, і атаман наш, і ўсе людзі навакольныя проста так, моўчкі, як бараны, на бойню не пойдзем. — Бандыт гаварыў роўна і амаль натхнёна, куды дзявалася напускная бравада і прыблатнёнасць. — А з Эрмі мы самі як-небудзь разбяромся, маеш рацыю ты ў сваіх гісторыях ці не, я табе не суддзя, мяне яе мінулае не цікавіць, як і яе маё, а яно ў мяне, павер, не цукровым было. Ты вось адкажы, дзе гэтыя ядзерныя заплечнікі і як іх дзеўка магла падарваць і сама жывой застацца?

— Прылады знаходзяцца ў адной з далёкіх пячор і добра ахоўваюцца, праграму ж на выбух павінен будзе ўвесці адмысловец перад самай перадачай ранцаў выканаўцу. Але я думаю, што бяспека адыходу, хоць яна і прадугледжаная планам, чыстай вады фікцыя. Усе мае людзі, а заадно і войскі бравага генерала Верабейчыкава хутчэй за ўсё будуць прынесены ў ахвяру стратэгічнай задуме кіраўніцтва. І мы, і вы павінны загінуць, Гопс, думаю, у першую чаргу, а нашыя падсмажаныя рэшткі паслужаць яркім сведчаннем таго, што выбух гэты — справа рук нашых ворагаў. Яснавяльможны ж Дэмакрат да яго ніякім

чынам не будзе мець аніякага дачынення. Можа, у наш гонар нават абвесцяць паўтарагадзінную жалобу з усенародным зборам ахвяраванняў у карысць сем'яў загінулых. А калі сем'яў будзе шмат, а грошай збяруць не вельмі, то, як заўсёды, прымуць рашэнне пусціць іх на малыя дзяржпатрэбы…

— Што ты, як салавей, заліваешся? Знайшоў час палітінфармацыі чытаць, а галоўнае, глядзі ты, як на цябе пятля падзейнічала, дзяржаўную пыху начыста збіла, — перапыніў зацягнутыя тлумачэнні Сар-мэн. — Ты давай пра групу сваю распавядай, ды пра пячору, дзе смерць, як Кашчэй яйка, схаваў…

— А ты мяне не прыспешвай, не трэба! — адгыркнуўся палонны і нарэшце падняўся з зямлі, але яго ногі ад доўгага сядзення зацяклі і слаба слухаліся. — Я не ведаю, як на цябе самога пятля падзейнічала б, а я гінуць за нечы капрыз не збіраюся. — Палонны прыняўся прыводзіць сябе ў парадак, запіхваць назад вывернутыя бандытамі кішэні, зашпільваць гузікі і ліпучкі. Яго схуднелы і змарнелы твар быў нерухомы, нібы адлітая з дрэннага гіпсу маска, толькі левая скула ледзь прыкметна паторгвалася.

— Ты вось, мілы чалавек, адкажы, а чаго Маскве Шамбала так не глянулася? Гэта ж трэба, бомбай ядзернай вырашылі яе заткнуць. А яны-та хоць бы знаюць, што тамака, у гэнтых пячорах? — прысаджваючыся на сваё месца, спытаў Макута.

— Чым не глянулася? Ды хто іх разбярэ, хутчэй за ўсё яе адкрыццё блытала камусьці планы. Ды і, мяркуйце самі, адкрыйся гэтая таемная краіна ўсяму свету — можа чорт ведама што здарыцца. Дзе гарантыі, што гэтыя настаўнікі стануць навучаць народ правільна, ды і што за веды яны са сваіх падзямелляў вывалакуць на святло? Бо гэтага ніхто не ведае. Не, рашэнне кіраўніцтва краіны прыняло правільнае, толькі… — і ён замоўк на паўслове.

Да іх хутка падышоў невысокі камлюкаваты разбойнік з тварам, пакляваным воспай. Ён злёгку пакланіўся Бею і нешта хутка зашаптаў на вуха Сар-мэну.

— Атаман, трэба б пабалакаць, — выслухаўшы даклад і адправіўшы малойца, вымавіў Сар-мэн.

— Добра. Цябе, мілы чалавек, адвядуць да майго намёта, доктар хай пакуль шыю паглядзіць, а тамака і мы падыдзем, тады і дагаворым нашыя сумныя гутаркі.

Макута з паплечнікам павольна рушылі да гор. За імі ценем падаўся Мітрыч. Палоннага павялі да бівака, які ажываў бяздымнымі і яшчэ не занадта яркімі вогнішчамі. Да лагера пацягнуліся і целаахоўнікі.



Дзень павольна згушчаўся ў сінявастую вячэрнюю імгу. Хутка ўсё аціхла на месцы нядаўняга допыту, і толькі медны кубак, закапаўшыся ў невялікі астравок немаведама якім цудам не прымятай травы, хмурна сведчыў аб нядаўняй прысутнасці людзей.

Хвілін праз пятнаццаць з-за невысокай, парослай густым хмызняком скалы, што ўзвышалася над каменем, дзе калісь сядзеў атаман, асцярожна выйшаў чалавек, агледзеўся вакол і, пераканаўшыся, што побач нікога няма, уцягнуў галаву ў плечы, пасля чаго, не спяшаючыся і не хаваючыся, закрочыў да лагера. Гэта быў Енах.

## 28

Машку калаціла. Ад пераўзбуджанасці, лішкаў сонца, горнага паветра, купанняў у халодных раўчуках і ўсяго астатняга, што з ёй сёння адбылося, яна была блізкая да непрытомнага стану і ніяк не магла ўправіцца са здрадлівай дрыготкай, якая дробна і неадступна калаціла ўсё цела. Ахінуўшыся цёплай ватовай коўдрай, яна ляжала на невысокім тапчане, думкі ў такт дрыготцы скакалі ў яе галаве. Толькі яна спынялася на найважнейшым — Енаху і іх будучыні, як тут жа ўзнікала адваротная думка аб ганьбе і немінулай размовай з маці. Толькі яна пачынала складаць патрэбныя і правільныя, як ёй здавалася, словы апраўдання, падбіраць інтанацыі, з якімі іх варта вымавіць, і ўжо нешта пачынала атрымлівацца, як аднекуль вываручвалася дробная думка аб тым, што яна галодная, а паршыўка Дашка ўцякла з Юнькам глядзець, як будуць вешаць злоўленага імі шныпара. Есці хацелася вельмі, ужо сама думка пра што-небудзь смачненькае напаўняла рот ліпкай і цягучай слінай. Машка турыла прэч кулінарныя летуценні, але выява любімых пельменяў змянялася выявай не менш смачнага кавалка чорнага хлеба і хатняй каўбасы. Нарэшце ў галаве засталася толькі адна думка, якая, нібы цяжкая жнівеньская муха, білася ў яе перанапружаным мозгу: трэба ўставаць, выбірацца з гэтай халупы, ісці шукаць хоць якую-небудзь ежу, балазе смачныя пахі ўперамешку з гаркаватым пахам дыму плавалі вакол. Аднак выйсці вось так проста, без суправаджэння, без свайго праверанага чалавека ў чужы, незнаёмы свет было страшна. Ненавідзячы сваю бездапаможнасць, дзяўчына рашуча скінула з сябе коўдру і аўчыны, у якіх хавалася ад дрыжыкаў, і рэзка ўстала. Пашукала вачыма люстэрка, цмокнула, не знайшоўшы звыклага прадмета, і прынялася выварочваць на падлогу ўсё з вялікага

баула, прывезенага ўначы Юнькам ад маці. І, слава Богу, амаль на самым дне, загорнутае ў яе цёплы, тоўсты швэдар, ляжала старое авальнае люстэрка на тоўстай фанернай падкладцы. Калі б яшчэ ўчора ёй хто сказаў, што знаходка гэтага пацямнелага і абшарпанага амальгіраванага шкла выкліча ў яе такую радасць, яна б безумоўна злічыла гэтага чалавека злёгку кранутым. Але цяпер ёй было не да такіх глыбокіх думак. Яна, як працячка, кінулася прыладкоўваць сваю знаходку на хісткім століку, які прытуліўся ў самым цёмным куце яе ўбогага жытла. Запаліла газавую лямпу, хоць на дварэ яшчэ быў шэры вечар, ледзь дадала кнот і зазірнула ў пасвятлелую бездань сівога шкла. Нават у прыцемку на яе з люстэрка глядзела прыстойная асоба, праўда, злёгку пакамечаная, з прыпухлымі ад слёз вачыма і безнадзейна збытанымі валасамі.

— Магло быць і горш, — пакруціўшы галавой, падумала Машка і, зажмурыўшыся, бязлітасна запусціла грэбень (і адкуль яго толькі выкапалі!) у свае кудлы. Непрыемная працэдура выдзірання валасоў нарэшце падыходзіла да канца, а заадно і твар пастунова разгладжваўся, бляск жа галодных вачэй і зусім выглядаў вельмі прывабна.

— Машка, ты тут? — дзесьці амаль над вухам прагучаў голас Енаха. — Маша…

Усярэдзіне ўсё сціснулася. Штодзённая, звыклая працэдура расчэсвання валасоў неяк неўзаметку супакоіла яе, нават дурныя думкі аб ежы саслаблі. Хто можа растлумачыць, чаму так адбываецца: пагладзіла мама па галаве, і ўсе нягоды забываюцца, усе крыўды праходзяць… І вось яго голас, ціхі, нейкі прыбіты. Голас яе каханага, роднага чалавека. Голас, як выбліск яркага святла, абудзіў усё, што толькі што супакоілася ў ёй, сцішылася…

— Маша, адкажы, — ужо настойлівей і гучней пазваў Енах.

— Ды я тут! — неяк нечакана гучна і паспешліва адазвалася Машка, кінула на тапчан грабянец і прынялася паспешліва збіраць раскіданыя вакол рэчы.

Брызентавы спадзісты будан варухнуўся, і ў невялікі праём чамусьці спінай праціснуўся Енах. Нават у падслепаватым святле газніцы было заўважна, што мужчына чымсьці моцна ўсхваляваны.

— Як добра, што ты тут… Кінь гэтыя анучы і слухай мяне ўважліва! — ён ледзь ці не сілай пасадзіў яе на ложак. Заціх, прыслухоўваючыся насцярожана і злосна, нібы злоўлены звер. — Толькі не перабівай мяне і ні пра што не распытвай.



Мы павінны сёння ж уначы, а лепш цяпер збегчы далей ад гэтага месца! — зашаптаў Енах ёй прама ў вуха. Казаў ён хутка, захлёбваючыся сваімі ж словамі, і страшным быў гэты шэпт. Машцы нават зрабілася трохі страшна.

— Добра, — нічога не разумеючы, пагадзілася яна, — толькі вось Дашку трэба знайсці, ды хоць пару бутэрбродаў расстарацца, а то я паміраю з голаду. І потым, — прыходзячы ў сябе ад нечаканага націску, паспрабавала яна запярэчыць: — Чаго такі спех? Мы ж вырашылі з табой не прыспешваць падзеі…

— Маша, я табе потым усё распавяду, усё. А пакуль ты павінна проста мяне слухацца, ясна? Дашку тваю, дурніцу, шукаць не трэба, мы сыдзем толькі ўдваіх і неўзаметку…

— Без Дашы я нікуды не пайду! — пырснула дзяўчына і дадала: — Досыць за апошнія дні я нарабіла дурасцяў. Хадзем дзе-небудзь перакусім. А там вырашым, што рабіць далей.

— Якое вырашым? — сілай утрымліваючы яе на тапчане, злосна прахрыпеў мужчына, які на вачах зрабіўся чужым. — Ты павінна зразумець: гэта вельмі важна і датычыцца нашага з табой жыцця. Я спадзяюся, у цябе няма жадання загінуць у маладым веку? Калі няма, то слухай мяне і выконвай усё, што я табе скажу. Гэта сапраўды занадта сур'ёзна, павер мне. Паесці, добра, сходзім, сталовая амаль побач, — міралюбна абдымаючы яе за плечы, як мага далікатней і спакайней вымавіў Енах, — я і сам галодны, як зграя ваўкоў у зімовым лесе.

Сталовая сапраўды апынулася паблізу, іх, ні пра што не пытаючы, пасадзілі за атаманскі стол і сытна накармілі. Елі моўчкі і паспешліва, як ядуць вельмі галодныя людзі. Аднак ежы ў запас, як вядома, не бывае. Поўнае насычэнне дагнала толькі за гарбатай. Абпальваючыся смачным тайговым напоем, Машка адчула, як да яе падкотваецца сон, здавалася, яшчэ крышку, і яна, уткнуўшыся ў плячо Енаха, праваліцца ў выратавальнае расслабленне, аднак, сабраўшы ў кулак астаткі волі, яна як бы між іншым нягучна вымавіла:

— Каханы, мы дап'ём гарбату і пойдзем крышку прагуляемся. Я цябе паслухаю, а ты мне ўсё распавядзеш. Толькі ўсё-ўсё, так будзе лепш. Я не ўмею нічога выконваць аўтаматычна, як пакорлівая авечка ў атары, можа, калі-небудзь пазней я да гэтага і абвыкну. Добра?

— Добра, толькі трэба спяшацца, разумееш, спяшацца! — хоць ён і вымавіў гэтыя словы, ледзь варушачы вуснамі, Маша адчувала, якімі неймавернымі высілкамі ён стрымліваў сябе.

«Што ж такое магло здарыцца за тыя паўтары-дзве гадзіны, пакуль я валялася ў сваёй ліхаманцы? — Дзяўчына паволі назірала за сваім абраннікам. — Ды яго за гэты час як быццам падмянілі, напружаны ўвесь, нервовы, да нечага прыслухоўваецца, нават твар стаў нейкім брыдкім, злым ці што! — Самае непрыемнае, яна адчувала, што яго напружанасць дзіўным чынам перадаецца і ёй, нараджаючы ў галаве рой розных згадак, здагадак і неўсвядомленых страхаў. Ёй здавалася, што ўцёкі былі неяк звязаныя з тым, што сёння адбылося паміж імі. — «Дурніца ты набітая, твае сяброўкі даўно ўжо ўсе пагалоўна, без ваганняў і душэўных пакутаў, рассталіся са сваёй нявіннасцю і думаць ужо аб тым забыліся. А ты, як пячорная баба, усё баішся, як бы племя не дазналася аб тваёй ганьбе. Зноў жа, якая гэта ганьба? Няма ў свеце ніводнай жанчыны, якая б праз гэта не прайшла, доля ў нас такая! І хопіць біцца над тым, чаго ўжо няма. Усё гэта прыдумкі пазамінулага стагоддзя. Сорамна? А чаго сарамаціцца? Мамы? Дык яна, трэба думаць, са свету не зжыве і ўсё зразумее. Галоўнае, вось ён, мой першы мужчына, вялікі і моцны, дарослы і ўмелы. Мы кахаем адно аднаго, мы шчаслівыя, што яшчэ трэба?» — і чым больш яна думала аб гэтым, тым ярчэй усплывалі ў памяці малюнкі іх ненаеднасці і мацней разлівалася ўсярэдзіне палкая лава жадання.

Падзякаваўшы клапатлівым кухаркам, яны не спяшаючыся пайшлі па адхоне да раўчука. Шэрае падслепаватае змяркане гатова было шмыгнуць у распадак і стаіцца там да ранняга світанку, саступіўшы сваё месца напышлівай у сваёй усёмагутнасці начы.

Толькі каля вады Енах моцна абняў дзяўчыну і ўладна, як уласнік, пачаў цалаваць яе вусны. Зямля тут жа пачала павольна сплываць з-пад ног абодвух, яшчэ некалькі імгненняў, і іх целы зноў сплятуцца ў мудрагелістым і вечным руху. Машыны пальцы ўжо паспешліва расшпільвалі яго кашулю, ёй хацелася хутчэй уткнуцца ў зарослыя колкімі валасінкамі грудзі, удыхнуць яго пах, вабны і далікатны, такі блізкі і родны.

— Ах ты, маленькая мая… я… мы… ты заўсёды будзеш са мной… — задыхаючыся і блытаючыся ў словах, прашыпеў Енах, а рукі яго, моцныя і дасведчаныя, патрабавальна кідаліся па ейным целе і бессаромна мацалі па самых патаемных месцах. Усё адбылося хутка і незвычайна. Скажы хто ёй раней, што гэтым можна займацца амаль стоячы і не здымаючы з сябе адзежы, яна б усумнілася, а цяпер, трохі аддыхаўшыся, знайшла гэта арыгінальным і ў чымсьці нават пацешным.



— На такія ўцёкі я гатовая і без Дашкі, — прыводзячы сябе ў парадак, прамовіла Машка, — ох, я калі-небудзь памру ад гэтага…

— Не памрэш, мабыць, ніхто ад гэтага яшчэ не памёр! — усміхнуўся Енах. — Мы будзем жыць доўга і шчасліва, але толькі калі зараз жа адгэтуль уцячэм! — Апошнія словы ён вымавіў цвёрда і катэгарычна. — Збегчы трэба, і лепш прама цяпер, не заходзячы ў лагер, і галоўнае — ні з кім не развітваючыся. Толькі б позна не было…

— Перастань мяне палохаць, — паспрабавала пакрыўдзіцца Машка, — ну куды і навошта збегчы? Праз пару дзён нас і так адпусцяць, выканаўшы ўсе іх дурныя рытуалы. Я да матулі з пакаяннем, ты — на высокае служэнне з крыжом на грудзях. Растлумач мне, навошта бегчы, ты ж абяцаў.

— Разумееш, я выпадкова стаў сведкам адной гутаркі. Павешанага прывялі дапытваць да Бея…

— Якога яшчэ павешанага?..

— Ды таго шныпара, якога мы з Юнькам і Дашкай у лагер прынеслі. Яго ў выніку так і не павесілі… Вось ён, ратуючы жыццё, усё і выклаў атаману. Гопс — ніякая не прастытутка, а дасведчаная дыверсантка…

— Як? Эрмі — тэрарыстка? Быць гэтага не можа!

— Яшчэ як можа! Пазней я табе ўсё распавяду ў падрабязнасцях, а пакуль галоўнае: заўтра раніцай ці днём пачнецца аперацыя па знішчэнні гэтага лагера і, наколькі я зразумеў, уваходу ў гэты падземны бярлог. — Енах матнуў рукой убок шумлівага ў цемры вадаспада. Потым, панізіўшы голас, дадаў: — А падарваць усё гэта плануецца ядзернай бомбай!

— А людзі ўсё гэта ведаюць? Які жах! Тут не бегчы, а крычаць трэ… — тут шырокая і нясмачная ад поту далонь закрыла ёй рот.

— Маўчы, дурная! Якое «крычаць», трэба бегчы адгэтуль далей, пакуль цэлыя! Бегчы да сваіх, забраць тваю матухну — і ў Аб'еўру, далей ад усіх гэтых вар'яцтваў і варварства. Пітэкантрапы, каб застацца ва ўладзе, гатовыя ўзарваць атамную бомбу на сваёй тэрыторыі, загубіць тысячы людзей…

Машка адчайна хітала галавой, спрабуючы вызваліцца, паветра не хапала. Енах не толькі шчыльна заціснуў ёй рот, але і падпёр далонямі наздрыны. Перад вачыма пачалі кружыць дробныя святлявыя кропкі, голас Енаха станавіўся глухім і аддаляўся, яшчэ трохі — і прытомнасць пакіне яе. Шыя адмаўлялася

трымаць галаву. «Ён мяне цяпер заб’е…» — праплыла думка, павольная і гультаяватая, як рыба.

Адчуўшы няладнае, Енах з раздражненнем прыбраў руку, дзяўчына ўцягнула ў сябе выратавальнае паветра і зайшлася гучным кашлем. Плач і крыўда чуліся ў гэтым адчайным, падзіцячы безабаронным вяртанні да рэчаіснасці.

— Дур…р…рань! Ты мяне ледзь не задушыў…

Зверху ад лагера ўспыхнуў яркі ліхтар, і святло асцярожна заслізгала па прыбярэжных кустах да іх. Енах спрытна згроб дзяўчыну і сілай паклаў за вялікі камень, прымастаколіўся побач. Белы круг павольна паслізгануў над іхнімі галовамі і праплыў далей.

— Ну, прабач, прабач… калі ласка! — паспешліва цалуючы яе салёныя ад слёз вочы і шчокі, затараторыў мужчына. — Ты абавязаная мяне слухаць, я ведаю, што і як трэба рабіць. Калі ўсё пачнецца, разбірацца не будуць, хто ты і што ты! Усіх ператвораць у пыл. А так у нас ёсць яшчэ магчымасць, галоўнае, дабрацца да Генерала-Намесніка і папярэдзіць яго. Я ведаю, што ты думаеш пра мяне! Ну і хай! Пасля разбяромся. Але я не бог, я не збіраюся сваім жыццём ратаваць увесь свет. Зразумей ты, яны ўжо асуджаныя, а вось у нас ёсць яшчэ шанец вырвацца з гэтай пасткі. Вер мне, у мяне ёсць усё дзеля нашага шчасця, усё! Не будзе тытула і крыжа? Ды і чорт з ім, як-небудзь абыдземся! — Ён перавёў дыханне і замоўк, прыслухоўваючыся. Цвыркалі конікі ды білася аб камяні вада. — Крышку яшчэ пасядзім, хай у лагеры супакоіцца, і паволі сыдзем, ясна?

Машка сядзела на дробнай сухой гальцы, шморгала носам і адчувала, што ўся яе істота адчайна пратэстуе супраць гэтага плана, што яе насцярожваюць і адштурхоўваюць словы ўмілаванага. Увесь гэты яго клопат пра будучыню ператвараўся ў яе вачах у нешта шкурнае, дробнае, пабудаванае на слязах і смерці іншых людзей.

«Ды як жа з гэтым можна будзе жыць? Дашка згарыць жыўцом… А як жа Макута, а ўсе астатнія, і не толькі разбойнікі, а простыя людзі, якія жывуць у горных сёлах? За што іх? Трэба неадкладна нешта рабіць, а не бегчы».

Яна вызірнула з-за каменя, у лагеры ўжо гасілі вогнішчы і газніцы. Яшчэ крышку — і ўсе заснуць, заснуць сваім апошнім сном.

— Енах, мілы! Я нікуды адгэтуль не пайду і цябе не пушчу. Ты не ведаеш навакольных гор, ты не верыш у старажытных духаў, якія іх сцерагуць. Ты проста нікуды не дойдзеш, заблукаеш, саб’ешся з дарогі, патрапіш у прорву або, таго горш, да ханьцаў у лапы, а гэта будзе больш страшна, чым памерці тут ад бомбы…



Енаха трэсла дробная дрыготка.

— У мяне ёсць компас, карта, зброя і Юнькаў жарабец, пусцім павады, ён сам нас, куды трэба, прывязе.

— Эх ты, гарадская галава! — забыўшы на мінулую крыўду, уздыхнула дзяўчына. — Дарослы, а вясковых ведаў кот наплакаў. Не пойдзе конь сам, без гаспадара, нікуды. Ты на яго сядзь яшчэ паспрабуй. Дадому, да матулькі, конь сам толькі тады пацягнецца, калі пачуе правільную дарогу. А дзе ты яе, правільную, уначы, ды што ўначы, нават днём, у гэтых гарах знойдзеш? Выкінь гэтую дурную задуму са сваёй галавы. Але не гэта галоўнае, трэба нешта прыдумаць, каб людзей ратаваць. Ты ж разумны ў мяне, давай пойдзем да Макуты, параімся, штонебудзь і прыдумаем…

— Ды напэўна твой Макута са сваімі падручнымі і тым шныпаром ужо даўно дзёру далі, — са злосцю матнуў рукой Енах. — Калі б яны нешта збіраліся распачаць, даўно б ужо народ паднялі, а так паглядзі: вакол цішыня і мілата, як на могільніку.

Цішыня і сапраўды была мірнай. Над галовамі спакойна міргалі буйныя горныя зоркі. Здавалася, усё вакол вечнае і дабрадатнае ў гэтым свеце, і няма нідзе ні слёз, ні гора, ні смерці. Мусіць, калісьці так і было, пакуль не з’явіўся пад гэтым вечным небам чалавек. Госпадзі, ну чаму ў Цябе гэтыя горы, раўчукі, кветкі і птушкі атрымаліся лепшымі і больш дасканалымі, чым вянок твайго тварэння? Адкажы, Госпадзі! Але нямымі былі вусны Бога, і толькі два божыя падабенствы з дрыжыкамі ад невядомасці і страху сіратліва хаваліся за каменем на беразе горнага і пакуль яшчэ безназоўнага раўчука. Там, нашмат ніжэй, зліўшыся з дзясяткам сваіх братоў і сясцёр і ўвабраўшы ў сябе іх сілу, ён глуха завіруе на перакатах нелюдзімым і вялікім імем Чулым. Чымсьці вечным, як гэтае неба і горы, веяла ад гэтага слова, далёка ў стагоддзях страціўся яго праўдзівы сэнс. Мільёны людзей са сваімі багамі і бязбожнасцю прыходзілі да ягонага берага, каб забіваць адзін аднаго, нараджаць дзяцей, смяяцца, скакаць свае танцы і зноў забіваць! Навошта і чаму? Маўчала неба, наіўна, як мільёны вачэй, міргалі зоркі, ледзь чутна цурчаў яшчэ нямоглы Чулым, а нябачная прорва, як ірваная расколіна, ужо падзяліла яшчэ нядаўна любыя адзін аднаму сэрцы.

— Ну, як знаеш! Пераконваць цябе ў мяне няма часу.

Енаха трэсла ўсё мацней. Адчувалася, што ён знаходзіцца на мяжы нервовага зрыву, Машы нават стала трохі страшна, і яна злёгку адхілілася ад умілаванага.

— Тое, што ты вярзеш, — чыстай вады дурнота, — у шаленстве выгукнуў ён. — Я проста дзіўлюся, адкуль гэта ў табе. Ты ж шляхцянка! Каго ты збіраешся ратаваць? Гэтую набрыдзь, гэтых нікчэмнасцей, якія, як пакорлівая скаціна, ідуць пярдзець у трубу або раз у чатыры гады плятуцца на прыёмныя пункты абіраць Пераемнічкаў? Ды пакажы ты ім партрэты ўсіх шасці, ніхто з іх і не пазнае, хто які. Быдла яно і ёсць быдла, ясна табе? І краіна гэтая праклятая, праклятая! Можа, з ёй сапраўды так і трэба, бомбу на галаву і канец. Я прапаную табе ў а-пош-ні раз! — Енах сутаргава праглынуў сліну. — Пайшлі са мной, сілай цябе весці я не збіраюся, ды і якога чорта мне такая жонка, якая ўпіраецца, як асліца, і гатовая здрадзіць каханаму, прамяняць яго і сваё жыццё на літасць да нейкіх бандытаў і падонкаў!!! Пайшлі!

Машка сціснулася ў камяк, нястрымныя рыданні, недарэчныя і нямоглыя, нібы мыканне цяляці, згасалі ў мармытанні блізкай вады. Цяпер ёй стала па-сапраўднаму страшна.

— Пайшлі, я сказаў! — істэрычна завішчаў Енах і балюча тузануў яе за руку. — Ты ж разумееш, я цябе тут усё роўна не пакіну, — ён зласліва выскаліўся і яшчэ мацней сціснуў Машыну руку, — ты ж адразу на злом галавы пабяжыш да сваіх парцяначнікаў усё распавядаць, еўразійка паганая! Як жа я адразу не дадумаўся, што ты са сваёй цёткай з гэтай вар'яцкай пароды. — Зусім побач з Машай у цемры тапталася і падскоквала на месцы незнаёмая ёй узлаваная істота, якая раскрывала сябе ўсё мацней, выплюхваючы на бедную дзяўчыну струмені брыдоты. — Што, хочаш быць гераіняй, пакутніцай, выратавальніцай? Не ўжо, га́дзіна! Нікому ты не дастанешся! Я ў цябе першы быў і апошні! Чуеш, сука, чуеш?!! — і цяжкая рука з заціснутым у ёй каменем апусцілася на яе галаву! — Лю-блю! Лю-блю! — вантробна, па-звярынаму хрыпеў Енах, наносячы ўсе новыя і новыя ўдары.

Нарэшце камень, не знайшоўшы галавы ахвяры на звыклым месцы, гучна стукнуўся аб скалу і высек маленькія чырванаватыя іскрынкі.

…Ён адкінуў камень і прыслухаўся. Вакол усё гэтак жа мірна цвыркала лугавая драбяза ды перакочвалася вада. У грудзях ліхаманкава стукала сэрца.

Машка не дыхала, ён намацаў у цемры яе руку і паспрабаваў знайсці жылку жыцця. Рука была яшчэ цёплай, пульс не адчуваўся. Дзіўна, але ён нават не спалохаўся, усё адбылося неяк занадта хутка, само сабой. Ён і не думаў яе забіваць, ды і як забіць, калі ён яе кахаў, кахаў! Але калі ён раптам дзіка, па-звярынаму ўсвядоміў, што яна з ім нікуды не пойдзе, нешта ляснула ў яго ўсярэдзіне, нейкі нябачны засоўчык, адчыніліся нейкія патаемныя дзверцы, і адтуль вылезла незнаёмая і дзікая істота, якая завалодала ім, пачала кіраваць і камандаваць. Яна не будзе яму належаць?.. Енаху ўявілася, што гэтае прыгожае і юнае цела юрліва выгінаецца ў брудных лапах якога-небудзь халопа. Яна ўсміхаецца такой мілай і знаёмай усмешкай… але камусьці іншаму, зусім не яму. Важкі камень сам сабой лёг у руку. А далей як быццам чорная маланка бліснула ў ягонай галаве…



І вось усё, усё скончана, ён спакойны, толькі па-дурному б'ецца сэрца, ды слёзы крыўды і жалю да сябе душаць яго. Упершыню ў жыцці яму так не пашанцавала.

Вымыўшы ў раўчуку рукі і твар, Енах Мінавіч асцярожна рушыў у сваю, як яму здавалася, цалкам прадказальную будучыню.

## 29

Прайшла ноч, поўная бяссонных чаканняў. Дапатопны камендант пахучым самаварам узвясціў аб прыходзе новага дня. Папілі гарбаты. Генерал з галавой акунуўся ў апошнія зборы да вайны. Касталомскі нерваваўся. А як тут не нервавацца, калі Гопс ужо трэці раз не выходзіла на сувязь. Маўчаў і перадатчык старэйшага групы, якую адмыслова падрыхтавалі для забеспячэння выканання задання. Каманда са спецкантэйнерамі чакала ў прызначаным месцы, таксама нервавалася і пасылала кароткія паведамленні. Каштоўны час сыходзіў, справа дзяржаўнай важнасці знаходзілася на мяжы зрыву, ды і самому заставацца ў гэтай чулымскай дзірцы станавілася ўсё небяспечней. Пасля сутычкі з Верабейчыкавым, зусім недарэчнай, трэба сказаць, сутычкі, галоўны апрычнік дзяржавы пачуваўся відавочна не ў сваёй талерцы, ды і як магла сябе адчуваць атрутная змяя ў вайсковым мурашніку?

Так ужо збудаваная ўладная рэальнасць, што за ўсёмагутнасцю кіраўнікоў дзяржавы, якой, як на першы погляд здаецца, падпарадкоўваюцца нават зоркі, нязменна стаіць страх перад сваімі падданымі. Уладар нашай Айчыны проста асуджаны на боязь да свайго народа, можа, ад гэтага якраз страху і заводзяцца ў душах усёмагутных нейкія невядомыя пакуль навуцы бацылы,

якія ператвараюць нядаўна яшчэ моцнага і, здавалася б, валявога мужыка ў капрызную і загнаную істоту, на якую без спагады і глядзець нельга. І што дзіўна, страх гэты заразны і неўзаметку перадаецца навакольным адзін ад аднаго, ад стала да стала, ад міністэрства да міністэрства, ад губерні да губерні, і так да самага што ні на ёсць уладнага нізу. Вось і атрымліваецца: уся ўлада больш за ўсё баіцца народа, а калі страх раз'ядае душу, дык пра якую любоў і павагу можа ісці размова? Вось так і жывуць улада і падначаленыя, адна баючыся і ненавідзячы, другія — пагарджаючы і сваволячы. Вы калі-небудзь чулі, каб народ наш уладу хваліў, не па разнарадцы, не ад страху, а ад чыстага сэрца? Не чуў гэтага і Касталомскі. Ён сядзеў, нахмурыўшыся сычом, на каменданцкай верандзе і тупа глядзеў на апошнія падрыхтоўкі гарнізона, які рыхтуецца выступіць для вядзення баявых дзеянняў у навакольных гарах.

«Як жа гэтай бесталкоўшчыне Верабейчыкаву растлумачыць, што з вайной трэба пачакаць? — разважаў галоўны апрычнік. — Нельга лезці ў горы без дакладу маёй групы аб поўнай гатоўнасці. Усё-ткі Гопс — сука, прытым поўная! Гэта яна мне за нешта помсціць, жылы цягне, ну пачакай, набрыдзь! А што гадзіць, што гадзіць? Можа, яна да ўсяго даперла і спакойненька змылася з гэтых задрыпаных гор? Ляжыць сабе, лярва, дзе-небудзь ля цёплага мора, дупу грэе! А што калі і таго горш, здала яна сябе і заданне, і боезарады, і групу падтрымкі бандзюкам, і цяпер прыдумляе фінты, як бы з усяго гэтага сухой вывернуцца. Што-што, а сухой з вады яна выходзіць майстрыца…»

— Ваша Бязлітаснасць! — перапыніў яго невясёлыя роздумы Верабейчыкаў. — Даручанае мне войска прыведзенае да паскоранага марша і пачало скрытнае перасоўванне ў зададзены раён.

Апрычнік канчаткова ачуўся і ўтаропіўся на бравага ваяку, зацягнутага ў партупею і абвешанага палявымі неабходнасцямі, як навагодняя ёлка.

— Як пачало перасоўванне? — ускрыкнуў маскоўскі начальнік, ускокваючы з крэсла. — Хто дазволіў? Генерал, вы, вы… — апрычнік закіпеў непадробным гневам.

— Я ўжо без малога сорак гадоў як генерал, — адчаканіў камандуючы і дастаў з вялікай планшэткі некалькі аддрукаваных на камп'ютары лістоў, на першым у правым верхнім рагу пад словам «Зацвярджаю» красаваўся размашысты і не пазбаўлены вытанчанасці подпіс галоўнага апрычніка. — Паводле вамі асабіста зацверджанага плана баявых дзеянняў. Вось пункт нумар шэсць: «Пачатак скрытнага перасоўвання ў зададзеныя раёны…», час: трынаццаць трыццаць. Цяпер трынаццаць сорак, — зірнуўшы на свой стары гадзіннік, растлумачыў генерал і схаваў паперы. — Так што войскі ўжо больш за дзесяць хвілін як на маршы!



— Генерал! — амаль зароў апрычнік. І невядома, чым бы завяршылася гэтая сцэна, не ўляці на веранду адзін з памочнікаў Касталомскага.

— Чэкіс Феліксавіч! — грэбуючы ўсякімі субардынацыямі, загарлапаніў ён. — Ёсць сувязь! Аперацыя ў стадыі «клоуз до»!

Прыліў радасці быў такой сілы, што Касталомскі абняў генерала і смачна пацалаваў прама ў вусны.

— Дык, кажаце, генерал, войскі на скрытным маршы?

— Так і ёсць! — гідліва выціраючыся, адказаў Намеснік.

— А калі марш скрытны, то чаму яны песні гарлапаняць?

— Ды як жа без песні на вайне? Не, без яе ніяк нельга! І потым грамадзянскае насельніцтва павінна ведаць, што ёсць у яго абарона ад супастата. Калі сапраўды скрытнасць спатрэбіцца, там яны замоўкнуць, там зусім іншы, Баявы статут дзейнічаць пачне, а пакуль Страявы ў сіле, хай спяваюць. Можа, хтосьці з іх у апошні раз песняй душу цешыць… — з сумам скончыў генерал. — Ну дык я пайду? Спраў яшчэ шмат.

— Так, вядома, ідзіце, камандуйце, я да вечара буду ў вас. — Дачакаўшыся, пакуль вайсковец спусціцца з ганка, сядзе ў машыну і пакоціць наўздагон свайму войску, апрычнік запытальна падняў бровы на падначаленага.

— Усё па плану, зарады перададзеныя Гопс, аператар і старэйшы групы пад выглядам дэзерціраў укаранёныя ў банду. Да вечара поўная гатоўнасць. У сем трыццаць заўтрашняй раніцы час «Ч».

— Ну і цудоўненька, ну і ладненька! — паўтараючы Яснавяльможнага, Касталомскі замітусіўся па верандзе, паціраючы рукі: — Яўлампій Гансавіч! Ты асабіста адказваеш за кітайскую конніцу. Інструктуй да адурэння. Чалавек трох з нашых апрані ў іх дурныя халаты, — апрычнік тэатральна ўздыхнуў, — вялікія справы заўсёды патрабуюць вялікіх ахвяр. Мы з табой вылятаем роўна ў тры ночы. Верталёт перагнаць увечар за гару, каб прыгонных сабак не палохаць зранку. Так, і яшчэ… — панізіўшы голас, ён, азірнуўшыся, дадаў: — Хаціну гэтую загадай нашым мясцовым таварышам у шэсць трыццаць падпаліць. Развялі, разумееш, гадзюшнік, чытальнікі хрэнавыя. Я ім пакажу вольніцу! Так, ледзь не забыў, актывістак з моладзевага крыла «Грамадзянскай згоды» знайшоў?

— На жаль, не… — ціхім прабачальным голасам вымавіў Гансыч, — усе пагалоўна мабілізаваныя Верабейчыкавым для вайсковых патрэб. Іншых жа маладзіц мясцовыя бабы не даюць і ад маіх людзей хаваюць.

— Дзікуны. Ніколі цывілізацыя не прышчэпіцца на гэтай дзічцы! Што ж, давядзецца задрамаць ухаластую. Мінус табе, фашысцкі недабітак, мінус.

## 30

Ноч у лагеры Макуты мінула неспакойна. Спачатку ўвесь вечар біліся з Эрмітадорай. Дзеўка трымалася дзікай коткай, замест адказаў абсыпала ўсіх гнеўнымі іскрамі з вачэй, супілася і маўчала. Сар-мэн спрабаваў быў падступацца і з ласкай, і са строгасцю — усё без выніку. Паспрабавалі, адправіўшы залётніка ад граху далей, прыструніць дзеўку бізуном — куды там, так выгіналася, што сырамятная скура на кавалкі распусцілася, тронак — у дзяркач, а разбойніка, які падняў на яе руку, нібы лялькі, на некалькі метраў адкінула. Дзівіліся ўсе, а зрабіць нічога не маглі, іншай нейкай стала атаманава нявеста. Макута загадаў адстаць ад яе, але вачэй не спускаць. Потым яны яшчэ доўга пра нешта шапталіся з Сар-мэнам і недапавешаным апрычнікам, а бліжэй да поўначы прыбегла прыслужніца і з ровам паведаміла, што знікла яе маладая гаспадыня. Хапіліся шукаць, ды куды там, цемрадзь вакол хоць вочы выкалі, а тут яшчэ аказалася, што не адна згуба здарылася, а разам з давескам. Калі Даша, размазваючы па твары слёзы і соплі, распавядала атаману аб згубе, далажылі, што з ёй знік і маскоўскі намеснік, у Макуты як камень з сэрца зваліўся: «Ну калі ўдваіх зніклі, далёка не сыдуць, дзе-небудзь у густой траве-мурагу пад кустамі і залягуць. Справа маладая, ды і бачылі іх сёння днём за гэтым самым заняткам ля верхняга раўчука. Добра, хай цешацца, можа, да Званскай і ў сваты патраплю». Зусім важак супакоіўся, калі ўвесь лагер даведаўся, што ў прыцемках кармілі іх на кухні, а пасля добрай трапезы падаліся галубкі не ў лагер, а кудысьці ў начную скрытнасць.

Пакуль усё гэта дакладвалі, Гопс сядзела рахмана ў куце будана і, не міргаючы, глядзела на невялікае бяздымнае цяпельца, якое павольна калыхалася за невысокай каменнай загарадкай пасярод атаманавага жылля. І раптам дзеўку як быццам нешта штурхнула знутры. Трывожна крыкнуўшы, нібы начная птушка, яна, здавалася, вылецела з хаты і растварылася ў непрагляднай начной цемры.



— Што яна крыкнула? — неяк разгублена спытаў Макута, працягваючы думаць пра нешта сваё.

— А, здаецца, імя нечае ўспомніла, — адазваўся ўсюдыісны Мітрыч, — ці то Таша, ці то Маша. Дзіўна іншае, атаман, яна ж вылецела адгэтуль…

— Як гэта вылецела? — усё гэтак жа млява, баючыся спалохаць зацепленыя ўсярэдзіне думкі, адазваўся Бей.

— Ясна як, па паветры! Толькі як гэта ёй удалося, не разумею. Нібыта як і збегла, а ногі ж зямліцы не дакраналіся! Я збоку глядзеў, і мне добра ўсё было відно, сантыметраў так на дзесяць ад зямлі ногі боўталіся. Вось такія справы, атаман.

Не паспелі яны толкам абгаварыць гэты цуд, як звонку пачуліся гучныя крыкі і бабскае выццё. Шырма віхнулася ўбок, і ў памяшканне ўвайшла Эрмітадора з Машкай на руках. Знежывелае цела прагіналася, скрываўленая галава матлялася. Гопс спынілася разгубленая, не ведаючы, што рабіць.

— Пакладзі на стол! — распарадзіўся Макута, адным махам змятаючы на падлогу ўсё, што грувасцілася на збітым з нявыгабленых дошак шчыце, замацаваным на тоўстых козлах з доўгай сцяжкай, — быстра ўсіх дактароў сюды!

— Бей, я ўжо тут, — прабіваючыся скрозь натоўп зявакаў, адазваўся доктар Брументаль-джан. — Святла б трэба пабольш.

Мітрыч запаліў два газавыя ліхтары.

— Яна яшчэ жывая, — як бы сама сабе сказала Гопс, падняла з падлогі невялікую падушку з тых, што па-ўсходняму клалі на атаманскае крэсла, і падклала яе пад галаву няшчаснай.

— Біў яе хтосьці справа ў левую скронь, — аглядаючы раны, тлумачыў доктар. — Косткі чэрапа нібыта цэлыя, можа, дзе патрэсканыя, а так цэлыя. Разы тры яе дужа стукнулі, а затым яна інстынктыўна рукамі закрылася… Бачыце, што нелюдзь нарабіў. З рукой, баюся, будуць праблемы, хоць бы наогул яе захаваць.

Сапраўды, лёгкая, тонкая, з доўгімі, як у піяністкі, пальцамі кісць была размажджэрана і стала крывавай калатушай з агаленага мяса і паламаных костак.

— Атаман, мне трэба шмат гарачай вады, чыстых прасцін, і выдаліць з аперацыйнай старонніх, уключаючы цябе.

Бываюць такія моманты, калі начальства (апрычнікаў гэта не тычыцца), якім яно ні было б, змушанае падпарадкавацца і выконваць распараджэнні тых, чыя справа ў гэты момант важней

для грамадства і жыцця. З імправізаванай лякарні выйшлі ўсе, акрамя Эрмітадоры, якую, дарэчы, ніхто і не падумаў выганяць.

Народ лясны гудзеў у справядлівым гневе, ля раўчука і вадаспада людзі з ліхтарамі і паходнямі шукалі няшчаснага Енаха. Усе былі ўпэўненыя, што і яго спасцігла тая ж доля. Пані Званскай вырашылі да раніцы пакуль нічога не паведамляць. Начныя клопаты ледзь былі не парушылі ўсе Макутавы планы. Ніхто не павінен быў бачыць, як здымаюцца яго разбойнікі з толькі што ўладкаваных гнёздаў і лежняў. Здымаюцца таемна, на іх месца ставяцца саламяныя лялькі, балазе іх у атаманавым абозе заўсёды мелася з лішкам. Разбойнік жа заўсёды не колькасцю і тактыкай перамагаў, а хітрасцю, зманам ды нахабствам сваё браў.

Людзі, якія мяняліся месцамі з лялькамі, сыходзілі, абыходзячы лагер, у далёкую хованку, так што ўсе ўнізе заставаліся ўпэўненыя, што засадчыкі на сваіх месцах і пільна ахоўваюць таемны ўваход пад вадаспадам. Пра ўваход у Шамбалу ведалі ўсе і тым невымоўна ганарыліся, многія нават з пенай запэўнівалі суразмоўцаў, што пасля перамогі над казённым войскам Макута абавязкова ўсіх дапусціць у гэтае вялікае царства асалоды і радасці, і там кожны зможа папрасіць, як у Бога, таго, што яму трэба для поўнага шчасця. Толькі, казалі ўсёведныя старыя, нельга там прасіць грошай ды іншай якой тутэйшай дробязі, да якой так прывучаны ўладамі ўвесь наш зямны свет.

— Ну што, пляміш? — пастукаўшы па плячы кульбай, пазвала аднекуль з цемры старая. Макута здрыгануўся ад нечаканасці. Ён ужо і забыўся пра сваю сваячку, мяркуючы, што яна даўным-даўно пусцілася ў зваротны шлях са сваёй цудадзейнай вадой. — Ды не палохайся ты, гэта я, старая бабка твая. Дзякуй за дапамогу, мілок, добрую справу дапамог сатварыць і мне, і Свету Святла. Бачыцца наша парода, Макутаў корань, а малайцоў тваіх адразу адпушчу, ты за іх не перажывай, толькі скажы, куды іх адправіць. — Старая замоўкла, здавалася, яна разважае: варта нешта важнае паведаміць сваяку ці прамаўчаць. Атаман напружыўся, нібы звер у засадзе.

— Адно я табе напрыканцы скажу, — з уздыхам вырашыла родзічка, — ты дзеўку гэтую рыжую асабліва не задзірай і сваім галаварэзам таго не дазваляй. Дрэнна можа скончыцца. Здаецца мне, што Вартавым яе зрабілі, калі пасля смерці ў свет белы выпусцілі.

— Якім гэта яшчэ вартавым? — насцярожыўся пляменнік. Ён заўсёды цураўся і пабойваўся ўсякай чартаўні і незразумеласцей.



— Іхнім Вартавым вялікай брамы Белаводдзя. Трохі, кажуць, жыве гэтых Вартавых сярод людзей, але сілы ім неймаверныя дадзеныя, і, нібыта, смерці яны не імут. Вось так-та. Ёсць адна старая байка, што як сустрэнеш Вартавога, трэба на калені прыпасці і, дастаўшы з-за пазухі галыш-камень, узяць яго ў левую руку ды кінуць у таго вартавога са словамі: «Ад сэрца майго, цеплыня цела майго, крэпасць духу майго, табе ў дапамогу!» Калі міма праляціць камянюка ці патрапіць у таго, знаць не той ён… А як перастрэне ён твой камень таксама левай рукой, сцісне, ды так, што толькі пыл паляціць па ветры, знаць сапраўдны Вартавы перад табой, і падарунак твой, і дапамогу тваю прыняў. Вось такія справы. Ну, бывай, ці што? Пабачымся ці не пабачымся, нікому не вядома, а крывінку родную радая была ўбачыць, на вось, трымай.

І яна саўганула ў руку Макуты важкі, абкатаны вадой галыш. Ці то атаман і сапраўды разгубіўся, ці то адмыслова не стаў перабіваць сваячку, але, будзь у яго хаце пабольш святла, староннія ўбачылі б у суровага атамана разгубленны твар і слёзы на вачах. Прашамкала бабка і адышла ў ноч, як і не было яе. Толькі лёгкі шэлест слоў, лёгкі і непрыкметны, як яна сама, яшчэ, здавалася, стаяў у нерухомым начным паветры.

— Бей! — вярнуў яго да рэальнасці нягучны голас Мітрыча.

— Чаго тамака? — хаваючы за пазуху камень, з неахвотай адазваўся Макута.

— Сар-мэн вярнуўся, з недабіткам і яшчэ адным, які пры бонбах быць далжон, — і, як бы абганяючы атаманава пытанне, дадаў: — Яму растлумачылі, што мы поўныя прыдуркі і ўспрымаем яго і ягонага начальніка як добраахвотных да нас перабежчыкаў, так што пры выпадку ты яго падбадзёр.

— А бомбы ж ідзе?

— Дык у нас ужо, у крайняй пячорцы прыхавалі пад надзейнай аховай. І шчэ, з крэпасці ганец прыскакаў, гаворыць, што заўтра апоўдні войска ўсё падасца ў наш бок. У цытадэлі застанецца толькі інвалідная каманда ды атрад конных ханьцаў. Іх там апрычнікі ўсё на кагосьці нацкоўваюць.

— Так, гэта добра, што сатанінская тая машына ў нас, — нібыта прапускаючы міма вушэй апошнія словы, прамовіў атаман. — А як думаеш, не рване яна сама па сабе?

— Не рване, Бей, не рване, — адазвалася цемра голасам Сар-мэна. — Я гэтага грамацея-шыбеніка ўсю дарогу катаваў. Бажыцца, што без двух ключоў нічога з гэтымі прыладамі не здарыцца. Ты б бачыў гэтыя бомбы: два плоскія рэчмяшкі, як

дзіцячыя ранцы, з якімі я ў школу хадзіў, бракуе толькі налепкі з Мікі Маўсам, цяжкія, праўда.

— Добра, ты пaціху людзей адводзь, і чуеш, каб ні адзін у лагер ні нагой…

— Дык ці ж я не разумею, Бей… Як там маладая Званская?

— Ужо ведаеш? Дрэнная была, калі дохтар усіх з будана майго папёр. Ён кажа, галава цэлая. І якому вылюдку дзіцё наіўнае перашкодзіла?..

— А вы гэта, Енаха ейнага адшукалі? — спытаў Сар-мэн, падыходзячы да атамана амаль ушчыльную; атаману здалося, што ў голасе падручнага бразнулі нейкія ліхія ноткі.

— Не, шукаюць яшчэ, можа, яго цела вадой аднесла куды…

Пры ўваходзе, дзе яшчэ тоўпіліся людзі, праўда, цяпер гэта былі ў асноўным бабы, пачуліся радасныя воклічы.

— Ну, чаго там новага здарылася, Мітрыч? — спытаў Макута.

— Ды ўсё добра, атаман, — неўзабаве даклаў ардынарац. — Ажыла барынька, піць папрасіла. Дохтар з Гопсіхай над ейнай рукою вядзьмараць.

— Ты перадай айбаліту, хай ён у яе выведае, хто іх мардаваў і дзе яе паніч гарадскі. Можа, што путнае скажа.

Машку ўжо не аднойчы пра тое пыталі, але галасы і самі людзі, якія задавалі пытанні, былі дзесьці далёка-далёка, і словы іх былі падобнымі на нейкі далёкі гук ці то трубы, ці то лакаматыўнага гудка. Дзяўчына хутчэй адчувала сваім бездапаможным целам, чым разумела, што з ёй нешта адбылося, адбылося страшнае і невытлумачальнае. Любая спроба напружыцца і хоць нешта ўспомніць заканчвалася рэзкім храбусткім болем у галаве, і смутныя карціны жыцця з невыразнымі гукамі правальваліся ў звонкую цемру. У чарговы раз вынырнуўшы з гэтай страхоткай бездані, яна паспрабавала папрасіць вады, і яе пачулі! Яе зразумелі, і халодная, салодкая, як мёд, вільгаць павольна пакацілася па горле кудысьці ўнутр. Вада падзейнічала як снатворнае, пачала даходзіць наркозам, і яна не правалілася ў непрытомнасць, а ціхамірна заснула моцным сном. Сышла і не адчувала, як падшываюць скуру на галаве, як у адзеравянелай ад наймоцнай анастэзіі руцэ корпаецца доктар, як Эрмі, дзівячы ўсіх, складае яе раздробненыя косткі, і яны, нібы змазаныя нейкім нябачным клеем, сцягваюцца і прымаюць свой першародны выгляд. Машцы мроілася маці, быццам яны пра нешта ўсё гавораць, гавораць і ніяк не могуць нагаварыцца. Потым сніўся Енах, нейкі ўвесь вінаваты, пакрыўджаны, які ўцякае ад яе, а за ім, за яе каханым, кідаецца наўздагон Эрмі, і вось яны знікаюць за грэбнем пароcлага высокай сухой травой пагорка. Рэўнасць і крыўда душаць яе. Плюнуўшы на ўсякія прыстойнасці, яна, асцярожна выгінаючыся, нібы змяя, паўзе да таго пагорка. Трава хавае яе, і вось яна ўжо чуе нейкае смутнае вантробнае гырканне, засталося толькі працягнуць руку і рассунуць сухія сцябліны. Машка хоча гэта зрабіць і баіцца гэтага, буркатанне Эрмі ўсё гучней і выразней. Думкі блытаюцца, дзяўчына не можа паверыць у такую адкрытую подласць самых блізкіх для яе людзей і ўжо збіраецца гэтак жа непрыкметна папаўзці назад, але ў апошні момант нейкая невядомая сіла прымушае прымяць траву, зірнуць уніз, і яна камянее ад жаху: Эрмі ў аблічны ці то чалавека, ці то тыгрападобнага звера дзярэ вострымі ікламі цела Енаха; уся перамазаная крывёй, яна, здаецца, не заўважае нічога, што робіцца вакол. Раптам іх погляды сустракаюцца, Эрмі ветла ёй усміхаецца і, запусціўшы руку глыбока ў знявечаную грудзіну, вымае яшчэ трапяткое сэрца:



— Вось глядзі, сяброўка, што білася ў ягоных грудзях! — З гэтымі словамі яна шпурляе скрываўлены камяк на зямлю. Яшчэ не паспеўшы дакрануцца пажухлай ад цвёрдага горнага сонца травы, сэрца яе каханага на лёце робіцца амаль чорным і ператвараецца ў дзікі, парослы шэрым лішаем камень. Машка крычыць і пералятае ў нейкі іншы сон, які неўзабаве змяняецца яшчэ адным, потым яшчэ, яшчэ і так да бясконцасці.

## 31

Яснавяльможны Дэмакрат гуляў у марскі бой. Ужо так здаўна ў нас павялося, што гэтая высокаінтэлектуальная забава з'яўлялася неад'емнай часткай баўлення часу найсвятлейшых асобаў ласкавай Айчыны. А, зрэшты, чаго яму было не гуляць, калі па газавай трубе поўны парадак, у дзяржаве, як і ў мазгах грамадзян, найпоўны застой, а ад яго і ўсенародны росквіт, як ва ўтульнай балацiне з сапрапелем. У нас жа заўсёды так: як застой, дык у народа адухаўленне і блажэнная радасць, а ўсё таму, што начальства люд паднявольны не трывожыць і рэвалюцыі рабіць не прымушае. Як ні назаві нашую дзяржаву — што Княствам, што Ардой, што Белай Руссю, што Чорнай, што Крывіяй, што Масковіяй, што Звязам усіх замурзаных народаў, што Сібрусіяй — не можа яна доўга без усеагульнай смуты і рэвалюцыйных закідонаў жыць. А ўжо калі бунт загудзе чырвонымі віхурамі пад стрэхамі ні ў чым не павінных хат, тут ужо трымайся, рэзаць пачынаюць адзін аднаго нашыя

суайчыннікі, толькі храбусценне костак над светам стаіць, — вось чаму ўсякая ўладная апатыя ўспрымаецца ў народных масах як самая што ні на ёсць асалода і росквіт. Ды адно шкада: нядоўгія гэтыя аддухі, гадоў ад сілы пятнаццаць — і ўсё, зноў калаўрот і крывавыя раўчукі на абледзянелых маставых. Так што цяперашні час раем для падданых здаваўся — нічога, што надгаладзь, нічога, што ўбога і забіта, затое без рэвалюцыйнага энтузіязму і вайны.

Гуляў сабе Пераемнік сам з сабой і цешыўся сваім карабельным перамогам, а ўсё ў яму Богам дадзеным краі ішло павольна і прадвырашана.

«Д-4». Патрапіў! Патрапіў! Ці гэта не «д», а «у», вось свінні лысыя, колькі разоў ім можна гаварыць, каб наносілі друкаваныя літары, а не прапісныя. У гэтых прописах я змалку блытаюся, то ўніз закавыка, то ўверх — як іх у запале бою разбярэш. Трэба будзе пакараць начальніка Генеральнага штаба за падобнае галавацяпства. Калі яны мне не могуць баявыя карты выправіць, я ўяўляю, што яны для войска кляпаюць. Трэба, трэба неадкладна пакараць».

— Ваша Свяцейшаства! Тэрміновая тэлеграма ад графа Касталомскага! — адрываючы яго ад вялікіх спраў, прапітым голасам даклаў начальнік палацавай варты Уласій Алекс Бэн Ягуда-орк і бесцырымонна сунуў Кіраўніку ў рукі даўгаватую кардонку.

Трэба адзначыць, што Бэн-Ягуда быў самым развінчаным царадворцам і без мернай шклянкі працоўны дзень не пачынаў. Пры пасадзе ён быў ужо без малога з паўстагоддзя. Хто яго прымайстраваў на гэтую пасаду, ужо даўно сцерлася з памяці самых заўзятых старажылаў Крамля. Разоў дзесяць, а можа і больш, выганялі яго за казнакрадства і непрабуднае п'янства на працоўным месцы, але праз паўтара-два месяцы вярталі, бо без яго хоць пиць і менш пачыналі, але затое цягнулі з дэмпалацяў усё, што патраплялася пад руку: ад туалетнай паперы да мэблі і гуманітарнай дапамогі. Аднойчы нават уседзяржаўныя тэлефоны ў найсвятлейшым кабінеце зрэзалі. Вось такія былі загагуліны.

— Ты гэта сам, сам пачытай, галубчык, — адпіхваючы кардонку, вымавіў усенародны манарх і прыняў належную свайму становішчу паставу задуменнага бацькі нацыі.

— Заданне амаль выканана, аб выніках далажу асабіста. Халоп Яснавяльможнага Дэмакрата, подпіс.

— І ўсё?



— Усё! А чаго там распісваць, ірване Шамбалу — і канцы ў ваду…

— Цішэй, цішэй ты! Якое «ірване», якое «ірване»! Зберажэ для мілай сусветнай супольнасці, можна сказаць, яго калыску. Так, ка-лы-ску. Дзіўна, дзіўна, а ты, дарагі, не заўважаў, што калі ў слове «калыска» прыбраць «лы», то атрымліваецца слова «казка».

— У сэнсе «каска», на галаву… ці што?

— Ды ўжо розумам ты, братка, не дзівіш, не дзівіш! Пры чым тут твая галава? Ты ёй, галавой-та, падумай.

— Ды куды ўжо нам пры вас-та!..

— «Калызка» без лы — казка! — заскакаў ад радасці Пераемнік, задаволены сваёй кемлівасцю. — Ну, дзякуй табе, дзякуй, ты, мабыць, ідзі сабе з Богам, а я пакуль пакірую краінай, сам бачыш, спраў безліч, — і ён кіўнуў на таўшчэзны стос нарыхтовак марскога бою, на якіх красавалася генштабаўская шапка і чырвоны штамп «найсакрэтна».

Дачакаўшыся, калі ахоўнік выйдзе з кабінета, вышэйшая службовая асоба выслізнула з-за стала і зацёнявала да адмысловай кабінкі з матавага пластыку, у якой стаяў сакрэтны тэлефон сакрэтнай сувязі з «Пышнай сямёркай свету». Шчыльна прычыніўшы дзверы, уладар выцер аб штаны спацелыя далоні і падняў трубку. На тым канцы адазваўся Білдзі-Білдзінг Абу Дэн малодшы.

«Дык, значыць, сёння пятніца, — падумаў Пераемнік, — Білдзінг Абу якраз і дзяжурыць па пятніцах у Вялікім доме сусветнай дэмакратыі».

— Вітаю вас, Ваша Усясветнасць. Справа ідзе да завяршэння, да моманту ўсеагульнага збавення засталося не больш як дваццаць гадзін.

— Добра, наш маленькі сябар. Сапраўдныя змагары свабоды і традыцый будуць вам вельмі ўдзячныя. Я, прызнацца, вельмі ўражаны аператыўнасцю вашага рашэння. Вы маеце рацыю, тройчы маеце, нікому не патрэбны гэты галаўны боль са шматлікімі невядомымі. Нам толькі настаўнікаў з-пад зямлі не хапала.

— Выбачайце, а як жа адмысловае меркаванне Алі-Фіат дэ ля Спагеці, мне казалі, што ён мае намер звярнуцца ў міжнародны трыбунал да Пантоў Усясветных. Мне нешта боязна, вось бы афарміць маю прыватную ініцыятыву як калектыўнае рашэнне Сямёркі.

— Не бойцеся, наш маленькі сябар! Мы заўсёды з вамі і ў крыўду вас нікому не дамо, у выпадку чаго мы Спагецi выведзем са складу сталых сямёрачнікаў, а вас увядзём. І тых спраў! Ды вы і самі не бойцеся, перакрыйце яму газік, паглядзім, колькі ён на сваіх макаронах напярдзіць, мафіёзі чортаў. Так што беражы нас Усёвідушчае вока.

Трубка замоўкла, і ў ёй стаў выразна чутны шоргат магнітафоннай плёнкі.

Куляй выскачыўшы з кабінкі, Пераемнік пачаў аддаваць каманды:

— Экстранна павялічыць колькасць блакітнага золата ва ўсенародным сховішчы! Адказваюць усе! Народгалоўпрому прыступіць да паступовага паніжэння ціску ў струменевай трубе «туды — газ, назад — што дадуць» для лектаральнай зоны «Гламурны абрэк»! Пачаць перамовы з хахлабульбамі пра дадатковыя пастаўкі ўсенароднага газу, а галоўнае, рэдзькі і бабовых. Адказваюць усе! Усё!

Падобнымі ўзварушэннямі Яснаяльможны краіну бянтэжыў рэдка, таму, вельмі задаволены сабой, ён спакойна вярнуўся да перапыненай марской баталіі.

32

Горная ноч, непраглядная і густая, нібы чорная вата, неахвотна ішла на змяншэнне. Амаль нябачнае неба з дробнымі слязлівымі зоркамі паступова шарэла, а раннія аблокі і зусім ператварылі яго бяздонны аксаміт у паліняла ад дажджоў і сонца палатно нявызначанага, замытага колеру. З цямрэчы паступова выступалі мудрагелістыя сілуэты гор, камянёў і дрэў, лёгкі туман, які плавае ў амаль нерухомым перадсвітальным паветры, ствараў поўную ілюзію іх руху, чаму нязвыкламу да гор чалавеку нежывы свет здаваўся жывым і быццам населеным волатамі, што вылезлі з дрымучых бярлогаў на кароткае ранішняе паляванне.

Енах, моцна накульгваючы, клыпаў па ледзь заўважнай сцежцы, якая пятляла нешырокім крысом уздоўж нябачнага ў цемры раўчука. Сцежка то ўзвышалася, то спадзіста сыходзіла ўніз, і тады шум вады ўзмацняўся, заглушаючы ягоныя крокі, рэдкія адрывістыя крыкі нябачных птушак, начныя шоргаты. Здавалася, трывожная музыка вады паглынала ўвесь вакольны свет.

«Гэта яе кроў, абганяючы мяне, б'ецца аб дзікія шэрыя валуны! Не хапала табе толькі містыкі. Ты лепш варушы нагамі, а то яшчэ з якой-небудзь звяругай ці, і таго горш, з бандытамі



Макуты сутыкнешся. Цікава, знайшлі яны гэтую дурніцу? Не, яна адназначна была ведзьмай. Вось і акруціла. Ціхан яшчэ ў дзень майго прыезду папярэджваў, што ўсе тутэйшыя бабы і дзеўкі — ведзьмы, пра што і самі часцяком не ведаюць. Асінае гняздо, мае рацыю Верабейчыкаў, напалмам яго трэба. А то ў Маскве лічаць, што ўшчэнт змарнавалі паганскую заразу і апошніх цемрашалаў па найдабрэйшаму рашэнню Дзяржаўнага міжканфесійнага сабора спалілі жыўцом у 2045 годзе недалёка ад Разані ў вапнавых кар'ерах. І вось на табе, хутка сярэдзіна дваццаць першага стагоддзя, а тут як у сярэднявеччы».

Сцежка стромка пайшла ўгару, шум вады паступова стаў цішэць, выпускаючы з сябе запалоненыя гукі ночы.

«Усё, што так добра было мной задумана, паляцела сабаку пад хвост!» — упіваючыся слыхам у трывожную перадсвітальную цішыню, Енах пачаў у які ўжо раз перабіраць нядаўнія падзеі. Не, ён не спрабаваў іх аналізаваць, нават згрызотаў сумлення не адчуваў — у гэтым плане ўсё, што здарылася, для яго было ясным і абгрунтаваным. Як назойлівыя мухі ў галаву лезлі зусім іншыя пытанні: чаму, чаму яна не пагадзілася з яго планам, чаму захацела застацца з гэтымі адкідамі грамадства і праігнаравала яго шчырыя пачуцці? Чаму яго паставілі ніжэй за нейкіх вырадкаў, якія не маюць ні кала ні двара? Адказаць на гэта ён, як ні стараўся, не мог.

У свеце няма нічога больш праціўнага, чым пакінутыя без адказу пытанні. Яны, як міны запаволенага дзеяння, працягваюць жыць усярэдзіне кожнага сваім страшным разбуральным жыццём, пазбаўляючы душэўнага супакою і чакаючы сваёй гадзіны, каб у самы непадыходны момант разнесці ў жмуты ўвесь гэты так і не зразуметы свет.

Енах, калі гэтага і не адчуваў, то, прынамсі, здагадваўся, і ад гэтага ўсярэдзіне закіпала нейкая дагэтуль яму не вядомая злосць. Ён нават сам яе палохаўся, пачынаў рабіць вялікія ўдыхі, каб супакоіцца, і спяшаўся пераскочыць на якія-небудзь іншыя тэмы. Аднак праз нейкі час усё вярталася на кругі свае.

«Спачатку занаравілася Машка…. — не, гэта не ён выклікаў да жыцця словы, гэта яны самі, не спытаўшы, зноў палезлі ў галаву. — Потым дэбільнага каня нейкае лясное стварэнне спалохала. Добра хоць на паляне з сядла вылецеў, а не на гэтай казінай сцежцы, а то б ужо даганяў сваю любую ў нябёсах. Ды што ж ты на гэтым дурным слове, нібы на кульгавай кабыле, усё скачаш: кахаў, не кахаў? Дзіцячае пытанне, нібы лічылка: «У папа была сабака, поп яе любіў…». Цьфу ты, чорт! Кахаў ці

не, чаго ўжо цяпер гадаць! Ды проста занадта моцнай стрэмкай затрымалася ў душы ейная цнатлівасць. Смешна сказаць, але яна пры ўсім маім бурным жыцці аказалася першай, якую я зрабіў жанчынай. Можа, праз тое і ўвесь мой бзік, можа, менавіта праз тое я і перагнуў палку? Што на мяне тады найшло? Гэта ж трэба: каменем па галаве…

…Добра, годзе, супакойся, трэба аб іншым, аб дарозе і аб сваім выратаванні думаць, а не сантыменты разводзіць. Трызненне нейкае! На дарэмшчыну графам захацеў стаць! Старэць я, мусіць, пачаў, ад гэтага і разводжу гэтую важданіну… Хоць што дзівіцца: я ўпершыню забіў чалавека. Проста так, узяў… і каменем па галаве… а перад гэтым лашчыў гэтую галаву, цалаваў яшчэ пахкія кашай губы, а потым узяў і… А чаго ты ад сябе хочаш? Табе пад сорак, а дзеўцы васямнаццаць, і яна, як салодкая, сагрэтая бацькоўскім сонцам ягада, гатовая да ўсяго на свеце… Што б рабіў любы мужык, апыніся на тваім месцы? Драць трэба выспелую клубнічку, пакуль іншыя не паласаваліся. Бо не толькі мяне да яе цягнула, але і яна ляцела насустрач усяму гэтаму з яшчэ большым жаданнем. Не, мы кахалі адно аднаго, бо калі такі парыў — не каханне, тады што ж такое гэтае каханне? Вядома, можа, і не трэба было яе… але што здарылася, тое ўжо здарылася. Мусіць, праўду казаў дзед: залішняя адукаванасць вядзе да расслаблення волі. І тройчы мае рацыю Яснавяльможны, які скасаваў чытанне і ўсе гэтыя дурныя іспыты па літаратуры, ад іх толькі душэўная гнілата і сумятня ў галаве. Уся нацыя, усе саслоўі, прыведзеныя да вялікага адзінства, усе да адзінага — халопы Яснавяльможнага Дэмакрата, усе, уключаючы бацькоў і дзяцей самога Пераемніка. Халопу гідка быць інтэлігентам, а ты соплі распускаеш. Не каханне ты забіў сваё, а спыніў дзейнасць патэнцыйнага ворага, бо ты толькі ўяві, які перапалох яна падняла б сярод бандытаў! А тыя б, чаго добрага, кінуліся пярэчыць выкананню волі сталіцы. І ўяві на хвіліну — Яснавяльможнаму далажылі б, што ў гэтым злачынным акце непасрэдны ўдзел прымаў ты — яго сатрап, паслядоўнік, дваранін! Жах, гэта ж канец усяму твайму роду! Абавязак, свой абавязак як верны халоп Яснавяльможнага ты выканаў… А потым падумай, галава ты садовая, чаму яна, такая ўпартая асліца, магла б навучыць тваіх дзяцей?»

Енах не на жарт расхваляваўся ад душэўнай буры. Усё ў ім плясала і скакала. Ён упершыню ў жыцці амаль ненавідзеў сябе, і толькі выратавальны круг служэння Дзяржаве працягваў утрымліваць яго на паверхні.

«Ну ты яшчэ вазьмі ды заплач, павініся і вярніся назад, каб разам з усімі падсмажыцца на ядзернай патэльні! І нават гэты подзвіг у вачах усіх тваіх калег і начальнікаў будзе выглядаць здрадай, а вось выратаванне сябе і дапамога ў выкананні волі Пераемніка ўспрымуцца светам як відавочны подзвіг».

Ад такой высновы, якая нават яго самога здзівіла, Енах уздыхнуў з відавочнай палёгкай. Яму нават здалося, што выцятае калена менш баліць, і ісці стала лягчэй, а галоўнае, назойлівы шум вады застаўся дзесьці далёка ўнізе, дазваляючы лепш чуць і, у выпадку небяспекі, паспець выхапіць з-за пояса нож ці скочыць у кусты.

Выкананне абавязку перад дзяржавай і яе ўладаром заўсёды ёсць тая зручная шырма, гэта значыць, прабачце, тая святая падстава, за якую пры жаданні можна схаваць любое сваё злачынства і любую ганебнасць. Свет жа, не чалавекам створаны, пра гэтую шырму не ведаў і жыў сваім, толькі Богу вядомым жыццём, а ў ім за ўсякую справу дрэнную ці добрую непазбежна належыла нейкая зваротная рэакцыя, нічым і нікім не абумоўленая… Усё адбывалася як бы само сабой.

Велізарны з сівым каркам мядзведзь, нібы гіганцкі аскепак жывой скалы, ужо з паўгадзіны краўся за чалавекам. Трэба сказаць, што ў свеце няма больш вераломнага звера, чым чулымскі мішка. На якія толькі поскудзі ён не ідзе ў сваім вечным супрацьстаянні з людзьмі, якія так бесцырымонна парушаюць яго звыклы свет. Аднак, што б ні прыдумляў вянок тварэння для сцвярджэння свайго панавання ў тайзе, гаспадар гэтай самай тайгі ўсё роўна аказваўся разумнейшым і хітрэйшым. З мядзведзем у сваёй нянавісці да чалавека магла паспаборнічаць хіба што яго недалёкая сваячка — расамаха.

За Енахам Мінавічам краўся не звычайны горны мішка, які выйшаў ранкам палавіць рыбы ў раўчуку і выпадкова сустрэў чалавека, за ім, насупіўшыся і шырока раздзімаючы ноздры, бязгучна ішоў адмысловы мядзведзь, які ўжо не першы год ведаў саладжавы прысмак чалавечага мяса. Сліна ў прадчуванні ласунку цякла з пашчы, але звер чамусьці марудзіў, можа, цешыў свой паляўнічы поспех, а можа, хацеў пацікавіцца, навошта гэты прынадны кавалак накіроўваецца наўпрост у ягоны бярлог, якім вось ужо гадоў восем служыла глыбокая пячора, утульная і сухая; менавіта да яе і вяла ледзь прыкметная сцежка, на якую

незразумела чаму звярнуў чалавек з наторанай дарожкі, што пятляла каля раўчука.

Амаль развіднела. Раптам Енаха насцярожыў непрыемны пах, здавалася, што гэты ліпкі смурод ненатуральна плаваў у ранішняй нябеснай чысціні. Ён, здаецца, калісьці даўно чуў нешта падобнае на адным з дзедавых заводаў па вырабе касцяной мукі. Енах спыніўся, толькі цяпер заўважыўшы, што сцежка, па якой ён ішоў, даўно скончылася. Ён азірнуўся і… аслупянеў ад нечаканасці. Літаральна ў паўметры ад яго, шчэрачыся смуроднай жаўтазубай пашчай, стаяў велізарны кудлаты звер.

«Мусіць, гэта ад яго так непрыемна смярдзіць…» — была апошняя ўсвядомленая думка, якая прыйшла яму ў галаву.

Мядзведзь з ровам падняўся на заднія лапы і ўсім цяжарам свайго паўтоннага цела вухнуў на няшчасную ахвяру. Енаху было нясцерпна балюча, скручаная шыя яшчэ неяк звязвала галаву зператвораным у суцэльны боль целам. Звер з вантробным буркатаннем развярнуў чалавеку жывот і ласаваўся цёплымі кішкамі.

## 33

Машка папраўлялася цяжка. Не вытрымаўшы адказнасці, Дашка ўсё ж выправіла Юньку да пані, каб распавесці той праўду, і цяпер са страхам чакала яе прыезду. Сядзела яна з маладой паняй неадлучна і дакарала сябе, як магла.

У куце Макуцінага будана, які пераабсталявалі пад бальнічную палату, на простай калодзе, здавалася, драмала з расплюшчанымі вачыма Эрмітадора, але і яна з працяглым уздыхам час ад часу падхоплівалася з месца, нібы вялікая птушка, падыходзіла да хворай і падоўгу вадзіла сваімі рукамі над забінтаванай галавой і рукой. Здавалася, што яна проста гладзіць сваю сяброўку, але Даша, саступаючы Гопс сваё месца, бачыла: тая напружвалася з такой сілай, што жылы на руках, шыі ды лбе наліваліся крывёй, а пот на твары выступаў, нібы буйная раса. Гопсіха нешта пры гэтым шаптала, але словы былі нейкія незразумелыя, нетутэйшыя. Адзінае слова, якое Дашка змагла разабраць, было «тара», але што яно азначала або каго так звалі — яна не ведала, а спытаць знелюдзелую дзеўку баялася.

— Эрмі, можна цябе на хвілiначку? — парушыў цішыню Сар-мэн. — Выйдзі, цябе атаман заве.



Гопс, быццам і не чуючы голасу колішняга каханка, працягвала сваё дзіўнае тайнадзейства. Пальцы ўжо не былі сціснутыя ў лодачкі-далоні і не слізгалі над пакалечанымі месцамі, а скакалі і выгіналіся, нібы дзясятак устрывожаных змей. Яны кружлялі, перапляталіся, то аддаляючыся ад хворай, то набліжаючыся.

— Эрмі! — гучней пазваў разбойнік, не бачачы, чым займаецца яго сяброўка.

— Яна вас чуе, вы пачакайце трошкі, яна скончыць і выйдзе да вас, — адказала за яе Даша і спалохалася: а раптам атаману не спадабаецца яе сваволле. Ды і не яна гэта сказала, а быццам ёй хтосьці загадаў гэта зрабіць.

Сар-мэн нешта буркнуў сабе пад нос і выйшаў. Неўзабаве, перастаўшы круціць пальцамі, выйшла і Эрмітадора.

Не паспела яна зрабіць і пару крокаў насустрач Макуце, як той, прыпаўшы на правае калена, дастаў з-за пазухі бабчын камень і са словамі, падказанымі старой, кінуў яго левай рукой у дзяўчыну. Эрмітадора амаль не гледзячы, а толькі злёгку адвёўшы руку, злавіла яго, сціснула лёгенька, і дробны пыл пырснуў паміж пальцаў, нібы гэта быў не базальтавы галыш, а шарык з тонкага цеста з мукой усярэдзіне.

— Я, Тара — вартавы Уваходу, прымаю тваю дапамогу, ад цеплыні і сэрца твайго ідучую. Кажы, цябе слухаюць.

Не бойкая, разгульная дзяўчына стаяла перад атарапелымі разбойнікамі, а нейкае ім дагэтуль невядомае ўвасабленне таемнай, вялікай і няўхільнай сілы.

Макута падняўся з каленяў і, зрабіўшы знак Мітрычу, прыняў з яго рук два невялікія зелянковага колеру ранцы з шырокімі зручнымі шлейкамі.

— Вось гэныя атамныя бомбы. Ліхія людзі хочуць праз цябе даставіць іх у пячору і падарваць, каб загубіць тое, што тамака ёсць. Ім так, відаць, будзе спадручней панаваць у іхнім свеце, без усякіх тамака падзямельцаў. — Тара слухала, не перабіваючы, Макуце нават здалося, што яна яго не чуе і не разумее. — Дык вось, табе трэба нам дапамагчы, мы без цябе ну ніяк іх не абхітрым… Табе дадуць рацыю, і ты скажаш, маўляў, усё, што павінна была зрабіць, ужо зрабіла і хутка адгэтуль сыдзеш. Ты разумееш, пра што я гавару?

Тара маўчала.

— Ох ужо і цяжка з вамі, нянашынскімі. Ды добра, галоўнае, каб падмагла. Скажаш у рацыю ўсё — і топай, куды табе трэба, а мы тут з хлопцамі ядзерную вайну ўчудзім. Такую фальшу з

саляркі, палма і толу рванём — чыстая Хера-Сіма будзе. Шуму хопіць, а так — пустышка. Ды не маўчы ты, а? Ці ты чуеш, што я табе…

— Цябе пачулі, рабі сваё, а я сваё.

Эрмітадора падышла да атамана, моўчкі ўзяла ранцы і не спяшаючыся пакрочыла па шэрым адхоне да раўчука. Яе высокая зграбная постаць выразна вымалёўвалася на фоне густога ля вады туману, а па роснай траве цягнуліся цёмныя бароздкі яе слядоў. І раптам на вачах ва ўсіх… яна знікла. Проста, не дайшоўшы да туману, растварылася… і ўсё.

Мітрыч апантана перажагнаўся. Макута пахітаў галавой і, зірнуўшы на скамянелага Сар-мэна, спагадліва папляскаў яго па плячы.

— Так, брат, ну што ж тут паробіш, калі не пашанцавала табе з бабай… Добра, пайшлі мазутам займацца. Дзе тамака твае цуд-орлікі, што з гаўна атамную бомбу згламэздаць могуць?..

Машка з цяжкасцю вярталася ў сябе. Яна ляжала моўчкі, не варушачыся, ёй страшна было расціснуць цяжкія і непаслухмяныя павекі. Галава гудзела. Машка імкнулася ўспомніць, што з ёй адбылося ўначы, але, акрамя яркіх малюнкаў прыроды, якія неўсвядомлена фіксавалі яе вочы ў апошнія дні, у цяжкую галаву нічога не прыходзіла. «Не насыціцца вока зрокам», — чамусьці ўспомнілася фраза з забароненай нядаўна Бібліі.

Там, дзесьці за шчыльна зашторанымі павекамі, шморгала носам добрая і наіўная Дашка, а яшчэ далей жыў вялікі і складаны свет, і яна яго больш не баялася. Добры і выдатны свет, у які яна вяртаецца з далёкіх падарожжаў, вяртаецца, каб жыць, спадзявацца, смяяцца, марыць і кахаць. Хоць, як і ўсе людзі, яна не ведала, што з ёй будзе далей, але добрая і вечная сіла ўжо напаўняла яе юнае цела, бо маладым вядомае толькі жыццё і пакуль яшчэ не ведамае дыханне смерці.

# АПАВЯДАННІ, ЗАПІСЫ, ЭСЭ



# *Апавяданні*

## КРЫЖ ЕЎФРАСІННІ

### I

Дарога была цяжкай і ад таго здавалася бясконцай. Нудна з раніцы да вечара рыпелі вялікія колы буды, якую ледзьве цягнулі па бязмежным камяністым стэпе атупелыя ад стомы валы. Павольна пляліся жывёлы, павольна і безупынна адыходзіла з яе жыццё.

— Гасподзь Усёмагутны! — малілася бязгучна апранутая ў просты манаскі падрызнік сівая ігумення. Яе строгі твар быў нібы выразаны са старадаўняга бурштыну. — Спадобі дажыць да светлага месца Іерусаліма! Не дай памерці сярод расхрыстанай вятрамі і выпаленай сонцам пустэльні, Госпадзі!

Калі нябачная хваля бездапаможнасці запаўняла цела і нечае халоднае дыханне рыхтавалася задзьмуць слабы агеньчык ледзь мігатлівай прытомнасці, дзесьці далёка, неспадзявана ўзнікаў яе ўласны спеўны голас: «Няхай уваскрэсне Бог і рассеюцца ворагі Яго, і няхай бягуць ад аблічча Яго тыя, хто ненавідзіць Яго…», і падступная слабасць адыходзіла. Манашка непаслухмянымі рукамі з вялікай вымогай падносіла да засмяглых вуснаў дзіўнай формы крыж і з падзякай цалавала яго.

Атрымаўшы сваю чарговую перамогу, Еўфрасіння ўсё ж уганаравалася вымаленым.

— Матухна, матухна, — радасна крычалі наперабой ейныя спадарожніцы. — Святы горад! Святы горад! Ужо над купаламі крыжы зіхцяць! Даехалі, матухна! Святы горад!

— Хвала табе, Божа! — прашаптала ігумення, і беларуская яе душа адышла да Яе Бога.

* * *

Мікалай Платонавіч гучна храпануў і ад таго прачнуўся. Расплюшчыў вочы, падняў апухлы ад стомы і п’янкі твар і з сіплым крыкам ускочыў з крэсла. Скрозь цёмную шыбу на яго глядзела строгая незнаёмая старая, захутаная ва ўсё чорнае. Да грудзей яна абедзвюма рукамі прыціскала нязвыклай формы крыж.

Правая рука чэкіста звыкла зашаргала каля дзягі ў пошуках зброі.

«Ды вось жа ён, пісталет, прама перад табой на стале ляжыць!» — прарыпела ў галаве думка, і ўпаўнаважаны, ледзь апусціўшы вочы, ужо было памкнуўся схапіць трафейны «Вальтар», але замест гэтага вылаяўся і падняў перакуленае крэсла. — «Ідыёт! Ды няма ж ніякай старой і быць не можа. На двары глухая ноч прыфрантавога горада. Акно кабінета на другім паверсе шчыльна зачынена звонку святломаскіроўкай, а ў шкле адлюстроўваецца той самы незвычайнай формы крыж, што ляжыць на тваім працоўным стале…»

— Аднак і сны табе сталі сніцца! — буркнуў раззлаваны афіцэр і прагна прыгубіў шырокі гарлач графіна. Вада была кепскай, цёплай, яшчэ заўчарашняй, з ужо адчувальным смакам застаялага балота.

— Якая гадасць, не хапала якую-небудзь бацылу падхапіць! — гучна адрыгнуўшы, падумаў маёр, апускаючы графін на стол. — Абсерашся, і раніцай маскоўскі начальнік у шкоднікі запіша, а там і да расстрэльнай сценкі рукой падаць.

Ён зірнуў на крыж, і перад вачыма ва ўсіх падрабязнасцях чамусьці паўстала карціна расстрэлу траіх чырвонаармейцаў у рэдкім падлеску недалёка ад Бялынічаў.

Так-сяк абмундзіраваныя салдацікі, напэўна, чымсьці атруціліся і час ад часу, як змовіўшыся, выскоквалі з абозу і пад смех таварышаў ды крыкі камандзіраў ляцелі ў найбліжэйшыя кусты. Небаракі даўно пакутавалі на непрыемную хвярату, так што ўрэшце выбіліся з сілаў і ледзь пляліся ў самым канцы каравана, гружанага нейкім казённым дабром, — працягваючы здзяйсняць адлучкі ў падлесак. Балазе абоз ледзь цёгся, што і ратавала паноснікаў ад беззваротнага адставання.

Мікалай Платонавіч вяртаўся з Мінска, які ўжо амаль пакінулі войскі, а на другі дзень вайны — і партыйнае кіраўніцтва рэспублікі. Аб гэтым ніхто ўслых не гаварыў, але ўсе ведалі, страшыліся і чакалі горшага. Ішоў ужо пяты дзень вайны, а



разабрацца ў тым, што вакол дзеецца і хто кім камандуе — усё ніяк не маглі. І парторганы, і стаўка перабраліся ў Магілёў і рыхтаваліся пры першым жа зручным выпадку рвануць далей на ўсход. Хоць многія мінскія начальнікі ўжо прарабілі гэты шлях у першы дзень вайны. Як толькі бомбы зваліліся на горад і варожыя самалёты зніклі, самыя шустрыя і верныя партыі адказныя работнікі, сабраўшы спехам скарб і дамачадцаў, плюхнуліся ў свае легкавікі і, назапасіўшы пабольш бензіну, ламанулі на Маскву. Толькі пад Адзінцовам перахапілі вялікую частку іх машын і, абвінаваціўшы ў паражэнстве і панікёрстве, павярнулі назад, дазволіўшы, праўда, выгрузіць пажыткі з дзеткамі і жонкамі. У прыфрантавую рэспубліку з беглякоў вярнуліся далёка не ўсе. Мікалай Платонавіч цэлую ноч тырчаў на Маскоўскай дарозе пад Оршай у адлове тых шустрыкаў і накіроўваў іх у Магілёў: на Мінск ехаць было ўжо небяспечна…

Дваццаць другога раніцай успудзіўся ўвесь іхні дом. У горадзе было ціха, народ сышоў, дворнікі толькі пачыналі шоргаць у дварах сваімі венікамі, а ў кватэрах чэкістаў ужо на ўсю моц заліваліся тэлефоны, пляскалі дзверы, і агаломшаныя супрацоўнікі вобцасам беглі ў абласное ўпраўленне, балазе яно размяшчалася недалёка. Слова «вайна» ўслых напачатку прамаўляць ніхто не адважваўся. Начальства толкам растлумачыць нічога не магло і тэлефанавала ў Мінск. Мінск, які ўжо на ўсю моц бамбавалі, маўчаў і тэлефанаваў у Маскву. Масква не верыла, мацюкалася і пагражала самымі страшнымі карамі за панікёрства. Першыя дні ўсё ведамства знаходзілася ў нейкім немарасцевым ступары. Не, усе мітусіліся, кудысьці бегалі, нешта палілі, кагосьці дапытвалі, кагосьці расстрэльвалі, — руціннае жыццё ведамства ішло само сабой. Ступар сядзеў усярэдзіне кожнага, як быццам цябе замарозілі знутры і за цёплай, мяккай скурай натапырыўся мільёнамі вострых іголак найсапраўдны іней, і не было ніякіх сілаў і ўмення дужацца з застыглымі мазгамі і целам. Маёр з той раніцы так толкам і не спаў. Марыў, што пасля адлову начальства, якое ўцякло з Мінска, хоць пару гадзінаў пакімарыць, але кіраўніцтва вырашыла паіншаму. Там, на ранішняй шашы ў Оршы, яму ўручылі канверт з загадам рэквізаваць любую машыну, стварыць запас гаручага і гнаць наўпрост на Мінск, у раёне Чэрвеня адшукаць такую-та воінскую частку і, забраўшы адмысловы груз і суправоднага яго палкоўніка з Масквы, тэрмінова даставіць усё ў Магілёў. Частку ён, хоць і з велізарнымі цяжкасцямі, знайшоў, знайшоў на сваю галаву і палкоўніка. Той, акрамя як гарланіць на лю-

дзей і штохвілінна хапацца за пісталет, нічога іншага, здавалася, і не ўмеў. Маёр перш на ўсе начальніцкія крыкі рэагаваў і кідаўся выконваць дурныя распараджэнні, але пабываўшы пад парачкай авіяналётаў, а затым паўдзельнічаўшы ў баі з нямецкімі дыверсантамі (якія спрабавалі захапіць і падарваць адзін з невялікіх мастоў праз нейкую рачулку), ён, убачыўшы сапраўдную сутнасць маскоўскай гніды, якая дрыжэла толькі за сваю ўласную скуру, махнуў на палкоўніка рукой і зусім перастаў рэагаваць на ягоныя істэрычныя распараджэнні.

Спаць хацелася страшна. І ён лавіў любую магчымасць хоць да чаго-небудзь прыткнуць галаву, і калі гэта атрымлівалася, то непранікальная цемра імгненна гасіла навакольны свет і апускала перагрэты мозг у блажэнную пустэчу сну. Машына іх паўзла ледзь-ледзь, бо з-за сустрэчных маршавых калон аніяк не магла абагнаць гаспадарчы абоз уцекачоў. Маскоўскага начальніка гэта выводзіла з сябе, і ён, як пераспелы памідор сокам, наліваўся гневам і пачынаў гарланіць ужо сіпатым ад крыку голасам з самай дробязнай падставы. Даставалася ўсім: і спячаму маёру, і атупеламу ад стомы шафёру, і пехацінцам, якія не саступалі іх машыне дарогу ды сунуліся насустрач глухому гуду фронту. Палкоўнік не так кудысьці спяшаўся, як, хутчэй за ўсё, баяўся, бо ведаў: чым даўжэй яны марудзілі на дарозе і гублялі час, тым большай была рызыка зноў трапіць на вочы фашысцкім лётчыкам, якія ганяліся ў тыя дні за штабнымі машынамі і іх пасажырамі, нібы каршуны за курапаткамі.

Бачачы, што на ягоныя пагрозы і крыкі ніхто не зважае, палкоўнік пераключыўся на абознікаў. Не зразумела было, чым яны яму не спадабаліся.

— Набрыдзь! Няўжо камандзіры не бачаць? Глядзі, глядзі, маёр, — трос за плячо палкоўнік, — зноў пабеглі! Не, гэта маскіроўка! Пабегаюць, пабегаюць і адстануць, у надзеі, што немец сюды калі-небудзь прыйдзе…

Нарэшце пяхота прайшла, але язда не змянілася. Насустрач густа каціла тэхніка. Палкоўнік не вытрымаў, выскачыў з легкавушкі і тармазнуў першую машыну. З кабіны неахвотна вылез капітан з пятліцамі і шэўронам НКУС. Выслухаўшы масквіча, ён гукнуў з кузава двух салдат з дзіўнымі на той час для войскаў аўтаматамі, і ўсе разам з палкоўнікам пабеглі ў падлесак. Не паспеў Мікалай Платонавіч агоўтацца ад сну, як пачуў недалёкія аўтаматныя чэргі.

— Усё ж парашыў ён гэтых бедалаг… — глыбока зацягваючыся папяросай, са шкадаваннем вымавіў пажылы кіроўца.



— Не зразумеў я цябе — якіх бедалаг? — размінаючы заціклае ад няёмкага спання цела, азваўся маёр.

— Ды вунь абознікаў, што ўвесь час у кусты бегалі.

— Тваю маць! — маёр выскачыў з машыны і пабег да падлеску.

Салдаты ляжалі ў невялікай лагчынцы, перад імі на зямлі валяліся вінтоўкі, якія раптам сталі недарэчнымі. Няшчасным не далі ні штаны падцягнуць, ні апраўданні сказаць у сваю абарону. Нямое здзіўленне застыгла на іхніх тварах, а правая рука кожнага яшчэ сціскала толькі што сарванае лісце, якое замяняла ў такім разе паперу. На шэрым лішайніку ненатуральна і палахліва-гідліва свяціліся незагарэлыя, абязвечаныя смерцю часткі целаў. Буйныя лясныя мурашы, якія не ведалі дабра і злосці, ужо на ўсю моц дзелавіта бегалі па белай скуры, вялікія балотныя камары, карыстаючыся момантам, зляталіся на неспадзяваную спажыву, спяшаліся ўсмактаць у сябе яшчэ пакуль не загуслую чалавечую кроў.

— Што, праспаў, маёр, акцыю! — весела вымавіў палкоўнік, засоўваючы ў кабуру пісталет. — Ты гэта, капітан, збяры іх дакументы, — кіўнуў ён на забітых, — і потым, як паложана, дакладзі рапартам па камандзе, не забудзься толькі ўказаць, што акцыя праведзеная па асабістым указанні палкоўніка цэнтральнага апарата МДБ Залатапузава Мэ Кэ. Усё, пайшлі, пайшлі маёр, няма калі тут тырчаць. Другі раз спаць менш будзеш, а то так за ўсю вайну ні аднаго ворага не знішчыш, і ўнукам не будзе пра што расказаць.

Мікалай Платонавіч цёгся да машыны як пабіты сабака. Дзіка вось так, ні з таго ні з сяго — узяць і загубіць ні ў чым не вінаватых яшчэ зусім смаркатых хлапчукоў…

З якога ляду ўсё гэта лезла цяпер яму ў галаву, зразумець было цяжка, ды і не было калі. Маёр зірнуў на гадзіннік: без дваццаці чатыры раніцы. Ужо пара збірацца. Ён узяў са стала крыж, з-за якога ў апошні час было гэтулькі ўзнята шуму. Дзеравяка дзеравякай з абадранымі залатымі ўстаўкамі, пакалупанымі нажом эмалямі з выявамі нейкіх святых, са шкельцамі замест каштоўных камянёў, толькі тонкая нітка ўжо зжоўклага жэмчугу засталася на рэліквіі сапраўднай. Усё гэта вынікала з прыкладаемага да крыжа акта прыёмкі і здачы матэрыяльных каштоўнасцяў. Хоць якія гэта каштоўнасці? Акт прыёмкі падпісаў у дваццаць дзявятым годзе мацёры вораг савецкай улады Вацлаў Ластоўскі, які ў той час акапаўся ў Дзяржаўным рэспубліканскім музеі. Гэты змей мог любую поскудзь стварыць,

не гаворачы ўжо аб падмене крыжа, кажуць жа вось, што езуіты яшчэ ў васямнаццатым стагоддзі зрабілі дакладную копію і спрабавалі прысвоіць сабе святыню. Да, дзялы!

Пакруціў дзіўную дзеравяку ў руках: «Сапраўды ўсе падурнелі: нацыянальная рэліквія! Падумаеш, нейкай князёўне-манашцы калісьці належала гэтая штука. Ну і што з таго: дзе яны сёння — і князі гэтыя, і манахі? Глупства нейкае! Глупства глупствам, а вось, глядзі ж ты, з-за яе фактычна гоняць у Маскву. І прыдурак гэты Залатапузы таксама з-за гэтага кавалка старога дрэва ў Мінск папёрся. У першапрастольнай, ці бачыш, і ведаць не ведалі, што гэтую ерундовіну адзінаццаць гадоў як перавезлі з Мінска ў Магілёў. Гэта ж трэба: тыдзень разбіраўся, што ды дзе? А тут на табе, бах — і вайна пачалася. Не пашанцавала мужыку, яшчэ не вядома, як да сталіцы дабярэцца і ці дабярэцца наогул. Што ж гэта ты над сабой раскаркаўся! — шчыра цмокнуў маёр. — Палкоўніка хутчэй за ўсё аднаго не пашлюць, яму не тое што рэліквіі — рубель па піва збегаць даверыць нельга, згубіць. Хутчэй за ўсё табе і давядзецца ехаць з ім разам. Можа, гэта і да лепшага: вайна толькі пачалася, а ў Маскве ваяваць — яно і ганаравей, і надзейней будзе, яе ж здаваць ворагу, нябось, ніхто не будзе… Не, у цябе сапраўды нешта з галавой!» — развагі Мікалая Платонавіча перапыніў тэлефонны званок.

— Так, слухаю вас. Я, ёсць! Куды? Ёсць! Зараз буду! — Чэкіст загарнуў крыж у першае, што трапілася пад руку — у заалееены ручнік, якім ён учора чысціў свой трафейны пісталет, і сунуў скрутак у вялікі палатняны баул для перавозкі грошай і каштоўных дакументаў. Уздыхнуў, памасіраваў перад бляклым люстэркам сонны твар і выйшаў з кабінета. Машына, са знаёмым пажылым кіроўцам, якога ён разам з тэхнікай рэквізаваў калісьці пад Оршай у адказнага работніка спажыўкааперацыі, стаяла ля пад'езда ажурнага будынка былога народнага банка, а цяпер гаркама партыі.

— Ну, вось і добра, што з табой паедзем, — вітаючыся, вымавіў маёр, уладкоўваючыся на пярэднім месцы, — ёсць шанцы, што і даедзем. Табе ж не прывыкаць у Маскву матацца…

— Ды годзе вам, таварыш маёр, падчэпліваць! Я матаюся туды, куды мяне начальства пасылаіць. А вы часам не ведаеце, гэты Залатажопенка з намі папрэцца ай не?

— Ох, брат, дагаворышся ты калі-небудзь, дагаворышся!

— А што я такога сказаў? — папярхнуўся дымам кіроўца.

— Шмат чаго, паехалі, ды глядзі не ляпні пры палкоўніку пра Залатажопенку. Залатапузаў ён, запомні: За-ла-та-пу-заў.



— Ды мне похрэну. Жываед ён. Можа, маёр, ты ўгаворыш сваіх камандзіраў, хай бы мяне тут пакінулі, сям'я ж у мяне пад Мінскам, як яны тамака без мяне? Баба цяжарная, месяцы праз два раджаць.

— Замоўкні, мужык! Якія роды? Ты ўдумайся, што нясеш! Сам добраахвотна пад немцам збіраешся застацца? Ты што, не ведаеш, што за такія гаворкі ўміг сценку можна па закону ваеннага часу выпрасіць?

— Ды я што, я ж нічога! — зніякавеў кіроўца…

Раніца была пахмурнай і золкай, церусіў дробны дожджык.

«Гэта добра, хоць сцярвятнікаў гэтых не будзе», — гледзячы на неба, з радасцю падумаў маёр. Да будынка на пляцы дабраліся хутка. Захапіўшы, як загадалі, палатняны баул, ён увайшоў у шэры, здавалася б, прыплюснуты нізкім небам будынак. Каля вартавога яго ўжо чакаў суправаджаты. Падняўшыся на другі паверх, Мікалай Платонавіч здзівіўся ярка асветленым калідорам і мноству, нягледзячы на раннюю гадзіну, людзей.

— Пачакайце тут, вас запросяць! — спынілі яго ля дзвярэй з аўтаматчыкамі. Хвілін праз дзесяць дазволілі зайсці ў вялікі кабінет, асветлены нязыркім святлом.

Ён увайшоў і збаяўся: ля вялікага стала да яго спінай стаялі людзі. Суправаджаты гучна паведаміў, што маёр дзяржбяспекі такі-та прыбыў для атрымання інструктажу, і злёгку падпіхнуў яго наперад.

— Усе свабодны, прашу застацца таварышаў Цанаву, Яфімава і сакратара абкама. І, таварышы, просьба да вас далёка не разыходзіцца. Хвілін праз дваццаць мы працягнем нараду…

Правадыроў рэспублікі Мікалаю Платонавічу так блізка яшчэ бачыць не даводзілася, хіба што некалькі разоў сустракаўся па службовых справах з галоўным чэкістам Беларусі Лаўрэнціем Цанавам, чалавекам злапомным і помслівым.

— Добры дзень, таварыш маёр, — прывітаўся з ім за руку першы сакратар ЦК кампартыі рэспублікі Панамарэнка, — праходзьце да стала і пакажыце нам гэтую штуковіну.

На нягнуткіх нагах, стараючыся заставацца ў цені і дыхаць носам, Мікалай Платонавіч разгарнуў завэдзганы ручнік і выклаў крыж князёўны на край засланага мапамі стала.

— Маёр, ты што, апупеў? Анучы чысцейшай не знайшлося? — раўнуў над самым вухам Цанава.

— Вы не правы, Лаўрэнцій Фролавіч, ануча, ды яшчэ такая, менш кідаецца ў вочы, у падобную нічога вартага заварочваць не стануць. Дык вось ён які, гэты крыж! Трэба ж: дзеравяка, а

старажытны сімвал Беларусі, многа я аб ім чуў, а ў руках першы раз трымаю. Ён жа і на святыню не падобны…

— Калі Гаспадар думае, што гэта нейкая святыня, значыць, так яно і ёсць. Таварыш Сталін не памыляецца! — з каўказскім акцэнтам адазваўся кат беларускага народа. — Дазвольце, я таксама зірну на гэты абадраны цуд. Ты ўсё ж анучу, маёр, змяні, а то змазкай ад пісталета смярдзіць. Ці мала хто там у Маскве яго ў руках трымаць будзе…

Не чакаючы, пакуль усе разгледзяць крыж, Панамарэнка паклаў руку Мікалаю Платонавічу на плячо і пранікнёна пачаў інструктаж.

— Вам, таварыш маёр, партыя і камандаванне даручае вельмі важнае і адказнае заданне. На пачатку гэтага месяца па прыгранічных рэспубліках была разасланая сакрэтная дырэктыва ЦК партыі аб адпраўцы ў цэнтр усіх культавых і іншых прадметаў, якія спрыяюць распальванню сярод несвядомых грамадзянаў рэлігійнага і нацыяналістычнага фанатызму, а таксама антысавецкіх настрояў. Дык вось… гэты музейны экспанат такім прадметам і з'яўляецца, а таму павінен быць у самы найкароткі час дастаўлены ў Маскву. Заданне настолькі сакрэтнае, што аб ім ведаеце толькі вы і мы, — ён паказаў рукой на прысутных. — І ўсё. Для ўсіх вы перавозіце звычайную пошту і нейкія малаважныя музейныя каштоўнасці. Усё, што неабходна, вам выдадуць ва ўстаноўленым парадку. Крыж гэты прыстройце дзе-небудзь сярод сваіх ручных рэчаў. І галоўнае: ні пры якіх акалічнасцях, — сакратар ЦК падняў крыж над сабой, як быццам памкнуўся ім блаславіць прысутных, — ён не павінен патрапіць у чужыя рукі. У першую чаргу фашыстаў і іх падхалімаў з нацыяналістычнага беларускага падполля. Яны спяць і бачаць гэты крыж у сябе. Гэта для нас, атэістаў, гэта старадаўняя дзеравяка, музейная старызна. А для іх гэта сімвал незалежнасці і магутнасці іхняй міфічнай буржуазнай дзяржавы. Сімвал, як яны лічаць, уваскрашэння былой моцы Літоўскага Княства. Так што патрап крыж да нацыяналістаў, ён можа нарабіць гэтулькі бедаў, што і ўявіць сабе страшна. Ёсць павер'е, што ў крыжы гэтым утоеная нейкая містычная сіла… — голас першага сакратара абарваўся на паўслове, збянтэжыўшыся, Панамарэнка адышоў да стала з зялёнай настольнай лямпай і зрабіў некалькі глыткоў ужо астылай гарбаты.

— Глядзі, маёр, — амаль на самае вуха прашаптаў Цанава, — не давязеш крыж да Масквы — з-пад зямлі і цябе, і радню тваю знайду! Заданне самога Сталіна выконваеш, зразумеў?



— Зразумеў, — ледзь выціснуў з сябе афіцэр.

— А калі зразумеў, — ужо ва ўвесь голас роў наркам, — забірай гэтае гаўно і наперад! На Лубянцы цябе чакаюць, ды глядзі, не забудзься распіску ўзяць, і, чаго б табе гэта ні стала, распіску тую перадасі асабіста мне. Паедзеш без палкоўніка, ён пры мне застанецца. Усё!..

Праз тры дні «груз» быў дастаўлены па прызначэнні, пра што была выдадзеная адпаведная распіска і зроблены запіс у кнізе паступіўшых каштоўнасцяў. Ці перадаў чэкіст распіску свайму высокаму начальніку, не вядома, няма нават звестак, ці вярнуўся ён ва ўжо амаль акружаны Магілёў. Відавочцы, аднак, распавядалі, што бачылі напярэдадні прыходу ў горад немцаў кіроўцу той легкавушкі. Мужчына шукаў адпраўленага ў апалчэнне аднарукага дырэктара Магілёўскага дзяржмузея, каб аддаць яму акты аб здачы старажытных кніг і старадаўніх манет, вывезеных разам з крыжам Еўфрасінні Полацкай у Маскву…

— Таварышы, таварышы, прашу ў наступную залу, якая распавядае нам аб гераічнай абароне нашага горада ў чэрвені–ліпені 1941 года. Гэтыя дні адны з самых гераічных і таямнічых старонак гісторыі Магілёва…

— А чаму таямнічых? — хрыплаватым ад курыва голасам перапыніла экскурсавода высокая рудавалосая дзяўчына, абцягваючы неймаверна кароткую спадніцу (якая здрадліва агаляла тое нямногае, што яшчэ хоць неяк было ўтоена ад навакольных).

— Правільнае пытанне. Гераічнасць і таямніца заўсёды знаходзяцца дзесьці побач, — прапускаючы наперад старшакласнікаў, працягнула музейная дама. — Так было і ў тыя трагічныя дні. Менавіта тады абрываецца след знакамітага крыжа нябеснай заступніцы Беларусі Еўфрасінні Полацкай. Існуюць некалькі версій гэтай амаль дэтэктыўнай гісторыі. Адны сцвярджаюць, што неацэннае тварэнне ювеліра адзінаццатага стагоддзя Лазара Богшы выкралі немцы і ён згубіўся ў прыватных калекцыях на Захадзе. Іншыя ўпэўненыя, што крыж вывезлі супрацоўнікі кампетэнтных органаў на ўсход. Трэція праз Інтэрпал спрабуюць знайсці нашую святыню на амерыканскім кантыненце ў прыватных зборах Морганаў і Ракфелераў…

Нарэшце самыя недысцыплінаваныя і няўсёведы перабраліся ў суседнюю залу. І ў памяшканне запырхнула хісткая музейная цішыня.

— Бабуля, хадзем, хадзем хутчэй! — цягнула за руку худзенькую, ахайна апранутую бабульку дзяўчынка гадоў васьмі. — Ты што, няўжо не чула?.. Цётачка там пра крыж нашай Святой казала.

— Супакойся, дзетка, усюды мы з табою паспеем, — адказвала ёй бабуля, уважліва разглядаючы сцяну паміж нешырокімі вокнамі. — Давай, унучка, пакуль нікога няма, станем на калені і паціху памолімся святой Еўфрасінні аб дабрабыце нашага дома. Вось тут, паміж гэтымі вокнамі, і выставілі тады ў музеі святы яе крыж. Мяне сюды мая бабуля маліцца вадзіла. Народу, бывала, збіралася, як у храме. Ля крыжа цуды здзяйсняліся, сама бачыла.

Бабуля апусцілася на калені перад міжаконнем, ахінула сябе двухперсным хросным знакам і зашаптала малітву. Малая, не гледзячы на бабулю, дакладна паўтарыла яе дзеянні. Дзіцячы тварык, сур'ёзны і шчаслівы, здавалася, свяціўся нейкім радасным незямным святлом, вусны шапталі словы старажытнай малітвы на забытай сёння мове…

Былі б у музейных сценаў вушы!.. І дзяўчынка, і яе бабуля размаўлялі паміж сабой і маліліся на цудоўнай беларускай мове, якая сёння амаль забытая не толькі ва ўсходнім Магілёве, але і ў Мінску, і ў апоры беларускасці — Гродне.

Дзіўныя наведвальнікі хутка выканалі задуманае — і, калі пачулася набліжэнне чарговай экскурсійнай групы, як ні ў чым не бывала, не спяшаючыся, выйшлі прэч.

— Бабуля, а чаму цяпер крыж знайсці не могуць? — азіраючыся, нягучна спытала дзяўчынка.

— Хто ж яго ведае, дзетка? Можа, мы сваёй нядбайнасцю да зямлі, да сваёй мовы, да Бога, да веры нашай старадаўняй угневалі святую, вось Яна і не даруе нам цуду здабыцця святыні…

— Ну мы ж з табой молімся, і мовы мы сваёй не страцілі…

— Хто ведае… Мала нас яшчэ, можа, ад таго голасу нашага на небе і не чуваць…

## II

— Не твая праўда, браце, не твая! — месцаахоўнік ускочыў са свайго фатэля, раззлавана матнуў рукой і засноўдаў па прасторнай зале, цэнтр якой займаў велізарны абедзенны стол, старадаўні і дыхтоўны, як і ўсё ў гэтым непрыкметным асабняку ў Чыстапрудным завулку сталіцы, якая губляе сваё гістарычнае аблічча. На цёмнай стальніцы неяк ненатуральна самотна стаялі два чайныя прыборы з ружаватай кітайскай парцаляны, мудрагелістая цукарніца ЛПЗ часоў развітога сацыялізму і нізкая срэбная талерка з хатнім печывам. Талерка прыпадабнялася да стала: цяжкая, разлапістая, насуплена зіхцела старадаўнім срэбрам. Гэты прадмет з сервіроўкі, мабыць, адзіны не выбіваўся з вакольнага інтэр'еру.



«Глядзі ты, яшчэ і сляды Найсвяцейшага не астылі ў гэтых пакоях, а ўжо нейкі перапалох у чайнай цырымоніі. Усё ў разнатык, — з уздыхам падумаў мітрапаліт Філафей, хаваючы здрадліва-дрыготкія рукі пад шырокую сівую бараду. І што ўжо я яму такога сказаў? А наваліўся, наваліўся ж як…»

— Хопіць, ласкавы наш Філафей, вочы ў падлогу хаваць! — спыніўся ў куце Кіпрыян, — паспрабуй патлумачыць, што гэта значыць: «Жэрабе Гасподняе ўсё вырашыць»? Ці не страціў ты розум, браце, кідаць на пасмешышча такую працу, такія здзяйсненні! Ці ты вырашыў на ўсё забыцца і перафарбавацца пад прастака? Ды не маўчы ты! — ён капрызна тупнуў нагой.

«О, як цябе, небараку, страсці круцяць. Таго і глядзі — у вуха мне заедзе… — Асцярожна, нібы хаваючыся, праслізнула крамольная думка, іерарх нават спалохацца яе не паспеў. — Што ж гэта мяне спакусіла ляпнуць пра гэтае трыклятае жэрабя! Эх, язык мой паганы, — мітрапаліт павольна, без ахвоты пачаў паднімаць сваю прыгожую і годную галаву, доўгая сівая барада, падзеленая па сярэдзінцы яшчэ цёмнай, не вылінялай пасмай, нібы ўзнятая заслона, здрадліва агаліла дрыготкія рукі. Рукі яшчэ з семінарскіх часоў былі яго ахілесавай пятой, варта было яму толькі ўсумніцца ў праведнасці свайго ці чужога слова, учынку, справы, а то і намеру, як тонкія пальцы пачыналі падрыгваць. — Не хапала яшчэ, каб ён заўважыў маю збянтэжанасць», — Філафей спешна склаў рукі.

— Дык жа такая традыцыя і каноны царкоўныя: ці жэрабя перад Святым Абліччам, ці шары белы і чорны. Такая традыцыя, і не намі яна заведзе…

— Бачу я, Філафей, не хочаш ты мяне зразумець і пачуць! — абарваў яго на паўслове месцаахоўнік, пругка, нібы натрэніраваны спартовец, падскочыў да стала, упёрся рукамі ў яго край і навіс над прыпалоханым суразмоўцам. — Не магу я цябе зразумець! Ты ўсё ж са мной — ці не? — рудыя вочы гарэлі раздзьмутым вуголлем, наздрыны жылі нейкім сваім раз'юшаным жыццём, а акладзістая купецкая барада дзіка тырчала наперад, нібы невядомая зброя. — Мне раніцай далажылі, што ты ўчора ўвечары, пасля нашай гутаркі, меў зносіны з Уладзімірам… Можа, перакінуцца вырашыў? — Кіпрыян рэзка адпіхнуўся ад стала і выпрастаўся ва ўвесь свой невялікі рост. — Ну, адказвай.

Рукі перасталі дрыжаць, і Філафей выразна адчуў, што грозны ўладар, які скаланае «воздуха и тверди», проста баіцца

яго і цалкам залежыць ад ягонай, Філафеевай, пазіцыі. Звыклы за доўгае царкоўнае жыццё ўзважваць і хаваць ад староннiх не толькi свае словы, учынкi, але нават i думкi, ён павольна ўстаў i, гледзячы прама ў вочы свайму візаві, цiхiм голасам прамовiў:

— Усе нашыя дамоўленасцi застаюцца: я паспрабую адцягнуць на сябе галасы найбольш радыкальных епiскапаў, а наконадні галоўнага вызначэння зніму сваю кандыдатуру ў вашую карысць. Я, уладыка, вам на гэта крыж учора цалаваў. Пра якія сумневы можа быць гаворка? Што да Уладзiмiра, то быў я ва ўладыкі ўвечар, сапраўды быў, і гаворку меў з ім працяглую з прапановай паўплываць на вас i схiлiць да самаадводу ў імя выратавання нашай маці Царквы…

— Дык вось яна га́дзіна, прыгрэтая намі ля стальца! Можна падумаць, ён гэтае выратаванне? — уладыка зноў пачаў шнураваць па пакоі. — Ну і што ты яму, браце, на гэта адказаў? — не спыняючыся, як бы не без адмысловай цікаўнасці кінуў ён Філафею.

— Ну а што мне яму было адказваць, праўду i адказаў: што нi ён, нi я, грэшны, нi хто іншы не здолее быць за штурвалам нашага шматпакутнага карабля, нi здароўя, ні сілаў, нi запалу нам на гэта не хопiць. Відаць, так ужо наканавана. Толькі, уладыка, трэба традыцыі выканаць…

— Выканаем мы твае традыцыі, не хвалюйся ты так, але галасаваць станем праз урны. Вось Цэнтрвыбаркам гатовы электроннымі забяспечыць і дапамагчы арганізаваць падлiк галасоў. Шары, жэрабе — гэта ўжо сярэдневечнае цемрашальства. Час адыходзіць. Філафей! — узрадавана ўскрыкнуў без пяці хвілін Патрыярх. — Паслухай, Філафей, а хочаш, я цябе святым зраблю? Ды пачакай ты ў бутлю сціпласці лезці, — жалезна абарваў ён схамянутага ўладыку. — О, я ведаю, як уславіць тваё імя ў тваёй мітраполіі! Усё, не пярэч, не дзякуй, друг ты наш душэўны! — Кiпрыян дастаў з кiшэнi падрызнiка залатую візітоўніцу з дыяментавым — ужо патрыяршым — вензелем на вечку. Хутка штосьці напісаў на зваротным баку сваёй візітоўкі і працягнуў пахкі тонкімі духамі прастакутнiк агаломшанаму Філафею. — Вось, патэлефануеш па гэтым нумары, прадставішся, скажаш, што ад мяне — і паедзеш, куды скажуць. Я ўсіх папярэджу. Лiшняга там не балбачы, а галоўнае, пасля маўчы — і вечнае ўслаўленне твайго імя ў тваім смутным краі гарантавана. Давай, браце, лабызацца, ды я і пабягу. Прэзідэнт чакаць не будзе, а яго падтрымка таксама не перашкодзіць цяпер. А табе дзякуй, я дабро памятаю…



* * *

Памесны Сабор гудзеў, як гуслi-самагуды. Ва ўсякага выбарнага парафіяніна, святара, манаха, епiскапа цi проста цiкаўнага, якi прарваўся ў святая святых, былі свае меркаваннi і развагi датычна будучынi Рускай царквы. Царква, царква! Нiбыта і Божае папушчальнiцтва, а без страсцей чалавекаў ніяк ты абысцiся не можаш! І дзеюцца справы нябесныя на ўсё той жа шматгрэшнай зямлі нашай. Так і хочацца выгукнуць: Гасподзь, чаго ў слугаў тваiх такiя мiрскiя клопаты?

Гудзеў Сабор. Часовыя партыi то збіваліся ў стройны гоман i гатовыя былi стаяць на сваім да канца, то раптам, без бачных на тое прычынаў рассыпаліся, «аки дом на песку побудованый». Да абеда цi вечара ўчарашнія саюзнiкi ўжо звярталiся да сапернiкаў i зноў абяцалi адзін аднаму быць вернымi новай платформе да заканчэння свету.

З прэтэндэнтаў на Маскоўскi першасвятарскi трон безумоўнымi лiдарамi былi: Філафей — старэйшы і шматвопытны іерарх, яму большасць i прарочыла перамогу. Досвед, мяккасць, згаворлівасць, апантанасць веры i, што таксама важна, старэчы ўзрост. «Дай Бог, годзікаў з пяць працягне, а там i на супакой ці і наогул у іншыя палесціны», — чаго хаваць, многiя так думалi, асаблiва з маладзi, прымяраючы на сабе ў будучынi патрыяршы куколь. «За гэтыя годзікі якраз я і падрасту ды спрактыкуюся, сувязямі абрасту, ды i ўзмужнею крыху». Другім па справядлiвасцi iшоў мiтрапалiт Уладзiмiр, улюбёнец i надзея памерлага Патрыярха, за iм стаялi манастыры i заўзятары веры з парафіянаў — сiла ў царквы што ні ёсць станавая. Трэцім iшоў Кiпрыян, трыбун царквы, яе медыйная зорка, знаўца Пiсання, прыроджаны iнтрыган i царкоўны магнат, за iм стаяла свецкая ўлада, а галоўнае — адна вельмі і вельмi кампетэнтная арганiзацыя.

Філафей адасобіўся ад усiх у сваім падворку i выходзіў толькi да лекараў, якiя апекавалiся iм з нагоды хворых ног. Стаянне ў веры — гэта не толькi апантаная малiтва i непахiсная ўпэўненасць у правацe спраў Усявышняга, гэта яшчэ цяжкая праца стаяння на сваіх нагах. Пакуль малады — штодзённыя шматгадзінныя службы не такiя ўжо i цяжкiя, бывала, прыйдзеш у келлю ледзь жывым, абутак скiнеш, келейнiк ногi разгладзіць, паўгадзінкі падрэмлеш — і зноў як агурочак, i зноў да алтара. З гадамі ўсё цяжэй i цяжэй было стаяць ды i рухацца па настылай каменнай падлозе i гранітных прыступках. Пасля пяцідзесяці

ногі дранцвеюць і становяцца падобнымі на слаба паслухмянае бярвенне. А тут у Маскве ўжо гадоў як з дзесяць абвясціўся адзін цудоўны доктар, ці то бурат, ці то кітаец: гадзінку паваражыць, паціскае лыткі, іголкамі патыкае, маззю натрэ — і ўсе болі, і ўсе цяжары як рукой здымае. Адно клопатна: не меней як дзесяць разоў запар трэба з кітайцам сустракацца. Гэта — па-першае, па-другое — раз у паўгода курсы гэтыя паўтараць неабходна, інакш усе непрыемнасці пастунова вяртаюцца. Вось Філафей і карыстаўся зацяжным тырчаннем у першапрастольнай. Спасылаючыся на знямогу, што цалкам праўдападобна ў яго ўзросце, і на душэўныя разлады ў сувязі са стратай не толькі дабрадатнага першасвятара, але яшчэ і даўняга свайго сябра і паплечніка, мітрапаліт пазбег удзелу ў розных партыях. Прыняўшы для сябе рашэнне, ён скарыўся лёсу і цалкам зрабіў стаўку на Кіпрыяна, хоць, як ніхто іншы, ведаў сапраўдны кошт гэтаму практычнаму чалавеку з душой рахункавода. «Але ўсё ў правіцы Тваёй, Гасподзь! Так ужо склалася ў нашай у Царкве, што ніхто іншы не сцерпіць сёння гэтага грузу, ніхто. Патрэбен такі цвёрды, уладны, свецкі ўладар, інакш, і Кіпрыян мае рацыю, усё рассыплецца, зачаўрэе, раскрадзецца». — Думкі пра сваё патрыяршаства ён гнаў, як надакучлівых сабак, хоць, сябе ж не падманеш, чарвяк ганарлівасці ўсё ж тачыў яго знутры. Вось у такія хвіліны змаганняў ён і ўспомніў пра Кіпрыянаву візітоўку з таямнічым тэлефонам, які дорыць людзям святасць.

На іншым канцы слухаўку паднялі амаль адразу. «Відаць казённую ўстанову», — падумаў ён і прадставіўся.

— Добрага дня, уладыка. Нас папярэдзілі, і мы вас чакаем. Калі вас не абцяжарыць, запішыце адрас і прыязджайце ў любы зручны час. Пропуск на машыну ўжо замоўлены.

Ехаць давялося не далёка, у раён Лубянкі. Як і ва ўсякага чалавека сталага ўзросту, ва ўладыкі да гэтага сталічнага квартала была ўстойлівая прадузятасць. Праўда, сёння не тое каб ён баяўся гэтае некалі ўсёмагутнае ведамства, якое шчыльна курыравала і ўвесь час умешвалася ў справы царкоўныя; хутчэй па старой памяці ён ніяк не мог пазбавіцца ад устойлівага пачуцця агіды пры кантакце як з самой сістэмай, так і з яе прадстаўнікамі. Сёння паліналыя спадчыннікі Феліксa і Лаўрэнція зноў здабывалі сваю цёмна-блакітную афарбоўку, і іх ружовыя ад цікаўнасці вушы тырчэлі з кожнай хоць трохі багатай установы. Уладыка спадзяваўся на Провід і толькі пасля адпаведных візітаў і сустрэчаў доўга мыў рукі з мылам, як пасля кантакту з заразнымі хворымі.



Завулак, у які яны прыехалі, знаходзіўся крыху збоку ад асноўнага змрочнага квартала, дзе ад шэрага мармуру і бетону і ў ясны дзень вісела нейкае пахмурнае марыва. Дамок, пазначаны ў адрасе, нічога з сябе характэрнага не ўяўляў, так — сярэдняй рукі маскоўскі асабнячок…

— З якога ляду тут калоны? — падумаў уладыка і, у думцы ахінуўшы сябе хросным знакам, ступіў у прадбачліва расчыненыя бясколерным чалавекам дзверы.

Усярэдзіне дом быў нашмат старэйшым, чым гэта здалося знадворку. Нешырокія мармуровыя ўсходы пакатым паўколам уздымаліся да пакояў. Прыступкі былі да таго сцёртыя наведвальнікамі і часам, што станавіцца на іх сярэдзіну было небяспечна, а смяльчак, які занядбаў гэтую асцярогу, рызыкаваў спатыкнуцца ці падвярнуць нагу на слізкіх няроўнасцях стаптанага мармуру, што нейкім невытлумачальным цудам захоўваў сваю першародную, іскрыстую беласць.

— Рады, рады вас вітаць у нашых пенатах, паважаны Леанід Паўлавіч! — па-свецку звярнуўся да ўладыкі сярэдняга росту чалавек, апрануты ў цёмна-шэры гарнітур, шэрую кашулю і ледзь адрозны шэры ў карычневую крапінку гальштук. — Правільна, вось тут па правым боку і ўздымайцеся, прыступкі пакатыя і, што вельмі важна, плоскія, не тое што пасярэдзіне, там мы і самі ўжо даўно не ходзім. Працерліся, знасіліся, а памяняць гэтую даўніну рука не паднімаецца. Паданні захоўваюць такія расповеды — валасы дыбам устаюць.

Уладыка не спяшаючыся падняўся па прыступках, пасля сеансаў кітайска-тыбецкага лекара такія перашкоды былі для яго звычайнай дробяззю. «Нейкі нядобры дом», — ні з таго, ні з сяго мільгатнула ў галаве абсурдная думка. Не любіў уладыка падобных думак, якія прыходзілі раптам і немаведама адкуль. — Няхай уваскрэсне Бог і рассеюцца ворагі яго… — пачаў ён чытаць малітву, якая здымала ўсякія насланні, выпрабаванні, гнала назад ліхія думкі і вобразы. Паціскаючы руку шэрага чалавека ды ідучы за ім, уладыка дачытаў малітву і ахінуў сябе хросным знакам. Бакавым зрокам яму здалося, што спадарожнік на гэта кісла ўхмыльнуўся і нібыта як адскочыў ад яго.

— Прабачце велікадушна, не расчуў, як вас па імі-бацечку? — каб перапыніць зацягнутае маўчанне, спытаў мітрапаліт, з цікавасцю разглядваючы шкляныя вітрыны плоскіх шафаў, што цягнуліся ўздоўж калідора, толькі праёмы высокіх спічастых вокнаў ды дзверы перарывалі іх шэрагі.

— Гэта вы мне прабачце, трэба ж, забыўся прадставіцца! — няшчыра кудахнуў гаспадар. — Палкоўнік Семчышын Антон

Генрыхавіч, тутэйшы, так бы мовіць, наглядчык усяго гэтага дабра. — Ён шырока павёў рукамі вакол сябе. — Вось ужо пятнаццаць гадоў, як служу пры іх. І яны да мяне прывыклі, і я да іх, так што цяжка разабрацца, хто з нас больш галоўны. Давайце спачатку зойдзем да мяне ў кабінет, гарбаткі вып'ем, пагаворым пра вашыя патрэбы, а потым ужо я вам сам правяду экскурсію па гэтым доме.

— Выбачайце, а што тут за дэпартамент і якому ведамству ён падпарадкаваны?

— Ведамства ў наваколлі пануе толькі адно: ФСБ–КГБ–ОГПУ–ВЧК, як каму спадручней. Няўжо той, хто паслаў да нас, не распавёў, куды вас справаджвае?

— Ды не, неяк часу не хапіла, — як мага абыякавей адказаў уладыка, спыняючыся каля вітрыны, застаўленай пранумараванымі чалавечымі чарапамі. — Па праўдзе сказаць, я толкам вось і не ведаю, навошта сюды прыехаў. Нейкія дзіўныя ў вас экспанаты, навошта гэта, вы што — музей? — ён паказаў на шэрагі ўпарта сціснутых сківіцаў.

— Доўгая гэта гісторыя, але мы не музей, мы ў мінулым вельмі сур'ёзная навуковая ўстанова, а пачыналі са сціплай, вельмі сакрэтнай лабараторыі. Вы што-небудзь пра Глеба Бокія чулі?

— Напэўна, толькі штосьці самае агульнае: адзін з кіраўнікоў ЧК, блізкі чалавек да Леніна і, здаецца, ці то ён сам застрэліўся, ці то яго расстралялі ў трыццатыя. Я нічога не блытаю?

— Увогуле — дык не, — усміхнуўся палкоўнік, — для служкі культу вы вельмі інфармаваны.

Яны павярнулі направа ў бакавы калідор, спусціліся на некалькі прыступак уніз і, абмінуўшы старамодную велізарную прыёмную з пажылой, няветлай сакратаркай, апынуліся ў кабінеце, які хутчэй нагадваў нейкую тронную залу.

— Ну, вось і мае харомы! Зрэдзьчас, не паверыце, выць тут хочацца, а іншых адпаведных памяшканняў няма, вось і пылюся тут, як лабараторны інвентар. Праходзьце, давайце вось тут і прысядзем. — Антон Генрыхавіч паказаў крыху зніякавеламу ўладыку на старадаўнія фатэлі з вітымі ножкамі і веерападобнымі спінкамі, зрэзанымі мудрагелістымі ўзорамі. Побач з трыма фатэлямі стаяў такі ж калчаногі нізенькі столік з багата інкруставанай стальніцай.

Уладыка, не хаваючы цікаўнасці, азіраўся вакол. Дзівіцца і баяцца тут было чаго. Высачэзныя гатычныя вокны з вітражамі ва ўсю вышыню ўяўлялі з сябе карціны нейкай старажытнай



містэрыі, аднак мазаічны малюнак разабраць было складана, амаль на ўсіх вокнах былі паўспушчаныя некалі белыя, а цяпер пашарэлыя ад часу і мыцця маркізы. Акрамя празрыстых фіранак па баках кожнага акна ад самай падлогі да столі падніманіся цяжкія аксамітавыя запавесы з жоўтымі пэндзлямі вітых перавязяў. Ад недахопу святла ў памяшканні панаваў устойлівы прыцемак, ад чаго мэбля ды іншыя прадметы набывалі нейкі таямнічы і крыху жудаснаваты выгляд.

— Так, змрачнавата ў нас, — нібыта адгадваючы думкі мітрапаліта, абыякава прамовіў гаспадар дзіўных апартаментаў. — Гэта яшчэ сонейка злёгку свеціць, а ў хмурныя дні без электрычнасці і заблудзіцца можна. Уласна, гэтая зала калісьці ў дваццатыя гады і была славутай лабараторыяй Глеба Паўлавіча Бокія, іншыя памяшканні займалі сумежныя аддзелы нашага ведамства. Усяго тут хапала, аж да кабінетаў спецдазнанняў, — прамоўца зрабіў паўзу, як бы даючы слухачу час асэнсаваць сказанае.

Уладыка маўчаў і засяроджана разглядваў бачныя фрагменты вітражоў.

— Гляджу, вас акенцы нашыя зацікавілі? Забаўныя малюначкі, асабліва калі шторкі паднятыя і сонца на заходзе іх цалкам асвятляе. Сонца тут, дарэчы, толькі пад вечар і з'яўляецца…

— Прабачце велікадушна, ніяк не магу разабраць, што за сцэны тут прадстаўлены? — перабіў яго ўладыка і ўжо было рушыў да блізкага аконнага праёму.

— Непрыстойныя вельмі малюначкі, з паганскіх часоў, звязаныя з культам Дыяніса і Вакханаліямі. Але гэта, так бы мовіць, дасталася па спадчыне ад распуснага царызму. Дамок гэты яшчэ той, штосьці накшталт рыжскага «Дома чорнагаловых»… Належаў, праўда, блізкай радні не імператарскай галіны Раманавых… Давайце ўсё ж прысядзем, — ён зноў паказаў на фатэлі каля калчаногага століка.

Расселіся. Дзесьці ў глыбіні зазваніў тэлефон.

— Выбачайце, але трубку гэтага апарата браць трэба ў абавязковым парадку, — і гаспадар як бы растаў у прыцемку.

Неўзабаве ў самым канцы залы нязырка запалілася настольная лямпа пад вялікай зялёнай засняй. Уладыка са здзіўленнем заўважыў, што сцяна за працоўным сталом, які стаіць на невялікім узвышэнні, уяўляла сабою велізарнае акно, наглуха зашторанае аксамітавай запавесай, бо фіранкай гэта назваць язык не паварочваўся. Пра што гаварыў гаспадар, разабраць было немагчыма, ды і размова вялася хутка і на нейкай азіяцкай гаворцы.

«Якога ляду я сюды прыцягнуўся, сядзеў бы сабе дома і радаваўся спакою. Стары ўжо, а ўсё цікавосткамі апаноўваемы, — пачаў ён сябе дакараць, аднак увагу яго прыцягнулі дзіўныя інкрустацыі на століку. Гэта былі надпісы на старажытным іўрыце і нейкія кабалічныя малюнкі. — Так, не дом, а суцэльная брыдота, за такім сталом і хлеб у горла не палезе». — На яго радасць, гаспадар вярнуўся, ды і сакратарка выплыла з цямрэчы з велізарным падносам. Моўчкі яна заслала стол пластыкавымі сервіравальнымі сурвэткамі з малюнкам яркай трапічнай садавіны, расставіла кубкі, на сярэдзіне стала з'явіліся вялікі чайнік і дзве невялікія талеркі з ласункамі, акуратнымі долькамі цытрыны, цукрам, арэшкамі і сухафруктамі.

— Не зважаючы на ўсю нашую змрочнасць, чай у нас традыцыйна бездакорнай якасці, — разліваючы бурштынавую вадкасць у тонкія кубкі, прамовіў гаспадар. — Я бачу, вас абцяжарвае прысутнасць у нас, і ці не пачалі ўжо сябе дакараць у тым, што сюды з'явіліся? Уладыка, не пярэчце. Усе мы дамаседы і вельмі не любім рабіць дзіўныя візіты ці прымаць у сябе дзіўных візіцёраў. Давайце адразу да справы, вы не супраць?

— Няма патрэбы пярэчыць. Вы праніклівы чалавек, мне сапраўды неяк не па сабе ад усяго гэтага, — Філафей нявызначана павёў перад сабой рукой. — Прызнацца, я ўжо сапраўды пашкадаваў, што сюды прыехаў. Аднак у царкве, як і ў вашай арганізацыі, блаславенне кіраўніка выконваецца бясспрэчна і хутка. Дык навошта я да вас пасланы? Пытанне, вядома, дурное, але шчырае. Я, сапраўды, не ведаю, пра што казаў месцаахоўнік. — Уладыка ўважліва паглядзеў на суразмоўцу, твар якога, пры ўсёй яго рэльефнасці, быў нейкім знікомым. Вось, здаецца, нос, рот, скулы, але адвядзі вочы — і ты іх не можаш узнавіць у памяці, дакладней, паасобку нібыта і ўяўляеш, а вось звесці разам, каб склалася выява толькі што бачанага чалавека, аніяк не атрымліваецца.

Чай сапраўды быў выдатным, з нейкімі траўкамі ці карэннямі.

— Навошта вы прыйшлі, думаю, вам будучы Патрыярх растлумачыць, ды вы і самі хутка аб усім здагадаецеся. Не будзем мы, напэўна, хадзіць па нашых залах і катакомбах, думаецца, экскурсія для вас будзе не з прыемных. Але кароткую гісторыю пытання я ўсё ж выкладу. — Ён як бы на хвіліну задумаўся, узважваючы: а ці варта наогул працягваць? Бо і саноўны гэты манах, і ўся яго царква з фанатычнымі і невуцкімі вернікамі адносіць усё, пра што пойдзе гаворка, да сатанізму і сведчання прысутнасці вечнага Зла на зямлі. Але ён усё ж вырашыў працягнуць, а заадно лішні раз праверыць дзеянне новых ведаў на прафана.

— Па сутнасці, мы такая ж містычная ўстанова, як і вашая царква. У нас ёсць і свае адэпты, і свае святыні… Уладыка, прашу вас, не пярэчце. Я вас не збіраюся пераварочваць у сваю атэістычную веру, я кажу толькі тое, што павінен вам сказаць. Лічыце, што з вамі праводзяць закрыты інструктаж. Галоўнае, чым тут займаліся і сёння займаюцца, — збор, аналіз і вывучэнне таемных ведаў, паранармальных здольнасцяў чалавека, сакральных прадметаў, рэлігійных практык, ініцыяцый і старажытных культаў. Вось, да прыкладу, гэты стол. З выгляду стол як стол, скрэслены кабалістычнымі заклёнамі, формуламі і магічнымі знакамі. Нічога асаблівага, правільна?

— Вам відней, гэта ж вашая маёмасць.

— І то праўда, маёмасць, казённая. Аднак краніце чайнік, толькі асцярожней.

Уладыка з асцярогай дакрануўся да пукатага прыгажуна і адшмаргнуў руку:

— Горача!

— У тым і ўвесь сакрэт! Чайнік захоўвае цяпло колькі заўгодна доўга, калі яго паставіць менавіта на гэтае месца. Не верыце? Давайце прыбяром і на яго месца ўсталюем ваш кубак. — Не чакаючы згоды, Антон Генрыхавіч прарабіў маніпуляцыі з посудам. — Хвілін праз дзесяць я вярну ваш кубак… Усё, што тут захоўваецца, незвычайнае і часам не вытлумачальнае. Для вас, я маю на ўвазе вернікаў, усё проста: што не зразумела — ад Бога ці яго антыпода, а нам за волю Усявышняга схавацца не атрымліваецца, нам начальству пра вынікі дакладваць трэба. Дык вось, маецца ў нас асобны фонд захоўвання і вывучэння падобных штучак, сабраных і ў вашым Заходнім краі і наўпрост датычных вашай хрысціянскай канфесіі. Я тут рыхтаваўся да вашага візіту і загадаў са сховішчаў сёе-тое часова перамясціць сюды. Хадзем зірнем, пакуль чай ваш падцепліцца.

Філафею нічога не заставалася рабіць, як падпарадкавацца і прайсці за гаспадаром. Яны наблізіліся да вялікай шкляной вітрыны, падобнай да тых, у калідорах. Пстрыкнуў выключальнік, і пад шклом уладыка ўбачыў старажытныя, заціснутыя ў з'едзеную часам скуру рукапісныя фаліянты, пацеры, незвычайнай формы аналойныя крыжы, падсвечнікі, кадзілы, лампадкі.

— Вы можаце ўсё патрымаць, пакратаць, замкоў на дзверцах няма.

Уладыка узяў невялікую кніжыцу, пазбаўленую вокладкі і загорнутую ў тонкую, добра выбраленую скуру. Рукапіс быў старажытны, напісаны дзіўнымі бурымі, месцамі зусім вылінялымі чарніламі. Не спяшаючыся, ён начапіў акуляры і паспрабаваў прачытаць тэкст. Мова аказалася не царкоўнаславянскай, а нейкай дзіўна знаёмай, як быццам ён яе нядаўна чуў на вуліцы. Гэта відавочна было Адкрыццё Іаана Багаслова з вельмі дзіўнымі тлумачэннямі. Пры гэтым тлумачэнне тэксту ішло адразу за кананічным пісаннем.

— З усіх сабраных у гэтай шафе рукапісаў вы чамусьці ўзялі самы дзіўны…

— Што — і ён таксама чай падаграе?

— Ды не, гэта адзіны, наколькі мне вядома, у свеце асобнік Апакаліпсіса, перапісаны ў шаснаццатым стагоддзі ўніяцкім манахам сваёй крывёй. З прароцкімі тлумачэннямі. Наогул, уніяцкіх і старажытнарускіх, у сэнсе Полацкіх і Кіеўскіх, кніг засталіся адзінкі. Калі вы пры вялікай Кацюшы пачалі зганяць усіх у сваё адзінства, то ўсе кнігі і набажэнскія, і Святога Пісьма звозіліся ў Жыровіцкі манастыр і спальваліся. Я б дорага аддаў за адну толькі дробку попелу з таго вогнішча. Сотні тысячаў тады згарэла кніг. Не, я не вар’ят. Проста мы яшчэ ў дваццатыя гады даказалі, навукова даказалі, а не тэалагічна, што жменя попелу са згарэлага горада захоўвае ў сабе амаль усю інфармацыю пра сам горад і яго насельнікаў. Кнігі гэтыя цікавыя, але не асабліва каштоўныя, як на маё, дык многія можна было б даўно аддаць у музеі. Хоць там іх расцягнуць, прададуць ці і зусім згнояць у сырых склепах. Мяне, дапусцім, больш цікавіць, што капáла Аэнэрбэ ў гады Другой сусветнай вайны на стыку Магілёўскай і Гомельскіх абласцей, ведаеце — там, у кутку, дзе вядомая Блакітная крыніца. Вы часам нічога пра гэта не чулі?

— Не, не чуў, я нават і выказаць здагадку не мог, што падчас вайны кагосьці магла цікавіць археалогія, — адказаў уладыка, усталёўваючы на месца крамольныя запіскі.

— Немцаў цікавіла, ды яшчэ як.

Другая вітрына была большай, але змесціва практычна не адрознівалася ад папярэдняй.

— Тут, уладыка, тая кніга, якую загадана вам перадаць. Паспрабуеце самі адгадаць?

— Не ўжо, прабачце, не прыстала мне гаданнямі займацца, — пакрыўджана адказаў мітрапаліт, — і яшчэ калі кніга будзе не кананічнай, ды яшчэ і крывёй пісаная — я яе не тое што з сабой, у рукі не вазьму.



— Не, кніга цалкам кананічная, навуцы вядомая, толькі вось з часоў вайны выпала з ужытку. Для нас яна нулявы пункт захоўвання, хоць нейкія вібрацыі і стварае. Вось яна.

Уладыка асцярожна, відавочна баючыся падвоху, узяў важкі том, разгарнуў яго — і ледзь было не страціў прытомнасць. Ён трымаў ва ўласных руках старажытны рукапіс Збужскага Евангелля, беззваротна згублены ў 1941 годзе.

— Гэта копія? — анямелымі вуснамі прамовіў іерарх.

— Крыўдзіце, не тая рэпутацыя ўстановы, каб тут трымаць копіі. Арыгінал, асабіста ў 1581 годзе перапісаны збужскім князем Юрыем Алелькавічам.

— Госпадзі… быць гэтага не можа, не можа! — мітрапаліт прыціснуў да сябе левай рукой кнігу, а правай шырока перахрысціўся.

— Э, давайце-ка ў нас абыдземся без абрадавых жэстаў і малітваў. Не падыходнае для гэтага месца, а то немаведама якія працэсы запусціць можна. Бачу, што вы задаволены… Бярыце свой артэфакт і пойдзем чай дапіваць.

— Не, не, адну хвілінку! — прыціскаючы да сябе Евангелле, запратэставаў уладыка. — А дзе ён?

— Не зразумеў… Прабачце, хто дзе?

— Як хто, крыж наш! Крыж святой Еўфрасінні?

— Вось усе крыжы, што ў нас здабылі прыстанак, які з іх ваш — не ведаю, — відавочна з напускной абыякавасцю прамовіў палкоўнік.

— Не, ён у вас! У вас, калі Евангелле тут, то і Крыж павінен быць тут. Іх разам вывозілі з Магілёва, тады, улетку сорак першага.

— Хадзем, уладыка, чай дапіваць, — стаяў на сваім гаспадар, — хадзем, а там, можа, што і прыдумаем.

Чай сапраўды быў як кіпень, іншым разам уладыка гэтым бы феноменам зацікавіўся, а цяпер з галавы ў яго не ішла думка пра крыж — вялікую святыню нябеснай заступніцы яго мітраполіі, усяго краю.

— Вы пакуль пачаёўнічайце тут у адзіноце, а я на хвіліначку адлучуся, — перапыніў яго разважанні Антон Генрыхавіч. — Я, здаецца, здагадаўся, пра што вы пыталі. Я хутка вярнуся, — і з гэтымі словамі гаспадар кабінета ўстаў — і яго шэрая постаць практычна растварылася ў падслепаватым змроку.

«Эх, уладыка, уладыка, — не выпускаючы з рук святую кнігу, падакараў сябе мітрапаліт, — і собіла табе ва ўсю гэтую чартаўню ўляпацца. Ды нічога, з чартаўнёй адмалюся

як-небудзь, галоўнае — Кніга гэтая і Крыж. Крыж… Гэта я ўжо больш за трыццаць гадоў на кафедры, а яго ўсё шукаюць. Свецкія, праўда, улады галоўным чынам шукаюць. Прасіў у Патрыярха дабраславення на адшуканне нашых святыняў: і не дабраславіў, і забароны не выказаў. Не пра тое ты, стары дурыла, думаеш: пошукі, дабраславенні! У цябе вунь поўная тэчка выразак — і ні ў адной з іх няма і паўслова пра Бокія гэтага і яго лабараторыю. Лічы, у Расіі рэліквіі толкам ніхто і не шукаў. Што ж рабіць? Евангелле я ўжо ім не аддам, — уладыка гатовы быў, пакуль няма гаспадара, распрануцца, прыціснуць кнігу да цела рамянём і схаваць ад нячыстых вачэй і рук яе пад шырокімі зморшчынамі рызы. — Ды не, не трэба нічога хаваць, чэкіст гэты нібыта сказаў, што загадана Кнігу мне аддаць. — Думкі скакалі як зайчаняты. — А Кіпрыян яшчэ той! Ведаў жа, ведаў, паскуднік, дзе гэта ўсё ўтоена было, — і маўчаў, і перада мной маўчаў, і перад Сінодам, а галоўнае — прад Богам. Ох, юдолі нашы цяжкія! А калі Крыжа і сапраўды ў іх няма? Можа быць, і дарма я пра Крыж гаворку завёў. Ох, хітрэй, хітрэй трэба было дзейнічаць. Перш Кнігу выратаваць, а потым ужо і па Крыж прыходзіць, Кіпрыяну назаляць…»

— Ну, вось і я, засумавалі, напэўна? — амаль над самым вухам прашамацеў голас фээсбэшніка. — Што ж вы чай не п’яце? Зараз мы яго крыху падагрэем…

— Ды вы ведаеце, я ўжо і так усюды спазняюся, — паднімаючыся, прагаварыў уладыка. — Пайду я, мабыць, з Божай дапамогай.

— Калі ласка, я вас затрымліваць не магу, не было пакуль такіх распараджэнняў, — палкоўнік, задаволены сваёй бестактоўнасцю, усміхнуўся. — Вось фармальнасці сякія-такія ўладзім — і ідзіце сабе. Прашу вас, падпішыце вось гэты фармуляр.

Уладыка апусціўся ў фатэль, па-ранейшаму прыціскаючы левай рукой да грудзей Евангелле.

— Ды пакладзіце вы кнігу, яна ўжо, лічыце, вашая, і адбіраць яе ніхто не будзе.

Мітрапаліт прапусціў міма вушэй гэтыя словы, спрабуючы не прапусціць сэнс чытанага дакумента. Нічога асаблівага папера не ўтрымлівала. На пачатку ішло апісанне артэфакта, дзе, калі і кім створанага, кім знойдзенага, дзе захоўваемага, каму перадаванага… нічога новага. Апошні абзац абвяшчаў, што дадзеная адзінка захоўвання бязвыплатна перадаецца прадстаўніку РПЦ… прозвішча, імя, імя па бацьку, і ў дужках дробным шрыфтам: мітрапаліту Філафею. Не выпускаючы Кнігі, уладыка распісаўся працягнутай яму аўтаручкай.

— Усё, мне можна ісці?

— Пакуль не, вось яшчэ тэкст абяцання, што вы ні пры якіх умовах не маеце права выдаваць акалічнасці вашага візіту да нас, перадаваць іншым асобам змест нашай гутаркі, апісанні ўбачанага тут і гэтак далей.

— Як, а Кіпрыяну? Сіноду?

— Маўчаць, уладыка, трэба, як вось гэтаму сталу. Закіпаць знутры, але маўчаць. Гэта, як у нас гаворыцца, у вашых жа інтарэсах.

Уладыка падпісаў і абяцанне.

— Ды ўжо не спяшайцеся, справа зробленая. Чай давайце ўсё-ткі дап’ём. На Усходзе недапіты чай — амаль абраза гаспадара і яго дастархана.

Падлілі гарачага напою з вечна разагрэтага чайніка.

— Вы, верагодна, пра гэты крыж казалі? — абсалютна адсутным голасам прамовіў палкоўнік і паклаў перад агаломшаным уладыкам даўгаваты скураны футарал. — Вось ён, ваш крыж. Абяцайце, што вы да яго не дакранаецеся, гэта адзіная ўмова. Рэч гэта працоўная і яшчэ якая. Ну дык даяце слова?

Цяжка і апісаць, што дзеялася з уладыкам: і розум, і вера сашчапіліся ў нейкай унутранай сутычцы. Здавалася, яшчэ хвіліна — і сэрца выскачыць з грудзей, і ён не толькі не ўбачыць нябеснага Крыжа, але ніколі не вынесе з гэтага змрочнага палаца Святое Евангелле. «Не, трэба змагацца, трэба трымацца»… «Сим и победим… Да воскреснет Бог и расточатся врази Его, да бежат от лица Его ненавидящие Его, Яко тает воск от лица огня…» Дачытаўшы малітву да канца, уладыка вымавіў:

— Абяцаю…

Футарал расчыніўся, і на светлай тканіне зазіхацеў старажытны знак старажытнай зямлі, шматпакутнай і доўгія стагоддзі безназоўнай, але не заваяванай, не зламанай, якая выдужала і цяпер шукае свае ранейшыя імя і славу.

— Блаславёна імя Гасподняе за паказаны цуд здабыцця вачыма маімі Крыжа Правялебнай заступніцы зямлі нашай! Дзякуй вам, якім бы вы ні былі чалавекам… Пасля гэтага і памерці не страшна, — не адрываючы вачэй ад Крыжа, прамовіў Філафей. — Аднаго зразумець не магу: навошта Ён вам? Кнігу аддаяце, а абадраную дзеравяку, па вашым разуменні, пакідаеце ў вязніцы? — Крыж выглядаў, як яго і апісваў Вацлаў Ластоўскі: нямоглым, пашкоджаным і апаганеным паляўнічымі за камен-

нем. — А ведаеце, што на адной з бакавін Крыжа па навучэнню Еўфрасінні майстар Лазар Богша выразаў праклён таму, хто паспрабуе вывезці гэты Крыж з горада Праўялебнай?

— Ведаем, і высока гэта цэнім, можа, зрэшты, гэты праклён і з'яўляецца энергетычна найбольш каштоўным элементам ва ўсёй канструкцыі вырабу. Калі вам цікава, магу прачытаць гэты тэкст?

— Не, дзякуй, не я вывозіў гэты Крыж — не мне і цяжар слоў гэтых несці. Дык усё ж навошта вам Крыж? Вы так і не адказалі.

— Па нашай унутранай легендзе, якраз на вашым месцы сядзеў не безвядомы свету Лаўрэнцій Паўлавіч Берыя і гэтак жа, як і вы, дзівавaўся выбарам яго падначаленымі прадметаў з толькі што прыбылай машыны. Так, уладыка, той самай машыны, пра якую вы ўсё спрабавалі завесці гутарку. А выбар быў сапраўды дзіўным. Несамавіты крыж, з якога прадстаўнікі свядомага пралетарыяту павыкалупвалі ўсе больш-менш каштоўныя ўстаўкі. Патрапаная кніга, нібыта перапісаная асабіста нейкім князем, ды яшчэ дзіўнай формы бронзавы карэц з пахавання. Вось і ўвесь скарб… Усёмагутны Берыя абураўся, маўляў, навошта НКУС уся гэтая старызна, але ён ведаў, што з нашымі спрачацца — сабе даражэй. Ды і наўрад ці тады можна было даць дакладны адказ на падобныя пытанні. Таварышы, адказныя за сартаванне, адгадалі ці адчулі энергетычную сілу спалучэння гэтых прадметаў і накіравалі іх у лабараторыю. Вы разумееце, пра што я кажу?

— Прызнацца, не. Якая энергія, што, у Крыжы электрастанцыя ці акумулятар схаваныя? Не разумею…

— Можа, больш, чым электрастанцыя. Уладыка, наша гутарка не мае ніякага сэнсу, мы не зможам зразумець адзін аднаго, таму што гаворым на розных мовах. І ўсё ж я паспрабую растлумачыць вам на пальцах. Мы лічым, што свет энергетычны і ўся жывая і нежывая матэрыя ўзаемазлучаныя паміж сабой тонкімі энергіямі. Ад прыкладання гэтых энергій, іх канцэнтрацыі ці пераразмеркаванняў залежаць становішча планеты і соцыуму, на ёй заселенага. Словам, хто навучыцца першым кіраваць энергіямі, той і будзе паўнапраўным гаспадаром свету. Усе ўрады вядуць даследаванні ў гэтай галіне, але толкам вынікаў пакуль ніхто не дамогся. Дык вось, як высветлілася, крыж вашай святой — своеасаблівы энергетычны ключ, здольны пераразмяркоўваць энергіі. Чаму гэта адбываецца — ніхто не ведае, але і вярнуць яго ў энергетычную стыхію вашага народа вельмі небяспечна. Што нарабіла дзіда Лангіна, якая патрапіла з



музея Аўстрыі ў рукі аднаго нямецкага яфрэйтара, вы, спадзяюся, ведаеце? — палкоўнік замоўк, даўкая цішыня перапоўненага рэчамі і пылам памяшкання навалілася на ўладыку, не даючы магчымасці падумаць і асэнсаваць пачутае.

— Не мне вам, спрактыкаванаму тэолагу, тлумачыць, што ўсякая імперыя нароўні з зямным, матэрыяльным увасабленнем мае і сакральнае, містычнае ўвасабленне. Дык вось, крыж гэты ўтрымлівае вашую краіну ў гранях адзінай імперыі, ну, скажам, Раманавых — і перамяшчэнне яго ў ваш край можа прывесці да вельмі непрадказальных наступстваў. Ні нам, то-бок Расіі, ні вакольнаму свету не патрэбен моцны, самастойны Заходні край. Не ўпісваецца ён у новы падзел свету, так што крыж гэты народ ваш ніколі назад не атрымае. Можа, яно і да лепшага… А цяпер, уладыка, будзем развітвацца. І галоўнае: забудзьцеся на ўсё, што вы тут бачылі і чулі. Са здабыцця Евангелля цудаў рабіць не варта: проста вернікі прынеслі, хто ды адкуль — ужо і не разбярэш.

Яны ўсталі і накіраваліся да выхаду.

— Прашу прабачэння, Антон Генрыхавіч, а што намалявана на вітражы велізарнага акна за вашым працоўным сталом?

— Вы і гэта паспелі разгледзець? Не трэба было вас сюды прыводзіць… Трон Люцыпара, які правіць светам.

— Няхай уваскрэсне Бог… — нягучна заспяваў уладыка і, не развітваючыся, выйшаў прэч, па ранейшаму моцна прыціскаючы да сябе неацэнны здабытак.

## СПАКУСА СТОЛАНАЧАЛЬНІКА

Павел Міронавіч Карчагін не браў хабару. За дваццаць пяць гадоў службы ў розных грамадскіх установах ён паступова рос па канцылярскай частцы і вось да сваіх пяцідзесяці двух даслужыўся да начальніка аддзела аднаго з упраўленняў. З прычыны далікатнасці тэмы апусцім яго назву, ды і я даў слова не заглыбляцца ў падрабязнасці.

Так ужо здарылася, што за доўгія гады працы ніхто Паўлу Міронавічу хабару не прапаноўваў, а сам ён прасіць неяк бянтэжыўся. Намёкі на гэтую далікатную тэму, нават ад калегаў, прымушалі яго чырванець, і ён спяшаўся згарнуць размову. Калегі ў сувязі з гэтым аднадушна думалі, што Міроныч па частцы пагрэць рукі яшчэ той дока. Разоў з тры на яго пісалі ананімкі, прызначалі праверкі, нават дахаты адказныя таварышы

прыходзілі. Але няма бяды без дабра: пасля другога «прамывання», бачачы яго акуратную галечу, перасунулі ў чарзе і далі добрую трохпакаёвую кватэру; вядома, пры саўку было лягчэй — і палёгкі, і прадпайкі, і спецсталоўка, і пуцёўкі, ды ці мала яшчэ чаго… Што дарма душу верадзіць?..

Служыў сабе чалавек пры паперы і служыў. Папера, яна сваім самастойным жыццём жыве. Яна можа і пад сукно нырнуць, як у вір, а можа такія каленцы выкінуць, што, брат ты мой, толькі трымайся! Улады без паперы няма, гэта даказана паперай і замацавана адбіткам гербавай пячаткі. Таму яе службоўцы яшчэ задоўга да егіпецкіх часоў былі ў пашане і дастатку. Яны заўсёды былі патрэбныя, але іх заўсёды было мала. У бюракратыі як нідзе празмерная колькасць непазбежна псуе якасць, але, на жаль, зайздрасць — вечны спадарожнік чалавека. Не дзіва — сядзі сабе, крэслі гліняную таблічку або пёркам скрыпі, а грошыкі на выгоды табе самі ў кішэню і цякуць. Вось з гэтага ўсё і пачалося — і блат, і кумаўство, і бедныя п’янтосы-сваякі, і іншыя няўдачнікі і няздары. Паступова асноўнае вязьмо дзяржавы — пісцоў і папераводаў — зганьбілі і ператварылі ў папяровыя душы, а ў нашыя дні слова «чыноўнік» і зусім зрабілі лаянкавым. Аднак мудрацамі заўважана: як толькі ўлада дапускае здзек і абыякавасць да свайго службовага чалавека, яна сама пачынае марнець і ў хуткасці памірае. Але да нашай гісторыі гэта мае ўскоснае дачыненне.

Чарговага наведвальніка, вельмі прыемнага маладога чалавека, Павел Міронавіч правёў да дзвярэй кабінета і, пажадаўшы поспехаў, вярнуўся да патрабавальнага гуду апарата ўнутранай сувязі.

— Слухаю вас, Мяфодзій Маркавіч. Так, усе даведкі па нашым рэгіёне гатовыя, — паважліва, але без усякага запабягальнага прыдыхання дакладваў ён начальніку глаўка, чалавеку ўладнаму і непрадказальнаму. — Магу дакласці праз дзесяць хвілін… Добра, праз паўгадзіны буду.

Апусціўшы трубку на рычаг, ён ужо быў пацягнуўся да кнопкі выкліку сакратара, калі ўбачыў на невялікім прыстаўным століку, за якім толькі што гутарыў з наведвальнікам, таўсматы доўгі канверт. «Шакаладку ці што ў пакет засунуў? Ну, народ», — падумаў Карчагін, устаючы і перахіляючыся праз стальніцу. Яшчэ пальцы не паспелі крануць гэтага папяровага брыкецікa, як Паўла Міронавіча нібы кіпенем абдало. Ён адшморгнуў руку, чамусьці зірнуў на гадзіннік — было адзінаццаць дваццаць. Кроў стукала ў скроні. Ажыў селектар, і гучна абпаліў голас сакратаркі:



— Да вас Спіцын…

— Ён адзін?

— Павел Міронавіч, вы дзе? Вас дрэнна чуваць… Дык Спіцыну можна зайсці?

Кінуўшыся наперад, ён схапіў канверт, у ім навобмацак сапраўды быў не шакалад. «Госпадзі, ды за што ж мне такая ганьба! Зараз увойдзе гэты пранырa Спіцын, і ўсё адкрыецца».

Ён хутка высунуў сярэднюю левую шуфляду стала і паспешліва, як быццам канверт мог абпаліць яму далонь, саўгануў яго ў далёкі кут. Прыняўшы як мага больш абыякавы выгляд, ён націснуў кнопку селектара:

— Хай Анатоль Анатолевіч заходзіць.

— Добры дзень, шэф, — паціснуўшы працягнутую руку, ён расчыніў тонкую тэчку і пачаў нешта тлумачыць Паўлу Міронавічу.

— Пачакайце, гэта пасля! А зараз мігам да Кірыла Дзянісавіча і праз сем хвілін… — начальнік зірнуў на гадзіннік, стрэлкі паказвалі адзінаццаць дваццаць дзве. — Усяго дзве хвіліны, — машынальна вымавіў ён…

— Якія дзве хвіліны? — здзіўлена ўскінуў стрыжаную галаву Спіцын.

— А вам якая справа?! — злосна раўкнуў Карчагін. — Мне праз пятнаццаць хвілін Мяфодзію Маркавічу дакладваць, а вы, як цялё, яшчэ тут топчацеся.

Спіцын, не адчуваючы за сабою віны, па-вайсковаму дэманстратыўна развярнуўся праз левае плячо, не спяшаючыся выйшаў, пакінуўшы дзверы напаўадчыненымі.

— Тамара Аўгустаўна, — знарочыста гучна звярнуўся ён да сакратаркі, — якая яго сёння муха ўкусіла?

— Не ведаю, з раніцы быў у добрым настроі…

Увесь астатак дня пайшоў наперакасяк. Сваім дакладам начальніку глаўка Павел Міронавіч застаўся незадаволены, той кудысьці спяшаўся, слухаў няўважліва і млява. «А можа, і яму таксама сунулі? — падумаў начальнік аддзела і асёкся: — Ты ўжо зусім з глузду з’ехаў».

Падчас абеду кавалак не лез у горла. Падавалася, усе косяцца на яго, шматзначна падміргваюць, адпускаюць нейкія двухсэнсоўныя жартачкі. Ні з таго ні з сяго прыліп Бранчэўскі, чалавек нахабны, з устойлівай рэпутацыяй хабарніка. «Яго мне толькі не хапала!»

— Паша, ты сёння нейкі агаломшаны? Можа, дома што здарылася?

— Супакойся, дома ў мяне ўсё нармалёва, табе чаго трэба?

— Фу, які ты грубіян! «Чаго трэба, чаго трэба». З таварышам параіцца вырашыў.

«Ну вось, дажыўся, Мішка Бранчэўскі мяне запісаў да сябе ў таварышы!»

— Слухай, Паш, Цюмень жа твая?

— Мая.

— Выдатна. Давай сёння ў добры рэстаран сходзім, пасядзім, — панізіў ён голас, — трэба адным мужыкам дапамога. Яны ў даўгу не…

— Ды не павінны яны мне нічога. Сёння не магу.

Замахаўшы рукамі на бурныя пратэсты Міхаіла, Карчагін, не чакаючы ліфта, пайшоў на свой паверх.

У галаве сашчапіліся дзве думкі, дзве істоты, два вечныя спаборнікі. Першы, сумленны, дакараў:

— Скурвіўся. Да гэтага не браў. Ды і сёння таксама нібыта і не браў. Чалавек пакінуў канверт. Ты ж не глядзеў, што ў тым няшчасным канверце. Як што? Не будзь наіўным — даляры там. Ды за што даляры? Я яму і так яшчэ за тыдзень усё аформіў, усё па закону. Мне за гэта зарплату плоцяць.

Слова «зарплата» чамусьці выклікала саркастычную ўсмешку. Калі б жонка не знайшла нейкую мудрагелістую працу за шэсцьсот баксаў у модным выдавецтве, хрэн бы яны на яго сем тысячаў у месяц пражылі.

Дачакаўшыся слабінкі, наперад выступіў другі спаборца, больш нахабны і напорысты:

— Ды ты што, поўны дурань? Ідзі хоць пагляндзі, што сунулі! Што ты з сябе дзяўчынку строіш? Сам які ўжо год нудзішся, маўляў, ішачу як пракляты за драбязу, усе грабуць пад сябе, кватэры купляюць, лецішчы будуюць, на Кіпрах і Канарах жываты грэюць. Нябось, Мішку Бранчэўскаму катэгарычнага «не» не сказаў. Сёння не магу! А заўтра або паслязаўтра можаш? Што, і хочацца і колецца? Пенсія не за гарамі. На хрэн ты дзяржаве будзеш патрэбен? Здохнеш, і вяночка ніхто з Адміністрацыі не дашле. Ды і з чаго б гэта вяночак? Невялікая фігура. На тваіх вачах, з тваёй дапамогай расцягваюць багацце краіны па кішэнях ды сусеках. Ты што, сляпы? Або ўсе гэтыя …інскія, …аўскія, …індзіны сваім гарбом мільярды зарабілі? Плюнь і разатры!

— А як жа паняцце гонару, сораму? — узвіўся прыстойны, — адзін раз спатыкнешся — і ўсё, пойдзеш па нахільнай. Чужая капейка, яна душу хутка гвалціць. Што дзецям скажаш?



— А ты не гвалтуйся! Ты на старасць збірай, каб тым жа дзецям клопатам не быць. Што ім скажаш? А што ім гаварыць? Яны ў цябе не грудныя, горш будзе, калі яны скажуць: дурань у нас баця быў, але сумленны.

У прыёмнай ён сходу кінуў:

— Мяне ні для кога няма. Я працую з дакументамі.

Тамара Аўгустаўна, адарваўшыся ад тэлефона, нешта паспрабавала сказаць, але не паспела.

Зайшоўшы ў кабінет, Павел Карчагін замкнуў дзверы, зашморгнуў шторы, уключыў настольную лямпу і рашуча высунуў сярэднюю левую шуфляду стала. Шчыльнага даўгаватага канверта з матавай паперы там не было…

— Што за чартаўня?.. — Ён па чарзе пачаў выцягваць іншыя шуфляды, забітыя сасланымі ў адлежку паперамі. Усё пераварушыў. Канверта нідзе не было…

Зацёхкаў селектар. Павел Міронавіч націснуў кнопку і толькі набраў паветра, каб адчытаць Тамару, як тая, відавочна прадчуваючы лупцоўку, хутка загаварыла:

— Выбачайце, але гэта неадкладнае. Да вас таварышы з органаў прыйшлі. Гавораць, па вельмі важнай справе.

— Хай заходзяць, — паніклым голасам вымавіў Карчагін і, адразу неяк пастарэўшы, пайшоў адмыкаць дзверы.

У кабінет увайшлі двое. Прадставіліся і, папрасіўшы дазволу прысесці, пачалі выпытваць яго меркаванне пра былога калегу — Астапчука Сцяпана Прохаравіча, які на пачатку рэформаў з размахам залунаў на дзяржаўных вяршынях.

Аўтаматычна адказваючы на пытанні чэкістаў, Павел Міронавіч быў унутрана сціснуты і ўсё чакаў пытання аб няшчасным канверце. Якое ж было ягонае здзіўленне, калі маладыя людзі, падзякаваўшы за дапамогу, развіталіся.

Расшпіліўшы верхні гузік кашулі, ён паслабіў гальштук і, адкінуўшыся ў крэсле, падумаў: «Самы час прасіць Тамару прынесці валяр'янкі».

Тамара Аўгустаўна, адданы і правераны шматгадовай працай кадр, бязгучна паўстала на парозе.

— Павел Міронавіч, вы будзеце сварыцца, — вінавата пачала яна, — рэч у тым, што, пакуль вы абедалі, я была змушаная забраць з вашага стала канверт і перадаць яго маладому чалавеку, які быў у вас раніцай…

Шэф сядзеў з шырока адкрытым ротам, цяжка дыхаў і павольна заліваўся здрадлівай чырванню, якая па-дзіцячы абпальвала шчокі. Словы захраслі глыбока ў горле.

Сакратарка зусім паніклым голасам працягвала:

— Ён так прасіў, гаварыў, што калі спозніцца хоць на пяць хвілін, яму не знасіць галавы. Справа ж падсудная. Пераканаў ён мяне. Вінаватая, узяла на сябе адказнасць. Мы зайшлі ў кабінет, пашукалі. Мне здалося, што адна шуфляда стала нібыта высунутая. Прабачце. Вось такая гісторыя. Я аддала яму канверт. Ён у прысутнасці Наташы з машбюро склаў распіску…

Карчагін застагнаў.

— Ды не хвалюйцеся, усё добра. Вось распіска, а гэта ён прасіў перадаць вам, — і яна паклала перад ім тры даўгаватыя бледна-зялёныя паперкі.

Гэта былі падобныя на амерыканскія даляры білеты дабрачыннай латарэі забаўляльнага цэнтра «Спакуса».

## ДЗІКІ ШОРАЦ

Горад, з яго абкурадымленымі падслепаватымі днямі і начамі, бязлітасна грукатлівым жалезам, адступаў павольна. Яшчэ доўга справа і злева сярод прыгажосцяў перадгор'я, нібы звыродлівыя прывіды, узнікалі недарэчныя будынкі, сціснутыя лапікамі падрапанай чалавекам зямлі.

Машына з лёгкім шаргаценнем кацілася па чорным, у вясёлкавых разводах ад нядаўняга дажджу, асфальце. Гаркавы пах намоклай скошанай травы беспаспяхова спрабаваў перабіць прыкрасць разагрэтага бітуму. Яшчэ некалькі паваротаў — і вось яны, горы. Няроўнымі, накат на накат зялёнымі хвалямі яны збеглі да далёкага далягляду, каб там, на краі свету, успеніцца бялявымі, як прыбой, снягамі Саян.

Першакласная дарога тоўстай шараватай змяёй павольна выгіналася ў неглыбокіх логах, здушвала прагнымі кольцамі ўзгоркі, ляцела прама стралой па абалонах шумлівых рэк. «Памятаеш, як з тваёй падачы пачыналі будаваць гэтую дарогу? Колькі было шуму, папрокаў у манілаўшчыне, авантурызме, а атрымалася, мабыць, не горш, чым у Швейцарыі», — думаў Іван, з цеплынёй гледзячы на знаёмыя з дзяцінства мясціны. Твар яго хмурыўся, калі погляд натыкаўся на безгаспадарна кінутыя ля дарогі бярвёны, высыпаны пад адхон друз або разараную па касагоры лугавіну, разараную, што крыўдна, без усякай мэты. Вока вопытнага гаспадара заўважала ўсё. Новыя кіраўнікі недалюблівалі, калі ён у першыя гады пасля пераабрання прыязджаў і наладжваў ім сапраўдныя райкамаўскія лупцоўкі.



З гадамі астыў, махнуў рукой — маўляў, за што змагаўся, на тое і напароўся. Не было б дарогі, і бязладзіцы было б менш, а тут хіба за ўсім угледзіш?

Іван не лічыў сябе заімшэлым партапаратчыкам, да пяцідзесяці (дзесяць з якіх прыйшлося на пераломку краіны) ён славіўся моцным гаспадаром, нядрэнным кіраўніком, жыў з дастаткам, яго любіла сям'я і паважалі сябры.

Узначаліць гэты самы аддалены ссыльна-пераселены раён яму лёсіла ў першыя каламутныя гады ельцынскіх завіхрэнняў. Як тады пазбеглі пагромаў па ўсёй краіне, абмежаваліся адным Каўказам, — аднаму Богу вядома! Неяк вылез. Жыць стала лягчэй, ну і добра.

І тады і цяпер яго душа балела за Мустаг. За прыгожую, самотную і напышліва-ганарлівую гару, якая ўзвышалася над наваколлямі. Каго б ні прывозіў ён у родны край — як толькі машына праязджала Мунды-Баш і ўзбіралася на адзін з самых высокіх сваіх уздымаў, Іван пачынаў нервавацца, адказваў неўпапад і, нарэшце, паказваў кудысьці налева, урачыста выкрыкваў:

— Вось Мустаг!

Па-шорску Мустаг — гэта ляднік, а пры гаспадарскім падыходзе — рай для гарналыжнікаў. Першыя трасы пачалі будаваць тут яшчэ задоўга да новай дарогі. Гара вабіла, звала, цягнула да сябе, збліжала чужых людзей, а сяброў ператварала ў непрымірымых ворагаў. Дзіўная гэта была гара. Мясцовыя лічылі яе святой, месцазнаходжаннем духаў продкаў. Гара чакала сваіх заваёўнікаў, а справа гэтая была нялёгкай, ды Івану са школы не падабаліся простыя задачкі, справы, людзі, жаданні. Колькі чалавек з-за гэтай любові да складанасцяў вытрымаў, адна яго сакратаўская лысіна ведае.

Сёння Іван не спяшаўся на спатканне са сваёй любімай гарой. Ён на яе пакрыўдзіўся. Пасля доўгіх гадоў вернасці гара з ганебнай паспешнасцю капрызнай дзяўчыны здрадзіла яму. Вядома, гара ні пры чым. Віной усяму грошы, зайздрасць і яшчэ раз грошы. Крыўда, як у дзяцінстве, нараджала пачуццё бездапаможнасці ды адзіноты. Хацелася заплакаць ад жалю да сябе, да доўгага і цяжкага жыцця, пройдзенага поплеч з людзьмі, якія сталі ўадначас чужымі. Тры яго лепшыя і правераныя таварышы вырашылі зрабіць яго згаворлівым. Іван быў супраць продажу гары чужынцам, і сябрукі, каб не ўпусціць добрыя грошы, напісалі ў міліцыю, а там сфабрыкавалі крымінальную справу, абвінаваціўшы яго ў махлярстве. Жонку, дзяцей і знаёмых цягалі

на допыты. Зганьбаваны, ён кідаўся з падпіскай аб нявыездзе, як воўк за чырвонымі сцяжкамі. З усіх высокіх пасадаў яго, як гэта ў нас заведзена, імгненна паперлі. Папаўзлі чуткі і плёткі, адна жахлівейшая за другую. Не адчуваючы за сабою віны, ён усё ж баяўся за сям'ю. Яму трэба было дакладна ведаць, да чаго рыхтавацца, а распавесці аб тым мог толькі адзін чалавек…

Не даязджаючы да пасёлка, Іван звярнуў на грунтовую дарогу, якая рэзка брала ўгору. Ён ведаў, што, папятляўшы з дзясятак кіламетраў, зможа пазбегнуць непатрэбных сустрэч, вінавата апушчаных вачэй, паказной спагады, пустых гутарак і мноства іншых непрыемнасцяў. Да нядаўніх падзей, якія перавярнулі яго, здавалася б, ужо трывалае жыццё, ён ніколі не задумваўся аб пакрыўджаным чалавеку, спавядаючы прынцып «на пакрыўджаным ваду возяць». Стаўшы начальнікам, ён сабе ўжо і не ўяўляў, што яго можна пакрыўдзіць. Крыўдзіў сам. І вось крыўда пасялілася ў яго доме, услед за ёй прыйшла няўпэўненасць, а потым і страх, страх бездапаможнасці. Кожны з нас, сутыкнуўшыся з халоднай абыякавасцю дзяржаўнай машыны, у лічаныя дні становіцца заўзятым анархістам. Цынізм, з якім дзяржава растоптвае асобу, адкрываецца для самой гэтай асобы толькі пасля судакранання з вядомымі органамі. Не дай нам Бог выпрабаваць гэта на сабе — як часта ў аснове пошуку ісціны і абароны дзяржаўных інтарэсаў ляжыць звычайная карысць, хлусня і данос. Багіня правасуддзя сляпая, але нейкі вар'ят уклаў у яе руку меч. Злая насмешка з разумнага сэнсу: невідушчая з нажом у руцэ прадзіраецца, па локці ў крыві, да нейкай міфічнай ісціны, якая жыве, магчыма, толькі ў яе сляпым уяўленні.

Вакол жыла, кіпела і буяла прырода. Мільёны невядомых стварэнняў поўзалі, лёталі, бегалі, пладзіліся, гінулі і бестурботна радаваліся кароткім імгненням адпушчанага ім жыцця. Травастой, густы і буйны, прагінаў сваім зялёным цяжарам лугі, гуў меданосам, і гэты роўны гуд, уплецены ў ціхі шэлест лісця, падаваўся лёгкім дыханнем паўдзённых гор.

Іван ужо даўно спыніў машыну, расхінуў дзверцы і глядзеў у зялёнае люстэрка лета. Ён бачыў у ім дзяцінства, яшчэ жывую маці. Прапашчы атэіст, у апошнія гады паступова вяртаўся ў натуральны стан веры, часам стоячы перад абразом ва ўтульным прыцемку з мігатлівымі свечкамі, ён лавіў сябе на думцы, што ў Багародзіцы маміны вочы, і, падавалася, нават чуў яе голас: «Мацуйся, сыночак, ты ж у мяне вунь які дужы, салодкае жыццё — яно толькі ў чужым акенцы».



Зірнуўшы на гадзіннік, Іван прыспешыў хаду, зноў закалыхалася, занырала дарога. Хутка ён выскачыў на асфальт і хвілін праз дваццаць быў ужо ў Кабырзе. Пакінуўшы машыну ля хаты рыбака, перагрузіўшы ўсё неабходнае на доўгія шорскія лодкі, пагаварыўшы са знаёмымі, ён з Валерам Чапаковым і старым Гурзом паплыў уверх па Мра-Су. Дзесьці там, далёка, дні з тры шляху, у старым, яшчэ, пэўна, калчакоўскіх часоў дыхтоўным зімоўі жыў стары, як легенда, пустэльнік. Мясцовыя звалі яго Дзікім Шорцам. Як і калі ён з'явіўся ў гэтых гарах, ніхто не памятаў.

Лодкі спрытна слізгалі па празрыстай і на здзіўленне глыбокай для гэтай пары вадзе. Апісваць прыгажосці горнай, бурнай на перакатах ракі мне падаецца пустым заняткам. Хто хоць аднойчы гэта бачыў і ўдыхаў прастор, які ляціць у твар з маленечкімі іскрынкамі вады з-пад носу маторкі, той і сам уявіць гэты вечны цуд. А хто не бачыў — таму і не трэба, усё роўна перад ім узнікае мёртвы глянец рэкламнага плаката.

Заначавалі ў Шор-тайзе — маленькай беднай вёсцы, некалі цэнтры родавага ўдзелу аднаго з наймацнейшых князёў Шора, хто, па паданню, і даў назву цэлай народнасці. Вёску ўзімку асільвалі ваўкі, улетку гнюс і камары, аднак жыхары не звярталі ўвагі ні на тых, ні на іншых: ім не было калі. Праца, цяжкая і нудная, як сотні гадоў назад, займала ўвесь час абарыгенаў. Хутка сціралася раскосая прыгажосць у маладзі, і разам з галечай прыходзіла доўгая пара бясчасся, якая перарастала ў старасць. Хваробы і гарэлка давяршалі кароткі век шорца.

Праз два дні яны дабраліся да месца. Справа з гары ў раку скатваўся бурны ручай. Распалохаўшы тоўстых з чорнымі спінамі харыусаў, што песціліся ў сцюдзёных струменях, падарожнікі выцягнулі лодкі. Праваднікі засталіся ўладкоўваць лагер, а Іван, узваліўшы на плечы вялікі заплечнік з пачастункамі, пайшоў далей адзін. Дарога была цяжкай. Ледзьве прыкметная сцежка спачатку чаплялася за невялікія камяністыя ўступы ўздоўж ручая, а затым і зусім палезла амаль строма ў гару. Іван спяшаўся. Яшчэ пару гадзін — і ён атрымае адказы на ўсе свае пытанні.

Упершыню яго правялі па гэтай мудрагелістай звярынай сцежцы гадоў пятнаццаць назад. У пракурора раёна знік сын. Паехаў у горад і згінуў. Што толькі ні рабілі — вынікаў нуль. За тры месяцы пакутаў бацька з маці ледзь было не крануліся розумам; тады хтосьці і параіў Ігнату Пятровічу схадзіць да Дзікага Шорца. Часы былі яшчэ партыйныя, і за такія паходы маглі строга спытаць як з камуніста і пракурорскага работніка,

але бацькавае сэрца спалохаць цяжка. Іван на той час быў намеснікам старшыні выканкама і, мабыць, адзіным у горадзе чалавекам, якога ведалі і якому верылі шорцы. Калі яны, вымаклыя пад восеньскім дажджом, адвячоркам дабраліся да закінутых у глухой тайзе будынкаў, іх засмуціў паўсталы з цемры невысокі чалавек, абвясціўшы, што Шорца няма, і калі будзе, ён не ведае. Праваднік раіў перадыхнуць да раніцы і вяртацца.

Заначавалі ў маленькай лазенцы. Раніцай Іван пазнаў у начным незнаёмцы свайго аднакласніка Мішку Самсонава. Пасля няшчаснага выпадку на паляванні Мішка застаўся калекам. Лекары здзіўляліся, як яшчэ выжыў. У Сома, як яго празвалі ў школе, развярнула правую палову твару, калі ён спрабаваў дастаць са ствала нявыстралены патрон. Жонка не выцерпела ягонага знявечання і кінула, людзі шарахаліся, пластычныя аперацыі тады былі рэдкасцю, ды і каштавалі вялікіх грошай. Каб не спіцца, Мішка сышоў у горы, узімку зарабляў пушнінай, улетку нарыхтоўваў дзікаросы. З гадамі здзічэў, да незнаёмых людзей наогул перастаў падыходзіць, зрэдку з'яўляўся ў маці. Іван доўга распавядаў яму навіны, спакваля выпытваючы пра Шорца. Пасля гутарак туман вакол таямнічай фігуры ці то шамана, ці то святога толькі згусцеў. Сам ён прыйшоў на наступны дзень да абеду са здаравенным берасцяным палукашкам за плячыма. «Траўкі прынёс», — растлумачыў Мішка і паспяшаўся насустрач вялізнаму сівабародаму старому.

У хаціну, над уваходам у якую віселі тры чэрапы: аленя з вялікімі галінамі рагоў, а па баках — ваўка і вялізнага мядзведзя, Ігнат Паўлавіч зайшоў адзін. Выйшаў пракурор праз гадзіну. Ён быў бледны, з застылымі ад страху вачыма. Праводзячы іх да велізарнага, пацярпелага ад маланкі кедра, Шорац, уважліва зірнуўшы на Івана, гучным траскучым голасам вымавіў:

— У цябе, парцейны, усё будзе добра, прыходзіць да мяне па чужых патрэбах будзеш часта, а па сваёй — гадкоў праз пятнаццаць.

Цела сына пракурора знайшлі пад грудай смецця ў склепе закінутай помпавай станцыі. Як і прадказаў Шорац, забілі яго сябры па інстытуту «ад нуды», як яны заявілі на судзе.

Вось ужо знаёмы ўздым, яшчэ паварот, невялікі спуск — і на сонечным касагоры, абароненым ад вятроў падковай стромых скал, сярод векавых кедраў павінны з'явіцца цёмныя драўляныя будынкі, прыхаваныя цяпер густой летняй зелянінай. Адвячоркава спявалі нябачныя ў лістоце птушкі, напоенае лясным разнатраўем цёплае паветра прыціскалася да зямлі, дыхалася лёгка і смачна. Ля знявечанага нябесным агнём кедра сядзеў



худзенечкі Мішка. Густая чорная з сівізной барада закрывала яго твар, толькі там, дзе была рана, валасы раслі неяк няроўна, жмутамі.

— Прывітанне, аднакласнік, — узрадаваўся Іван, скідваючы на зямлю заплечнік і прысаджваючыся побач. — Чаго маўчыш? Я вам пачастункаў прынёс.

— Спазніўся ты, Іван, на тры тыдні спазніўся, не дачакаўся цябе Селіван Пракопавіч…

— Ды нічога, я яго дачакаюся, мне сёння спяшацца няма куды, пагасцюю пакуль у вас, па гаспадарцы дапамагу. Я дзвюма лодкамі прыйшоў, там і дошкі, і прылады.

— Глухімі вы там, у горадзе, усе сталі, я табе гавару: памёр Шорац. Цябе ўсё чакаў.

У Івана перахапіла дыханне, ліловыя плямы заскакалі перад вачыма, прыкрасць і пустэча з подыхам скразняку наваліліся на яго. Горы, людзі, асабістая бязладзіца раптам перасталі існаваць. Пульсуючы рытм часу выцягнуўся ў адну бесперапынную, бясконцую лінію, як быццам нешта падсумоўваючы. Ужо сцямнела, на высокім небе запаліліся памінальныя зоркі, а дзве аднолькава згорбленыя горам фігуры ўсё яшчэ сядзелі ля мёртвага дрэва, пакуль не зліліся з цёмна-фіялетавай цямрэчай бязмесячнай начы.

## БЯЗДОМНАЯ ДУША

Спалохацца ніхто не паспеў, проста машыну моцна скаланула, і ва ўсіх перад вачыма прайшла цемра.

Людзі заўсёды чакаюць смерць. Як толькі ты пачынаеш усведамляць сябе жывым чалавекам, так і пачынаецца яе доўгае бесперапыннае чаканне, а яна заўсёды прыходзіць нечакана і, як нам падаецца, не ў час, можа, таму мы спяшаемся ахрысціць яе дурной. Хоць наўрад ці хто назаве прыклад разумнай смерці. Абсурдна шукаць логіку і сэнс у вывяржэнні вулкана; людзі, якія жывуць на яго схілах, проста чакаюць, так і мы проста чакаем сваёй гадзіны. А потым ужо тагасветныя, жывыя будуць абмяркоўваць тое, што адбылося з намі, даваць дурныя характарыстыкі, скрушна ківаць галовамі, бо смерць прыйшла не да іх.

Столькі слёз, кветак і скрухі гэтая зала, якая звыкла да авацый і непрабуднай весялосці, яшчэ ніколі не бачыла, ды і не дай Бог убачыць.

Генерал ляжаў у труне строгі і напышлівы, грэбліва сціснуўшы вусны, падавалася, што і пасля смерці ён паранейшаму лічыць сябе ўсёмагутным і вялікім, такім, якога ніхто і нішто не ў стане перамагчы. Ля ўзгалоўя дарагой імпартнай труны тырчалі мёртвыя сцягі, невядома што сімвалізавалі. Людзі ішлі бясконца, многія плакалі, але толькі адзінкі насмельваліся зрабіць некалькі крокаў з агульнай рытуальнай чарады, падысці да труны і зірнуць апошні раз у твар гэтага дзіўнага чалавека, які чатыры гады назад прыехаў у іх Богам забыты куток і стаў яго неад’емнай часткай, а цяпер ужо, напэўна, і легендай.

За сцягамі ўзвышалася пустая сцяна, абстаўленая драўлянымі пюпітрамі, падобнымі ў прыглушаным святле на старыя абеліскі нейкага незямнога могільніка.

З самага краю, звесіўшы доўгія стройныя ногі, сядзелі дзве поўныя прыгажосці і сілаў жанчыны. Адна ў асляпляльна белай вопратцы, шчаслівая і задаволеная, другая — у цёмных рызах, з сумным, заплаканым тварам. Яны аб чымсьці напаўголаса размаўлялі, магчыма, абмяркоўвалі ўборы дам, што прыйшлі ў гэтую журботную залу.

Ім дадзена было бачыць і чуць жывых, людзі ж былі сляпыя і глухія. Не бачыў іх і я, хоць не аднойчы падыходзіў да труны. Ужо пазней, праз нейкі час мне прысніўся сон, ці гэта быў не сон… У нас у Беларусі раней такі стан называлі мрояй, напэўна, усё гэта мне прымроілася.

Дзвюма суразмоўніцамі былі Смерць і Душа генерала. Бліскучая, у белай вопратцы — Смерць, у журботнай жалобе — Душа. Дзіўна, але аказваецца, што ў кожнага з нас ёсць не толькі свая душа і Анёл-ахоўнік, але і свая індывідуальная смерць. Дакладнай механікі іх узаемадзеянняў ніхто толкам не ведае, ды гэта, мусіць, для нас, смяротных, і не абавязкова. Дзіўны дыялог паміж не меней дзіўнымі суразмоўніцамі доўжыўся, пэўна, ужо даўно, магчыма, з першай гадзіны нараджэння генерала, але нам дадзена было пачуць толькі малую яго часцінку.

— …вядома, я ўсё разумею, — гаварыла, злёгку прытушыўшы ўсмешку, Смерць, — і павер, падзяляю, наколькі мне трэба, твой смутак расстання з гэтым целам, як-ніяк пяцьдзясят два гады разам, але не крыўдуй, як бы сказаў твой генерал, — загад зверху.

У адказ Душа цяжка ўздыхнула і паднесла чорную карункавую хусцінку да злёгку вільготных вачэй.

— Зусім ты ачалавечылася. Нічога, пройдзе час, адвыкнеш, — спачувальна паклала руку ёй на плячо суразмоўніца, — табе добра, наперадзе цэлая вечнасць, а я сваю місію выканала, суправаджу вас, спадарыня, у вечны дом і растваруся, пераплаўлюся, звярнуся. Хто ведае? А Ён ніколі наперад не гаворыць. Ды што мы ўсё аб сумным? Бо ўсе гэтага чакаюць, а здзяйсняецца — упадаюць у маркоту. Глядзі, якая несправядлівасць: жыцця чакаюць усяго дзевяць месяцаў і радуюцца да ўтрапёнасці, а колькі потым, бывае, гэтае жыццё прынясе пакутаў і сабе, і вакольным, і, у першую чаргу, бацькам… Але пры нараджэнні нікому гэта ў галаву не прыйдзе. Мяне ж чакаюць часам амаль стагоддзе, і прыходжу я пазбавіць ад пакутаў — а колькі слёзаў, колькі недарэчных слоў! Вось скажы, бо лепш, чым ты, ніхто яго не ведае: паабяцай генералу вялікую ўладу, якую можна атрымаць толькі праз мора крыві, пайшоў бы ён на гэта?



— А навошта яму жыццё без улады? Ён-то ў спрэчках з сабою такое часам гарадзіў, збянтэжанасць апаноўвала. Асабліва ў апошні час мне дасталося, парой нават не радая была, што я яго. Ганарлівасць яго з’ядала.

— Слухай, хочаш, мы яе можам запрасіць да нашай гутаркі, гэта ў маёй уладзе, да дзявятага дня, не то што ганарлівасць, любую загану або дабрачыннасць маю права выпатрабаваць і прымусіць з намі гаварыць, бо пазней там ты адна адказваць будзеш, а яны ўсяго толькі сведчыць. Давай, а?

— Можа, не цяпер, адыду трошкі, мяне гэтае стварэнне за яго жыццё дастала. Паглядзі на ягоны твар, яна і напрыканцы сваю маску яму начапіла. Ты кажаш — улада, ды ён з яе прагай нарадзіўся і да апошняга ўздыху ёю мучыўся. Я, бывала, дзівілася іншаму: як вакольныя адчувалі яго патэнцыю ўлады ды імгненна кідаліся да яго, каб хоць нешта ўрваць для сябе. Вось ужо сапраўды замарочка свету, гэтая ўлада.

— Бачыш, выходзіць, не выпадкова мяне паслалі, а так, чаго добрага, ён бы наламаў дроў. Я, праўда, часцяком да вас зазірала, але толкам яго не ведала, ды і не падабаўся ён мне асабліва. Бабісты нейкі, хто што ў вушы наспявае, у той бок і паварочваецца. Як ты такога бесхрыбетнага да такіх вышынь улады давалакла, дзіўлюся проста!

— Наконт бесхрыбетнасці я з табой не пагаджуся, стрыжань у ім быў сталёвы, ужо калі ён што вырашыў — усё, пішы прапала, ні за што ад свайго не адступіцца. Праўда, людзі, якія ведалі да яго падыход, маглі паўплываць, толькі, як правіла, гэты ўплыў заўсёды пазніўся або яшчэ больш пагаршаў справу. Я таксама ненавідзела ягоных дарадцаў, ён жа, як чалавек вайсковы, прывык слухаць многіх і ўжо потым прымаць рашэнні, дарэчы, спачатку так яно і было, гэта ўжо пазней паехала — слухаць — слухаў, а вырашальнае слова заставалася за апошнім.

— Апошняй. І што ён у ёй знайшоў, не дапетру. Добра б дзяўчынка маладая, каб кроў разганяць, а то ж ягоная аднагодка.

— І да яе апошніх дарадцаў хапала. Падкасіла яго здрада блізкіх. Як дастатак і незлічоныя грошыкі з'явіліся, так усё ў сям'і і пайшло наперакасяк. У жонкі свае забавы і каманда. Дзеткі — сама бачыла. Адзін прама з трупярні тэлефанаваў мясцовай шлюшцы і дамаўляўся з ёй аб сустрэчы. Хацелася б мне з ягонай Душой пагаварыць па-роднаму. Калі па-чэснаму, у апошнія гады іх у яго наогул не было, блізкіх. Вунь ахоўнікі наёмныя і былі самымі блізкімі: і есці гатавалі, і рэчы мылі, і вольны час прыўкрашвалі. Усё ж хочацца сустрэцца з душамі ягоных сваякоў…

— Ты гэтыя чалавечыя замашкі кідай, ты ж вечная і нятленная субстанцыя, а не бесцялесны кавалак генерала. Прыйдзе час, сустрэнешся, мая сястрычка іх табе і прывядзе. Ты паглядзі лепш, колькі крывадушнікаў у зале! Вунь сівы спадар з качыным носам, дык ён наогул пад маскай скрухі смяецца ад задавальнення…

— Ведаеш, табе не дагодзіш, — абурылася Душа, — то ты скардзішся, што з тваім прыходам усе захлёбваюцца слязьмі і ўпадаюць у маркоту, то прыдзіраешся да ўяўнай усмешкі чалавека, які сябе па-іншаму паводзіць у гэтай сітуацыі не можа. Гэта ж Вакулаў. У нашым выпадку цябе чакалі, так што будзь задаволеная: прыход твой у многіх дамах святочным сталом адзначылі. Відаць, чужымі мы тут былі, чужымі, пэўна, і застанемся.

— Слухай, а дзе няўцешныя сваякі: удава, дзеці?

— Тайнік у рэзідэнцыі шукаюць. Яны развіталіся ў трупярні і далей будуць удзельнічаць толькі ў афіцыйных цырымоніях у дзень пахавання.

— Ну і знайшлі?

— Каго?

— Тайнік…

— Ды няма яго, загашнік быў, дык яго яшчэ ўчора блізкі круг абчысціў.

— Якія ж у вас на зямлі паганыя норавы.

— Ужо якія ёсць! Што адпускаюць зверху, тым і жывём. Усё роўна крыўдна! Крыўдна за яго, і ўсё тут! Ды не шыкай ты на мяне, я ўсё разумею… Сапраўды, ачалавечылася я, дзіўна б чакаць іншага. Бо ён — гэта я, а тое, што бачаць яны, — Душа паказала на павольную чараду людзей, — усяго толькі нашпігаваны антысептыкамі кокан. Ведаеш, які ён быў класны мужык! Не разгадалі яго час і тыя, чыё сёння права кіраваць гэтай зямлёй. Рыку яго напускнога баяліся, ды ён жа рахманым быў. Жонку кахаў, заўсёды і баб сабе пад яе падбіраў, і ўзростам, і фігурай…



— Наконт баб не ведаю, не мая гэта справа, за іх ты там адкажаш, — белая выразна тыцнула пальцам уверх, — а вось аб пакорнасці ты б, сяброўка, памаўчала. З аднаго толькі Прыдугскага лесу мае сёстры тысячы забітых атрымалі. Мы як у вечны дом паляцім, ты з імі з усімі сустрэнешся, ды і не толькі з імі, вы ж са сваім героем і апроч іх многіх з таго свету ў вечнасць загналі, мае часам толькі паспявалі вяртацца.

— Не мне судзіць, аднак я лічу, што, ахвяраваўшы малым, ён, як ты гаворыш, сотні тысяч тваіх сястрыцаў без працы пакінуў, а можа, нешта і значна большае здзейсніў, час пакажа…

— Судзіць сапраўды не нам, — з уздыхам пагадзілася Смерць, — ты ўжо патрывай, хутка будзе каму рассудзіць.

Дыялог у падобным рэчышчы працягваўся яшчэ доўга, але тычыўся ён такіх патаемных бакоў жыцця блізкага мне чалавека, што аддаваць яго шырокай агалосцы было б з майго боку, па меншай меры, не па-сяброўску.

Агоўтаўшыся ад гэтага паўсну-паўгалюцынацыі, я адкрыў вочы і ледзь стрымаўся, каб не зараўці ад жаху. Справа над маім ложкам схілілася доўгая фігура, захутаная ў белую кісяю. Непаслухмянай рукой я намацаў за сабою выключальнік. Святло з начніка пырснула бледным сполахам электразваркі. У пакоі нікога не было, толькі ў свежым горным ветрыку бестурботна пялёскалася доўгая цюлевая фіранка. На непаслухмяных нагах я выйшаў на балкон. Вясна ў гэтым краі толькі пачыналася, было сіверна, высокае цёмнае неба яшчэ не наблізілася да зямлі, і дробныя зоркі дрыжалі, нібы кроплі расы на вялізнай нябачнай павуціне. Магчыма, дзесьці там далёка ў недасяжнай бездані блукала душа генерала. Такая ж складаная і супярэчлівая, як ён. У мяне раптам мільгатнула крамольная думка: а што калі і там камусьці не спадабаецца яго рыклівы голас і прыродна-ласкавы, як ён любіў гаварыць аб сабе, твар, і яго спіхнуць куды-небудзь далей, з вачэй далоў?..

## АЎСЯНАЯ КАША

Панядзелак, палова на сёмую раніцы, агульны для ўскрайкавай Масквы час абуджэння. У мільёнах кватэр амаль адначасова пачынаюць на ўсе лады тарабаніць, звінець і спяваць будзільнікі, спрацоўваюць таймеры, уключаецца святло і музыка. Хтосьці бяжыць у ванную, хтосьці робіць зарадку, хтосьці, зіркаючы на гадзіннік, паспешліва займаецца любоўю, — словам, дзень пачынаецца.

Іван Макаравіч Хрусталапаў прачнуўся і, прытрымліваючыся гадамі выпрацаванай звычкі, рэзка ўскочыў з ложка, расхіліў шторы і… напаўголаса чартыхнуўся: яму не трэба было ехаць на працу.

У пятніцу былога службоўцу фармальна-ўрачыста праводзілі на заслужаную пенсію. Глыбокая прыкрасць, якую прыносіць з сабою шэсцьдзясят першы год жыцця, нарэшце завалодала гэтым яшчэ дужым, сухарлявым, невысокага росту чалавекам.

Пенсія. У нашай краіне ў гэтым слове гучыць нешта зневажальнае, бальнічнае і яшчэ адчужанае, але новаспечаны пенсіянер пакуль аб гэтым не здагадваўся.

Хвілін пяць-сем млява памахаўшы рукамі для самазаспакаення, ён паплёўся ў душ. Яшчэ ў гадоў дваццаць Іван Макаравіч дзесьці вычытаў, што дэградацыя асобы пачынаецца з паху ўласнага цела, які чалавек перастае адчуваць. З тых часоў Іван да болю ў ноздрах стаў прынюхвацца да сябе, чым часам выклікаў здзіўленне і жартаўлівыя рэплікі вакольных людзей. А затым ён перастаў звяртаць на гэта ўвагу, затое беспамылкова навучыўся адрозніваць пахі і сапраўды адгадваў, хто толькі што ехаў у ліфце, прайшоў перад ім па калідоры або заходзіў да шэфа.

Па раніцах службовец, як правіла, еў аўсяную кашу. І сёння, не здраджваючы сваёй звычцы, прыгатаваў няхітрае варыва, стаў жаваць яго без адмысловага апетыту. Здрадлівае, пакуль яшчэ слаба спазнанае пачуццё ўласнай непатрэбнасці павольна запаўзло ў сэрца. Ганебны халадок слабасці прабег між лапаткамі, асой забзыкала прыкрасць. На жаль, яму няма куды спяшацца, ніякай працы ў яго больш няма, і хтосьці чужы ўжо складае ў яго працоўны стол свае паперы і рэчы. Вядома, хацелася б цяпер даесці кашу і як звычайна сесці ў аўтобус, даехаць да метро, зрабіць адну перасадку і выйсці на Лубянцы. Ён заўсёды даязджаў да плошчы Дзяржынскага, якая для яго так і не памяняла сваёй назвы, ды ішоў да Старой плошчы пешкі. Яму падабаўся гэты гадамі выверany маршрут. Прыгожыя, асабліва ў апошнія гады, дамы, самавітыя пад'езды, модна апранутыя выпешчаныя жанчыны, ветлівыя ахоўнікі, натуральны жэст пры прад'яўленні расчыненага пасведчання — усё гэта з'ўлялася знешняй, вулічнай часткай нейкага ледзь ці не сакральнага рытуалу. Затым атулялі ўнутраныя інтэр'еры, шырокія холы, бясшумныя ліфты, лабірынты доўгіх, звілістых калідораў і пераходаў, высланых бясконцымі тоўстымі дывановымі дарожкамі. Прыстойныя ківанні калегаў. Паспешлівыя поціскі рук начальства. Гультаяваты, як бы між іншым, абмен навінамі і плёткамі. Усё гэта яму падабалася, усё гэта ён любіў, і ўсяму гэтаму ён быў адданы доўгіх дваццаць гадоў.

З усёй чынавенскай Масквы менавіта Старая плошча лічылася верхам службовага пасоўвання. Так было пры Сталіне, Брэжневе, Ельцыне, так засталося і цяпер. Любы, нават самы малаважны супрацоўнік са Старой плошчы заўсёды выклікаў трапятанне і павагу ў службовага люду з іншых ведамстваў, уключна з суседняй Лубянкай. Колькі ўсяго было пражыта за гэтыя дваццаць гадоў! Колькі інфармацыі, чутак, паклёпаў і даносаў прайшло праз яго. Колькі інтрыг, трагедый, узлётаў і падзенняў ён бачыў, седзячы на сваім непрыкметным крэсле. Іван Макаравіч курыраваў групу рэгіёнаў, збіраў і аналізаваў інфармацыю, рыхтаваў першасныя дакументы; у залежнасці ад таго, супадалі яны з меркаваннем начальства або не, тыя пазней станавіліся асновай службовых запісак, дырэктыўных лістоў, а часам і больш важных дакументаў. Тэксты Івана Макаравіча амаль заўсёды супадалі з меркаваннем часта зменных начальнікаў, але ён, як надзейная і дакладная шрубка бюракратычнай машыны, сапраўды станавіўся ў прызначанае для яго гняздо. Яшчэ не нарадзілася і не паспела тая ўлада, якой не быў бы патрэбен разумны і рахманы службовец. Ён гэта разумеў і ўпотай ганарыўся сваім дачыненнем да гэтай векавой касты, якой належала ды і належыць уся паўната ўлады ў краіне. Гэта выскачкі, у сілу тых або іншых акалічнасцяў узляцеўшы на высокія пасты, наіўна думаюць, што яны — улада. Дзе яны ўсе цяпер? Толькі апарат, таемны, нябачны чынавенскі ордэн, валодае ўладай і атрымлівае яе ў спадчыну. Ды што там атрымлівае ў спадчыну! Ён яе ніколі і не выпускаў з рук. Праўда, змяняюцца часы, змяняецца форма і назва, а сутнасць, сутнасць, яна заўсёды застаецца: служыць і гэтым карміцца. Вось сёння ў няласку патрапіла слова «апарат», ну памянялі яго на слова «каманда». Што, палягчэла? Несур'ёзна ўсё гэта. Найбольш кемлівая моладзь, якая апанавала ў апошні час Старую плошчу, безумоўна, успрыняла не толькі слова, але і саму сутнасць, дух апарата, правілы яго жыцця, гульні, усе яго плюсы і мінусы, і яна з задавальненнем вучылася ўсім тонкасцям у такіх зуброў, як Іван Макаравіч.

Часцяком у канцы працоўнага тыдня, адвячоркам у пятніцу яго выклікаў да сябе намеснік начальніка ўпраўлення, зусім яшчэ малады чалавек, у недалёкім мінулым сярэдняй рукі супрацоўнік

аднаго з камерцыйных банкаў, а да гэтага, па старых мерках, звычайны спекулянт. У кабінеце збіралася тры-чатыры чалавекі і, пасля некалькіх кілішкаў дарагога каньяка за агульнае здароўе, слова давалі Івану Макаравічу. Ён пачынаў успамінаць розныя гісторыі, павучальныя здарэнні з жыцця ўпраўлення. Больш за ўсё маладняку спадабалася яго прымаўка, што службоўцы ўсяго толькі пыл на ботах улады, але каб стрэсці гэты пыл, уладзе трэба нагнуцца. Моладзь весялілася і ўжо ўяўляла сябе гэтымі самымі ботамі, ім было да лямпачкі, у пыле яны або не, галоўнае, каб не цiснулі.

Набеглыя ўспаміны ператварыліся ў амаль адчувальныя вывы. Ён ішоў, парыў па знаёмых калідорах, адчуваў іх пахі, жыў тым, ужо пражытым жыццём.

Адклаўшы лыжку, Хрусталапаў устаў з-за стала, выкінуў астаткі кашы ва ўнітаз, вымыў посуд і зірнуў на гадзіннік. Да адпраўлення дачнай электрычкі заставалася амаль пяцьдзясят хвілін. Ён паспяваў. На душы стала лягчэй. Успомніліся доўгія начныя спрэчкі з жонкай, якая ніколі не любіла ягоную працу, а праслаўуты апарат наогул лічыла зборышчам кар'ерыстаў і нягоднікаў.

Замыкаючы дзверы, ён машынальна пляснуў сябе па нагруднай кішэні, — звыклай «корачкі» — пасведчання — там не было. Перад ім стаяла нялёгкая задача: навучыцца жыць без яе.

## СТАРЫ І ГОРА

Стары напаўляжаў у шыкоўным скураным фатэлі. Вялікая галава з сівымі ўзбітымі валасамі, што хавалі астаткі фіксуючага лаку, бязвольна схілілася на грудзі. Мажное, некалі трэніраванае цела, сяк-так убранае ў тоўстую тканіну белага гасцінічнага халата, было падобнае на кінутага дзецьмі расплаўленага на вясновым сонцы снегавіка-нябогу. Скрозь расхінутыя створкі прыкрай казённай бялізны матава свяцілася яшчэ далёка не азызлая скура. Шматлікія звілістыя шнары ад аперацый, як выпаўзлыя пагрэцца на сонейка змейкі, лілова паблісквалі ў нязыркім святле начніка. На ўсім гэтым вялікім целе не было ні адной валасінкі. І калі б не бровы і некалі раскошная шавялюра, ад якой наперабой уздыхала нямала партыйных і камсамольскіх актывістак, дык Старога можна было выстаўляць у кунсткамеры як нейкі феномен. Ён заўсёды памятаў, колькі непрыемнасцяў і



комплексаў было народжана гэтым феноменам, і толькі стаўшы тым, кім ён сёння ёсць, Стары з радасцю пазнаў, а галоўнае, у гэта безумоўна паверыў, што яго безвалосасць — прыкмета богаабранасці, нейкая адмысловая сакральная метка. Менавіта так гэта яму растлумачылі прыдворныя ведзьмакі і чараўнікі, якія ніколі не пераводзіліся за сценамі старажытнай, з чырвонай цэглы цвержы.

Стары гучна храпануў і ачуўся ад свайго не то сну, не то забыцця. Галава марудна з неймавернай цяжкасцю пачала падымацца, выяўляючы твар з масіўным носам і шчыльна сціснутымі капрызнымі вуснамі, цяжкім падбародкам і заплытымі вачыма, якія дзівілі сваёй пустэчай і поўнай адарванасцю. Старому было холадна. Ён хацеў толькі аднаго: хутчэй выпіць гарэлкі і зноў зваліцца ў свой дрымотны нябыт, дзе, адгароджаны ад усіх надзейнай непранікальнай смугой марыва, зноў заставаўся б адзін на адзін са сваімі ўспамінамі. Хоць дзіўныя малюнкі, якія ўзнікаюць у разбураным алкаголем мозгу, цяжка было назваць успамінамі. Галава Старога з сівымі кудламі, адкідваючы на сцяну страшны рагаты цень, кіўнулася з боку ў бок. Застыгла і раптам рэзка баднула паветра наперадзе сябе.

— Гэй, — прахрыпеў знаёмы нам голас. — Куды яны мяне зноў дзелі?

Твар Старога перакасіла хваравітая грымаса, падавалася, што не толькі словы, але і думкі даваліся гэтаму чалавеку з вялікім намаганнем і болем.

— Гэй, — ужо гучней пазваў Стары. Ён доўга тупа слухаў цішыню. І раптам яго твар стаў налівацца крывёй, у цьмяных вачах успыхнулі мсцівая злосць і нянавісць. — Вы што там усе, аглухлі, ці што?! — зароў ён.

Але крык быў падобны хутчэй на скрыгат старога іржавага металу, ды і крыкам ён падаваўся хіба што толькі самому Старому. Аднак, нягледзячы на гэта, дзверы бясшумна расчыніліся і ў пакой увайшлі амаль аднachасова два чалавекі ў аднолькавых гарнітурах, аднаго росту, з аднолькава непрыкметнымі тварамі. У аднаго з іх у руках была матавая металічная скрыня са знакам чырвонага крыжа.

— Слухаем вас, Ягор Кузьміч, — стоеным голасам вымавіў медык і паставіў сваю скрыню на фатэль.

— Ідзіце ад мяне, — нядобра прахрыпеў Стары. — Хто вы такія? Чаму ўвесь час прысылаюць новых людзей? Ідзіце…

— Ёсць, — выразна, з тым жа падлізніцтвам адказаў доктар, паднімаючы сваю скрыню, але, павярнуўшыся да выхаду, ён

натыркнуўся на свайго спадарожніка, твар якога выяўляў не-адменны загад працягнуць зносіны з ачунялым чалавекам, які толькі што зваў іх.

Медык павярнуўся тварам да Старога, зрабіў пару крокаў наперад і паставіў скрыню на пісьмовы стол. Па-гаспадарску ўключыў вялікую настольную лямпу пад зялёным абажурам. Такія лямпы, пачынаючы з дваццатых гадоў, сталі не толькі абавязковай часткай працоўных кабінетаў вышэйшых кіраўнікоў краіны, але і своеасаблівым знакам, які сведчыў аб прыналежнасці іх гаспадароў да верхняга эшалона савецкіх упраўленцаў, так званай крамлёўскай наменклатуры. Даўно ўжо распаўся Савецкі Саюз. Грозная некалі кампартыя неяк неўзаметку рассмакталася па камерцыйных структурах, замежных фірмах і банках, пакінуўшы пасля сябе груды гістарычнага смецця, зырка-безвыходную галечу і натоўпы адарванага ад дармовага карыта люмпену. Многае змянілася, нават сцягі і гербы, а вось незабыўная лямпа Ільіча ўсё гэтак жа працягвае палаць сваім зялёным д'ябальскім святлом над абноўленым Крамлём, над Старой плошчай, над ладна пакрамсанай краінай у кабінетах і рэзідэнцыях вялікіх начальнікаў новага часу.

Стары з дзіцячай цікаўнасцю глядзеў на чалавека ля стала і, падавалася, чагосьці чакаў.

— Ягор Кузьміч, нам пара памераць ціск, прыняць душ і класціся адпачываць, — працягваючы важдацца ля стала, вымавіў доктар у цывільным.

У апошні час Стары больш за ўсё любіў прымаць душ. Так жа калісьці раней ён да самазабыцця любіў лазню.

— Пойдзем у лазню, — уладна, як яму падавалася, вымавіў ён.

— Добра, — адказаў, паварочваючыся, лекар. У яго руках паблісaskваў невялікі прыборчык, падобны на стары наручны гадзіннік з вялікім цыферблатам.

Стары інстынктыўна прыпадняў левую руку і працягнуў яе наперад, запясце прыемна абхапіў манжэт-ліпучка, у які нябачная маленькая турбіна пачала нагнятаць паветра. На электронным дысплеі высвеціліся лічбы: 139 на 87, пульс 78.

— Ну вось, усё ў вас, Ягор Кузьміч, як у касманаўта.

— Вы мне ўсё паўтараеце: як у касманаўта, як у касманаўта, — з штучнай раздражнёнасцю перакрывіў Стары. — Ты мне лепш, панімаеш, гарэлкі прынясі, калі я касманаўт.

— Ну што вы, Ягор Кузьміч, вам жа катэгарычна забаранілі…

— Што? Хто гэта мне можа забараніць?



— Выбачайце, выбачайце, я проста абмовіўся, вам не рэкамендавана.

— То-та ж. Глядзі ў мяне. Забараняльнікі сраныя. Я вось зараз вазьму вас усіх ды як забараню… Нясіце, сволачы, гарэлку!

— Зараз, зараз, — спрытна прыбіраючы ў кантэйнер прыборы і раскладзеныя на ўсякі выпадак аднаразовыя шпрыцы, забуркаваў медык. І два аднолькавыя чалавекі амаль адначасова выслізнулі з пакоя.

«Як чэрці з табакеркі», — адзначыў пра сябе Стары. Яму вельмі хацелася выпіць. Гэты запал апошнія пяць-шэсць гадоў валодаў ім стала і непадзельна. Астаткамі свайго розуму ён усведамляў, што рабіць гэтага нельга, але супрацівіцца сваім жаданням ён не мог яшчэ з дзіцячых часоў. У юнацтве гэта, праўда, было не гэтак прыкметна, але па меры пасоўвання па наменклатурнай лесвіцы тармазы ўсё часцей і часцей давалі збой. Блізкае асяроддзе і хатнія ведалі, што пярэчыць яму або адмаўляць у чымсьці не проста нельга, а часам і небяспечна для ўласнага здароўя. Ён мог успыліць з любой прычыны, стукнуць падначаленага, перакуліць святочны стол, зламаць більярдны кій і яго абломкам распароць суконнае пакрыццё стала. Прычынамі таго маглі стаць звычайныя дробязі: нявінны жарт, пярэчанне, прайграная партыя на більярдзе. Ён не мог цярпець пярэчанні, але яшчэ больш не любіў прайграваць. Гэтым часта карысталіся яго набліжаныя, яны з ювелірнай дакладнасцю навучыліся падносіць яго промахі і паразы як чарговыя перамогі і дасягненні. Чым жахлівейшым быў правал, тым гучней і суладней гучаў хор, што ўзносіў яму хвалу як пераможцу. Спачатку яму гэта не падабалася, і ён нават спрабаваў з гэтым змагацца, але потым абвык, а з часам і зусім паверыў у сваю бязгрэшнасць, і нават цяпер, знаходзячыся ў памежным стане, ён працягваў у гэта свята верыць.

«Табе нельга, нельга табе піць, — раптам узвіўся ў ім звяглівы, вечна пратэстуючы голас, — ты валявы, моцны чалавек, на тваіх плячах вар'яцкая адказнасць! Ты не можаш, не маеш права на хвілінную слабасць! Перастань нават аб гэтым думаць!» — голас замоўк, каб перавесці дух.

Стары заціх, чакаючы, калі дзесьці там, у бяздонных глыбінях яго розуму, замармыча ўсё апраўдальны і вечна нецвярозы адвакат. Час, як расплаўленыя сонцам белыя соплі нечай чужой жуйкі, што праціўна ліпла да пальцаў, выклікаў дрыготку агіды.

«Не чакай свайго халуя, ён таксама — роўня табе — амаль спіўся, — перадыхнуўшы, працягнуў Вісклівы, — у цябе хут-

ка сур'ёзная сустрэча, сама гісторыя глядзіць на цябе сваімі зялёнымі вачыма…»

«Ды не слухай ты яго, — раптам сіпла прагудзела ля самага вуха, — адкуль ён ведае, што ў гісторыі зялёныя вочы? Ён што — яе трахаў? Трахаў яе як раз ты, і нядрэнна, дарэчы, гэта рабіў, толькі на аборты паспявала бегаць. Плюнь ты на яго ды выпі! Буксы гараць, мазгі наперакасяк! Сэрца і без таго хворае. Што ты яго слухаеш? Ты што — алкаголік? Шэсцьдзясят з лішкам гадоў не алкаголік, і вось на табе, раптоўна — алкаш! Ды пашлі ты іх, калі б мы з табой усіх гэтых маралістаў слухалі, так бы ў камсамольскіх серунах і засталіся б. Чуеш, яны мяне тваім горам завуць. Вось крэтыны! Ды без гэтага гора краіны б нашай вялікай не было, характару знакамітага рускага не было б! Ды цябе б самога не было! Скажы, хто на цвярозую галаву свой дом у распыл пусціць? Маўчыш? То-та ж, патрабуй гарэлкі! Не маюць яны права табе не падпарадкоўвацца…»

— Ягор Кузьміч! Пара ў душ, — вывеў яго са здранцвення голас жонкі. Моўчкі, апіраючыся на яе плячо, ён падняўся і, падцягваючы нагу, пакорліва паплёўся ў душавы пакой, размешчаны паміж ягоным працоўным кабінетам і спальняй. Спрачальнікі ўнутры Старога неяк адразу абвялі, яны абодва недалюблівалі і пабойваліся гэтую жанчыну.

Вядома, раскошнае, вялікіх памераў памяшканне, аздобленае сібірскім мармурам і каштоўнымі пародамі дрэва, нашпігаванае ўсякімі памывачнымі хітрапрыстасаваннямі, душавой назваць можна было вельмі ўмоўна. На парозе гэтага хорама іх сустрэў аголены да пояса вялікіх памераў татарын.

— Добры вечар, Ягор Кузьміч! — Стары, не звяртаючы на яго ўвагі, ступіў за парог, дазволіў зняць з сябе халат і падставіў сваё безвалосае цела пад пругкія струмені цёплай вады, якая пахла ігліцай.

Купанне заняло не больш як сем хвілін, хоць Старому гэтыя хвіліны здаліся тыднямі асалоды. Пад мірны шэпт вады ў ім зноў было ажылі галасы, але ён іх бязлітасна прыцiснуў у самім зародку. «Заткніцеся, вырадкі, ух як вы мне абодва надакучылі! Гора ён мае! Я сам сваё гора! І няма чаго ў мяне маё забіраць. Вядома, я ніякі не алкаголік! «Вочы гісторыі»! Я сам, калі хочаце, ужо гісторыя, і на хрэн мне ведаць, якога ў яе колеру вочы. Можа, пасля Пятра Вялікага ды Леніна менавіта Ягор Кузьміч ёсць самая выбітная асоба. Вунь колькі навярнуў, амаль увесь свет перавярнуўся, а тут алкаголік, алкаголік…»



«Што ж гэта ты Віскліваму падпяваць пачаў, а? — вырваўся аднекуль сіплы голас. — Вядома, усю гэтую бязглуздзіцу ты стварыў, а хто спрачаецца? Толькі вось Пётр, таксама, дарэчы, запойны мужык быў, усё пад сябе гроб, ваяваў, перамагаў, дзяржаву пашыраў. Не, не Пётр ты, нават не Сталін, так, юны ленінец. Той таксама за магчымасць паўладарыць чорту душу прадаў, і ты недалёка адышоў. Але ты аб гэтым не думай, ты гарэлкі патрабуй, інакш зноў уначы кашмары душыць будуць. Ты што, гэтага хочаш? І не дуры, не затыкай мне глотку. Са звяглівым партыйцам застанешся, наогул глузды страціш».

Ачуўся Стары ўжо на парозе з душу, пахнуў хваёвым борам, быў у такім жа беласнежным да пятаў халаце. Патухлыя вочы адлюстроўвалі навакольныя прадметы, і толькі зрэдку міргалі павекі — выяўлялі прыкметы жыцця на закамянелым твары.

— Ну што, Ягорушка, хадзем спаць, — паспрабавала вярнуць яго да рэчаіснасці Таіса. Апошні час яна вельмі баялася гэтага невідушчага позірку. Сэрца сціскалася ад знібкага болю, ёй было па-вар'яцку шкада каханага чалавека, які ператвараецца ў развалiну. Яшчэ тры гады назад яна ледзь не на каленях умольвала мужа кінуць усё і сысці на пенсію, і амаль гэтага дамаглася, але маладая частка сям'і ў піку ёй адгаварыла бацьку.

— Што?.. Спаць?.. Ну, пайшлі, пайшлі… — з уздыхам прамармытаў Стары, як і раней, абапіраючыся на плячо жонкі, пакорліва пакульгаў у спальню. — Тая, — імкнучыся надаць голасу выраз пяшчоты, паклікаў ён, ледзь прысеўшы на край шырачэзнага ложка, што стаяў ля вялізнага акна, за якім ужо згушчаліся восеньскія прыцемкі.

— Чаго табе? — у тон мужу адгукнулася жанчына. Хоць выдатна ведала, чаго ён яе зараз папросіць.

— Прынясі мне шкляначку халодненькай гарэлачкі, пасля лазенкі ж…

Жонка ўся сціснулася, дакараючы сябе за тое, што не сышла адразу, як толькі ён падаўся ў душавую. Пачуццё жалю і сораму раздзіралі ейнае сэрца. Трэба было нешта прадпрымаць, адгаворваць яго было без толку, і яна гэта ведала лепш за іншых.

— Добра, добра, Ягорушка, я зараз вярнуся.

З гэтымі словамі яна выйшла ў калідор, шчыльна прычыніла за сабою дзверы і не спяшаючыся пакрочыла да лесвіцы ў ніжнюю частку гэтага зручнага дома. Не дайшоўшы пару метраў да балкона, яна пачула прыглушаныя галасы і спынілася. Застаючыся прыхаванай змрокам дзвярнога праёму, Таіса Махмудаўна

асцярожна зірнула ўніз. За вялікім масіўным сталом сядзелі двое і напаўголаса размаўлялі. Яна пазнала голас дачкі.

— Будзьце спакойныя, тата ўжо ў добрай форме і праз пару дзён зможа паўтары-дзве гадзіны працаваць.

— Умольваю вас, Галіма Ягораўна, вы ж разумніца, толькі на вас уся надзея. Тут зрываў быць не можа, інакш — міжнародны скандал, а ён цяпер нам, напярэдадні выбараў у народны хурал, ой, як не патрэбен.

— Ды супакойцеся вы, Юрый Карлавіч! У чацвер мы вяртаемся ў горад, а ў пятніцу, як і было заяўлена, адбудзецца татава сустрэча з нашым высокім госцем. Галоўнае, каб яму тут або, што яшчэ горш, у самалёце не налілі чарачку гарэліцы.

— Што вы! Што вы! Цур мяне, цур мяне… Гэта ж будзе забойствам усяго існага… Толькі ўсё пачало неяк выбудоўвацца…

Таіса, так і не выдаўшы сваёй прысутнасці, моўчкі павярнулася і пайшла назад. Паблізу спальні яна асцярожна націснула схаваную ў драўлянай ашалёўцы кнопку. Хітрыя замкі надзейна закрылі абедзве дзверыны спальні. Адчыніць іх знутры было немагчыма. Горкія слёзы бяссілля каціліся па ейных шчоках.

## ПЛАЧ АДЗІНОКІХ

Самотным нельга стаць, самотным трэба нарадзіцца і з гэтай радзімай плямай пражыць усё сваё жыццё, так і не зразумеўшы, навошта столькі розных напаўзнаёмых людзей блукала доўгія гады побач з табой. Майму пакаленню амаль з пялёнак даводзілі, што кожны чалавек — творца свайго жыцця і толькі ён, вянец прыроды, можа ўладарыць над сваім лёсам, а заадно і над усёй прыродай, прыстасоўваючы яе пад свае не заўсёды разумныя мары і патрэбы. Дзіўна, але гэтаму верылі. Праўда, вера выходзіла нейкай надрыўнай, з нудой і праклёнамі. Наогул у нас з верай гістарычна не ладзілася, хоць усё ў ласкавай бацькаўшчыне ліпела на гэтым загадкавым, абсалютным пачуцці, якое нікому не пакідала магчымасці сумненняў і ваганняў, бо не было ў краіне больш страшнага злачынцы, чым сумніўнік…

Колы раздалбанай, шмат што перажыўшай фурманкі гучна спатыкаліся аб сцёртыя пешаходамі і транспартам шэрыя з рудымі іскрынкамі камяні гарадской брукаванкі. Поўня, вываліўшы сваё невядома з кім нагулянае пуза, бессаромна і нахабна адыходзіла ў запавешаныя цемрай вокны аднолькавых



у сваёй абшарпанасці і лядашчасці дамоў, між якімі няспешна плялася дзіўная працэсія. Дахадзяга з правіслай ад старасці спінай у бледным святле «цыганскага сонца» была падобная да абцягнутага ломкай скурай шкілета. Падавалася, падзьмі начны ветрык — і гэтая абсурдная істота рассыплецца ў прысак. Але сціснутая збруяй і аглоблямі кабылка пакорліва і даволі цвёрда плялася за доўгім, гарбаватым чалавекам, узрост якога вызначыць у зыбкім святле безразважнага свяціла было вельмі цяжка. Чалавек адной рукой трымаў жаласліва скрыплівую аброць, што шлёнгала на ссохлай конскай пысе, другой — закураную самакрутку, па-разбойніцку схаваную ў кулак. Чырванаваты агеньчык, кінуўшы няроўныя бліскаўкі на даўно няголеныя шчокі і злінялую тканіну замытай кашулі, на нейкі час згасаў, каб, ледзь счакаўшы, успыхнуць ізноў. Калёсы з невысокімі дашчанымі бартамі былі напоўненыя нейкімі бясформеннымі цюкамі ды вузламі, якія ад мудрагелістых ценяў канчаткова страцілі форму. Крыху ззаду, хутка перабіраючы кароткімі крывымі лапамі, бег дзіўны ў сваёй беспароднасці сабака. Мяркуючы па ўсім, у беднай істоце было намяшана столькі крывей, сабачых нацый і расаў, што прабрацца да ягонай першаасновы ўжо не ўяўлялася магчымым, ды і ці трэба было гэтым займацца на сабачым узроўні, калі амаль усё чалавецтва даўно пераплавілася ў нейкі мудрагелісты кангламерат чужых адзін аднаму генаў і крыві, гатовых да самых непрадказальных мутацый. Побач з сабакам плялася згорбленая старая ў нейкіх мудрагелістых адзежынах. Тоўстая суконная хустка ў шэра-брудную клетку спаўзла на патыліцу, агаліўшы рэдкія бясколерныя валасы, што збіліся ў вадкія пасмы, скрозь якія агідна блішчэла шэрая старэчая скура. Твар старой быў узняты да поўні, засмаглыя і пахаваныя ў сотнях маршчын губы бязгучна варушыліся, нібы яна нешта гаварыла старажытнаму свяцілу. Дзівіла сваімі памерамі кульбака, на якую абапіралася начная падарожніца. Гэта была нават не кульбака, а нейкі загнуты круком кій, — з падобнымі посахамі на старажытных карцінах і гравюрах паказвалі старажытных патрыярхаў і паганскіх жрацоў.

Поўня на некалькі імгненняў па нейкай толькі ёй вядомай патрэбе нырнула ў невялікую бялявую хмару. Падслепаватая шэрая смуга размыла і амаль паглынула дамы, дрэвы і дзіўную кампанію, якая кудысьці цягнулася па гарбатай ад старасці брукаванцы адной з ускрайкавых вуліц. Не, усё гэта не знікла, проста на нейкі час страціла рэзкасць, правалілася за межы рэальнасці. Калі вялізнае пуза начной блудніцы выкацілася

з-за нябеснай фіранкі, вуліца была пустая, і, падавалася, толькі глухое рэха ад стуку непадкаваных капытоў аб камень ды лёгкі грукат кія яшчэ пэўны час віселі ў нерухомым срэбным паветры.

Не выявіўшы звыклай карціны на ранейшым месцы, поўня засумавала, але наўздагон бегчы заленавалася. Яе ўвагу прыцягнула расхінутае акно на другім паверсе прысадзістага, падобнага на казарму, дома. У ім, абапершыся рукамі на шырокае падаконне, стаяў аголены мужчына і абыякава глядзеў кудысьці далёка, у тую бязмежную далеч, што часам адкрываецца людзям у такія вось месячныя ночы. Голага чалавека звалі Віталь, і ён паняцця не меў аб бязмежных далячынях, якія мог сёння сузіраць. Віталь быў матэрыялістам і ва ўсякую, сёння модную, ірэальную лухту проста не верыў. Сюды, на гэтую старую цяністую вуліцу, ён прыходзіў рэдка і яшчэ радзей заставаўся тут начаваць, але застраглае дзесьці глыбока ўсярэдзіне яшчэ інстытуцкае каханне ўсё цягнула яго, як магніт, у прапахлыя стагоддзямі і чужымі жыццямі пакоі з ненатуральна высокімі столямі і амаль эпохі прыгону сценамі. Ён даўно адзначыў дзівацтва сваіх візітаў да Рыткі, амаль усе яны прыпадалі на поўню. Спачатку ён гэта звязваў з зарплатай, якую выдавалі ў канцы месяца. Калі ж грошы пачалі плаціць нерэгулярна, а потым і зусім на паўгода забылі аб гэтай некалі абавязковай працэдуры, ён спісаў месячныя цыклы на выпадковыя супадзенні. Грошы да гэтага часу ўжо перасталі адыгрываць для яго нейкую значную ролю, яны былі ў яго заўсёды. У адрозненне ад многіх сваіх таварышаў па новаму буржуйскаму жыццю, Віктар не краў, не хітрыў і не скупляў у сваю бытнасць галоўным інжынерам за шклянку гарэлкі ў былога гегемона акцыі, ён учапіўся ў сваю родную шахту, не даў яе разваліць, разбазарыць. Больш за ўсё клопатаў і непрыемнасцяў у гэтай смяротнай сутычцы яму дасталося ад прадстаўнікоў яшчэ зусім нядаўна самага прагрэсіўнага класа, які з галодным азвярэннем ірвануў з бальшавіцкай дарэмшчыны ў дарэмшчыну капіталістычную.

На першым жа вольным сходзе, дзе ледзь не разарвалі былога дырэктара, чалавека добрага і адданага гарняцкай справе, Віталя аднадушна абралі генеральным. Сказаць па праўдзе, ён доўгі час не мог вызначыць, чым гэтая пасада для яго стала — выгодай ці прыкрай непрыемнасцю. Яшчэ да прыватызацыі, у эпоху працоўных камітэтаў і стачкамаў, яму хацелася кінуць усё, паслаць рабацяг на хрэн, адстаяць адзін цэх і пачаць сваю справу, але нешта ўтрымала яго ад гэтага, можа, прыродная злосць, а можа, дурацкая звычка ўсё даводзіць да канца; словам,



Віталь не зламаўся і вытрымаў. Далося гэта не проста. Ён у драбнюткіх падрабязнасцях памятаў пераходзячыя ў істэрыку аповеды жонкі аб ператрусах, якія наладжвалі падвыпітыя актывісты рабочага камітэта, калі яго не было ў горадзе. Яны ўвечар некалькі разоў рваліся ў яго старую кватэру і патрабавалі прад’явіць змесціва халадзільніка, маўляў, «а пакажы нам, чым начальства харчуецца, у той час, як просты рабацяга з пустым жыватом арэ?». Абшарпаны «Мінск», да засмучэння вартавых раўнапраўя, з зайздроснай сталасцю аказваўся амаль пустым і, акрамя хатніх саленняў, нічога больш каларыйнага не ўтрымліваў. Абследаваўшы на ўсякі выпадак шафы, рабкамаўцы сыходзілі, пакінуўшы раўці перапалоханую жанчыну і дзяцей. Усё гэта было даўно ў мінулым. Сёння ён, Віталь Пятровіч Захрэбаў, найбагацейшы чалавек у сваім рэгіёне і практычна не залежыць ні ад каго, уключаючы дзяржаву, лахманы якой бязвольна боўтаюцца на ўжо перарослай яе краіне, блытаючыся і сціскаючы далейшыя рухі.

Віталь глыбока ўздыхнуў і, яшчэ раз абыякава зірнуўшы на поўню, ступіў назад у пакой. На шырокім ложку, захутаўшыся па шыю ў лёгкую коўдру, сядзела, прыціснуўшыся да цёмнай драўлянай спінкі, прыгожая мініяцюрная жанчына. Вялікія, неяк па-дзіцячы зіхатлівыя вочы глядзелі разумна і строга. Для Рыты занятак каханнем быў самай адказнай справай у жыцці. Яна любіла гэты працэс, чакала, саромелася яго і да страты прытомнасці баялася. Пры гэтым страх быў разнапланавым, з поўным наборам разнастайных пагроз, ды да таго ж яшчэ пераплеценых адна з адной, а таму гэтае ўсёпаглынальнае пачуццё нагадвала айчынную стратэгію нацыянальнай бяспекі, калі і пагрозы ніякай няма, ды баяцца трэба — нутро патрабуе. Праўда, спытай яе хто-небудзь: «Чаго ты баішся?», наўрад ці ён атрымаў бы зразумелы адказ. Рыта баялася, і, мабыць, гэта было галоўным у звар’яцелым калаўроце адчуванняў і перажыванняў, якія прыдумаў Стваральнік дзеля кароткага імгнення непадзельнага яднання мужчыны і жанчыны. Калі ўсе страхі сябе вычэрпвалі, гудзенне крыві ў скронях аціхала, а ліхаманкавыя дрыжыкі ператвараліся ў саладжавую, шчымлівую стому, Рыта станавілася сама сабой. І ўвесь вялізны сусвет на нейкі час змяшчаўся ў яе маленькім сэрцы. Яна з любоўю глядзела на свайго каханага мужчыну, працягваючы паглынаць ягоныя пахі, ціхія гукі паспакайнелага дыхання, пукатыя лініі вялікага цела і яшчэ процьму разнастайных рознасцяў, якім і назвы няма, хоць і жывуць яны ў жанчынах сотні тысячаў гадоў, але ў кожнай свае.

Яе мужчына стаяў у плынях нябеснага святла, якое дробнай алмазнай іскрынкай злёгку паблісквала ў кроплях астылага поту на ягоным правым плячы; левае, далейшае ад яе, не блікавала, а падавалася высечаным з найчыстага белага мармуру. Ёй раптам захацелася вельмі моцна зажмурыцца ды, зламаўшы ўсе ўмоўнасці, што дзеляць свет на рэальнасць і вобраз, запіхнуць глыбока ўнутр сябе гэтае месячнае акно, на дрыготкім глянцы якога быў немаведама як захаваны малюнак самага роднага ёй чалавека. Запіхнуць, увабраць, схаваць і памерці, каб назаўжды адабраць яго ад людзей, ад працы, ад іншай жанчыны, ад сумнага у сваёй мітуслівасці жыцця.

— Рыцёнак, ты чаго плачаш?

— Гэта табе прымроілася. Пастой яшчэ трошкі ля акна, — яна вымольна выставіла перад сабою малюсенькую далоньку, — мне падаецца, што ў свеце зараз нешта адбываецца, а можа, гэта адбываецца ўва мне. Хутчэй за ўсё, гэта парушаная табой самота-адзінота: спрабуе вярнуцца на пакуль яшчэ занятае месца. Яна адвыкла ад таго, што са мной можа быць хтосьці, акрамя яе. Табе было добра?

— Мне ніколі з табой не бывае нядобра. Мы разам ужо цэлае жыццё, а ты ўсё задаеш гэтае дзіцячае пытанне…

— Сталець ужо позна, хутка састарэю. Якая незвычайная поўня! Ты паглядзі… А ведаеш, гэтая поўня — самотных. Гэта наша з табой поўня. Уяўляеш, колькі яна нас шукала… І вось сёння знайшла. Я, падаецца, усё зразумела. Нам трэба перастаць сустракацца…

— Я гэтага не змагу зрабіць, — асіплым ад нечаканасці голасам вымавіў Віталь, паспешліва прысядаючы на край італьянскага ложка, які ён гады з тры таму назад падарыў Рыце. — Ты не можаш, не маеш права не тое што гаварыць, нават думаць аб гэтым. Ры, ну давай заўтра ўсё кіну, і мы махнем куды-небудзь на выспы. Ты ж любіш выспы? — Ён асцярожна крануў пальцамі ейны твар. Божа, як ён яе ведаў! Амаль на малекулярным узроўні. Ён мог апярэдзіць любое ейнае жаданне, адгадаць наступнае слова, якое яшчэ толькі нараджаецца ў глыбіні дыхання. Часам Віталю падавалася, што ўсе гэтыя веды былі ў ім заўсёды, а не ўзніклі ў плыні доўгіх гадоў іх дзіўнага кахання. — Ры, ну перастань, усё пройдзе, гэта твая чортавая поўня ва ўсім вінаватая. Мне толькі што прыйшло ў галаву, што прыязджаю я да цябе апошнія гадоў сем чамусьці менавіта ў поўню.



— А ў нас з табой і першы раз усё адбылося ў поўню. Ты хіба не памятаеш? Я — першакурсніца, дурная і наіўная, ты ўжо выпускнік-завочнік. Самаўпэўнены і дасведчаны. Вялізная поўня на верандзе Мішкавага лецішча, я тады ледзь розум не страціла ад радасці! — Рыта, абвіўшы рукамі яго шыю, зашаптала ў вуха, — Я цябе кахаю, вельмі, вельмі. Але сустракацца нам больш не трэба.

— Чаму? Ну, калі ты хочаш, давай пажэнімся. Ты ж ведаеш, што я без цябе не змагу жыць. Мне неабходна, каб ты заўсёды дзесьці была. Ты — мой зямны дом, і мая адзінота ніколькі не меншая за тваю. Я жыву дурным жыццём, акружаны прыліпаламі і эгаістамі. Калі б ты ведала, як усё надакучыла. Я баюся заўтрашняга дня, што зіхціць сённяшняй пустэчай. Давай я хутка ўсё ўладжу з разводам, слава Богу, дзеці ўжо дарослыя. Таго, што я зарабіў, хопіць на ўсіх.

Віталь замоўк, слухаючы яе дыханне. «Ну чаму ўсё так падурному адбываецца? Чаму твой промысел, Божа, такі лукавы? Што з забароненага я сатварыў, за што ты збіраешся адабраць у мяне гэты выратавальны прыстанак?»

— А ніхто ў цябе нічога не адымае, — як быццам падслухаўшы ягоныя думкі, спакойным роўным голасам вымавіла Рыта. — Проста ўжо занадта позна. Позна. Якое дзіўнае слова. По-зна… Захрэбаў, ты хіба не адчуваеш? Проста мы нарадзіліся адзінокімі, і з гэтым нічога не зробіш. Не ведаю, магчыма, павярніся тады даўно нашае жыццё па-іншаму, можа, і мы змаглі б перамагчы гэты праклён і быць разам. Не ведаю. А ўсё бачыш, як склалася. Вядома, ты будзеш пярэчыць, але ў нашым выпадку гэта не мае ніякага значэння. Проста ўсё здарылася само сабой. Дзве адзіноты не анігіляваліся, а выраслі да памераў сусвету, і ўжо ад нас не залежаць; калі мы будзем іх карміць, яны сажруць нашае каханне. Толькі не падумай, быццам я ціха звар’яцела. Нам проста трэба застацца такімі, якімі мы ёсць. Застацца каханымі. Мне сумна ад таго, што калісьці даўно спалохалася і не нарадзіла сабе твайго дзіцяці. Дзеці — адзіныя лекі ад адзіноты, хоць гэта хутчэй проста ейная затрымка. Ты ведаеш: самая страшная бяда чалавецтва не атыповая пнеўманія, а менавіта адзінота, але гэтага, мабыць, ніхто не ведае.

— Хадзем піць гарбату, — перабіў яе Віктар. — Мне падаецца, што мы нясём поўную лухту. Якая адзінота, вось жа мы, побач! — Ён згроб далікатную, амаль бязважкую жанчыну і закружляў па пакоі. — Паспрабуй нас разарваць, мы ж адно

цэлае! Перастань мяне палохаць, я і чуць ні аб чым не хачу. Каханы мой чалавек, павер, я ўсё ўладжу.

— Эх, дурны ты дурны, хоць і старэйшы амаль на цэлы дзясятак. — Яна пакалашмаціла яго, як школьніка, па патыліцы. — Вярні мяне на месца, а то расплешчаш. Проста сёння я ўсё зразумела, ведаеш, так адразу: раз — і ўсё стала на свае месцы, нават неяк дзіўна, пэўна, час надышоў. Ты стаяў там, ля акна, увесь у поўні, такі мармуровы, прыгожы. А я глядзела, нават думак нейкіх адмысловых у галаве не было, і раптам бах! Як прасвятлела ці што? У мяне такое бывае. Бацька гаварыў, што гэта ад бабкі. Яна ў мяне варажэяй была. Старая такая, з вялізнай кульбакай. Людзі яе не любілі. Тата пасля вайны ледзь паспеў яе ноччу вывезці з нашага горада. Бабулю хацелі спаліць суседзі: верылі, што яна порчу на скаціну насылае. А яна, наадварот, кароў ды і іх саміх лячыла. Я яе ні разу не бачыла, нават на фотаздымку. Першы раз са мной гэта ў трынаццаць гадоў здарылася. Месячныя пачаліся, і я адчула, што хутка захварэе цётка Галя. Яна праз паўгода пасля гэтага памерла. Спачатку я палохалася, а потым абвыкла, галоўнае, не спрачацца і не спрабаваць штонебудзь зрабіць насуперак.

— Пачакай, — апускаючы Рыту на ложак, сур'ёзным голасам вымавіў Віталь, — ты мне галаву не дуры. У цябе хтосьці з'явіўся? Толькі давай чэсна, добра?

— Усё-ткі прымітыўны вы народ, мужыкі. Я яму сур'ёзныя рэчы гавару, а ён… — Рыта пакрыўджана матнула рукой. — Няма ў мяне нікога, ды і не было. Нейкія дробныя папрыгунчыкі, яны не ў разлік, можа, калі-небудзь за аднаго з іх я выйду замуж. Пакуль не ведаю, а ты так і застанешся ў поўні і прыгожым, і нікому я цябе ніколі не аддам. Ты мой. Я ведаю, што чым далей я буду ад цябе знаходзіцца, тым мацней ты будзеш ува мне сядзець, як вялікі надзейны цвік.

— Ры, ну не страчвай розум. Якія цвікі, якое расстанне? Мы пражылі разам цэлую вечнасць. Мая сям'я — пустая ўмоўнасць, змяніць якую ты не хацела сама. Ты ж з зайздроснай пастаяннасцю, калі я заводзіў гутаркі аб разводзе, паўтарала, што ніколі не станеш прычынай чужой адзіноты і непаўнавартаснасці дзяцей. Усе дзеці выраслі. Мая жонка — самастойны чалавек, які моцна стаіць у бізнесе. Нам ужо не па сямнаццаць. Давай вырашым усё цяпер. Я разумею, колькі табе давялося перажыць з-за твайго нявызначанага становішча. Няўжо ты думаеш, што я аб гэтым не думаў? Не хваляваўся? Ды часам я гатоў быў разарваць сябе



ўласнымі рукамі. Не ведаю, можа, я сапраўды ў нечым бесхрыбетны. Ну, прабач, а?

— Божа, што мне з табой рабіць? — Жанчына далікатна кранула яго шурпатыя шчокі. — За што мне цябе прабачаць? Ты нават не ўяўляеш, якая я шчаслівая з табой. Ты цэлы свет, як цяжкую галінку закіпелага бэзу, нахіліў да майго твару. Усё, што ў мяне ёсць, — яна абвяла вакол рукамі, — усё гэта стварыў ты, ды і мяне ты зрабіў такой, якой я ёсць. Прабач, я, вядома, цёмная дурніца, навошта трэба было сёння заводзіць гэтую размову? Ці мала што прымроілася… Прабач. Я хутка збегаю ў ванную…

Босыя ногі лёгка зашлёпалі па паркеце. Разгублена піскнулі дзверы і, пакінуўшы на падлозе жоўты даўгаваты вымпел святла, — як напаўразгорнутая кніга, завабілі да сябе агаломшанага ад ейных слоў мужчыну. Нацягнуўшы хатнія шырачэзныя штаны, Віктар паплёўся на кухню ставіць чайнік.

Нягучны шум вады прыцягнуў увагу стомленай ад адзіноты поўні, і тая, чапляючыся, каб не сарвацца ўніз, за стрэхі суседніх шматпавярховікаў, амаль увалілася ў акно спальні. Ложак, знявечаны ўцёкамі ад адзіноты, стаяў сіратлівы і ціха, як бедны родзіч, які выпадкова прыйшоў на чужое пахаванне.

## «ВЫДАТНІК»

Васіль Васільевіч жыў суччыным жыццём, так, відаць, было прапісана яму родам, але пра гэта ён, на шчасце, не ведаў ці не хацеў ведаць, а сказаць жа праўду генералу дзяржаўнай бяспекі ніхто не адважваўся. У былыя часы прафесія чэкіста, авеяная славай і таямнічасцю, безумоўна, лідзіравала ў рамантычным рэйтынгу пакалення падлеткаў. Ды што там падлеткавая рамантыка, — усё наша жыццё было працята і перапоўнена бясколернымі ўнукамі «жалезнага Фелікса», якіх без адмысловага клопату можна было распазнаць па аднолькава шэрых альбо цёмна-сініх касцюмах ды пустых, вылінялых ад беспрынцыповасці і страху вачах. Святая справа абароны дзяржаўнасці і, вядома ж, народных інтарэсаў ва ўсе часы застаецца галоўным клопатам гэтай самай дзяржавы. Калі ўважліва прыгледзецца, дык у крывым люстэрку гісторыі без асаблівай цяжкасці можна ўбачыць, што клопат аб самой сабе і з'яўляецца асноўнай, гаворачы па-навуковаму, функцыяй дзейнасці любой дзяржаўнай машыны. Клопат аб народнай выгадзе, як і наіўная вера ў сацыяльную роўнасць, служылі ўсяго толькі салодкім

падманам у свеце гора, слёз і цяжкай атупляльнай працы. Гарката штодзённасці ўспрымалася свядомасцю як абпальваючая глотку неабходнасць, пасля якой доўгачаканае цяпло разлівалася па стомленым целе, з'яўлялася ўпэўненасць у сабе, і салодкія мроі пра непазбежную будучыню прымушалі ўсё мацней калаціцца знатужанае працай сэрца. Тысячагадовая наіўнасць чалавецтва, якое свята верыла ў дармовую для ўсіх ежу, з адмысловым цынізмам увасаблялася нейкай таямнічай і магутнай сілай у нашай шматпакутнай Айчыне.

Аслепленыя клопатам пра дзяржаву, натоўпы з дзікім азвярэннем некалькі дзясяткаў гадоў з зайздросным поспехам нішчылі адзін аднаго. Некалі вялізная краіна падзялілася на два асноўныя дамінуючыя класы і ўтрапёную праслойку. Адзін клас сядзеў за калючым дротам, другі яго ахоўваў, а трапяткая праслойка стукала на прадстаўнікоў абодвух класаў і саму сябе. Вось з яе ўлоння і вырас шматлікі і доблесны главк усенародна любімай канторы, якая чуйна ўслухоўвалася ў шэпт на суседскай кухні, рылася ў смеццевых вёдрах і з дзяржаўным выглядам абнюхвала скарыстаныя імпартныя прэзерватывы. Главк інтрыгаў і татальнай падазронасці, да якога ў былыя, яшчэ да яго разгону, часы і належаў Васіль Васільевіч.

Кабінецік у генерала быў невялікі, але ведамства, у якое яму пашчасціла ўладкавацца, абяцала стаць хлебным, а самае галоўнае — ён зноў стаяў на варце народных інтарэсаў. Не трэба было ішачыць з раніцы да ночы, ганяючы сквапных да дзяржаўнай капейкі ашуканцаў. Стамляльная праца шпіка, які пахне потам і нясвежай бялізнай, бяссонныя ночы і зносіны са свавольнымі фанатыкамі свайго рамяства, — усё гэта ззаду. Зрэдзьчас яму падавалася, што старыя добрыя часіны вярнуліся, многія калегі, якія некалі беззваротна адышлі ў невядомасць, зручна рассяліся на самавітых дзяржаўных пасадах і пацягнулі за сабой сваіх «выдатнікаў». Тое ж, з асцярожнай аглядкай на верх, рабіў і Васіль Васільевіч. Ён як ніхто іншы ў нованароджанай бюракратычнай структуры разумеў, што менавіта кадры вырашаюць усё. Па сутнасці, не столькі нават важная была пасада, якую ты займаеш, колькі магчымасць падабраць і расставіць сваіх людзей.

Генералу пашанцавала. Начальнікамі над ім былі пастаўленыя людзі асцярожныя, у сілу спецыфікі былых сваіх прафесій, палахлівыя. Наогул сапраўдны службовец сярэдняй рукі заўсёды ў душы баязлівец, галоўная яго запаведзь — не ўзяць на сябе лішняй адказнасці, ды і нялішнюю паспрабаваць перакласці



на каго-небудзь іншага. Гэтая характэрная рыса службовага чалавека — не толькі адказнае вынаходства, яна прысутнічае ўсюды, дзе дзяржава, з розных прычынаў, не ў стане абараніць і забяспечыць свайго службоўца. Спадзявацца ж на заступніцтва начальства, працятага той жа баязлівасцю, лічыцца ў нашай сферы беспрасветнай дурасцю і недаравальнай наіўнасцю. Васіль Васільевіч ва ўсім гэтым нядрэнна разбіраўся і ўмела выкарыстаў у сваіх інтарэсах.

Пстрыкнуў унутраны тэлефон. Генерал, не адрываючыся ад газеты, націснуў на кнопку.

— Васіль Васільевіч, вы прызначалі сустрэчу Альберту Ноевічу, ён у прыёмнай, — зазвінеў з прыдыханнем голас сакратаркі з легкадумным імем Міла.

«Вось сцерва, усё зрабіла, хіба што не застагнала ў канцы! Ну, я ёй зараз урэжу, гэта ж трэба, вырашыла мяне з раніцы завесці!» — і, імкнучыся гаварыць спакойна, услых вымавіў:

— Альберта Ноевіча папрасі паўгадзіны пагуляць, на тэлефон пасадзі Сіўчыка, а сама да мяне.

— Слухаюся, — пераможна спяваў малады голас.

Пакінем на сумленні генерала, што і як ён «урэзаў» у тую раніцу Міле, а можа, наадварот, бойкая сімпатычная сакратарка ўпраўляла толькі ёй вядомым спосабам састарэлыя энкавэдэшныя мазгі і вывуджвала ў прагнага палюбоўніка пазачарговую сотню баксаў на набыццё якой-небудзь вельмі патрэбнай жаночай дробязі. Словам, не нашая гэта справа. Адносіны шэфа і сакратаркі вечныя, як свет, а таму ў нейкай ступені святыя, нарэшце, не з рэферэнтам жа або памагатым ён замкнуўся ў пакоі адпачынку, хоць і апошнім цяперашні дзяржапарат ужо не здзівіш.

Альберт Ноевіч зразумеў усё з паўслова і, апякальна ўсміхнуўшыся Міле, якая атрымала сваё зручнае і хлебнае сакратарскае крэсла не без ягонай дапамогі, сціпла пакінуў прыёмную набіраючага сілу высокага начальніка. Хадой, якая выказвае пакорнасць і гатоўнасць услужыць усякаму, гэты лысаваты спадар нявызначанай нацыянальнасці з пачаткамі паўнаты і з дзіўным імем ды імем па бацьку пачаў, як магло падацца збоку, без усякай мэты блукаць па калідорах казённай установы, што жыве сваім, асобным, засакрэчаным ад усяго свету жыццём. Але гэта толькі недасведчаны мог западозрыць Альберта Ноевіча ў бязмэтнасці хістання па ўладных калідорах, на самай жа справе гэты паркетны праменад уяўляў сабой карпатлівую, тонкую і вельмі складаную працу, якая патрабуе высокага акцёрскага майстэр-

ства, такту, умення правільна і хораша гаварыць, а галоўнае — правільна маўчаць і неўзаметку слухаць. За паўгадзіны, падоранай Мілай і генералам, Альберт даведаўся шмат карысных для сябе рэчаў. Чэпкі трэніраваны мозг прагна лавіў фразы, абрыўкі гутарак, настроі, з якімі выходзілі супрацоўнікі ад таго або іншага начальніка, адказы на тэлефонныя званкі; лёгкая балбатня з сакратаркамі і неацэнная шакаладка — усё гэта ён складаў у адмысловую мазаіку, якая ўяўляла даволі дакладную карціну ўнутранага жыцця дзяржустановы.

Асцерагайцеся бяздзейсных шатуноў-наведвальнікаў, якія ўважліва чытаюць насценгазеты, вывучаюць дошкі загадаў і распараджэнняў, графікі дзён нараджэнняў і аб чымсьці весела балбочуць з вашымі сакратаркамі. Падобныя асобы вы без цяжкасці заўважыце ў любай, нават самай заскарузлай дзяржаўнай установе. Яны ўяўляюць сабою новы і, відавочна, дагэтуль мала вывучаны тып сучаснага грамадства. Своеасаблівую касту, нейкае злучво-звяно паміж уладу трымаючых, гэта значыць дзяржапаратам, і ўладу маючымі — людзьмі, якія ўмеюць рабіць грошы.

Альберт Ноевіч прыйшоў да Васіля Васільевіча з вельмі далікатнай прапановай: яму было даручана адной фінансава-прамысловай групай дамовіцца і купіць, калі гэта можна так назваць, дзве вельмі значныя пасады ў нейкіх нябедных рэгіёнах. Вядома ж, нават дзіцяці вядома, што пасады не прадаюцца, а на іх прызначаюцца адмысловыя людзі, названыя ў прастамоўі чыноўнікамі-службоўцамі, якія падзеленыя на групы, узроўні і класы. Складаная механіка пасоўвання казённага чалавека па службовай лесвіцы вельмі падрабязна прапісаная ў законах, указах і інструкцыях. Але тое, што так гладка на паперы, у жыцці часам атрымліваецца наперакасяк.

Злёгку расчырванелая Міла выбачальным голасам папрасіла свайго дабрадзея хвіліначку пачакаць — пакуль шэф не скончыць размаўляць па тэлефоне ўрадавай сувязі.

Альберт Ноевіч асабліва не афішаваў іх з Мілай некалі добрыя адносіны. Падабраў ён гэтую дзяўчыну цалкам выпадкова ў адным з паўднёвых гарадоў, дзе тая ўжо з паўгода асцярожна путаніла, удала прыкідваючыся пад студэнтку з беднай уральскай глыбінкі: маўляў, прыехала адпачыць і падлячыцца. Па вартасці ацаніўшы яе прыроджаныя і саманабытыя таленты, сціплы службовец, як ён любіў сам сябе прадстаўляць, здабыў годную вучаніцу, і вось, седзячы ў прыёмнай, дзе нядаўняя папялушка панелі непадзельна ўладарыла не горш за прынцэсу



крыві, ён глядзеў на яе з гонарам, як мастак глядзіць на скончаную карціну, якая ўжо жыве сваім жыццём. Нейкае падабенства пяшчоты і жадання варухнулася ў яго з’едзенай цынізмам душы, але было тут жа жорстка задушанае — груба парушала законы жанру. Міла відавочна ўлавіла гэтую секунду слабасці і, уся затрымцеўшы, паказала вачыма, што шэф вызваліўся. «Далёка пойдзе дзеўка», — адзначыў пра сябе Альберт, заходзячы ў кабінет Васіля Васільевіча.

— Якія людзі ў нашых лабірынтах! — расхінуўшы сяброўскія абдымкі, няспешна пайшоў насустрач госцю гаспадар кабінета.

— Спадзяюся, не ў абдымкі самога Мінатаўра я так неабдумана крочу?

— Ды кінь ты, якія тут Мінатаўры? Часіны не тыя.

— І слава богу, што не тыя, а то б мяне з вашых лабірынтаў гэтак гадкоў праз дзясятак, мабыць, толькі і выпусцілі б.

— Ну, дзясятак не дзясятак, а пяцёрачку мы б табе за мілую душу ўпаялі, — задаволены сабою, хахатнуў Васіль Васільевіч. — Прысаджвайся. Што будзем піць? Гарбата? Кава?

— Калі можна, чайку, зялёненькага.

Альберт Ноевіч ніколі не адмаўляўся ад пачастункаў у кіруючых кабінетах. За гарбатай і лад, і тон гутаркі зусім па-іншаму ішоў, ды і падрахунак, як правіла, саноўчым вытанцоўваўся. А з яго цяперашняй прапановай і наогул патрэбна было не гарбату, а сёе-тое паістотней наліваць. Па шматгадовым досведзе ён знаў: тонкія гутаркі трэба пачынаць здалёку, без залішняга ціску. Чыноўнік, ён як трапяткая казуля: калі што ў самім пачатку пачуе, ноздры раздзьме, вушамі застрыжэ, — усё, пішы прапала, сарвецца, і ўсе падыходы і падводкі сабаку пад хвост, пасві потым іншага. Гэта добра, калі яшчэ проста сарвецца, а калі па начальстве тэлефанаваць пачне? Зусім дрэнь…

Госць відавочна не прыспешваў. Размову пачаў з традыцыйнага рытуалу. Спакваля, як быццам між іншага, але так, каб бачыў гаспадар, прасунуў пад разгорнутую на стале газету пульхны даўгаваты канверт і выразна паказаў чатыры пальцы, што адпавядала парадкаваму нумару бягучага месяца. Дачакаўшыся ўхвальнага кіўка пастрыжанай пад вожык сівой галавы, Альберт Ноевіч пусціўся ў вялізныя разважанні аб нягодах і цягатах «царовай службы», аб неахайных службоўцах, асабліва на месцах, якія зусім распаясаліся без кіруючага нагляду.

— Ноевіч, — падсоўваючы госцю гарбату і праводзячы злёгку хістлявую і таму яшчэ больш апетытную попку сакратаркі, перапыніў яго Васіль Васільевіч, — кінь ты гэтыя падводкі,

не першы дзень знаёмыя… Я ж бачу, што нейкую важную інфармацыю прынёс. Чаго цягнеш? Выкладвай.

— Ну, ужо я і не ведаю, наколькі яна важная, у цябе ж цэлая служба, і так, нябось, усё ведаеш…

— Не выключаю. Але, як прафесіянал, я кожнаму новаму гуку рады. Ды і потым — дублюючы сігнал з іншай крыніцы толькі пацвярджае праўдзівасць наяўных звестак. Гэта аксіёма спецслужб.

— Ты ж ведаеш, у мяне шырокі круг знаёмых і прыяцеляў, дык вось адзін з гэтых, — Альберт паказаў пальцамі традыцыйную блатную «казу», — па п’янцы прабрахаўся, што цесна сябруе з адным з вашых супрацоўнікаў у Тарабарскай губерні і можа вырашыць праз яго любыя пытанні.

Інфармацыя гэтая была поўным трызненнем. Наадварот, менавіта з-за нязгодлівасці службоўца і было прынята нейкай групай таварышаў рашэнне прыбраць яго і паставіць свайго чалавека. Дзіўна, але падонку сярод нас жыць чамусьці заўсёды лягчэй, чым сумленнаму чалавеку. Адвечнае пытанне, адвечная праблема белага і чорнага, аднак свет з кожным тысячагоддзем святлейшым не становіцца. Вось і жывём мы шэрымі ў шэрым вымярэнні, і гэта ўсё ж спакайней, чым белымі варонамі. Доктар Гебельс у свой час вельмі ўдала зазначыў, што чым жахлівейшая хлусня, тым у яе ахвотней верацъ людзі.

— Ды ты што?! Вось сучаня… — узбуджана ўскочыў са свайго месца генерал. — А якім ідэйным прыкідваецца… Ён мне даўно не падабаецца. Інфармацыю, патрэбную для працы, палкай прыходзіцца выбіваць. «Не мая гэта справа, не мая гэта справа». Ну я яму цяпер устрою справу! Хоць гэтым, — ён ткнуў вялікім пальцам у столь, — ён чамусьці падабаецца. Слухай, ты мне гэтую сувязь хоць як, але задакументаваць павінен, зразумеў?

— Складана будзе, блатныя пад пратакол не гавораць, а ў лазню і па бабах яны разам, наколькі я ведаю, не ходзяць. Тут іншая ідэя ёсць: калі ён табе не падабаецца і ты лічыш яго нявартым высокага звання дзяржаўнага чалавека, я магу ўстроіць пару публікацый у сталічных газетах. Можа атрымацца круцей за банальныя фоткі, ды потым і рэзананс, сам разумееш… Маскоўская газета — ёй у нашых месцах веры пабольш, чым нейкай аператыўнай інфармацыі.

— Песня! Давай, рабі, а мы яшчэ падможам. Падзбіраем тое-сёе. Верхні наш любіць чытаць газеты і глядзець тэлік. Да яго нашыя інфармашкі толькі з трэцяга разу даходзяць, а вось газетная херня адразу балюча б’е па самалюбстве. Усё, вырашылі: ты са свайго боку, я са свайго, эфект, упэўнены, будзе бранябойны. Чалавечка туды трэба ўжо цяпер падабраць талковага, — Васіль Васільевіч задумаўся. — А можа, у цябе кандыдатура ёсць?



Альберт Ноевіч ведаў: назаві ён зараз прозвішча — і ўсё, канец добра пачатай авантуры, на якой ён ужо цяпер зарабіў тысяч трыста зялёненькіх, бясталентна лопне. Аднак і ініцыятыву выпускаць са сваіх рук было нельга.

— Адкуль у мяне такога маштабу людзі? Гэта твае вышыні. Мае — чаго дазволіце, падай, прынясі. Наогул, калі даяраеш і даеш даручэнне, магу заняцца падборам чалавека. Толькі адразу дамовімся: я падбіраю і перадаю табе яго са ўсімі трыбухамі, і больш ніякага дачынення да яго не маю, а то я вашыя замашкі ведаю: як ні імкніся, усё роўна крайнім застанешся. Вядома, Васіль, лепш бы ты сам паглядзеў, ужо вельмі адказная пасада…

— Я што так, што гэтак пагляджу. Разам папрацуем. Можа, і да кансенсусу прыйдзем, — скрыўшы ў яхіднай усмешцы рот, Васіль Васільевіч лёгенька папляскаў па газеце, пад якой быў прыхаваны ўвесяляльны ягоную душу канверт.

— Васільевіч, тут ніякіх праблем не будзе. Важна, каб справа не пакутавала, — камень, які да гэтага моманту ціснуў на сэрца Альберта Ноевіча, зваліўся. Ён, прызнацца, не чакаў такога хуткага рашэння аднаго з самых цяжкіх, мабыць, даручэнняў свайго боса. Усярэдзіне ўсё радавалася і спявала: кіраўніцтва адпусціла на аперацыю лімон зялёненькіх, па палавінцы за месца, і тое, што мінімум семсот ён зможа безбалюча прыкарманіць, Ноевіч не сумняваўся. Пры ўсёй унутранай радасці ягоны твар выяўляў заклапочаную прастрацыю.

— Ты чаго скіс, сябар мой неацэнны? Добрую, а галоўнае — правільную справу зрабілі, можна сказаць, здрадніка ў сваіх шэрагах абясшкодзілі, і прытым граматна, праз трэція рукі прыбяром яго, я асабіста ў гэтым не сумняваюся.

— Ды я ўжо над тваім даручэннем думаю. Адказнасць вар’яцкая, ты ж ведаеш, я — фанат сяброўства, і падводзіць сяброў не ўмею…

— Кінь ты, Альберт, дурэць! Ды калі б я цябе сваім не лічыў, хіба ж нашыя адносіны былі б такімі адкрытымі і чыстымі? — генерал шматзначна кіўнуў на сцішаны пад газетай канверт. — Я, Альберт, усё памятаю і за дабро заўсёды плачу дабром…

Іхняя гутарка была перарваная ўладным званком чырвонага тэлефона, на якім замест кнопак або дыска набору

красаваўся вялікі двухгаловы арол, уваскрэслы знак замучанай папярэднікамі Васіля Васільевіча Расійскай імперыі. Падавалася, што пазалочаная птушка з манаршай нянавісцю пазірала на свайго новага служку.

Васіль Васільевіч жыў суччыным жыццём, іншага яму не было адпушчана…

## ДРАПЕЖНАЯ ПТУШКА

Яны заблудзіліся і неяк адначасова гэта зразумелі. Маўчанне зрабілася яшчэ больш уважлівым, адвячоркавае стракатанне конікаў у высокай траве загучала пагрозліва гучна.

Цяжка цяпер успомніць, каму з іх прыйшла ў галаву ідэя адзначыць заканчэнне школы паходам у таямнічае Палессе. Акрамя Кастуся ў гэтай вылазцы ўдзельнічалі трое яго сяброў. Ніхто не мог выказаць здагадку, што гэта фактычна была іх апошняя сустрэча, своеасаблівы падрахунак доўгага, самазабыўнага дзіцячага сяброўства.

Жук бессэнсоўна загінуў у аўтамабільнай катастрофе на Мінскай шашы; Паша дзесьці захраснуў на адным з сотняў невялікіх заводаў; Яшка, папіхаўшыся ў масавіках-пацешніках, пасля Чарнобыля сабраў сям'ю і з'ехаў у Ізраіль; Кастусь, аб'ехаўшы добрую палову нашай некалі неабсяжнай радзімы, атрымаўшы запаветныя пагоны палкоўніка, асеў у вялікім расійскім горадзе і заняўся бізнесам.

Аднойчы ён, шчаслівы і, як яму падавалася, багаты, ехаў на сваёй першай бывалай «аўдзюшцы» ў госці да бацькоў. Паслухаўшы нелагічныя довады жонкі, палкоўнік Раўбіч, як кажуць, у росквіце творчых сіл і службовых перспектыў сышоў у нікуды. Падуркаваўшы месяцы з тры, ён інстынктыўна набрыў на цікавую справу і паступова ў ёй займеў поспех. І вось з забітым дарэшты багажнікам ён спяшаўся ўпершыню выканаць прыемную ролю ўсесезоннага Дзеда Мароза.

З гадамі Косцю ўсё часцей цягнула дахаты, і варта было машыне перасекчы ўяўную мяжу, як сэрца чамусьці пачынала біцца мацней, а краявіды, якія нічым не адрозніваюцца ад падмаскоўных, падаваліся асабліва любаснымі і да слёз трывожылі душу. Памяць сама сабою пачынала вязаць мудрагелістыя выявы і карціны мінулага, увага рассейвалася, кіраваць аўтамабілем станавілася небяспечна. У такіх выпадках Кастусь выбіраў бакавую лясную дарогу і накіроўваў



сваю іншамарку туды, адкуль выпаўзалі з-пад зямлі тоўстыя карані дзікіх лясных дрэў. Пабултыхаўшыся хвілін дваццаць на выбоінах, ён глушыў матор, садзіўся на мяккі, калючы ад іглiцы мох, прыхіляўся да шурпатай смалістай хвоі, даваў волю памяці і ўпадаў у зыбкую дрымоту. У тонкім, пачуццёвым, як гавораць манахі, паўсне-паўяве часта ўсплывала гэтае ўжо даўно забытае здарэнне.

…Яны заблудзіліся. Немаведама кім пратаптаная сцяжынка спадзіста паднімалася збоку невялікай лясной паляны, якая цягнулася ад самага балота і ўпіралася ў змрочнае, стромае ўзвышша. Метраў з дзвесце ад узвышша сцежка рабіла невялікую дугу і, пятляючы між дрэў, ля самага абрыву ўзбіралася на амаль роўную тэрасу. Тут і вырашылі разбіць лагер. Узвышшам аказаўся неймаверных памераў валун, павернуты да абрыву ідэальна плоскай, парослай шэрым мохам паверхняй. Хто хоць аднойчы цягаў на сабе цяжэнны заплечнік, таму вядома адчуванне незвычайнай лёгкасці, якое перажывае падарожнік, скінуўшы з сябе дакучлівую ношу. У такія хвіліны здаецца: яшчэ імгненне — і ты ўзляціш.

Хутка паставілі прасторны памаранчавы намёт, развялі вогнішча, і праз нейкія паўгадзіны ў цягучым вячэрнім паветры паплылі смачныя пахі згатаванай вячэры. Цямнела па-летняму павольна, аднак змяркание, узмоцненае лесам і яркім полымем вогнішча, хутка згусцела да начнога чарноцця. Акякаючыся найсмачным варывам, ахрышчаным Яшкам, самым лепшым кашаварам усіх часоў і народаў, «змяіны супец», сябры абменьваліся дзённымі ўражаннямі.

А дзень не задаўся з раніцы. Спачатку ў чэзлым падлеску згубілі Жука, які адстаў па патрэбе. Хвілін сорак гукалі і, толькі зрабіўшы прыстойны круг, сутыкнуліся з ім на месцы былога начлегу. Сонца ў ранішнім сутонні падавалася падслепаватым, над зямлёй, віхляючы ад яго промняў, танчыла бялявым прывідам напаўпразрыстая смуга. Лясная, ледзь прыкметная дарога мякка слалася сярод змрочных замшэлых елак, але да абеду і яна, захлюпаўшы пад нагамі брудам, знікла ў вострай балотнай траве. Забалочаны лес раптам скончыўся, і перад імі, наколькі хапала погляду, лёг тужлівы нават у сонечны дзень палескі краявід. Балота…

Як яны з яго выбраліся, вядома толькі Пашу, які, падавалася, на адной інтуіцыі вывеў іх з гэтай зыбкай калатушы. Усе без выключэння па некалькі разоў правальваліся ў багну, кожны нешта згубіў у вадкім, смярдзючым брудзе і выпрабаваў на сабе

страх раскрытай пад ім бездані. На сухім месцы яны, як умелі, падзякавалі Богу і ў знямозе паваліліся на цвёрдую надзейную глебу. Адсопшыся, трохі агоўтаўшыся, сябры сяк-так памыліся, спаласнулі ў бурай застаялай вадзе закарэлую ад бруду вопратку і, абсохнуўшы, ужо пад вечар пайшлі ледзь прыкметнай сцежкай, што і вывела іх да дзіўнага каменя, ля якога цяпер з сіпеннем трашчала ў вогнішчы ламачча.

— Так, пакруціў нас сёння лясун, — аблізваючы лыжку, ціха прагудзеў Паша. — Хоць мне здаецца, чартаўня гэтая яшчэ не скончылася.

— Ты б сплёўваў, — перабіў яго Жук, — лепш імбрык знімі, празарлівец ты наш.

Паша пакрыўджана засоп; трэба аддаць належнае, з усіх прысутных ён, мабыць, быў найбольш разважлівым і менш схільным да містыкі. Працягваючы імбрык, не павышаючы голасу, працягнуў:

— Пакуль ты, як неапазнанае земнаводнае, выбраўшыся з балота, дрыхнуў на сонейку, я паглядзеў карту, і што ты, разумнік, думаеш, я ўбачыў?

— О, вялікі Паша,— гарэзіў Жук, — адкуль мне, цёмнаму, забітаму дэкханіну, знаць сію таямніцу!

— Ды кінь ты зубаскаліць, — умяшаўся ў гутарку Кастусь. — Што было на карце?

— А нічога там, браты беларусы, не было.

— У якім сэнсе не было?

— У прамым. Няма на карце гэтай выспы.

— Хопіць на ноч страхі распавядаць, о вялікі і жудасны, — не сунімаўся Жук.

— З чаго ты ўзяў, што мы на выспе? — наліваючы ў кубак гарбату, здзівіўся Кастусь, — мы ж, здаецца, выйшлі на бераг, і справа і злева ад гэтай горкі былі відны дрэвы.

— Ды я і сам спачатку так думаў, а калі зарыентаваў карту па компасу, засмуткаваў. Нам падавалася, што рухаемся мы на паўночны ўсход да правага краю Граблянскага балота, а забраліся, аказваецца, у яго сярэдзіну.

— Як?! — амаль адначасова ўскрыкнулі ўсе трое.

— Як, як? Не ведаю, як. Толькі вось выходзіць, што мы амаль у цэнтры адной з самых вялікіх балацін Еўропы. Выспы, ды яшчэ з узвышшам, тут проста быць не можа па азначэнні. Глядзіце самі, — Сяргей, так звалі Пашу, выцягнуў са старой афіцэрскай сумкі і разгарнуў бліжэй да агня нямецкую, часоў мінулай вайны карту.



— Мы прыкладна дзесьці вось тут, — тыцнуў ён у сярэдзіну шэра-зеленаватай з блакітнай рабізной пралысіны, — наперадзе, па ідэі, кіламетраў праз пяць балота павінна плаўна перайсці ў Чорнае возера, якое само, дарэчы, акружана з усіх бакоў прапашчай багнай і толькі вузкай пратокай чыстай вады злучанае з каскадам Трасцянскіх азёр. Вось на Чорным пазначаныя дзве невялікія выспы, але, мяркуючы па адзнаках, яны нізкія. Цяпер глядзіце сюды. — Паша дастаў компас…

Раптам унізе з боку абрыву пачулася гучнае вантробнае вуркатанне, задрыжала зямля…

— Глядзіце на компас, — зашаптаў Яшка.

З компасам сапраўды дзеялася нейкая чартаўня. Стрэлка, забыўшы пра ўсе законы фізікі магнітнага поля, круцілася па крузе. Потым, дробна задрыжаўшы, закруцілася з боку ў бок і, нарэшце, гультаявата калыхаючыся, заняла вызначанае ёй прыродай месца. Разам са стрэлкай заціх і сполашны гук.

— Ну што я вам гаварыў, — не без гонару прабасіў Паша. — Вось і працяг чартаўні. Яшчэ днём на балоце пару разоў прыкмячаў, што з компасам бздура дзеецца, але адмысловай увагі не надаў, падумаў — здалося.

— Пачакайце, мужыкі, — напэўна, апошнім перасіліўшы спалох, гучна загаварыў Кастусь, — а што ж гэта было? Трэба схадзіць паглядзець, інакш уначы сапраўды са страху адурэем.

— Не ведаю, што гэта было, але, мяркуючы па скоках компаса, рэч сур'ёзная, — разважліва пачаў Жук, які школу, як асоба адораная, скончыў на год раней і ўжо вучыўся ў хімтэхнікуме. — Хутчэй за ўсё, нейкая лакальная анамалія, а можа, НЛА дзесьці паблізу прызямліўся.

— З кожнай хвіляй не лягчэй, вы як змовіліся, — рашуча ўстаў Кастусь, якога сябры звалі Дамавік. — Бярыце ліхтары, пайшлі глядзець.

Спраўных ліхтароў пасля купання ў балоце засталося ўсяго два, праўда, адзін з іх магутны, акумулятарны, невядома дзе пазычаны Яшкам. Для пэўнасці скруцілі яшчэ паходню і рушылі ў прыцемкі. Ужо праз тры хвіліны марудлівай хады яны былі на месцы. Перад імі круцілася смугой і дыхала сутарэнным холадам вялізная канічная варонка метраў дзесяць глыбінёй. Яе рваныя бакі паўтаралі рэльеф мясцовасці.

— Падобна на кратар, — сказаў Жук.

Унізе нешта зноў глуха завуркатала, заварочалася.

— Глядзіце асцярожней, — строга папярэдзіў Паша, — гэты кашалот зноў задыхаў. Заўтра раніцай разбяромся, галоўнае, упэўніліся ў матэрыяльнасці дурацкага выцця.

— Хлопцы, унікальная з'ява для нашых месцаў, — узбуджана затараторыў Жук, — гэта, па ўсім, вялікі гразевы гейзер.

— Адкуль яму тут узяцца? — шчыра абурыўся Яшка. — У нас што, Камчатка?

— Для тэктанічнай дзейнасці зямлі, — асядлаўшы свайго канька, працягнуў Жук, — усякія геаграфічныя зоны даступныя. Я не выключаю…

— Ты не выключай, ты выключай ліхтар і свой гаварыльнік, — павесялелым голасам перабіў яго Паша. Хопіць балбатні, пайшлі спаць.

Вогнішча ўжо дагарала. Ноч падзялілі на ўсіх пароўну. Першым выпала дзяжурыць Яшку, які адзываўся на мянушку Млоць.

Прачнуліся яны адначасова ад нейкага ўнутранага штуршка і, не змаўляючыся, кінуліся прэч з намёта. Яшчэ толькі пачынала днець, лес быў пакрыты ранішняй імглой. Над балотам стаяла густая белая сцяна смугі. Нешта вялізнае, цяжкае сарвалася з вяршыні валуна, які падпіраў намёт, расплюшчыўшы іх нядаўняе сховішча, пракацілася паблізу Млоця, які мірна спаў, ламанулася да абрыву, крышачы, як запалкі, кволыя хвойкі і кусты ды, ля самай бездані натыкнуўшыся на карчак, падскочыла і знікла. Велізарны, пэўна, з метр у дыяметры камень па нечай літасці пакінуў ім жыццё.

Усё адбылося настолькі хутка, што ніхто толкам і спалохацца не паспеў, але праз хвіліну страх нагнаў іх. Кроў кінулася ў галаву, у скронях загрукала; не падыходзячы да намёта, яны тупа глядзелі ўверх. На самай вяршыні валуна зеўрала вялізная вышчарбіна з амаль ідэальна роўнымі краямі. І раптам у яе лінулі асляпляльна яркія промні ўзыходзячага сонца. Здавалася, хтосьці ўсёмагутны і вечны шчодрай рукой налівае ў вялізны куфель залацістую нябесную вільгаць. Дасягнуўшы краёў, яна бясконцым струменем лінула ўніз. Спалох змяніўся пачуццём неапісальнай радасці, хацелася сарваць з сябе вопратку і галяком плёскацца ў гэтых жыватворных, чароўных струменях. Першым пераадолеў здранцвенне і здабыў голас Жук:

— Слоік! — з дзікім лямантам ён кінуўся да рэшткаў некалі надзейнага і трывалага нямецкага намёта. У бакі паляцелі спальнікі, швэдры, рэшткі знявечанага алюмініевага каркаса, яшчэ нешта, нарэшце, задам з-пад брызенту выпаўз задаволены Жук. На выцягнутых руках ён урачыста трымаў круглы медыцынскі слоік цёмна-зялёнага шкла з шырокім коркам. — Вось, цэлы, а Яшкаў блатны ліхтар усмятку. — Ён, асцярожна косячыся наверх, з амаль забабоннай любоўю паставіў слоік



з «дурманным зеллем» на зямлю. Усе, хапаючыся за жываты, пакаціліся са смеху. — Вы чаго, дэбілы, зубы шчэрыце, я ж усё ўлічу.

Ад крыкаў і гучнага рогату прачнуўся Яшка:

— Вы чаго гарлапаніце?

— Млоцям спаць не даяце, — з кепікамі перабіў яго Паша. — Што, прадрых ночку? Вогнішча загубіў? Племя без цяпла і гарачай капусты пакінуў? Напад невядомых сіл на вялікіх правадыроў не прадухіліў? Што з ім, о беларусы, зробім?

— У кратар яго, да цудзішча, — на ўсякі выпадак прыціснуўшы да грудзей запаветны слоік, уключыўся ў сварку Жук.

— Не, сябры, які к чорту кратар! Ён не варты лёгкай смерці! — узняў рукі да сонца Дамавік. — Не і яшчэ раз не. Хай рамантуе паламаны вігвам, увесь дзень кашаварыць, а калі дзённае свяціла сыдзе на супакой, а шаноўныя правадыры ўзыдуць на святую гару рады, — ён тэатральным жэстам паказаў на вышчарблены вяршок валуна, — то хай гэты сналюб самотна ляжа на месца нашага цяперашняга начлегу. Ды дапамогуць яму нябесныя сілы.

— Стаўлю на галасаванне, — падвёў падрахунак Паша, — хто «за»? Ты бачыш, заспаны Млоць, усе аднадушныя!

— О, бедная мая габрэйская галовачка, — яшчэ нічога не разумеючы, здзіўлена азіраючыся па баках, Яшка з ходу ўключыўся ў іх слоўную гульню, — і гаварыла мне-ткі памерлая бабуля Цыля… Не, пачакайце, — не вытрымаўшы гэтай напускной весялосці, узмаліўся Млоць. — Мне хто-небудзь без доўбні можа растлумачыць, што адбылося з намётам?

Гадзіны паўтары пайшло на аповеды, абмеркаванне сітуацыі, рэвізію наяўнай маёмасці. З запаветнага слоіка было трошкі адліта, разведзена і прынята ўнутр за шчаслівы зыход начы. Намёт, дарэчы, пацярпеў не вельмі. Млоць, выконваючы рашэнне рады і мучачыся згрызотамі сумлення, хутка справіўся па кравецкай частцы. Матэрыяльных стратаў, акрамя Яшкавага ліхтара і ўціснутых у мяккую лясную зямлю брыкетаў спрасаванага кісялю і кашы, не было. Схадзілі яшчэ раз да абрыву, пры дзённым святле пaглядзелі на змесціва здаравеннай ямы: горы пяску і камянёў. Убачанае не супакойвала, а, наадварот, узмацняла трывогу.

— Браты беларусы, а давайце прызнаемся цяпер адзін аднаму, хто аб чым думае, толькі папраўдзе, — нібыта між іншым сказаў Паша, калі яны вярталіся да лагера.

— Я пра валун, — адказаў Кастусь, — трэба б на яго злазіць, а страшна.

— І я толькі што пра гэта падумаў, — без ахвоты азваўся Жук.

— І я таксама, — прызнаўся Млоць.

— І ў мяне ў галаве дзеецца тое ж самае, так што, хочацца таго камусьці або не, а на камень гэты мы палезем…

— Мужыкі, глядзіце, што гэта за бздура! — ускрыкнуў, паказваючы на валун, Яшка.

— ?

— Ды вы што, сляпыя? Вунь, глядзіце, на гэтай камянюцы нешта намалявана.

Толькі ўважліва прыгледзеўшыся, сябры ўбачылі тое, што прыкмеціў вачасты Млоць. На плоскім баку валуна выразна праступалі контуры круга з роўнастаронні крыжом усярэдзіне.

— Ні фігашанькі сабе значык, — прысвіснуў Дамавік.

— А што ён азначае? — звярнуўся да яго Паша.

— Гэта старажытны знак сонца, ім нашыя продкі пазначалі Перуна — аднаго з галоўных паганскіх багоў славянскага пантэона…

— Не толькі галоўных, — дапоўніў Жук, — але і крывавых.

— У сэнсе? — не зразумеў Паша.

— Наконт сэнсу я сумняваюся, — працягваў Жук, — а народу, каб яго залагодзіць, змарнавалі, мяркуючы па летапісах, безліч.

Збіраліся хутка і моўчкі, баязліва косячыся на шчарбаты вяршок валуна. Адышоўшы метраў з сорак ад месца стаянкі, яны ўбачылі чысты, ціхі лясны ручай, які, мармычучы нешта сваё, спускаўся з парослага верасам і папараццю камяністага ўзгорка. Камяні гэтыя па сваёй пародзе, як вызначыў Жук, былі роднасныя велічэзнаму валуну і, хутчэй за ўсё, з'яўляліся нямымі сведкамі адступлення старажытнага ледніка.

Сябры пачалі асцярожна паднімацца ўверх уздоўж ручая. Хутка яны апынуліся на даволі прасторнай паляне, якая спускаецца да возера. Бліжэй да каменя рос велізарны дуб з падвойнай кронай, абрамлены рэшткамі некалі яшчэ больш вялізнага дрэва ў дзясятак абхопаў, з-пад мудрагелістых каранёў біла магутная крыніца, клапатліва абкладзеная камянямі. Вада, перш чым скаціцца ў ручай, прабягала некалькі метраў па рэчышчы і напаўняла прасторную каменную ванну, ля якой стаяў невысокі, метры з паўтара, каменны балван.

— Хлопцы, дык гэта ж сапраўдная язычніцкая купальня, — з захапленнем выпаліў Кастусь, аглядаючы старажытную статую. — Але гэта не Пярун, хутчэй за ўсё — Светавіт або Род. Па ідэі, у яго павінна быць шапка.



— Ага, голы і ў шапцы, — з'едліва сказаў Яшка. — Вось ужо ніколі не падазраваў, што ў нашай кампаніі зачасаўся язычнік.

— Не ведаю, я хлопец вясковы, — абыходзячы бажніцу, як ён яе пра сябе ахрысціў, працягваў Кастусь, — у нас у многае верылі, але такога я ніколі не бачыў, нават не думаў, што гэта можа захавацца да нашага часу…

— Дамавік, глядзі, — перабіў яго Паша, — можа, гэта і ёсць шапка. — Ён нагой спрабаваў вывернуць з пясчанага грунту нейкі камень.

Шапка знайшлася пазней і, вычышчаная ад бруду, вымытая ў ручаі, была вернута на месца. Кастусь паклаў да падножжа ідала дзве цукеркі, што заваляліся ў кішэні.

Над палянай нізка кружыў вялікі каршук.

Астатак дня пайшоў на абследаванне наваколля. Несуцяшальныя прагнозы Пашы цалкам пацвердзіліся: яны апынуліся на выспе, з усіх бакоў акружанай тванню і вадой. Варта сонейку хоць бы на хвіліну схавацца за хмарку, як незлічоныя полчышчы камароў імгненна абляплялі твары і рукі. Тужлівую карціну дапаўняла густая смуга, якая рассейвалася толькі апоўдні. На возеры кіламетраў з два-тры віднеўся невялікі астравок. Плаўсродкаў, акрамя трох надзімных матрацаў, у іх не было, пасля доўгіх дэбатаў было прынята рашэнне секчы і вязаць плыт. Намёт пераставілі далей ад прапашчай сцяны.

Ноч прайшла спакойна. Кастусю выпала дзяжурыць у самыя цяжкія перадранішнія гадзіны. Світанак выдаўся пахмурным. Ад няма чаго рабіць ён узяў парожняе вядро і падняўся на свяцілішча, вырашыўшы набраць вады не з ручая, а з каменнай ванны. Яго яшчэ ўчора днём уразіла нейкая дзіўная дагледжанасць гэтага месца. Лёгкая смуга круцілася над ідалам і святым дубам, надаючы гэтаму старажытнаму месцу яшчэ большую таямнічасць. Цукерак каля балвана не было. «Пэўна, нейкія звяркі пацягнулі, — падумаў Дамавік, выкладваючы перад ідалам кавалак хлеба. — Ну вось, хай продкі не пакінуць нас у бядзе». Зачарпнуўшы вядром вады, ён павярнуўся і аслупянеў. Перад ім стаяла прыгожая высокая маладзіца з папялістальнянымі доўгімі валасамі, схопленымі нешырокай вышытай стужкай. Правільныя рысы твару вянчалі вялізныя, пранізлівавалошкавага колеру вочы. Апранутая незнаёмка была дзіўна, такія, вышытыя нацыянальным арнаментам, блузы і спадніцы з даматканага тонкага льнянога палатна можна было ўбачыць

хіба што ў музеі або бабульчыных куфрах. Маладзіца спакойна і ласкава глядзела на яго. Раптам загаварыла, голас быў ціхім, амаль бязгучным, цягучым і салодкім, як густы ліпеньскі мёд.

— Ну, чаго ж ты забаяўся, не бойся, я цябе не з'ем, — гаварыла яна, агаляючы роўныя беласнежныя зубы.

Кастуся пачалі біць нервовыя дрыжыкі. Думкі бэрсаліся ў галаве, язык прыліп да перасохлага паднябення. Ён зрабіў два няўпэўненыя крокі да маладзіцы, бездапаможна апусціў вядро і пакорліва прыняў працягнутую яму руку. Палеся, такім дзіўным імем назвала сябе незнаёмка, увесь час нешта гаварыла. Яе гарачы шэпт прымушаў маладое сэрца выскокваць з грудзей. Святло, аббэрсанае цёплай, ранішняй смугой, пампавалася з боку ў бок. Упершыню ў жыцці Кастусь адчуваў кожнай сваёй клетачкай непадуладны розуму кліч жыцця. Падавалася, што ўсё ў прыродзе замерла і чакае ад іх нейкіх вельмі важных і патрэбных дзеянняў. Яго перапаўняла жаданне поўнай самааддачы.

Усё далейшае ён памятаў кепска, падавалася, што гэта адбывалася не з ім, а з кімсьці іншым, вельмі падобным да яго. Хрышчоная частка яго душы, не жадаючы прымаць удзелу ў паганых ігрышчах, аддзялілася ад грэшнага цела і, пакінуўшы другую, язычніцкую палову, з лёгкім асуджэннем назірала за імі зверху. Палеся гаварыла на старажытнабеларускай мове, вечнай і прыгожай, як гэтыя балоты і камяні. Працяглыя, глухія, пявучыя, злёгку гартанныя гукі Кастусь разумеў, яны напаўнялі яго нейкай асаблівай сілай, што ішла з глыбіні стагоддзяў. Палеся бессаромна і сарамліва вяла яго за сабою ўніз, да возера. Смуга, кашлатая і вечная, як біблейская барада Майсея, стаяла над вадой. З гэтай амаль містычнай субстанцыі, гатовай растварыць у сабе любы прадмет, тырчаў, калыхаючыся на лёгкай хвалі, нос выбеленага сонцам і часам чоўна.

— Пакінь тут усё жалезнае, у жыцці яго няма, і нам яно не спатрэбіцца.

Кастусь скінуў з сябе брызентавую камізэльку з дзясяткам кішэняў, набітых разнастайным паходным дабром, вялікі паляўнічы нож на шырокім афіцэрскім рамяні, гадзіннік, нейкую дробязь, запальніцу і падкаваныя вайсковыя чаравікі.

— Мы паплывём зараз з табой у смугу, ты ж гэтага хочаш, праўда? — спытала маладзіца.

Ён закатаў штаны, ступіў у цёплую ранішнюю ваду, прытрымаў лодку і, калі Палеся ў яе забралася, моцна адштурхнуўшыся, скочыў следам. Смуга расступілася, і звыклы матэрыяльны свет застаўся дзесьці там, далёка ззаду. Човен, калыхаючыся высокімі бартамі, з шыпеннем слізгаў па нябачнай вадзе. А можа, гэтае ціхае, з лёгкімі воплескамі, шыпенне нараджала зусім не вада, а сам час, які ў бялявым марыве жыў па сваіх, незразумелых для людзей законах. Смуга абарвалася раптам, як быццам расхінулася дзіўная заслона. Лодка зашасталa па пяску і заціхла. «Пэўна, гэта тая выспа, што мы бачылі ўчора днём, — падумаў Кастусь, азіраючыся вакол. — Усё-ткі я набрыдзь, нават запіскі не пакінуў хлопцам. Уяўляю, што яны падумаюць, убачыўшы на беразе мае шмоткі».

— Ідзі да мяне…

Яе голас, як выбліск святла, яркі і вабны, сцёр усе яго думкі і сумненні. Палеся стаяла ля вялікага вярбовага куста, вопратка, як пена, з якой яна выплыла, ляжала бездапаможна ля ног. Вырываючы з мясам гузікі, блытаючыся ў калашынах, ён ірвануўся насустрач расхінутым абдымкам. Смуга, выспа, увесь белы свет закруціўся і, згарнуўшыся ў слімака, згас у глухім бяздонным стогне.

Аддыхаўшыся і аднавіўшы здольнасць хоць неяк успрымаць знешні свет, яны, не адпускаючы адно аднаго, доўга плёскаліся ў чыстай, злёгку зеленаватай азёрнай вадзе.

— Хто ты? — нейкім чужым, не сваім голасам спытаў Кастусь.

— Тваё каханне.

— Адкуль ты?

— Як і ўсе людзі — з неба, я прыйшла, каб ты падоўжыў мяне ў стагоддзях. Доўгія-доўгія гады я чакала цябе, мой каханы. Я горкай слязой абмывала кароткія летнія ночы, я белаю завірухай бяліла бурштынавыя дзявоцкія косы, у дажджлівую восень лістком высыхала дубовым, увесну зацвітала з надзеяй аб будучыні хлебе… У марах мы сустракаліся з табой, мой каханы…

Над імі скрозь невядома якім цудам узніклы ў смузе прагал свяціла радаснае язычніцкае сонца. Яны выйшлі з вады і зноў зваліліся на пясок. Космас двух працілеглых і дапаўняльных пачаткаў, мудрагеліста пераплятаў іхнія целы. Ніякія чалавечыя словы не дапамогуць апісаць гэтую вечную таямніцу, хіба толькі музыка і вершы могуць уваскрасіць у нашых недасканалых душах малую крыху гэтых пачуццяў.

Час перастаў існаваць, сонца як быццам застыгла на адным месцы: згасала яно або не, Кастусь не памятаў. Палеся ціха заплакала:

— Вось і ўсё, я падоўжаная, маё жыццё ўжо б'ецца ў стагоддзях, а тваё пампуецца ў мяне пад сэрцам.

Кастусь, нічога не разумеючы, павольна гладзіў яе далікатныя валасы, якія пахлі летнім борам, сонцам і возерам, цалаваў салодкія ад слёзаў вочы.

— Праз гадзіну ты адплывеш да сваіх сяброў, і твой бяздушны жалезны свет разлучыць нас. Пройдуць адмераныя Прамаці святыя дзевяць месяцаў, і сонца ўбачыць новае жыццё. Гэта будзе дзяўчынка з тваімі шэра-сінімі вачыма, калі ёй споўніцца сямнаццаць гадоў, яна кожны год у ліпені стане з'яўляцца на гэтай схаванай балотам выспе, прыводзіць у парадак старажытнае свяцілішча і доўгія гады чакаць таго, хто, пераадолеўшы сваю вучонасць і ганарыстасць, падасць статуі творцы свету хоць бы кавалак чэрствага хлеба. Я растваруся ў вечным жыцці, калі табе споўніцца сорак тры гады, але калі б ты ні вярнуўся пасля доўгіх тулянняў на сваю родную зямлю, я буду заўсёды сустракаць цябе нябеснай драпежнай птушкай, мой каханы…

Човен слізгаў у белай цішы. Саскочыўшы на бераг, Кастусь апынуўся каля старажытнага свяцілішча. Перад ім ляжалі ягоныя рэчы, пакінутыя каля возера. Усе цягліцы прыемна нылі ад перанапружвання, з крыва пастаўленага ім на камяні вядра яшчэ не паспела выліцца ўся вада. Хлеба каля падножжа ідала не было…

Набраўшы яшчэ раз вады, ён спусціўся да намёта.

Ля вогнішча, раздзімаючы зацягнутае сівізной вуголле, сядзеў Паша…

Пасля сняданку на беразе возера яны знайшлі вялікую, выбеленую часам і сонцам лодку з вёсламі. Усе так узрадаваліся, што ніхто не заўважыў на азёрным пяску неглыбокія сляды босых дзявочых ног.

Кастусь здрыгануўся і вярнуўся да рэальнасці. Прама на яго глядзела пранізліва-блакітнымі вачыма вялікая драпежная птушка.

— Па-ле-ся! — вырваўся з горла ці то стогн, ці то крык.

Птушка, як яму здалося, вінавата ўздыхнула і, узмахнуўшы магутнымі крыламі, паляцела ў сваё вечнае, язычніцкае неба.



## МАЗУР

Мазур плакаў, непрыгожа, па-дзіцячы шырока размазваючы слёзы па запалых, даўно не голеных шчоках. Плакаў роўма, захлёбваючыся, падвываючы пракураным, сіплым голасам. Часам гэтыя працяглыя гукі жалю і бездапаможнасці, адкрытыя і бяззбройныя, як малітва, захрасалі дзесьці глыбока ў горле і ператвараліся ў нечалавечае, пульсуючае ў гартані выццё. Адгадваючы няясныя контуры надыходзячай смерці, чалавечая існасць замірала дзесьці ў глыбіні пахаладзелай душы і выпускала вонкі сваю звярыную сутнасць, якая ведала ўсё, усё разумела і, толькі не ўмеючы гаварыць, ператварала чалавечую гаворку ў старажытнае і знаёмае прыродзе галашэнне.

Калі ў перадсвітальным, вясновым, яшчэ золкім марыве з трэскам вылецелі ўваходныя дзверы яго хаты і першы спалох супаў з няўлоўным імгненнем абуджэння, Мазур зразумеў: яго сёння заб'юць.

У хату, мацюкаючыся, убеглі некалькі чалавек. Мазур спрасонку не мог разабраць іхніх твараў, толькі белыя каламутныя плямы, што вянчалі цёмныя сілуэты, нядобрымі, сабачымі галасамі патрабавалі яго. Гучна забожкала скрыпучым, старэчым голасам Аўдоцця, а ўслед за маці, агоўтаўшыся ад спалоху, загаласіла жонка. І гэты нарастальны жаночы плач дапоўнілі тры дзіцячыя, няроўныя па сіле, галасы.

— Заткніцеся, сукі, — злосна загарланіў адзін з няпрошаных гасцей знаёмым Мазуру голасам.

Грымнуў стрэл, які заглушыў усё. Падслепаваты, афарбаваны ў кроў выбух падаўся нясцерпна яркім. Куля стукнула ў столь якраз над іхнім ложкам. Зверху пасыпалася нейкая пацяруха, што пахла потам і сажай. На секунду запанавала цішыня, і толькі рэха стрэлу працягвала балюча біцца ў кантужаных барабанных перапонках.

— Выходзь, морда паліцайская, што самлеў, як баба? — злосна прахрыпеў усё той жа знаёмы голас.

Мазур сядзеў на ложку, звесіўшы натомленыя хадой кашчавыя ногі ў кароткіх белых зрэбніках з развязанымі на ноч матузамі. Ён адчуваў, як спалох, народжаны першым гучным гукам, разліваўся па целе, ператвараючыся ў гідкі, ліпкі страх. Нешта балюча стукнула па скуле, і ануча, якая пахне ягоным потам, накрыла галаву. Боль прагнаў страх, войкнуўшы, ён згроб з твару анучу — кінутыя кімсьці нагавіцы.

— Адзявайся, халуй нямецкі, і выходзь з хаты.

Мазур, не вымавіўшы ні слова, нацягнуў штаны. «Добра, што вока не выбіў, зараза», — падумаў ён, устаючы на слабыя ад страху ногі. Бабы і дзеці загаласілі з новай сілай.

Боты яму нацягнуць не далі, а перад выхадам з хаты сунулі ў рукі паношаны чорны драпавы пінжак, які, як яму падавалася, усё яшчэ захоўваў смачныя гарадскія пахі. Пінжак гэты ён атрымаў гады два назад у райцэнтры разам з вінтоўкай і белай павязкай, на якой чорнай трывалай фарбай была напісаная літара «Р». Да ўсёй гэтай амуніцыі прыкладалася папера, якая на беларускай і нямецкай мовах паведамляла, што падавец гэтага, Мазур Ігнат Харытонавіч, з'яўляецца паліцыянтам вёскі Замосце і знаходзіцца на службе акупацыйных уладаў. Паперу ён бярог, загорнутая ў чыстае тонкае радно, яна ляжала ва ўнутранай кішэні пінжака, які Ігнат паспешліва апранаў, а ў спіну ўжо падпіхвалі прыкладамі вінтовак. Ззаду ў пяць галасоў выла ягоная сям'я.

У двары ўздоўж плота стаялі чалавек дзесяць незнаёмых мужыкоў. Апранутыя па-рознаму, зарослыя, з размаітай зброяй, яны панура і абыякава глядзелі на Мазура. Збоку ад варот на вялікай дубовай калодзе, на якой калолі дровы, сядзеў чалавек з худым, чыста выгаленым тварам, у чорнай каракулевай кубанцы з чырвонай салдацкай зоркай. Па-над зялёнага колеру нямецкім фрэнчам на ім была аўчынная, фарбаваная цыбуляй камізэлька. Цёмна-сінія галіфэ з малінавым кантам, запраўленыя ў высокія хромавыя боты карычневага колеру, завяршалі ягоны незвычайны гардэроб. Ні камандзіра, ні партызанаў Мазур не ведаў. «Можа, якія нетутэйшыя», — мільганула думка.

— Таварыш камандзір, вось гэты паліцай, гэта ён заўчора ездзіў у мястэчка і даклаў, гад, пра вашых хлопцаў. Ну, пра тых ля моста, якіх немцы пastралялі.

Мазуру стала крыўдна. Ён ні да якіх немцаў ніколі не ездзіў, ні пра якіх партызанаў ля моста да ўчарашняга вечара не ведаў. Адэлькін кум, прыехаўшы з чыгуначнага раз'езду, распавёў вясковым аб тым, што мінулай ноччу партызаны замініравалі Чарняўскі мост і сядзелі ў засадзе, чакаючы вайсковы цягнік. Сядзець, відаць, было сумна, хтосьці збегаў у Чарнаўцы і прывалок бутлю самагонкі. Хлопцы на галодны страўнік напіліся і, убачыўшы нямецкую мотадрызіну, паспрабавалі падарваць міну, якая, пэўна, адсырэла або яшчэ па якіх прычынах не выбухнула. Тады Мікола, сын Ягора Кныша з Чарналесся, у сцельку п'яны, выскачыў з кустоў і стрэльнуў з вінтоўкі ў дрызіну. Немцы спынілі сваю тэхніку, а было іх чалавек дваццаць, пасаскоквалі на зямлю і перабілі партызан. Міколу, які, спатыкнуўшыся, сам скаціўся да насыпу і заснуў, скруцілі і павезлі з сабою. Мост, вядома, размініравалі і паставілі вартавых. Толькі ж партызаны тыя былі ўсе тутэйшыя, з атрада Міхася Карпавіча Затонскага, якога ўсе ў акрузе ведалі.



— Нікуды я не ездзіў, — злосна адгыркнуўся Мазур і тут жа атрымаў па мордзе.

— А ў цябе, халуйскае мурло, ніхто і не пытае!

Мазур засоп, выціраючы разбітыя вусны. Толькі цяпер да яго дайшло, што знаёмы голас належыць Шарапку — Івану Шарапчуку, былому калгаснаму рахункаводу. Івана акурат перад самай вайной забралі ў Чырвонае Войска. У Замосці ён аб'явіўся зімой сорак першага года, якраз перад Калядамі. Хадзіў па вёсцы ціхім, нейкім прыстукнутым. Трохі адляжаўшыся і паправіўшыся, Шарапка пачаў часцяком наведвацца ў мястэчка, а на Масленіцу заявіўся ў вёску разам з немцамі, якія праз перакладчыка паведамілі, што з сённяшняга дня Іван Шарапчук прызначаны старшым паліцаем іхняга паселішча і з'яўляецца паўнапраўным прадстаўніком новага парадку. Немцы прабылі ў вёсцы да абеду, трохі парабавалі і з'ехалі. Іван застаўся адзін. Дні праз два на фурманцы ў Замосце прыехалі яшчэ тры паліцаі. Людзі гэтыя былі нетутэйшыя і ў большасці сваёй п'янствавалі ў мясцовай школе, а начамі гвалцілі настаўніцу, якая, як гавораць злыя языкі, была мяшанкай і маўчала, баючыся за сябе і дваіх дзетак. Мужыка ў вучыцелькі не было, а ў вёску яе прывёз летам трыццаць дзявятага старшыня райвыканкама Іван Васільевіч Парэйка. На сёмае лістапада ў сорак другім годзе яго павесілі ў райцэнтры на вялікай старой ліпе разам з пяццю актывістамі падпольнага райкама партыі. Людзі пагаворвалі, што выдаў іх немцам Шарапка.

І вось цяпер ён, той самы Шарапка, які ўгаворваў Мазура запісацца ў паліцаі, які патрабаваў ад яго паведамляць аб усім, што дзеялася на іх канцы вёскі, гэты самы Шарапка стаяў на ягоным двары, апрануты ў доўгі чырвонаармейскі шынель, з наганам у руцэ — і вінаваціў Ігната ў нейкіх несусветных грахах. Усё Замосце ведала, што Ігнат, якога Мазурам усе з дзяцінства і звалі, не мог пакрыўдзіць не толькі чалавека або скаціну, а, бывала, спыняў калёсы і чакаў, пакуль дарогу перапаўзе шустры вуж або перабяжыць клапатлівы вожык.

— Мазур у нас божае бя, — здзекаваліся з яго мужыкі, калі ён, пачырванеўшы, моўчкі ўставаў і сыходзіў, не жадаючы слухаць іх п'янага пахабнага выхвалялння. Ягоныя аднагодкі ўжо на ўсю моц жаніхаліся, а на Купалле такое вытваралі з дзеўкамі

ў Багданавым урочышчы, што і сказаць сорамна, а Мазур усё яшчэ хадзіў нецалованым. Гадоў у пятнаццаць ён закахаўся ў Маню Аляхновіч і ўпотай сохнуў па ёй. Трэба адзначыць, што і Аляхновічыха таксама была яшчэ той цацай, з'едлівай ды непрыступнай, са шляхецкім гонарам. Хто толькі не падбіваў да яе клінні — усім ад варот паварот. Так што недалюблівалі яе і дзеўкі, і хлопцы. Летам перад вяселлем Мазуру мінуў ужо дзевятнаццаты год, заахвоціўся ён па вечарах хадзіць на Галагаеў хутар. Прысунецца асцярожна, каб стары Галагай, Манін дзед, не заўважыў, сядзе на схаваную ў кустах бэзу лаўку і з нудой гадзінамі глядзіць на падслепаватыя вокны соннай хаты. Там, за вышытымі фіранкамі, спакойна і нічога не ведаючы, спала яго адзінае зямное каханне. Чаго толькі ён не выдумляў: то вось бы хата загарэлася, а тут ён і ратуе з агню яе і ўсю радзіну; або ў цёмную і абавязкова дажджлівую ноч нападаюць на Аляхновічаў бандыты, ну і, натуральна, ён усіх пераб'е і заслужыць ейнае каханне. Потым гэтыя летуценні падаваліся яму дурасцю і дзяцінствам, а пакуль ён сядзеў у сваёй засадзе і ледзь стрымліваў слёзы крыўды і безвыходнасці. Яму было шкада сябе. Здаровы хлапец, у руках якога спорылася любая праца, ён быў аб'ектам уздыхання многіх вакольных дзяўчат. Праўда, з пісьменнасцю ў яго былі нелады. Дый як ім было не быць, калі бацька, даведаўшыся, што савецкая ўлада забараніла Закон Божы, забраў яго са школы са словамі: «Чытаць, пісаць крыху, сыночак, умееш, і досыць! Працаваць трэба». Але ўсё гэта было даўно, а цяпер ён сядзеў як пень у бэзе і пакутаваў. Раптам Мазур здранцвеў ад нечаканасці, ззаду асцярожныя і далікатныя далоні кранулі ягоны твар. Не паварочваючыся, ён згроб гэтыя тонкія, прахалодныя, з пахам летняй травы пальцы і прытуліўся да іх вуснамі.

— Ну чаго ты, дурненькі, томішся сам і мяне ўжо які год сушыш? — далікатна гладзячы яго па галаве, спытала Маня, апускаючыся побач з ім на лаўку.

Яны доўга, да болю ў вуснах цалаваліся. Свет кружыўся, а два сэрцы біліся, як дзве буйныя рыбіны на плыткаводдзі.

Ночы ляцелі, як хвіліны. Надыхаўшыся саладосцю дзявоцкіх вуснаў, Мазур днём араў як двухжыльны. Тады жывы яшчэ бацька, па-добраму гледзячы на сына, імкнуўся ў абедзенную спёку, калі ўсё ў акрузе замірала і паветраператваралася ў ліпкі цягкі нектар з горкім дамешкам прычаўрэлай травы, даўжэй яго не будзіць. Аднойчы яны сушылі сена на сваёй дзялянцы ля Кацерлавага віру, Ігнат, з цяжкасцю выбраўшыся з пасляабедзеннага сну, кінуўся да выратавальнай рэчкі. Скінуўшы штаны, ён моцна адштурхнуўся ад пясчанага берага і нырнуў у празрыстую прахалодную ваду. Ужо ўсплываючы, размружыў павекі. Злёгку зеленкаваты падводны свет з мільярдамі маленечкіх паветраных бурбалак, таямнічыя водарасці, якія паднімаюцца з цёмнай глыбіні і хіляцца ў бок плыні, пранырлівыя печкуры на жоўтым пяску — усё гэта адкрылася ягонаму позірку. «Чаму людзі не ўмеюць жыць пад вадой?» — падумаў Мазур і падняў галаву насустрач надыходзячаму сонцу. Прама перад ім хутка рухаліся ўверх-уніз доўгія дзявочыя ногі, акружаныя асляпляльнымі бурбалкамі, праплывалі белыя з карычневымі плямамі саскоў грудзі, падцягнуты жывот, прыгожыя загарэлыя рукі. Ігнат ад здзіўлення і нечаканасці ледзь не захлынуўся. Ён коркам выскачыў з вады: перад ім на водмелі, закрываючы левай рукой грудзі, а правай — ніз жывата, стаяла спалоханая Маня. Пазнаўшы Мазура, яна піскнула і, павярнуўшыся да яго спіной, пабегла да берага. Ігнат як зачараваны глядзеў ёй услед. Маня няспешна адціснула валасы, апранула на мокрае цела сарафан і павярнулася да яго. Іх падзялялі метры з тры неглыбокай, прагрэтай сонцам вады. Гарэзная ўсмешка павольна спаўзла з твару маладзіцы, вочы напоўніліся цікаўнасцю, змяшанай з сорамам і яшчэ нейкім пакуль не вядомым, але вельмі трапяткім пачуццём. Ігнат перахапіў гэты погляд, апусціў уніз вочы і, убачыўшы сваю паўсталую мужчынскую годнасць, з дзікім стогнам кінуўся назад у раку.

Наступная ноч стала першай і паклала пачатак адліку іхняга агульнага жыцця. Ужо пасля вяселля і пасля нараджэння траіх дзяцей і зачацця чацвёртага зноў і зноў ён успамінаў той першы салодкі чароўны туман.

Адкінуўшы здранцвенне, Мазур памкнуўся да камандзіра:

— Таварыш начальнік, так гэта ж Шарапка і ўгаварыў мяне пайсці ў паліцаі, ён жа сам старшы паліцай у нашай дзярэўні. Вы, таварыш, спытайце ў любога, вам усі скажуць. Ну які я паліцай? Так, адзін выгляд, я ж і партызанам дапамагаю. У мяне там пад печкай і паперкі ёсць, — раптам Мазур асёкся і замоўк. — «Загубіў ты сябе, дурань! Не партызаны яны…»

— Што ж ты, здраднік, замоўк? — з'едліва ўсміхаючыся, спытаў камандзір.

«Не, не партызаны», — глуха забілася ў Мазура ў скронях кроў.

— Сыч, давай-ка, памацай у яго пад печчу, — цяпер ужо па-руску гучна крыкнуў камандзір.

«А халера іх тут разбярэш», — падумаў Ігнат і атрымаў удар пад дых.

Мазура білі нагамі. Ён не крычаў, толькі выгінаўся, як вуж, спрабуючы закрыць то твар, то ніз жывата, але хутка, атупеўшы ад болю, скурчыўся ў камяк і скамянеў.

Сонца ўжо ўстала. Вакол Мазуравага двара сабраліся суседзі. Бабы напаўголаса плакалі, мужыкоў амаль не было, а тыя, хто прыйшоў, стаялі ўдалечыні, моўчкі курылі, сплёўваючы сабе пад ногі. Відаць, ні ў кога не было жадання ўмешвацца ў чужую бяду, ды і што б дало тое ўмяшанне, акрамя новай бяды.

— Вось, гаспа… таварыш камандзір, у падпеччы, у самым куту знайшоў, — абарваўшыся было на паўслове, атрасаючы са штаноў пыл, дагодліва забалбатаў сярэдніх гадоў мужчынка ў куртатай целагрэйцы.— Паглядзіце, тут і грошы ёсць, і паперкі нейкія.

— Дай сюды, прыдурак, — злосна гыркнуў на падначаленага чалавек, які сядзеў на калодзе, і з сілай тузануў з брудных рук круглую бляшаную скрынку з-пад ледзяшоў. Не гледзячы на змесціва, начальнік не спяшаючыся засунуў яе ў кішэню камізэлькі і абыякава кінуў:

— Хопіць з яго, і так ужо відаць, што бандыт, і нашым і вашым, сабака, умудраўся служыць. Дзе яго зброя?

Вінтоўку шукалі па ўсёй вёсцы. Тыдні тры назад Мазур аддаў яе Трафіму, які збіраўся схадзіць на паляванне, а той, у сваю чаргу, пакінуў зброю Мазураваму цесцю. Дзед агоўтаў поруч з лесам агарод, пасадзіў бульбачку і цяпер начамі вартаваў, каб дзікія кабаны не з’елі ягоны ўраджай.

Прынеслі старэнькую трохлінейку і дзве абоймы з патронамі. Няшчаснага паднялі з зямлі, паставілі на калені і доўга нешта крычалі аб здрадзе Радзіме. Галава гула, Мазур слаба разумеў сэнс істэрычнага ляманту начальніка партызанаў або хрэн яго ведае каго. Ігнат усведамляў, што ніколі не меў ніякай справы ні да якой Радзімы, як і гэтая самая Радзіма ніколі нічога не давала ні яму, ні яго сям’і. У палітыцы ён не разбіраўся, у войску не служыў, з вёскі не выязджаў ні разу, жыў сваім розумам, араў сабе зямлю, сеяў хлеб, гадаваў дзяцей, як умеў кахаў Маню, на чужое не квапіўся, у Бога не тое каб не верыў, а так, ведаў, што Ён ёсць, і асабліва імкнуўся не дакучаць сваімі просьбамі або скаргамі, ну хіба калі ўжо зусім дапячэ. У паліцаі пайшоў не па Шарапкіных угаворах, хоць і яны таксама былі. Неяк увосень, яшчэ ў пачатку вайны, ноччу ў яго хату зайшлі трое. У адным ён прызнаў Івана Васільевіча Парэйку, далёкая радзіна якога жыла ў вёсцы. У юныя гады будучы валасным начальнікам, спрабаваў беспаспяхова заляцацца да Мані. Можа, мінулыя пачуцці, а можа, восеньскі дождж, але нешта прывяло яго са спадарожнікамі да Мазура. Хутка накрылі на стол. Ігнат выставіў паўтаралітровую бутэльку самагонкі. Пасядзелі, пагаварылі. Ужо сыходзячы, Іван Васільевіч адазваў гаспадара ўбок і папрасіў дапамагчы ягоным людзям. «Дарма табой рызыкаваць не будзем, вунь, колькі на лавах сядзяць. Галоўнае, маўчы аб нашай дамоўленасці, ты ж у нас аднаасобнік, гэта цяпер і добра. Нібыта як і з савецкай уладай не згодным быў, так што дапамагай свайму народу. Прыйдзе час, усё залічыцца».



Людзі з лесу прыходзілі сапраўды не часта. Калі Шарапка прыстаў, як мокры ліст, са сваім паліцайствам, Ігнат папрасіў у Івана Васільевіча парады. Разам вырашылі, што так будзе нават бяспечней. І ўсё б добра, але з сорак трэцяга, калі супраціў народных мсціўцаў адужэў і ў вёску пачалі заходзіць партызаны з іншых атрадаў, Мазуру стала цяжка. Парэйка загінуў, ды і цяжка было нешта растлумачыць чужым, часцяком не зусім цвярозым, узлаваным людзям. Партызаны ж былі рознымі, некаторыя, заскочыўшы ў хату, перш за ўсё пачыналі трыбушыць куфры, патрабаваць сала, самагонкі і цягнуць маладух у адрыны. Мазур ад партызанаў не хаваўся, аднавяскоўцы — у многіх сваякі былі ў лясах — пра ягонае паліцайства маўчалі. Шарапка, мабыць, адчуваючы, што за Парэйку з ім разбяруцца, збег у мястэчка. Немцы ў іхняй глухамані ўжо з год не з’яўляліся, так што жылі яны з Маняй, можна сказаць, спакойна. Ігнат, праўда, моцна хваляваўся, калі хто-небудзь з залётных, добра перакусіўшы, прымушаў стрыножыць авечку або зводзіў з двара цёлку. Тыдзень ён хадзіў нелюдзімым, цяжка ўздыхаў, аб чымсьці сам з сабою размаўляў, падоўгу таптаўся ў хляве, як раззлаваны кот, пырхаў на Маню, тая паблажліва ўсміхалася: «Ты вось пачакай, саветы вернуцца, наогул скаціну забяруць, і застанемся мы з аднымі курамі. Кінь ты ўсё і не рві сабе душу, дурань ты мой, дурань». Жонка была ўжо на восьмым месяцы, і Мазур, паўздыхаўшы яшчэ дзеля парадку, падсаджваўся да яе і прыкладваў сваю, ужо сіваватую, галаву да вялікага, налітага жывата. Ён уважліва ўслухваўся ў дзіўныя, ціхія гукі, якія жывуць усярэдзіне Мані. Ён чакаў з нечалавечай, звярынай ласкай, калі адтуль, з глыбіні яго каханай жанчыны хтосьці яшчэ нябачны і незнаёмы асцярожна пхне яго ў няголеную шчаку. Па гэтых таямнічых штуршках ён спрабаваў адгадаць, хто, прызнаўшы ў ім свайго, хутка з’явіцца на свет. У Мазура было двое сыноў

і дачка, цяпер, у адрозненне ад Мані, ён чакаў дзяўчынку. Яна яму нават снілася, такой жа прыгожай і таямнічай, як яе маці ў той летняй і шчаслівай рацэ…

Стоячы на каленах, Мазур бачыў толькі карычневыя боты партызанскага камандзіра. Каля левага падратага носа дыміўся недакурак прытарнай нямецкай цыгарэты. Шызы дымок, плоскай вузкай стужкай выгінаючыся, як змяя, цягнуўся ўверх, раздвойваўся і, павольна вібруючы, раставаў у цёплым паветры набіраючага сілу дня.

Стрэлу Мазур не чуў, толькі неяк па-дзіцячы войкнуў і ўзняў да высокага бясхмарнага неба поўныя слёзаў і здзіўлення вочы.

Спалоханыя стрэлам буслы зняліся з вялікага кола, якое Мазур з сынамі перад Вялікаднем прымайстраваў на бярозе, і закруціліся над асірацелай хатай.

Мазур ускочыў з ложка, астаткі немарасцевага сну яшчэ луналі ў сонным паветры іх гарадской кватэры. «Чартаўня нейкая», — падумаў ён, асцярожна косячыся на Рыту, якая мірна сапела побач, як быццам гэты дзіўны сон мог абудзіць і напалохаць яго цяжарную жонку.

Ігнат, якога так назвалі ў гонар дзеда, забітага пераапранутымі ў партызан паліцаямі, пацягнуўся, каб выключыць начнік. Раптам на вялізным Рыціным жываце нарадзіўся маленечкі грудок, адтапырваючы тонкую тканіну начной кашулі, ён зрабіў паўкола і заціх, спыніўшыся ля самай вяршыні. Хтосьці новы, незнаёмы, але ўжо да болю любімы, прызнаючы ў ім свайго, спрабаваў нешта сказаць Мазуру.

Памяць часта падносіць нам дзіўныя неспадзеўкі.

За акном у перадсвітальным, вясновым, яшчэ золкім марыве нараджаўся новы дзень. Высока над горадам ляцелі буслы — вялікія моцныя птушкі, якія, па народным мудрым разуменні, са старажытных часоў прыносяць у нашыя дамы шчасце. Хто ад каго залежыць у гэтым свеце — мы ад птушак ці птушкі ад нас? І хто ведае, дзе заканчваецца сон ды пачынаецца ява і куды разам з намі цячэ няўлоўны час?



## ПАРА! ПАРА!

Бяда, як і шчасце, прыходзіць нечакана. Стары Трафім абыякава глядзеў на маскоўскіх стральцоў, якія аблюбавалі яго дом для сваіх штоночных папоек і цяпер згрудзіліся вакол шырокага стала. Падслепаватыя каганцы і тоўстая васковая свечка, прыладжаная пасярод стала, абстаўленага рознакалібернымі бутлямі, чаркамі і небагатай ежай, толькі злёгку асвятлялі твары. Калматыя, барадатыя, у дзіўных, падобных на бабскую адзежу, халатах чужынцы адкідвалі на сцены доўгія страшныя цені.

«Як чэрці павылазілі з апраметнай, — ахінуўшы сябе хросным знакам, падумаў Трафім, загортваючыся ў доўгі залатаны авечы кажух. — І калі ж ты, Гасподзь, звядзеш гэту пошасць з зямелькі нашай? Амаль сёмы год няма супакою. Вунь людзі баюць, што за сценамі горада ні сялян, ні жылля, ні быдла на дзясяткі вёрстаў не адшукаеш. Сабакі здзічэлыя гойсаюць, ды крумкачы па папялішчах косткі людскія носяць. Божа, Божа, за што ж мне ўсё гэта бачыць наканавана і трываць? Учорась вечарам стругі прыплылі з-пад Шклова. Стральцы і чаркесы ўсцешыліся, кінуліся да Дняпра: думалі, пехацінцы царскія падаспелі, аж не — у ладдзях свінец, ядры, пораху крыху, а астатняе ўсё — палонныя, палонныя. Падняпроўе ўсё ўжо даўно спусцела, дык яны цяпер гарадзенскіх, віленскіх і полацкіх людзей ловяць, як звяр’ё, дзясяткамі вяроўкамі вяжуць і — у стругі, у стругі, а ад нас па гасцінцы на Мсціслаў, Смаленск і далей, у бязмежную Масковію. Вязняў гоняць па дарогах, як скаціну, хворых і нямоглых кідаюць у прыдарожных канавах здыхаць. А адзінаверцы ж, праваслаўнымі сябе называюць, у цэрквы ходзяць, каюцца, прычашчаюцца. — Трафім уздыхнуў. — Ох, грахі, грахі нашыя, колькі гэта яшчэ будзе доўжыцца?» — стары павярнуўся да сцяны і, не адчуўшы цяпла ў сваім высушаным працай і часам целе, пагрузіўся ў чулую дрымоту.

Трафімаў дом быў прасторны і відны, на высокім каменным падмурку, які ўзвёў яго прапрадзед, а можа і хтосьці з яшчэ далейшых продкаў, — цяпер хіба згадаеш? Род іх, як гаварылася ў сямейным паданні, ужо стагоддзі з два займаўся зброевым рамяством, а праз тое меў павагу ў людзей і добры дастатак. Дом ганарліва стаяў напачатку вуліцы, якая паката ўздымалася да цэнтра горада ад Ветранай вежы. На першым каменным паверсе і ў глыбокіх склепах былі збройніцы-майстэрні, невялікая кузня, кладоўкі, сляпыя каморкі працаўнікоў. Адмысловым гонарам гаспадароў было прасторнае склепавае памяшканне з шырокім

дубовым сталом пасярэдзіне, што служыў і для арцельнай работы, і для цэхавых трапез, тут жа, у куце, была складзена з дзікага каменю велізарная печ, якая мела, апроч кузні, свае мяхі. Нешырокія спічастыя вокны давалі досыць святла, а ў выпадку ліха служылі нядрэннымі байніцамі. Да прыходу маскавітаў гаспадарка Трафіма лічылася заможнай, а сам ён як таварыш майстра зброевага цэха быў вядомым месцічам і не раз выбіраўся лаўнікам пры магістраце.

Дзецьмі іх Бог не пакрыўдзіў, паслаўшы чатырох сыноў і пяцёра дачок. Два сыны і тры дочкі жылі асобна, перадапошні, Бронька, папёр у дурства, не стаў вучыцца сямейнаму рамяству, а з дзяцінства здружыўся з кніжкамі, перайшоў у унію і падаўся ў далёкую Еўропу вучыцца аж у саміх універсітэтах. Па рэдкіх лістах ды пераказах знаёмцаў выходзіла, што выбіўся Браніслаў у людзі, важнай птушкай стаў — і служыць сягоння ледзь ці не пры самім гетмане Сапегу. Астатнія сыны, два зяці і пяць унукаў усе пры радавой справе засталіся. І ўсё б добра, калі б не вайна. У былыя ж часы любая баталія толькі прыбытак у дом несла, а цяперашняя ўсё падчыстую вымела і па белым свеце раскідала. Няма ні дастатку, ні сямейнікаў, ды і самога дома, бадай, няма, верхняя драўляная частка амаль выгарэла яшчэ напачатку вайны, калі Магілёў, які здаўся без бою, рабавалі наваяўленыя вызваліцелі.

Цар Аляксей Міхайлавіч якіх толькі выгодаў месцічам за добраахвотную здачу фартыфікацыі не прапаноўваў, а як толькі Магілёў браму адчыніў, паддаўшыся і царскім абяцанкам, і ўгаворам папоў, і падмётным лістам шалапутнага Касцяна Паклонскага, дык ужо ўсяго спаўна сербануў. Бадай, за год застаўся Трафім адзін. Старэйшага ўнука і аднаго з зяцёў звёў пад Чавусы ў казакі ўсё той жа Паклонскі, якога Масква ўмасціла чынам палкоўніка і якому за здраду аддала ў валоданне амаль усё наваколле. А месяцы праз чатыры і зусім бяда грымнула, бяда ж па адной не ходзіць. Пакуль Трафім адлучаўся па справах да кума ў Шклоў, маскавіты з татарамі ўшчэнт абрабавалі дом, а ўсю сям'ю з бабамі і малымі дзеткамі вывелі кудысь пад Яраслаўль у рабства. Ці бачыш ты: Русі вялікай надта майстравыя патрэбныя! Балазе суседзі дом датушыць паспелі, хоць каму ён цяпер патрэбны, дом гэты? Кінуўся было агаломшаны стары да япіскапа Ермалая, заступніка і апошняй надзеі, тым больш, што для ўладыкі ён быў не апошнім чалавекам. Колькі ад сябе ды і ад усяго цэха ён у архірэйскія пакоі дабра і грошай перанасіў! Ды куды там! Назваў яго правялебнейшы «літоўскім



чалавекам» і параіў ісці з чалабітнай да ваяводы Войкава, а то і да самога Шарамецьева, маўляў, абодва будуць сёння на абедні. Не атрымалася з чалабітнай: ні ў храм, ні ў якое іншае месца, дзе бывалі ваяводы, яго не пусцілі, а гналі сілком з мацюгамі ды кухталямі.

Паступова звыкся Трафім са сваёй бядой ды яшчэ і Богу дзякаваў, што дачок ды ўнукаў у палон звялі. Можа, яны там хоць неяк у жыцці ўладкуюцца — усё ж лепш, чым трываць гвалт ад п'янай салдатні і казакаў Залатарэнкі. Ліха на іх! А маскалі лютавалі, асабліва калі ім хто хвост прышчамляў. Пасля іх зверстваў душу раздзіралі сумневы: ці людзі гэта? Ці Божае аблічча носяць на сабе? А самым цяжкім было стаяць з імі ў царкве і глядзець, як яны замілавана каюцца, замольваючы сваю нялюдскасць. Некаторыя прама перад царквой рукі ад крыві снегам абцяруць — і на абедню, ды яшчэ і да Чашы наравяць першымі падысці. Гады з тры ўжо Трафім у царкву не хадзіў. Тут, у сябе ў склепе, бажніцу збудаваў і маліўся, нібы раскольнік які.

З год як панадзіліся да яго на пажарышча хадзіць п'янстваваць стральцы. Спачатку страшна было, ды сцярпеўся. Так ужо ўладкаваны, відаць, чалавек, што да ўсяго прывыкае, і як бы дрэнна ні было, страх ад таго, што можа быць яшчэ горш, прымушае трываць нетрывальнае. Здзічэлыя, нямытыя і заўсёдна п'яныя ваякі не звярталі на яго ніякай увагі, толькі часам піхалі палкамі і гналі распальваць печ, балазе дровы ўсё яшчэ былі побач, на другім паверсе. Затое раніцай, калі няпрошаныя госці выбіраліся прэч, на стале заставаліся аб'едзіны, а то і пару глыткоў выпіўкі. Старому гэтага хапала.

Трафім пачуў, як завыла ў коміне і гучна загрукала напаўадарваная аканіца. Першая лютаўская ноч выдалася марознай і ветранай. Не чакаючы кухталёў ад гагатуноў-ратнікаў, стары вылез са сваёй нары і, шорхаючы стаптанымі буркамі, паплёўся па дровы.

«Ну, пачакайце, будзе вам хутка, о-ой будзе!», — падумаў і спалохаўся: а што, калі праклятыя пачуюць яго думкі.

Дровы заняліся хутка і весела затрашчалі ў астылай печцы.

— Гэй, польскае быдла, падзі сюды, — павярнуўшыся да яго, пазваў маладзенькі стралец, відаць, з нядаўна прыбылых. Бачачы, што стары ніяк не рэагуе на яго загад, хлапчына, гучна ікнуўшы, пачаў выбірацца з-за стала.

— Суніміся, галуба, стары глухі, ды і не паляк ён! — пляснуўшы напарніка па плячы і ўсаджваючы на месца, прамовіў служака Арэфій, які гады з чатыры невылазна служыў у крэпасці

і, відаць, з гэтым ужо звыкся. Часам, напіўшыся, ён плакаўся Трафіму на сваю горкую долю і прасіў пахаваць па-людску, калі яго заб'юць у гэтым чужым і не патрэбным яму горадзе.

— А хто ж ён? — працягваючы ікаць і ўсё яшчэ косячыся на старога, здзівіўся навабранец.

— Літвін, такі ж праваслаўны чалавек, як і мы з табой.

— Як праваслаўны? Бацюшка нам у Смаленску казаў, што яны ж усе каталікі і жыды, а сапраўдныя хрысціяне ёсць толькі мы, маскоўскія…

— Ды кінь ты яго, — перабіў навабранца старажыл, — збрахаў твой поп! Давайце-ка, дружа, лепш вып'ем! Пагана на душы, ой, братцы, пагана. Штось не так, не так, чуе маё нутро. Здаецца, здрада царовым людзям спее. Ужо занадта рахманымі апошнім часам зрабіліся гараджане, нават завадатары ў астрогу буяніць перасталі. Не на добрае гэта, эх, не на добрае.

— Досыць каркаць, Арэфа! Зацішша на вайне. Войска вялікага паблізу нямашака, хіба што шышы па лясах гарэзяць, дык яны ў горад не сунуцца. Куды ім з іх рагацінамі! А мяшчане прыцішэлі, дый іх, здэцца, ужо і не засталося ў горадзе, пасеклі ды і павыводзілі. Дык нечага тут дарэмшчыну гнаць. Як яно там, на Русі? Вось адседзімся да вясны, а там і дадому, мажа, адпусцяць хоць на месячышка. Вось за энта давайце, братцы, і вып'ем.

Трафім ад пачутага ледзь было не ссунуўся ў агонь. «Няўжо хто з месцічаў пратрапаўся? Калі так, ох і бяда будзе, лютай будзе бяда», — асцярожна зірнуўшы на балёўнікаў, стары нічога асаблівага ў іх паводзінах не заўважыў. П'яныя як п'яныя. Падкінуўшы пару паленаў, ён паплёўся ў свой закуток. Загарнуўшыся ў аўчыну, пачаў уважліва ўслухоўвацца ў хмельную гутарку, а ў галаве круцілася і круцілася адна і тая ж думка: «Вядома, цяжкая штука — такое доўга трымаць у сакрэце, усякаму платок на раток не накінеш, ды і розуму свайго не прышыеш. Амаль усе дарослыя месцічы ўжо з месяц ведалі, што дзясятага лютага па закліку бурмістра Левановіча належыць расквітацца з маскоўскім гарнізонам. Зачыніць браму і падняць над ратушай сцяг Вялікага Княства Літоўскага. А там будзь што будзе — ужо лепш, чым спакойна чакаць, пакуль цябе зарэжуць як барана ці як пакорлівае быдла адвядуць у рабства».

Трафім быў адным з завадатараў гэтай рызыкоўнай справы, і п'яныя страхі стральца не на жарт яго ўстрывожылі.

«Трэба б раніцай перамовіцца з Язэпам ды з надзейнымі сябрамі. Упускаць такога шанцу нельга. На шаленства нашыя памяркоўныя рашаюцца рэдка, а калі рашаюцца, то зваротнага ходу не даюць», — стары асцярожна рассунуў дошкі свайго лежака і намацаў прахалодны тронак цяжкай баявой сякеры, надзейнай і вернай зброі, якая паступова выцясняецца мушкетамі і ручніцамі. Блізкасць зброі супакойвала, сэрца загрукала раўней і, як яму здалося, не так гучна. Неўзаметку прыйшла і хісткая дрымота.



Стральцы так упіліся, што нават не пайшлі раніцай на вежу дэманстраваць начальству сваю службовую стараннасць. Трафім спяшаўся падзяліцца сваімі засцярогамі з таварышамі. Схаваўшы пад адзежай кароткі корт, ён з пагардай абышоў прыснулых вакол печы ваякаў, спыніўся ля згрувашчаных у куце стрэльбаў. Сцярожка азірнуўся, і раптам быццам штосьці знутры яго піхнула. Стары нагнуўся да зброі і прафесійна, як і належыць майстру-збройніку, выпстрыкнуў з замкоў крэмніі. Хвілю падумаўшы, ён сунуў пяць абцягнутых у метал каменьчыкаў у печ — збоку ад агня. Дасведчаныя рэйтары часта ўвосень ці зімой выцягвалі са сваіх мушкетаў крэсіва і клалі ў сухое месца — каб падсохла. Так што калі хопяцца і накінуцца на яго, можна будзе паказаць і як-небудзь адкруціцца. Дзед яшчэ раз зірнуў на ворагаў і выйшаў вонкі.

Раніца выдалася найзіхоткай. Застуджанае ветрам сонца здавалася крывава-чырвоным, як на змярканні, і з відавочнай неахвотай вылазіла на неба са сваёй задняпроўскай марознай далечы. Апусцелы горад пачынаў патроху ажываць. У цэрквах дзячкі забілі ў біты. Званы, гонар мясцовых вернікаў, «вызваліцелі» даўно ўжо паздымалі са званіцаў і парасцягвалі па сваіх надзелах. Крыху збоку выбітымі вокнамі змрочна глядзеў на белы свет абадраны касцёл, далей, у глыбіні, сярод невысокіх хацінак абкурадымленымі руінамі грувасцілася сінагога. Габрэяў у горадзе не засталося ні душы. З дзясятак пахрысцілі, ды і тых пасля татары кудысь звялі, а астатніх, з дзецьмі і пажыткам, са згоды месцічаў выперлі за гарадскія сцены, а дзесьці ў пячорскіх лясах іх усіх да аднаго парэзалі запарожцы. Грэх цёмнай плямай лёг тады на душы многіх магілёўцаў.

Трафім шкандыбаў па родным горадзе. Ён любіў свой кут, ведаў яго з усіх бакоў. У горада, як і ў чалавека, ёсць у жыцці і дрэннае і добрае, ёсць і сваё патаемнае, а часам і ганебнае, глыбока схаванае і не ўсякаму бачнае. Людскі погалас менавіта яго далёкаму продку прыпісвае хітрасць з замкавымі сценамі. Люд вакольны здаўна быў цалкам майстравым, аддаваў перавагу гандлю, а не вайне. Спакон нават беднякі ў Магілёве ў лапцях не хадзілі — хоць у худой, але ў скуры шыбавалі Трафімавы землякі

па грэшнай зямлі. Ад ліха наравілі адкупіцца, у магістраце нават адмысловы куфар з хабарам меўся. А са сценамі — Трафім усміхнуўся ў доўгія, абвіслыя, ужо схопленыя густым інеем вусы — пацешная выйшла гісторыя.

Цяпер ужо толкам ніхто і не ўспомніць, калі гэта было, можа, пры Баторыі, а можа, і раней, аднак надышоў час ладзіць новыя сцены. Старыя і пагнілі, і ворагамі пабітыя, сорам, словам, а не гарадская фартэцыя. Доўга ў магістраце раіліся-спрачаліся: з чаго, а галоўнае, за якія такія грошы ўсю работу выканаць. Вось тады яго продак са сваім сябруком і кумам, мясцовым ганчаром, узяліся за месяц абнавіць палову галоўнай сцяны, што над Дняпром ішла. Радцы пагалёкалі-пагалёкалі, але грошай далі, прыстрашыўшы, што калі не выканаюць зарок, утрая з іх спагоняць. Кум з кумам нанялі талаку, рассялілі яе за сцяной і задумалі працу, якая кіпела і дні, і ночы. Што яны там тварылі, месцічам было невядома, але гліны і камянёў плоскіх вазілася ўдосталь, а да канца тэрміна па начах на сцяне пачалі салому і галлё паліць. Напачатку народ палохаўся, у звон біў, ці жарт: полымя над горадам стаіць. Па ваколіцы чуткі папаўзлі ліхія, што над Магілёвам нейкія невядомыя сілы па начах агні паляць і душы хрысціянскія губяць. Тут ужо не да жартаў, а кум з кумам толькі ўсміхаюцца ды народ на сцены ні з аднаго, ні з другога боку не пускаюць.

Аднак прыйшоў час паказваць зробленае. Месцічам, хто хацеў, прапанавалі спусціцца ўніз, да Дняпра, а ўвесь магістрат на чале з бурмістрам размясцілі на вялікай ладдзі і перавезлі ажно на Лупалаўскі бераг. Падалі майстры каманду, зваліліся лядачыя рыштаванні і кволыя памосты, і адкрылася ўсім выдатная белая сцяна непрыступнай цвержы. Загудзеў народ, зажагнаўся, укленчыў. Папы пра д'яблавоціну загундосілі, а кумаўі-паплечнікі стаяць ды ўсміхаюцца. Магістрат запатрабаваў тут жа на сцяну ісці. Пайшлі малым кругам, япіскапа з ксяндзом прыхапілі. Аказалася, майстры старую сцяну падлаталі, знадворку глінай абмазалі, плоскія камяні ў яе для выгляду ўмуравалі, абпалілі, як гаршчок, а зверху вапнай пабялілі. Вось і выйшла што ні на ёсць першакласная цытадэль. Параіліся гарадскія старэйшыны і вырашылі: далей такім жа чынам абнаўляць сцены, пакуль у казне грошай на сапраўдныя не назапасіцца. Духавенства паведаміла народу, што не д'ябальская гэта справа, а промысел Божы, які і беражэ места нашае.

Колькі тыя сцены прастаялі, якія беды сваім выглядам адпудзілі, аднаму Богу вядома.



«Чагой-та гэтая старая байка мне ўзгадалася? Былі б унукі дома, ім бы распавядаў, а то вось сам сабе, як прыдуркаваты, байкі баю, — Трафім спыніўся ля карчмы, што насуплена стаяла на рынкавым пляцы. Рэдкія гандляркі, прытоптваючы на марозіку, раскладвалі свае тавары, у асноўным ежу і саленні. — Так, змізарнеў рынак, як і ўвесь наш падняпроўскі край!» — і дзед, з прыкрасцю піхнуўшы дзверы, увайшоў у некалі самую вядомую ў горадзе піцейную ўстанову.

У кожнай рэчы, у кожным доме жыве нейкая невядомая сіла, што ідзе ад іх гаспадара. Трафім гэта добра ведаў па сваёй майстэрні: абрабаваная, апаскуджаная маскавітамі, яна працягвала жыць сваім ранейшым жыццём, толькі стаілася, ці што. А вось прасторная Лейбавая карчма пасля смерці гаспадара пазбавілася гэтай сілы і дажывала свой век непрыкаянай цагельняй, як ні намагаўся даць ёй новае жыццё Яўген, шустры невялічкі чалавек з прышлых. У карчме было чадна і накурана. Салдатні раніцай тут ніколі не бывала, таму змоўшчыкі аблюбавалі гэтае месца для сваіх кароткіх сустрэч. Калі Трафім выплыў з белай марознай пары, людзі за сталом павярнуліся да яго, а бурмістр Язэп Левандовіч, датуль штось гугнеўшы, замоўк і прысеў.

— Дык гэта ж Трафім… Заходзь, браце, якія ў цябе весткі? — падаў голас Рыгор Аскоўскі, пасоўваючыся на лаве. — Ідзі ўжо, садзіся сюды.

— Пан Бог у хату! — прывітаўся з усімі збройнік і прысеў ля Рыгора, папярэдне скінуўшы з сябе драную аўчыну.

— Бурмістр асцерагаецца, як бы наша задума раней тэрміну не раскрылася, — патлумачыў Трафіму сусед.

— Вось і я пра тое ж спяшаўся вам распавесці, — узняўшыся, пачаў стары. — Сёння ў мяне зноў стральцы пілі…

— Ды каб яны ад гэтай гарэлкі сінім агнём згарэлі! — стукнуў са злосцю кулаком па стале Сымон-шорнік, у якога тыдні з два назад абпітыя стральцы на пацеху згвалцілі старую цешчу, і тая, не сцярпеўшы ганьбы, павесілася ў лазні.

— Трымайся, Сымон, нядоўга ўжо засталося, — паспрабаваў хтосьці супакоіць гарбара.

— Ну і што там стральцы? — спытаў Левантовіч.

— Ды нічога асаблівага, толькі вось стары Арэфа па п'яні пачаў балбатаць аб тым, што нешта няладнае задумваецца ў горадзе, маўляў, чуе ён гэта сваім паганым нутром, што вельмі ўжо мы ціхімі сталі, а вязні і тыя буяніць ды хлеба патрабаваць пераста…

У гэту секунду Трафімаў аповед перапыніў страшны, немы жаночы крык. Народ, ускочыўшы з месцаў, кінуўся да дзвярэй і высыпаў на пляц. Амаль насупраць карчмы, на ўтаптаным снезе маладая баба, па-звярынаму выючы, спрабавала скрываўленымі рукамі запіхнуць назад у сябе вываленыя вонкі ўнутранасці і яшчэ штосьці, што варушыцца ў празрыстым шэрым пухіры. Побач стаяў здаравенны стралец у брудна-чырвоным каптане і выціраў крывую арабскую шаблю аб закарэлы падол. Пухір лопнуў, і, перакрываючы ўвесь гвалт, на марозным лютаўскім пляцы закрычала дзіця. І гэты крык заўчаснага жыцця перапоўніў чару людскога цярпення!

Пабялелы Левантовіч ледзь чутна прашаптаў умоўленыя словы: «Пара! Пара!».

У хуткім часе гэтае слова, загудзеўшы грозным набатам, абляцела-абудзіла горад; гарадскі галава, як заведзены, бегаў па вуліцах з доўгім недарэчным мячом у руцэ і ўсё выкрыкваў асіплым голасам адно адзінае слова: «Пара! Пара! Пара!».

Па загадзя вызначаным плане Трафіму належала ісці да арсенала, каб дапамагчы народу разабрацца са зброяй. Іншыя павінны былі бегчы да турмы, каб перабіць варту і выпусціць палонных, сярод якіх было нямала ваяўнічай шляхты. Горад кіпеў.

— Трафім! Трафім! Ды не круці ты галавой, тута я. Ідзі, памажы. — Не адразу стары збройнік зразумеў, адкуль покліч. Аказалася, родзіч яго, Адам, расчыніўшы насцеж уваходныя дзверы, крычаў яму з цёмных сенцаў.

— Што там у цябе здарылася? Ці шмат ад мяне, старога, дапамогі?

— Ты гэта… — матнуў галавой Адам, — ідзі зірні, ці таго мы іх?..

Трафім успомніў, што Адаму нядаўна прызначылі на пастой двух стральцоў.

— А чаго ж сам не зірнеш?

— Ды баюся штось. Ты ж ведаеш, я мерцвякоў страх як баюся.

— А забіў як?

— Ды шылам ён іх, як парсюкоў, закалоў, яны нават і рохнуць не паспелі, — адказала замест мужа яго жонка, замотваючы ў анучу доўгае вострае шыла з вялікім медным кольцам на канцы. — Такую прыладу спаганіў, чым цяпер быдла біць будзеш?

Два нябожчыкі нібы спалі, ні крывінкі вакол, ні змятых барацьбой пасцеляў. Толькі невялікая чорная дзірачка з засмяглымі па краях кропелькамі крыві выдавала месца, праз якое ў сэрца ўвайшла смерць.

— Ну што… таго? — чамусьці шэптам спытаў сусед.

— Мярцвей не бывае.

— Чуеш, а хто іх хаваць усіх будзе? Гэта ж якую процьму народу мы сёння перабілі!

— Ды ўжо… Можа, тысяч з пяць, а мо і больш, — адказаў Трафім і падаўся далей.

Шмат маскоўскіх ратнікаў у гэтую раніцу так і не прачнуліся, астатніх жа месцічы гадзін за пяць пакаралі смерцю, як і дамаўляліся, у палон нікога браць не сталі. Выключэнне зрабілі толькі для ваяводаў Сямёна Гарчакова, Мацвея Палуэктава ды камандзіра стральцоў Сафона Чэкіна, якіх, па патрабаванні шляхты, разам з непрыяцельскімі харугвамі адправілі да караля Яна Казіміра. Цяжкім выдаўся дзень.

Трафім вяртаўся ў сваю будку позна. Горад радаваўся і святкаваў перамогу, пасля гэтулькіх гадоў зняваг і скрухі па ўсім Магілёве гуляла бязмежная радасць. Колькі ворагаў было зрынута ў гэты дзень, ніхто лічыць не стаў, ды і не трэба было гэта. Пакараўшы смерцю зло, шмат жыццяў зберaглі. Вестка пра подзвіг месцічаў паляцела нябачнай маланкай па навакольных гарадах і весях. Не заўтра, дык пазаўтра яна мусіць дасягнуць абедзвюх варагуючых сталіцаў. «Вось і добра, — думаў стары збройнік, — можа, і мае там у сваіх туляннях пацешацца за землякоў. А то, глядзіш, Бог злітуецца і дасць яшчэ гадкоў колькі жыцця, можа, і перамогу ўбачыць давядзецца…» — стары піхнуў дубовыя дзверы свайго жытла. Яны былі замкнёныя знутры.

— Што за халера… — Трафім паставіў на снег невялікі вузельчык з ежай, якой пажывіўся ў ратушы, і з сілай піхнуў дзверы плячом. Тыя адчыніліся, і яго сілай увалаклі ў цемру майстэрні.

— Так, а вось і наш дзядок з’явіўся, — падносячы каганец да Трафімавага твара, прамовіў Арэфа. — Ты куды, гніда, крэсівы схаваў? — здаравенны кулак вухнуў у твар.

«Вось гад, былі б зубы — выбіў бы да чортавай кумы…» — падумаў стары, глытаючы салёную ад крыві сліну, і агледзеўся. У прасторным пакоі яблыку не было дзе ўпасці, вакол стаялі, сядзелі, выглядвалі з бакавух маскавіты.

— Ды колькі вас тут набралася?.. — шчыра здзівіўся стары і знепрытомнеў ад моцнага ўдару ў галаву чымсьці цяжкім.

На халоднай, запляванай падлозе Трафім хутка ачуўся, але працягваў ляжаць, не падаючы прыкметаў жыцця.

— Ваша міласць, не надыць спяшыць. Хай бунтары супакояцца, добранька адзначаць перамогу ды і спачываць сабе з мірам улягуцца, — пераконваў кагосьці Арэфа, — вось тады мы і рушым, да брамы вось усяго нічога…

— Вежы трэба падарваць, усё ў шчэпкі! Я яшчэ сюды вярнуся, яны ў мяне за ўсё адкажуць! Гады!

— Адкажуць, барын, адкажуць! І вежкі рванём! Порахаў жа там — дзякуй богу! Толькі вы пакуль не крычыце, а то няўрокам кажучы…

— Старога прыдушыце, каб чаго не выкінуў.

— Не, бацюшка барын, дадушыць мы яго заўсёды паспеем, а перш ён нам яшчэ паслужыць, і дарожку пакажа, і перад царом пра здраду гарадскую распавядзе. Ён вушлы старычына.

— Глядзі, сукін сын! Што не так — тры скуры спушчу.

— Нават не турбуйцеся, барын, усё будзе як найлепш, — адказаў ялейным галаском Арэфа і, дачакаўшыся, пакуль начальнік адыдзе, пазваў: — Гразь, Мікіта, ходзь сюды. Цягніне гэтую падлу ў склеп, там дзесьці справа, здаецца, дзверына ёсць. Толькі не паламіце дзеда, ён жывым і цэлым патрэбен.

Стральцы, не спяшаючыся, зацягнулі Трафіма ў заваленае хламам падзем’е і, прымастаколіўшы ля нейкай разбітай скрыні, ужо збіраліся ўздымацца назад, як, шчыльна прычыніўшы дзверы, да іх са свечкай у руках спусціўся ўсюдыісны Арэфа.

— Значыць так, малойцы, як дамо драпака і будзем ужо за горадам, барына ў расход. Ціха так спаткнуўся і шыю скруціў, хто там, у цемры ды мітусні, разбярэ. Дзеда ж беражыце больш, чым вока. Мне тут сёння пра яго сынка сярэдненькага шапнулі. Калі што якое — пагандлюемся. Гэй, дзед, ты ўжо даўно ачухаўся, я знаю. Ты гэта… на мяне не дзьміся, гэта цябе барын мушкетам па калгане гвазданаў. Ён дрэнны. Будзеш мяне слухаць, мо і злітуюся, і па-людску пахаваю.

— Свечку пакінь, клапатун, а то пакуль бегчы надумаеш, мяне тут пацукі жыўцом згрызуць, — не ўздымаючы галавы, азваўся Трафім.

— Знай праваслаўную дабрыню, токі з агнём, глядзі, не балуй! — іржануў Арэфа і, прымайстраваўшы свечку на прызначаную дзеля гэтага палічку ля дзвярэй, выйшаў вон, і за ім глуха шоркнула завала.

Паляжаўшы хвілін з дзесяць без руху, нават не адганяючы асмялелых пацукоў, якія з вясёлым піскам ужо заснавалі вакол, збройнік прыслухоўваўся да падзеяў наверсе і абдумваў сваё становішча.



«Эх, боўдзілы, у ліцвіна са склепа хадоў гэтулькі, што да Вільні да раніцы дабрацца можна. Але бегчы мне не выпадае, ды і няма патрэбы. Вось, Трафім Зяноныч, а ты вечарам бедаваў, што ніводнага гусака маскоўскага на ражон не насадзіў. Вунь іх зверху колькі, можа, душ з трыццаць. Хоць адкуль у іх душа, з душой хіба бабу цяжарную па жываце шабляй секчы буш? Эх, Матка Боская Вастрабрамская! Не пагневайся на мяне за зробленае…»

Стары, хістаючыся, устаў, падпёр тоўстым калом дзверы, узяў свечку і пайшоў у далёкі кут свайго склепа. Пакорпаўшыся з крыху паржавелымі заваламі, ён адчыніў патаемную дзверцу ў суседняе памяшканне, застаўленае кадкамі з порахам. Калісьці гэты порах ён з сынамі цішком начамі катаў з гарадскога арсенала, куды вёў усімі забыты старадаўні падземны ход. А ў першыя дні акупацыі яны і зусім асмялелі, прыстойна цапнулі. Ужо і барышы палічылі. Але, бач ты, — як справа павярнулася… Праход гэты яны пазней ад граху далей падарвалі.

Полымя свечкі вагалася, вагаўся і Трафім. Ён ведаў, што самы страшны вораг рашучасці — думкі. Падняў свечку вышэй і, знайшоўшы вачыма пабітую кадку, падумаў: «Ну, вось, Арэфа, не атрымалася па-твойму, не ты мяне, а я цябе хаваю», — і паднёс да чорных зерняў жаўтлявае полымца…

Амаль чатыры стагоддзі мінула з тых часоў, усё забылася і сплыло ў зыбкае марыва бяспамяцтва, толькі праклён маскоўскага патрыярха Нікана як вышэйшая пахвала мужнасці грамадзян Магілёва дагэтуль вісіць над горадам.

# *Запісы*

## АБІБОКІ

*Часта ўвосень, калі ідуць бясконцыя дажджы, калі нізкія, яшчэ не агідныя аблокі, чапляючыся адно за адно, паўзуць бясконцымі статкамі, а рэдкія прыглушаныя праблiскi сонца нечакана ўспыхваюць у мільярдах дробных і бялявых, як макавыя зярняты, расінках, — раптам нараджаюцца* ***абібокі*** *— спакойныя, марудлівыя, можа, дзесьці гультаяватыя развагі аб усім і ні аб чым.*

*У беларускай мове гэтае слова — «абібок» — і азначае: гультай, сузіральнік. Мне здаецца, як бы актыўна ні жыў чалавек, ён усё адно застаецца абібокам свайго жыцця, яму заўсёды ёсць што сказаць, без надрыву, без прыспеху, сказаць, як убачылася, як падумалася. Галоўнае — не прамінуць гэты шчаслівы час…*

* * *

Зверху віселі прагнутыя ад нашых грахоў чорныя нябёсы. Унізе па шчыкалатку хлюпала агідная гразюка восеньскай палявой дарогі. Змрочная імжа паступова згушчалася, і толькі там, удалечыні, на захадзе, зіхцела вузкая і драпежная, як лязо нажа, стужка паміраючага заходу.

У душах, як у паўпустых пляшках, боўталася нявызначанасць. Яе алюмініевы прысмак у роце паказваў найвысокую ступень стомы. Целу не менш за душу неабходны быў адпачынак.

* * *

Ці патрэбна чалавеку ўлада? Наіўнае пытанне. Чалавек нараджаецца сілай улады, дадзенай мужчынам і жанчынам адно над адным. Пазней ён паступова спасцігае законы ўлады і, калі



ўлада не ператвараецца ў самамэту чалавека, а растварaецца ў ім, не прыцясняе рухі і думкі, яна ў яго ёсць. Пра тое, што ёсць, як правіла, не пытаюць.

Сцеражыцеся тых, хто задае вам падобныя пытанні.

* * *

Маркс нас папярэджваў, што камунізм — гэта здань, якая блукала па Еўропе. Ну і хай бы сабе блукала, дык не, мы перацягнулі яе ў Азію і амаль стагоддзе ганяліся за ёй. Пазней выявілася, што мы беглі назад з павернутай наперад галавой і пры гэтым самі з сябе здзекаваліся.

Дарэчы, сёння ў нас ёсць магчымасць прарабіць тое ж самае, толькі ў зваротным кірунку.

* * *

Ні пра што не думай. Шумяць за вокнамі дрэвы. Восень вяжа свае пярэстыя карункі. Карагоды лістоты ў бліскучай перадсмяротнай жаўцізне і чырвані павольна кружляюць у астываючых прамянях індыферэнтнага сонца. Салодкія, шчымлівыя імгненні заходу жыцця, якія вы выдатныя!

* * *

Раніцай штосьці гучна пстрыкае; гэта стрэлкі нябачнага будзільніка растапырыліся на лічбе сем. Ноч ліпкая, даўкая, з вечна грукатлівым за акном горадам, неахвотна паўзе за дахі суседніх дамоў. Металічны скрыгат дня, які нарадзіўся яшчэ дзесьці ў сярэдзіне ночы, усё нарастае, становіцца выразным і рэзкім. Пройдзе зусім крыху часу, і ты перастанеш чуць гэты скрыгат, зробішся яго часткай, яго маленькім, ледзь прыкметным скрыжаткам. І так заўсёды.

* * *

На ўтульнай лясной сцяжынцы разгулялася страшная трагедыя. Дзясятка паўтара малых рудых мурашоў спрабавалі абезрухоміць і забіць свайго вялікага чорнага сабрата. Неабыякая барацьба са зменным поспехам працягвалася ўжо больш як сем хвілін. Я так захапіўся сузіраннем гэтай баталіі, што не заўважыў, як да мяне падбегла пяцігадовая дачка. Нічога не ве-

даючы, яна ножкай ц бліскучым памаранчавым сандаліку мякка і бестурботна ступіла на тых, хто б'юцца. Дзіця пабегла далей па нейкіх сваіх, напэўна, вельмі важных справах. На ўтаптанай зямлі засталіся сохнуць расплясканыя парэшткі.

Вечнасць для кожнага мае сваю выяву. Для мурашоў яна стала бліскучым памаранчавым сандалем.

* * *

Чым даўжэй жыву, тым часцей сумняваюся. Складаныя філасофскія развагі рассыпаюцца па пыльных, мала чытаных кнігах і паступова забываюцца.

Просты ўздых каханай жанчыны ператвараецца ў каскад складаных лагічных пабудоў і, у залежнасці ад адценняў гэтага ўздыху, нас кідае ў засмучэнне ці, наадварот, напаўняе душу і цела нязломнай сілай і святлом.

Я жыву, каб кожны дзень спасцігаць глыбіню гэтай прастаты.

* * *

Маленькія птушачкі, не ведаю, як іх завуць, раскрадалі кедравыя арэшкі, якія я запасіў для вавёркі. І рабілі яны гэта так непасрэдна, з такім вясёлым піскам і ціўкатам, што душа мая цешылася.

* * *

Калі я пачаў разумець, а потым амаль фізічна адчуваць боль маленькіх жыццёвых трагедый маіх дзяцей, мне стала страшна. Я зразумеў, што старэю.

* * *

На тваім юным дапытлівым твары адбітак чужога суму. Ты гэтага не разумееш, і таму мучышся, злуешся на сябе, а заадно і на ўвесь белы свет. Але, на жаль, твой свет замкнуты пакуль у сценах нашай кватэры, таму больш за ўсіх перападае нам з мамай.

* * *

Калі ў нас няма гадзінніка і вокны пакоя шчыльна зашторваны, мы перастаём адчуваць час, але гэта не пазбаўляе нас ад старасці.



* * *

У маёй дачкі ёсць любімы вецер, ён жыве ў жытнім полі, дзе наліваецца колас і буяніць жыццё. Я гэтага не ведаў, пакуль не ўбачыў іх разам на фотаздымку. Яны, абняўшыся, глядзелі на мяне яе вачыма.

* * *

Як гідка доўга цягнецца час, калі нам дрэнна. Якія доўгія і нудныя думкі, як павольна рухаецца хвілінная стрэлка.

Але якія асляпляльныя і хуткаплынныя хвіліны радасці! Гадзіна ляціць за гадзінай, погляд не паспявае за хвіліннай стрэлкай.

Так, уздыхаючы, мы славім Бога і доўжым сябе, а радасцю і смехам набліжаем смерць.

* * *

Дзесяць гадоў узмоцненай дэмакратызацыі і павароту з храбусценнем у шыйных пазванках да прыватнай уласнасці далі свае вынікі. Чытаю сачыненні старшакласнікаў сорак пятай кемераўскай школы: «Самай ідэальнай формай кіравання з'яўляецца манархія, бо гэта аптымальная, гістарычна апраўданая форма быцця Расійскай цывілізацыі», «…у Расіі неабходна самадзяржаўе», «Можна, напрыклад, вярнуцца да таго часу, калі ў краіне было адзінаначалле», «Ёй (Расіі) патрэбен дыктатар (цар), які б трымаў уладу ў кулаку».

Думалі, што вучым аднаму, атрымалі — іншае. Ёсць пра што задумацца.

* * *

Зоркі глядзяць на зямлю халоднымі абыякавымі вачыма, якія ніколі не плакалі. Ім усё адно, на што глядзець. Але гэта ўяўная веліч — многія з іх ужо даўно загаслі, а іх святло — як задоўжаны погляд з фотаздымка на глянцы надмагільнага каменя.

* * *

Стаяў на верандзе і хвілін пятнаццаць слухаў скаргі дажджу. Я яго зразумеў, але толькі раскрыў рот для зваротнай споведзі, як дождж раптам гучна ўсхліпнуў і заціх. Трэці тыдзень чакаю

яго вяртання, хвалююся: раптам прыйдзе не той дождж — і мы не зразумеем адзін аднаго.

* * *

Сядзеў ля акна і глядзеў у шэра-зялёнае восеньскае неба, у якое над суседнімі дахамі дамешвалася бледна-маркоўная чырвань заходзячага сонца. У галаве нараджаліся выявы мінулага. Пазнаў малюнак, з’явіўся новы, потым яшчэ, яшчэ, і так усё хутчэй, хутчэй. Раптам яркі выбліск! Усё замерла, чарговы малюнак я разгледзеў да дробязяў, але нічога не запомніў, а самае галоўнае — я яго не пазнаў, ён быў не з майго жыцця.

* * *

Душа ўжо адляцела, а страх ліпкім потам яшчэ доўга блішчэў на пахаладзелым ілбе. Дзіўна, але менавіта страх пакідае нас апошнім, да чаго ж ён уеўся ў наша цела…

* * *

Дзікія камяні, знявечаныя ветрам і холадам лістоўніцы. На сотні кіламетраў тайга і гнюс. Падкаменная Тунгуска пра штосьці ўсхліпвае і мармыча на перакатах. Стары эвенк ведае, пра што гаворыць рака, але ён забыўся расійскую мову. Маўчым і п’ём чай.

* * *

Горная рака імчыць так шпарка, што час за ёй не паспявае. Можа, таму людзі на яе берагах па-ранейшаму жывуць у каменным веку? Ім пашанцавала.

* * *

Галец — моцная і прыгожая рыба, якая хапае па наіўнасці сваёй любы зіхоткі прадмет, што патрапіў у бурную таймырскую рэчку. Часцей за ўсё сюды трапляюць блешні. Блешняў усё больш, а гальца ўсё менш, тое ж адбываецца і з абарыгенамі.



* * *

Навідавоку ва ўсіх вецер забіў некалькі дрэў, але мы гэтага не заўважылі, бо сусвет мураша, па словах Альбера Камю, адрозніваецца ад сусвету коткі.

* * *

На кангрэсе гуманістаў усе гаварылі пра вечныя каштоўнасці і дасягненні прагрэсу. Доўга не вытрымаў, заснуў. Прысніўся кашмар: мёртвыя судзілі мёртвых. Падсудных некалькі тысяч — усе найвялікшыя навукоўцы, якія стагоддзямі рухалі сусветную навуку. Пацярпелых — мільёны мільёнаў, іх забілі плады адкрыццяў. Прачнуўся, а кангрэс працягваецца.

* * *

На верталёце завіслі над балотам, дзе звалілася тое, што пазней назвалі Тунгускім метэарытам. Мы прыліплі да ілюмінатараў. Унізе авальная чорная прамыіна, акаймаваная смарагдавай травой, падслепавата глядзела ў неба. Цень ад верталёта здавалася парушынкай у гэтым воку. Не ведаю, хто каго разглядваў.

* * *

Выйшаў на змярканні на лясную паляну і аслупянеў. Насупраць мяне стаяў здаравенны замшэлы пень, у профіль падобны на Троцкага. Не ведаю, прырода з нас жартуе ці мы навязваем ёй свае выявы, але хтосьці ж назваў гэта месца яшчэ ў сямнаццатым стагоддзі Давыдкавым борам.

* * *

Раніца была халоднай і пыхлівай. Сонца ўжо ашчаслівіла золатам толькі вокны верхніх паверхаў вышынных будынкаў і, здавалася, зусім не збіралася звярнуць свой погляд уніз, на азяблую за ноч зямлю. Аўтобуса доўга не было. Людзі, апранутыя ў міжсезонне, ціснуліся адзін да аднаго. Раніцы гэта не спадабалася. Павольна пагасла золата вокнаў. Хутка сцямнела.

Ты — як раніца, толькі настрой у цябе змяняецца часцей.

* * *

На дне шэрапясчанай катлавінкі з маленькай крыніцай, што прытулілася на цяністым схіле яра, па чарзе ўздымаліся чатыры бурунчыкі. Малюсенькія гейзеры з толькі ім вядомай перыядычнасцю выкідвалі ўгару ваду, уздымаючы смешныя слупкі рудых пясчынак. У кожнага з іх быў свой кратар, сваё жарало, сваё індывідуальнае жыццё, пазначанае на шэрым дне пульсуючымі плямамі. Крыніца была старажытнай і вяла свой радавод яшчэ з паганскіх часоў.

У дзяцінстве я часта прыходзіў сюды, клаўся на шырокую, белую ад дажджоў і сонца дошку і, падпёршы галаву рукамі, глядзеў у гэта таямнічае акенца. У вёсцы яшчэ не было святла, і гэта быў мой першы тэлевізар з чатырма праграмамі. З часам мы звыкліся адзін да аднаго, і я навучыўся вызначаць, які з бурунчыкаў ажыве ў наступную хвіліну.

Даўно з'ехаў з тых мясцін, але, калі мне дрэнна, я абапіраюся тварам у далоні і бачу шэрае стромкае дно крыніцы і адгадваю з якога ўздыбіцца смешны фантанчык дробных пясчынак. Я яшчэ ні разу не памыліўся.

* * *

Наймацнейшая зброя чалавецтва — памяць, але мы чамусьці ўспамінаем і паўтараем, як правіла, толькі дрэннае ці вельмі дрэннае.

* * *

У нараджэнні садызму вінаватая цешча, якая ўпякла дэ Сада ў турму, а дваццаць сем гадоў адседкі толькі давяршылі справу.

* * *

Радасць прыходзіць і сыходзіць, а гора заўсёды застаецца з намі.

* * *

Усю ноч беглі да святла, а сонца ўзышло за спінай.



* * *

Ціха, напаўголаса за заснежаным акном плакала віхура, мне было яе шкада, але ўпусціць у хату не рашыўся.

* * *

Ішоў падслепаваты восеньскі дождж. Яго струменьчыкі тонкія, нібы прасеяныя праз сіта, у змярканні былі нябачныя. Дождж ішоў амаль бязгучна. Калі самотны падарожнік у старым брызентавым плашчы з каптуром спыняўся на раскіслай палявой дарозе перавесці дух, дождж як бы заміраў. Ні ўсплёск, ні бурбалкі на лужынах не выдавалі яго прысутнасці, і толькі ціхае, ледзь чутнае шыпенне ды пацяжэлая ад вільгаці адзежа выяўлялі прысутнасць гэтага дзівакаватага пасланца восеньскага неба.

Чалавек пастаяў, пахукаў на азяблыя мокрыя далоні, азірнуўся назад. Пакаты схіл поля, па якім, амаль не віхляючы, слалася дарога, упіраўся ў загуслую цямрэчу начы, якая паспела ўжо размыць і абясколерыць абрысы гарадскіх прадмесцяў. Бледныя кропкі ліхтароў і размазаныя стужкі вокнаў яшчэ мацней нявечылі прывідныя абрысы пакінутага ззаду гарадскога гмаха. Гэта быў яго горад. Ён тут нарадзіўся, вырас, пражыў сваё мітуслівае жыццё, дамогся вызначанай вядомасці, становішча, дастатку. Ён у дасканаласці спасціг жорсткія гарадскія законы, прыладзіўся да іх, навучыўся іх выкарыстоўваць. Яму цяжка было скардзіцца на сваё жыццё, аднак ён гэтага і не рабіў. Проста адной ноччу ён раптам зразумеў, што не супадае з горадам. Яны сталі чужымі адзін аднаму. Аказваецца, усё сваё жыццё ён баяўся стаць чужым.

Яшчэ раз, азірнуўшыся, падарожнік перахрысціўся і хуткай хадой, слізгаючы кірзавымі ботамі па тлустым глеі, закрочыў прэч. Ноч дагнала яго — і растварыла ў сабе самотную, злёгку згорбленую постаць.

* * *

Калі хочаш дакрычацца да чалавека, гавары цішэй. У цішыні жыве сэнс, сіла і любоў, але мы гэта, як правіла, забываем і з паўабарота пераходзім на павышаныя таны.

Тэлефонная трубка дагэтуль не можа агоўтацца ад таго, што мы ў яе накрычалі сёння ўначы.

* * *

Здзічэў сярод людзей ад дэфіцыту адзіноты. Доўгія гады я марыў пра маленькую хатку ў восеньскай тайзе, дзе толькі я і дождж, ды рудая бязгучная завея ігліцы старых лістоўніц.

Доўгія гады штосьці мяне не пускае ў гэту жаданую восень. Але я настырны, я прадзяруся… Потым бы толькі не каяцца.

* * *

У здрады два смакі: горкі і салодкі, толькі дастаюцца яны розным людзям, таму аднаму добра — іншаму кепска. Крыўдна, што нельга здрадзіць самому сабе.

* * *

Паслухайце вецер, як па-рознаму ён вядзе свае маналогі, колькі ў іх гукаў, музыкі, звярынага рыку, птушынага свісту, колькі сілы, болю, радасці і страху, які студзіць кроў.

Паслухайце вецер, ён многае распавядзе пра вас.

* * *

Самым крывавым словам, вымаўленым чалавецтвам перад тварам Бога, без сумневу, з’яўляецца слова «свабода». У імя яе дасягнення над светам пранесліся ўсе войны і рэвалюцыі. Заўсёды і ўсюды свабода выступала апраўданнем усіх нашых бедаў. Так было ў старажытныя часы, так і сёння. Войны і беды яшчэ не закончаны, бо свабода бязмежная, як бяскрайняе мора самападману і нашых ілюзій.

* * *

Як часта людзі жывуць у прыдуманым свеце. Варта фантазіям ці памылкам аднаго супасці з настроем вакольных, як яны заражаюцца імі і, праз вызначаны час, пачынаюць лічыць іх сваімі ўласнымі дасягненнямі. Так з памылак адных вырастаюць перакананні і вера іншых. Памылка ідзе на змену памылцы, праўда застаецца не запатрабаванай, яе проста ніхто не шукае. Шукаць цяжэй, чым памыляцца. Магчыма, толькі ў апошнія імгненні жыцця мы становімся відушчымі і нам даецца права ўбачыць праўду, але сказаць пра гэта свету мы ўжо не паспяваем.



* * *

Двойчы на працягу аднаго стагоддзя ў Расіі былі разбураны галоўныя падваліны дзяржаўнасці і маралі — саслоўі. Яны складаліся дзесяцігоддзямі і стагоддзямі, цэментаваліся цвёрдай канкурэнцыяй і крывёй. Саслоўны падзел у розных формах выяўлення захаваў, акрамя нас, увесь свет. Безумоўна, саслоўнасць, як умоўна-практычны падзел грамадства, з’яўляецца адным з найвялікшых дасягненняў нашай цывілізацыі.

Сёння ў пакутах нараджаюцца новыя саслоўі, і не дай нам Бог зноў захапіцца адным з самых прыгожых праяваў хлусні — роўнасцю. Расія гэтага больш не вытрымае.

* * *

Вы спрабавалі доўга глядзець у вочы драпежнай птушцы? Пусты, халодны, гіпнатызуючы, маларухомы позірк, цалкам пазбаўлены думкі і эмоцый. Вока імгненна рэагуе на любы рух і цень, пры гэтым каманда перадаецца ў непрапарцыйна маленькі мозг, які ўспрымае толькі тыя раздражняльнікі, якія можна з’есці, іншыя адсяваюцца.

У апошні час сярод нас усё больш і больш людзей з птушынымі вачыма.

* * *

Глыбока абаяльны чалавек «з прыродна-ласкавым тварам і голасам», як ён сам сябе часта рэкамендаваў. Мы дзеці любові, незалежна ад полу і ўзросту, мы ўвесь час штосьці ці кагосьці любім. Без любові жыць не цікава, таму мы пераносім свае пачуцці на самыя, здавалася б, непадыходныя прадметы і з’явы. Да прыкладу, на палітычных лідараў. Іх рэйтынг — гэта каэфіцыент нашых да іх сімпатый. Выбары — банальны акт прызнання ў закаханасці. Па той жа вечнай схеме адбываецца і ахаладжэнне да прадмета нашых пачуццяў. Пасля расчаравання застаецца адваротны прысмак марнай траты надзей і эмоцый. Кожны ўсё гэта перажыў на сабе.

* * *

Аднаго чалавека падмануць вельмі складана, але чаму ж тады з такой лёгкасцю ашукваюцца цэлыя народы? Адказ, на мой погляд, да прымітыву просты: праз ляноту.

Чалавек ідэнтыфікуе сябе з народам і з дзіўнай хуткасцю перакладае на яго адказнасць за сябе і сваю сям'ю, фактычна раствараецца ў ім. Народ жа не атаясамлівае сябе з пэўным чалавекам і не нясе перад ім ніякай адказнасці.

* * *

Людзі, як правіла, ведаюць, што іх падманваюць, але з дзіўнай паспешнасцю звыкаюцца з гэтым, асцерагаючыся, як бы ў іх не забралі што-небудзь больш істотнае.

* * *

Падаткі і падаці, як вядома, з'яўляюцца формамі нашых узаемаадносінаў з дзяржавай, але без асабістага грамадзянскага служэння яны ператвараюцца ў працэс куплі-продажу.

На цяперашнім рынку добрая дзяржава каштуе вельмі дорага, таму ў нас «по Сеньке и шапка».

* * *

Туман стаяў над бялявай ад расы травой, як пара над выпушчанымі з жывата кішкамі. Дзесьці ўдалечыні, на балоце, натужліва енчыў бугай. Не ведаю, што шукаў я ў гэтым тумане, але кожны раз яшчэ з дзяцінства мяне цягнула сюды, у гэтую лукавіну амаль зарослай лясной рачулкі. Часам у бялявым прывідным марыве мне бачыліся нечыя постаці, чуліся ціхія галасы. Я працягваў руку, і яна ўваходзіла па самы плячук у малочную субстанцыю, знікаючы з поля зроку. Аднойчы я раптам выразна адчуў дакрананне нечых вільготных, прахалодных вуснаў. Гэта было так нечакана, што я здрыгануўся і рэзка адхіснуўся. Туман вісеў у паўметра над зямлёй. Я бачыў ледзь мігатлівы светлячок вогнішча на іншым беразе поймы, вакол не было нікога. Я сядзеў на кукішках ля самага краю багны, яшчэ крок — і ўсё. Летась якраз тут патанула ўсяго за сем хвілін амхініцкая карова. Нават па вяроўку не паспелі збегаць.

Багна вантробна бурчала, з прагнасцю цмокала сваім нябачным ротам. З сілай выдраўшы з халоднай жыжкі ногі, я падаўся прэч.

Мяне цягне ў туман. Я дагэтуль спадзяюся сустрэць там уладальніцу прахалодных і далікатных вуснаў…



* * *

Разважаючы аб сутнасці чыноўніка, яго прызначэнні, сіле і слабасці, а галоўнае, усё глыбей спасцігаючы найстаражытнейшую з навук — папеpазнаўства, я спрабаваў падабраць адпаведную выяву для ёмістага вызначэння свайго ж унутранага свету і, урэшце, прыйшоў да высновы, што чыноўнікі-службоўцы ўсяго толькі пыл на ботах улады, але каб яго змахнуць, улада павінна нагнуцца.

* * *

Вялікая драпежная птушка ўсё кружыць і кружыць у звар'яцелай ад бяздоння нябеснай сферы. Яна то ўздымаецца ўгару і ператвараецца ў маленькую пульсуючую кропку, то шырокімі кругамі імкліва набліжаецца да зямлі і здаецца амаль металічнай, адлюстроўваючы сонечныя прамяні. Што яна хоча сказаць мне? Пра што нагадаць? Куды яна мяне кліча? Тысячы асацыяцый і вобразаў нараджаюцца ў маёй галаве ад яе галавакружнага танца.

Ляжу моўчкі, ахінуўшыся цёплай камуфляжнай курткай. Галоўнае — не варушыцца. Хоць гэта дарэмна, і я сапраўды ведаю, што яна даўно мяне ўбачыла, і ўсе гэтыя нябесныя выкрутасы яна вытварае адмыслова для мяне. І ўсё ж, што яна мне хоча сказаць?

* * *

Як памірае каханне? Адразу, раптам, як калісьці нарадзілася, — ці павольна, ледзь прыкметна, як восеньская палявая трава? Кожны з нас, абапіраючыся на свой досвед ці неспрактыкаванасць, можа адказаць на гэтае пытанне па-свойму, хутчэй за ўсё, колькі будзе людзей — гэтулькі і адказаў. Магчыма, кожны з нас мае рацыю, не ведаю. Толькі мне здаецца, што каханне не памірае, яно хутчэй здыхае ад непатрэбнасці, забытае, галоднае, затаптанае эгаізмам, — і ўсё яшчэ на штосьці спадзяецца. Пакінуўшы яго, некалі такое роднае каханне, мы падаёмся на пошукі новага, самага што ні на ёсць самага. Але і гэтае новае, калі вам, вядома, не трынаццаць гадоў, апынецца слабым паўтрупам нечых пачуццяў, уздыхаў, запалу і саладжавых слёз. Замучыўшы сваё каханне, мы кідаемся па ўзаемнай незгаворлівасці рэанімаваць чужое, якое з часам пачынае здавацца нашым, крэўным. Год за годам праходзіць жыццё. Адны з

нас становяцца ледзь ці не прафесійнымі рэаніматарамі кахання і ўрэшце, калеюць у лютай адзіноце. Іншыя, і такіх, дзякуй Богу, большасць, не кідаюцца з боку ў бок, а як умеюць берагуць тое, што ім адпушчана лёсам: гадуюць дзяцей, чакаюць унукаў і доўжацца ў стагоддзях.

* * *

Народ, дарваўшыся да свабоды, нягледзячы на гучныя папярэджанні звонку, усё-ткі яе пераждраў. Чаго ж тады так гучна абурацца, што мы абасраліся?!

* * *

Толькі доля жабракоў — быць багатымі без дастатку, але большасці з нас, людзей пасрэдных і па вялікім рахунку жабракоў духам, дасягнуць падобных вышынь практычна не пад сілу. Жабракі просяць кавалак хлеба, мы ж, як правіла, просім і ў жыцця, і ў Бога выгоды, здароўе, дабрабыт, ды і само жыццё. Яны, здаволіўшы голад, сыходзяць у свае нябесныя палацы, дзе маюць зносіны з Невядомымі нам, а мы застаёмся на сваім пажыццёвым пасту з працягнутай рукой ці словам-просьбай. Мы прыдумляем мудрагелістыя байкі пра юродзівых, цураемся іх, пабойваемся за адвагу і цвярозасць меркаванняў, спяшаемся сунуць мядзяшку і бегчы далей, пры гэтым ці то пераажываем пачуццё задавальнення ад падачы міласціны і датычнасці да Дабра, ці то суцяшаем сваё самалюбства сузіраннем істоты нізкай, якая стаіць на сацыяльных прыступках пад намі — дары даючымі.

Вось так і жывём побач — багатыя жабракі і жабрацкія багачы; калі пра гэта не думаць, можна пражыць цалкам сытае і шчаслівае жыццё. Таму пасрэдны чалавек спрадвеку баяўся сваіх герояў і рэгулярна прыносіў іх у ахвяру свайму Страху.

* * *

Ніхто не ведае дня свайго, і чым дзень гэты стане для чалавека: яго пачаткам ці яго канцом. Хто адкажа, што адбудзецца з нашым унутраным Я там, за шчыльна захінутымі шторамі астылых павекаў? Не забягай наперад, ідзі сваім шляхам, які асобны, як капілярныя лініі вялікай мазаікі ўсеагульнага жыцця, любі сам, і хай цябе любяць вакольныя, і ў свой час ты атрымаеш адказы на ўсе пытанні. Хутчэй за ўсё, у кожнага з нас будуць свае і не падобныя на адказы іншым, і толькі Вечная Немата астылых вуснаў будзе аднолькавай для ўсіх.



* * *

Чалавек і ганебнасць — двайняты-браты. Вядома, гэта не заўсёды адно і тое, але яна заўсёды жыве ў кожным з нас ад самага нараджэння. Не дзіўна, што мы ўвесь час спрабуем прыбраць яе ў нейкія іншыя рызы і выдаць за мілату. Страшна падумаць, але дзясяткі гадоў агіднасць бацьказабойства ганебнага хлопчыка Паўліка Марозава была эталонам для пераймання, на гэтай гнюснай гісторыі выгадаваны мільёны ні ў чым не вінаватых людзей. Наогул, калі корпаешся ў дзеях падобных адкідаў чалавецтва, імёны якіх чамусьці гучна ўпісвалі ў гісторыю, дзівішся той мабільнасці, з якой нашыя амаль заўсёды несумленныя продкі прыстасоўвалі мінулае для сваёй імгненнай выгады і карысці. Здзейсніўшы акт ганебнасці ў дачыненні да мінулага, яны здзяйснялі рытуальны чын па ператварэнні ганебнасці ў мілату для сябе і нас. Не думаю, што нашае пакаленне будзе чымсьці адрозніваецца ад сваіх бацькоў і дзядоў. Крыўдна.

* * *

Сёння дзень смерці Уладзіміра Высоцкага. Дваццаць тры гады. Слухаю яго голас. Слёзы наварочваюцца. Хто ён для мяне? Не ведаю, можа ён — гэта я сам у тым далёкім васьмідзясятым, а можа, гэта плачуць рэшткі майго яшчэ не распрададзенага да канца сумлення?

* * *

Дзесьці далёка за лесам, у вёсцы, натужліва і глуха выў сабака, як быццам нечая душа прасілася на неба.

* * *

Жыццё на зыходзе заўсёды цікавейшае і багацейшае, а мы яго чамусьці абзываем нямоглым словам — старасць.

* * *

Сталыя думкі пакідаюць людзей бясплоднымі.

* * *

Вечнасць змяшчаецца ў адным глытку атруты.

* * *

У разумных заўсёды дурань адказны, а з дурня што возьмеш? Вось вам і ўся мудрасць.

* * *

У наш бесталковы час дзяцей трэба яшчэ і заслужыць.

* * *

Не спрабуй пакрыўдзіцца на няздольнага пакрыўдзіць цябе, каб не пакрыўдзіць яго.

* * *

З хісткай, разнамаснай і непрычасанай агульнай мэтай кіруючай масы цяперашняга грамадства не можа з'явіцца агульнанацыянальны лідар, які адпавядае маштабам і гістарычнасці краіны.

* * *

Ад дурасці, дэспатызму і хворага самалюбства аднаго непазбежна пакутуюць вакольныя, няхай гэта будзе сям'я, калгас, слясарная майстэрня ці дзяржава.

* * *

Ва ўсе часы ў Расіі асабліва не было каму кіраваць дзяржавай, вось ёй і круцяць, прыкрадваючы, фаварыты ды блізкія да цела.

* * *

Пра тое, што мы сталі жыць лепш, народ, як і раней, даведваецца не па зарплаце і сямейнаму дастатку, пра гэта нам аб'яўляе чалавек з тэлевізара.



* * *

Хутка будзе дваццаць гадоў, як пад дружныя заклікі вышэйшай бюракратыі грамадства, нібы ўтрапёнае, кінулася на барацьбу з карупцыяй. Зацяжная, аднак, вайна атрымалася, але галоўнае — усе задаволеныя. Чыноўнікі — павелічэннем штатаў і ростам зарплат (для плённай барацьбы, зразумела, патрэбныя войскі «непадкупных» барацьбітоў); дэпутаты, як і належыць ананістам, — працэсам; вольныя ад прынцыпаў маралі і этыкі журналісты — магчымасцю даказаць, што іх прафесія старажытней; прэзідэнт — роляй канстытуцыйнага гаранта і пачуццём уласнай значнасці; народ… А што народ? Ледзь што, адразу народ, народ! Народ маўчыць, ён заўсёды маўчыць, пакуль інтарэсы банкіраў не закрануць, ну а ў барацьбе з бюракратыяй іх інтарэсы сапраўды не закрануць, братэрскія ж цыганні за пэйсы не ў лік. Так што ўсё сваім шляхам, і люд служывы можа спаць спакойна.

* * *

Зманіўшы першы раз, кожны з нас атрымлівае права на сваю ўласную праўду. Гэта як з яблыкам у раі.

* * *

Чым бліжэй да Крамля, тым непрагляднейшая ўлада.

* * *

Чым далей ад трона, тым больш у кішэнях, а тыя, хто побач, для тых і трон — машна.

* * *

Стварыўшы для чалавека сакавітыя яблыкі, Бог не падумаў пра чарвякоў, якія дабіраюцца да іх першымі. Так і бюджэт — яшчэ і прыняць не паспелі, а яго ўжо точаць.

* * *

Прафіцытам сыты не будзеш!

* * *

Страшная трагедыя, якая адбылася з Югаславіяй, пакуль да канца нікім не асэнсавана. Гэты славянскі ўскраек заўсёды быў чужым для самазадаволенай Еўропы, і наступствы яго разбурэння могуць быць страшнейшымі за наступствы Другой сусветнай вайны. Прыбраўшы натуральны шматвяковы бар'ер паміж актыўным ісламам і ўжо страціўшым запал каталіцызмам, хтосьці ўшчыльную прысунуў трагедыю Бейрута і Лівана да сцэнаў Бона і Парыжа.

* * *

У Чарнагорыі дзеля таго, каб патрапіць у Стамбул, не трэба нікуды ехаць. Проста ў пятніцу належыць з еўрапейска-курортнага Бара пешшу падняцца ў Стары Бар.

* * *

Чым менш чытаеш, тым больш пішаш. Чым больш пішаш, тым больш чытаюць цябе.

* * *

Гляджу на аднаго, напаўняемага цяпер значнасцю палітыка, ужо моцна падобны на будучага цара: лялечны тварык, лупаватыя вочкі, маленькія ручкі, кажа складненька і не заўсёды ў толк, пярэчанняў на дух не пераносіць, а галоўнае — росцік ніжэй, чым у папярэдняга.

* * *

А мне вось не шанцуе: і нарадзіўся не ў тым горадзе, і служыў не ў тым ведамстве, і ростам Бог не пакрыўдзіў.

* * *

Высокія двухстворкавыя дзверы расчыніліся, дзяржаўны голас абвясціў яго пасаду і імя, хоць у гэтай зале яго ведалі ўсе. Чалавек ішоў па чырвоным дыване і не адкідаў цені. Можа, у тым вінаватыя ліхтары тэлевізійнікаў ці хітрасці палацавага асвятлення, а можа… Хто ведае, хто ведае…



* * *

Усё, што праходзіць праз нашыя душы, забываецца, і ў сваім бяспамяцтве мы шчаслівыя.

* * *

Толькі Насенне дае жыццё, а нябыт ці смерць скрытыя ў самім жыцці. Гэта значыць, наша разбурэнне закладзена ў нас саміх ад самага нараджэння; нават пасля фізічнай смерці і пахавання цела наша ў першую чаргу пачынаюць пажыраць не зямныя насельнікі — чарвякі і жукі, а бактэрыі, якія да гэтага мірна жылі ў нашым уласным страўніку.

* * *

Дзе пачынаешся ты — заканчваецца рэальнасць і грошы.

* * *

Праз гэтую няхітрую жаночую прыладу мужчына знаходзіць вечнасць і вылятае ў трубу.

* * *

Вядома ж, я не ведаю, што такое Рай, але калі мы былі разам, мне здавалася, што я да яго блізка падлятаю.

* * *

У кахання шмат твараў, але вочы ў яго твае.

* * *

Навучыўшыся прасіць — навучыся аддаваць.

* * *

Узяўшыся за гуж — паглядзі, дзе муж.

* * *

У самотных свая самота, адрозная ад самоты статкавых.

* * *

Навучыцца жыць без мамы — як навучыцца наноў хадзіць без мыліц. Свет няўстойлівы, нецікавы, астабрыдлы.

* * *

Адзінае сонца, якое па-сапраўднаму сагравае нашыя душы, — гэта Мама. І аказваецца, для нас важны не столькі яе клопат, яе любоў, яе чаканне нашых лістоў, званкоў ці прыездаў, а звычайнае рудаватае святло ў яе зашторaным акне, святло жыцця, яе жыцця.

* * *

Актыўна Расію пачалі спойваць Раманавы, ну дык чаго ж тады крыўдзіцца на вынік? Цікава, трэба будзе даведацца, ці гандляваў Іпацьеў гарэлкаю.

* * *

Мікалаец з наіўнай радасцю паведаміў, што яны з дзецьмі пачалі пісаць новыя малітвы і праз іх звяртацца да Бога. Дзіўныя наш свет і наша вера! Можа, і праўда старыя словы ўжо зацерліся, і Богу патрэбныя новыя? А можа… Нават страшна і падумаць!

* * *

Кагал з вузка канфесійнага паняцця — малітоўны сход — ператварыўся ў апошні час ва ўсёабдымную форму існавання нашага свету.

* * *

Прапрацаваўшы многія гады з так званымі харызматыкамі, зрабіў дзіўную выснову: да чаго ж гэта беспрынцыповы і бязвольны народ. У іх заўсёды апошняе слова, самае важнае рашэнне залежыць ад таго, хто апошні пакінуў высокі кабінет і што надзьмуў у вушы вялікаму.

* * *

Хочаш быць бюракратам — будзь ім.



* * *

У аснове ўсякай харызмы ляжыць жаночы пачатак, ён і заводзіць натоўп. Першымі абурана ўскіпаюць жанчыны, пачуўшы ў харызматыку саперніцу. Іх інстыктыўная ўзрушанасць перадаецца мужчынам, і вось ужо пары сплятаюцца ў калектыўным экстазе, дэманструючы дзіўнае яднанне грамадства. Адсапеўшыся ад тэлемітынговага запалу, жанчыны перакладаюць харызматыка з разраду саперніц у вышэйшую катэгорыю куміраў і зараджаюць гэтым вакольных.

* * *

Зусім нядаўна даведаўся, што кабак — татарскае слова, і прывёз яго ў Маскву Іван Грозны, працягнуўшы тым самым ненавіснае іга да нашых дзён.

* * *

Хабар дасі — хоць зоркі прасі.

* * *

Не было б праўды, ды няпраўда дапамагла.

* * *

Не шукай следу чужога мужчыны ў сваёй жанчыне — гэта нерэальна.

* * *

Жанчына — не чалавек, таму не трэба на яе крыўдзіцца. Мы ж не крыўдзімся на занадта яркае сонца, праліўны дождж ці нечаканы землятрус, а яна — з’ява таго ж парадку.

* * *

«Для жанчыны адзін мужчына — многа, а два ўжо — мала», — казаў мой настаўнік Яўген Міхайлавіч Вінакураў. За ўсё сваё жыццё так і не змог даказаць адваротнае.

* * *

Ужо так павялося, што Руссю заўсёды кіравала нерусь.

* * *

Калі мужчына арэ, дык жанчына — лётае.

* * *

Жанчына не чалавек, яна стварэнне незямное, можа, анёл, можа, чарцяня, як каму пашанцуе. Дык навошта ж мы спрабуем ёй штосьці растлумачыць на сваёй грубай і недасканалай мове? Чаго крыўдзімся, спрачаемся, імкнёмся перарабіць пад сябе? Перакаваная жанчына перастае быць ёю і ператвараецца ў падобнага нам чалавека. Ці добра гэта?

* * *

Без ворагаў няма перамог, няма вялікіх спраў, няма, урэшце, улады.

* * *

У душы мы засталіся ідалапаклоннікамі: што ні кабінет, дык кумірня — на сталах бюсты, на сценах партрэты, у душах страх перад вышэйстаячым грамабоем.

* * *

Улада спараджае карупцыю, а карупцыя, гуртуючы і мацуючы самаўзнаўляльнае войска чыноўнікаў, карумпуе грамадства, яго свядомасць і, у выніку, умацоўвае ўладу.

* * *

Найвышэйшая форма карупцыі — гэта барацьба з карупцыяй.

* * *

Барацьба з карупцыяй — гэта рэйдарскія войны за ўладу.



* * *

Мяне раздзіраюць супярэчнасці паміж далікатнай настальгіяй па мінулым і сполашнай пустэчай будучыні.

* * *

Паабяцаўшы будучыню, у нас зноў забралі мінулае.

* * *

Яны размаўлялі агідна гучна, як амерыканцы.

* * *

Шмат ведае толькі энцыклапедыя, так што не давай сябе часта чытаць — загартаюць.

* * *

За словам «Радзіма» заўсёды хаваецца рабаўнік.

* * *

Таптаць таго, хто ўпаў, усё адно што бегчы на месцы, толькі больш гідка.

* * *

Улада агідная, як гвалтаванне малалетніх.

* * *

Нацягнуўшы на сябе чужую коўдру, рызыкуеш набрацца чужых вошай.

* * *

Яйкі Фабержэ сталі яйкамі Вексельберга, і той на вельмі выгодных умовах даў іх патрымаць Расіі, а тая і радая, як дурнічка.

* * *

Жывём у прыстойным грамадстве сексуальных меншасцяў.

* * *

Толькі ў крывавай вайне Расіі дазваляюць быць першай дзяржавай свету і сваімі косткамі брукаваць будучы дабрабыт чалавецтва.

* * *

Прыгожыя жаночыя ногі — як сродак вядзення Трэцяй сусветнай вайны: у ёй ніколі не будзе ні пераможцаў, ні пераможаных, толькі працэс.

* * *

На тое ён і бюджэт, каб яго раскрадаць.

* * *

Крадзі, ды не абкрадзены будзеш.

* * *

Цяпер я дакладна ведаю, што многія банкіры ходзяць у царкву толькі таму, што туды ходзяць бандыты: царкоўная дзесяціна ўсё ж выгадней, чым, скажам, «даляха» бізнесу, і потым, «браты ў Хрысце», як-ніяк.

* * *

Чым больш веруючых, тым менш вернікаў. Богу, напэўна, крыўдна, а царкве прыбытак.

* * *

Для поўнага шчасця заўсёды няшчасця не стае.

* * *

Цяжка, з надрывам і крывёй памірае любоў у сэрцы тваім. Нясцерпным болем сціскаецца душа, і свет, велізарны каляровы свет, ператвараецца ў шэрую, суконную нуду, і радасць сыходзіць з дома твайго, і жыццё становіцца нікчэмным існаваннем, і смерць ужо заве далучыць цела тваё да астылага трупа былога шчасця.

О, як шмат людзей прайшло па гэтай журботнай дарозе!

Толькі мастаку дадзена магчымасць, спальваючы сябе, падоўжыць Любоў сваю ў стагоддзях! Насуперак здрадам, пагалоскам, зайздрасці, сваёй маладушнасці захаваць, выпеставаць і паднесці вечнасці вялікі дар, пасланы Небам.

Якое шчасце, што мая Любоў жыве і доўжыцца, і так будзе заўжды, дакуль будзе жыць кніга і будзе жывы яе апошні чытач.

* * *

Няма нічога больш пэўнага, чым тое, чаго ніколі не было.

* * *

Пятнаццаць гадоў спрабую адшукаць рускага банкіра з рускім тварам. Усё дарэмна, відаць, так і памру ад старасці з гэтым дзіўным жаданнем.

* * *

Амерыка, падштурхнуўшы Еўропу да аб’яднання і прыдумаўшы для яе адзіную валюту, вельмі паспяхова завяршыла каланізацыю Старога Свету. Лягчэй кіраваць адной аморфнай і насамрэч бяспраўнай дзяржавай, чым спраўляцца з трыма дзясяткамі нацыянальных амбіцый.

* * *

Парламенцкая большасць сексуальных меншасцяў.

* * *

Бог абдарыў яе прыгажосцю, нічога не запатрабаваўшы наўзамен.

* * *

Прыгожая жанчына — як яблык разладу ў раі, нават праведніку хочацца пакаштаваць.

* * *

Прыгожая жанчына заўсёды няшчаснейшая, бо прыгажосць нараджае ганарлівасць, ганарлівасць — ганарыстасць, а ганарыстасць вядзе да заганы і лютай адзіноты.

* * *

Я не бачыў, каб хтосьці жаніўся на розуме.

* * *

На кухні пахла саспелым кавуном, і я ўспомніў, што гэта першы пах восені.

* * *

Вайна — гэта вар'яцтва ўладаў і нічога больш.

* * *

Наш розум чамусьці прагне апантанасці, можа, таму мы так часта выбіраем кіраўнікамі сабе вар'ятаў.

* * *

На вайне парыў самаахвяравання ў імя Радзімы падобны да першага выбліску кахання, напэўна, таму сярод ветэранаў столькі цынікаў і няшчасных у шлюбе людзей, ім здаецца, што Радзіма іх недалюбіла.

* * *

Захопленасць, як і жыццё, — перманентная.

* * *

Прадстаўнікі сексуальных меншасцяў бачаць не толькі старажытную гісторыю, але і ўвесь свет у сваім блакітным ці ружовым святле. Ім так цікавей і бліжэй, але тады пры чым тут усе мы, ад якіх яны патрабуюць прызнання сваёй натуральнасці?



* * *

Калі свае палавыя прыхільнасці дэманстраваць не ў ложку, а на пляцах і парадах, то гэта ўжо не каханне, не патаемныя пачуцці, а самая што ні на ёсць палітыка.

* * *

Артадаксальныя рэлігіі (хрысціянства, іслам, юдаізм) у цялесным каханні, як у наймацнейшым эмацыйным пачуцці, бачаць, найперш, канкурэнтку і пагрозу веры. Напэўна, менавіта таму яны ўсяляк імкнуцца заглушыць у нашай існасці пульсуючую вонкі энергію, тым самым скажаючы яе, а забаронамі і абмежаваннямі ператвараюць натуральныя і светлыя пачуцці ў голы секс і парнаграфію.

* * *

Любоў да Бога ў той форме, у якой яе прапаведуюць асноўныя рэлігіі, мог прыдумаць толькі чалавек з вялікім сексуальным досведам, і, магчыма, не зусім здаровым.

* * *

Гляджу папулярны на чорным відэарынку серыял «Чынгісхан», — малайцы кітайцы! Ад масавых падробак «шырокага спажыву», шмотак, машын, антыкварыяту яны, услед за амерыканцамі, перайшлі да падробкі пад сябе сусветнай гісторыі. Хоць гэта і не зусім добры знак.

* * *

Большасць жанчын бландзінкамі не нараджаюцца, а імі становяцца. Іх унутраны свет, пасля доўгіх пошукаў і дыскамфорту, нарэшце такі знаходзіць сваю праўдзівую форму. Так яны спрабуюць выправіць памылку прыроды.

* * *

А, між іншым, кажуць, што сярод святых няма ніводнай бландзінкі.

* * *

Ён так любіў бландзінак, што закахаўся ў сваю жонку толькі пасля таго, як яна пасівела.

* * *

Верыць жанчыне — таксама ненадзейна, як і даваць слова самому сабе.

* * *

У выніку ніхто з нас так і не даведаецца, дзеля чаго ён жыў на зямлі.

* * *

Незаробленае багацце — крыніца дэградацыі асобы, а ў выніку і заняпаду дзяржаўнасці.

* * *

Маё «я» чамусьці часта адрозніваецца ад мяне самога; мне становіцца не па сабе, калі гэтыя блізняткі пачынаюць даймаць адзін аднаго.

* * *

Шануйце ноч, бо ўначы жыццё праходзіць міма нас.

* * *

Ён стаў багатым пасля народнай галечы, але затое як ён пакутуе па камуністычным мінулым!

* * *

У Чарнагорыі гараць лясы. Гэта пахавальныя вогнішчы старажытнага славянства, у іх смуродным дыме ўсё выразней акрэсліваецца сілуэт чагосьці невядомага і праамерыканскага, імя яму Монтэ Нэгра.



* * *

У нас урад змяняюць як палюбоўніц, каб усім публічна даказаць сваю палавую дзеяздольнасць.

* * *

Маленькі чалавек паспрабаваў напалохаць усіх, начапіўшы на сябе маску волата. Усе здзівіліся, а маленькі застаўся задаволены сабой, хоць не падрос ні на ёту.

* * *

Самае дэмакратычнае спараджэнне чалавека — дзярмо! Ежа, адзежа, жыллё — знак класавай няроўнасці, і толькі гаўно аднолькавае і па форме, і па змесце.

* * *

Як казала адна з візантыйскіх царыц, «пурпур улады — лепшы саван», так што ад нашых кіраўнікоў добраахвотнага сыходу з дэмакратычнага трона чакаць няма чаго.

* * *

Цікавую фразу пачуў ад мужыка на беразе возера Свіцязь: «…а калі ён заўтра кеды за абраз складзе», у сэнсе: памрэ нечакана.

* * *

Бальшавізм — пунсовая чума мінулага стагоддзя.

* * *

Вера ў Бога ў нас вычарпаецца ў чарговы раз, як толькі людзі зразумеюць, што пад спеў псалмоў іх у чарговы раз ператварылі ў рабоў, і прытым далёка не Божых.

* * *

Памятай усё, нават тое, чаго ніколі не было, і жыццё тваё будзе заўсёды цікавым і поўным незвычайнага.

* * *

Дуралей, у адрозненне ад разумнага, заўсёды знойдзе сябе ў гэтым свеце і ўмудрыцца прыстасаваць свет пад сябе.

* * *

Дурасць і лянота нараджаюць хлусню, хлусня нараджае ганебнасць, ганебнасць нараджае ўсёдазволенасць, а апошняя нараджае ўладу ў нашай краіне.

* * *

Ланцужны сабака разбэшчаны ланцугом, які забяспечвае яму ежу і прытулак пры абсалютным лайдацтве, таму калі ў двор уварвецца воўк, наш Палкан вобцасам ляціць у сенцы, збіваючы з ног гаспадара. Калі ж у сад залазяць суседскія хлапчукі, кудлаты вартавы рве іх на кавалкі, імкнучыся паказаць гаспадару сваю значнасць і незаменнасць. Як гэта падобна на працу нашых сілавікоў.

* * *

Самы страшны праклён чалавецтва — кароткая памяць жывых.

* * *

Усе высокія намеры вышэй пояса, як правіла, не паднімаюцца.

* * *

Свет закаціўся далёка-далёка, у самае забыццё, чалавек пачаў даставаць яго палкай, ды так намяў свету бакі, што пачалася чарговая сусветная вайна.

* * *

Наша дзяржава такая вялікая, што яе ніхто і не бачыць.

* * *

Нават самая добрая казка можа скончыцца жахлівым сном.



* * *

Калі ворагаў няма, іх прызначаюць.

* * *

Цяжка жыць, калі не плачацца.

* * *

Дзе пачынаецца суд людскі, там паміраюць справядлівасць і праўда.

* * *

Ва ўсякага нягодніка заўсёды адшукаецца нямала чыстых абаронцаў.

* * *

У свеце няма такой западлянкі, якую б не апраўдаў наш парламент.

* * *

Доўга не атрымліваецца толькі тое, што і атрымацца не можа.

* * *

Усякая ўлада трымаецца на трох кітах: нашай лянoце і надзеі на дарэмшчыну, жандарах і пацучынай грызні апазіцыі.

* * *

Нішто не вечнае пад месяцам, калі ты спіш з чужой жонкай.

* * *

Карова была такая худая, як нашая нязбытная камуністычная будучыня.

* * *

Калі ў прэзідэнта няма ворагаў, іх выдумаюць спецслужбы.

* * *

Дзеці ўсё ж мудрэйшыя за нас, бо не вераць у Бога — яны жывуць у Ім.

* * *

Мы ўжо даўно дурасць прымаем за мудрасць, а хлусню за праўду.

* * *

Народ яго так любіць, аж баіцца!

* * *

Можна верыць хоць у чорта, хоць у іншапланецян, але толькі не ў любоў алігарха да народа.

* * *

Самае вялікае дасягненне іспанскай дэмакратыі — выдатнае надвор’е на Канарах.

* * *

Дурата, прыйшоўшы да нас, ужо нікуды не сыходзіць. Так, са сваімі дурнотамі, мы і жывём.

* * *

Мы ўвесь час штосьці шукаем, хоць да гэтага нічога і не гублялі.

* * *

Далонькі маленькіх дзяцей пахнуць нашым шчасцем, так шкада, што яны вельмі хутка вырастаюць.

* * *

Мае словы перашкаджаюць маім думкам, вось так, у апошні час, яны і жывуць у поўнай раз’яднанасці.



* * *

Апошні час вельмі шкадую, што перагрузіў сваю галаву масай чужых ведаў, якія нахабна ператварыліся ў маю адукаванасць, якая замінае бачыць сапраўдную карціну свету.

* * *

Свабода таксама крывадушная, як і праўда, сказаная за грошы.

* * *

Бойцеся ісціны ўбогіх, яе ў іх няма.

* * *

Казнакрадства не крадзеж, а стыль жыцця.

* * *

Праўдзівай качэўніцай на зямлі з’яўляецца толькі любоў.

* * *

Хрыстос і ўявіць не мог, што Яго імем будуць карміцца гэтулькі лайдакоў.

* * *

Дэмакратыя, па сутнасці сваёй, такая ж улада бюракратаў, толькі прыкрытая пярэстай шырмай агульнапрынятых умоўнасцяў.

* * *

Вялікіх губіць дробязная мітусня нікчэмнага асяроддзя.

* * *

Рускі бог настолькі вялікі, што ні ў адной царкве змясціцца не можа.

* * *

У Расіі ўжо даўно спрабуюць вынайсці ўласны станоўчы вобраз, але атрымліваюцца ці абразы́, ці абра́зы.

* * *

Першым праўду за грошы сказаў Юда.

* * *

«Не здавайся ў рабства, пакуль у цябе ёсць выбар памерці свабодным!» — мудрагеліў Еўрыпід і, пры ўсіх мудрагельствах свайго часу, паміраць за свабоду не спяшаўся.

* * *

Ён пасля смерці патрапіў у Пекла, а яна ў Рай, хоць да гэтага жылі адной сям'ёй.

* * *

У Божых слугаў заўсёды чалавечыя патрэбы.

* * *

Матрыярхат — гэта калі бабы справодзілі мужыкоў па маманта ці на вайну, а самі адвязаліся па поўнай праграме.

* * *

Здзічэнне абраных вядзе да ўсеагульнага вычварэння грамадства.

* * *

«Нішто не занадта», — казалі старажытныя грэкі, але і само «нішто» было ўжо занадта для чалавека.

* * *

Таго, чаго не было, ужо ніколі і не будзе.



* * *

Прыхамаць і капрызы слабых мужчын кіруюць светам.

* * *

Чарцей і ведзьмакоў прыдумалі папы ад свайго бязвер'я ў Бога.

* * *

Каб убачыць будучыню, зусім неабавязкова зазіраць у зад сучаснасці.

* * *

Галасаванне ўзняццем рукі азначае палавіністую здачу ў палон.

* * *

Калі Богу маліцца натоўпам, дык гэта ўжо не малітва, а харавы спеў.

* * *

Хто шмат піша, той — пісьменнік, а я сведка дзён вашых, і шэпт лістоты памяці вашай, і дождж дажджоў слоў вашых, і змярканне ўчарашняга. І няма пакаяння на зямлі, бо хто каецца — ужо маніць у імя будучага граху свайго. Усякае слова з вуснаў яго ёсць хлусня. Не жыві ў хлусні і не паклёпнічай на імя сваё, і дадзена будзе табе ад маўчання твайго. Маўклівая скала ля ракі Катунь, і вечнае цела яе, і няма ёй канца. Бязмоўныя і звер, і птушка, і не маюць яны страху смерці, і патрэбы ў пакаянні няма ў іх; і ў тым праўда, усё іншае — слепата і цямрэча розуму твайго.

* * *

У цярплівасці свая праўда.

* * *

У Бога і чэрці на падхваце.

* * *

Улада і патрэбы народа — паняцці living рознапалярныя, усе гэта ведаюць і працягваюць адвечную гульню ў добрага, але акружанага нягоднікамі цара.

* * *

Восьмае сакавіка — свята імпатэнтаў, якія толькі раз у год успамінаюць, што яны мужыкі.

* * *

Калі сілы няма, то і бяссілле — сіла.

* * *

У свеце наступіла эра хібных прэзідэнтаў.

* * *

Юда-хрысціянскую цывілізацыю чакае страшная помста мусульман за крыжовыя паходы.

* * *

Галоўны запавет нашага часу: чэкісту — чэкістава, бандыту — бандытава, а астатняе — мянтам.

* * *

Вось яна, вузкавокая будучыня маёй краіны.

* * *

Ёсць такая прафесія — кнопкі націскаць.

* * *

З малочных рэк Расіі свет яшчэ не раз крывёй памыецца.



* * *

На ўсякую прыгажосць старасць адшукаецца.

* * *

Ёй так падабалася быць прыгожай, што яна гэтым жыла. Людзі на яе заглядваліся, а яна любавалася толькі сабой; так самотнай і памерла.

* * *

Вар'яцтва генія з часам становіцца нашай рэчаіснасцю.

* * *

Ён любіў спыняцца ў гасцініцы «Масква» ў нумары з выглядам на Крэмль толькі таму, што, калі трахаўся ля акна, яго перапаўняў гонар: здавалася, што ён гэта робіць з усёй краінай.

* * *

Дачцэ падабаецца Рым, а мне — іспанка за суседнім столікам.

* * *

Аб вечныя камяні Рыма сціраецца час, і ўначы, заблукаўшы ў пустэльных вулках, ты можаш патрапіць зусім у іншую эпоху.

* * *

Старцы кажуць, што вера памірае ад масавасці, але ў саборы Святога Пятра ў Рыме натоўпы турыстаў нейкім дзіўным чынам растваряюцца, і ты застаешся сам-насам з Госпадам.

* * *

Прыляцець у Рым, каб усё гэта ўбачыць, і паляцець, каб ужо ніколі не забыць.

* * *

Толькі ў вечна жывым Рыме Гогаль змог напісаць «Мёртвыя душы».

* * *

Гогалю так падабаўся Рым, што ён нават стаў рускім патрыётам у аповесці «Тарас Бульба», каб ніколі не вяртацца ў Расію, а вярнуўшыся, з глузду з'ехаў і спаліў працяг «Мёртвых душ».

* * *

Жанчына з тварам стомленага вярблюда.

* * *

Беднаму грошай на ўсё хапае, а багатаму іх заўсёды мала, бо іх ужо і злічыць не можа.

* * *

Чым больш ён імкнецца быць бацькам нацыі, тым усё больш становіцца яе айчымам.

* * *

Ён так заўзята шукаў Бога ў нябёсах, што згубіў у сабе чалавека.

* * *

Яшчэ невядома, што для народа лепш: сіла дыктатуры ці імпатэнцыя ўлады.

* * *

Калі карміць нават самае цнатлівае каханне грашыма, яно непазбежна вырасце ў агідную прастытутку.

* * *

Нават два леты не заменяць адной восені.



* * *

Дзяржава сёння ўжо так далёка адышла ад чалавека, што мы яе амаль не бачым.

* * *

Гора той краіне, правадыр якой не ведае, чым сябе заняць.

* * *

Казаць адно, рабіць другое, марыць пра трэцяе і ніколі не быць самім сабой — вось ён, запавет дэпутата.

* * *

Дурнота таксама бывае крэатыўнай.

* * *

Не гожа пісьменніку чакаць дапамогі ад прэзідэнта, які не чытае кніг.

* * *

Дзе знайсці дзень, у які б змясцілася ноч?

* * *

Усякае забойства пярэчыць Богу, але няма ніводнай вайны, якую б не дабраславіла царква.

* * *

Усё часцей папы перашкаджаюць маёй доўгай гутарцы з Богам.

* * *

Калектыў — самае страшнае вынаходства нягоднікаў.

* * *

Час пройдзе таксама незаўважна, як прыйшоў.

* * *

Узрост непазбежна крадзе ў нас бестурботнасць, пакідаючы сум.

* * *

Ва ўсім свеце першую асобу дзяржавы ахоўваюць вяршкі войска — гвардыя, а ў нас чамусьці жандары.

* * *

Улада не хлусіць не можа. Хлусня — яе ідал.

* * *

Улада — такая ж хімера, як і час: за прыдуманай намі абалонкай хаваецца бездань пустэчы.

* * *

Рэчы ў вёсцы жывуць даўжэй, чым у горадзе, і тым самым запавольваюць плынь часу, адтуль і даўгалецце чалавецтва.

* * *

Вечар загус як бітум і пераўтварыўся ў ноч, мне не хопіць запалак, каб яго растапіць.

* * *

Вялікі Рым забіла хрысціянства, з яго цэглы пабудавала Ватыкан, але дагэтуль на руінах «вечнага горада» турыстаў больш, чым паломнікаў у храмах.

* * *

У начным дыханні восені асабліва выразна адчуваецца вечнасць.

* * *

У Маскве ў 1945 годзе куфаль піва каштаваў шаснаццаць рублёў — дзённы заробак афіцэра-франтавіка.



* * *

Божую мілату на зямлі людзі ствараюць сваімі рукамі.

* * *

Больш за ўсё людзі хлусяць падчас вайны і пра вайну.

* * *

Бог жыве ў храме, калі Яго туды прыносяць людзі ў сэрцах сваіх.

* * *

Без Бога мы б не баяліся ўлады.

* * *

Не хлусіць толькі вар’ят.

* * *

Чым бяднейшая краіна, тым дэспатычнейшая ў ёй улада, тым больш у гарадах храмаў.

* * *

Заўтра мы абавязкова забудземся аб тым, што ведалі сёння.

* * *

Каб не прыйшоў чорт, не заві бога, якога не ведаеш.

* * *

Нацыяналізм — гэта разнавіднасць ізатэрызму, і да сацыяльных плыняў ён не мае ніякага дачынення.

* * *

Адзінота жанчыны пачынаецца з адзіноты зубной шчоткі ў шкляначцы яе туалета.

* * *

За невысокім і добра апранутым чалавекам важна рухаўся ахоўнік, як відочнае ўвасабленне смяротнага прысуду.

* * *

Еўропа проста на вачах ператвараецца ў араба-афрыканскі халіфат.

* * *

Твар, дэфармаваны расавай талерантнасцю.

* * *

Ад шведскіх традыцый застаўся толькі мадыфікавана выгадаваны ласось.

* * *

Пасля Стакгольма Рым здаецца казкай, якая неспадзявана звалілася на зямлю.

* * *

Бог стварыў людзей, падзяліў іх на расы і рассяліў па ўсім свеце ў надзеі, што яны ніколі не перасякуцца. Яму і ў галаву не магло прыйсці, што белыя вынайдуць самалёт і караблі, каб загубіць сябе.

* * *

Вялікія імперыі руйнуюць новыя рэлігіі, якімі заражаюцца яшчэ ўчора законапаслухмяныя падданыя.

* * *

Амаль у кожнага народа быў свой Леанарда да Вінчы; у беларусаў гэта, безумоўна, Францыск Скарына, таямніцу якога мы так ніколі і не раскрыем.



* * *

У двары Ватыкана стаіць самы страшны помнік, які мне даводзілася бачыць: кружляюць адзін у адным і разбураюцца шары — мадэль канца свету, нагляднасць знішчэння адной цывілізацыі іншай ці проста закончанае вар’яцтва нашага свету.

* * *

Шлях з грэкаў у варагі — гэта не толькі гандлёвая дарога, гэта таксама шлях рабства, подласці і распусты.

* * *

У нас ёсць некалькі мілых і цалкам сімпатычных міністраў, але ў нас ужо даўно няма сапраўднага ўрада.

* * *

Маліце Бога, каб Ён хутчэй паслаў нашай царкве сумленных і добрых айцоў, пакуль цяперашнія яе канчаткова не раскралі.

* * *

Самыя агідныя вернікі — былыя камсамольскія актывісты і партыйныя начальнікі, для іх Бог — гэта генсек, толькі на небе.

* * *

Няўжо чалавецтва выпаўзла з цемры існасці толькі дзеля таго, каб зікнуць пад сонцам прагрэсу?

* * *

Містыка без матэрыяльнага свету — вар’яцтва.

* * *

Ці варта было Канту ці Талстому столькі шмат пісаць, каб іх сёння ніхто не чытаў?

* * *

Прыгажосці свету нам дадзены дзеля таго, каб адчуць сваю нікчэмнасць.

* * *

Хутчэй за ўсё, людзі — адна з разнавіднасцяў паразітаў.

* * *

Самым страшным наркотыкам з’яўляюцца грошы.

* * *

Прывыкнуць можна да болю, але не да страху.

* * *

Ва ўсякай улады адзін твар — задніца.

* * *

Мінулае няшчасце амаль заўсёды дапамагае новаму шчасцю.

* * *

У Бога адзін клопат — не замінаць людзям.

* * *

Не заві мінулае, сучаснае цалейшым будзе.

* * *

Жыццё не кубак: яго да краёў не нальеш і да дна не вып’еш.

* * *

На ўсякага караля казырная шасцёрка знойдзецца.

* * *

Ёй было так сумна, як нікому ў свеце не бывае.



* * *

Ён нікуды не спяшаўся, бо ўжо ўсюды паспеў.

* * *

Мы ўвесь час блытаем волю са свабодай, ад таго і большасць нашых бедаў.

* * *

Ствараецца ўражанне, што нас не трэба заваёўваць: мы і так усё за бесцань спусцім самі.

* * *

З гадамі яго твар становіцца ўсё зласнейшым, яшчэ трошкі — і ёнператворыцца ў старога лысага пацука.

* * *

У дурноты шмат твараў, але мы ведаем толькі два: жонкі і…

* * *

Лёс становіцца лёсам толькі пасля таго, як з намі штосьці здарылася.

* * *

Самая крамольная навука — гэта гісторыя.

* * *

Навіна заканчваецца адразу, як толькі пачалася.

* * *

Не імкніся ўбачыць тое, чаго няма, і ты пазбавіш сябе непатрэбнай рэальнасці і шэрагу непрыемнасцяў.

* * *

Праўда знаходзіцца дзесьці паміж хлуснёй і нашым жаданнем ашукацца.

* * *

Раніца — гэта штодзённая рэпетыцыя ўваскрашэння.

* * *

Калі мы спрабуем зразумець незразумелае, нараджаецца рэлігія.

* * *

Нам амаль заўсёды трэба туды, дзе нас зусім не чакаюць.

* * *

Дурасць заўсёды бліжэй.

* * *

Асоба парламенцкай нацыянальнасці.

* * *

Іх, як школьнікаў, зрэдзьчас вывозяць на экскурсіі па падначаленай ім краіне.

* * *

Дурное памятаць тое, аб чым іншыя ўжо даўно забылі.

* * *

Для кагосьці і захад з’яўляецца ўзыходам.

* * *

Бацюшка ўсё спрабаваў перакласці з Божай мовы на рускую.



* * *

Казка ўжо даўно скончылася, а воўк усё яшчэ не з’еў Чырвоны Капялюшык.

* * *

Сабраўшыся далёка, азірніся вакол: можа, і ехаць нікуды не трэба.

* * *

Ва ўлады заўсёды сваё свята, на якое нас ніколі не паклічуць.

* * *

Помніку напляваць, якія мітынгі збіраюцца ля яго падножжа.

* * *

Чым больш гарэлкі, тым больш зразумелая мова птушак.

* * *

У адрозненне ад жывых, мёртвыя заўсёды да нас вяртаюцца.

* * *

Хто не ўмее працаваць, той праводзіць нарады і з’езды.

* * *

Не трэба ганяцца за поспехам, а то ён яшчэ падумае, што вы ад яго ўцякаеце — і пакрыўдзіцца.

* * *

З патрыётаў самы агідны — пралетар.

* * *

Гаворачы пра вар’яцтва свету, мы кажам пра сябе.

* * *

Чалавецтва вядзе вечную вайну за вечны мір.

* * *

Чым менш у народзе рэлігійнага фанатызму, тым меншая верагоднасць вайны.

* * *

У Неба няма душы, толькі воля, таму яно нас ніколі не чуе.

* * *

Калі бюджэт войска меншы за бюджэт сілавікоў — гэта ўжо турма, а не дзяржава.

* * *

Ад безлічы нафты і газу мазгі заплываюць салам не толькі ва ўлады, але і ў народа.

* * *

Дзвюх рук для нашых алігархаў ужо мала.

* * *

Нам не хапае таго, чаго ў нас ніколі і не было.

* * *

Аднойчы паверыўшы ў тое, чаго няма, мы засталіся ў палоне гэтай веры.

* * *

Каханне заканчваецца адразу пасля прыезду таксі.

* * *

У годнага ваўка і казляняты сытыя, і козы апрыходаваныя.



* * *

Кепска, калі вочы смяюцца, а душа плача.

* * *

Прыдумаць Бога значна лягчэй, чым яго спасцігнуць.

* * *

Узнагароды франтавікоў не адрозніваюцца ад узнагарод вертухаяў, якія ахоўвалі канцлагеры.

* * *

Мужнасці заўсёды бракуе кроплі баязлівасці, каб застацца жывой.

* * *

Першым самазванцам усё ж была Візантыя.

* * *

Самалюбны чалавек заўсёды гатовы да здрады.

* * *

Народ — творца ўсяго, акрамя мудрасці; мудрасць ствараюць адзінкі, гнаныя народам.

* * *

Сысці — гэта значыць кудысьці вярнуцца.

* * *

Чым больш у цябе мабільных тэлефонаў, тым страшней яны маўчаць.

* * *

Рабая восень са скуластым тварам азіяцкага сонца, глядзела на свет раскосымі, жоўтымі лістамі таполяў. Гэтыя рудыя вочы

павольна слізгалі ў празрыстым бліскучым паветры і, некалькі разоў міргнуўшы, з лёгкім шоргатам апускаліся на зямлю. Я шаргацеў па шапаткім восеньскім дыване. Дзікая, як начное выццё ваўка, нуда павольна ўсплывала ў душы. Хацелася сарваць адзежу і, скурчыўшыся ад дакранання звярынай шкуры да голага цела, разарваць нябачную заслону часу і заскакаць вакол вогнішча з вялікім, бязважкім бубнам у руках. Хацелася да вытокаў; галава кружляла ў такт лістоты, і гэтае кружэнне набывала сепарыруючую сілу, якая адлучала дух ад цела. Павольна атухла сонца, прастора сціскалася, яшчэ імгненне — і ўвесь гэты велізарны свет ператворыцца ў маленькую, ледзь бачную кропку. Пад цесна сціснутымі стагоддзямі ўжо пульсавала вясёлкавая пустэча. Палёт пачаўся. Аднак нейкая невядомая сіла раптам вярнула ўсё на свае месцы.

Ціха ападала лісце. Сонца мружылася вачыма Мікалая Угодніка. Хацелася плакаць і маліцца.

* * *

Мне беларуская мова патрэбная дзеля таго, каб размаўляць з Госпадам.



# *Эсэ*

## ВЯРТАННЕ ДАДОМУ, АДКУЛЬ НІКОЛІ І НЕ СЫХОДЗІЎ

Дзесьці там на ўскрайку неба, над чорным шчарбатым лесам вісела ўсім знаёмая, але ад гэтага не менш таямнічая поўня. Спрадвечнае жыццё кацілася пад гэтым лупаватым нябесным вокам, як тое кола «Сансары». Дробненькія зорачкі, як мізэрныя дзіркі ў чорным радне, слязліва сутонелі, і не было ім ніякага клопату аб тым, што робіцца ўнізе, як і чым жывуць там людзі. Магчыма, неба, якое паэты называюць «тварам Бога», нават і не ведае пра людзей, яно нас не заўважае, як і мы не заўважаем мурашоў ці якіх-небудзь яшчэ больш дробных істот. Неба з тварам далёкага і жорсткага Бога жыве сваім жыццём, а насельніцтва Зямлі, якое і засяліла гэтае самае неба багамі, «Касіяпеямі», «Скарпіёнамі» і ўсялякімі «Мядзведзіцамі», жыве па-свойму, як умее.

Сярод людскога разнамоўя, якраз пасяродку Еўропы, жыў і жыве мой народ. Пералескі, рачулкі, азёры, вёскі ды невялікія мястэчкі, можа, якая жменя больш-менш вялікіх гарадоў, спаскуджаныя меліярацыяй балоты — вось і ўся нашая зямля, старажытная і сівая, якая ўсё аніяк не прыладкавалася жыць сваім розумам. Зірнеш у родную гісторыю, як у студню, — і нічога, толькі рэха, ды пялёскаецца ў цёмнай вадзіцы нейкі сучасны адбітак.

Дык хто ж мы і адкуль? Колькі разоў гучала гэтае пытанне ў наваколлі і колькі разоў адзін і той жа народ адказваў на яго пазнаму. Кім мы толькі ні былі, пакуль не зрабіліся беларусамі: і крывічамі, і радзімічамі, і сарматамі, і рускімі, і ліцвінамі, і палякамі, і паспалітымі, і ўніятамі, і жыхарамі Заходняга краю, і часткай савецкага народа, і бульбашамі, і нават тутэйшымі. Вось так, і няма ў гэтым ніякага гістарычнага сораму, бо ўсе сучасныя народы сталі самі сабой толькі ў васямнаццатым-дзевятнацца-

тым стагоддзях. Нікому ж сёння не прыйдзе ў галаву італьянцаў назваць рымлянамі, ці расіян — маскавітамі, ці ўкраінцаў — русінамі, але калісьці жыхароў тых мясцін так і звалі; прыкладна так і мы — беларусы — выйшлі з прадвечнай цемры ў сучасны свет. Так, мы былі ўсім тым, аб чым гаварылася вышэй, былі, бо такі наш гістарычны шлях. І хвала Магутнаму Богу, што сталася як сталася і ў нас ёсць сёння незалежная дзяржава, ёсць родная мова, свая будучыня і свае геніюшы.

Нялёгкі наш лёс, але ж ён наш, і іншага ўжо не будзе. Як не будзе другога Барыса Кіта, стагоддзе якога мы адзначылі. На жаль, людзі жывуць нядоўгай памяццю. Каго мы памятаем? Ну бацькоў, так-сяк бабулю з дзядулем, і ўсё — далей цемра і загубленыя дзесьці магілкі продкаў, парослыя быллём нашай абыякавасці. Што зробіш, але такой жа памяццю жыве і дзяржава, і, выцягваючы з глыбіняў гісторыі вядро мінулага, яна бачыць у вадзе толькі сваё аблічча. Але мне здаецца, што пройдзе і гэта, і надыдзе той час, калі імёны вялікіх сыноў нашай краіны будуць вядомыя і ўшанаваныя на Радзіме.

Барыс Уладзіміравіч Кіт, выдатны навуковец, адзін з тых, хто вынайшаў паліва, на якім чалавецтва ўпершыню даляцела да свайго бліжэйшага суседа — Месяца. Таго самага месяца, які так прыгожа красуецца на ўскрайку роднага спазору. Але ж я скажу некалькі слоў не пра навукоўца і спадара прафесара, можа, праз тое, што ні халеры не разумею ў касмічнай навуцы, а пра паліва ведаю толькі адно: што яно выпадкова заканчваецца ў маім самаходзе і становіцца год ад года ўсё даражэйшым. Я распавяду аб сталым, прыгожым чалавеку, з якім сустрэўся ў Франкфурце гадоў з сем таму. Барыс Кіт увайшоў у мой лёс праз Васіля Быкава. У кожнага чалавека ёсць у жыцці свае павадыры, якія нябачна накіроўваюць цябе ці ў той, ці ў іншы бок. Адным з такіх павадыроў у мяне быў і застаецца дзядзька Васіль — бясконцы космас якога ўвабраў у сябе і боль, і сорам, і сумленне нашай сучаснасці, ды і ўсяго дваццатага стагоддзя. Я збіраўся ў Нямеччыну на кніжную выставу, і Ірына Міхайлаўна Быкава (жонка Васіля Уладзіміравіча) параіла спаткацца там са спадаром Барысам. «Ой, яму будзе вельмі прыемна! — матнула рукамі на маё «а ці зручна… у такім узросце…». — Вы нават не ведаеце, як ён там чакае ўсялякай весткі адсюль, чакае беларушчыны…»

Вось так у маё жыццё і ўвайшоў Барыс Уладзіміравіч, рухавы, зіхоткі чалавек — гонар і боль свайго часу. Мы хадзілі з ім па брукаваных, вузенькіх вулічках старажытнага места, заходзілі ў храмы, кавярні, пілі самае смачнае ў свеце піва. Ён паціху смактаў чорны, як аксаміт, «Гінас», а я — сапраўдны «Паўлайнер», і размаўлялі. Не, я больш слухаў, а ён казаў. Цудоўная, нібы крыштальная і глыбокая беларуская мова, крыху прыглушаная доўгімі гадамі выгнання, прыгожа гучала пад склепавымі столямі. Чаму я ўсё гэта тады не пісаў на дыктафон, не ведаю. Ён памятаў усё: імёны і прозвішчы першых настаўнікаў, сяброў, польскіх, савецкіх і нямецкіх следчых; час, калі штосьці адбылося ці здарылася. Калі ён пра нешта распавядаў, здавалася, што я не толькі гэта бачу, але і адчуваю пах палыну, скрып пяску на зубах, чую нейкія гукі. Тое самае адбывалася са мной толькі аднойчы, калі Леў Мікалаевіч Гумілёў расказваў аб тым, як Пейсах Вялікі захапіў і выразаў увесь Кіеў. Калі піва станавілася занадта, у нашую гутарку вельмі павольна і стройна ўплываў голас спадарыні Тамары, і тады я бачыў, што такое прыгажосць, якую не здолее зруйнаваць ні сталы век, ні цяжкі лёс выгнанца. Яны сціпла развіталіся і ехалі дахаты, нават не… Яна праводзіла свайго каханага да ягонага жытла і рушыла да сваёй кватэры. Бо двум каханням вельмі цесна ў адным пакоі. Пакуль яны ішлі да дзвярэй, турыстычны грай паціху змаўкаў, усе позіркі як прыліплі да гэтай пары: яму тады было амаль дзевяноста пяць, ёй — шэсцьдзясят чатыры, а сустрэліся яны і ідуць разам па жыцці ўжо амаль трыццаць пяць гадоў. Вось так.

Пра стары Франкфурт Кіт распавядаў вельмі цікава, абавязкова падкрэсліваючы нейкія выпадкі і справы, якія тут калісьці адбыліся ці мелі нейкую сувязь і датычыліся беларусаў. Так умелі распавядаць пра Парыж старыя рускія эмігранты. Мяне цікавілі мясціны, дзе быў Васіль Быкаў. Ужо потым у Маскве я чытаў цудоўную кнігу Васіля Уладзіміравіча пра жыццё і сустрэчы з Кітом. Ім вельмі пашанцавала, што яны сустрэліся на гэтай зямлі, абодва на чужыне і абодва геніі. Тыдзень, цэлы тыдзень адвёў лёс на нашую сустрэчу. З'ехаўшы на два дні ў Мюнхен, я ўжо сумаваў, і дакараў сябе, і цягнуўся назад да гэтага чалавека. Шмат Барыс Уладзіміравіч распавядаў пра свайго сына, які, як і бацька, стаў знакамітым навукоўцам, і яго імя гучала ў навуковых колах. Лепшымі помнікамі нашых зямных спраў з'яўляюцца нашы дзеці, гэта нейкі крок у несмяротнасць, нават калі дзеці паміраюць раней за бацькоў…

Дзякуй Богу, што тое нашае спатканне працягваецца і дагэтуль. Я атрымліваю лісты і тэлефаную вечнаму беларусу.

Навуковая спадчына Барыса Кіта і ягонага сына Уладзіміра вядомая ў свеце, але Барыс Уладзіміравіч пакінуў свой след не толькі ў небе і на Месяцы, ёсць і яшчэ адзін зорны шлях гэтага

вялікага чалавека, шлях зямны, шлях беларускі. І пачынаецца ён з настаўніцтва і настаўніцкіх школ, ім заснаваных, з усё той жа беларускай справы. З гэтага, прынамсі, пачыналі амаль усе нашыя нацыянальныя геніі, да якой бы галіны дзейнасці яны не належалі. І самым вялікім ушанаваннем нашаму славутаму земляку сёння будзе не толькі музей у ягоным родным Навагрудку, не толькі ўшанавальныя дошкі, самаробныя помнікі і дзяржаўныя ўзнагароды — галоўным ушанаваннем будзе беларуская мова, якую ён нёс людзям і пры пальшчызне, і пры савеччыне, і пры фашыстах, — мова, за выкладанне якой яго кідалі ў турмы, судзілі на смерць, чаплялі шыльду здрадніка і гналі з Радзімы.

Мова, якой ён, у адрозненне ад многіх з нас, размаўляе і цяпер, бо толькі на гэтай мове мы будзем размаўляць з Госпадам, калі прыйдзе наш час.

Я рады, што спадар Кіт вяртаецца дадому.



# КАМЕНТАР

## ПАЭЗІЯ

У аднатомнік Валерыя Казакова ўвайшлі яго найбольш значныя творы: раманы «Цень Гобліна» (які публікаваўся па-беларуску і па-руску, а таксама выйшаў у перакладах на сербскую, украінскую і польскую мовы) і «Халоп Яснавяльможнага Дэмакрата», а таксама апавяданні, запісы і эсэ.

## РАМАНЫ

### *Цень Гобліна (с. 15)*

Упершыню па-беларуску — Казакоў В. Цень Гобліна. Мінск, 2008. Па-руску — Казаков В. Тень Гоблина. М., 2008.

Раман апублікаваны ў перакладзе на сербскую мову (Bijelo Polje, 2009), украінскую (Київ, 2009) і польскую (Беласток, 2010). Фрагменты друкаваліся па-англійску, французску і нямецку.

### *Халоп Яснавяльможнага Дэмакрата (с. 241)*

Упершыню па-беларуску — час. «Новы час» / «Літаратурная Беларусь», 24 красавіка 2009 г. (фрагменты); цалкам — Казакоў В. Халоп Яснавяльможнага Дэмакрата. Мінск, 2009. Па-руску — Казаков В. Холопы. М., 2009.

## АПАВЯДАННІ, ЗАПІСЫ, ЭСЭ

### *АПАВЯДАННІ*

#### *Крыж Еўфрасінні (с. 455)*

Упершыню — літ.-нав. гадавік «Скарыніч». 2011. Вып. 10.

#### *Спакуса столаначальніка (с. 479)*

Упершыню па-беларуску — Казакоў В. Цень Гобліна.

#### *Дзікі Шорац (с. 484)*

Упершыню па-беларуску — Казакоў В. Цень Гобліна.

*Бяздомная душа (с. 489)*

Упершыню па-беларуску — Казакоў В. Цень Гобліна.

*Аўсяная каша (с. 493)*

Упершыню па-беларуску — Казакоў В. Цень Гобліна.

*Стары і гора (с. 496)*

Упершыню па-беларуску — Казакоў В. Цень Гобліна.

*Плач адзінокіх (с. 502)*

Упершыню па-беларуску — газ. «Новы час» / «Літаратурная Беларусь». 2007. 8 кастр.

*«Выдатнік» (с. 509)*

Упершыню па-беларуску — Казакоў В. Цень Гобліна.

*Драпежная птушка (с. 516)*

Упершыню па-беларуску — газ. «Новы час» / «Літаратурная Беларусь». 2010. 16 ліст.

*Мазур (с. 527)*

Упершыню па-беларуску — Казакоў В. Цень Гобліна.

*Пара! Пара! (с. 535)*

Упершыню па-беларуску — газ. «Новы час» / «Літаратурная Беларусь». 2012. 26 кастр.

*ЗАПІСЫ*

*Абібокі (с. 546)*

Упершыню па-беларуску — Казакоў В. Цень Гобліна; Казакоў В. Абібокі. Мінск, 2012.

*ЭСЭ*

*Вяртанне дадому, адкуль ніколі і не сыходзіў (с. 595)*

Упершыню — у газ. «Новы час» / «Літаратурная Беларусь». 2010. 30 мая.



## SUMMARY

Kastus Tsvirka (born in 1934) comes from the village of Zialionaya Dubrova Staradarozhski District Minsk Region. After graduating from the Philological Department of the Belarusian State University, he worked as a teacher in Slutsk Region, was a member of the Editorial Board of the Belarusian Radio, the Chief Editor of the Publishing House *Yunatstva* and the Head of the Poetical Department of the journal *Polymya*. Kastus Tsvirka finished the course of postgraduate study at the Institute of Linguistics, Ethnography and Folklore and holds the title of the Candidate of Historical Sciences.

In 1995 he was one of the founders of the international Foundation *Belaruski Knihazbor* (nowadays IPO Belknihazbor) that prepares for the edition and edits books of the multi-volume book series *Belaruski Knihazbor.*

Kastus Tsvirka's literary activity began in school years. His first verses were published in the journal *Polymya* in 1953. He is the author of some collections of poetry, traveling narrations and prose books.

The present one-volume edition *Selected Works* includes the best verses, poems «Khat Viachysty Dar» (*The Everlasting Gift of Old Cottages*), «Doma» (*At Home*), the novel «Vouchaya Vyspa» (*Wolf Island*), the documentary story «Budzila Viosku Berastsianka» (*Sheperd's Horn Would Awoke The Village*) and publicistic articles.

The preface article is written by the famous Belarusian poet Anatol Viartsinski.



# ЗМЕСТ

**Казакоў, В.**

**К14** Выбраныя творы / Валерый Казакоў; ????уклад. А. Клышкі, прадм. А. Вярцінскага, камент. К. Цвіркі. — Мінск: Кнігазбор, 2012. — 608 с. [8] с.: іл. — («Беларускі кнігазбор»: Серыя 1. Мастацкая літаратура).

ISBN 978-985-7007-72-1.

??????????У аднатомнік выбраных твораў Кастуся Цвіркі (нар. 1934) увайшло самае значнае з яго паэзіі, прозы і публіцыстыкі

Шэсцьдзясят другі том кніжнага праекта «Беларускі кнігазбор».

**УДК 821.161.3**
**ББК 84 (4Беи)**

Літаратурна-мастацкае выданне

«Беларускі кнігазбор»
Серыя I. Мастацкая літаратура

**Казакоў Валерый**

Выбраныя творы

Адказны за выпуск *Генадзь Вінярскі*
Рэдактар *Кастусь Дуброўскі*
Тэхнічны рэдактар *Алег Глекаў*
Вёрстка *Ларысы Ваўчок*
Карэктар *Алена Шагун*

Падпісана да друку з гатовых дыяпазітываў заказчыка 17.09.2012.
Фармат 84x108 $^{1}/_{32}$. Папера афсетная. Гарнітура Times New Roman.
Афсетны друк. Ум. друк. арк. ???31,92 + 0,42 укл. Ул.-выд. арк. ???31,99.
Наклад 1000 асобнікаў. Зак. .

ПУП «Кнігазбор».
Ліцэнзія № 02330/0003924 ад 08.04.11.
Вул. Я. Лучыны, 38-93, 220112, Мінск.
**Тэл./факс (017) 207-62-33, тэл. (029) 772-19-14, 682-83-86.**
e-mail: bkniha@tut.by

ISBN 978-985-7007-72-1




???Надрукавана з дыяпазітываў заказчыка
ў РУП «Выдавецтва “Беларускі дом друку”».
Пр. Незалежнасці, 79, 220004, Мінск.

БЕЛАРУСКІ КНІГАЗБОР

***Выйшлі з друку:***

*Серыя I.*

ЯН ЧАЧОТ. Выбраныя творы

МАКСІМ БАГДАНОВІЧ. Выбраныя творы

ВАЦЛАЎ ЛАСТОЎСКІ. Выбраныя творы

УЛАДЗІМІР ЖЫЛКА. Выбраныя творы

ФІЛАМАТЫ І ФІЛАРЭТЫ. Зборнік

ЯН БАРШЧЭЎСКІ. Выбраныя творы

ЯНКА БРЫЛЬ. Запаветнае. Выбраныя творы

КУЗЬМА ЧОРНЫ. Выбраныя творы

ЭЛІЗА АЖЭШКА. Аповесці, апавяданні, нарысы

ЛАРЫСА ГЕНІЮШ. Выбраныя творы

ПАЎЛЮК ТРУС. Выбраныя творы

ІВАН МЕЛЕЖ. Выбраныя творы

ЦЁТКА. Выбраныя творы

НАТАЛЛЯ АРСЕННЕВА. Выбраныя творы

ЯНКА КУПАЛА. Выбраныя творы

АЛЕСЬ ГАРУН. Выбраныя творы

АДАМ МІЦКЕВІЧ. Выбраныя творы

ФРАНЦІШКА УРШУЛЯ РАДЗІВІЛ. Выбраныя творы

ВАСІЛЬ БЫКАЎ. Выбраныя творы

РЫГОР КРУШЫНА. Выбраныя творы

ФРАНЦІШАК АЛЯХНОВІЧ. Выбраныя творы

ЯН СКРЫГАН. Выбраныя творы

УЛАДЗІМІР КАРАТКЕВІЧ. Выбраныя творы

ЗМІТРОК БЯДУЛЯ. Выбраныя творы

СТАРАЖЫТНАЯ БЕЛАРУСКАЯ ЛІТАРАТУРА (XII–XVII стст.)

СЯРГЕЙ ГРАХОЎСКІ. Выбраныя творы

ЯКУБ КОЛАС. Выбраныя творы

АЛЯКСЕЙ КАРПЮК. Выбраныя творы

КАНДРАТ КРАПІВА. Выбраныя творы

РЫГОР БАРАДУЛІН. Выбраныя творы

РАССТРАЛЯНАЯ ЛІТАРАТУРА. Зборнік

АНАТОЛЬ ВЯРЦІНСКІ. Выбраныя творы

*БЕЛАРУСКІЯ* АЛЕКСАНДРЫЯ, ТРОЯ, ТРЫШЧАН. Зборнік

НІЛ ГІЛЕВІЧ. Выбраныя творы

ГЕНАДЗЬ БУРАЎКІН. Выбраныя творы

МАКСІМ ГАРЭЦКІ. Выбраныя творы

РЫГОР КОБЕЦ. Выбраныя творы

УЛАДЗІМІР НЯКЛЯЕЎ. Выбраныя творы

АЛЕНА ВАСІЛЕВІЧ. Выбраныя творы

КАЗІМІР СВАЯК. Выбраныя творы

ВАСІЛЬ ЗУЁНАК. Выбраныя творы

УЛАДЗІСЛАЎ СЫРАКОМЛЯ. Выбраныя творы

ВІНЦУК АДВАЖНЫ. Выбраныя творы

АЛЕСЬ БАРСКІ. Выбраныя творы

ЦІШКА ГАРТНЫ. Выбраныя творы

КАСТУСЬ ТАРАСАЎ. Выбраныя творы

КАСТУСЬ ЦВІРКА. Выбраныя творы

*Серыя II.*

БЕЛАРУСКІЯ ЛЕТАПІСЫ І ХРОНІКІ. Зборнік

КАСТУСЬ КАЛІНОЎСКІ. За нашую вольнасць

МІКАЛАЙ УЛАШЧЫК. Выбранае

ЯЎХІМ КАРСКІ. Беларусы

ІГНАТ ДАМЕЙКА. Мае падарожжы

ГАЎРЫЛА ГАРЭЦКІ. Выбранае

ФАДЗЕЙ БУЛГАРЫН. Выбранае

ЧАСЛАЎ ПЯТКЕВІЧ. Рэчыцкае Палессе

АЛЯКСАНДР ЕЛЬСКІ. Выбранае

ЗАРЫЯН ДАЛЭНГА-ХАДАКОЎСКІ. Выбранае

АДАМ МАЛЬДЗІС. Выбранае

АДАМ СТАНКЕВІЧ. Выбранае

МІКОЛА ЕРМАЛОВІЧ. Выбранае

*Серыя III.*

ЁГАН ВОЛЬФГАНГ ГЁТЭ. Выбраныя творы

ФЁДАР ДАСТАЕЎСКІ. Выбраныя творы

***Рыхтуюцца да друку:***

АНАТОЛЬ ГРЫЦКЕВІЧ. Выбранае

АЛЕСЬ АДАМОВІЧ. Выбраныя творы